№5(78)
/верасень-кастрычнік/ 2015

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Людміла Рублеўская



...вас няма, вы толькі мроя,
вы не здолелі адбыцца...

# Я не ведаю імёнаў...

### *ВОЎК КНЯЗЯ ГЕДЫМІНА*

Я не ведаю імёнаў
кветак, птушак і начальства.
Я каменьчыкі збіраю
і малюскаў – так, да кучы.
Ды аднойчы я дастала
ваўчаня з чужое пасткі.
І жыве ў мяне жывёлка,
хоць характар і падлючы.
Воўк мой падазрона белы
і чамусь баіцца поўні.
Выць не ўмее, толькі вочы
жоўтым свецяцца бурштынам.
Па начах кудысьці рвецца,
то маўчыць, то ціха стогне.
А пад ранак прапануе
будаваць нанова Вільню.

Не батанік, не заолаг,
я магла і пераблытаць,
У вітальні ля пантофляў
і не воўк мяне чакае.
Але ўчора нейкі дзядзька,
што назваўся Гедымінам,
Стукаўся ва ўсе пад’езды
і казаў – ваўка шукае.
Без яго, маўляў, ніколі
збудаваць не зможа Вільню.

* * *

*“Я з Бродскім па Венецыі іду...”*

В. Шніп

Ты – з Бродскім,
ну а мы – з Сарданапалам.
Хада цяжкая – у ягоных вояў.
Плывуць сузор’і дзесьці, у каналах,
А тут паціху дагарае Троя.
Плывуць сузор’і ад Святога Марка
Пад мост крывы,
што выгнуўся ляніва.
І чоўны, як бадзяжныя сабакі,
Сыходзяцца да прыстаняў тлумлівых.
Ты – там, ты – з Бродскім.
Мы ж цягаем горы
Страў экзатычных
на падносах срэбных.
Сталы рыхтуем,
доўгія, як мора,
Накрытыя абрусам белапенным,
Дзе частавацца нам не прапануюць.
Прыслузе месца –
толькі на варыўні.
Палаяцца,
пакуль твой цар піруе,
І абсмяяць убораў павуцінне.
І потым,
па асфальтавым прыбоі,
Ісці ў кватэру,
што памерам з кошык,
І зразумець:
паэт ідзе за мною.
Ён там,
дзе жыць камусьці дапаможа.

* * *

Калі памёр кароль Артур,
Міргнулі разам маніторы,
На хвілю прыпыніў паркур
Павук у прыцемку канторы,
Іржой пакрапала вада
З нікеляваных кранаў свету,
І працягнулася хада
Эпохі феяў інтэрнэту.
Калі памерла Гвіневер,
Люстэрка трэснула ў цырульні,
Паэт ужыў не той памер,
Нерон прамовіў: “Так утульней”, –
І спапяліў чарговы Рым.
І ўсе пайшлі да Авалону.
Грааль вартуе белы дым,
Змяя прымервае карону.

* * *

“Вас няма”, – мінак прамовіў
і прайшоў праз нас, як куля.
“Вас няма, вы толькі мроя,
вы не здолелі адбыцца”.
Мы разгублена маўчалі.
Высах верас.
Вымерз вулей.
А пасля адно аднога звінавіцілі –
і біцца.
Доўга біліся. Спацелі.
Ўсё шукалі вінаватых.
Гузакі баляць – а значыць,
з нашым быццем ўсё прыстойна.
Можна мірна разысціся.
А праз нас Пагоня скача,
як праз травы.
Паспяшае,
дзе ідуць чужыя войны.

* * *

У Парыжы ёсць мурыны,
што гандлююць Эйфелевымі вежамі.
Вежы знізаныя на дроцікі,
як злоўленыя ў Сене ракі.
Купіш вежу за дваццаць еўра –
у падарунак пяць маленькіх, з мезенец.

Вежы ссыпаюцца ў торбы.
Вежы раскладаюцца на посцілках, як вустрыцы,
аб іх колюцца позіркі паліцыянтаў і турыстаў.
Здаецца, вежы збіраюць тут, як чарніцы,
альбо ірвуць, як салатнае лісце.
Серабрыстыя, пазалочаныя, бронзавыя,
крышталёвыя.
Гіганцкі іржавы шкілет
рыпіць жалезнымі косткамі,
хістаецца і стогне,
ненавідзячы сваё звыродства,
на якім вырастаюць і вырастаюць
ікрынкі, лічынкі, малькі –
мільёны бастардаў,
звыродкаў, мімікруючых паразітаў,
што раз'ядаюць сваю матрыцу, як плесня.
Кажуць, колісь Эйфелева вежа была самавітай,
апранутай плоццю з бетону і шкла.
Гэта шматлікія копіі аб'елі яе да шкілету,
бясконцыя эпігоны вялікага твору,
сапраўдны выгляд якога не памятае ніхто.
Мурын трасе нізкай Эйфелевых вежаў,
і ў ягоных чорных вачах
мігціць па маленькім шкілеце.

* * *

Палюбіў Аўгуст Сас,
найяснейшы кароль,
Выразаць чалавечкаў з паперы.
Свет пляскаты
ўзнікае з нажніцаў яго,
І жаўнеры, жаўнеры, жаўнеры.
Люд маўклівы
запоўніў сабой кабінет,
Цень паўзе
па шаўковых шпалерах.
Зноў парваўся шнурок,
што зацягваў карсет,
А кароль выразае жаўнераў.
А краіна вось рухне,
як картачны дом.
Там чужынцы гуляюць, як хочуць.
Ды засыпана праўда
цукровым пяском,
І нажніцы ляскочуць, ляскочуць...
На атласным касцюме
як дождж – ардэны.

На сярэбраным сподку –
лімоны.
Цень людзей папяровых
прыліп да сцяны.
Пазалота спаўзае з кароны.

## *МАНАЛОГ ФРАНЦУЗСКАГА ГОЛУБА*

Я сяджу сярод гаргулій
і хімераў Нотр-Дама.
Лапкі мерзнуць, а турысты
Мітусяцца ўнізе хеўрай.
Вось шыбуе ў капялюшы,
што памерам з клумбу, дама.
Абыходзіць сувеніры –
ёй шкада чатыры еўра.
Толькі ўвішны мурынёнак
партманэ яе прыўлашчыў,
Да старэйшае сястрыцы вунь пабег,
такі шчаслівы.
Клыпае клашар з сабакам –
доўгі век у іх сабачы.
На вазку ляжаць газеты
і ў пакеце драным – слівы.
Вунь экскурсія японцаў.
Сэлфі робяць па камандзе.
Дружна спінай да сабору –
бы расстрэліваць іх будуць.
Лаецца гаргулля справа,
а хімера злева раіць
Нотр-Дам прадаць японцам –
мо нарэшце дабудуюць.
Вечна звягаюць старыя
дэкаранты. Што паробіш –
Столькі год сядзець пры сценах,
быццам у каменых трунах.
Ну а я лячу да Жаны.
Пакрышыла хлеба трохі,
На далоні між аблокаў
падае мне пачастунак.

Уладзімір Някляеў



...праведны той, хто мог саграшыць,
хто зведаў спакусу, але не паддаўся ёй,
пераступіў цераз яе...

# На ўсякім свеце

***Прыпавесць***

Вецер дзьмуў з дажджом і лятучым лісцем, уздоўж і ўпоперак дарогі, пранізліва няўтульны, такі, які звычайна дзьме, віхруе ў гэтых краях позняй восенню. Але калі пачаліся лугавыя лагчыны ды ляшчынавыя пагоркі Нальшанскай зямлі, вецер стаў сціхаць, далягляд праясняцца, як праясняўся ён амаль заўсёды, колькі ездзіў Стась па гэтай старой дарозе на Вільню.

Тут вышэй было. Бліжэй да неба. Тут святлеў не толькі далягляд, святлела ў Стася на душы – і ўзнікала адчуванне, якога не ставала яму ні ў Менску, ні ў іншых блізкіх і далёкіх месцах, дзе даводзілася бываць: адчуванне яснасці жыцця. Тут яно нічым не зацямнялася і нікім не заблытвалася. Вось дарога, вось ты на дарозе – і трэба проста йсці.

Ну, ці ехаць...

Ён ехаў з Менска ў Карані старадаўнім паштовым шляхам праз Маладзечна і Смаргоні. Даўно ўжо ў Карані можна было ездзіць новай дарогай праз Ракаў і Валожын, але ён ездзіў па старой. Па той, на якой больш успамінаў. Прамінуў Суцькава і ўжо праскокваў Багушы, пры паваротцы на якія раптам падумаў, што даўно ў іх не быў – і затармазіў, вырашыў глянуць, ці жывая вёска, бо мінулым разам толькі ў адной хаце знайшоў жывога чалавека, старога Мацея Богуша. Астатнія хаты стаялі пустыя – і цяпер ён здзівіўся, убачыўшы пасярод вёскі натоўп. Ну, не зусім натоўп, скуль натоўпу ў вымерлай вёсцы ўзяцца, але з паўсотні чалавек тоўпіліся ў падворку Мацея, і відаць было, што тут яны не проста так, нешта іх сабрала. Праз хвіліну Стась убачыў, што гэтае нешта – смерць: пад яблыняй каля расчыненых весніц стаяла на козлах труна.

Мацей Богуш, апошні жыхар Багушоў, памёр. Збіраўся пайсці ў манастыр паблізу вёскі, а сабраўся на той свет.

Стась спыніў машыну насупраць Мацеевай хаты, узяў палову кветак, якія вёз на магілы бацькоў і выйшаў развітацца з гаспадаром. Каб ведаў, купіў бы вянок, ды хто ж ведаў...

– А вось і Стась, – рушыў яму насустрач сівы, але яшчэ моцны з выгляду мужчына, падобны да бацькі Стася, які ўжо даўно ляжаў побач з маці на могілках у Каранях. – І пераможна зірнуў на русявую з шэра-блакітнымі вачыма, падобную да Стасевай маці, жанчыну. – А ты казала, не прыедзе, абы табе казаць!

– Скуль жа я ведала, што ён здагадаецца, дзе мы... – разгублена прагаварыла, подбегам спяшаючы да весніц, русявая з шэра-блакітнымі вачыма жанчына. Голас яе нагадваў голас маці, на словы якой бацька заўсёды кідаў: “Абы табе казаць...” – і Стасю стала ніякавата. Людзі ведаюць яго, а ён не можа ўспомніць, хто яны такія? Нейкія ж знаёмыя, ці, можа быць, калі так да бацькоў ягоных падобныя, нават радня, няхай дальняя, дык як гэта радню не пазнаць? Сораму цяпер не абярэшся. Можа, яны з Панары, па бабе Алімпе радня, панарскую радню ён не ўсю ведаў – і тут жанчына, падбегшы, абняла яго, і ластаўчынымі абдымкамі, саламяным пахам валасоў адразу пазналася: гэта была ягоная маці, яна, родная, якая ціха, як некалі, даўно-даўно, калі ён з далёкіх шляхоў вяртаўся дахаты, са свайго жыцця ў іх жыццё завітваў, выдыхнула: “Сынок мой...”

Стась застыў у яе абдымках.

– Прыехаў, ніводных Дзядоў не прамінуў, – абняў яго са спіны бацька. – А ты казала, не прыедзе, абы табе казаць. Не мог ён не прыехаць. Як ён не прыехаць мог?

“Выпадкова мог не прыехаць, як выпадкова прыехаў... – стыла думаў, не рухаючыся, Стась. – Павярнуў на Багушы, а мог і не...”

– Пракоп! – гукнуў бацьку Пятрусь, брат маці, Стасеў дзядзька, які ўжо таксама даўно памёр. – Няхай Стась слова скажа, у яго файна выходзіць. На тваіх хаўтурах гэтак казаў – усе плакалі. Дый на маіх...

Яны былі жывыя! Каго раней, каго пазней Стась іх пахаваў, сказаў на хаўтурах развітальныя словы, а яны сабраліся на Дзяды ў Багушах! Бацька, маці, дзядзька Пятрусь і дзядзька Лявон, вунь ён з хаты выходзіць, даланёй рот выціраючы, мусіць, ваду піў, а за ім дзед Ясь з бабай Алімпай, і прадзед Марка з прабабай Ганнай, і стары Стапуль са старой Стапуліхай, і Былінскі з Былініхай, і ўсе, колькі іх у Каранях жыло і памерла, Магеры, Тытушы, Капышы, Гецэвічы, Страхі, Ляпехі, Леановічы,

Гіруці, Шаўлюкі, Будаі, Мадзвецкія, Валюкі, Рапацэвічы, Стрыгі, Тарасюкі, Камінскія, Забагонскія, Башуны, Крэслы, Шатуркі, Бурдукі, Бажкі – тут. Ды іх больш, чым паўсотні, гэта толькі ў падворку Мацея столькі, а яны вунь ва ўсіх дварах, ва ўсіх хатах, і ў полі да лесу, і ў лесе – ды іх сотні, тысячы, мільёны, і ўсе глядзяць на яго, чакаючы, што ён скажа...

– Давай, – падштурхнуў яго ў спіну бацька. – Скажы, каб заплакалі...

Стась на стылых нагах падышоў да труны; стаў леваруч ад нябожчыка. Ён заўсёды так ставаў, бліжэй да сэрца, і пачынаў: гэтае сэрца, напоўненае любоўю да жыцця і да ўсіх жывых, сэрца майго дзеда... маёй маці... майго бацькі...

Ён і цяпер так хацеў пачаць, але нябожчык раптам крутнуўся ў труне, лёг ніцма і заплакаў. А як над нябожчыкам, які ляжыць ніцма і плача, развітальныя словы прамаўляць?

– Праўда што, – падышоў да труны дзядзька Лявон, які пры жыцці недалюбліваў Мацея Богуша і ўсіх багушоўскіх, бо тыя, калі кралі лес, дык заўсёды з каранёўскага, а не са свайго боку. – Яшчэ нічога пра яго не сказалі, а ён ужо, як дзіця, носам у падушку – і плакаць. Скажы яму, Стась!

А што сказаць? Якія словы? Хіба суцяшальныя нейкія... “Не плач, усё добра будзе...” А што добрага?

– Бач ты, памёр ён сёння! – падтрымаў дзядзьку Лявона дзядзька Пятрусь. – І адразу ў слёзы. Я вунь калі памёр – і што? Па чым плакаць? Па кім? Па сабе? А што з табой сталася?

Мацей павярнуўся на спіну, дастаў люстэрка з грудной кішэні пінжака, у якім яшчэ дзецюком на танцы хадзіў, паглядзеўся, выцер вочы.

– Са мной нічога. І я не па сабе. Па Беларусі.

– А-а-а... – працягнуў дзядзька Лявон. – Дык ты ж паляк. Чаго табе па Беларусі плакаць?

Мацей Богуш зірнуў на яго крыўдліва.

– Мая маці да касцёлу хадзіла. А бацька да царквы. Дык калі я не габрэй, хто я?

Ды хто б ён ні быў, чаго яму па Беларусі плакаць? Ну, добра, па сабе, па Багушах, у якіх нікога не засталося. Але ж не па Каранях, а тым больш не па Беларусі, нібы ўсе беларусы сканалі.

– Не ўсе ж беларусы сканалі... – пачаў Стась, і Мацей падскочыў у труне.

– У Багушах – усе, а ў Беларусі – не ўсе? Чаму? Ты чуў, каб яны казалі па-беларуску? Каб па-свойму маліліся?.. Не чуў. Дык скуль ты ведаеш, што яны беларусы? І што жывыя?

Стась, не чакаючы ад нябожчыка гэткага спрыту, разгубіўся.

– Бо ў Каранях жывыя, я жывы... – і Мацей перапыніў яго, спытаўшы зусім па-дурному:

– А хто табе сказаў, што ты жывы? Вось пра мяне скажы: я жывы ці мёртвы?

Уважліва паглядзеўшы на Мацея, які, калі ў труну паклаўся, дык нібы памёр, але ж вунь як у труне круціцца, Стась упершыню ў жыцці падумаў, што сказаць пра чалавека, жывы ён ці не, зусім не так проста, як заўсёды здавалася. Тое, што чалавек рухаецца, есць, п’е, нешта кажа, глядзіцца ў люстэрка – не доказ, што ён жывы.

Вось хоць бы ён сам... Нарадзіўся. Вучыўся. Ажаніўся. Развёўся. На службу ўбіўся. Ну і што? Гэта ўсё і мёртвы можа. Тая ж Ганя, жонка, пытала, калі яны разам жылі: “Што ты як нежывы? Нібы толькі таму жывеш,

што пашпарт маеш". І хоць жыў ён не таму, што пашпарт меў, а наадварот: пашпарт меў таму, што жыў, для Гані гэта быў не доказ. "Я хачу, – яна казала, – каб ты, калі жывы, быў не мёртвы". А ён ніяк уцяміць не мог, пра што яна кажа? І вось цяпер, гледзячы на Мацея, нібы ўцяміў. Ён жа, як Мацей, мог у труне круціцца, падскокваць, у люстэрка глядзець – і было б тое самае. Не жывы і не мёртвы. Не смерць і не жыццё.

Тады дзе яно, жыццё? У чым? Калі яно прасейваецца, як пясок, працякае, як вада, пралятае, як вецер – так, што не ўхапіць. І не зразумець, дзеля чаго ты з'явіўся ў свеце, калі свет мог абысціся без цябе. Быў у свеце Мацей, не было ў свеце Мацея – свету ўсё адно. Свет нічога да Мацея не адчувае. Але ж нешта адчувае да свету Мацей...

Можа, не варта намагацца зразумець жыццё? Можа быць, жыццё – гэта тое, чаго нельга зразумець, а можна толькі адчуваць?

Вось што адчувае цяпер Мацей?..

Хоць пры чым тут Мацей? Ні пры чым тут Мацей. Гэта ён, Стась, выпадкова з'явіўся на ягонае пахаванне. Гэтаксама, як выпадкова з'явіўся ў свет. І што ён, Стась, цяпер адчувае?..

Смерць? Страх перад ёю?

Не.

Бога?

Не. І не таму, што не думае пра тое, ёсць Ён, ці Яго няма? Пра гэта ён не думае. Проста не адчувае.

Д'ябла?

Не.

Любоў да гэтых людзей, пра якіх не разбярэш, жывуць яны ці памерлі?

Не.

Нянавісць да іх, бо яны самі не ведаюць, хто яны ёсць і на якім яны свеце?

Не.

Тады што?..

– Кажы ўжо... – пацягнуў яго за рукаво курткі нябожчык. – Чаго ты маўчыш?

– Што казаць?

– Што заўсёды. Што гэтае сэрца, напоўненае любоўю да жыцця і да ўсіх жывых, сэрца Мацея Богуша перастала біцца ў ягоных грудзях, але ніколі яно не перастане біцца ў грудзях тых, хто любіў яго, хто... Ну, давай, не самому ж мне пра сябе на сваіх хаўтурах казаць!

Мацей змоўк, чакаючы, і ўсе маўчалі і чакалі, а Стась не знаходзіў словы, якія падыходзілі б да таго, што ён бачыў. А бачыў ён нябожчыкаў, якія рабілі выгляд, нібы яны жывыя. Усе, апроч аднаго, жывога Мацея Богуша, які прыкідваўся, нібы ён нябожчык. Але з упэўненасцю сказаць, хто тут мёртвы і хто жывы, Стась ужо нават пра сябе самога не мог, толькі пашчыпваў сябе за вуха, хоць ведаў, што гэта не сон. А калі не сон, дык што гэта?..

Яшчэ малым ён наслухаўся ад дзеда з бабай столькі неверагодных гісторый, якія здараліся на Дзяды, што толькі пра тое й марыў, каб хоць нешта падобнае сталася з ім. Аднойчы дзед Ясь распавёў за памінальным сталом, як сустрэў пад ноч на Крывой гары свайго памерлага бацьку, Стасевага прадзеда Марку. Той быў сівы, хоць пахавалі яго чарнявым, сам увесь у белым і з белай торбай на плячы, перавязанай чырвонай стужкай.

“Пашукаў ён у торбе, – распавядаў дзед, – і дастаў арэхавы свісток. На, кажа, сынок, гэты свісток, ён чароўны. Адзін раз у яго свіснеш – і памрэ той, каму смерці пажадаеш. Два разы свіснеш – і ажыве той, каго ўваскрасіць захочаш. Тры разы свіснеш... – працягнуў мне свісток бацька, які стаяў за тры крокі ад мяне і бліжэй не падыходзіў, а я са страху нібы ў гару ўрос, ступіць не мог, каб свісток узяць, толькі нахіляўся, з усіх сіл цягнуўся насустрач, вось ужо пальцы мае ягоных пальцаў крануліся, мяне як маланкай прабіла, рука торгнулася – і свісток з бацькавай далоні не ў руку мне, а на зямлю ўпаў і пакаціўся з гары, якая раптам расступілася і ўдыхнула ў сябе бацьку, як туман, і выдыхнула, як воблака, якое ў неба паплыло, нібы душа бацькі. Так і не паспеў ён сказаць мне, што будзе, калі тры разы свіснеш, а я кінуўся ў спудзе дахаты. Назаўтра пайшоў свісток шукаць, ды дзе ты яго на той гары знойдзеш, калі нават не помніш, з якога боку стаяў, у якім месцы гара расступілася...

Усё дзяцінства Стасева было прабеганае па Крывой гары ў пошуках чароўнага свістка. І пазней, ужо дарослы, колькі ні шукаў – не знайшоў. А калі б і знайшоў, дык што?..

А вось што: адзін раз свіснуў бы! Каб усе разам з ім сканалі. Не толькі ў Каранях ці Багушах – ва ўсім свеце. Не аднаму ж яму паміраць! Няма яго, дык няма нікога. Тады справядліва.

Калі ж двойчы свіснуць, каб некага ўваскрасіць, дык каго? Хто гэтага варты?.. Хіба маці з таго свету вярнуць?.. Бацьку? А навошта?.. Каб зноў мучыліся? Гарбелі ад ранку да ночы толькі дзеля таго, каб пракарміцца? Спіны не разгіналі на зямлі, дзе, пасеяўшы мех, добра, калі збярэш два. Не, хай яны ўжо лепш у гэтай зямлі адпачываюць...

А тыя, каму яшчэ жыць, няхай на зямлі гэтай мучацца. Не заслужылі яны, каб так лёгка: раз – і на неба. За што?.. І шукаў Стась свісток толькі дзеля таго, каб паглядзець, што ж будзе, калі свіснеш тройчы? Можа, Страшны суд?.. Ці проста сам памрэш. Свіснуў тры разы – і даволі.

Увогуле жыццё – тры разы свіснуць.

– Я ўсё ведаю, – прыпадняўся і шапнуў Стасю на вуха Мацей. – І пра свісток, і што будзе.

Пра свісток ён, канешне, можа ведаць, пра гэта ўсе ведаюць і ў Каранях, і ў Багушах... Але пра тое, што будзе, калі тройчы свіснуць, скуль ведае? А калі ведае, дык як? Як жывы, ці як мёртвы?

– Скуль ты ведаеш?

– Скуль, скуль... Сказаў Стапуль! – з каранёўскай прымаўкай лёг роўненька ў труне Мацей. – Стуль і ведаю. А скажаш так, каб па мне заплакалі, як па апошнім беларусе, дык і ты будзеш ведаць.

З чаго яму так закарцела апошнім беларусам стаць?.. Яшчэ дзесяць мільёнаў беларусаў жыве на белым свеце, дзякуй Богу. А ён: я апошні.

– Ты не апошні беларус, Мацей. Яшчэ дзесяць мільёнаў беларусаў на свеце жывуць. І я не магу пра цябе казаць, як пра апошняга.

Знізу ўверх, ад падбароддзя да лобу праплыла ўсмешка па твары Мацея – неяк дзіўна ўсміхаюцца гэтыя нябожчыкі.

– Думаеш, жывуць?..

– Што тут думаць? Недаўна перапіс быў: дзесяць мільёнаў. Ну, трохі меней... Але колькі яшчэ ў Расеі, колькі ў Еўропе, Амерыцы...

Мацей зноў падскочыў:

– І там ніхто не памёр, апроч старых эмігрантаў! Разумееш? Ні тут,

ні там – ніхто! А я знайшоў свісток! Свіснуў адзін раз, каб усе са мной разам!.. І што? А нічога! Ніхто!.. Ну, думаю, дай свісну двойчы. Каб ажылі. Ды ў апошні момант цюкнула: гэта ж і стары Страх ажыве, а я тры рублі яму вінен. Дзе я тыя тры рублі, яшчэ савецкія, вазьму? І не свіснуў другі раз, а як бы заікнуўся свістам. Выйшла так: не два, не паўтара... І папёрлі гэтыя... З боку Каранёў, з Крывой гары... Не жывыя, не мёртвыя... Ды яшчэ ты! Нібы жывы, а сказаць пра мяне нічога не можаш!..

З усяго, што хутка-хутка, як заведзены, прагаварыў Мацей, Стась не зразумеў амаль нічога. Апроч таго, што Мацей знайшоў свісток.

– Ты чароўны свісток знайшоў на Крывой гары?

– Знайшоў! Толькі не на гары.

– А дзе?

– Пад гарой.

– Дзе пад гарой?

– Там, куды ён скаціўся. Гару трэсла – і ён скаціўся. Я знайшоў і свіснуў. Адзін раз. Каб справядліва, каб разам са мной памерлі ўсе беларусы. Апроч дзяцей, якія яшчэ не ведаюць, хто яны. Каб і ў Багушах памерлі, і ў Каранях, і ва ўсім свеце. А ніхто не памёр! Толькі старыя эмігранты ў Амэрыцы. Што не зразумелага?

Зразумелага было па-ранейшаму мала, таму Стась спытаў не наўпрост, каб час пацягнуць:

– Калі гэта Крывую гару трэсла?

– А калі ў Румыніі землятрус быў, які ўсіх пісьменнікаў румынскіх у адным доме накрыў! Забыўся?

Ну, дапусцім, пра землятрус у Румыніі Стась помніў. Але пры чым тут Румынія? І пісьменнікі румынскія?

– Пры чым тут Румынія з румынскімі пісьменнікамі?

– Як пры чым? – хацеў вылезці з труны, але перадумаў вылазіць, бо паглядзеў на падворак і нідзе лепшага месца не знайшоў, Мацей. – Ідэю падалі! Я падумаў: калі тыя ўсе разам, дык і гэтыя ўсе разам. А пасля ўзяў шырэй: не толькі беларускія пісьменнікі – усе беларусы! І што аказалася? Аказалася, што няма такіх!

Стась пачаў цяміць паціху, да чаго Мацей верне, толькі ў гэта цяжка было паверыць, і ён спытаў:

– Пісьменнікаў няма?

– Я ж кажу, што ўзяў шырэй. Няма такіх беларусаў.

– Якіх такіх?

– Сапраўдных. Скончыліся сапраўдныя. Адны падробныя засталіся. Яны й жывуць... Слухай, падай мне люльку, вунь на падваконніку ляжыць, я памёр, не дапаліўшы. І зэдлік вазьмі, сядзь, чаго стаяць жывому?

Стась схадзіў па люльку і зэдлік, сеў каля труны.

– З чаго ты ўзяў, што беларусы скончыліся, дзядзька Мацей? Вось я з Менску еду, там поўна беларусаў. Еду ў Карані – і там... Не столькі, колькі ў Менску, але ёсць... – даў ён прыпаліць Мацею, і той соладка зацягнуўся горкім самасадам:

– Не беларусы яны.

– А хто?

– Скуль мне ведаць? Можа, рускія. Можа, палякі. Ці румыны. Вось румыны ёсць, хоць у іх землятрус быў, а беларусаў няма, хоць землятрусу не было. Каб беларусы былі, дык памерлі б, калі я свіснуў. А хто памёр?..

Ніхто, апроч старых эмігрантаў. Нават ты жывы. Значыць... – паклаў люльку на вечка, якое бокам пры труне стаяла, і нахіліўся да Стася Мацей...

– Што значыць?

– А тое, што не надта падобны ты да бацькі. І да дзеда не надта.

– Як гэта не падобны?.. – азірнуўся Стась, шукаючы бацьку з маці, дзеда з бабай, але не ўбачыў іх паблізу. І дзядзькі Петруся з дзядзькам Лявонам на падворку не было. Мусіць, ускрыўдавалі, што столькі часу не бачыліся, а ён не з імі, а з Мацеем размову завёў, нібы Мацей яму даражэй. Не даражэй яму Мацей, проста Мацей нібыта жывы, а калі размаўляць у гэтым жыцці не жывому з жывым, тады каму з кім? Можа, бяда наша якраз у тым, што болей з мёртвымі размаўляем, чым з жывымі?

Вось учора Ганя патэлефанавала: “Ты ў Карані на Дзяды збіраешся? Давай я з табой паеду, пагаворым пра нас. Не лішне будзе...”

Яно-то не лішне. Але ён уявіў, як яна ў машыне ўсю дарогу сакатаць будзе, замінаць на могілках... Хоць чаму замінаць? Вечнаму маўчанню?..

– Можа, свісток ты не той знайшоў? – не стаў разбірацца з Мацеем, хто да каго падобны, Стась. – Не чароўны. Ці ён той, але ўжо не спраўны, столькі гадоў прайшло... Пакажы.

– Спраўны, – паляпаў Мацей па правай калашыне. – Я праверыў. Хацеў апошнюю жонку, Палуту ажывіць, каб спытаць, куды падзелася, а свіснуў – ажылі ўсе тры... Вунь... – напружыўся ён, залезшы ў кішэнь. – І Палута, і Аўрэля, і Вяргіня. Як цяпер жыць? Дык я ў труну...

– А Ма-цей-чык ты мой! А мой ты род-нень-кі!.. – загаласіла, пачуўшы ягоныя словы, Аўрэля, першая жонка, якая ўжо гадоў трыццаць як памерла, і Мацей пасля з другой жонкай, Вяргіняй, якая таксама памерла, гадоў дваццаць пражыў, ды яшчэ гадоў дзесяць з трэцяй, Палутай, пра якую ніхто не ведаў, жывая яна ці не, бо ўжо гады чатыры прамінула, як пайшла яна ў лес і прапала, толькі хустку яе знайшлі на ўзлеску з боку Каранёў, – а на каго ж ты на мяне пакінуў?..

Дзіўна было слухаць, як жонка, якая памерла раней, галосіць па мужы, які памёр пазней, а тут яшчэ Вяргіня, другая жонка, падбегла, ухапілася за плечы Мацея: “А хто ж цяпер мяне абдыме?.. А хто прылашчыць?..” – і толькі Палута, якая была маладая і трохі малахольная, таму й пайшла за яго, амаль стогадовага, у свае дваццаць пяць, не плакала, не галасіла, а стаяла пасярод падворка і ўсміхалася.

Вось чаму ў нас усміхаюцца толькі тыя, якія малахольныя? Ды яшчэ нябожчыкі... Вунь стары Страх які ўсмешлівы! І Стапуль, і Былінскі, і Стрыга з Валюком... А пры жыцці такія панылыя соўгаліся... Чаму жывыя мы ўсе такія, нібы ўчора некага пахавалі?

– Бачыш? – шнарыў па кішэнях Мацей. – А ты кажаш: свісток не спраўны. Яшчэ які спраўны... Толькі дзе ён?.. Га, Вяргіня?

Вяргіня, якая забілася, зваліўшыся з драбіны, калі на гарышча лезла, і Мацея падазравалі, што ён цвікі на верхняй папярэчыне аслабіў, каб Вяргіню на Палуту памяняць, узялася рукі ў бокі:

– Ледзь што – адразу Вяргіня! То тое прапала, то гэтага не стала! Што прападае, да нас не пападае!

– А куды пападае, што прападае? – вывернуў Мацей правую кішэнь. – Ты ўсё жыццё па маіх штанах і пінжаках... Тры рублі, што я ў Страха пазычыў, і тыя... Цяпер сама яму на тым свеце вяртай, – вывернуў ён кішэнь левую... – Во!.. Дзірка! Згубіў!.. – і выскачыў з труны, кінуўся ў хату, з

хаты на падворак, з падворку ў лес, але дзе ты ў тым лесе, у ляшчынніку, з лета ўсыпаным арэхамі, з якіх вавёркі сваіх свісткоў панараблялі, той чароўны свісток знойдзеш?..

– Можа, ты яго на Крывой гары пасеяў? – спытала Аўрэля. – Хадзіў жа з раніцы... І чаго хадзіў?

– Чаго хацеў, таго хадзіў, – залез у труну Мацей. – Сваіх шукаў. Бацьку, братоў... Сястру, я любіў яе...

Вяргіня зноў рукі ў бокі ўзялася:

– А мы табе не свае? Нават ажывіць не хацеў, самі ажыvіліся!

– Усе ў гэтым свеце мусяць самі ажыўляцца, – узяў з вечка люльку, якая надзіва доўга не гасла, Мацей. – А паміраць і не самому можна.

– Як так?.. – не ўцяміў, бо гэта немагчыма было ўцяміць, Стась, і Мацей сказаў, пыхнуўшы дымам, які, аблачынкай таячы, паплыў да Палуты.

– Як дым... Ён нібы сам, але ж не сам. Я выдыхнуў...

– Як душу?

– Не. Душа – іншае. Дым – імгненнае, душа – вечнае. Але неяк так яно ўсё зроблена, што адно ў адно перацякае. Усё імгненна і вечна, усё вяртаецца, нішто не знікае... Вечнае вяртанне... Бачыш, над ёй плыве...

“Капец, загаворваецца, не анашу ж ён курыць...” – падумаў Стась, паглядзеўшы на Палуту, над якой плыла і таяла сіняя аблачынка, і якая сказала:

– Вяртаюцца тыя, каго клічуць. Ты каго паклікаў?

– Ды ўсіх! І яны – з глыбінь гары!.. Па адным, кагортамі! Процьма беларусаў! Хто ў кальчугах, хто яшчэ ў скурах ваўчыных. А нехта будзе казаць, што раней нас не было! Мы з ваўкамі разам з’явіліся, толькі пра гэта забыліся. І калі тройчы свіснуць... Ды ў што свіснеш! – раптам закрычаў Мацей, прыпадняўшыся і павярнуўшыся да ўсіх сваіх жонак. – Калі свістка няма? У люльку? У дзірку ў кішэні? Хто мне порткі апошні раз праў?..

Вяргіня ніякавата панурылася, а Палута як усміхалася, так і стаяла, усміхаючыся.

– Я... – уздыхнула Аўрэля і, нахіліўшыся, засунула ў штаны свайму ўдоваму мужу вывернутыя кішэні. – Я прала. За дзень да смерці.

Выходзіла: трыццаць гадоў таму. Без аднаго дня.

– Госпадзі! – закаціўшы вочы, ускінуў рукі да Стася Мацей. – Паглядзі: мазалі такія, што напільнікам не возьмеш, а ўсё жыццё ў адных засцаных портках, ды яшчэ тры рублі вінны застаўся! Вось пра што скажы, каб заплакалі!..

Мацей Богуш, апошні жыхар Багушоў, выбіў аб вечка попел з люлькі, сунуў яе пад падушачку ў труне, ціха лёг на тую падушачку сівой галавой, перахрысціўся і склаў рукі. І як толькі ён іх склаў, не стала Аўрэлі, Вяргіні, не стала Страха, Стапуля, Былінскага, нікога не стала ні ў вёсцы, ні ў полі, ні ў лесе, толькі адна Палута стаяла пасярод падворку і ўсміхалася.

– Добра, што ты прыехаў, – усміхнулася яна Стасю. – А то памёр Мацей, а пахаваць няма каму. Ён труну, якую яшчэ пры Вяргіні сабе зрабіў, з гарышча ўчора зняў, сам лёг у яе, каб я з ім не цягалася, хоць ён лёгкі стаў пад смерць, але ў труне адной мне яго не падняць. І ў зямлю не апусціць. Думала: спачатку труну да магілы дацягну, пасля Мацея, а там як-небудзь... Магілу я ўчора выкапала.

Казала яна трохі блытана, але ўцямна. Не як мёртвая.

– Ён учора памёр?

– Збіраўся ўчора. Але памёр сёння. Цябе чакаў. “Стась прыедзе, на хаўтурах так скажа, што ўсе заплачуць”.

– Скуль ён ведаў, што я прыеду?

– Ведаў аднекуль. Я не казала. Сказала толькі, што не будзе каму плакаць. Хіба ты, калі прыедзеш, ды я. Тады ён пра нейкі чароўны свісток стаў нешта плесці. Што процьма набяжыць люду – толькі свісні. Знайшоў на ўзлеску арэх вавёрчын з дзірачкай. Спарыш. Свістаў у яго, свістаў... Вось цябе высвістаў. Дзіўна, бо ты насмерць разбіўся. Хоць, можа, і не насмерць, ніхто йшчэ цябе не бачыў.

Стась не бачыўся з Палутай чатыры гады. З той восені, у якую яна прапала. Яна й тады ўжо была дзіўнай. Нешта ўсё пра нейкага першага мужа свайго пляла, хоць не была да Мацея замужам – хто такую возьме? Мацей казаў: “Зусім звар’явалася”. І ўсё ж тым разам яму не здалося, што яна вар’ятка. Проста болей, чым раней, прыпыленая. Але цяпер... “Ты насмерць разбіўся”, – ды яшчэ з гэтай усмешкай, якая да яе як прыляпілася.

– Калі гэта я насмерць разбіўся? Дзе?

– Пад Суцькавым.

– Я прамінуў Суцькава.

– Значыць, калі на Багушы паварочваў. Ты хутка ляцеў і ўжо праскочыў паваротку, калі падумаў, што трэба ў вёску заехаць, паглядзець, ці жывы Мацей. Рэзка затармазіў, а дарога там слізкая пасля дажджу, машыну занесла – і якраз з твайго боку ў слуп. Можаш схадзіць паглядзець, ці жывы. Я пачакаю. Разам з Мацеем і пахаваю, калі насмерць...

Ён вырашыў не ўдакладняць, як ён, калі мёртвы, сам на сябе паглядзіць, ці жывы? “Не, – сказаў, – давай спачатку Мацея пахаваем, а пасля ўжо мяне. Я ў Каранях хачу ляжаць, не ў Багушах”. І спытаў:

– Ты дзе была да ўчарашняга, Палута?

– У манастыры. Пайшла ў грыбы, у лесе каля Каранёў, каля самай дарогі мяне перанялі, згвалцілі. Яны з машыны выйшлі, арэхі шукалі. Якія арэхі ўвосень, іх вавёркі пабралі даўно. Забіць хацелі, каб не расказала, але адзін, яны ўтрох былі, кажа: “Яна ж вар’ятка, хто ёй паверыць?” Адпусцілі. А куды йсці, хто мне паверыць? Я й пайшла ў манастыр. Папрасіла манахаў, каб не казалі, што я ў іх, калі шукаць будуць. Яны й не казалі.

Усё гэта яна прагаварыла з тою ж, нібы прылепленай да твару, усмешкай. Нібы ёй радасна было, што яе згвалцілі.

– А хто былі тыя трое? Каранёўскія?

– Не, што ты! Калі ў каранёўскіх вадзілася такое? Чужыя.

– Якія чужыя?

– Нейкія чужыя. Не ведаю, якія. Можа, рускія. Можа, палякі. Ці румыны.

Зноў румыны. У Мацея – румыны, у яе – румыны.

– Адкуль тут румынам узяцца?

– Ну, калі няма адкуль, значыць, не румыны. Літоўцы, можа. Ці два рускія і адзін паляк.

– Ты так пра гэта кажаш, нібы радуешся, што рускія з палякам з цябе здзек учынілі.

Яна страсянула галавой, валасы паправіла – шыкоўныя ў яе былі валасы. Саламяныя, як у Стасевай маці. І як у Гані.

– Не, што ўчынілі здзек, не радуюся. А радуюся, што не забілі. Я й раней штодня радавалася, бо жывая. Пакуль муж мяне не забіў. Таму ўсе

і казалі, што дурная. А манахі сказалі: “Не, ты не дурная. Ты боская”. І схавалі ад усіх.

– Які муж цябе забіў? Мацей?

– Не. Першы.

– Які першы?

– Гэта не важна. Не Мацей.

– Мацей шукаў цябе.

– Я ведаю. Я ўсё пра яго ведаю. Таму й пайшла за яго.

– А што ты пра Мацея ведаеш? Ну, такое, што за яго пайшла?

– Ён апошні беларус.

Вось яно што... Вар’ятка напляла старому, што ён апошні беларус, той і паверыў. Што старое, што дурное...

– Што значыць апошні? Больш беларусаў не будзе?

– Ён апошні сярод нас. А я з ім, каб ад яго нарадзіць дзіця. Каб потым беларусы зноў былі.

“Мадона”, – падумаў Стась. У яго знаёмы псіхіятр быў, які казаў, што жанчын, звар’яцелых на бязгрэшным зачацці, завуць у псіхушцы “мадонамі”. Але чамусьці пра Палуту сказаць такое нельга было. Нават падумаць так, як падумаў Стась, было ніякавата.

– У Мацея няма дзяцей, – кіўнуў ён у бок труны. – І наўрад ці ўжо будуць.

Палута гэтак усміхнулася, што ўся заззяла.

– Ёсць. У мяне дзіця ягонае.

Стасю здалося, што Мацей зноў заварушыўся ў труне – і зараз ускочыць, спытае: “А калі дзіця не ад мяне? Ад рускага, ад паляка, ад румына?.. Га, Палута?..” Але не, гэта вецер наляцеў, перабраў сівыя валасы.

– Сын?

– Сын. Мацей.

– І ён у манастыры?

– У манастыры. Я хацела з ім прыйсці, паказаць, каб запомніў, бацьку, але манахі не пусцілі. Хаваюць, каб не забілі.

– Ды хто яго заб’е? Навошта? Дзіця...

Усмешка на твары Палуты ўпершыню прытухла. На імгненне, але прытухла.

– А Ірад каго загадаў знішчыць, каб сына Божага не было? Вось і майго, кажуць манахі, могуць забіць, каб не стала беларусаў.

– Ірад сваіх сыноў забіў. Ірадавых.

– І ўсё адно Божых.

– Няхай так. Але каму трэба, каб беларусаў не стала?

– Гэтага я не ведаю. Але ж некаму трэба, калі знішчаюць. Толькі-толькі адродзімся – зноў... Не цела, дык дух. Бо дзеці Божыя. Праз тое і пакуты нашы... – перахрысцілася Палута і падышла да труны. – Во які спакутаваны. Праз усё жыццё. Ды ўсё ж прыгожы, бо сын Божы. Абраны. Усе беларусы абраныя.

– Габрэі кажуць, што гэта яны абраныя. І праз тое іх пакуты.

Палута нахілілася, пацалавала Мацея ў лоб.

– Мала што габрэі кажуць... Ты можаш так сказаць, каб я заплакала?

– Па Мацеі?

– Па Мацеі. Па табе, па мне.

– А па табе чаму? Цябе згвалцілі і забілі? У другі раз?

– Можа быць.

– Што можа быць? Ты жывая?..

– Жывая, – засмяялася Палута. – Мёртвыя вар'ятамі не бываюць. І не плачуць, – узялася яна за вечка. – Так што можаш не казаць, каб заплакала... Панеслі? А то вунь дождж сунецца...

Накрыўшы нябожчыка вечкам, з-пад якога, як здалося Стасю, Мацей усміхнуўся ўсмешкай Палуты, паднялі труну з козлаў. Яна аказалася на дзіва лёгкай, высахла за гады на гарышчы, дый Мацей, як Палута сказала, лёгкі стаў пад смерць. Стась адзін бы яго данёс, калі б было зручна.

Пайшлі па вёсцы. Палута ўперадзе, узяўшыся ў нагах, дзе лягчэй, і так лёгка йшла, нібы й не несла нічога. Плаўная, гнуткая... Мякка перакочваліся пад зрэбнай спадніцай яе акруглыя клубы... Раптам яна павярнулася і так на яго зірнула, як апякла, і такая спякотная хваля пракацілася па ім ад неба да зямлі і ад зямлі зноў да неба, што яго хіснула – і ён ледзьве ўстаяў...

Шлях для ўсіх быў кароткі, але для кожнага – свой.

Паставілі труну з тарца магілы, грудок выбранай зямлі каля якой невысокі быў – Палута не глыбака выкапала. Мусіць, каб апускаць было ямчэй. Яна пачала малітву: "Памяні, Госпадзі, супачылых слугаў тваіх Мацея ды Стася, даруй ім грахі іхнія..." – і Стась не стаў замаркочвацца, што Палута яго да нябожчыка прыпляла, прасунуў над магілай труну, якая завісла адным канцом, трохі хістаючыся, і калі ён скочыў на дно, каб труну падтрымаць – Палута піхнула яе, і труна, стаўшы раптам свінцовацяжкай, слізнула на Стася, паваліла, накрыла. "Прымі ў царства вечнае славы Тваёй і радасці невымоўнай навекі..." – яшчэ паспеў ён пачуць цямнеючым слыхам, як даказала малітву Палута і рассмяялася.

Вар'ятка.

Хто дапамог ім выбрацца з магілы, яны не ведалі.

Спачатку Стасю здалося, што ці ў труне, якой яго прыдушыла, ці вышэй, над труной, нехта шкрабаецца. Правай, непрыцiснутай рукой ён намацаў дошкі над сабой і пастукаў. "Хто там?" – спытаў зверху прыдушаным голасам Мацей. Стась хацеў адказаць, ды рот быў, хоць і не шчыльна, забіты зямлёй, і ён толькі прамычэць здолеў: "Э... а... я... (гэта я)" – не спадзеючыся, што нехта яго пачуе, але Мацей не толькі пачуў, ён Стася пазнаў: "Гэта ты, Стась, пада мной? Не Палута?.." Пасля ён чуў, як Мацей, вохкаючы і лаячыся, варочаўся ў труне, упіраўся ў вечка, спрабуючы падняць ці ссунуць яго, але ні падняць, ні ссунуць прыкапанае вечка сіл Мацеевых не ставала. Ён узвыў адчайна: "Вось жа ведзьма! Жывымі пахавала!" – і тут нехта гукнуў: "Гэй! Вы там жывыя?.." Голас быў нібы знаёмы, але такі аддалены, прыглушаны, што не распазнаць... Пачуўся жалезны шоргат капаніцы ў зямлі, нехта адкопваў магілу, вось ужо жалеза зашкрэбала па дрэве, па вечку, і чутно было, як Мацей прыпадняў яго нарэшце і стаў выбірацца з труны...

Выбіраўся ён доўга, Стась ужо задыхаўся, калі Мацей выцягнуў труну, а з-пад труны Стася.

Каля магілы нікога не было. Толькі на ўскрайку лесу мільганула нечая, зноў жа нібы знаёмая постаць, ды дзе ты вачамі, прысыпанымі зямлёй, разбярэш здаля, чыя?..

– Памог – і за парог, – сказаў Мацей. – Па-нашаму. Ведаеш, у нас раней

глыбокія магілы капалі. Метры два. Нават з паловай. Дык самі далакопы не маглі з іх вылезці, а не тое што нябожчыкі...

Імжэў няўтульны восеньскі дождж, які ўсё ж дайшоў да Багушоў па дарозе з Менску, было мокра і холадна, але яны не заўважалі ні макраты, ні холаду, сядзелі на краі сваёй магілы спінай да спіны і глядзелі... Нізка над лесам, як амаль заўсёды ўвосень, вісела цяжкое, каламутнае неба, пусты вецер бег па ім і з дажджом падаў на пустое, шэрае поле, на якім шукалі нешта, пераскокваючы ад купіны да купіны, дзве чорныя, мокрыя вароны, якія маглі выдзяўбаць ім вочы, але не выдзяўбалі, і яны бачылі над лесам неба, над полем дождж, на купінах варонаў – і ні ў адным музеі свету не бачыў Стась лепшай карціны, а Мацей ні ў якіх музеях проста не бываў.

“Трэба памерці, каб адчуць такое...” – падумаў Стась, а Мацей сказаў, дажджом вымываючы твар, па якім сцякала зямля:

– Беларусаў яна пахаваць хацела! У нас свісток. Свіснулі – і ажылі. І во: неба, поле, лес!

– Дык ты ж свісток... – сагнуўся Стась, каб адкашляцца, ад зямлі адпляваць, – згубіў. Ці зманіў?

Мацей падняўся, стукнуў яму ў спіну.

– Згубіў. Але перад тым, калі Палуту ажыўляў, свіснуў заадно, каб, калі памру, ажыць самому. Не надоўга, што тут доўга рабіць? Нарабіўся ўжо... Проста паглядзець апошні раз...

– Ну й як?

– Ды так... Нібы ўсё тое самае – і як не бачыў ніколі. А жыццё пражыў.

Ён падаў Стасю руку, той падняўся цяжэй за нябожчыка, здрыгануўся:

– Пайшлі. Холадна стала. Мокра.

– Прывыкай, – зняў пінжак, у якім яшчэ на танцы ў Карані хадзіў, і змусіў Стася надзець яго пад прамоклую куртку Мацей. – Табе жыць.

Падняўшы труну, ён накрыўся ёй, Стась накрыўся вечкам. І труна, і вечка былі змайстраваныя як мае быць, ні кроплі не прапускалі.

Да Мацеева падворка дайшлі моўчкі. Ніхто іх не перастрэў, не спытаў: “А што гэта вы так: пахаваліся – і зноў дадому?..” Вымерла вёска.

– Давай дапамагу на гарышча падняць, – прапанаваў Стась, калі Мацей паставіў труну пад глухую сцяну хаты. – А то намокне.

– Не паспее, – махнуў рукой Мацей. – Я ж казаў, што не надоўга. Сёння сюды – заўтра назад, што тут доўга рабіць?.. Ты заедзеш заўтра?

– Заеду, калі са сваімі сёння ўпраўлюся. Вунь пад вечар ужо, не пойдзеш на могілкі ўночы.

– Заедзь. Я пачакаю, калі што... Падумай, што сказаць.

– Добра, – кіўнуў Стась, падумаўшы, што няма тут пра што думаць, бо Мацей Богуш ніколі не памрэ, а толькі выгляд рабіць будзе, як усе беларусы, нібы памірае – і будзе цягаць на сабе даўно зробленую на смерць труну.

Машыны каля падворку не было, і Стась ніяк не мог успомніць, дзе яе паставіў. Прайшоў у адзін канец вёскі, у другі – нідзе. Напрасткі праз пасадкі рушыў да шашы – ягоны новенькі “BMW” хэтчбэк, развернуты перадам да Суцькава, у бок процілеглы таму, у які ён ехаў, стаяў на ўзбочыне, прытуліўшыся да пахіленага слупа. Моцна прыціснуўся. За стырном, аберуч за яго ўчапіўшыся, адкінуўшы назад і трохі ўбок галаву, сядзеў кіроўца. У адрозненне ад машыны, амаль цэленькі, толькі па левай шчацэ ад скроні да шыі – падсохлы струменьчык крыві...

Твар кіроўцы не быў пабіты, пазнаць яго было няцяжка. Гэта быў ён. Стась. Гэта ягоныя рукі ляжалі на стырне. Гэта на ягонай скроні, на ягонай шчацэ, на ягонай шыі рудзела падсохлая кроў... Ён залез у кішэнь пінжака, дастаў люстэрка Мацея, з якім той некалі ў Карані на танцы хадзіў: у люстэрку крыві не было.

Левыя дзверцы з выбітым шклом не адчыняліся, Стась праз правыя пралез да стырна, да сядзення – і ўціснуў сябе ў сябе, не адчуўшы нічога, апроч няўтульнасці. Нахіліўся ўперад, галава ягоная хітнулася і ўпала на рукі, скрыжаваныя на стырне.

Ён рэдка адчуваў сябе ў сабе ўтульна. Жыў у сабе, як у выпадкова нанятай кватэры, у якой, калі выключыць святло, нікуды не пройдзеш, не напароўшыся на нешта, за штосьці не зачапіўшыся. Зайздросціў тым, хто выглядаў сам у сабе гаспадаром, усё ў сабе ведаў і, галоўнае, усё ў сабе любіў, незалежна ад таго, любілі гэта ў іх ці не любілі іншыя. Думаў, гледзячы на іх, упэўненых, рашучых: “Вось бы мне ў такім доме пасяліцца! І не ўпускаць нікога, хто, увайшоўшы, пачынае з парога: “А стол не так стаіць, а канапа не тут, а шафу я б сюды пасунуў”. І хоць думаў так, ды раз за разам перастаўляў стол, перацягваў туды-сюды шафу, канапу. Праз гэта нічога ні ў ім самім, ні ў адносінах з тымі, хто раіў яму, куды і што паставіць, не мянялася, а ён перацягваў, перацягваў, перацягваў... “Дзеля чаго ўсё гэта? У чым сэнс?” – задаваўся ён пытаннем, і выходзіла, што ў перастаноўках ды перацягваннях, якія нібыта нешта змянялі, у той час як стол і канапа, жыццё і смерць заставаліся тымі ж, якімі былі.

Вечнае перацягванне...

Стась падняў галаву, агледзеў засыпаны шклом салон са здзьмутымі падушкамі бяспекі – і толькі цяпер зразумеў, што па дарозе з Менску ў Карані, пры павароце на Багушы ён разбіўся. І паколькі нічога яму не балела, то, мусібыць, разбіўся ён, як Палута сказала, насмерць. А значыць, у жыцці ягоным нешта ўсё ж змянілася.

Трэба было паглядзець, ці жывая машына. Кнопка на ключы запальвання не спрацавала, ён павярнуў ключ у замку назад і зноў наперад, раз... другі... трэці... – матор завёўся. Стась газануў, адарваўся, абадраўшы ўвесь левы бок хэтчбэка, ад слупа, развярнуўся і паехаў у Карані.

Дарога пайшла праз Багушоўскі лес. Божа мой, колькі разоў праходзіў ён, прабягаў, праязджаў па гэтай дарозе! Скласці ўсё ў адно – выйдзе самы доўгі ягоны шлях. Спачатку, пакуль маленькі быў, за руку з дарослымі... З дзедам, пакуль той жыў: вунь там, пад раскідзістай, трохі пахіленай елкай дзед пасадзіў яго аднойчы на Каляды ў гурбу, сказаў: “Сядзі і чакай, нічога не бойся! Калі не будзеш баяцца, прыйдзе дзед Мароз і прынясе падарунак. Цукеркі і заечы хлеб”.

Дзед Мароз прыйшоў з хлебам, які не даеў зайчык. Хлеб быў смачны, але... Але цукеркі Дзед Мароз не прынёс. Аднекуль ён дазнаўся, што ўсё ж Стась баяўся трохі, пакуль чакаў яго. Адзін у лесе...

Калі жывы быў бацька, яны спыніліся аднойчы вось тут, ужо амаль на выездзе з лесу, і бацька паказаў месца, адкуль па ім стралялі, калі ён упершыню ехаў у Карані, і расказаў Стасю, як не баяўся смерці на вайне, дзе яго забіць маглі сто разоў на дзень, і як баяўся, што яго заб’юць пасля вайны, калі ён, начальнік і над Каранямі, і над Багушамі, мог сам забіць каго заўгодна. Хоць сто разоў...

“Хіба тады, калі сам можаш забіць, баішся болей, чым тады, калі цябе забіць могуць?..” – спытаў Стась, і бацька сказаў, што ён малы – і не разумее. “Падрасцеш – расталкую”.

Не расталкаваў. Ці не паспеў, ці не захацеў, ці сам толкам не ведаў, як расталкаваць...

Калі жывая была баба, яна брала Стася ў лес шукаць чырвоны корань і зёлкі, якія ад усіх хваробаў. Калі яна памірала, маці плакала і пытала: “Чаму ж ты ад сваёй хваробы ні кораня, ні зёлак не знайшла?..” – і Стась ніяк не мог зразумець: а сапраўды – чаму? Пабег, каб знайсці тыя зёлкі, каб баба не памерла, у лес адзін. І заблукаў. Калі яго знайшлі, баба распавяла, як сустрэла аднойчы ў лесе старую, страшную ведзьму і папрасіла завесці на той свет, каб паглядзець, што там робіцца. Ведзьма сказала: “Ідзі за мной!” І павяла да Крывой гары – вунь яна амаль ад лесу пачынаецца. Гара расступілася, а ў ёй – пекла. Чэрці з ведзьмамі ў смале грэшнікаў вараць. Найбольш там ворагаў усялякіх з чужых зямель, якія Караням і каранёўцам зла і смерці хацелі, і якіх пасля таго, як каранёўцы іх пабілі, спрадвечны Бог каранёўскі Ярыла ў Крывую гару запраторыў. Але ёсць і тутэйшыя грэшнікі. І князі, і падчашыя, і ваяводы, і простыя людзі... “А яшчэ, – шаптала баба на вуха Стасю гарачымі, як вуголлі, губамі, – ёсць дзеці, якія не слухаліся бацькоў, бегалі цераз Крывую гару адны ў лес. І гэтакі там плач, гэткія енкі, стогны...”

Яго заўсёды палохалі нячыстай сілай, тым светам. Палохалі нават тады, калі вучылі смеласці. Аказалася, дарма. І на тым свеце не горш, чым на гэтым, і ведзьмы бываюць не толькі старыя і страшныя. Бываюць розныя – вунь адна йдзе, якая на той свет завядзе...

Справа па ўзбочыне крочыла ў бок Каранёў жанчына – ён са спіны адразу пазнаў Палуту: гнуткая, плаўная...

– Вось тут усё адбылося, – усміхаючыся, правяла яго Палута ў лес, калі ён спыніўся, каб спытаць, чаму яна закапала яго разам з нябожчыкам. – Каля гэтага валуна. А іх машына стаяла там, дзе стаіць твая. Я ўжо йшла дахаты...

– А цяпер куды?

– Сюды. Я заўсёды іду сюды, калі мяне гвалцяць. Як сёння.

Ён колькі часу яе не бачыў?.. Гадзіну? Дзве?.. Хто за гэты час яе згвалціць мог, калі пустая вёска? Калі нават нябожчыкі з вёскі сышлі?

– Хто цябе сёння згвалціў?

Палута паглядзела здзіўлена, пранізліва.

– Ты.

Стась забываўся, калі бачыў яе, што яна вар’ятка.

– Я цябе згвалціў? Дзе і калі, Палута?

– У Багушах. Па дарозе на могілкі. Накінуўся са спіны, паваліў на труну, на Мацея...

Па дарозе на могілкі, калі яна йшла паперадзе, калі мякка перакочваліся пад зрэбнай спадніцай яе плаўныя клубы, ён сапраўды падумаў пра нешта такое, адчуў, нават уявіў – і чамусьці менавіта так: на труне, на Мацеі, але... Але ўявіць – не зрабіць.

– І таму ты мяне закапала?

– Так. Ты мяне на труну і Мацея – я цябе пад Мацея і труну. Хіба не справядліва?

Ён не думаў, што гэта справядліва, каб нават так было.

– Можа, справядліва, калі б так было. Толькі я цябе не гвалціў, Палута. Нешта такое адчуў, уявіў, але не зрабіў.

Яна падышла бліжэй, стала перад ім вочы ў вочы. Ён не вытрываў яе скразны, чысты, ніякім вар'яцтвам не замутнёны позірк – адвёў свой.

– Нашы ўяўленні – гэта і ёсць мы. Тое, што мы так не робім, як уяўляем – гэта ўжо не мы, іншыя. Такія, якім проста страшна парушыць прыдуманыя для нас законы, забароны. Каб не адказваць. Але за тое, за што не адказваюць перад людзьмі, усё адно адказваюць перад Богам.

– Нават нябожчыкі?

– Для Бога няма нябожчыкаў. Цела наша прад Ім не паўстае. А для душы сказана: "Не пажадай жонкі бліжняга свайго..." Чуеш, што сказана? "Не па-жа-дай..."

Набралася яна ў манастыры ад манахаў за чатыры гады...

– Калі жывы, Палута! Тады не пажадай! Тады адказвай за тое, чаго пажадаў! А я разбіўся насмерць – ты сама сказала!.. Дык як я мог пажадаць? Мёртвыя жадаць не могуць!

– Могуць, – усміхнулася Палута. – Яшчэ як... Вось ты пажадаў ажыць – і ажыў. Не чакаў, пакуль Мацей свісне... – І раптам спытала, нібы толькі што ўбачыла. – А чаму на табе пінжак ягоны?

– Ён сам даў, калі з магілы выбраліся. Бо дождж... – зняў Стась куртку і пачаў здымаць цеснаваты, праз што, можа, і было яму няўтульна ў гэтым свеце, Мацееў пінжак, а Палута ўхапіла яго за плечы. – Ён жывы?

– Калі я ад'язджаў, жывы быў. Цяпер – не ведаю. Сказаў, што не надоўга, папрасіў заўтра...

Палута, не даслухаўшы, адпусціла яго, крутнулася – і з усіх ног кінулася ў лес. Напрасткі да Багушоў.

Пінжак ніяк не здымаўся, нібы прыклеіўся да макраватай кашулі. Задраўшы яго на спіну, Стась сцягнуў пахавальную Мацееву апратку праз галаву – з нагруднай кішэні выпала люстэрка. І ўслед за ім, з кішэні ўнутранай выслізнула паперына: вырваны са школьнага сшытка, складзены трохкутнікам, як у вайну, калі не было канвертаў, салдацкія пісьмы складваліся, ліст у клетачку. Стась падняў яго: "Богу", – было напісана на трохкутніку там, дзе пішуць адрас.

"Вось што ён мог Богу напісаць?.." – разгарнуў Стась трохкутнік і ўбачыў, скрэпкай прышпіленыя да ліста ў левым ражку, тры рублі. Даўнюю, яшчэ савецкую купюру. Ён адшчапіў яе – пасярэдзіне ліста было напісана: "Мае грахі". Гэта выглядала на споведзь, і толькі тут Стась падумаў, што чытаць чужыя пісьмы калі й не грэх, дык і не праведнасць, але... Але Бог ужо ведае, што ён пажадаў пісьмо прачытаць, а гэта тое самае, калі верыць Палуце, што прачытаў.

"1. Грэх вольны. Украў з Багушоўскага лесу дзве сасны на бёрны.

2. Нявольны грэх. Не вярнуў Казіміру Страху з Каранёў тры рублі.

3. Не ведаю, Госпадзі, вольны грэх, ці нявольны. Хацеў аслабіць цвікі на верхняй папярэчыне драбіны. Каб Вяргіня з гарышча зрынулася. Каб жыць з Палутай. Але не аслабіў, толькі надумаў. А Вяргіня звалілася і забілася.

4. Дадатак: 3 рублі.

Мацей Богуш з Багушоў".

Стасю гэтак сціснула сэрца, як мёртвым не сціскае... Ён прысеў на

валун, каля якога згвалцілі Палуту, абхапіў рукамі галаву і сядзеў так доўга. Падняўшыся, сунуў ліст з люстэркам у кішэні, з якіх яны выпалі, і рушыў да машыны.

У лесе ўжо не паехаць было без святла – дый над лесам цямнела. Як цяпер на могілкі йсці? У поцемках каранёўцы да мёртвых не хадзілі. Заўтра скажуць, што ён звычаяў вясковых не трымаецца, зусім агарадзіўся. Ну, гарадскім стаў...

Адразу за лесам пацягнулася справа ад дарогі Крывая гара. За ёй, на захадзе, дзе толькі-толькі села сонца, яшчэ ўспыхвалі блікі святла, і ў гэтым мільготкім святле ўбачыў Стась, як па вяршыні гары, расплывіста акрэсленай на небасхіле, рухаліся ад Багушоўскага лесу да каранёўскіх могілкаў расплывістыя цені. Абрысы іх ледзьве ўгадваліся, і ўсё ж ён адразу пазнаў дзеда, бабу, бацьку, маці, Страхаў і Былінскіх, Рапацэвічаў і Стапулёў, Леановічаў і Стрыгаў, Забагонскіх, Камінскіх, Будаёў, Мадзвецкіх, Валюкоў, Шатуркаў і Бажкоў, дзядзьку Лявона і дзядзьку Петруся... "А ён тут чаго, калі не ў Каранях, а ў Смаргонях пахаваны?" – падумаў Стась, выскокваючы з машыны, каб пераняць хоць маці з бацькам, пакуль да могілкаў не дайшлі, пагаварыць з імі, бо ў Багушах не паспеў, Мацеем заняты. І ліст у яго Мацееў да Бога, можна з імі перадаць, якая яшчэ пошта да Бога ходзіць?..

Гара ў тым месцы, дзе ён спыніўся, была крутая, і пакуль ён падымаўся на вяршыню, дзе ляжаў Гаспадар-камень, які яшчэ ў паганскія часы быў закінуты сюды Перуном, нябожчыкі прайшлі амаль да Магерава поля, ад якога да могілкаў было ўжо рукой падаць. Рухаліся цені нібыта й не хутка, але як ні прыспешваў Стась хаду, не мог іх дагнаць. І раптам яму стала гэтак жа страшна, як тады, калі маці з бацькам памерлі, калі ён адчуў сябе сіратой, беспрытульным ва ўсім свеце, і ён закрычаў адчайна, на ўсе Карані, на ўвесь свет: "Мама! Мама! Ма!.." – чамусьці не чуючы свайго голасу. "Сынок... – азірнуўшыся, спынілася маці, – ты чаго крычыш? Табе баліць нешта?.." – і тады азірнуліся, спыніліся ўсе. Якраз пад старой грушынай на ўзгорку ў канцы Магерава поля, дзе Стась са стрыечнымі братамі яшчэ й дубкі пасадзіў, каб спачыць пад імі, калі час настане...

– Не, не баліць... – узяўся Стась, як у маленстве, рука ў руку з маці. – Сама ты як?.. Хоць здаровая? А то хварэла...

Маці засмяялася.

– Паправілася. Ды ў нас там, сынок, і хвароб такіх не бывае, ад якіх паміраюць.

– Там вечна жывуць?

– Як табе сказаць... Колькі каму ні жыць – мы ўсе паміраем заўтра.

– Гэта тут. А там?

– Так паўсюль, – сціснула ягоную руку маці. Моцна сціснула. – Але ты не бойся. Бо гэта не тое, чаго ты баішся.

– А чаго мне баяцца?

Яна адпусціла ягоную руку, па валасах пагладзіла:

– Нічога. Не бойся нічога.

– Апроч сябе самога, – не надта ласкава паглядзеў на яго бацька, які, вядома, пакрыўдзіўся, што Стась у Багушах з ім не пагаварыў. – Кажы ўжо, што табе? Калі спытаць хочаш, жывы ты ці мёртвы, дык мёртвых няма.

– Я ведаю... – пракаўтнуў праз сціснутае горла Стась, раптам адчуўшы, што не ведае, што сказаць...

Колькі разоў па смерці бацькоў ён вінаваціўся, дакараў сябе, што рэдка быў з імі, мала размаўляў, бо ўсё часу не ставала, і калі б вярнуць той час, хоць дзень, хоць хвіліну, якія б ён знайшоў словы, каб сказаць, як ён іх любіць, якія яны дарагія, як ён удзячны ім – і вось, калі ласка... Толькі сціснутае горла. Раней ён думаў, што, можа быць, на гэтым свеце нам сказаць адно аднаму няма чаго, бо перад намі, перад кожным – таямніца, невядомасць, наша вечная адсутнасць, пра якую мы й не можам нічога сказаць, якая паглынае ўсе размовы, як паглынае ўсё, што да яе набліжаецца ў космасе, чорная дзірка. А цяпер што выходзіць? Цяпер выходзіць, што не праз смерць, бо яе няма, мы адзін перад адным нямыя. Тады праз што?..

– Ёсць не жыццё і не смерць, – пацалавала яго маці. – Мы пакуль не ведаем, што гэта, толькі ведаем, што ёсць.

Жывыя не ведаюць, што пасля жыцця. Нябожчыкі не ведаюць, што пасля смерці. Хто-небудзь хоць што-небудзь хоць на гэтым, хоць на тым свеце ведае?

– Бог, – ціха сказаў дзед.

Ён быў бязгрэшным, дзед Ясь. Амаль святым. І Бог для яго быў адказам на ўсе пытанні.

– А ты з ім убачышся? – падышоў Стась да дзеда, які стомлена, нахадзіўшыся за дзень, сеў на лаву за дашчаны стол, пастаўлены Стасем з братамі тады ж, калі пасадзілі дубкі. – Мацей ліст яму напісаў.

Дзед узяў ліст і пацягнуў Стася за крысо пінжака: “Пасядзі са мной...”

Стась сеў, упёршыся нагамі ў жэрдку пад сталом, дзед абняў яго – і так Стасю стала ўтульна, хораша, як у дзяцінстве, калі яны сядалі вечарамі тут жа, на пагорку ў канцы поля, глядзелі, як над Каранямі цямнее, як усплывае над Кутняй вежай Каранёўскага замка малады месяц, і дзед распавядаў неверагодныя гісторыі, казкі пра замак і пра тых, хто ў ім жыў, легенды пра князёў і князёўнаў, волатаў і ваяроў... Можа быць, маленькі Стась заснуў і дасюль спіць, і нічога, што зараз адбываецца, напраўдзе няма, проста яму сніцца адна з тых казак, легендаў...

Найчасцей яму снілася легенда пра Маргера, якую дзед распавёў, калі Стась спытаў яго: “Дзед, а чаму нашы суседзі Былінскія і Стапулі, а мы – Магеры?..” Дзед павёў яго ў замак, яны селі на камяні каля Кутняй вежы, і Стась пачуў легенду пра старадаўнія часы, калі дзяржавай цяперашніх беларусаў было Вялікае Княства Літоўскае, на якое раз за разам нападалі з усходу то татары з маскавітамі, то з захаду крыжакі. У адзін з такіх нападаў Маргер, малодшы брат князя Гедыміна, бараніў замак у Піленах. Крыжакоў было дзесяць на аднаго, яны прабілі замкавыя сцены. Ніхто з ваяроў Маргера не здаўся ворагам, усе біліся насмерць. Калі Маргер застаўся адзін, ён, каб не дацца ў палон, забіў спачатку сваю прыгажуню жонку, Палуту, а пасля сябе. Але засталіся жывымі, перапраўленыя з Піленаў у Каранёўскі замак, два іх сыны, якія, стаўшы Магерамі, прадоўжылі род...

– А чаму яны сталі Магерамі? – пытаў маленькі Стась дзеда, які адказваў: “Каб іх крыжакі не знайшлі і не забілі, як Ірад дзяцей забіў”, – і Стасю такога адказу было дастаткова, хоць ён не ведаў тады, ні хто такі Ірад, ні чаму ён забіваў дзяцей.

– Ды слухай ты іх, абы ім казаць! – адмахваўся бацька, продкі якога,

рассыпаныя па волжскіх стэпах, былі невядома кім, і ён ніводнага разу нават мезенцам не зварухнуў, каб што-небудзь пра іх дазнацца. – Княжычы яны! Блакітная кроў! Ды быў нейкі мужык, які магеркі шыў – і стаў Магерам. Як каваль Кавалём. Вось і ўвесь радавод. І не задурвай ты сабе гэтым галаву, а то мазгі скрэнціш.

Так, былі ў Каранях Магеры, якія шылі магеркі. Круглыя, лямцавыя шапкі, падобныя да капелюшоў без палёў. Але ў іх сям'і ніхто магеркі не шыў. І Стась думаў, што бацька сам хацеў быць пачынальнікам новага каранёўскага роду, таму і чуць не хацеў нічога пра Маргера.

Стась мацней прытуліўся да дзеда, які дасюль пах саламяным пылам, што курыўся ў пуні, калі яны наразалі сечку. Паглядзеўшы на іх, прыселі ўсе – хто да стала, хто пад грушай, хто пад дубкамі. На небе ўжо высыпалі зоркі: злева, над Былінскімі, нахіліўся Вялікі Воз, справа, над Стапулямі, зіхцелі Касцы. Пад велічным небам паміж белымі, фасфарычнымі ў зоркавым святле царквой і касцёлам дыміліся комінамі, мігцелі агеньчыкамі ў вокнах Карані...

Пасядзелі моўчкі, гледзячы на тое, што было іх жыццём.

– До, – уздыхнуў дзед. – Пабылі. – І ўжо ўсе падымацца пачалі, калі дзядзька Лявон спытаў:

– А пра што Мацей піша? Што просіць у Бога?..

Прызнацца, што чужы ліст чытаў, было няёмка, і Стась хацеў зманіць, нібы не ведае, што там напісана, але зманіць не паспеў, бо дзед сказаў:

– Нічога не просіць. У грахах каецца. З Багушоўскага лесу дзве сасны ўкраў на бёрны.

– Дык з нашага боку ўкраў, – тут жа ўставіў дзядзька Пятрусь. – З каранёўскага. Каб са свайго, дык...

– Дык, дык! Што ты раздыкаўся, як індык?.. – абрэзаў жарты дзед. – Ён чаму ўкраў? Бо хата ў яго згарэла. І ён раскідаў свіран, каб хату скласці. Свіран малы быў, бёрнаў не хапіла. Папрасіў у калгасе. А калгас даў? Не даў. Калгас сказаў: купі. А за што купіць? За што яму купіць было, калі ён працаваў у калгасе, які яму не плаціў. Нічога, ні капейчыны. Толькі працадні маляваў. Во на такой, – паклаў дзед Мацееў трохкутнік перад бацькам, – паперы ў клетачку. Ты думаеш, Пракоп, ён дарма на такой паперы пісьмо Богу напісаў?..

Стасеў бацька, які ў той час, калі Мацеева хата згарэла, у Каранях старшынём сельсавета быў, паглядзеў спачатку на дзеда, потым на ўсіх: ну, вы бачыце, што стары вырабляе?

– Ты чаго мне гэта падсоўваеш? – адкінуў ён пісьмо Мацея. – Мацей не ў Каранёўскім калгасе працаваў.

Дзед узяў ліст, паклаў перад сабой.

– Я працаваў у Каранёўскім. Гарбеў. З відна да цямна. Мне плацілі? Петрусю?.. Лявону?..

Бацька на гэта нічога не сказаў, бо сказаць не было чаго, а дзядзька Лявон яго абараніў:

– Дзякуй Богу, што яму, як старшыні, хоць нешта плацілі. Каб не, дык мы й не выжылі б.

Стасевага бацьку прыслалі пасля вайны ў Карані, каб сабраць каранёўцаў у калгас. А калгас, аказалася, гэта аддай сваё, а табе ўзамен – нічога. І стала ў вёсцы галадней, чым у вайну. Праз тое па бацьку й стралялі ў Багушоўскім лесе. І яшчэ, мусібыць, праз тое, што рускі. Але стралялі да таго, як ён са

Стасевай маці пабраўся. Калі пабраўся, калі сын нарадзіўся, якога бацька запісаў не рускім, а беларусам, не стралялі. Сваім не назвалі, але й чужым не лічылі. Ён не выслужваўся, не лютаваў: больш, чым ад яго патрабавалі, не патрабаваў. Нават бараніў, выкруціцца дапамагаў, калі ўсялякія інспектары, падаткоўцы надта ціснулі. І ўрэшце каранёўцы прызналі яго справядлівым. А калі ты справядлівы – гэта больш, чым калі ты хоць беларус, хоць рускі, хоць паляк, хоць немец... Хоць жывы, хоць нябожчык.

– Яшчэ адзін грэх, – нахіліўся над Мацеевым лістом дзед. – Не вярнуў Казіміру Страху тры рублі. Яно як было? Мацей адклаў тры рублі, каб вярнуць, а Вяргіня іх у яго выцягнула. Дзе ўзяць? Зарабіць ён мог толькі на мёдзе. І пакуль выгнаў, на кірмаш завёз і прадаў той мёд, Казіміра не стала. Дык чый гэта грэх?

– Казіміраў, – рагатнуў дзядзька Пятрусь. – Бо памёр.

Дзед Ясь, не вытрываўшы, даў яму шчаўбана:

– Парагачы! А то ты жывы.

– Як усе... – пакрыўджана ўстаў з-за стала дзядзька Пятрусь. – Пара мне. Чым мог памог – і за парог. Пакуль да Смаргоняў дайду...

Дзед спыніў яго:

– Паспееш!.. Трэці грэх і апошні... Пажадаў Мацей, каб Вяргіні, старой жонкі ягонай не стала. Каб з маладой, з Палутай жыць... Хацеў аслабіць цвікі на верхняй папярэчыне драбіны. Не аслабіў, але хацеў... Пажадаў смерці... І Вяргіня зрынулася і забілася.

Над сталом, над грушай, над Вялікім Возам з боку поля Былінскіх навісла маўчанне.

“Вось пра што яны маўчаць? – думаў Стась. – Яны ж не вар’яты, як Палута, каб не разумець, што пажадаць нечага – не тое самае, што гэта зрабіць. Калі тое самае, дык для чаго Богу рай? Даглядаць там сад, змея карміць. Мог з’эканоміць, абысціся пеклам. Бо няма ў свеце чалавека, які не пажадаў бы чагосьці такога, што грэх. І праведны не той, хто, як дзіця, пра грэх не ведае, ці не здольны саграшыць. Еўнух хіба праведнік?.. Праведны той, хто мог саграшыць, хто зведаў спакусу, але не паддаўся ёй, пераступіў цераз яе...”

– Што пастанаўляем? – парушыў маўчанне дзед. – Грэх? Не грэх? Ці на разгляд Бога?

Дзядзька Лявон на лаве пакруціўся, як нешта яму муліла.

– Лепш на разгляд. Бо калі грэх, дык Палута крык усчыне. Не грэх, дык Вяргіня. Мне і так, і гэтак як сакратару нявыкрутка.

Жанчын дзядзька Лявон заўсёды пабойваўся, але ніколі на гэтым свеце ніякім сакратаром ён не быў. А на тым свеце стаў?

– Стаў ён сакратаром. У нацаддзеле. І яшчэ цэнзарам, – падміргнуўшы Стасю, кіўнуў у бок брата дзядзька Пятрусь. – Без ягонай візы – да Бога нічога.

Пра цэнзуру Стась зразумеў, а вось пра нацаддзел – не.

– У якім нацаддзеле?

– Беларускім. Якім яшчэ? Там у нас ведаеш як у беларусы ўсе шчэмяцца! І рускія, і палякі... Прывілея ў Бога для беларусаў. Таму кантроль такі, што абы-хто не праскоча. Мала, каб ты дакумент беларускі меў. Трэба, каб душу.

– А як распазнаць? – не мог не спытаць, бо яно само па сабе спыталася, Стась, і дзядзька Пятрусь уздыхнуў:

– Вось гэта самае цяжкае. Што там, што тут...

Ён пры жыцці жартаўнік быў, дзядзька Пятрусь, і Стась глянуў на дзеда, на маці, на бацьку, ці не ўсміхаюцца, але яны выглядалі сур'ёзнымі.

– Добра, – пасунуўся ён да дзядзькі Лявона, які не быў такім балаболам, як ягоны брат. – Неяк распазналі. Але чаму прывілея? За што?

Сакратар нацаддзелу плячыма пацепнуў:

– Не ведаю. Пра гэта Бог не кажа. Калі на зямлі ты беларусам быў, дык на небе ты чалавек. І прывілея табе.

– Рай?

– Не. Прывілея.

– Якая?

– Такая... – пакруціў рукамі, нібы гарбуз у іх трымаў, дзядзька Лявон. – Беларусы ж ніколі не ведаюць, чаго яны хочуць... Дык Бог прыдумаў для іх не рай і не пекла, а... Ну, прывілею такую...

– Круглую?

– Можна сказаць, што круглую. А можна, што квадратную. Сам некалі ўбачыш, калі заслужыш.

Што гэта за прывілея, пра якую нават сказаць нельга, якая яна?

– А калі не ўбачу? Не заслужу?

Дзядзька Пятрусь на яго вылупіўся.

– Як гэта?.. – І павярнуўся да ўсіх. – Вы чулі? У яго дзядзька ў Боскай канцылярыі, а ён прывілеі не заслужыць!

Усе зрабілі такі выгляд: ну, маўляў, што з яго ўзяць?

Жартаўнікі...

“Усе беларусы абраныя”, – успомніў Стась Палуту каля труны Мацея, а дзядзька Лявон, так і не растлумачыўшы, якая там прывілея ў Бога для беларусаў кругла-квадратная, падняўся: “Дык што вырашаем з Мацеем? На разгляд?..” – і тут з бліндажа за Магеравым полем, збудаваным немцамі яшчэ ў Першую сусветную, затахкаў кулямёт. Адна чарга, другая, а пасля: ба-бах, бух, бах, ба-бу-бух...

– Дзве чаргі, сем лімонак, – палічыў дзядзька Пятрусь. – Во Маргер дае! Па кім гэта ён?

– Па немцах з брацкай магілы, – сказаў Стасеў бацька, які ні з кім, апроч немцаў, не ваяваў, а дзядзька Лявон, які не ваяваў з немцамі, пакруціў галавой: “Не, ён далей кідаў. Па рускіх...”

– Ды па паляках ён, што на каталіцкіх могілках! – узбег на пагорак дзядзька Пятрусь. – Гэта вам хочацца, каб па немцах ці рускіх... Не хочаце, каб па паляках. Самі ў палякі хочаце. А хто ў вайну бацюшку забіў? І дачку ягоную з пляменніцай, што настаўніцамі былі? Немцы?.. Рускія?..

– Ох, Божухна... – уздыхнула і перахрысцілася пабуджаная стралянінай баба Алімпа, якая датуль ціха спачывала пад бліжнім дубком. – Які бацюшка быў... А дачушка якая разумніца... Усё казала: “Мы й літоўцаў з палякамі па-беларуску навучым...” Навучыла, бедная...

Яна змоўкла – і ўсе маўчалі.

Шмат у каго з каранёўцаў жылі ў Польшчы сваякі. Добра жылі, радні ў Каранях дапамагалі, таму на ўспаміны пра тое, што было ў час вайны, каранёўцаў не цягнула. Ну, каб у польскіх сваякоў у Варшаве ці Кракаве не спыталіся: “А што гэта ваша радня ў Каранях пра нас выдумляе? Можа, мы вышлем вас да іх – і выдумляйце там разам, што хочаце”.

Але маўчалі каранёўцы не праз тое, што яны выдумлялі...

На другім годзе Другой сусветнай вайны немцы, якія будавалі ў Каранях бліндажы яшчэ ў час Першай сусветнай, вырашылі нарэшце дазнацца, хто ж тут жыве? Прыслалі камісію, якая пастанавіла, што жывуць тут беларусы. “Sehr gut!”, – сказалі немцы і далучылі Карані да генеральнай акругі Літвы, бо да Вільні было бліжэй, чым да Менску – і дарога лепшая.

Літоўцы паставілі ў Каранях паліцэйскі гарнізон і сказалі, што тут Літва. І каб давесці гэта, не прыдумалі нічога лепшага, як “ахрысціць” у ледзяной вадзе і забіць трох каранёўцаў. Бацьку з двума сынамі. А ўслед за літоўцамі ў Багушоўскім лесе з’явіўся атрад Арміі краёвай. Палякі, якія сказалі, што тут Польшча. І каб давесці гэта, не прыдумалі нічога лепшага, як расстраляць крэўскага бацюшку з дачкой і пляменніцай, якія ў беларускай школцы вучылі каранёўскіх дзяцей беларускай мове.

– Не трэба помніць толькі кепскае, – зноў заёрзаў на лаве дзядзька Лявон, які ўсё жыццё марыў перабрацца ў Польшчу, у Варшаву, дзе жыў яшчэ адзін Стасеў дзядзька, Мікола. – Трэба помніць добрае. Калі помніць толькі кепскае, ніколі не скончацца войны.

– А што добрае?.. – уперыўся ў брата дзядзька Пятрусь. – Што ты добрае можаш успомніць? Хоць за польскім часам, хоць за нямецкім, хоць за савецкім, хоць за якім?

Дзядзька Лявон задумаўся – і было відаць па ім, што калі нешта добрае за нейкім часам ён і згадае, дык не ў гэты час. Але ўсе глядзелі на яго, чакаючы, узнікла паўза, і Стась змог нарэшце спытаць:

– Хто гэта страляў?..

– Маргер, – махнуў рукой у бок бліндажа дзядзька Пятрусь, спускаючыся з пагорка, на якім узнік раптам нехта ў вайсковай форме. Месячнае святло бліснула на брылі канфедэраткі, на пагонах, гузіках, на хромавых ботах. Разумеючы, што выглядае эфектна, вайсковец пакруціўся, даючы магчымасць палюбавацца сабой, і толькі тады спытаў, спускаючыся і сцягваючы з рук скураныя, на якіх таксама паблісквала месячнае святло, пальчаткі:

– Вы зброю сабралі? Маргер чакае.

Гэта быў дзядзька Мікола, якога Стась адразу пазнаў, хоць у Каранях яго ўбачыць ніяк не чакаў, бо той памёр у Варшаве, жывым у Карані толькі аднойчы прыехаўшы, калі баба Алімпа, маці ягоная памерла, а ўжо калі дзед Ясь, бацька ягоны памёр, не прыязджаў. Дык калі не глянулася яму ў Каранях жывому, чаго мёртвы прымаршыраваў? Пры пагонах і ў ботах хромавых...

Не павітаўшыся, нават не кіўнуўшы Стасю, дзядзька Мікола павярнуўся, хутка пакрочыў зноў на пагорак, і ўсе паўскоквалі, замітусіліся, пабеглі за ім, толькі дзед не ўскочыў і не пабег, а, схаваўшы ў кішэнь Мацееў ліст, спакойна падняўся – ён усё і заўсёды рабіў спакойна:

– Стась, вазьмі дзіду пад сталом.

Стась нахіліўся, падняў жэрдку з-пад ног і толькі цяпер убачыў, што гэта не жэрдка, а дзіда, ачышчаны ад іржы наканечнік якой быў насаджаны на свежае, нядаўна абдзёртае ад кары дрэўка. “Для чаго яна табе, дзед?..” – хацеў спытаць Стась, падняўшы дзіду, але як толькі ўзяў яе ў руку, пытанне адразу падалося лішнім, бо ён адчуў у руцэ зброю, якая заўсёды была для аднаго: каб біцца з ворагам. Ён стаў побач з дзедам і ўбачыў, што не толькі на Крывой, але й на Юр’евай, і на Вялесавай, і на Літвінавай, і на Перуновай гары, і на ўсіх каранёўскіх гарах і пагорках

рассыпаныя цені продкаў, якія колькі жылі на гэтай зямлі, столькі біліся з тымі, хто прыходзіў, каб зямлю гэтую ў іх забраць: маўляў, не ваша. А чыя? Чыя, калі чарапоў, костак дзядоў і прадзедаў у гэтай зямлі больш, чым камянёў? Чыя яна, калі не выбраць з яе, колькі ні выбірай, дзідаў і стрэлаў, мечаў і шабляў, стрэльбаў і патронаў, што пазаставаліся пасля варожых нашэсцяў... Іх і збіралі каранёўскія нябожчыкі, гатовыя і па смерці бараніць свой край.

– Не проста ж так хадзілі ў Багушы, вунь назбіралі колькі... – сказаў дзед, калі яны ўслед за дзядзькам Петрусём, які нічога не нёс, ішоў ды пасвістваў, увайшлі ў бліндаж, па кутах якога акуратна былі складзеныя дзіды, шаблі, стрэльбы, а каля амбразуры нерухома стаяў спінай да іх і ўзіраўся ў ноч вялізны чалавек у чорнай скуранцы і шэрай магерцы. – Хутка новая навала, а на жывых гэтым разам слабая надзея. Праўду сказаў Мацей: як несапраўдныя беларусы сталі, як падробныя. Дык вось Маргер сабраў нас... – нахіліўся дзед над скрыняй каля сцяны – і раптам крыкнуў раззлавана. – Пятрусь! Ты зноў палякам гранаты прадаў?

– Якім палякам? – азваўся з цемры ў куце, да якога не даставала святло ліхтара, падвешанага ля ўваходу, дзядзька Пятрусь. – Нашы людзі, мала што да касцёлу ходзяць. Ці ў іх гранаты, ці ў нас – кідаць у адзін бок будзем.

– У які адзін?.. – увайшоў у бліндаж бацька з карабінам і гранатай, падобнай да лімона, праз што яе й называлі лімонкай. – У рускі? Раскідаўся...

Як на гэтым свеце бацька з дзядзькам Петрусём то сябравалі, то вадзіліся, так, падобна, і на тым... Ад змены светаў нічога ў людзях не мяняецца.

– З якога боку папруць, у той і кідаць будзем, – узяў у бацькі “лімон” і паклаў у скрыню дзядзька Пятрусь. – З рускага, дык у рускі, з польскага, дык у польскі... А палякам гранаты я прадаў без запалаў. Сам, калі яшчэ малы быў, запалы павымаў і тол выплавіў. Таму й аддаў нядорага: па злотаму за лімон.

Дзядзька Пятрусь усё жыццё сябе хітрым лічыў, а памёр з пустым кашалём. Стась любіў яго за вясёлы характар і спытаў, засмяяўшыся:

– Нашто табе злотыя? Тут жа не Польшча.

– Сёння не, – дастаў дзядзька манету з кішэні. – Але і ў Багушах не Расія. А Мацей тры рублі прыхаваў. І не сённяшніх, савецкіх, – падкінуў ён, крутнуўшы, злоты. – Мацей далёка глядзіць. А хто далёка глядзіць, той блізка знаходзіць, – зацiснуў ён злоты ў далані. – Арол ці рэшка?

Выйграць у яго ў гэтую гульню было немагчыма. Ён за жыццё сваё налаўчыўся так лавіць манету і заціскаць яе між падушачкамі вялікага і сярэдняга пальцаў, што яна стаяла ў далані на гурце. І калі супернік гадаў на арла – дзядзька клаў манету на рэшку. Як ён скурай распазнаваў, дзе арол, дзе рэшка, хто яго ведае, але заўсёды выйграваў. “Арол”, – сказаў Стась, наперад ведаючы, што будзе рэшка, а дзядзька раскрыў далонь: “Бачыш, угадаў”. І падміргнуў, аддаючы злоты: “Глядзіш далёка”.

– Далей, чым Мацей, – раптам з’явіўся, бліснуўшы пагонамі пад ліхтаром, дзядзька Мікола, цягнучы на пару з дзядзькам Лявонам скрыню снарадаў. – Польшча тут яшчэ можа быць, а Саветы наўрад ці.

Яны паставілі скрыню да сцяны, дзядзька Лявон сеў на яе і спытаў, аддыхаўшыся:

– А чаму гэта?..

– Што чаму? – падсунуў яго і сеў побач дзядзька Мікола.

– Чаму Польшча – можа, а Саветы – не?

– Бо Польшча ёсць. Дык і быць можа. А Саветаў няма. Дык як яны могуць быць?

– У Бога ўсё бывае, – перахрысціўся дзед. – І дадаў, памаўчаўшы. – У вечнасці.

– Гэта тэорыя, – сказаў дзядзька Пятрусь, які ніколі не хрысціўся. – А практыка такая, што вы абодва седзіцё на скрыні рускіх снарадаў. І калі яны бабахнуць, дык будзе што заўгодна, толькі не Польшча.

Дзядзька Мікола ўстаў, пакруціў у скрыні снарад, паглядзеў насечку на гільзе.

– Нямецкія снарады. Лімонкі твае – рускія, хоць іх французы прыдумалі, а нашы снарады – нямецкія.

Дзядзька Пятрусь дастаў яшчэ адзін злоты, падкінуў яго.

– Без розніцы. Калі нямецкія бабахнуць, усё адно будзе што заўгодна, толькі не Польшча. Ну?.. Арол ці рэшка? Польшча ці Расія?

– Ты круцель, – сказаў дзядзька Мікола. – Якія з круцялём гульні?.. – І ўсё ж махнуў рукой, ведаючы, што брат не адчэпіцца. – Арол.

– Рэшка! Я ў цябе выйграў Польшчу!..

Адносіны паміж братамі былі не простыя. Калі скончылася вайна і ў Карані прыйшлі Саветы, сталі разбірацца, хто тут беларус, а хто паляк?.. Ну, як разбіраліся: выклікалі і пыталі: ты хто? Той, хто хадзіў да царквы, казаў, што беларус, хто да касцёлу – што паляк. І ўсе ў дзедавай сям'і назваліся беларусамі, апроч дзядзькі Міколы, які хоць і да царквы хадзіў, а назваўся палякам. Бацька папругай яго: "Схадзі пераназавіся!" – а ён сабраў манаткі – і прочкі з хаткі. Прыехаў «Студэбэкер», вайсковы грузавік, на які пагрузілі "палякаў" і павезлі ў Польшчу. Пры выездзе з вёскі грузавік заграз, яго цягнулі трактарам. Пятрусь з Лявонам беглі за машынай: "Мікола, ты куды? Злазь, дурань!.." – а Мікола скакаў у кузаве: "Яшчэ пабачым, хто дурны!" – і паказваў рожкі.

Дзядзька Мікола скончыў у Варшаве афіцэрскую вучэльню і памёр палкоўнікам войска польскага. І хоць быў старэйшым сынам у сям'і, але, паколькі службу меў лёгкую, перажыў і сястру, і братоў, адзін з якіх упіраўся ўсё жыццё на грузавіку, а другі – на трактары.

– Польшчу шмат хто выйграваў, – сказаў польскі палкоўнік беларускаму трактарысту. – Толькі нікому яна не дасталася. У адрозненне ад Беларусі, якая ўсім...

– Каму ўсім? Што ўсім?.. – штурхнуў яго дзядька Пятрусь. – Ты гавары, ды не загаворвайся!

Дзядзька Мікола адступіў пакрыўджана да Стася, з якім так пакуль і не павітаўся, бо, мусібыць, помніў, як аднойчы працягнуў пляменніку руку, а той яе не паціснуў.

Цяпер, вядома, усё змянілася, руку можна й паціснуць. Але памяць засталася. Усё змянілася, апроч памяці. І апроч, бадай, самога дзядзькі Міколы, які й выглядаў амаль гэтак жа, як у свой апошні прыезд з Варшавы ў Карані, і казаў амаль тое самае.

– Вось яны крыўдуюць на мяне, што я скочыў тады ў «Студэбэкер» і паехаў. А хто ім не даваў?

– Каму ім?

– Дзеду. Дядзькам тваім. Пасля зайздросцілі. "Прыдумай што-небудзь,

каб і нам адсюль выбрацца!” А што я прыдумаю? «Студэбэкер» прыходзіць толькі аднойчы.

– Ды пайшоў ты са сваім «Студэбэкерам»! – узвіўся дзядзька Пятрусь. Пазайздросцілі мы яму! Хто каму? Калі гэтак добра там, чаму ты тут? Га?

– Мёртвым і тут добра. І сваіх болей, – сказаў дзядзька Мікола, а дзед, які рады быў убачыць старэйшага сына хоць па смерці, хвоснуў дзядзьку Петруся дубцом, зламаным, калі да бліндажа па пагорку падымаліся: “Не чапляйся да яго!”

– Сваіх яму болей... – прабурчаў, пасунуўшыся на скрыні, дзядзька Лявон. – Жывыя – чужыя, а мёртвыя – свае.

Дзядзька Мікола не стаў з ім спрачацца. Сеў побач: “Так ва ўсім свеце, Лявоне. Свае – толькі мёртвыя”.

“Можа быць...” – падумаў Стась, якому здалося, што так падумаў кожны, бо ўсе так глядзелі адзін на аднаго – і тут Стасеў бацька, які не любіў дзядзьку Міколу ўжо за тое, што той нідзе не ваяваў і стаў палкоўнікам, не стрываў.

– Дык чаму ты свайго мёртвага, бацьку свайго роднага пахаваць не прыехаў? Бо польскаму палкоўніку ў беларускай хаце смярдзіць?..

Гэта была тэма, непрыемная для ўсіх, як для жывых, гэтак і для мёртвых, таму ўзнікла няёмкая паўза, у якую дзядзька Лявон, самы мяккі з усёй сям’і па характары, сказаў ціха: “Ды кінь ты, Пракоп...” – і бацька махнуў рукой: “Кінь, кінь... Абы вам казаць... У рускі бок яны кідаць будуць...”

Стась і сам злаваў на дзядзьку Міколу, што той на пахаванне дзеда Яся не прыехаў. Моцна злаваў, помнячы, як польскі дзядзька, прыехаўшы развітацца са сваёй маці, увайшоў у хату, у якой вырас, удыхнуў паветра з пахамі параных буракоў ды бульбы, дастаў белую насоўку і прыкрыў нос. Так і каля труны стаяў... Потым выскачыў на падворак, дзе дзядзька Лявон дровы сек, каб паранка дакіпела, бо ці жывыя ў хаце, ці нябожчыкі, а скаціну ўсё адно карміць трэба: “Як можна так жыць?..”

“А так, як жывем!” – увагнаў дзядзька Лявон сякеру ў калоду, і Стасю здалося, што каб дзядзька Мікола ляжаў галавой на калодзе, застаўся б без галавы. Нібы ўсё жыццё сваё ўвагнаў дзядзька Лявон у калоду – такім яго Стась ні раней, ні пазней не бачыў... Вось тады, калі бабу Алімпу пахавалі, калі справілі хаўтуры, і дзядзька Мікола, сабраўшыся ў дарогу, падаў руку – Стась руку яму не паціснуў.

Потым ён думаў, што дзядзька другім разам праз тое і не прыехаў. Не таму, што Стась руку не паціснуў, а каб не нюхаць, нос не затыкаць... І яшчэ больш Стася злосць разбірала. Доўга. Пакуль дзядзька Мікола, ужо адчуваючы, што хутка яму з гэтага свету на той перабірацца, не запрасіў яго ў Варшаву. І распавёў, чаму не быў на пахаванні бацькі.

Калі ён вяртаўся з пахавання маці, савецкія памежнікі завялі яго ў пакой для ператрусаў і сказалі, што ведаюць пра золата, якое ён вязе з Каранёў. Дык вось золата належыць дзяржаве – і будзе лепш, калі ён сам яго дзяржаве верне. Інакш будзе горш. “Я б ім аддаў, калі б яно было, бо разумеў, што не адчэпяцца, але што аддаваць? Зняў пярсцёнак шлюбны: наце... І яны забралі пярсцёнак! Разумееш: забралі маё ў свой калгас! У якім я не запісаны! А пасля змусілі распрануцца. Дагала. Загадалі стаць на стол. Ракам. Паклікалі кабету, разумееш, наўмысна кабету паклікалі, каб яшчэ болей мяне прынізіць, і тая пытае: “Ну цо ў пана ў дупе?” – і палку мне ў дупу! Золата я там схаваў! Уяўляеш? Мяне, польскага афіцэра,

ракам – і палку ў сраку!.. І пасля гэтага мне зноў сюды ехаць? Ды ні за што! Хоць бацька памры, хоць сястра, хоць браты, хоць усе вы тут сканайце і самі сябе пахавайце, калі на такое жыццё згодныя!..”

“Чаму ты раней пра гэта не распавёў?” – спытаў Стась, і дзядзька Мікола паглядзеў на яго, як здалося, з жалем. “Ты ўсё ж, мусібыць, мяне не зразумеў. Ёсць такія рэчы, як гонар, і такія, як сорам”. “Зразумеў, – сказаў Стась. – Але на пахаванне бацькі ўсё адно прыехаў бы”.

Цяпер ён глядзеў на дзядзьку і думаў: “А, можа, і не...” Толькі што толку нешта перадумваць пасля таго, як ты памёр? Хаця... Вунь той жа Мацей многае, калі памёр, перадумаў.

– Ну што, до на сёння? – падышоў дзед да велікана ў чорнай скуранцы, які так і стаяў, нерухома гледзячы ў амбразуру, нібы чакаючы, падсцерагаючы некага з таго боку, у які глядзеў. – Пара нам. Ты з намі?

Вялізны чалавек коратка крутнуў галавой: “Не”.

– Не дык не. А мы пойдзем. Петрусю яшчэ да Смаргоняў дабірацца, Міколу да Варшавы...

– Па хатах?.. – спытаў нехта зверху голасам Стася, толькі гусцейшым, басам, і Стась не адразу ўцяміў, што гэта Маргер, павярнуўшыся, прабасіў. – А хто ваяваць будзе? Айчыну бараніць?

У першае імгненне Стасю нават здалося, што гэта сам ён спытаў, што гэта ў яго так голас загусцеў праз тое, што ён сёння разбіўся насмерць. Тым больш, што зірнуўшы на чалавека ў чорнай скуранцы і шэрай магерцы з чырвоным пярэплеткам у выглядзе літары “М”, ён зірнуў нібы ў павелічальнае люстэрка, у якое глядзеў звычайна, калі галіўся – так Стась да Маргера, ці Маргер да яго быў падобны, толькі разы ў паўтары большы.

– Глядзіце... – паставіў Маргер скрыню з гранатамі на скрыню снарадаў і разгарнуў мапу. – Чырвоныя стрэлы – гэта рускія. Сінія – немцы. Зялёныя – палякі. Жоўтыя – літоўцы. І ўсе – на нас! Бачыце?.. З усіх бакоў... Абарону займаем вось па гэтай зубчастай лініі. Гэта наша зямля. Можа, некалі была нечая, але цяпер – наша. Стаім насмерць.

Голас, якім гэта было сказана, не дапускаў сумневу, што ўсім тут стаяць насмерць, і дзядзька Пятрусь, які ні з кім ніколі не ваяваў, пачухаў патыліцу: “Дык мы й так нібыта...” – а Стась спытаў ва ўсіх:

– У вас хіба на тым... на вашым свеце таксама войны?.. – І ўбачыўшы, што пытанне як бы павісла ў паветры, ніхто не спяшае адказваць, дадаў разгублена. – Ну, які толк ваяваць, калі нікога не заб’еш, бо ўсе ўжо забітыя... Ці самі памерлі...

Маргер склаў мапу.

– Свет адзін. Ты яшчэ не зразумеў?.. – І павярнуўся да амбразуры. – А дзе Мацей? Нешта я ні па той, ні па гэты бок яго не бачу.

– На нейтралцы Мацей, – пстрыкнуў пальцамі дзядзька Пятрусь. – Не прайшоў мяжу, з адным грахом ягоным не разабраліся.

– Якім?

– Апошнім, – дастаў дзед Ясь Мацееў ліст з кішэні. – Спрадвечным грахом беларуса, які падумаў пра тое, чаго хацеў, а як толькі падуманае здзейснілася, адразу спалохаўся і перадумаў.

– Як заўсёды, – сказаў Маргер. – І што цяпер?

– На суд Госпада нашага. Няхай вырашае.

Маргер паківаў.

– Таксама як заўсёды. За нас нехта ўсё вырашае, самі лёс свой дасюль вырашыць не можам.

Ён узяў пісьмо, падышоў да ліхтара, прачытаў... Вярнуў ліст дзеду, які спытаў:

– Што скажаш?

– Нічога. Што мне пра чужое сказаць, калі пра сваё не ведаю?.. Вось я не хацеў забіваць Палуту, а забіў. Каб яе, жонку, маці маіх дзяцей, не пакідаць на гвалт. Які гэта грэх: вольны, нявольны?

“Нішто сабе параўнаў! – падумалася Стасю, і ён паспрабаваў зазірнуць Маргеру ў вочы, колеру якіх пры святле ліхтара не разгледзець было, але разрэз іх быў гэткі самы, як у дзеда, Стасевай маці і самога Стася, і ён спытаў:

– Скажы, Маргер... а Бог табе дараваў?

Маргер напружыўся ўвесь – аж скуранка на ім рыпнула. Кіўнуў:

– Так. Палута папрасіла. Яна святая.

– Тады няхай і за Мацея папросіць, – прапанаваў Стасеў бацька, які доўга маўчаў, думаючы нешта сваё, рускае, і коса пазіраючы то на дзядзьку Міколу, які стаў палякам, то на Маргера, які стаў беларусам, хоць ніякіх беларусаў у ягоныя часы не было. – Калі святая.

Дзядзька Пятрусь рукі ўскінуў:

– Ды якая святая!.. Двухмужняя! За Мацея пайшла, з Маргерам не развёўшыся! І святая? Я пагавару яшчэ з Богам!

Стасеў бацька зірнуў на яго насмешліва.

– Ага. Пагавары. Толькі цябе Ён і чакае.

Да Стася пачало паціху даходзіць тое, што сказаў дзядзька Пятрусь.

– Чакайце... Палута з Багушоў – жонка Маргера? Як гэта?..

– Душа ў ёй тая ж. Вечная душа, – схаваў дзед у кішэню ліст Мацея. – Вось Мацей і напісаў Богу, пра душу паклапаціўся.

– Адкупіўся! – не мог тут стрываць і не стрываў дзядзька Пятрусь. – Заплаціў Богу тры рублі! Па рублю за грэх.

Дзед перахрысціўся:

– Ты, Пятрук, дагаворышся...

Стась раптам падумаў, што ліст Мацея можна і так зразумець. Калі захацець.

Людзі ўвогуле не жадаюць бачыць у іншых нічога, апроч таго, што жадаюць бачыць. І бачыцца ім па жаданні іх найчасцей брыдкае ў бліжніх сваіх. За рэдкімі выключэннямі. Ну, калі матка глядзіць на сваё дзіцятка.

Так Ганя на Стася глядзела. Так некалі цар Пігмаліён, ствараючы жанчыну такой, якой хацеў яе бачыць, глядзеў на Галатэю. А ў выпадку з Ганяй амбіцый было нават болей: Галатэя стварала Пігмаліёна, які потым мроіўся ёй царом. Ствральнікам новага свету, ледзь не Богам. Але ствараць свет ён зноў жа мусіў не такім, якім сам жадаў, а такім, якім жадала бачыць свет Галатэя.

Стась працівіўся. Не таму, што Ганя хацела нечага кепскага, не. Яна хацела добрага. Найлепшага. Але не таго, чаго хацеў ён. І так настойліва, так дакучліва, так апантана яна прагнула свайго, што ў ім стала нарастаць жаданне, каб яна ад яго адчапілася. Пакінула яго. Ён так часта ўяўляў, як яна аднойчы пойдзе з дому і не вернецца, што гэтае жаданне выцесніла ўсе астатнія. Яна адчула гэта, жанчына не можа не адчуць такое. Плакала, упадала ў істэрыкі, кідалася біцца, раздзірала скуру на ім: “Што ты пад

ёй хаваеш?!. Што з табой?!. Дзе ты падзеўся?!.” І раптам супакоілася. Сціхла. Зусім.

Аднойчы пайшла і не вярнулася. Сястра яе патэлефанавала: “Ганя прасіла сказаць, што вы для яе памерлі”.

Можа, ён таму і памёр?..

Ці не памёр? Можа быць, гэта і ёсць нешта такое, пра што маці казала? Не жыццё і не смерць. Але як тады жыць?

– Як усе, – пляснуў Стася па плячы дзядзька Лявон, сакратар Боскай канцылярыі. – Глядзі, як усе жывуць, і сам так жыві. Па-іншаму не выходзіць. – І рушыў да выхаду. – Пара. Днець хутка пачне.

Маргер лёгка, як пустую, падхапіў скрыню з лімонкамі, паставіў да сцяны і спытаў услед сакратару Боскай канцылярыі:

– А калі ўсе не так жывуць?..

Дзядзька Лявон, затаптаўшыся каля выхада, хацеў нешта сказаць, але дзядзька Пятрусь яго апярэдзіў:

– Мне пры жыцці галаву гэтым затлумілі! Так, не так!.. А тут яшчэ й па смерці дураць! – І ён раскінуў рукі ўшыркі. – Ну як яно можа быць, каб усе не так жылі?

– Праўда што, – падняў руку, нібы галасуючы за нешта, дзядзька Мікола, і дзядзька Лявон каля выхаду руку падняў, і Стасеў бацька відавочна быў не на баку Маргера, і Стась, які сам не ведаў, як ён жыве, так ці не так, падумаў, што такога, каб усе не так жылі, быць не можа, і толькі дзед Ясь сказаў ціха:

– Можа быць. Калі без Бога жыць.

Маргер узняў абедзве рукі:

– А што такое жыць з Богам ці без Бога? Гэта верыць ці не верыць? Маліцца ці не маліцца? Грашыць ці не грашыць? Што?.. – склаў ён рукі на грудзях. – Вось я забіў. Спачатку яе, каб яна не бачыла, як дзяцей... Але ж яна ведала, што іх таксама... І перад тым перахрысціла мяне. Пацалавала. Што гэта перад Богам?.. Хто яна перад Ім? Мы з ёй, яна і я, калі ад апошняга яе пацалунка, проста ад дотыку губамі да шчакі мяне ўдарыла, як маланкай! І такая хваля жарсці пракацілася па мне ад неба да зямлі і ад зямлі зноў да неба, што самога мяне як не стала, адна гэтая хваля, у якой я засек яе, страчваючы свядомасць, прытомнасць... Гэтаксама, як кахаў...

Маргер доўгім-доўгім позіркам паглядзеў на дзеда Яся, на трох ягоных сыноў і ўнука, у жылах якіх, працёкшы праз пакаленні і змяшаўшыся з іншай крывёй, бруіла ягоная кроў, падышоў да кожнага, з кожным абняўся, не прамінуўшы Стасевага бацьку, павярнуўся да амбразуры і застыў, гледзячы ў ноч.

– Не так жывем!.. – раздражнёна махнуў рукой, калі выйшлі з бліндажа, Стасеў бацька. – Абы яму казаць. А як жыць, каб так? Дзяцей і жонак забіваць?.. – І раптам ён застыў на пагорку. – Чакайце... Калі Маргер сыноў засек, дык якія вы ягоныя нашчадкі?

– Не казаў ён пра сыноў, пра жонку казаў, а сыноў не забіў, у Карані выправіў, – з’явілася аднекуль, як з начы саткаўшыся, Стасева маці, і баба Алімпа саткалася каля дзеда за руку з Яўгенам, стрыечным Стасевым братам, які ўсміхнуўся вінавата: “Выбачайце, дапамог Стасю з Мацеем з магілы выбрацца, а пасля кінуўся вас даганяць і ў лесе заблукаў. Жывым быў – не блукаў, а вось нябожчыкам...” – і Стасю дых заняло: “Дык вось

хто!..” – і ён ледзь не заплакаў, абняўшыся з братам, якога не толькі ён, але і Бог любіў, паслаўшы смерць яму ў маладым сне. Усе разам рушылі на клады, каля якіх развіталіся з дзядзькам Петрусём, якому трэба было ў Смаргоні, і дзядзькам Міколам, якому ў Варшаву. Ва ўсіх астатніх магілы тут былі, адна каля адной, толькі Стасевай яшчэ не было. “Ты не йдзі далей з намі, табе не час. Дахаты йдзі”, – сказаў дзед, а маці сказала: “Можаш сёння на могілках не прыбірацца, стаміўся ты, бедны, я сама зараз прыбяруся хуценька”, – на што бацька зыркнуў спадылба: “Ну ты ўжо зусім!.. Як гэта сама – абы табе казаць? Што людзі скажуць?..” – і яны пайшлі, спрачаючыся праз Стася, як спрачаліся праз яго, калі жывыя былі, а ён не стаў глядзець ім услед, бо адчуў, што не вытрывае, разарвецца сэрца, павярнуў дахаты, ішоў цераз Магерава поле і плакаў, а з амбразуры бліндажа за полем глядзеў яму ўслед, не міргаючы, Маргер.

У хаце яго чакала Ганя. Стаяла каля вакна, павярнулася да Стася, збялелая: “Мне сказалі, што ты разбіўся. Насмерць пад Суцькавым”. “Хто сказаў?” “Не ведаю. Але я пачула. Нібы маці тваёй голас быў...”

Маці любіла Ганю. Можа, яна ёй і сказала.

Толькі чаму пад Суцькавым?.. Суцькава ён прамінуў.

– Як ты?.. – спытаў ён стомлена, не надта жадаючы размаўляць, а яна ўстрапянулася:

– На маршрутцы я!.. – І, скочыўшы да печы, паставіла на стол яечню з блінамі, якімі заўсёды, калі раней яны разам прыязджалі ў Карані, частавала іх маці. – Яшчэ з вечара прыехала, а цябе няма й няма. Чаму ты машыну пад лесам кінуў? Яна ж толькі падрапаная.

Стась успомніў, як Ганя яго драпала, і ўсміхнуўся. Ён сам не чакаў, што з такога ўспаміну ўсміхнецца, раней гэта зусім інакш згадвалася, і ўспомніўшы, як яно згадвалася інакш, яшчэ раз усміхнуўся: “Падрапала, бяда якая...”

– Вядома, не бяда, – зашчабятала ўзрадавана і праз тое, што ён усміхнуўся, і праз тое, што гаворку падтрымаў, хоць ён проста падуманае ўголас сказаў, Ганя. – Дзякуй Богу, што сам жывы... – і Стась спыніў яе, руку на руку паклаўшы: “А ты думаеш, я жывы?..”

Як яна за руку ягоную ўхапілася! Як прыціснулася шчакой і загаварыла хутка, час ад часу захлынаючыся словамі, нават не словамі самімі, а тым, што за імі было, што яе перапаўняла, удзячная яму, што ён яе слухае і, здаецца, разумеее, ці хоча зразумець, упершыню ў жыцці хоча зразумець, хоць Стась нічога не хацеў – так стаміўся паміраць і ўваскрасаць, а Ганя гаварыла, гаварыла, гаварыла...

– Калі я папрасіла, каб ты ўзяў мяне ў Карані, бо змучылася ўся, паразмаўляць хацела, а ты не захацеў, я так ускрыўдавала, што падумала... ды не падумала нават, пажадала... так моцна, як калісьці жадала, каб ты быў, цяпер пажадала, каб цябе не стала, каб я праз цябе не мучылася болей, каб ты забіўся па дарозе пад Суцькавам ці Багушамі, а потым... потым, гадзіны праз дзве, як ты паехаў, нешта такое са мной сталася, як душу з мяне вынялі, нібы я памерла... і зразумела, паміраючы, што гэта праз цябе... што гэта ты памёр, забіўся па дарозе ў Карані, як я таго пажадала... і такі жах мяне агарнуў, жудасць такая!.. бо ўжо няма з чым жыць, няма чаго жадаць... бо ўсё, чаго жадала, было звязанае з табой, а цяпер – што?.. нічога!.. апошняе жаданне спраўдзіў Бог – і я ўзмалілася:

Госпадзі! Стасю мой! Я ж не таго, зусім не таго жадала! Усё жыццё я хацела ашчасліваць цябе, а ты не хацеў быць такім шчаслівым, як я хацела, дык што ж... Жыві, як хочаш, толькі жыві! Госпадзі, няхай ён жыве, ажыві яго, калі ён памёр! Госпадзі, забяры мяне замест яго, хоць як забяры, нават праз пакуты, калі грэх на мне, заклінаю цябе, Божа, я так яго кахаю!.. І я пажадала гэтага мацней, куды мацней, чым пажадала тваёй смерці... мацней, чым калі-небудзь чаго-небудзь жадала... і як нехта сказаў мне... не ведаю нават, сказаў, ці гэта неяк іначай было... але як пачула я спачатку, што ты забіўся, гэтак пачула пасля, што ты ажыў... і ўбачыла цябе, ясна ўбачыла спачатку ў магіле... прычым, не аднаго, а з братам тваім стрыечным, і падумала, што ты падвозіў яго ў Карані, а пасля ўспомніла, што яго даўно няма... і ўбачыла цябе ўжо аднаго ў пабітай машыне каля Багушоў, кінулася на аўтастанцыю, якраз маршрутка была, і па дарозе малілася і прасіла, заклінала, і ўсю ноч цябе чакала, чакала, чака...

Ганя заснула на ягонай руцэ.

Ён падняў яе, паклаў на канапу каля вакна, якое ўжо ружавела сонцам, што яшчэ не ўзышло. Ціха-ціха набіралася ім ранішняя хата: люстэрка ў дзверцах старой, яшчэ польскага часу шафы; карціна з ускрайкам Багушоўскага лесу і жанчынай на лугавіне пры ўзлеску, пра якую Стась заўсёды думаў, што гэта ягоная маці; абраз у чырвоным куце, перад якім Стась укленчыў, памаліўся і рушыў на могілкі.

Па дарозе падвярнуў да бліндажа. Ніхто не зірнуў на яго з амбразуры, не знайшлося ў бліндажы ніякай зброі. Ніякай, апроч дзіды. Можна было падумаць, што гэта ён сам і прынёс дзіду ўночы, а болей тут і не было нічога, калі б пад амбразурай не стаялі адна на адной дзве пустыя скрыні, а на верхняй не ляжала мапа. З чырвонымі, сінімі, зялёнымі і жоўтымі стрэлкамі на ёй...

“Маргер! – паклікаў Стась. – Маргер, ты тут? Ты не пакінуў Карані, Маргер?”

У бліндажы ледзь зварухнулася і зноў застыла бетонная цішыня. Стась склаў мапу і сунуў яе ў кішэнь пінжака, дзе ляжаў нядаўна ліст Мацея да Бога.

Цераз лагчыну прайшоў на клады. Маці ўсё ж прыбрала магілы, сваю і бацькаву, хоць той і сварыўся з ёй праз гэта. Прыбранымі выглядалі і надмагіллі дзеда Яся і бабы Алімпы, прадзеда Марка і прабабы Ганны. На тым родныя магілы канчаліся, ранейшых пахаванняў не было, бо ў час Першай сусветнай вайны клады аказаліся на лініі фронту і былі так перааараныя рускімі і нямецкімі снарадамі, што касцей было не сабраць, а тым больш распазнаць, дзе чыя косці. Беларускія, польскія, літоўскія...

З высокіх могілкаў, з аднаго з сямі пагоркаў, на якіх раскінуліся Карані, быў добра відаць парушаны той жа вайной Каранёўскі замак. Некалі, займеўшы нечаканыя грошы, ён надумаў аднавіць замак, легендамі і казкамі якога поўнілася ягонае дзяцінства. Стварыў фонд, запрасіў у Карані палякаў, літоўцаў. “Дзякуй, – сказаў, сустракаючы гасцей, – што згадзіліся дапамагчы нам узняць з руінаў нашу гісторыю...” – і яны, не даўшы яму дагаварыць тое, што ён хацеў сказаць, што гэта “не толькі наша, але і ваша гісторыя...” – адразу ўскочылі: “Гэта наш замак!”

“Я тут нарадзіўся, а вы мне... – пачаў ён скрозь сціснутыя зубы, але стрымаўся. – Добра, – сказаў, – ваш дык ваш”. І павёў гасцей да руінаў, да цаглінаў і камянёў: “Калі гэта ваша, забірайце! Цягніце каменне ў

Вільню, у Варшаву! А я тут свайго нацягаю. І сваё ўздыму на гэтых руінах! І яно ў мяне будзе не камянямі, а гісторыяй! А ў вас гісторыя будзе гэтымі камянямі!..”

Болей пра тое, чый гэта замак, госці не заікаліся. Але ўсё адно з аднаўленнем нічога не выйшла. У тым часе, у якім Стась надумаў гэта зрабіць, патрэбныя былі не за́мкі, а замкі́.

Казкі і легенды Каранёўскага замка былі для яго не адно гісторыяй. Яны былі такою ж рэальнасцю, як свет наўкол яго і ў ім, а іх героі заўсёды былі для яго жывымі. Як і ўсе, хто сяліўся некалі на сямі каранёўскіх пагорках, намытых сто пяцьдзясят мільёнаў год таму сусветным акіянам.

“Усе жыццё – сусветны акіян, – думаў Стась сярод родных магіл, гледзячы на замак, на Юр’еву, Перунову, Літвінаву, Вялесаву, на Крывую гару... – І акіян гэты плешчацца, уздымаючы глыбінныя, перамешваючы іх з верхнімі, хвалі. Што ў ім былое, што цяперашняе, што будучае? Усё ў адным.

Вось што ёсць мінулае? Гэта не тое, што было, а тое, што засталося. Таму мінулага няма. А значыць, няма й смерці. І няма мёртвых. І не з мёртвымі быў ён увесь дзень і ўсю ноч, а з тымі, хто ў глыбінях акіяна...

Смерць – тое самае, што жыццё, толькі названае іншым словам. Вунь Ганя займаецца старажытнымі мовамі і кажа, што ў некаторых з іх жыццё і смерць нават называліся адным словам. І зямля называлася гэтаксама, як неба...”

Ён успомніў, як аднойчы, калі было яму гадоў сем, так, перад самай школай, вырашыў да неба дайсці. Гэтак яно было блізка, абступленае гарамі з пагоркамі. І ён пайшоў з гары на гару, з пагорка на пагорак. Рушыў з самай раніцы, ледзь світала, а ўвечары, калі цямнела, прыйшоў на тую ж гару, з якой рушыў.

“Дзед? – спытаў ён пазней, калі падрос. – Скажы: так заўсёды? З якой гары пойдзеш, на такую й прыдзеш?”

“Так, – сказаў дзед. – Але выбірай вышэйшую”.

“Каб даўжэй ісці?”

“Не. Ісці ўсё адно адзін дзень. Каб вышэй”.

“Навошта, калі ўсё адно адзін дзень?”

“Каб бліжэй да Бога”.

“Бог толькі вышэй?”

“Так. Толькі ў вышыні”.

“Ніжэй Яго няма? Тых, хто ніжэй, Ён пакінуў?..”

– Ты чаму мяне пакінуў? – падышла нячутна, прытулілася да ягонай спіны Ганя. – Вярніся да мяне. Так усё хутка, так нядоўга...

Так. Адзін дзень з раніцы да вечара. З пагорка на пагорак.

– А калі б доўга?

Яна ўздыхнула.

– Гэта не пра нас. Колькі каму ні жыць – мы ўсе паміраем заўтра.

Слова ў слова тое, што маці казала.

– Ты размаўляла з ёй?

– Так, – сказала Ганя, не спытаўшы, з кім. – Яна прыходзіла.

– Калі?

– Пакуль вы па бліндажах лазілі. Бліноў табе напякла. І папрасіла, каб я цябе чакала. Што ты вернешся.

– Папрасіла?

– Папрасіла.
– Да цябе?
– Не. Так яна не казала. Проста вернешся.

Ён павярнуўся да яе – яна была з кветкамі, па якія сходзіла ў машыну. Яны абняліся і стаялі доўга, абняўшыся, сярод магіл, да якіх у небе, якое называлася некалі гэтаксама, як зямля, плыў ад царквы высокі звон: дзя-ды, дзя-ды, дзя-ды...

– Ты вярнуўся?.. – ціха спытала Ганя, калі звон праплыў над кладамі да Магерава поля, і Стась не адказаў нічога, бо сам не ведаў, вярнуўся ці не? І Ганя не ведала, ці так ужо ёй, яму, ім абодвум трэба адно да аднаго вяртацца. Хутчэй яна проста чаплялася за мінулае, як звычайна за яго чапляюцца, калі не відаць будучыні. Рабіць у мінулым ім не было чаго, але нешта ж трэба было рабіць – і яны паклалі на магілы кветкі.

– Пайшлі бліны есці, – узяў ён Ганю пад руку і павёў з могілкаў. – Паснедаем і паедзем. Мне яшчэ ў Багушы вяртацца.

Паснедаўшы і зачыніўшы хату, пайшлі да машыны цераз Крывую гару, на вяршыні якой каля Гаспадар-каменя Ганя раптам укленчыла, прыпала да зямлі.

– Не грыміць там нічога, не енчыць ніхто. Ніякае не пекла. І чароўны свісток ты не знайшоў. Ты пра яго спытаўся ў дзеда?

Госпадзі! Усю ноч з ім быў не толькі дзед Ясь, усе продкі былі, а ён пра свісток і не падумаў. Не спытаў хоць бы пра тое, што будзе, калі ў яго тры разы свіснуць?..

– Пад ногі глядзі, – дапамог ён падняцца Гані. – Можа, якраз сёння і знойдзем. І свіснем тройчы, каб паглядзець, што будзе.

– А што можа быць, як ты думаеш?

– Не ведаю. Мацей ведае, калі не памёр.

Ганя атрэслася ад лісця з травой.

– Скуль яму ведаць. А калі й ведае, дык што толку. Калі свістка няма.

Даехалі да Багушоў, зайшлі ў падворак Мацея. Ён не памёр. Ляжаў у труне і пыхкаў люлькай. Каля яго стаяла Палута з трохгадовым хлопчыкам на руках і ўсміхалася.

Хлопчык таксама ўсміхаўся. І ўсміхаўся, лежачы ў труне і пыхкаючы люлькай, Мацей.

Святая сям’я.

– Падобны, – сказаў Мацей, паказаўшы цыбуком люлькі на хлопчыка. – Ні пры чым тут рускія з літоўцамі і палякі з румынамі. Пралятаюць...

Хлопчык сапраўды быў падобны да Мацея, але яшчэ больш да Палуты. А постаццю, калі Палута паставіла яго на зямлю: “Падыдзі павітайся...” – да Маргера.

– Дзень добры, – падышоў да іх не дзіцячай, цвёрдай паходкай хлопчык. – Я Мацей Богуш. Сапраўдны беларус.

Бацька ягоны, падскочыўшы, ледзь з труны не вываліўся.

– Чулі?!. Думаеце, гэта я навучыў яго? Ці Палута?.. Не! Ён сам!

Ён шчаслівы ляжаў у труне, стары Мацей Богуш, а малы Мацей сказаў: “Не сам. Дзед навучыў”.

– Што ты прыдумаў? – звесіўся да яго стары Мацей. – Які дзед? Ну які ў цябе можа быць дзед, калі ўсе дзяды твае памерлі?

Хлопчык паглядзеў на яго – у ясных вачах нязгода:

– Дзяды не паміраюць.
– Хто табе сказаў?
– Дзед Маргер. Прыйшоў учора з Палутай і сказаў.
Ён па імені маці назваў. Ганя спытала, каля яго прысеўшы: “А чаму ты па імені маці называеш?” – і хлопчык адказаў: “Я так хачу. Мне падабаецца яе імя”.
“Не беларус, – падумаў Стась. – Ці, можа, насамрэч сапраўдны”.
– Што яшчэ за Маргер?.. З кім ты ўчора цягалася? – прычапіўся Мацей да Палуты, якая абыякава пацепнула плячыма:
– Муж мой. Першы. Гэта даўно было, няхай цябе яно не хвалюе.
У Мацея люлька ў труну ўпала.
– Які муж? Які першы?.. – І ён павярнуўся да Стася. – Я ж табе казаў, што я не надоўга.
Выглядаў ён жаласліва. Палута падышла да яго, прытуліла галаву ягоную да жывата.
– Тут яшчэ адзін сапраўдны беларус. З учарашняга вечара, я адчуваю. Ты прыйшоў адзін, а пакідаеш двух.
Мацей прыціснуўся да яе мацней.
– Мой? Ці Маргераў?
Палута засмяялася.
– Вось чаго не могуць нябожчыкі, дык гэтага. Ад яго былі ў мяне два сыны. Цяпер – ад цябе.
Ганя не хацела здзіўлення выдаць, ды ў яе не выйшла: “Дзядзь-ка Ма-цей...”
Такое цяжка было ўявіць, але выходзіла, што Маргер – прапра... прадзед, а Палута – прапра...прабабка Стася. З чатырнаццатага стагоддзя гэта колькі ж пра?..
Усё адно ў адным.
– Дык што: магу паміраць? – спытаў Мацей, павярнуўшыся чамусьці да Стася. – Скажаш так, каб па мне заплакалі?
Стась падышоў да яго, паціснуў руку.
– Віншую. І калі памрэш, скажу. Але пакуль выглядае, што ты і ў труне жыць будзеш. Нават калі закапаюць.
– Ну, – сказаў Мацей. – Дзе Бог дасць, там і прыжывуся. Пінжак мой вярні...
Стась зняў куртку, сцягнуў с плячэй пінжак, аддаў Мацею – той адразу руку ў кішэнь. Дастаў мапу, разгарнуў:
– Што гэта? Дзе мой ліст?..
– Дастаўлены адрасату, – забраў у яго мапу Стась, падумаўшы: “З гэтага свету на той. З таго на гэты. Во пошта...” І паклікаў Мацея малога. – Гэта табе ад твайго дзеда Маргера.
– Мапа?
– Мапа.
– А стрэлкі на ёй?.. Гульня такая?
– Гульня такая. Абарона Каранёў, калі нападуць ворагі. Бачыш, колькі іх? Чырвоныя, сінія, зялёныя, жоўтыя... Абарону трымаеш вось па гэтай зубчастай лініі. Гэта твая зямля. Можа, некалі была нечая, але цяпер – твая. Зразумеў?
Маленькі Мацей акуратна склаў мапу, уважліва глянуў на Стася:
– Зразумеў.

– Не аддасі нікому?

– Нікому не аддам.

– Ну й малайчына! – падкінуў і злавіў яго Стась адзін раз, другі, трэці, і малы смяяўся, узлятаючы, заліваючыся смехам на ўсе Багушы, на ўвесь Багушоўскі лес з Каранямі, дзе на Крывой і Літвінавай, на Юр'евай і Вялесавай гары, на ўсіх каранёўскіх пагорках рассыпаныя косці продкаў, якія колькі жылі на гэтай зямлі, столькі біліся з тымі, хто прыходзіў, каб зямлю гэтую ў іх забраць, а яны не аддалі, пакінулі яе Стасю і Гані, Мацею і Палуце, гэтаму хлопчыку, які ўзлятае і смяецца: "До ўжо! До!.." – і стае на ногі, ледзь крануўшыся зямлі, цвёрда, і стаіць, як укапаны.

– Дапамажы труну наверх закінуць, не да смерці ж мне жыць у ёй, – папрасіў Стася стары Мацей, і калі Стась палез па драбіне на гарышча, падаў яму малаток з цвікамі. – Верхнюю папярэчыну прыбі, аслабленая...

Прызнаўся. Пакаяўся і прызнаўся.

Стась увагнаў цвікі ў папярэчыну, зацягнуў на гарышча высушаную, да звону лёгкую труну, і Мацей спытаў яго, калі ён спусціўся:

– Як думаеш: Бог грахі мае даруе?

– Два даруе, – вярнуў яму Стась малаток з двума нескарыстанымі цвікамі. – А трэці...

– Што трэці?

– А трэці, калі Ён думае так, як Палута кажа, дык не.

Відаць было, як Мацей спрабуе ўцяміць тое, што сказаў Стась, але не ўцяміў. Паклаў малаток у прыборак і паглядзеў няўцямна.

– Як гэта Бог можа думаць так, як кажа Палута?

– Ну, не ведаю. Неяк жа Ён думае. Дык чаму не так?

Мацей кінуў у скрыню цвікі.

– Бо так не можа быць. Бо не можа Бог думаць так, як чалавек. Бо тады будзе...

Ён не дагаварыў. Не знаходзіў, што сказаць.

– Што тады будзе?

– Будзе тое, чаго не Бог, а чалавек захоча. Як з тым свістком. Свіснуў раз – памёр, хто замінае. Свіснуў два – ажыў. Свіснуў тры...

Ён зноў замаўчаў. Памаўчаўшы, узяў за руку малога Мацея, сеў з ім на ганак.

– Паслухай мяне, Мацей. Калі я малым быў, трохі большым за цябе, прысніўся мне твой дзед Маргер на Крывой гары, што за нашым лесам. Сівы, хоць пахавалі яго чарнявым, сам увесь у белым і з белай торбай на плячы, перавязанай чырвонай стужкай. Пашукаў ён у торбе і дастаў арэхавы свісток. На, кажа, гэты свісток, ён чароўны. Адзін раз у яго свіснеш – і памрэ той, каму смерці пажадаеш. Два разы свіснеш – і ажыве той, каго ўваскрасіць захочаш. Тры разы свіснеш... – працягнуў мне свісток Маргер, які стаяў за тры крокі ад мяне і бліжэй не падыходзіў, а я са страху нібы ў гару ўрос, ступіць не мог, каб свісток узяць, толькі нахіляўся, з усіх сіл цягнуўся насустрач, вось ужо пальцы мае ягоных пальцаў кранулія, мяне як маланкай прабіла, рука торгнулася – і свісток з ягонай далоні не ў руку мне, а на зямлю ўпаў і пакаціўся з гары, якая раптам расступілася і ўдыхнула ў сябе Маргера, у якой ён і жыве цяпер, на Дзяды з яе выходзячы ды яшчэ тады, калі небяспека чорнай хмарай навісае над гарою, над нашым краем. Так і не паспеў ён сказаць мне, што будзе, калі тры разы свіснеш, а я кінуўся ў спудзе дахаты. Назаўтра пайшоў свісток шукаць,

ды дзе ты яго на той гары знойдзеш, калі нават не помніш, з якога боку стаяў, у якім месцы гара расступілася. А цяпер я састарэў, цяжка мне па гарах хадзіць, дык няхай твае ногі стануць маімі, Мацей...

Стась слухаў легенду, якую з веку ў век распавядалі бацькі сынам і дзяды ўнукам у Каранях і Багушах, якія мелі ў гэтым жыцці адзін лес і адзін лёс, і ніякавата лавіў сябе на тым, што зайздросціць малому Мацею. Не таму, што жыццё хлапчука толькі пачынаецца, а ягонае напалову пражыта. Стась не хацеў бы пражываць жыццё нанова, зноў упірацца, каб заняць у ім сваё месца, сваю нішу, і каб аднойчы зразумець... не, не зразумець, адчуць, бо зразумець гэта нельга, што нічога, апроч месца і нішы, не займеў. Ён зайздросціў малому Мацею якраз праз тое, што адчувае гэты хлопчык, слухаючы гэтую легенду, і будзе адчуваць, бегаючы па Крывой гары ў пошуках чароўнага свістка, і што адчуе тады, калі страціць надзею яго знайсці, і тады, калі яму адкрыецца, што так ён да скону і не ўведае, што ж будзе, калі свіснуць у свісток тры разы... “Але нешта ж будзе, нешта ж павінна быць, – думаў Стась, гледзячы, як па-рознаму ўсміхаюцца, слухаючы казку, Ганя з Палутай. – Калі не тут, дык там, але што, што?..”

– А раскажы пра Маргера, – папрасіў малы Мацей, калі стары Мацей скончыў расказваць пра чароўны свісток. – Як ён біўся з крыжакамі ў Піленах, як крыжакі прабілі сцены і ўварваліся ў замак і як ён забіў сябе і жонку, каб не здацца ў палон, бо сапраўдныя беларусы не здаюцца!

У легендзе, якую чуў пра Маргера ў дзяцінстве Стась, пра беларусаў не было ні слова. Ні пра сапраўдных, ні пра падробных – ні пра якіх. Але вось яны ў легендзе з’явіліся – і ўжо з яе не знікнуць. Калі нават знікнуць з жыцця. Бо што жыццё? Легенда. Казка, расказаная Богам.

“Гэта ты хараша сказаў, – пачуўся яму ад лесу голас дзеда Яся. – Нечаму ўсё ж навучыўся. Скажы Мацею, што перадаў я ягоны ліст. Не дараваў яму Бог, як Палута ні прасіла. Паклікаў Вяргіню: “Даруеш”? Яна сказала, што не. І Бог падумаў, як яна. Бо з Вяргіняй сталася зло, якога Мацей хацеў для яе”.

– Паехалі мы, – абняў Стась Мацея. – Не хацелася б самоціць цябе на развітанне, але грэх твой...

– Ды ведаю, – махнуў рукой Мацей. – Палута сказала. Таму й паміраць раздумаў. Чаго мне ў пекла?

Стасю ўздыхнулася з палёгкай .

– Ну, калі Палута сказала... І правільна, што ты паміраць раздумаў. Можа, пажывеш яшчэ, дык выкупіш... Во хоць бы праз сына. Не ў кожнага такі сын.

– Можа, і выкуплю, – згадзіўся Мацей. – Калі сын не румын. Здалося мне спачатку, што ўсё ж да румына падобны. Ці да паляка. Табе не здалося?.. Хоць і ты, калі ўгледзецца...

“Божа літасцівы! – узмаліўся Стась. – Калі ж яно скончыцца? Колькі ж будуць азірацца наўкол, шукаючы сябе, беларусы – і не верыць, што яны ёсць? Ну як так: Ты даў нам зямлю, а саміх сябе на зямлі не даў? Ці гэта тая прывілея, якая чакае нас на нябёсах? Тады скажы нам пра гэта, Госпадзі! Дай знак, каб мы не мучыліся. Каб не шукалі на гэтым свеце тое, што чакае нас на тым...”

“Ша-шах!.. – сцебанула па Багушах маланка. Восенню, на Дзяды. Без грому, нема. Як Бог размаўляе. – Шу-шух...”

Вось што гэта за знак?.. Дзе наш лёс?.. На зямлі?.. На нябёсах?..

Стась паглядзеў на ўсіх – ніхто не зрушыўся, не здзівіўся. Ніхто не ўбачыў знаку, апроч малога Мацея, які стаяў, закінуўшы галаву ў неба, адкуль цяжкі, як Гаспадар-камень, усё ж абрушыўся гром. Здавалася, пад ягоным цяжарам раструшчацца Багушы, травой пакладзецца лес, але й грому не пачуў ніхто, толькі малы Мацей, які ў захапленні крыкнуў праз гром у маланкавыя нябёсы: "Бог сапраўдны беларус!" – ды яго таксама не пачуў ніхто.

– Як ціха... – сказала Ганя. – Нібы перад навальніцай. Толькі звон нейкі...

– Гэта з манастыра, – падышоў Стась да Палуты. – Ты тут будзеш? Там?

– Тут. З малым Мацеем свісток будзем шукаць. Ён казку паслухаў – увесь у ёй. Хоча ведаць, што станецца, калі свіснуць тройчы.

– А ты не ведаеш?

– Не. Гэтага не ведаю... Ты не едзь назад праз Суцькава. Вяртайся праз Карані.

– Чаму? Каб зноў дагнаць цябе па дарозе?

– Так. Каб зноў дагнаць мяне па дарозе.

Яна не ўсміхалася, глядзела пранізліва, так, як тады, калі прыдумала, што ён згвалціў яе, і ён, успомніўшы, як хацеў гэтага, як жадаў, упершыню падумаў: "А раптам?.." – сказаўшы: "Ты мне даруй, калі ласка..."

– Бог даруе, – пацалавала яго Палута, і ад лёгкага яе пацалунка, проста ад дотыку губамі да шчакі яго ўдарыла, як маланкай! І такая хваля жарсці пракацілася па ім ад неба да зямлі і ад зямлі зноў да неба, якое таксама некалі называлася зямлёй, што яго хіснула раз і другі, і на трэці самога яго як не стала, адна гэтая хваля, у якой ён губляў свядомасць, страчваў прытомнасць і не ўстаяў бы на нагах, калі б не ўзяла яго пад руку Ганя, і ён падумаў, ідучы з ёй, вяртаючыся туды, куды немагчыма вярнуцца: "Вось што будзе ў трэці раз!.."

Яны йшлі па вёсцы да дарогі, а за імі бег малы Мацей і махаў Маргеравай мапай, на якой бліскалі маланкамі чырвоныя і сінія, зялёныя і жоўтыя стрэлкі. Потым Ганя, адчуўшы тое, што адбылося ў яго з Палутай, убачыўшы, як яго хістае, сама села за стырно машыны. Яна не любіла новую дарогу, павярнула на старую. Дзьмула восенню ў пабітае вакно, круціўся ў машыне вецер, Ганя ўздрыгвала, нібы плакала, плячамі, а ён прытуліўся да дзверцаў на заднім сядзенні і доўга глядзеў спачатку ў ветравое шкло, за якім дарога бегла ўперад, потым у люстэрка, у якім дарога бегла назад, адначасова ўперад і назад, назад і ўперад, утвараючы плынь вечнасці, у якой адначасова існуе ўсё, што было, і ўсё, што будзе, ляціць і той касмічны вецер, на якім напінаецца ветразь Сусвету, і гэты вецер дарожны, на якім трапеча пасма саламяных валасоў Гані, вось тут, на шыі, дзе пульсуе ручаінка вечнасці, блакітная жылка, якую ён, нахіліўшыся, пацалаваў, а Ганя, кінуўшы стырно, павярнулася: "Не кідай мяне!.." – абхапіла галаву ягоную схаладнелымі на ветры рукамі, засланіўшы дарогу наперад, на якую раптам вывернуў насустрач, крутнуў з прасёлку стары грузавік, можа быць, "Студэбэкер", які прыходзіць толькі аднойчы, і апошняе, што ўбачыў Стась у люстэрку на дарозе назад, быў дарожны ўказальнік з надпісам СУЦЬКАВА, каля якога стаяла і ўсміхалася Палута.

*1 лістапада 2014 – 30 красавіка 2015.*
*Крэва, Смаргонь, Мінск*

## Алесь Гібок-Гібкоўскі



...Даруй мне, Госпадзі, даруй
маё спазнёнае каханне!..

# Бывай, маё сонца, бывай...

### *ТАБЕ*

Зноў б'юся са смяротнаю самотай,
наканаванай мне навек, відаць...
Спрабую ўразумець усё ж я – хто ты?
Але адказу мне не атрымаць!..

### *БАЛАДА ПРА ПАГОНЮ*

*Л. Дранько-Майсюку*

У жорсткім трымценні хвілін
зямных – найчасцей гаротных –
ўбіваем і мы свой клін,
каб клін цемры смяротнай

выбіць з нашых шырот,
прыродай не абласканых,
каб ацалеў наш род,
стагоддзямі біты й гнаны.

Таму сеем семя сваё
у ярасным, роспачным гоне
бясконцых з лёсам баёў,
і ад ранаў не стогнем.
Не ведаем цвёрда – хто мы?
Хоць сімвал таго гону –
узмыленая ад стомы
спрадвечнай Літвы Пагоня.

І ўсё ж мы радней не маем
яе разгубленай долі,
і кожны раз заміраем,
калі аб ёй песня на волю
рвецца ледзь не да неба,
трывожачы сон Эльбруса!
І адчуваем патрэбу
да скону быць беларусам!

### НА МАНІТОРЫ ДУШЫ

Мінулай ноччу я ўбачыў у сне тваю душу.
Ды так выразна, як манітор свайго кампутара.
Яна свяцілася мяккім серабрыстым святлом
і, як падчас паказу кіно,
выдавала дзіўны калейдаскоп выяваў.
Яны былі зменлівымі і супярэчлівымі,
але проста заварожвалі сваёй маляўнічасцю...
І раптам унізе бягучым радком праявіўся тэкст,
у якім гаварылася пра нашае з табой каханне:
што яно хутка мусіць растварыцца без следу
ў бяскрайняй наасферы,
бо ў тваё сэрца пракраўся іншы чалавек.
Зрэшты, не пракраўся,
бо дзверы яму ты адчыніла сама.
Ён проста мімаходзь зайшоў,
як заходзім мы часам у краму па хлеб.
І неяк лёгка абжыўся там, уладкаваўся,
і хутка ўжо нічога не нагадвала ў тым сэрцы пра мяне,
пра тое, што я там жыў нямала часу...
А потым я прачнуўся, і была наша рэальная сустрэча,
падчас якой ты як ніколі горача абдымала мяне
і гаварыла надзвычай пяшчотныя словы кахання,
якім проста немагчыма было не верыць!..

Я верыў і, як дзіця, радаваўся, што жахлівы сон мінуў,
што насамрэч ты – побач, са мной і так будзе заўсёды!
Але ў самы разгар нашай сустрэчы
я раптам са здзіўленнем ізноў убачыў
сваім унутраным зрокам тваю душу...
Ты працягвала шаптаць пра свае пачуцці,
а я маўчаў і нічога не мог адказаць...
Бо перад вачыма ізноў, як на маніторы кампутара,
настойліва бег той самы,
знішчальны для майго сэрца, радок,
у якім чытаўся прысуд
нашаму каханню...

## ПАДАЕ СНЕГ...

Снег падаў шматкамі вялізнымі,
і шлях замятаў дадому...
На небе, бы нейкую трызну,
спраўлялі анёлы без стомы.

Іх слёзы нямелі ў палёце
ад сцюжы цвярдзелі зняможана,
і нейк незаўважна, употай
ставалі сняжынкамі гожымі.

Шапталі яны мне на злёце
пяшчотна пасланне пра тое,
што буду шчаслівым на свеце
з адною толькі табою!

І я адпусціў сваё сэрца
ў шчымлівы апошні палёт!
І ярасны сонечны вецер
над морам бялюткіх палёў

панёс яго ў снежную замець
на радасць сняжынкам сляпым...
І зноўку крычала мне памяць,
што побач адно толькі ты

была і ў мінулых стагоддзях
са мной паміж небам-зямлёй!
Там вечна губляў цябе... Годзе!
Цяпер будзеш толькі маёй!

Нікому цябе не аддам я,
хай крыкам заходзіцца свет!

Я ж гэтай зямлі старадаўняй
зусім не апошні паэт!..

* * *

“Ты мяне яшчэ не разлюбіў?” –
нейк спытала ты на развітанні,
нашых рук з табой пяшчотны звіў
здрыгануўся раптам у чаканні.

Але я не знаў, што адказаць,
бо даўно стаў часткай тваёй пэўнай,
і таму трывожная сляза
на тваіх вачах была дарэмнай.

Як жа можна раптам разлюбіць
сонца промні, летні цёплы вечар?
Ды і проста дзень адзін пражыць,
не абняўшы лепшую на свеце,

мілую, каханую маю
з іменем найсветлым, што ад Бога?
І на гэтым я цяпер стаю,
хіба можа быць мне шмат такога?

Ўсё ў імклівым свеце праміне,
згасне і жыцця калісьці свечка...
Песня ж пра цябе і пра мяне
будзе жыць пад нашым небам вечна!

*17. 05. 2014*

## НЕЧАКАНЫ ЗВАНОК

На два тыдні мяне прысудзіла
да смяротна жорсткай самоты,
і якое ж было дзіва —
твой званок... І я ў раз соты

зноў пытаю сябе: “Як жа
апынуўся ў жорсткім палоне
і чакаю, як карта ляжа
я на вострым цярпення сконе?”

Ты ж званком тым не па раскладзе
ў маю «камеру» зазірнула,
відавочна, хацела спраўдзіць:
ці жывы яшчэ?.. Ці існую?..

### *МАЛІТВА*

Божа, злітуйся, я ж не камень!
Скінь з душы грэх невымольны!..
Дай заснуць хоць на світанні,
дай адчуць зноў сябе вольным!.

Каб лунаць да небасхілу
мог я, з сэрца скінуўшы путы...
Дай мне, Божа, светлую сілу
і пазбаў ад жорсткіх пакутаў,

што паслаў мне праз жанчыну,
як твайго суда дзейсны сродак!
Дай знайсці, Божа, прычыну —
ў чым віна нашага роду?

І праз плынь мораку шчыльнага
да Цябе голас звяртаю:
"Ты здымі крыж непасільны,
дай такі, што я ўтрымаю!.."

*19.04.2015.*

### *НЕ МАЯ!...*

Не мая, не мая, не мая —
жорсткай песняй у сэрцы кладзецца...
Бо цябе не ўтрымаць мне ніяк,
і касмічны няўрымслівы вецер
панясе цябе ў далеч планет,
на адну з іх апусціць нясмела,
можа, там зразумееш: — паэт
быў цяплейшым табе за свет цэлы!..
Зрэшты, можа зусім так не быць...
І травой станеш ты ў зямным полі...
І сігнал мой далёкі, слабы
не пачуеш болей ніколі.

### *БЕЗ ЦЯБЕ*

Яшчэ адзін дзень без цябе
доўжыцца быццам год,
час скамянеў у журбе
нібыта бяздушны стод.

Плынь хвілінаў вакол
больш не нясе далей...

Мой ахоўнік-анёл,
што ж ты мяне пакідаеш?

Ты заступі зноў, малю,
на сваю ролю зямную,
радасць вярні мне маю,
покуль шчэ я існую!..

## ***ПАСВАРЫЛІСЯ…***

Вярніся, мая запаветная!..
Самая любая, мілая,
дзень падары добры, светлы,
дай зноў жыцця сілы...

Ведаю, цяжка гэта...
Можа, і немагчыма...
Бо твая зорка-планета,
што ўзносіць жанчыну

на п’едэстал кахання,
свет вакол спаланіла...
Я ж — дык змушаны даннік,
сваіх прыкрых памылак!

Але ты ўсё ж вярніся...
Глянь ў мае вочы грэшныя,
бо з вачэй многіх тысяч
ты не сустрэнеш раднейшых!..

## ***НЕ СУДЗІ…***

Мяне, любая, не судзі,
перад светам, калі адзін,
калі ў ноч, што без надзеі
без цябе я вар’яцею...

Да мяне шлях ты знайдзі
У віры жорсткіх гадзін,
Адпусці крыўды пустыя,
свет нябёс зведаюць тыя,

хто любоў усё ж зберагае,
у зямным прывідным раі.
Яе белі хто не парушыць,
хто ў адно розныя душы

паяднае... Каб над зямлёю
узлятаць здолелі двое...
Каб любоў хоць якой прышласці
не ўдалося нечысці знішчыць.

* * *

У нейкі міг расчаравання
празрэю ў роспачнай імгле:
“Хай светлая рака кахання
нясе каханую далей!..”

А я пайду сваёй дарогай —
той, што раней адзін ішоў,
каб перад Божым тварам строгім
прадстаць з прыціхлаю душой...

Ды схамянуўся я трывожна —
Як жа яе адну мне кінуць?
А хто ж ёй, роднай, дапаможа
не заблукаць у лёсу плыні?

*15.05. 2015*

## *СВЯТЛАНА*

“Бывай, маё сонца, бывай!”, —
прашэпча мне ціха трава,
што некалі нас мілавала,
а нам было ласкі той мала.

“Бывай, маё сонца, бывай!” —
прашэпча бярозавы гай,
ў якім мы гулялі калісьці
па коўдры апалага лісця.

І буду насіць я да скону
у сэрцы сваім утрапёным
імя, ад якога, як п’яны,
быў шмат я гадоў нечакана.

Што чулася мне ў малітвах,
што рэжа сёння як брытва
па сэрцы маім счараваным...
Імя маёй любай— Святлана!

* * *

Даруй мне, Госпадзі, даруй
маё спазнёнае каханне!
Дай выпісаць майму пяру
той боль, што з вечара да рання

трымае сэрца, як ціскі –
бязлітасна і невымерна!
Глыток надзеі мне пакінь,
каб апляценне чорных церній

мне выцерпець ў апошні раз...
Бо міг-жыццё тармозіць ў стоме,
Кахання дзіўная зара
больш не заззяе ў маім доме!

Тут, пэўна, Воля ёсць Твая,
што так ніколі больш не будзе,
Даруй мне, Госпадзі, а я
ўсё кіну і падамся ў людзі.

Пайду на край зямель чужых,
каб услаўляць Тваё прышэсце,
аж покуль мой апошні ўздых
мяжу акрэсіць мне нарэшце!

Віктар Карамазаў



...пісаць для ўсіх –

хлусня....

# Ван Гог

***Навела***

Антон выйшаў з галоўнага будынка акадэміі, калі ўжо мала хто затрымліваўся ў аўдыторыях, майстэрнях: адгаманіў акадэмічны дзень.

Але дзень выдаўся ў пачатку лета, яшчэ свяціла сонца, ажно сляпіла пасля таго, што ў будынку, змроку. Антон не абмінуў палатку, узяў куфаль піва, сеў за столік, прагнаў трыма глыткамі смагу і супакоена, з жаданым адчуваннем хоць маленькай волі, трымаючы прахалодны куфаль у далонях, глядзеў на вуліцу, на людства, якое некуды спяшалася, яго не заўважаючы. У юнаку, які прайшоў міма акна, пазнаў свайго студэнта і ўспомніў яго нечаканае, крыху і з хітрыной, пытанне: што ёсць мастацтва? Было гэта ў класе, студэнт рабіў малюнак кветак у вазе і на настаўніка, як падалося, не зважаў, глядзеў на кветкі. Антон сядзеў насупраць за сталом, гартаў альбом Ван Гога і маўчаў, бо мог жа чалавек падумаць уголас? Калі ж праз

нейкую хвіліну звярнуў увагу на яго яшчэ раз, той глядзеў яму ў вочы, і ўжо змаўчаць не мог, перапытаў:

– Што ёсць мастацтва?.. Ну... дарога гэтакая ў нас з вамі.

– А да чаго, куды вядзе наша дарога?

Размова выглядала не ў час і не да месца: студэнты ў класе працавалі над эцюдам. Спрабуючы яе спыніць, Антон як адмахнуўся:

– Прадоўжым пра мастацтва апасля. Працуйце.

Але яшчэ праз нейкую хвіліну студэнт зноў адарваўся ад свайго малюнка і ад кветак у вазе:

– Ван Гог сказаў, што мастак павінен ахвяраваць сваёю скурай.

– Сказаў гэта Міле, а Ван Гог паўтарыў.

– Ну так, Міле, за ім Ван Гог у лісце да сябрука Рапарда. Але каму патрэбна мая скура, калі я ўвесь час пішу пейзажы, кветкі, усялякія там ню?..

Сказаўшы "ню", ён вочы апусціў, схіліўся над малюнкам, пачаў зноў працаваць, і Антон падумаў, што пытання ў студэнта да яго няма, яму проста няма ахвоты пісаць адны і тыя ж пастаноўкі то з кветкамі, то з посудам, даваў настаўніку сігнал пра свой настрой. А ці залежыць гэта ад настаўніка? У яго праграма. Такі самы галернік, як студэнт.

Дапіўшы піва, Антон прайшоў да плошчы, падземкай перасек праспект, зайшоў у парк і апынуўся на алеі, якая вяла ў бок Сляпянкі, дзе ў доме, што стаяў уздоўж ручая, была яго майстэранька з адным акном у заценены таполямі, яшчэ і з гаражамі, двор. Цяпер, у канцы дня, пажылыя ды і старыя людзі выгульвалі сабак і дзетак, сябе выгульвалі таксама. Антону пасля гармідарнага ў вучэльні дня хацелася быць аднаму, сам-насам са сваімі думкамі, не заўважаючы ні дзетак, ні сабак, ні іх павадыроў, і ён звярнуў на сцежку, ціхую, бязлюдную, пасыпаную леташнім, з высокіх хвояў, шыгаллем, іглічай. Заўважыўшы перад сабою лавачку, спыніўся і прысеў, паставіў побач сумку з кнігамі, што на плячы насіў, з яе дастаў альбом Ван Гога, але, у яго не глянуўшы, адкінуўся на спінку лаўкі, заплюшчыў стомленыя вочы. Не думаў ні пра што. І ўсё ж сядзець без думак доўга ён не мог. У акадэміі ладзілася мастацкая выстава работ студэнтаў і выкладчыкаў, і ён, малады выкладчык жывапісу, амаль учарашні студэнт, не мог не выставіць сваю работу. Новую. Але якую? Гэтай вясною неаднойчы, як выпадалі вольныя дні, ездзіў у Крычаў да бацькоў, у родны дом, і там, на Сажы, з палітрай працаваў ад ранку да змяркання, пакуль свяціла сонца, пагодзілася ці непагодзілася. Прывёз эцюды, па іх збіраўся напісаць карціну. Знайшоў ужо кампазіцыю, прадумаў каларыт, ужо стаяў падрамнік з пагрунтаваным палатном на ўсю тарцовую сцяну майстэрні, два на тры метры, чакаў таго дня і моманту, калі душа ў згодзе з думкай пакліча да палітры. Уранку падалося, што сёння быў якраз той дзень, ад працы ў вучэльні вольны, ды нечакана званок адтуль усё зблытаў: калега захварэў – замена трэба. Не адмовіш – сам хіба не хварэеш. Яшчэ, праўда, і сёння было не позна стаць да мальберта – святла хапала.

Расплюшчыў вочы, падхапіўся з лаўкі, ды раптам заўважыў перад сабой палянку залацістую, цёплым дажджом абмытую, на ветрыку ды сонейку падсохлую і разам з тым яшчэ вільготную, у расінках – па маладой травіцы зіхацелі. Стаяў адразу за палянкай і светлы малады бярэзнік у расяным бляску. За імі, палянкай і бярэзнікам, узвышаліся старыя хвоі, нібы ахова маладой красы. Антон любіў чысты пейзаж, дзе чалавека і на дых няма, бо вырас у прыродзе на Сажы, блізка ад заліўнога лугу, лесу, таму і зараз усё, што ўбачыў, дыхнула ў грудзі – з прыемнасцю пачуў – родным паветрам. Бывала, што пейзажык па душы хоць дзе ўбачыць – адчуе блізка Сож, сваё

ўсё з маленства. Здаралася, што пішa на Браслаўшчыне ці на Палессі, а назву дасць пейзажу: “На Сажы”. І без маны: душа пісала, з Сажа напоеная, сябе злівала ў той пейзажык. А як пісаў партрэт мамы, бацькі, сястры і брата, бабулі, іх адчуваў заўсёды ў сваёй прыродзе, хоць на партрэце ані травіны ці лісціны. Усё гэта душа падказвала, хоць і натура, перад якой стаяў з палітрай, уладу мела.

За каранёвае, сваё ўхапіўся адразу і тады, калі заканчваў акадэмію, шукаў тэму і вобраз для дыпломнай працы. Дуб Васіля Вашчылы яшчэ ў маленстве, калі хадзіў у школу, спыняў на паўдарозе, на мосце праз ручай у глыбозным рове – з-пад дуба бег пад мост. Стаяў, захоплены, глядзеў, пра школу забываючы, на той ручай, на роў, на дуб магутны, ад бабулі чуў, што гэта дуб Вашчылы, гадоў яму не меней, як паўтысячы, што тут, пад дубам і вакол яго, збіраў Вашчыла мужыкоў з сякерамі ды косамі. Каму ж гэта пісаць, як не яму, Антону Вырву? Тое паўстанне мужыкоў супраць падману гандляроў, прыгнёту панскага, за сваю праўду, волю тут закіпела, у Крычаве, Вашчыла быў тутэйшы і ён, мастак, тутэйшы, з маленства і ахрышчаны вашчылкам, увесь іх, Вырваў, род – карэнныя вашчылы. Ды і прырода – зямля Вашчылы і яго, Антона: глыбозныя равы і кручы з крэйды, гліны – шаленства белых і чырвоных колераў, па ўсіх равах праз гарадок бягуць у Сож ручаі, а Сож – о-го! – з якенным норавам! Гэтакі край радзімцаў, Радзіма-князя, галоўны вал перад татаршчынай з усходу, і гэтакі мастак – радзімец. Сплялося шмат чаго ў адзін вузел – сам Бог наканаваў. Але не ўсё ад Бога. З’явіўся чын казённы і сказаў: “Ты што бунтуеш, хлопча? Тут, у акадэміі, яшчэ твайго Вашчылы не хапае. На бунт завеш?” Студэнт – нявольнік, як той мужык у пана. Вашчылу войска не хапіла, каб мужыкам, радзімцам, волю даць, хоць і разбіў на левым беразе Сажа пад Царкавішчам войска Радзівілы, а тут студэнт з сваёй палітрай.

Павёз тады на Сож ён сваю крыўду і там з жывой натуры пісаў старых і маладых вашчылак з козамі. Матыў даўно ўзяў на вока і прыстрэліў, з маленства ўпадабаў. Раней на беразе Сажа ў кожным двары амаль былі каровы, бо паша заліўная за Сажом – чаму і не трымаць? Звычайна прыбягаў сюды, калі за гарадком садзілася сяціла, ад круга клаўся на ваду даўжэзны цень, а над вадой яшчэ гулялі сонечныя промні. У той вечаровы час з зарэчнай пашы вярталіся каровы. Яны плылі праз Сож як войска, тырчэлі, нібыта баявыя пікі, рогі над галовамі, а промні сонца лавілі іх, вастрылі вечаровай чырванню. Часы, аднак, мяняліся і ўсё вакол мянялі, лугі калгасу аддалі пад косы і ўжо кароў прыватных на іх не пускалі. Войска рагуляў зрэдзілася і сышло на нішто. Тады з’явілася войска казінае. Амаль усе козы былі белыя, адной пароды, рогі высокія, бароды доўгія. Спажыва ім таксама за Сажом, па лазняках, а плаваць, як каровы, ці ўброд ісці, дзе неглыбока, козы не маглі, іх перавозілі на лодках-пласкадонках. Быў і пастух, у пастуха – казёл замест сабакі. Казёл Вась-Вась прыгожы, мудры, свой статак апякаў спраўней за пастуха і за сабаку, у блуд ці ў патраву чужога лугу не пускаў. Дык хіба мог мастак не напісаць яго?

Казёл прыгожы атрымаўся побач з пастухом, у цэнтры на карціне, усё і ўсіх вакол сябе яднаў. Але ўбачыў яго той самы чын: “Казла – убраць! На абарону дыпломаў прыехаць можа і... – на неба пальцам паказаў. – Што ён падумае, казла ўбачыўшы? Што сам... казёл?” І вымушаны быў замест прыгожага казла намаляваць свайго калматага, у рап’і, дварняка.

Нішто сабе, вясёлы ўспамінчык. Але як токам працяла раптам Антона. Усхапіўся з лаўкі, альбом кінуў у сумку ды і пашыбаваў у сваю Сляпянку.

Яшчэ свяціла сонца, а палатно, бялюткае ўранні, калі ішоў на працу, пры тым святле, цяпер глядзелася пажоўклым, нібыта крытае празрыстай светлай охрай. Падалей адышоў, як дазваляў пакойчык, на падваконне сеў, глядзеў, і той увесь пейзаж, у кампазіцыі, якую, здавалася, знайшоў, якой быў раніцаю задаволены – Сож, высокі бераг, дубы над кручаю і далей у лузе, на першым плане стары дуб з буслянкаю, з бусламі ў светлым небе, – цяпер на палатне не бачыў. Пачаў пераглядаць эцюды, кожны глядзеў і ставіў на падлогу да сцяны, сеў на канапу, яшчэ раз углядаўся ў кожны паасобку і ва ўсё разам, у агульнай панараме. Не ўсе яны паміж сабой былі ў згодзе. Аж зазлаваў, на што ці на каго – не ведаў. Пейзажык на кардонцы, які трымаў у руцэ, шпурнуў у кут ды паваліўся на канапу. Ляжаў без усялякіх думак і глядзеў у столь. Яна была ўжо шэрая. Заплюшчыў вочы.

Плямы святла без усялякай формы плылі, падобныя на хмары ў небе. Зялёныя, ружовыя, блакітныя, жаўтлявыя. Плылі спачатку блізка, ледзь не садзіліся на вочы, а потым адплывалі, зусім знікалі, з іх нейкія мянялі колер, нібыта вопратку, блакітныя ператвараліся ў сінія, ружовыя рабіліся чырвонымі, цямнелі шэрыя, ярчэлі жоўтыя. Хацелася расплюшчыць вочы, спыніць увесь той парад, ды векі ацяжэлі, не падымаліся. Усё плыло ў невідаль. І сам плыў як у вечнасць, лёгкі, нібыта воблака, сябе не чуючы.

Прачнуўся ці ад грымотаў за вакном, ці ад шалёнага святла, якое праз шкло аконнае кідалася на столь, на сцены. Быццам анучы па пакоі лёталі, ганяў іх вецер. Жалеза грымнула. Гук той пазнаў: гаражныя вароты? Не спалася суседу, інваліду? Святло плыло па сценах, столі. Машына развярнулася – святло пагасла. Зрабілася зноў ціха, цёмна. Ну так, была ўжо ноч. А колькі часу?

Антон заварушыўся на канапе. Наважыўся падняцца, пашукаць мабільнік, але ляжаў. Адчуў, што мулка галаве. Сунуў руку пад вуха, а там замест падушкі сумка з кнігамі. Толькі цяпер адчуў і чаравікі на нагах, і джынсы – ціснулі ў паху. Намацаў на сцяне сабачку – уключыў святло.

На провадзе пад столлю ў чорным цокале вісела адна на дзвесце свечак электралямпачка без абажура ці плафона, святлом сеяла яркім, але на палатне амаль у самым цэнтры з'явілася, як цень, аранжавая пляма. Ад ліхтара над гаражом суседа? Тут і сусед дастаў: з канапы ўміг зваліўся, падскочыў да акна, зашморгнуў штору, вярнуўся, але ўжо не лёг, сядзеў, рукамі абхапіўшы галаву, глядзеў на палатно. Цяпер на ім той плямы не было, аднак ён яе бачыў, быццам яна адбілася ў вачах, адбітак застаўся і сляпіў. Ці вочы пякла ўжо пляма іншая? Пачаў гартаць альбом, шукаць сланечнікі Ван Гога. Знайшоў, але калі прыгледзеўся, там быў аўтапартрэт, нібы сланечнік жоўты, з белым ручніком праз галаву, з чырвоным фонам. Тут і студэнта ўспомніў, яго ледзь не разгубленасць у вачах, настроем падобных на вочы самотнага Ван Гога.

Адклаў альбом і ўстаў з канапы. Адкінуў з вакна штору. Ліхтар над гаражом свяціў, але за дрэвам, за галлём, за трапяткімі ценямі ад лісця. Глядзеў далей, у мроістую цемень ночы і нечакана там убачыў палатно, якое за спінай стаяла на мальберце, У шкле быў яго адбітак? І штосьці ўжо было на ім: фігуры, плямы каляровыя, кантрасныя – зусім не тое, што бачыў на палатне ўчора, пазаўчора, сёння ўранні. Не Сож, не дуб з буслянкай ды бусламі. Наогул не пейзаж – Ван Гога ў сваёй майстэрні бачыў. Ды і якога!..

Хацелася аж крыкнуць: "Эўрыка!.."

Не крыкнуў, бо не грэк. Уначы хапіла ціхай радасці.

Асцярожна, як баючыся некага спалохаць, пабудзіць, падышоў да палатна. Ля правае рукі стаяў нізкі рабочы столік, на ім ляжалі тубы з фарбамі,

палітра, стаяў збанок, з яго тырчэлі пэндзлі. Глядзеў на тубы, вачыма выбіраў як на палітру не сваю – галандца. Узяў кадмій жоўты, англійскую чырвоную, ультрамарын і вокісь хрома, умбру, само сабой – бялілы. Хоць ведаў, як не любіў мастак хаваць у бялілах колер, як ён любіў пігмент насычаны, адкрыты. Узяў пэндзаль, флейц. З палітрай адышоў ад палатна, вачмі акінуў усю яго прастору, у ёй адчуў фігуры, плямы, лініі, усё, на чым трымалася кожная карціна, зноў падышоў да палатна. Задумаўся. Паклаў мазочак і за ім другі, адзін на левым краі, другі на правым, правёў пад імі рысу, другую – вертыкаль. На столік з фарбамі разгорнута альбом паставіў. Глядзеў то на партрэт у альбоме, то на палатно.

Цяпер на палатне ён бачыў момант з жыцця Ван Гога, калі аўтапартрэт з адрэзаным у экстазе вухам быў ужо напісаны і сам мастак, знявечаны, знясілены, у жахлівым фізічным і маральным стане на ложак абваліўся, ляжаў з той кропляю жыццёвай сілы, каб толькі ў апошні раз, як адчуваў, убачыць свой шэдэўр

Мінула ноч.

Яшчэ ў ранішняй смузе нявысака, паміж дамкоў прыватных блукала сонца, будзіла мінчукоў за вокнамі шматпавярховікаў, не заглядаючы на першыя паверхі, з пад'ездаў яшчэ не выляталі над кусты з поўнымі посікамі сабакі і каты, а ўжо Антон стаяў з кубачкам кавы ля свайго вакна, чакаў, калі нябеснае свяціла заўважыць і яго вакно. Святло начное было падманлівае, яно варагавала са святлом Ван Гога, з ягоным цёплым золатам сланечнікаў, з усімі охрамі, адценнямі, таму адразу, ледзь выпусціў палітру з рук, накінуў на карціну шэрае, з рулона, палатно і выключыў святло ад лямпаў. У тым святле ён не хацеў ды і баяўся бачыць сваю работу, чакаў вышэйшага і творцу, і суддзю – святло нябеснае, ад Бога.

Праз тыдзень, яшчэ і раз, і два з палітрай пастаяўшы ля свайго Ван Гога, калі адмёў апошнія сумненні, што роіліся ў галаве, адчуў, нарэшце, што мазок апошні ўжо на палатне, Антон адвёз карціну ў акадэмію, тым супакоены, што ад душы папрацаваў і нават сплаціў пазыку, якую меў перад студэнтам, – карціна ў мастацтве цанілася вышэй за слова.

Яшчэ праз колькі дзён адкрылася выстава. Туды, нібы на свята, з'явіўся і Антон. Прайшоў па першай зале, па другой. Студэнты ў асноўным выстаўлялі школу: эцюды, нацюрморты, пастаноўкі. Было і шмат пейзажаў. Цікавіла Антона аўтарскае вока... Звычайна яно было смялейшым у студэнтаў першага, другога курса, што радавала, але і засмучала: куды пазней дзявалася – згасала ў акадэмічных схемах, догмах? Спыніўся каля чырвонага, па каларыту свежага пейзажа. Хто аўтар? Заўважыў знаёмага студэнта. Той на яго глядзеў з-за пляча сябра, як у класе паглядаў з-за вазы з кветкамі.

– Ваша работа? – спытаў у яго Антон.

І ўгадаў:

– Мая.

– Мне падабаецца.

Студэнт глядзеў на свой пейзаж, як любаваўся ім, і раптам насцярожыўся, апёк імклівым позіркам:

– А чым?..

У гэты момант усе вакол прыціхлі, галовы павярнулі да ўваходу ў залу. Там аб'явіўся выстаўкам: дацэнты і прафесары, прарэктары. Ішлі ад экспазіцыі да экспазіцыі, спыняліся, выказваліся, у паперках пазначалі шарыкамі думкі, найперш галоўнага між іх. Чалец камісіі, прафесар, падышоў да Антона і ціха, ледзьве не шэптам, вымавіў:

– Я, калега, шкадую, што тут няма вашай работы. Яна мне падабалася, але... яе прызналі недастаткова аптымістычнай. – Прыклаў да вуснаў палец, агледзеўся, каб хтосьці, акрамя Антона, не пачуў, і, на яго ўжо не звяртаючы ўвагі, падаўся за сваім гужам.

Антон усміхнуўся. Успомніў, як гадоў пяць назад гэты дзівак шапнуў, як тут, на вуха, што і казёл яму ў дыпломнай працы спадабаўся, казла не ён зарэзаў.

Настрою стары не сапсаваў. Антон ужо някепска ведаў людскі ды і нялюдскі свет у мастацтве, на ўсё глядзеў спакойна, як на натуру жывую, зменлівую, якую кожны дзень пісаў. Бачыў, як яна мяняецца ў залежнасці ад накірунку і моцы ветра, ад змены святла і пораў года, ад настрояў дня і ночы. Са спагадлівай усмешкай прайшоў па ўсіх залах, ужо тым прафесару ўдзячны, што не спатрэбілася шукаць свайго Ван Гога. Але, калі з апошняй залы выйшаў, адчуў, як пуста і халодна на душы.

Спусціўся лесвіцай у вестыбюль, спыніўся. Каля акна стаялі хлопцы і дзяўчаты. Заўважыў сярод іх і аўтара чырвонага пейзажа: дапытлівыя вочы касілі ў яго бок. Выйшаў на ганак.

Ужо ў скверы, у зацені ад дрэваў, да Антона нечакана падышоў той самы студэнт, спытаў без усялякіх ваганняў і прабачэнняў:

– А можна паглядзець вашу карціну?

Адразу Антон яго не зразумеў:

– Якую карціну?

– Ды тую, што вы прапанавалі выставіць. Якую тут не паказалі.

– Адкуль вы гэта ведаеце?

– Я гэта чуў.

...Не, ён не пытаўся, можна ці не можна карціну ўбачыць, вочы яго глядзелі ў самую душу Антона, патрабавалі, быццам ужо не аўтар карціны быў яе гаспадаром, не акадэмія, не выстаўкам, а ён, студэнт.

– Ну-у... – Антон завагаўся, але адчуў, што выбару, як на пытанне адказаць, у яго няма. – Калі вам гэта трэба, то можна. Вы тут заўтра будзеце?

– Буду ўвесь дзень. Заняткі.

– Тады вы мне пасобіце карціну вынесці ў машыну. Яе трэба адвезці ў майстэрню. Я вас знайду.

Антон выйшаў на вуліцу, спыніўся ля палаткі, узяў два куфлі піва і сеў за столік. Адзін кухаль паставіў на супрацьлеглым баку століка, як для кагосьці, хто мог ці меўся падысці, з другім у руках глядзеў на вуліцу і там не бачыў анікога. Піўко было прахалоднае, свяжыла, настройвала на думкі нечаканыя. Ён быў ужо рады, што на выставе няма яго Ван Гога, бо тут таксама не зразумеюць знявечанага генія, з ім разам не зразумеюць аўтара, навошта і каму пісаў. Цяпер карціну бачыць не душой, а вокам, не як твор ад пакутаў душэўных, а як рэч, якую выгадна або нявыгадна купіць, прадаць, павесіць на сцяну кватэры, каб пра яе пачуеш: о'кэй! прыкольна! файна! крута! Тут акадэмія, не рынак, але адкуль прыходзяць вучыцца і вучыць, як не адтуль, дзе ўсё можна прадаць і ўсё можна купіць.

Антон піў па глытку, смакуючы, без спешкі, глядзеў перад сабой на вуліцу і бачыў там свайго студэнта, яго глыбокія дапытлівыя вочы. Усміхаўся, задаволены, што ёсць гэты студэнт.

Сваю карціну ён не пісаў для ўсіх, для ўсяго народа, як яшчэ нядаўна казалі і патрабавалі ад мастака. Пісаць для ўсіх – хлусня. Усім яна навошта? Ды і яму хапала адной жывой душы, якая чакала сустрэчы з ім, з яго Ван Гогам.

Алена Ігнацюк



...мы апынуліся, Паэзія,
з табою ў «Часаслове»...

# Словачас

### ЧАС-ЗАВЕЯ

Яны побач –
Час – Завея...
Ля кавярні пінскай – «Бона»...
Ад іх позірку – нямею:
Час – не мой. І дзе... карона?
А Завея замятае
снегам след мой –
кожны новы,
быццам «Часаслоў» гартае,
перакрэслівае словы.
Ля кавярні пінскай – «Бона»
мы – як тыя стараверы:
Час, Завея, Я ў зялёным...
Кружым, блудзім,
б'емся ў дзверы...

За ваконным шклом... Ледзь бачна...
П’е гарбату ў профіль... пані!?
Так салодка і так смачна!
Час-Завею не пазвалі...

### ПАЭЗІІ

У блакітна-ружовых пальчатках
Ты – як Гіпіус... Бачыць твой зрок
радок верша – у самым пачатку:
знік Антыхрыст і ўцешаны Бог.
Няўжо Бакст цябе зноўку малюе?
Мадэрновай надзеяй жывеш,
што глухая хвіліна пачуе
твой – як з дыму цыгарнага –верш...

* * *

Крыжы ля дарог...
Адчуваю свой час.
Ён маўклівы? Імклівы?
А мо адваротны?
Нават голас прадрог
(студзень-люты якраз)...
Ўкрыжаваны мой шлях–
са мной згодны:
як направа пайсці – там бязлюддзе і снег;
толькі з левага боку... бачу мройныя замкі.
А з сузор’я сабакі –
зорны чуецца брэх...
Мне сняжынкі на твар...
Шчасця знакі?
Азірнуся – бы ў міфе, слупом можна стаць...
Пайду проста – да ясных абрысаў:
там, дзе птушкі да мамінай хаты ляцяць.
Успамін мой прапахлы анісам.
Валунам б’е паклоны ўражлівы зрок –
рытуальна – як водзіць кулігі
засцянковая шляхта – у полі – знарок...
Аж да першай вясновай адлігі.
Абуджэння я ў неба ў малітве прашу.
Раздарожжа паволі знікае...
Каля мамінай хаты бачу поля мяжу.
Там сабачка блакітны гуляе.

## *АПОШНІ ГЕРОЙ*

Коціцца шарык...
І ў думцы маёй...
спыніцца там,
дзе апошні герой
царствы прайшоў...
І мне з міфа прынёс
дзіўныя рэчы:
грэбень для кос,
мантыю, стрэльбы, карону і рог...
Коціцца шарык з гары на мурог...

Толькі апошні герой
гэтай зімой...
Ён – не мой!
Мне не патрэбны –
ні пір і ні ўлада...
Магія, бітва...
Хіба гэта страта?
Нават і грэбень для кос ...
Яго сіла ...
Чуеш, герой?
Я ўсяго... не прасіла...

Можа, апошні герой – не герой?
Гэтай зімой...
Царствы прайшоў
разам з лютаўскім снегам,
рэчы прынёс... Але стаў чалавекам!?
З роду Багоў былі дзед яго, маці.
Ходзяць іх цені ў маёй соннай хаце.

## *НЕЗНАЁМЫ*

Ты – знаёмы-незнаёмы,
як ганчар які – без гліны ...
Вымаўляеш свае словы
як заўжды, да палавіны.
Ланцугом няпэўных сказаў
маю думку абвіваеш.
Не пярэчыла ні разу
табе ўчора. Сёння маеш –
ты намер быць непазнаным –
нібы госць які – без роду...
Ты мае парушыў планы...
І чамусь заводзіш моду
забаўляцца ценем плахі?

Не пазнаў маю свабоду?
Ты – які... І ты – ніякі...
Ты, як кат, але без царства –
без цара, ягонай світы...
Мне баліць тваё пляткарства...
Ты зусім не знакаміты!?
Адчуваю: вецер хуткі
пах наблізіць палыновы.
Знікнуць плёткі, сваркі, чуткі.
Ты – не *лёс мой*, Незнаёмы!

Ты проста – антыгерой.

## ПРА ВАЙНУ

Ляцяць птушкі ў нікуды
Так здаецца, сон мой рвецца...
І жывой няма вады...
Нежывая – толькі льецца....

Маску з твару Украіны
скульптар здыме (з белай гліны,
пасмяротную)... Данбас!!!
А з вайны ляцяць навіны:
сем забітых ў гэты раз...

Тэму «страшнага суда»
вызначае «несучаснай» –
рэпарцёр... І дождж заўчасны
мочыць «Шчасце». А вада...
нежывая, не напіцца...
Мо яна мне толькі сніцца?

А ні птушак, ні анёлаў...
Па траве ідзе палёнай
смерць з Луганска
ў горад «Шчасце».
Як спыніць яе? Мо ўпасці
перад ёю на калені,
пракрычаць: «Мяняй найменне,
стань вадой жывою з міфа!»
Ціха клацае бусліха.
І дзіця «ў блакітнай касцы»
пачынае забаўляцца:
кулі думкамі спыняе...

Першы год вайны мінае.

## *РАЗМОВА З РАДЗІМАЙ*

Мая Радзіма захварэла –
мо лёгкі вірус... Ці сур'ёзна?
І бачыць новы дзень не захацела...
Мо хто цябе пакінуў – слёзна?
Каб не вярнуцца...
А можа, гэтаю зімой
ты за суседкай не паспела...
у нешта лепшае абуцца?
А хочаш? Пазаві сяброў –
філосафаў, рамантыкаў-паэтаў...
І ты адчуеш пульс, загарачэе кроў...
Ты прыгадай – як добра было летам!
Як ружамі прапахлі росы!
Табе да твару шоўк блакітны неба...
Але ты захварэла. Вытры слёзы!!!
А мо, Радзіма, закахацца табе трэба?
Чаму гаворыш, што няма ў каго?
Ці твой герой, згубіўшы сваё рэха,
стаў БЕЗГАЛОСЫ і забыўся пра багоў?
Няўжо туга цябе апанавала?
Духоўную эліту ўсё ж заві!
Хай вып'е за тваё здароўе,
за сілу, дабрабыт сям'і...

Хай птушкі запяюць на беларускай мове...

* * *

Мы апынуліся, Паэзія, з табою ў «Часаслове».
Нас Лімбургі ўвялі ў свой каляндар,
дзе май спыняе ход свой на палове...,
дзе ў моду не ўвялі яшчэ муар.

На мне з табою майскія ліўрэі.
Паэзія, паглянь!:
Як з кавалькальды герцага ўсе д*а*мы захацелі
да чэрвеньскай мяжы давесці гэты май.

І мы, няўжо, у чэрвені... Сялянкі?...
Траву збіраем, нібы ловім час.
Стажкі глядзяцца ўзорам выцінанкі.
І неба Буржа – гэта не Праванс.

Які чысцюткі жніўны колер ў «Часаслове»!
Поль Лімбург разглядзеў... Вітае нас!?
Я ў сінім... Ты, Паэзія, ў ружовым...
Як сокала – мы ловім СЛОВАЧАС.



Вінцэсь Мудроў



...мы, албанскія студэнты, без усялякай прынукі,
яшчэ шчыльней згуртаваліся
вакол ЦК нашай партыі і Палітбюро
на чале з любімым правадыром...

# Албанскае танга

***Аповесць***

## I

Спавітае ранішняй смугой сонца вісіць над гарбатай гарой, ружовай фарбай заліўшы азёрную роўнядзь. Там, на другім беразе, яшчэ пануе цень, і смуга робіць невыразнымі рассыпаныя па горным схіле белыя будынкі Охрыда – места, у якім ён правёў мінулую ноч.

Возера сапраўды вялікае. Мяркуючы па атласе аўтамабільных дарог, да Охрыда не меней за пятнаццаць кіламетраў. Міколу наогул мала кранаюць розныя там краявіды. За дзень, праехаўшы тысячу кіламетраў, ад іх мігціць уваччу. Але тут, пабачыўшы ружовае люстра вады, спыніў машыну, вылез з кабіны, прыпаліў духмяную македонскую цыгарэту і зірнуў з-пад рукі на супрацьлеглы бераг.

Яшчэ рана. Палова сёмай па мясцовым часе. Сама пара прытапіць понаж газу і гнаць у бок Тыраны, ды

вось жа – цяжка адарваць вочы ад ружовага дзіва, пазначанага на мапе як Ohrid Lake.

“Памежны пераход прамінай як мага раней, калі малыя злодзеі яшчэ ў ложку”, – казаў перад паездкай Сёмка Гармозін. Сябрук часцяком ганяў фуры на Балканы і наслухаўся пра албанцаў рознага страхоцця. “На перавалах ідзеш на першай перадачы, а малеча ззаду бяжыць, за борт чапляецца. Разразаюць тэнт і цягнуць усё, што пад руку патрапіць”.

Тэнт яму разрэзалі яшчэ ў Македоніі, на пад’ездзе да Скоп’е, але нічога не ўзялі. Дый што было браць? У фуры пяцьдзясят тысяч асобнікаў “Новага Запавету” на албанскай мове ды пара сотняў паралонавых матрацаў. Ёсць яшчэ дваццаць скрыняў з галетамі вайсковага рацыёну, ды яны надзейна заваленыя кніжкамі. Матрацы ён выгрузіць у Тыране, а кніжкі трэба завезці ў Дзіракастру. Гэта на самай мяжы з Грэцыяй.

Мікола аглядае азёрны прасцяг, робіць апошнюю зацяжку і заўважае, як нешта круглявае і няўклюднае выпаўзае з-пад кола.

– Куды ты, дурніца? – Мікола падхоплівае чарапашку, што мерыцца перапаўзці дарогу. Чарапашка не хаваецца ў чарупіну; перабірае лапамі, незадаволена круціць галавой. Мікола нясе дурніцу да прыдарожнага куста і заўважае яшчэ адну чарапаху: прысадзістую, шэрую, бетонную. Яна запаўзла на вяршыню пагорка і глядзіць на яго, Міколу, чорнай шчылінай стральніцы. Падалося нават, што там, у цёмным нутры, нехта ёсць, нехта цікуе за ім, магчыма, нават цэліцца з базукі... Мікола сядае ў машыну, паварочвае ключ запальвання, «вольва» мякка коціцца з гары, і з-за пагорка выплывае яшчэ адна шэрая пачвара. Каб выехаць з сектара абстрэлу, ён ціснe на газ, стрэлка спідометра паўзе ўгору, і чарговы, спрэс змаляваны хлапечымі крамзолямі бетонны бункер паўстае перад вачыма. Нарэшце, на поўным ходзе, машына вылятае на перакрыжаванне, і сіні дарожны паказальнік з надпісам “Tiranë 122 km” прымушае схамянуцца і перавесці дыханне...

У нумары гатэля Мікола адразу ж распрануўся і стаў пад душ. Цёплы дожджык казытнуў спіну, крануўся падпахаў, гонкімі струменямі пакаціўся па целе, змываючы пыл балгарскіх, македонскіх і албанскіх дарог. Апошні раз ён мыўся пад душам два дні таму, у прыдарожным румынскім гатэліку, а таму нават застагнаў ад асалоды.

Праз чвэрць гадзіны, спавіўшы, як усходні султан, галаву махровым ручніком, Мікола ўпаў на ложак і заплюшчыў вочы. І адразу ж уваччу, як на экране чорна-белага тэлевізара, пабегла шэрая стужка шашы, цьмянай ртуццю бліснула рака на дне цясніны, і рукі, схапіўшы ў жменю коўдру, крутнулі руль. – Оф-ф! – вырвалася з грудзіны, і ён, задаволена ўсміхнуўшыся, кульнуўся на бок.

Страхоцці, пра якія распавядаў Сёмка, не спраўдзіліся. Малеча й сапраўды бегла за машынай, але ён адкупляўся таннымі цукеркамі, якія жменямі шпурляў у бакавое вакно. А вось самі дарогі тут зусім кепскія: вузкія, збітыя, лукаватыя, з кучамі смецця ў прыдарожных канавах. Асабліва цяжкім быў адцінак з Эльбасану да Тыраны. Давялося ўзбірацца на перавал вышынёй ніяк не меней тысячы метраў. Ужо на пад’ездзе да албанскай сталіцы, на разгоне, машыну занесла, і ён ледзь не кульнуўся ў бяздонную прорву. Вось і цяпер, змежыўшы павекі, згадаў глыбокую праваліну з бурлівай рэчкай на цёмным дне, і ў яго схаладнелі калені. І

ў той жа міг уваччу паўстала ружовае люстра вады, на другім баку бязмежнага возера мільганулі дамкі Охрыда, і цёплая хваля неабуднага сну прыняла ягонае змучанае дарогай цела.

Прачнуўся ён адвячоркам. Доўга ляжаў, закінуўшы рукі за галаў, аж пакуль не стаў кешкацца ў пошуках цыгарэт. Цыгарэты ляжалі на століку, і давялося – з гучным крэканнем – падымацца на ногі.

За вакном шумела фантанамі, гула рэдкімі аўтобусамі і стракацела матаролерамі албанская сталіца. Адсюль, з дзясятага паверха, будынкі і дрэвы глядзеліся казачнай дэкарацыяй. Леваруч стаяў гмах, падобны да маскоўскага палаца з'ездаў, тут жа падпіралі неба спічасты мінарэт з гадзіннікавай вежай – такія вежы даводзілася бачыць у Італіі; пасярэдзіне раскінуўся шырокі пляц з фантанам і конным манументам (трэба будзе распытаць – каму пастаўлены), а праваруч, адкінуўшы даўжэзны цень, высілася паўкруглая будыніна з квадратнымі калонамі, на франтоне якой можна было ўгледзець кароткае слова «Bank». З выгляду Тырана не цягнула нават на буйны абласны цэнтр. Адно што шырокая магістраль, якая працінала пляц навылёт, выглядала па-сталічнаму манументальна.

Ад цыгарэты злёгку закружылася галава, і Мікола адчуў страшэнны голад. Можна было спусціцца долу і паесці ў гатэльнай рэстарацыі, але рэстараны простым беларусам не па кішэні. Звычайна, прыехаўшы ў нейкі замежны горад, ён сілкаваўся ў вулічных кавярнях. Стравы там недарагія, а таму больш смачныя. Мікола нацягнуў на плечы чыстую кашулю і яшчэ раз зыркнуў у вакно, выглядаючы – у які бок лепш пайсці.

Кавярня, у якую завітаў, была невялічкай. Тут было прыцемна, аднекуль са столі гучала музыка – вельмі чужая для ягонага вуха, – а з кухні ішоў непрыемны пах авечага лою. Пах быў яму знаёмы: у Балгарыі, куды пару разоў ездзіў, у вулічных шынках таксама гэтак пахла.

Наведнікаў тут сядзела няшмат. Два старыя албанцы ў белых лямцавых фесках пілі з малюпасенькіх філіжанак каву, ды яшчэ двое мужчынаў ягонага веку штосьці елі з вялікіх талерак у розных канцах шынка.

Чарнявы кельнер, а можа гэта быў і сам гаспадар кавярні, павітаўся з ім па-албанску, і Мікола моўчкі кіўнуў. Потым тыцнуў пальцам у разяўлены рот, паказаў на вялікую талерку, у якой ягоны сусед-албанец лена боўтаў лыжкай – едзіва, відаць, было гарачым, – і кельнер, зразумеўшы, што перад ім іншаземец, з лагоднай усмешкай запытаў: «Джувеч?» Гэтак, няйначай, называлася страва. Мікола зноўку кіўнуў і краем вока заўважыў, што наведнікі разам на яго зірнулі. Халадок непакою, што нарадзіўся ў горле, папоўз долу, засяродзіўся пад дыхавіцай. І адразу ж згадаліся парады Сёмкі Гармозіна: прыедзеш у Тырану, па вуліцах асабліва не цягайся і абедай у гатэльным рэстаране.

Мікола ўвабраў галаў у плечы, утаропіўся на сальніцу, а калі падняў галаў і агледзеўся, дык з апалым сэрцам заўважыў, што албанцы па-ранейшаму з дзіўным утрапеннем глядзяць у ягоны бок.

Кельнер прынёс замоўленую страву даволі хутка. Паставіў на стол талерку, потым прынёс палову цытрыны на сподку, шклянку і збан з нейкім напоем.

– Англі? Італі? Франц? – хуткагаворкай запытаўся кельнер, змахнуўшы ручнікам крыхоткі з краю стала.

– Беларусь, – адказаў Мікола, а ўгледзеўшы непаразуменне на твары суразмоўцы, дадаў: – Гомель, – наіўна маракуючы, што албанец штосьці чуў пра гэты горад. Але, на здзіўленне, той знянацку сцепануўся і з панікай у голасе перапытаў: – Гомэл?

– Гомэл, Гомэл, – буркнуў Мікола, наліваючы са збана ў шклянку жоўтага, з памаранчавым пахам напою.

На хаду здымаючы хвартух, кельнер зазірнуў у кухню, штосьці крыкнуў па-свойму і выбег з кавярні.

«Ці не паліцыю пабег выклікаць?» – мільганула трывожная думка, але тут жа і знікла. Бо з якой нагоды яе выклікаць? З-за таго, што наведнік прыехаў з Гомеля?

Мужчына, які сядзеў непадалёку, прыязна яму ўсміхнуўся і выціснуў на едзіва сок з цытрыны. Мікола, падумаўшы, зрабіў тое ж самае. Страва – густа запраўленае перцам рагу – апаліла рот і давялося спехам глынуць жоўтага напою.

Два старыя албанцы даўно дапілі каву, але з-за стала не падымаліся: нахіліўшыся адзін да другога, пра нешта шапталіся, раз-пораз пазіраючы на іншаземца.

Мікола згадаў, як летась давялося наведаць Бялград, і тамтэйшы серб, на добрай расейскай мове, распавядаў, што албанцы выразаюць з жывых людзей ныркі, а потым прадаюць амерыканцам. Памацаўшы далонямі тыя мясціны, дзе мусілі быць ныркі, Мікола з трывожным непакоем глянуў на ўваходныя дзверы.

«А можа чарнявы пабег па лекараў, што ныркі выразаюць? Прыйдуць, дадуць па патыліцы ды ў кухню зацягнуць. Там і зробяць сваю страшную справу», – тым часам з проймы кухонных дзвярэй вытыркнуўся мурзаты твар падшыванца з насунутым на вушы кухарскім каўпаком. Хлопец бліснуў чорнымі вачыма, пачухаў лоб апалонікам. Мікола кіўнуў мурзе ў адказ, і ў яго адлягло ад сэрца. Вельмі ж прыязны быў твар у падшыванца, да таго ж перапэцканы сажай. Відаць, гэта быў сын чарнявага кельнера, бо надта ж да яго падобны.

Кельнер вярнуўся хвілінаў праз дзесяць. І не адзін, а з нейкім высокім і худым, як жардзіна, мужчынам. Паказаўшы пальцам на іншаземца, кельнер з лямантам пабег на кухню. На кухні штосьці прыгарэла, і адтуль цягнула шызым куродымам.

– Добры вечар, – прамовіў даўгяла па-расейку, чым вельмі здзівіў Міколу.

Рот іншаземца быў забіты джувечам, і той замест прывітання баднуў галавой.

– А вы сапраўды з Гомеля? – албанец прамаўляў амаль без акцэнту.

Мікола спехам праглынуў непражаванае едзіва, прыпаў да шклянкі з напоем, таргануў падбароддзем.

– А я ў вас вучыўся. У чыгуначным інстытуце. Трыццаць... – даўгяла ўзняў вочы да столі, зварухнуў бязгучнымі вуснамі – ...трыццаць адзін год таму.

Сустрэць амаль што земляка... і дзе... тут... у чужой, далёкай і дарэшты глухой краіне – гэта выглядала сапраўдным цудам. Мікола ўдыхнуў паветра, ратуючы апалены перцам рот, падумаў – што б такое сказаць у адказ, – і неўзабаве выдыхнуў:

– Так, у нас і тэхнікум ёсць чыгуначны, і інстытут.

Былы студэнт адкінуўся на прыслон крэсла, крыкнуў штосьці па-албанску, звяртаючыся, як бачна, да кельнера, і той выплыў з куродыму з пачатай пляшкай у руцэ.

– А я сяджу, галюся, а тут Далі залятае – брат мой... пазнаёмцеся, дарэчы. – Кельнер выцер аб хвартух рукі, і яны з Міколам парукаліся. – Бяжы, кажа, чалавек з Гомеля прыехаў. Джувеч замовіў. Я нават не дагаліўся, кінуў усё і пабег, – даўгяла правёў далонню па падбароддзі, правая палова якога блішчэла, а левая сівела шчэццю. – Трыццаць гадоў ніхто з Саюзу не прыязджаў, а тут раптам такі госць, ды з самога Гомеля!

Даўгяла напоўніў маленькія, ледзь не з напарстак кілішкі.

– Фернет, мы яго разам з кавай п'ем, – патлумачыў былы студэнт, і яны ўтрох кульнулі па чарцы.

Напой быў даволі моцны, гаркавы на смак і пахнуў рамонкамі.

– Брат кавярню трымае, на пару з жонкай. І сын дапамагае, – даўгяла ізноў напоўніў чаркі, крыкнуў у бок кухні: – Фатос!

Мурзаты хлопец пужлівым крокам выйшаў з кухні, шморгнуў перапэцканым сажай носам. Няйначай, атрымаў прачуханца ад бацькі.

Мікола памацаў рукою кішэні пінжака, маракуючы – што ж такое падараваць хлопцу. Нічога прыдатнага пад рукой не было, і ён выцягнуў з нутраной кішэні 5-доларавую паперку.

– Пляменніка Фатосам завуць. «Герой» значыць. Добры хлопец расце. Толькі ўвесь час у яго штосьці на патэльні падгарае, – прамовіў дзядзька.

– На, Фатос, купіш сабе што-небудзь. Больш, на жаль, нічога падараваць не магу, – Мікола прыцягнуў паперку, але хлопец адразу яе не ўзяў, з асцярогай зірнуў на бацьку і толькі пасля таго падхапіў грошы.

– У мяне таксама дома сын расце, толькі на пару гадоў старэйшы, – выдыхнуў Мікола, адчуўшы, што галава, хоць і выпіў зусім няшмат, пайшла колам.

Міколу раптам стала лёгка – на душы і ў целе. Так бывае, калі пасля доўгай дарогі вяртаешся дахаты і плюхаешся на тахту. І яму ўсё наўкол стала падабацца – і гэтая прапахлая лоем кавярня, і ціхая ўсходняя музыка, што лілася аднекуль са столі, і наведнікі, якія сядзелі ў кавярні і на якіх ён яшчэ паўгадзіны таму глядзеў з насцярогаю. І адзін са старых – тых самых, што сядзелі ў дальнім канцы шынка і пілі каву, – падняўся на ногі і заспяваў:

– Ходит парэнь – сама печал, смотрит парэнь куда-то вдал. А я вижу и з-за плетня-а косит взглядом он на меня...

Гэта была ўлюбёная песня маці. Мікола хацеў было таксама заспяваць, але не ведаў слоў, а таму падышоў да старога і пацiснуў сухую старэчую далонь.

Паволі насоўваўся змрок. Высокае неба мела фіялетавы водцень, у вокнах ужо гарэла святло, і толькі пакручастая гара, што падпірала горад з усходу, яшчэ была асветленая промнямі згасальнага сонца.

– Мяне, дарэчы, Петрытам завуць, – прамовіў албанец.

– А мяне Міколам, – адказаў госць, і яны парукаліся.

– Петрыт – гэта па-нашаму Пеця?

– Не зусім так. Па-албанску гэта значыць «сокал». Але калі вучыўся ў Саюзе, мяне толькі так і звалі: Пеця. А прозвішча маё Прыфці. Калі літаральна перакласці, дык па-вашаму будзе Папоў, – албанец вінавата пацёр рукі. – І як вам наша ежа?

Зачараваны краявідам, Мікола крутнуў галавой, зірнуў на залітую чырванню гару, нарэшце ачуўся:

– Смачна. Толькі чаму вы ўсё паліваеце авечым лоем?

– Як чаму? Бо без лою страва не будзе мець ні смаку, ні паху.

Петрыт выцягнуў з кішэні пачак албанскі цыгарэт, прапанаваў госцю.

– Мне вось у вашых сталоўках таксама не ўсё падабалася, – албанец пстрыкнуў запальнічкай. – Але была адна смаката... забыўся толькі назву... дракі?.. дранкі?

– Ці не дранікі?

– Так! Дранікі! – у вачах албанца мільганулі жарынкі барвовага сонца. – Мяне імі адна гомельская дзяўчына частавала.

Потым яны доўга ішлі моўчкі, і Мікола, каб парушыць маўчанне, зацягнуўся цыгарэтай і разам з дымам выдыхнуў:

– Добры тытунь.

Яны выйшлі на шырокі бульвар, і над іхнімі галовамі запаліліся вулічныя ліхтары.

– Нашыя цыгарэты, дурэскай фабрыкі. «DS» называюцца, – суразмоўнік знянацку насупіўся. – Памятаю, як з вакацый у Саюз вяртаўся, заўсёды цыгарэты браў. Адразу ж, у інтэрнаце, усё і прадаваў. Жылі бедна, грошай не было, а тут такі прыробак.

Мікола слухаў албанца, заўважаючы адну асаблівасць: чаго б ні тычылася размова, суразмоўца адразу ж згадваў свае «гомельскія» часіны. Вось і цяпер, ідучы вечаровым бульварам, Петрыт распавядаў, як яны, трое албанцаў, жылі ў студэнцкім інтэрнаце, як смажылі бульбу на пазычанай у суседнім пакоі патэльні, як бегалі на дзённыя сеансы ў кінатэатр імя Калініна і як праходзілі вытворчую практыку ў паравозным дэпо. Разпораз, калі ішлі міма нейкай будыніны, Петрыт каротка тлумачыў – што ў ёй месціцца, – а потым ізноў апавядаў пра сваё студэнцкае жыццё. «Гатэль «Дайці», – тлумачыў Петрыт, калі яны спыніліся на імгненне перад чатырохпавярховым, пазначаным разлеглымі лоджыямі будынкам, – італьянцы праектавалі»... «Вось тут, адразу за гатэлем, помнік Леніну стаяў... летась разбурылі»... «А вунь піраміду бачыш? Музей Энвера Ходжы... цяпер разбіты ўшчэнт»... «Гмах з калонамі – гэта Палац культуры. У 1959 годзе Хрушчоў, як быў у нас, першы камень у падмурак закладаў»... «А гэта помнік Скандэрбегу, нашаму нацыянальнаму герою...».

Днём, з акна гатэля, манумент нацыянальнаму герою здаваўся невялічкім, а цяпер, у святле ліхтароў, уражваў сваёй масіўнай веліччу. Скандэрбег сядзеў на кані, прытуліўшы да плечука вялізны меч і пагрозліва пазіраў на гатэль, дзе надоечы пасяліўся Мікола.

– А хто ў вас, у Беларусі, цяпер галоўны нацыянальны герой? – знянацку запытаўся Петрыт, калі яны падыходзілі да гатэля.

– Ленін, відаць, – адказаў Мікола пасля хвіліны роздуму, – ягонымі помнікамі ўсё скрозь застаўлена.

– Яшчэ не знеслі? – з лёгкай іроніяй перапытаў албанец, і беларус з неахвотай страсянуў галавой.

На прыступках гатэля яны паціснулі адзін аднаму рукі, але потым яшчэ цэлую гадзіну гаманілі і дамовіліся, на радасць Міколу, заўтра ад ранку ехаць у Дзіракастру – на радзіму Энвера Ходжы. У тым горадзе, як высветлілася, у Петрыта жыла родная сястра. Таму і падахвоціўся завітаць да яе на спадарожнай машыне.

Падняўшыся ў нумар, Мікола рашуча адсунуў цяжкія парцьеры і прачыніў вакно. Лёгкі ветрык крануўся твару, зварухнуў чупрыну на ілбе.

Дзесьці на даляглядзе плылі featнакаляровыя агеньчыкі, зырка асветлены мінарэт праціnaў цёмнае неба сваім вострым спічаком, і Скандэрбег, на якога былі скіраваныя промні двух пражэктараў, усё так жа сувора і патрабавальна паглядаў у бок гатэля.

Дзесьці ўнізе, відаць, у рэстарацыі гучала музыка. Гэта была сумная мелодыя, падобная да танга, ад якой у Міколы пацяплела ў грудзіне. Стваралася ўражанне, што не сонны ветрык, а плынь шчымлівых зыкаў уварвалася ў ваконную пройму і казыча лабаціну.

«Дзівак гэты Петрыт: не пра ўласную кішэнь дбае, а пра дзяржаву», – падумаў Мікола, паваліўшыся на ложак. Петрыт, як вынікала, быў ягоным аднагодкам і працаваў інжынерам на будаўніцтве чыгункі. Апошнюю лінію, якую будавалі, так і не здалі ў эксплуатацыю – у дзяржавы скончыліся грошы, – а сам ён застаўся без працы. Але вось жа чалавек – пра сваё беспрацоўе толькі мімаходзь згадаў, а пра тое, што дарогу не дабудавалі, распавядаў траха не са слязьмі на вачах. «Уяўляеш, Мікола, столькі людзей туды сагналі, столькі жалеза ды бетону ў масты ўбухалі, столькі друзу завезлі, нарэшце, столькі лесу на шпалы парэзалі – і ўсё марна». Цяпер небарака жыў з таго, што чытаў лекцыі ва ўніверсітэце – чатыры гадзіны на тыдзень – ды пісаў цішком курсавыя працы нядбалым студэнтам. Петрыт наогул шмат чаго распавёў, але было адчуванне, што ён хоча яшчэ пра нешта распавесці, ды ніяк не наважваецца.

У шчыліну прачыненага вакна струменіла ўся тая ж шчымлівая мелодыя. Мікола слухаў яе і яму здавалася, што гукі танга кранаюцца цела сваімі цёплымі струменямі і абмытае цела пазбываецца цяжару і ляціць па горнай дарозе ў замарачы салодкага сну.

## II

А дзявятай гадзіне раніцы Мікола падагнаў фуру да знаёмай кавярні. Петрыт з братам закінулі ў кодаб пару скрыняў – падарункі для старэйшай сястры, – і ледзь не сілком зацягнулі вадзілу да стала. Той казаў, што паснедаў у гатэлі, што ён сыты, але ўсё адно мусіў з'есці місу гарачага плову.

«Пры-язд-жай-це яш-чэ», – прамовіў гаспадар кавярні па-расейску, і яны доўга і шчыра ціснулі адзін аднаму рукі. Мікола хацеў таксама развітацца з Фатосам, які ўвесь час круціўся ля машыны, але падшыванец некуды знік, і таму давялося на знак развітання каротка пасігналіць.

Аўтастрада, на якую неўзабаве выехалі, бліскала новым асфальтам і стамляла вочы белай стужкай разметкі. А можа гэта і не стужка стамляла вочы, а панылы краявід за ветравым шклом. Там, наперадзе, пукаціліся прысадзістыя горы. Яны былі падобныя да гарбоў драмадэраў і дарога, каб іх абмінуць, увесь час адхілялася ўправа.

Ціснучы на понаж газу, Мікола адчуў раптам, што чагосьці ў тым краявідзе не хапае, чагосьці бракуе гэтым палям і пакрытым вінаграднікамі пагоркам, і нават устурбавана зірнуў па баках, але тут жа перавёў дых: з-за павароту, уехаўшы па самую шчыліну амбразуры ў зямлю, выплыў бетонны бункер. Мікола скоса зірнуў на спадарожніка, і той з вохканнем уздыхнуў.

– Нават не ведаем – колькі іх згламэздалі, – прамовіў Петрыт, дадаўшы

штосьці па-свойму. – Відаць, вылаяўся. – Хто кажа шэсцьсот тысяч, хто восемсот.

– А навошта іх столькі?

– Усе пытанні да нашага правадыра. Праўда, ён ужо памёр, папярэдне звар'яцеўшы.

Мікола зірнуў у бакавое вакно і са здзіўленнем заўважыў, што яны абганяюць цягнік. Раўналежна аўтастрадзе, прыхаваная густымі кустамі, ішла чыгуначная лінія, па якой, вельмі павольна, рушыў манеўровы цеплавоз з трыма пасажырскімі вагонамі. Вагоны былі вузенькія – такія даводзілася бачыць у Швейцарыі, – але ў адрозненне ад швейцарскіх, албанскія выглядалі дарэшты дабітымі. Сям-там нават не было дзвярэй і шыбаў. Цягнік быў поўны людзей.

– Моладзь купацца едзе, – прамовіў суразмоўнік, апусціўшы шыбу. Петрыту было відавочна няёмка, што па чыгунцы, якую ён, магчыма, будаваў, сноўдаюць такія пацёханыя вагоны.

На вузкай паласе, што падзяляла чыгуначны насып і аўтастраду, паўсталі чатыры ці нават пяць бетонных чарапах. Усе яны былі змаляваныя крамзолямі, а адна, самая крайняя, была пафарбавана ружовай фарбай. Якраз перад самай паездкай у Албанію Мікола прачытаў у газеце артыкул пра Энвера Ходжу, і яму хацелася даведацца непасрэдна ад тубыльца тутэйшых мясцінаў – ці праўда ўсё тое, што пішуць пра «албанскага Сталіна».

Мікола прыпаліў ад падстаўленай спадарожнікам запальнічкі, пераключыў перадачу. Дарога чарговым разам пайшла на пад'ём, і рухавік загуў з лёгкай натугай.

– А чаму, як ты думаеш, Ходжа палаяўся... з гэтым, як яго... з Хрушчовым?

Кабіна напоўнілася дымам, і Петрыт прыадчыніў акно.

– Ды ўсё вельмі проста. Хрушчоў хацеў Ходжу скінуць, каб паставіць на чале Албаніі свайго чалавека, той і перакінуўся да кітайцаў.

Такі адказ крыху збянтэжыў Міколу. Няўжо ўсё так проста ў гэтым свеце? Але, падумаўшы, мусіў у думках пагадзіцца з суразмоўнікам.

– Ну а што кітайцы?

Суразмоўцу, падобна, гэтая тэма не надта была даспадобы. Ён таксама прыпаліў цыгарэту, доўга глядзеў на дарогу.

– Ды панаехала іх процьма. І ўсе скрозь у аднолькавых сініх фрэнчах. Мы гэтых кітайскіх таварышаў міжсобку пацукамі называлі. А ў 78-м годзе ўсіх разам пасадзілі на караблі – і-і... – Петрыт па-ленінску выставіў далонь, паказваючы ў якім напрамку выправілі дарагіх сяброў, бліснуў вачыма, згадваючы штосьці, і, пасля паўзы, запытаў: – Як гэта беларусы кажуць, калі дадому едуць?

– Дахаты! – Мікола пераключыў перадачу, і машына пайшла больш жвава.

– Вось-вось... дахаты... – узрадаваўся Петрыт, згадаўшы забытае слова.

Суразмоўца на хвіліну змоўк, прыпаліў патухлую цыгарэту і загаварыў з інтанацыя захаплення.

– А вось вашых, савецкіх, албанцы паважалі. У нашым горадзе лекар быў, з Ленінграда, па прозвішчы Лявонцьеў. Да яго хворыя нават з далёкіх мясцінаў ішлі, нават з гор спускаліся. Дык ты ведаеш, некаторыя маці ягоным прозвішчам сваіх дзяцей называлі.

Машына тарганулася ў апошнім высілку, штурмуючы пад'ём, і піка-

ціла долу. Ды так шпарка, што давялося злёгку загамаваць. Мікола зірнуў наперад, і цыгарэта траха не выпала з разяўленага рота. На даляглядзе, ва ўсю сваю неабсяжную шырыню, ляжала сіняе мора. Уражаны гэтай сіняй бязмежнасцю, Мікола нават крутнуў руль не ў той бок, пусціўшы між колаў раздзяляльную паласу, але тут жа засяродзіў позірк на дарозе.

Спадарожніка, як выглядала, марскі прастор не надта ўражваў. Ды яно і зразумела: на сваім жыцці ён бачыў гэты краявід тысячы разоў. Таму і глядзеў наперад безуважнымі вачыма, раз-пораз зацягваючыся цыгарэтай, і шчокі ягоныя пры гэтым глыбока западалі, і кусцістыя бровы лезлі на лоб.

– Зараз Дурэс будзе, наш галоўны порт, але мы ў цэнтр заязджаць не будзем – павернем налева. І потым ужо ўвесь час паедзем на поўдзень.

Дурэс, мяркуючы па ўсім, быў даволі вялікім местам. Мікола доўга круціў галавой, намагаючыся пабачыць порт, але той, відаць, быў закрыты пагоркамі. Пагоркаў было шмат, і на самым высокім з іх стаяла нейкая спаруда.

– Лецішча караля Зогу, – паведаміў спадарожнік, перахапіўшы Міколаў позірк. – Быў тут у нас такі да вайны. Спачатку ў прэзідэнтах боўтаўся, потым каралём сябе абвясціў. У 39-м, калі італьянцы пайшлі вайной, збег за мяжу і больш мы яго не бачылі.

«Цікавая ў гэтых албанцаў гісторыя. Аказваецца, да вайны ў іх быў кароль», – машына выехала на скрыжаванне, і Мікола, запытальна зірнуўшы на спадарожніка, павярнуў налева. «А што ў нас? Спачатку была Кіеўская Русь, затым заявіліся літоўцы, потым палякі, потым расейцы... Карацей, нічога свайго... ні дзяржавы, ні мовы, ні караля». Мікола хацеў падзяліцца такімі думкамі са спадарожнікам, але прамаўчаў: сустрэчных машын пабольшала, і трэба было сачыць за дарогай.

Аўтастрада бегла ўздоўж самага берага, на якім завіхаліся, гулялі ў валейбол і проста ляжалі на пяску бронзавыя ад загару людзі. Надвор'е з раніцы стаяла пахмурнае, цяпер жа свяціла сонца, і бліскі на вадзе і белата прыбярэжнага пяску адбіралі вочы. Там-сям на беразе грувасціліся карпусы ці то санаторыяў, ці то гатэляў; уздоўж дарогі доўгім шыхтом стаялі пальмы з калматымі стаўбурамі; тут жа цвялілі неба сваімі вершалінамі цёмныя кіпарысы, і ў Міколы было такое адчуванне, што ён патрапіў у нейкую казку. Але чым далей ад'язджалі ад Дурэса, тым больш малалюдным рабіўся бераг, і белыя карпусы санаторыяў ужо не ўздымалі свае лоджыі сярод буйнай зеляніны, і само мора, як падалося, стала больш бурлівым, і на ім з'явіліся белыя грывы хваляў. І з кожным кіламетрам на душы расло і ўбіралася ў сілу жаданне нырцануць у празрыстую глыбіню белагрывага мора.

«І сапраўды – наведаў Албанію і не паплаваў у моры. Гэтага мне не даруюць – ні мае продкі, ні мае нашчадкі», – з гэтаю думкай Мікола скінуў хуткасць, узʼехаў на ўзбочыну і спыніў машыну.

– А ці можна тут пакупацца?

Петрыт перасмыкнуў плячыма, маўляў, чаму ж не, і яны выйшлі з машыны.

– Раскинулось море широко, – заспяваў Петрыт, прычым прыгожым лірычным барытонам. – И волны бушуют вдали, – падхапіў Мікола, і яны разам засмяяліся.

– Ці не ў оперы працавалі? – запытаўся Мікола, уражаны вакалам спадарожніка.

– У оперы не працаваў, а вось у мастацкай самадзейнасці даводзілася розныя арыі выконваць.

Бераг быў бязлюдным, і Мікола яшчэ па дарозе скінуў з сябе вопратку.

Ён адплыў метраў на сто – далей плыць не выпадала: хвалі былі даволі вялікія і маглі зацягнуць у мора, – лёг на спіну, яго пачало люляць на хвалях, і Мікола ад захаплення нават забыўся – дзе ён, і што з ім, і хто махае яму рукой з берага, папярэджваючы, каб далёка не заплываў. Петрыт у ваду не палез. Сказаў, што надоечы памыўся ў лазні. Ну вядома, калі б спадарожнік праехаўся ад Беларусі да Албаніі, кіруючы цяжкой фурай, дык першым бы кінуўся ў ваду. Магчыма, нават не зняўшы вопраткі.

Добрых паўгадзіны Мікола чабохтаўся сярод белагрывых хваляў, наглытаўся салёнай марской вады і на бераг выбраўся дарэшты стомлены і шчаслівы. Ён паскакаў на правай назе, выліваючы ваду з вуха і са здзіўленнем заўважыў ледзь не перад самым носам бетонны бункер. Бункер па самую амбразуру ўнурыўся ў пясок і шурпатую паверхню пакрывалі рудыя пісягі ад іржавай арматуры. Мікола падышоў бліжэй, паляпаў рукой па бетоне.

– А ці нельга іх неяк выкарыстаць? – крыкнуў ён спадарожніку, які сядзеў зводдаль на пяску і з задуменнем на твары смактаў цыгарэту.

– Ды як іх выкарыстаеш... – Петрыт падняўся на ногі, абабіў калашыны гаматных штаноў. – У вёсках сена захоўваюць, склады нейкія робяць. А ў гарах іх вужакі прыгледзелі. Я аднойчы залез у адзін такі, дык іх там цэлы жмутак, сашчапіўшыся, поўзаў.

– А чаму на беразе паставілі?

Петрыт адкінуў недапалак цыгарэты, пачухаў пераноссе.

– Мы, албанцы, ва ўсе часы крыху пабойваліся мора. Бо заваёўнікі заўсёды плылі да нас па вадзе. І толькі туркі прыйшлі адтуль, – Петрыт махнуў рукой у бок фуры, – з-за гор. І мы іх годна сустрэлі. Бо горы – наш родны дом.

Непадалёку загуў цягнік – чыгунка па-ранейшаму ішла поруч з аўтастрадай – і гэта быў сігнал вяртацца да машыны. Заехаць у Дзіракастру трэба было да цемнаты.

Яны ўжо залезлі ў кабіну, хацелі разам прычыніць дзверцы, ды раптам за спінамі, унутры фуры, штосьці бразнула. Мікола з Петрытам пераглянуліся, спалохана выкуліліся з кабіны. Не было сумневу, што ў фуру ўбіўся злодзей, і Мікола, скокнуўшы на зямлю, выхапіў на ўсякі выпадак з-пад сядзення пакарабачаную манціроўку.

Тэнт быў цэлы, рамяні, на якія фура была зашпілена, ніхто не чапаў, і спадарожнікі перавялі дых. Кіроўца, аднак, вырашыў паглядзець – што там грымнула і раскрыў тэнт. На кучы паралонавых сеннікоў сядзеў і з вінаватай усмешкай на твары грыз галету Петрытаў пляменнік Фатос.

Петрыт штосьці крыкнуў па-албанску, і падшыванец, надзьмуўшы вусны, скокнуў на зямлю.

– Не, вы бачылі яго? Бацька не пусціў у Дзіракастру, дык ён, пакуль мы снедалі, у фуры схаваўся, – ужо звяртаючыся да Міколы, выдыхнуў дзядзька падшыванца і зноўку загаварыў па-албанску, пагрозліва зіркаючы на нябожа.

Цяпер яны ехалі ў кабіне ўтрох: паміж Міколам і Петрытам сядзеў гарэза Фатос. Дзядзька ўвесь час упікаў пляменніка, нават абурана махаў рукамі, але потым аціх і прамармытаў:

– Зараз горад будзе... Кавая называецца... Трэба да пошты пад'ехаць. Брату патэлефаную. А то ж гэтага вісуса ўжо, відаць, па ўсёй Тыране шукаюць.

Вісус глядзеў з-пад ілба на дарогу, сюд-туд шморгаў носам, і Мікола, каб падбадзёрыць хлопца, жартам паляпаў таго па плячы.

## III

Летнімі вечарамі Улёрская бухта нават не ўражвае, а папросту хвалюе сваёй прыгажосцю. Паўвыспа з усходняй назвай Карабурун глыбока ўбіваецца ў мора, утвараючы ўтульную затоку, а выспа Сазан, якая паўстае на даляглядзе двума пакручастымі пагоркамі, закрывае яе ад няўрымслівых хваляў. Таму вада летнімі вечарамі тут амаль заўсёды спакойная, і агнявокае сонца ледзь прыкметна гайдаецца на водным люстры.

Ля самага берага прытулілася шыкоўная, пабудаваная ў італьянскім стылі віла. Перад ёю, на адкрытай верандзе, сядзелі ў плецёных крэслах трое паважных, злёгку падпітых мужчынаў. Перад імі, на століку, стаяла крыштальная ваза з памаранчамі, бананамі і жоўтым вінаградам. Той, што сядзеў па цэнтры – лысы, апрануты ў белую сарочку, – узяў са стала бінокль, прыклаў да пераносся.

– Гэта казармы савецкіх маракоў, – патлумачыў шыракаплечы бамбіза, зыркнуўшы ў той бок, куды быў скіраваны бінокль. – Бамбіза сядзеў поруч і цадзіў белае віно з вялікага келіха. – А ніжэй, у затоцы, нашая плаўбаза, на якой мы ўчора былі.

– А вунь там, на выспе, гляджу, таксама нейкія антэны...

– Там, Мікіта Сяргеевіч, базіруецца наш асобны радыёатрад, – прамовіў бамбіза, казелячы вокам на чарнявага, са шляхотнай сівізною на скронях мужчыну, які кагадзе сядзеў па другі бок ад лысага, а цяпер падхапіўся на ногі, махнуў кельнеру і рушыў у бок вілы. – Мяркуючы па імпэце, з якім уладальнік шляхотнай сівізны ўзняўся з крэсла, яму карцела ў прыбіральню.

– Цудоўна, проста цудоўна! – з захапленнем, але ціха, каб не пачулі ахоўнікі, прамовіў лысы, падстаўляючы кельнеру пусты келіх.

– Сапраўды, цудоўная мясціна, – ліслівa пагадзіўся суразмоўнік.

– Ды я не пра тое... – лысы надзьмуў мясістыя вусны – такія ў народзе называюць «грыбамі». – Якая надзейная ў вайсковым плане бухта. Калі тут размясціць флот, усё Міжземнамор'е – ад Басфора да Гібралтара – будзе ў нашых руках! Мы, бляха, любога можам заціснуць у кулак! – лысы патрос кулаком, праліўшы на штаны віно з паўнюткага келіха. – Колькі, кажаш, у нас тут падлодак?

– Дванаццаць, Мікіта Сяргеевіч, – бамбіза з насцярогаю азірнуўся. – Лысы ўжо быў і так нападпітку, а тутэйшы кельнер усё падліваў і падліваў.

– Што там дванаццаць, – лысы схапіў са стала мадэль падводнай лодкі, якую яму падаравалі надоечы савецкія маракі, памахаў ёю, як булавой. – Нам трэба іх тут штук сорак, не меней!

– Мікіта Сяргеевіч, – бамбіза ізноў азірнуўся, – час ужо, напэўна, і ў ложак. Вунь, і гаспадар некуды знік.

– Ты думаеш? – буркнуў Мікіта Сяргеевіч, ухапіўся за падлакотнікі крэсла, і адразу некалькі чалавек, што стаялі ў разнасцежаных дзвярах вілы, кінуліся дапамагаць яму падняцца на ногі.

Уладальнік шляхотнай сівізны, аднак, і не думаў ісці ў прыбіральню. Проста пастаяў, з устурбаванай гіморай на твары, на лесвіцы, што вяла на другі паверх, а ўбачыўшы ў пройме ўваходных дзвярэй Мікіту Сяргеевіча, якога вялі пад рукі, раскрыліў рукі і ўжо са здзіўлена-шчаслівым тварам заенчыў:

– А куды ж вы, госці дарагія? Зараз шашлыкі прынясуць...

Перакладчык, што ўзнік за спінамі дарагіх гасцей, пераклаў гэтыя шчаслівыя енкі на расейскую мову, і бамбіза, трымаючы лысага за руку, павярнуў галаву і адмахнуўся ад перакладчыка, як ад мухі-назолы.

Скроні чарнявага тыпуса ў тую хвіліну пасівелі, здаецца, яшчэ больш. Ён выйшаў на веранду. На століку, за якім яны толькі што сядзелі, стаялі недапітыя келіхі, ляжаў перакулены дагары нагамі макет падводнай лодкі, а пад самім сталом валялася крамяная памаранча. Кельнер кінуўся пад стол, падняў яе і ледзь чутна прашаптаў:

– Хрушчоў сказаў: «Цудоўна», а Якубоўскі яму ў адказ: «Так, цудоўная мясціна». Хрушчоў перакрывіўся і кажа: «Ды не, добрая бухта ў вайсковым плане. Калі тут размясціць флот, усё Міжземнамор'е – ад Басфора да Гібралтара – будзе ў нашых руках, – голас кельнера памацнеў, і чарнявы тыпус, павёўшы вачыма, прасіпеў:

– Ды цішэй ты... пачуць могуць. Запішы, пакуль не забыўся, увесь дыялог і заўтра ад гасцей не адыходзь ні на крок.

– Слухаюся, таварыш Энвер, – выдыхнуў кельнер, і той, каго звалі Энверам, перахапіў з ягоных рук памаранчу. – Гэтыя фрукты ды іншую экзатычную садавіну дыпламаты прывезлі аднекуль з Афрыкі, бо ў Албаніі яны выспявалі толькі ўвосень.

Кельнер, вядома ж, быў супрацоўнікам «сігурымі» і добра ведаў расейскую мову.

Той, каго звалі Энверам, плюхнуўся ў плеценае крэсла, зірнуў, прымружыўшы вочы, на барвовае сонца. Сонца вісела над выспай Сазан і было падобнае да вялізнае памаранчы. І зноўку згадалася тое, што назаўсёды адбілася ў памяці і нават з'яўлялася ў снах: Сталін ідзе па сваім разлеглым кабінеце, падыходзіць да стала, на якім стаіць ваза з памаранчамі, бярэ адну з іх у руку і пытаецца: «А ці не з'яўляецца ваш народ спакрэвічам баскам? Як, напрыклад, называецца па-албанску гэты фрукт?» «Партакал», – адказвае ён пераселым ад хвалявання голасам, і правадыр народаў, паўтарыўшы албанскую назву, торгае плячамі. Албанская назва, мяркуючы па ўсім, правадыра не задаволіла. Там, у сталінскім кабінеце, ён страшэнна хваляваўся, і потым доўга маракаваў: з якой прычыны правадыр згадаў баскаў? І толькі праз пару гадоў даведаўся, што Сталін здаўна цікавіўся паходжаннем індаеўрапейскіх моваў і што тэзу пра роднасць баскаў і албанцаў яму ўвёў у вушы Ціта – той ужо некалькі разоў наведваў Крэмль.

Першы раз Энвер прыляцеў у Маскву дванаццаць гадоў таму. Стаяў спякотлівы ліпеньскі дзень, і маскоўскае сонца, як падалося, свяціла больш пранізліва, чым албанскае. Вострыя сонечныя бліскі праціналі ўсё наўкол, і ўсё наўкол урачыста зіхацела. Зіхацела пенснэ Молатава, які сустракаў яго ля трапа самалёта; зіхацелі штыхі ганаровай варты; мікрафоны, перад

якімі ён выступаў на аэрадроме; вокны навакольных будынкаў і абмыты палівальнымі машынамі асфальт на вуліцы Горкага, па якой яго везлі. А можа гэта проста падалося, і нічога там асабліва не зіхцела? Проста слязіліся вочы ад поту, што збягаў па ілбе. Ён быў у вайсковай форме – у юхтовых ботах, закрытым кіцелі савецкага ўзору, – і проста знемагаў ад спёкі. Гэты чортаў кіцель яму пашылі год таму, напярэдадні паездкі ў Бялград. Ціта, да якога ён тады ехаў, выхваляўся сваім маршальскім уборам, таму і давялося пашыць генеральскую форму. І потым, у Бялградзе, а цяпер у Маскве пацець даводзілася, як у турэцкай лазні.

Напачатку меркаваў, што адразу патрапіць на прыём да Сталіна, але яму паведамілі: «Язэп Вісарыёнавіч прыме вас пры першай жа магчымасці». А калі канкрэтна такая магчымасць з'явіцца – не сказалі.

Два дні ён знаёміўся з савецкай сталіцай, наведваў розныя музеі ды выставы, а на трэці дзень, ад самага ранку, албанскую дэлегацыю падвезлі да маўзалея. Не без хвалявання пастаяў ён каля ленінскага саркафага, потым прайшоўся ўздоўж крамлёўскага мура, па складах чытаючы прозвішчы пахаваных там дзеячаў, нарэшце, яго завялі ў музей Леніна, дзе давялося змарнаваць дзве гадзіны, і калі выходзіў з музея, пачуў: «Язэп Вісарыёнавіч сёння ўвечары прыме вас у сваім працоўным кабінеце».

Калі, на ватных нагах, ён увайшоў у разлеглы, падобны да залы, кабінет і ўбачыў рабаціністага недаростка, што падняўся з-за стала, дык не пазнаў у ім вялікага Сталіна, пра якога столькі чуў, столькі чытаў і партрэты якога віселі па ўсёй Албаніі. І толькі калі пабачыў недаростка зблізку і паціснуў мяккую, сухую навобмацак руку, пераканаўся, што перад ім правадыр сусветнага пралетарыяту. ...Тады, у галодным 1947-м, Сталін даў Албаніі 6 мільёнаў долараў і дармавую зброю. І вось цяпер, напярэдадні візіту Хрушчова, ён загадаў прыбраць з вуліц сталінскія партрэты.

– Энвер! – пачуўся з-за спіны дакорлівы жончын голас.

«Так, трэба ісці спаць», – падумаў Энвер, паціраючы скроні. Сонца ўжо напалову схавалася за небасхіл, кідаючы апошнія кволыя промні на двухгорбую выспу. Цяпер ужо і без бінокля можна было ўгледзець на вяршынях гарбоў высокія мачты – савецкія вайскоўцы разгарнулі там станцыю радыёсачэння, – і Энвер, пазіраючы на выспу, кожнага разу ўздыхаў. Яму здавалася, што саветы цяпер чуюць кожнае прамоўленае ім слова.

Набліжаўся да скону восьмы дзень візіту Мікіты Хрушчова ў Албанію. За гэтыя восем дзён Энвер дарэшты асіп, чытаючы прамовы на мітынгах, якія ладзілі з нагоды візіту, збіў ногі, бегаючы за высокім савецкім госцем, і кінуў сам сябе паважаць ад тых дыфірамбаў, якімі мусіў ганараваць пасланца далёкай Масквы. Хрушчоў, між тым, паводзіў сябе як той сакратар райкаму партыі, што прыехаў з праверкай у падуладны калгас. «А што ў цябе там?» – пытаўся, паказаўшы пальцам на які-небудзь пакарабачаны комін. – «А што вунь там?» І даводзілася запабежліва, на паўсагнутых нагах, тлумачыць шаноўнаму мусафіру[1], што гэта дыміць комін кацельні, а вунь там, пад гарой, у нас тытунёвая плантацыя. Мала таго, давялося разгортваць перад цікаўным госцем планы арашальных каналаў і дрэнажных сістэм. Хрушчоў няўцямна, закапыліўшы губу, глядзеў на гэтыя планы, усім сваім выглядам даючы зразумець, што яны яго мала цікавяць. Высокага

[1] Госцю (*алб.*).

госця – гэта Энвер ведаў дакладна – цікавіла толькі адно: магчымасць разгортвання на албанскім узбярэжжы ваенных баз.

Гэтую ноч Хрушчоў са сваім міністрам абароны Маліноўскім гасцяваў у летняй рэзідэнцыі Энвера на беразе Улёрскай бухты. Віла і ранейшым часам добра ахоўвалася, цяпер жа ахоўнікі сядзелі ледзь не пад кожным дрэвам.

Энвер сцярожка, бязгучным ценем, праслізнуў у спальню, распрануўся да трусоў. Потым падышоў да вакна, адсунуў штору. Знадворку ўжо панаваў прыцемак. Ад бліжэйшага да вакна дрэва аддзялілася чыясьці размытая постаць. Вілу сёння ахоўвалі не толькі ягоныя людзі, але і савецкія гэбісты.

– Ну як там? – запыталася Нэджміе. Жонка ўжо ляжала ў пасцелі, да падбароддзя накрыўшыся прасцінай.

– Напіўся... як свіння.

Жонка ўзбіла падушку, з дакорам выдыхнула:

– Энвер!

Нэджміе не здавалася – яна была перакананая, што саветы праслухоўваюць іхнія размовы.

Энвер плюхнуўся на свой ложак – спалі яны паасобку, бо разам ляжаць было горача, – закінуў рукі за патыліцу.

– Во прыспелі часіны – на ўласнай віле слова не скажы. Хто тут, урэшце, гаспадар? Я ці Мікіта?

– Энвер! – ужо з трывогай у голасе паўтарыла Нэджміе.

Тое, што Хрушчоў збіраецца яго прыбраць і паставіць на чале партыі і дзяржавы свайго чалавека, Энвер даведаўся яшчэ тры гады таму – ад надзейнага інфарматара з Масквы. Ды што там інфарматар. Тут і так усё было зразумела.

Энвер таксама ўзбіў падушку, змучана ўздыхнуў.

Усіх кіраўнікоў, што паважалі і любілі Сталіна, ціха, без пылу і шуму, даканалі. Готвальд, які ніколі не скардзіўся на здароўе, памёр немаведама ад чаго. Берута выклікалі ў Маскву і назад у Варшаву небараку прывезлі ў цынкавай труне. Ракашы сядзеў недзе ў Саюзе пад хатнім арыштам. Чэрвенкава абвінавацілі ў культце асобы і скінулі з пасады. Добра яшчэ, што не забілі. Пры ўладзе застаўся толькі ён, Энвер Ходжа.

– Але я проста так не здамся! – прашапталі сасмяглыя вусны, і Нэджміе, прыўзняўшыся на ложку, запытала: – Можа, снатворнага даць?

Муж махнуў рукой, адвярнуўся да сценкі.

Усё ж такі дарма ён даў згоду на размяшчэнне савецкай базы тут, у Улёрскай бухце. А ўсё з-за чортавых савецкіх крэдытаў, без якіх краіне проста не выжыць. Цяпер вось збіраюцца непадалёку, за пяць кіламетраў ад вілы, будаваць ваенны аэрадром. Пабудуюць і прылятуць пэўнай ноччу... на дэсантных самалётах. Аточаць вілу, а хто будзе супраціўляцца – перастраляюць. І ў той жа дзень пленум арганізуюць, які назавуць гістарычным і на якім рашуча асудзяць яго, Энвера, культ асобы. Ды што там аэрадром. Яны і сёння могуць падагнаць да вілы пару ваенных катэраў... Пагатоў, да савецкай марской базы ўсяго некалькі кіламетраў.

Сну не было, а заўтра ў яго цяжкі дзень. Заўтра ад ранку яны вернуцца ў Тырану, Хрушчоў будзе закладваць першы камень у падмурак Палаца культуры, які саветы збіраюцца пабудаваць, а на яго, першага сакратара ЦК Албанскай партыі Працы, будзе ўскладзеная адказная місія – з урачыстай пашанотай трымаць хрушчоўскі капялюш. Мікіта, відаць, цяпер

спіць, п’яны. Магчыма, нават дае храпака. Энвер прыслухаўся, у спадзеўцы пачуць натужнае храпенне, – высокі госць спаў у супрацьлеглым крыле, – але пачуў толькі далёкае тахканне, усё адно як дзяцел дробна стукаў па збуцьвелым дрэве. Гэта вартавы савецкі катэр сноўдаў па бухце, ахоўваючы пакой і сон Мікіты Хрушчова. Энвер яшчэ паўгадзіны пакруціўся ў ложку, а потым клікнуў жонку і папрасіў прынесці снатворнага.

## IV

Дарога бегла па раўніне, сям-там пазначанай роўнымі шнурамі вінаграднікаў. За шыбамі праплывалі невялікія гарады і мястэчкі з дзіўнымі назвамі: Кавая, Рагожына, Люшня, – і Мікола, пазіраючы на гадзіннік, усё тапіў і тапіў понаж газу. Наперадзе, як паведаміў Петрыт, былі горы, а пнуцца па горных дарогах у цемры, ці хаця б у суцемках, яму ніяк не выпадала.

Петрыт добрых сорак кіламетраў упікаў пляменніка, а потым, пабачыўшы, што той яго не слухае, аціх, зачасаў далонямі валасы на патыліцу і загаварыў па-расейску.

– Ведаеш, Мікола, я ж таксама, як быў падлеткам, з дому збягаў, – спадарожнік прыпаліў чарговую, немаведама якую па ліку, цыгарэту. – Прачытаў у піянерскай газеце, што на рацэ Мат пачалі будаваць гідраэлектрастанцыю, ну і мне захацелася, як тады казалі, унесці свой даробак у справу пабудовы сацыялізму. А яшчэ прагнуў з савецкімі спецыялістамі сустрэцца. Пра іх газеты ўвесь час пісалі. Мне яны тады ўяўляліся нейкімі волатамі, што прыплылі з-за мора. І вось аднойчы ехалі з нашага горада добраахвотнікі ў Люшню, якую мы зараз прамінулі. Тут вакол балоты былі. Вось іх і ўзяліся асушваць. І на гэтую справу ў асноўным моладзь адмабілізоўвалі. Карацей, пакуль быў мітынг, я ў кодаб машыны залез, забіўся пад лаўку ды яшчэ і брызентам прыкрыўся – каб мяне не заўважылі. Так да Люшні і даехаў. Ну а там мяне і злапалі. Добра яшчэ, знаёмыя хлопцы былі. Крыкнулі: «Дык гэта ж Лігораў сын!» Лігор – гэта бацька мой. Дарэчы, герой партызанскай вайны. Ну і пачалі распытваць: на якую халеру я, смаркач, на цаліну прыехаў? Адказаў ім, што еду не балоты асушваць, а будаваць гідраэлектрастанцыю на рацэ Мат. А яшчэ паведаміў, што мару савецкіх спецыялістаў убачыць, пра якіх піянерская газета піша. Усе, вядома, зарагаталі. А потым мяне да аднаго дзядзькі падвялі. Высокі такі мужчына, і вопратка не такая, як у албанцаў. «Вось, кажуць, Іван Іванавіч, савецкі інжынер-меліяратар». Я ад нечаканасці разгубіўся. Нават скуранку памацаў, якая на мужчыне была, каб пераканацца, што перада мной сапраўдны савецкі спецыяліст. Ну, мы з ім пагаманілі, – праз перакладчыка, вядома, – Іван Іванавіч крэкнуў, палашчыў пяцярнёй мае валасы і сказаў: «Будзеш мець у школе добрыя адзнакі, у Савецкі Саюз паедзеш, на інжынера вучыцца». І часопіс «Гидротехника и мелиорация» падарыў – першы нумар за 1952 год. Гэта каб я па ім расейскую мову вучыў. Адвячоркам мяне на той жа машыне дадому выправілі. Бацька, вядома, дубца даў. Але такой бяды. Галоўнае, я вярнуўся з вандроўкі зусім іншым чалавекам. Займеў уласную мэту ў жыцці: паехаць у Саюз і вывучыцца на інжынера. Цэлымі днямі расейскую мову штудыяваў. І ўсе расейскія кніжкі перачытаў, што ў гарадской бібліятэцы былі. Ну і вывучыў, урэшце. Я і некалькі беларускіх слоў памятаю. Картошка – бульба; утро – раніца; учебник – падручнік... Правільна кажу?

Мікола з вясёлай усмешкай кіўнуў і бязгучнымі вуснамі прашаптаў: «Во, бляха, албанец і той нейкія беларускія словы запомніў. А ў нас у аўтабазе і таго не ведаюць».

– Та-ак... мы, маладыя, пра штосьці марылі, да нечага імкнуліся, – Петрыт пакасіўся на пляменніка. – А сённяшняя моладзь пра што марыць?

Мікола пераключыў перадачу, сцепануў плечукамі.

– А ты ў Фатоса спытай. І ён распавядзе табе пра сваю запаветную мару: пасяліцца ў Неапалі і гатаваць піцу ў тамтэйшай кавярні.

– Дзіўная мара, – буркнуў Мікола, не адрываючы вачэй ад дарогі. – Машына пераадольвала зацяжны пад'ём.

– Ды што там дзіўнага! Сябар ягоны з бацькамі летась у Італію перабраўся. Фоткі днямі прыслаў. Стаіць на тле піцэрыі, дзе бацька працуе, а ззаду Везувій тырчыць. Вось і ён хоча туды ж... – Петрыт штосьці спытаў у пляменніка, і пляменнік, таксама не адрываючы вачэй ад дарогі, прамармытаў:

– Ун дуа тэ Італіс![1]

Машына паволі паўзла ўгору, і Мікола, як бы дапамагаючы ёй адолець гару, па-дзіцячы пырхнуў вуснамі.

– У нас тут, як межы адчынілі, людзі адразу ў Італію кінуліся. І не толькі на караблях, а на плытах, на гумовых лодках, нават на бітонах з-пад малака. Звяжуць разам штук дзесяць – яны і трымаюць чалавека на вадзе. Праўда, некаторыя не даплылі – патанулі ў моры.

Машына, нарэшце, уз'ехала на пагорак, і перад вачыма адкрылася надзвычай прыгожая бухта, на беразе якой прытуліўся, свецячы белымі сценамі будынкаў, даволі вялікі горад.

– Улёра! – паведаміў Фатос і штосьці дадаў па-албанску.

– Пляменнік кажа, што адпачываў тут з бацькамі. Вунь, за горадам, курортны пасёлак Уйет-э-Фтохта. «Халодная вада» па-расейску. Калісьці там лецішча Энвера было, – ратуючыся ад сонца, Петрыт прыклаў руку да броваў і прымружыўся. – А вось там, у дальнім канцы бухты, савецкая марская база месцілася. У 61-м годзе зліквідавалі. Казалі, ледзь тады да страляніны не дайшло. Я якраз з Саюзу вярнуўся.

Шаша збегла з пагорка, і Мікола, пабачыўшы паказальнік «Gjirokastra 105 km», крутнуў руль налева.

«Праз дзве гадзіны будзем на месцы», – падумаў ён, прыдушваючы понаж газу, але тут жа і скінуў хуткасць: асфальт знянацку скончыўся, саступіўшы месца калдабаністай жвіроўцы. З-пад колаў узнялася страшэнная пылюка, і яны спешна прычынілі вокны.

Жвіроўка віхлялася вужакай і ўвесь час пнулася ўгору. Змучаная албанскімі дарогамі машына натужліва гула, страляла выхлапнымі газамі, якія перамешваліся з шызым пылам і доўгім шлейфам цягнуліся следам. На кожным павароце горнага серпанціну ўзняты на папярэднім вітку пыл асядаў на ветравую шыбу, і ехаць даводзілася з уключанымі «стрэлкамі». У Міколы было такое адчуванне, што ён едзе па коле і што гэтыя валуны ля дарогі, пахілыя кіламетровыя слупы з пражавелымі бляхамі, на якіх ужо цяжка было разабраць лічбы, і жалезабетонныя бункеры, якія немаведама як зацягнулі на скалы, ён ужо праязджаў колькі хвілінаў таму. «Дацягнем да Плёцыі – далей лягчэй будзе», – раз за разам паўтараў Петрыт, а Мікола нават не пытаўся – што гэта: паселішча, рака ці горны перавал.

[1] Хачу ў Італію (*алб.*).

І вось нарэшце машына, пераадолеўшы апошні, самы цяжкі пад'ём, узбілася на невялічкую пляцоўку, і Мікола, спыніўшыся, адчыніў дзверцы і глянуў долу. Там, унізе, такая ж фура пнулася следам за ім па разбітай буксоўкамі дарозе, і Мікола падступна і задаволена ўсміхнуўся. Ад усведамлення, што дацягнуў да гэтай праклятай Плёцыі.

Навокал, як вокам сягнуць, грувасціліся горы, і нябесная прастора злёгку халадніла сэрца, ад чаго хацелася дыхаць на поўныя грудзі.

Далей і сапраўды ехаць стала лягчэй, бо машына з радаснай палёгкай пакацілася з перавалу, кароткімі сігналамі вітаючы сустрэчныя фуры, якія караскаліся насустрач, чорным чадам засцячы далягляд. Яны доўга ехалі ўздоўж нейкай ракі, дзе з аднаго боку стаялі каменныя скалы, а з другой, у глыбознай прорве, шумела рака. Мікола да белаты ў пазногцях сціскаў слізкі ад поту руль і ў душы маліўся каб пратэктары шын лепей чапляліся за цупкі жвір і машыну не занесла ў прорву. Потым яны заехалі ў цёмны і сыры каньён, дзе была вельмі вузкая дарога і ехаць даводзілася з хуткасцю пахавальнай карэты, нарэшце, ізноў узбіліся на перавал, і ў Дзіракастру заехалі сінім адвячоркам.

Мікола ўжо не першы год працаваў «дальнабоем» – нscore наматаў на сваім «вольва» пяцьсот тысяч кіламетраў, – але ніколі так не стамляўся. Пад'ехаўшы да прысадзістай камяніцы з шыльдай «Jeta e Re» на франтоне, ён заглушыў рухавік і адчуў, што не мае сілаў вылезці з кабіны. Змучаны, з пацямнелым тварам, сядзеў, вытыркнуўшы ногі ў пройму адчыненых дзверцаў, адчуваючы, што рукі ходзяць ходырам, нібыта сціскаючы руль, і звешаная нага торгаецца, ціснучы на газ.

Добра яшчэ Петрыт пабег некуды, знайшоў патрэбных людзей, і яны хуценька разгрузілі фуру. Нейкі чалавек у цёмным гарнітуры, якому ён перадаў паперы на прывезены груз, доўга ціснуў руку, запрашаў на начоўку, і на памяць падараваў маленькі албанскі сцяжок, якія кіроўцы вешаюць у кабінах. Міма прабег Фатос у атачэнні крыклівых аднагодкаў: мясцовыя падшыванцы, відаць, яго добра ведалі; чалавек у цёмным гарнітуры махнуў рукой і знік за рогам дома; Петрыт паляпаў яго па калене, маўляў, час ісці на вячэру, а ён усё сядзеў, з жахам згадваючы глыбозны каньён, па якім давялося ехаць.

Петрытава сястра жыла ў старым двухпавярховым доме, другі паверх якога дзіўным чынам выступаў над першым. Сястра – сухарлявая высокая жанчына ў чорнай сукні і чорнай празрыстай хустцы – сустрэла іх ля ўваходу і тройчы, – відаць, гэта быў албанскі звычай, – абняла брата.

– Ранейшым часам унізе рабілі склады, крамы, майстэрні, а жылі на другім паверсе, – патлумачыў Петрыт, калі яны падымаліся па рыплівай лесвіцы.

– А што, у вас хтосьці памёр? – шапятнуў госць, употай зірнуўшы на гаспадыню.

– Носіць жалобу па мужы.

– Нядаўна пахавалі?

– Ды не, ён памёр у лагеры, яшчэ за часамі Энвера. У войску служыў.

– А за што пасадзілі? – запытаўся госць, нутром адчуваючы, што задае зашмат пытанняў.

– Правадыру прымроілася, што ў войску супраць яго змова спее, вось і пачаў здымаць галовы. Міністра абароны, начальніка штаба, начальніка палітуправы расстралялі, астатніх па лагерах ды вязніцах распіхалі.

– А яны што? – не сунімаўся госць. Міколу раптам стала горача, і ён расшпіліў два гузікі на кашулі.

– А што яны маглі зрабіць? Міністр, Бечыр Балуку, кажуць, ішоў на расстрэл з партрэтам Энвера на грудзіне.

– І колькі гадоў ён вас тут мучыў?

– Энвер? Сорак гадоў. У сорак чацвёртым спусціўся з гор са сваімі галаварэзамі, і толькі ў восемдзесят пятым векам накрыўся.

– У нас камуністы таксама людзей забівалі. Толькі цяпер пачалі пра гэта пісаць.

Яны падняліся па лесвіцы і патрапілі ў разлеглы, спрэс завешаны стракатымі кілімамі, пакой.

– Я наогул лічу, што нармальны чалавек ніколі ва ўладу не палезе. Пнуцца туды толькі розныя прайдзісветы, злодзеі і хворыя на галаву людзі. У вас, дарэчы, хто прэзідэнт? – Петрыт уважліва агледзеў пакой, нібыта спраўджваючы – ці ўсё засталося так, як было, калі прыязджаў апошнім разам.

– Пакуль няма. Але будзе Шушкевіч. Больш няма каму. І гэта не нейкі там партыйны круцель, а прыстойны чалавек – прафесар фізікі. Той да смерці ў прэзідэнтах хадзіць не будзе.

Мікола таксама агледзеўся і, заўважыўшы на сцяне партрэт у чорнай асадзе, запытальна павёў вачыма.

– Так, гэта мой швагер. Адразу па сканчэнні ваеннай акадэміі сфатаграфаваўся.

Вайсковец на партрэце быў у нейкім паўваенным фрэнчы і ў нейкай дзіўнай шапцы: у такіх шапках калісьці хадзілі кітайскія хунвэйбіны.

– А якое ў яго было званне?

– Энвер усе званні скасаваў. Былі проста жаўнеры, камандзіры ды камісары. І з ваеннай формы вунь што зрабіў. Да палясоўшчыкаў сталі падобныя. Казаў, у рабоча-сялянскім войску не павінна быць ні пагонаў, ні галуноў, ні цэшак.

Праз гадзіну, павячэраўшы і выпіўшы па бутэльцы піва, Мікола з Петрытам выйшлі на ганак папаліць. Час яшчэ быў не позні, але, што дзіўна, у вокнах дамоў не гарэлі агні, і вуліца ўражвала сваёй цішынёй і бязлюднасцю.

– Горад ужо спіць. Мы, албанцы, што тыя птушкі – кладземся на змярканні і ўстаём на досвітку, – Петрыт прылашчыў далонню свае яшчэ даволі густыя валасы. – У нас замест «Добрага ранку» звычайна кажуць: «Як ты сустрэў світанак?»

Дзіракастра была не толькі бязлюднай, але і цёмнай.

– А Энвер Ходжа сапраўды тут нарадзіўся? – запытаўся Мікола, згадаўшы іх размову на ганку гатэля.

– Тут... на вуліцы, што называлася Вар'яцкай. Потым ён усю краіну ператварыў у вар'ятню, – з інтанацыяй лаянкі выдыхнуў Петрыт, але тут жа змяніў танальнасць на больш лагодную. – У Дзіракастры нарадзіўся і наш самы знакаміты пісьменнік Ісмаіль Кадарэ. Чуў пра такога?

Мікола патрос галавой.

– Збег у Парыж у 90-м годзе. Там яго цяпер друкуюць, – Петрыт керхануў, збіў попел з цыгарэты, – кажуць, на Нобелеўскую прэмію вылучылі.

– А што за арганізацыя, якой мы груз прывезлі? – запытаўся ў сваю чаргу Мікола. Ён спрабаваў даведацца пра тое ў Гомелі, але ўцямнага адказу так і не атрымаў.

– «Jeta e Re» – «Новае Жыццё» значыць. Евангельская суполка. Замовіла ў вашай друкарні наклад «Евангелля», ну і заадно матрацы закупіла. Грошы ім нейкая міжнародная пратэстанцкая кантора дае, – над галавой Петрытавай пачаў кружляць начны матылёк. – У свой час за «Евангелле» «сігурымі» магло і на той свет выправіць.

– А «сігурымі» – гэта што такое?

– КДБ па-вашаму. Але яшчэ больш страшнае.

Пасля таго яны дапальвалі цыгарэты моўчкі.

Вакно пакою, у якім спалі, было расчынена, і знадворку не далятала аніводнага зыку. Панавала мёртвая ціша, і толькі калі прыслухацца, можна было пачуць мерны стук гадзінніка за сценкай.

Плюхаючыся ў пасцель, думаў – закрые вочы і адразу ж праваліцца ў сон. Але сон не ішоў, і ў галаве мільгала ўсё тая ж разбітая тракамі дарога, сіняе мора і бурапенная рака, што білася ў край скалы і шумела на дне каньёна.

– Мікола, а ці не мог бы ты зрабіць адну паслугу? – Петрыт ляжаў пад самым вакном і, як заўсёды, паліў цыгарэту.

Мікола прыўзняў галаву.

– Я тут калісьці, трыццаць гадоў таму, ліста напісаў. Ужо і папера пажаўцела. Трэба перадаць.

– Жанчыне? – запытаўся Мікола і зразумеў, што мог бы і не пытацца. – Уздыхнуўшы на поўныя грудзі, госць таксама прыпаліў цыгарэту, зацягнуўся і адчуў, што ад ад цыгарэтнага дыму яго пачынае нудзіць.

– Дзяўчына тая ў Якубоўцы жыла, за ракой. Забыўся вось, як рака называецца.

– Сож, – працадзіў Мікола і закашляўся. – А чаму адразу, трыццаць гадоў таму, не паслаў?

– Паслаў быў, ды ліст назад вярнуўся. А потым мяне з-за яго ў тое самае «сігурымі» цягалі. Добра, швагер дапамог, ды бацька герой вайны, разам з Энверам ваяваў, а так бы і я мог з кіркай на плячы ў медныя капальні спусціцца. У 61-м годзе шмат каго пасадзілі, хто ў Саюзе вучыўся. Мы вось у Гомелі ўтрох былі. Дык хлопцу, з якім жылі ў адным пакоі, адразу ж па вяртанні чатыры гады далі. За шпіянаж на карысць рэвізіяністаў, – Петрыт доўга маўчаў, потым шпурнуў у вакно недапалак. – Яе, тую дзяўчыну, Надзеяй звалі. На першым курсе вучылася.

– А што, у вас былі сур’ёзныя намеры?

– Былі. Ды добра, што не рэалізаваліся. Калі б яе сюды прывёз – адразу б за кратамі апынулася як савецкая шпіёнка. Амаль усіх жанок, што з албанцамі пабраліся, перасадзілі. Імі, казалі, асабіста Энверава жонка займалася. Мы яе міжсобку Чорным Павуком называлі.

– А жыва яшчэ?

– Хто? Нэджміе? Жыва! У вязніцы сядзіць.

“Гэта ж трэба – павязу чалавеку ліста, трыццаць гадоў таму напісанага», – падумаў Мікола. Ён хацеў яшчэ нешта спытаць, – але твар перакрывіў адчайны позех. Толькі прамармытаў штосьці няўцямнае, прыдушыў у попельніцы цыгарэту і тут жа засоп, сціснуўшы кулакі на грудзіне. І нават у сне кулакі то сціскаліся, то расціскаліся, надзейна трымаючы руль, і перад вачамі мільгала ўсё тая ж разбітая дарога і бурапенная рака шумела на дне каньёна.

## V

Са свінцовага неба церусіў дакучлівы дождж. Была нядзеля, і ад адчування, што гэтай парой можна паваляцца ў пасцелі, а даводзіцца стаяць пад дажджом ды чакаць аўтобус, настрой дарэшты сапсаваўся.

Спачатку яны стаялі ўдвух з Дрытэра, потым падышоў фокуснік з механічнага факультэта – Петрыт нават не ведаў ягонага прозвішча, – потым падбеглі астатнія, і, нарэшце, у канцы вуліцы мільганула няўклюдная постаць Бяльзацкага. «Камсамольскі бог» шыбаваў па ходніку, цягнучы пад пахай загорнуты ў коўдру акардэон.

– Усе з’явіліся? – запытаўся Бяльзацкі.

– Усе, – адказаў фокуснік і дапамог камсамольскаму сакратару ямчэй спавіць інструмент, бо край коўдры матляўся ля самай зямлі.

– Мінулым разам, як у Свяцілавічах выступалі, забыўся футарал у клубе, цяпер вось мучся, – Бяльзацкі перакінуў акардэон на левую руку. – Па дарозе, у Якубоўцы, першакурсніцу падхопім. Будзе нумары абвяшчаць..

Дождж тым часам паволі аціх і перайшоў у буйную імжаку.

«Спалі б зараз, дык не... падняліся яшчэ прыцемкам і мокнем, як цуцыкі, – падумаў Петрыт і незадаволена пакасіўся на сябра, – а ўсё з-за Дрытэра... собіла яму набываць той кларнет».

Яны з Дрытэра вучыліся ў адной групе і жылі ў адным інтэрнацкім пакоі. Бацька ў сябра знакаміты музыка, граў на кларнеце ў ансамблі Народнай арміі. Ну і сын, вядома, авалодаў інструментам. Мог збацаць не толькі народныя мелодыі, але і класічную музыку. Пару месяцаў таму, як толькі прыехалі на заняткі, сябар «здаў», як казалі студэнты, прывезеныя з дому цыгарэты разам з дзвюма пляшкамі каньяку «Скандэрбег» і набыў сабе кларнет. І цяпер амаль кожнага вечару граў на ім. Напачатку верасня ў пакоі адчынялі вакно, дык пад ім нават людзі збіраліся, каб паслухаць музыку, і хто-небудзь знадворку абавязкова гарлаў: – «Маленькую кветку» збацай!» Гэтае танга тут было вельмі папулярнае. Увогуле дзіўна, што сябар пайшоў у тэхнічны інстытут, а не ў кансерваторыю. Калі ж хто пытаўся пра тое, Дрытэра ці то жартам, ці то ўсур’ёз адказваў: люблю кларнет, але яшчэ больш люблю паравозы.

І вось, нечакана для саміх сябе, яны з сябрам выступілі на інстытуцкай вечарыне. Ён, Петрыт, спяваў албанскае танга з рэпертуару Рудольфа Стамболы, а Дрытэра акампаніраваў на кларнеце. Давялося два разы на «біс» выходзіць. Нават выкладчыкі з месцаў паўсталі і білі ў ладкі. Ну а камсамольскі сакратар Бяльзацкі, сам фаховы акардэаніст, таго ж вечара загадаў рыхтавацца да шэфскага канцэрта.

Прабіваючы цьмяным святлом фараў ранішні змрок, да інтэрната пад’ехаў аднадзверны аўтобус. Баяністы з Бяльзацкім кінуліся ў інтэрнат і вынеслі адтуль два баяны, заднік сцэны – з малюнкам цеплавоза – і яшчэ вялізную балалайку. Петрыт нават не мог дабраць розуму – як на ёй граюць. Балалайка, аднак, не лезла ў дзверы, і яе занеслі назад у інтэрнат.

Петрыт сядзеў адзін на перадапошнім сядзенні – Дрытэра прымасціўся наперадзе, каб перакінуцца ў карты, – і, прыціснуўшы скронь да мокрага вакна, згадваў родную Дзіракастру. На радзіме зараз было цёпла. Якраз саспелі ягоныя ўлюбёныя гранаты і на кірмашах цяпер ляжалі цэлыя горы гэтых цвёрдых, як камень, фруктаў. У маладосці ён любіў іх разломваць, лізаць палітыя сокам пальцы і глядзець на рубінавыя зярняты, якія

здаваліся казачнымі каштоўнымі камянямі. Ад таго ўспаміну асца стала кіслай, і ён зморана ўздыхнуў.

Дзесьці на гарадской ускраіне аўтобус спыніўся, хтосьці ўвайшоў у салон, і над самым вухам прагучала: «У вас свабодна?»

Ён расплюшчыў вочы, прамармытаў: «Свабодна», – і поруч з ім села, прыціснуўшыся сцягном да ягонага сцягна, бялявая дзяўчына. Петрыт спалохана адсунуўся да вакна. На ягонай радзіме дзяўчына калі б і прымасцілася побач, дык на самы край сядзення. А тут дзеўкі плюхаліся ледзь не на калені.

Петрыт пакасіўся на спадарожніцу і згадаў, што бачыў гэтую дзяўчыну на інстытуцкіх калідорах. І нават вылучыў яе сярод іншых студэнтак: у спадарожніцы былі бялявыя, сабраныя ў тоўстую касу валасы і шэрыя, усё адно як дымныя, вочы, якія цяпер глядзелі на яго з-пад узнятых ад ветлівай усмешкі броваў. На добры лад, трэба было нешта сказаць, даведацца – як завуць шэравокую бялянку, – але ён сядзеў ёлупнем, падбіраючы патрэбныя словы, і ніяк не мог нічога падабраць. На шчасце, дзяўчына сама падала голас.

– А вы албанец?

Петрыт страсянуў галавой на знак згоды, і дзяўчына паглядзела на яго з недаверам уваччу.

– Ну як жа... а на вечарыне, са сцэны, казалі што вы з Албаніі.

– Так, з Албаніі... проста ў нас калі з чым пагаджаешся, трасеш галавой, а калі з чым не згодны, ківаеш.

Спадарожніца хвіліну маўчала, разважаючы, відаць, ці варта таму даваць веры.

– А якая ў вас колькасць насельніцтва?

– Адзін мільён шэсцьсот тысяч, – выдаў Петрыт, і дзяўчына склала вусны банцікам:

– У-уу... дык гэта столькі ж, колькі ў нашай Гомельскай вобласці.

Петрыт адвёў убок вочы. Яму, упершыню за час вучобы ў Саюзе, стала няёмка з-за таго, жыве ў такой маленькай краіне.

– А колькі вас, албанцаў, у інстытуце вучыцца?

– Ну я, – голас Петрытаў злёгку здрыгануўся, – вунь яшчэ Дрытэра, у карты грае. – Сябрук тым часам ляпнуў ніжнікам па вялікім бубне, які выкарыстоўвалі ў якасці стала. – Яшчэ адзін ёсць, з чацвёртага курса.

Ладны час яны ехалі моўчкі, і Петрыт, дарэшты асмялеўшы, усё тым жа дрогкім голасам прамармытаў:

– А я вас у інстытуце бачыў. І вы мне адразу спадабаліся.

– А мне спадабалася, як вы албанскае танга спявалі. Яно ў мяне і зараз у вушах гучыць. Будзеце сёння спяваць?

Петрыт жартам кіўнуў, ды так імпэтна, што стукнуўся лбом аб білу сядзення. Дзяўчына засмяялася і паведаміла, што прагне набыць кружэлку з запісам танга, а Петрыт, парывіста перавёўшы дых, падумаў: як бы гэта выцыганіць у сябра тую кружэлку? Дрытэра прывёз яе з Тыраны і часцяком круціў у інтэрнацкім чырвоным кутку. І яшчэ пазычаў Бяльзацкаму, калі той падбіраў мелодыю танга на акардэоне.

Аўтобус з'ехаў з асфальту на брукаванку, і за мокрай шыбай бясконцым шыхтом пабеглі размытыя стаўбуры бяроз. Ён дзвюма рукамі трымаўся за білу сядзення, кідаў палкія позіркі на спадарожніцу і думаў: «Вось так бы ехаць і ехаць, магчыма, усё астатняе жыццё...», – і кожнага разу

ўздрыгваў, калі на паваротах дарогі бялявая спадарожніца краналася сваім сцягном ягонага сцягна.

У клубе было халодна і знобка. Нават рукі млелі, і даводзілася на іх хукаць ды паціраць далоні. А можа рукі млелі і не ад холаду, а ад хвалявання? Бо выступаць даводзілася перад незнаёмымі людзьмі, якія запоўнілі клуб, і, галоўнае, перад бялявай першакурсніцай. Да свайго сораму, ён нават не спытаў – як яе завуць. Між тым бялянка абвясціла чарговы нумар – і на сцэну выйшаў фокуснік.

Петрыт стаяў за кулісамі і глядзеў, як штукар, голасна ікнуўшы, раз за разам выцягваў з роту тэнісны шарык. Пасля кожнай ікаўкі фокуснік зводзіў вочы да пераносся, і зала гучна рагатала.

– Зараз мы з Дрытэра выступаем, а потым ты выйдзеш, – штурхнуў яго краем акардэона Бяльзацкі, і ў Петрыта ад хвалявання нават спацелі рукі.

Неўзабаве зала выбухнула воплескамі, і Бяльзацкі, прайшоўшыся пальцамі па клавіятуры, рушыў на сцэну.

Загучала «Маленькая кветка», і хваляванне вомігам адступіла. Проста бялянка, што стаяла на другім канцы кулісаў, махнула яму аркушыкам з канцэртнай праграмай, – маўляў, рыхтуйся, зараз твой выхад, – і ён забыўся і пра хваляванне, і пра перапоўненую залу, і пра ўсё на свеце, і бачыў толькі шэравокую дзяўчыну ў сукенцы з «ліхтарыкамі» на плячах.

– Студэнт трэцяга курса Петрыт Прыфці выканае албанскае танга, – пару чалавек ударылі ў ладкі, потым усё аціхла, і ён выйшаў на сцэну. З невядомай прычыны памацаў мікрафон, зірнуў на Дрытэра і сябар, удыхнуўшы паветра, прыклаў вусны да кларнета. Сумная мелодыя паплыла над людскімі галовамі. Яна прыляцела немаведама адкуль і, здавалася, выпадкова загучала тут, у сінім ад папяроснага дыму і людскога дыхання клубе. Неўзабаве, кароткімі акордамі, зайграў Бяльзацкі, і Петрыт наблізіў вусны да мікрафона.

Спачатку ён не пазнаў уласнага голасу – голас злёгку дрыжэў, але не ад хвалявання. Гэта было трымценне шчаслівай душы. Пасля першага куплету ён мелькам зірнуў за кулісы. Дзяўчына стаяла нерухома, і ля яе ног, на падлозе, ляжаў аркушык з напісанай Бяльзацкім праграмай.

Потым ён спяваў на «біс», нейкая вясковая кабета выйшла на сцэну і працягнула пук мокрых восеньскіх кветак, Бяльзацкі з Дрытэра шматзначна пераглянуліся, і бялявая дзяўчына біла разам з астатнімі ў ладкі і шчасна пасміхалася яму з-за кулісаў.

Пасля канцэрту ў клуб завітаў старшыня калгаса з трыма бутэлькамі гарэлкі і рознымі прысмакамі. І хаця піць гарэлку ім, албанскім студэнтам, было забаронена, Петрыт выпіў паўшклянкі. З непрывычкі адразу ж закружылася галава, і ён, апынуўшыся ў сваім галавакружным свеце, неадрыўна глядзеў у той бок, дзе сядзела Надзя – так звалі бялянку. У думках ён ужо ахрысціў яе па-албанску – Шпрэсай. Бо менавіта так гучала на ягонай мове салодкае слова Надзея.

Калі сядалі ў аўтобус, ён зайшоў апошнім і з панылым сэрцам заўважыў, што Бяльзацкі плюхнуўся на сядзенне поруч з Надзяй, але дзяўчына, паляпаўшы таго па плячы, прамовіла: «Гэта месца занятае».

Яны ехалі моўчкі, заплюшчыўшы вочы і прыціснуўшыся адно да аднога плечукамі. Спадарожнікі гарлалі песні, кулялі чарку, Дрытэра спрабаваў

граць на кларнеце, а ўжо дарэшты ўпіты Бяльзацкі раз за разам гукаў тост за савецка-албанскае сяброўства, але Петрыт нічога гэтага не чуў і не бачыў. Ён проста плыў, шчаслівы і бязважкі, на хвалях шалёнага кахання.

Аўтобус, бразнуўшы сваім жалезным нутром, спыніўся. Надзея працерла рукой запацелую шыбу, падхапілася на ногі, з ціхім шкадаваннем у голасе прашаптала: «Я выходжу».

Наўкол панавала цемра і дзесьці на доле ляжала гронка дрогкіх агеньчыкаў.

– Ты можаш спазніцца ў інтэрнат, – прамовіла дзяўчына перад тым, як скочыць з прыступкі.

Дапамагаючы выйсці з аўтобуса, ён схапіў дзяўчыну за руку і не выпусціў нават калі тая паспрабавала, з відавочнай неахвотай, яе вызваліць. Узяўшыся за рукі, яны збеглі з дарожнага адхону і агледзеліся. Там, за ракой, гарэў агнямі горад, а тут, у прыбярэжнай вёсцы Якубоўка, было цёмна, і толькі адзін самотны ліхтар, што стаяў на вясковай вуліцы, спрабаваў змагацца з цямрэчай. Сэрца парывіста білася ў грудзях, і Петрыт, каб суняць хваляванне, кашлянуў у далонь.

– А вы тут жывяце?

– Я сама з Бабруйску. А тут пакой здымаю. У адной добрай жанчыны.

– А чаму не ў самім горадзе?

– У горадзе задорага, – з уздыхам адказала дзяўчына, і Петрыт адчуў, што задае недарэчныя пытанні.

– Сумна вам тут? – запытаўся ён пасля паўзы, адчуўшы, што Надзея, відаць, міжволі, сціснула ягоныя пальцы.

– Мне тут весела, як нікому. У гаспадыні дачка, на два гады ад мяне старэйшая. У «Культтаварах» працуе. Набыла кружэлак аж сорак чатыры штукі! Учора якраз пералічвала. Круціць іх цэлымі вечарамі. Займацца немагчыма.

Яны дайшлі да ліхтара і Надзея мочкі кіўнула на цёмную хату.

Петрыт сумеўся. Думаў, будуць ісці і ісці па гэтай самай Якубоўцы, а тут раптам трэба развітвацца. Ён вызваліў дзявочую руку, і Надзея, панурыўшы долу густыя вейкі, прашаптала:

– Я ледзь не расплакалася, калі ты спяваў.

Потым цмокнула аслупянелага спевака ў шчаку і, рыпнуўшы веснічкамі, знікла ў цемры.

У хаце засвяціўся, а потым патух зялёны абажур, дзесьці на другім канцы вуліцы азваліся пеўні, рыпнуў гармонік, а ён усё стаяў у коле рухавага святла, прыцiснуўшы далонь да гарачай шчакі.

Раніцаю яго абудзіў Дрытэра.

– Уставай, гуляка.

Сябар ужо быў апрануты і гучна боўтаў лыжкай у шклянцы.

– Вось даведаецца Какошы, што па начах цягаешся і да хаты выправіць.

Какошы вучыўся на чацвёртым курсе і сачыў, каб ні ён, Петрыт, ні Дрытэра не парушалі правілаў паводзінаў, якія яны, яшчэ перад адпраўкай у Саюз, мусілі вывучыць на памяць. Дрытэра казаў, што гэты смярдзяк нават кандуіт завёў, куды запісваў усе іхныя «грахі».

– Ты з ёю хаця б пацалаваўся? – запытаўся сябар, выціраючы пот з ілба, і ў гэты момант у пакой нячутна ўвайшоў той самы Какошы.

– Ну як канцэрт?

– Магутна! – Дрытэра задаволена крахтануў і сёрбнуў гарбаты. – Клуб ледзь не разнеслі ад воплескаў. Бяльзацкі кажа, што атрымаем граматы гаркама камсамолу. І Тодзі Любоню збіраецца ліста пісаць... з падзякаю за наш удзел у мастацкай самадзейнасці. – Тодзі Любоня быў першым сакратаром Звязу працоўнай моладзі Албаніі, і пасля мітынгу, калі іх выпраўлялі ў Саюз, паціснуў руку кожнаму студэнту.

– Добра, калі так, – мурркнуў Какошы і гэтак жа нячутна знік за дзвярыма.

– Смярдзяк, – выдыхнуў яму ў след Дрытэра і гучна бразнуў аб стол зборнікам задач па супрамаце.

– А што, Бяльзацкі сапраўды збіраецца нам граматы даваць? – Петрыт, з цяжкасцю патрапіўшы нагой у калашыну, нацягнуў нагавіцы.

– Можа і збіраўся, а цяпер не дасць, – сябар піхнуў зборнік задач у пацёханы партфель. – І ведаеш чаму? Таму што паклаў вока на дзяўчыну, а ты яе ўчора перахапіў.

Петрыт раптам знерухомеў, і сябар, ляпнуўшы яго па спіне, бадзёрым голасам выгукнуў:

– Давай, варушыся... на заняткі спазняемся.

## VI

Масква сустрэла дробным дажджом і шэрым ранішнім прыцемкам. За вакном праплыў перон Кіеўскага вакзала, і цягнік, тузануўшыся на астачу, спыніўся.

Сустракаў албанскую дэлегацыю Хрол Казлоў – правая рука Хрушчова.

– Вітаем вас на савецкай зямлі, – прамовіў Казлоў, зняўшы капялюш. У хрушчоўскага памагатага была вялікая гламаздаватая галава, укаранаваная сівымі хвалістымі валасамі.

Энвер парукаўся з тузінам савецкіх чыноўнікаў, адзначыўшы, што традыцыйных піянераў з кветкамі на пероне не было, аднак рота ганаровай варты стаяла роўным шыхтом, і ваенны аркестр ужо гатовы быў грымнуць гімн ягонай краіны.

Жаўнеры, пад гукі маршу, прайшліся па лужах, зыкі медных труб яшчэ луналі ў вільготным паветры, а ім на змену, ад вакзальнага будынку, загучалі дружныя воплескі і воклічы «Рофт парція э Пунэс!»[1]

– Нашы студэнты, – прамовілі за спінай, і Энвер памахаў студэнтам рукой.

Натоўп у некалькі соцень чалавек прарваў міліцэйскае атачэнне, кінуўся на перон. Поціскі халодных рук, гучнае скандаванне «Парці! Энвер!» ля самага вуха. Урэшце сам Энвер узяўся дырыжыраваць скандаваннем і выгукваць уласнае імя, тым часам як Казлоў, стоячы ў баку, нервова паглядаў на вакзальны гадзіннік.

– Вашых студэнтаў проста не ўтаймаваць, – прамовіў Казлоў, калі яны селі ва ўрадавую машыну.

– Яны вялікія патрыёты і ўсёй душой любяць сваю партыю і яе кіраўніцтва, – адказаў Энвер, і твар хрушчоўскага памагатага скрывіла іранічная ўсмешка. Гэтым самым памагаты хацеў сказаць: паспрабуй які албанец не пакрычы лозунгі ў твой гонар, ураз патрапіш на нары.

---

[1] Няхай жыве партыя Працы! (*алб.*).

Машына на вялікай хуткасці ехала па праспекце. Усё наўкол патанала ў чырвані сцягоў. Ды яно і зразумела: заўтра 43-я гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі. Заўтра, ад самага ранку, ён уздымецца на трыбуну маўзалея і будзе глядзець на жаўнераў, што прамаршыруюць па брукаванцы Чырвонага пляцу. Але прыехаў ён у Маскву не дзеля таго, каб паглядзець на парад. Адразу ж пасля святаў у Георгіеўскай зале Крамля павінна пачацца нарада прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый, на якой ён, Энвер Ходжа, збіраўся даць бой хрушчоўцам-рэвізіяністам.

Машына павярнула з праспекта налева, і гэта азначала, што яго вязуць на ўрадавае лецішча «Зарэчча». Летась, як прыязджаў у Маскву, іх дэлегацыю таксама пасялілі на тым лецішчы, паведаміўшы, што гэта лепшая загарадная гасцёўня. Апроч албанцаў там спыняўся толькі кітайскі прэм’ер Чжоў Энь-лай.

Усю дарогу да «Зарэчча» яны з хрушчоўскім намеснікам амаль не размаўлялі, толькі зрэдзьчасу абменьваліся кароткімі рэплікамі. Нарэшце ўрадавы “ЗіМ”, даўшы кола па невялічкім пляцы, спыніўся, і яны выйшлі з машыны. Энвер думаў, што зараз развітаецца з Казловым і пойдзе адпачываць пасля дарогі, аднак той зайшоў на лецішча, зняў ля ўваходу палітон і, ляпнуўшы далонямі, гракнуў:

– А зараз крыху вып’ем і перакусім!

У вітальні ўжо быў падрыхтаваны стол з выпіўкай і канапкамі з чорнай ікрой.

Казлоў відавочна хацеў даведацца пра настроі албанскай дэлегацыі, таму і завёў размову пра дакументы, якія збіраліся прыняць удзельнікі нарады. Аднак Энвер сваімі суворымі адказамі даў зразумець, што не мае ахвоты мянціць языком. Урэшце хрушчоўскі памагаты наліў каньяку, крэкнуў: «За вас, таварыш Энвер!» – і, кульнуўшы поўны келіх, падаўся прэч.

Праз дзве гадзіны Энвер Ходжа сядзеў у пакоі, што быў адведзены пад кабінет, і чытаў з алоўкам у руках тэкст прамовы, з якой мусіў выступіць.

«Няўжо ў Савецкага Саюза, які прадае збожжа ўсяму свету, не знайшлося 50 тысяч тон зерня для албанскага народа, у той час як не па нашай віне яму пагражаў голад? Калісьці таварыш Хрушчоў казаў нам: «Не хвалюйцеся за хлеб; тое, што вы спажываеце за год, у нас пацукі з’ядаюць». Значыць, пацукі ў Савецкім Саюзе могуць жэрці, а албанскі народ хай памірае з галадухі?» – чырвоны аловак падкрэсліў слова «пацукі» і застыў у паветры. «А можа не згадваць пацукоў? Можа гэта задужа?» – падумалася той хвілінай, і ў кабінет стоена пастукалі. Энвер адарваў вочы ад папер і ўбачыў у дзвярной пройме кучаравага хлопца з нейкім дзіўным прыстасаваннем у руках: яно нагадвала мініяцюрны радыёпрымач з тэлескапічнай антэнай. Ні слова не кажучы, хлопец кіўнуў галавой і прычыніў дзверы.

– Ну і сволачы! – выдыхнуў Энвер, падхапіўся на ногі і некалькі аркушаў зляцелі на падлогу.

Гэтага кучаравага інжынера ён уключыў у склад дэлегацыі як рэферэнта. А ў руках хлопца быў найноўшы амерыканскі дэтэктар, які адразу ж вызначаў – ці ёсць у памяшканні «жучкі». Маўклівы ківок сведчыў, што лецішча праслухоўваецца.

– Сволачы, – паўтарыў Энвер і нервовым крокам прайшоўся па кабінеце.

«Не толькі зачытаю прамову цалкам, але і яшчэ чаго дадам. Лясну

на развітанне дзвярыма так, што ў Георгіеўскай зале са столі тынкоўка пасыплецца», – з гэтаю думкаю Энвер нахіліўся і падабраў з падлогі старонкі спавешчання.

«Ляскаць дзвярыма» ён збіраўся не проста так, а каб спадабацца кітайцам. Яшчэ пару гадоў таму пайшлі чуткі пра канфлікт паміж Хрушчовым і Мао. Кіраўніку Паднябеснай карцела ачоліць міжнародны камуністычны рух і, стаўшы на кітайскі бок, можна было выслізнуць з савецкіх абдоймаў. Ён паслаў у Пекін свайго чалавека, і там паабяцалі буйныя крэдыты ды эканамічную дапамогу. Гэта якраз тое, што трэба: Паднябесная далёка, а кітайскія крэдыты пад рукой. Валадары Паднябеснай, аднак, збіраліся даць грошы толькі ў выпадку, калі Албанская партыя Працы падтрымае Камуністычную партыю Кітая.

Кітай Энвер наведаў толькі аднойчы – у верасні 1956 года. Прыехаў тады ў Пекін на партыйны з'езд. Думаў, Мао прыме іхнюю дэлегацыю асабіста, у сваім кабінеце, а той пагаманіў з імі похапкам, падчас перапынку паміж пасяджэннямі з'езду. Калі ён з таварышамі ўвайшоў у пакой, дзе адбывалася сустрэча, Мао стаяў нерухома, як статуя, і давялося кожнаму па чарзе падыходзіць да яго, каб парукацца. Размова з кітайскім лідэрам атрымалася няўцямнай. Мао казаў нешта пра югаславаў, пра памылкі Сталіна, вёрз яшчэ нейкую лухту, якая нават не адбілася ў памяці. Але чорт з ім, з Мао. Галоўнае, гэтая статуя ў шэрым фрэнчы наўрад ці будзе скідваць яго, Энвера, з пасады. Так што пераход у стан кітайцаў, як выглядала, быў адзіным выратаваннем.

Першы стрэл па хрушчоўцах ён зрабіў яшчэ ўлетку, у Бухарэсце. Там, на нарадзе прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый, савецкая дэлегацыя выступіла з крытыкай кітайскіх таварышаў, аднак албанская дэлегацыя тую крытыку не падтрымала. Мікіту Хрушчова гэта спачатку здзівіла, а потым разлютавала: «Што там за Албанія такая – кату на раз аблізаць, – а заяўляе пра нейкую сваю пазіцыю... Жывуць, галякі, за наш кошт і яшчэ хвастамі круцяць. Не даваць ім ніякага збожжа! І спыніць пастаўку трактароў ды іншай тэхнікі». Словы гэтыя перадалі Энверу, і гэта азначала, што ў Маскву яму ехаць не варта. Але ж вось давялося паехаць...

Хрушчоў ведаў тэкст ягонага спавешчання і, як меркаваў Энвер, будзе рабіць усё, каб яно, прынамсі ў такой рэдакцыі, не прагучала. І як у ваду глядзеў. Першым, хто ўзяўся яго пераконваць не канфліктаваць з Мікітам, быў лідэр французскіх камуністаў Марыс Тарэз. Тарэз запрасіў на сяброўскую вячэру, і напачатку яны гаманілі – выключна па-французску – пра шумны і бязладны Парыж і пра ціхі ды ўтульны Манпелье, дзе Энвер калісьці вучыўся ва ўніверсітэце, але так і не здолеў скончыць. Ды і як было вучыцца, калі вакол віравала столькі прыгожых дзвотак, якія раз за разам вешаліся на шыю. «Ээ-х, былі часіны!» – выгукнуў ён за бяседным сталом, але Тарэз урэшце рэшт разагнаў прыемныя ўспаміны, паведаміўшы, што калі ён выступіць супраць Хрушчова, усе восемдзесят партый, што заявіліся на нараду, будуць супраць яго.

– А мы нікога не баімся, – сказаў Энвер, выціраючы сурвэткай вусны, – таму што ідзем правільнай дарогай!

Увечары наступнага дня пад вокнамі загулі машыны, і да ганку лецішча

падкаціла адразу некалькі “ЗіМаў”. Гэта прыехалі на перамовы савецкія таварышы.

Энвер заўсёды з неахвотаю плёўся ў сталоўку, дзе ладзіліся падобныя сустрэчы, але гэтым разам, пабачыўшы сярод гасцей зморшчаны, што той сухафрукт, твар Анастаса Мікаяна, зусім змарнеў душою. Гэтага армяніна ён не любіў больш за Хрушчова, бо той непасрэдна займаўся пытаннямі дапамогі Албаніі і ўсяляк тую дапамогу скарачаў, крэслячы чырвоным алоўкам іхнія заяўкі.

«Усё, пан Анастас, мінуў твой час. Больш ужо не буду перад табой на хлеб спяваць ды на тваю руку паглядаць», – падумаў тады Энвер, нядобра зыркнуўшы на Мікаяна.

Госці штосьці казалі пра адзінства камуністычнага руху, пра тое, што Мікіта Сяргеевіч вельмі перажывае з нагоды савецка-албанскіх непаразуменняў, сталі прапаноўваць ільготныя крэдыты, нарэшце, пшаніцу ў неабмежаванай колькасці. Але, пачуўшы ад Энвера кароткую фразу: «Мы ад сваёй пазіцыі не адступімся», – селі ў свае чорныя, падобныя да жукоўгнаевікоў “ЗіМы” і з’ехалі ў Маскву. Назаўтра, проці ночы, ізноў завіталі Мікаян з Казловым і зноўку пачалі казаць пра патрэбу адзінства, але Энвер паведаміў, што яму трэба класціся спаць, і госці, ужо накінуўшы палітоны, прапанавалі албанскай дэлегацыі сустрэцца непасрэдна з Хрушчовым.

12 лістапада 1960 года, акурат у поўдзень, да шэрага будынку на Старым пляцы пад’ехала албанская дэлегацыя, што ўдзельнічала ў нарадзе. Надвор’е было халодным і золкім. З неба падаў дробны сняжок, які адразу ж раставаў, крануўшыся асфальту.

Хрушчоў прыняў дэлегацыю ў сваім кабінеце, у прысутнасці Мікаяна, Казлова і Андропава.

Размова ад самага пачатку не задалася.

– Вам слова, пачынайце. Мы ўважліва слухаем, – прамовіў гаспадар кабінета, раскінуўшыся ў крэсле.

– Вы нас запрасілі, вы тут гаспадары, вы і пачынайце, – адказаў Энвер, і Хрушчоў, сумеўшыся, запытаў:

– Я не разумею, што адбылося пасля майго візіту ў Албанію ў 1959 годзе? – летась Мікіта ездзіў да Энвера на пагасціны, і яго там закідалі кветкамі.

У адказ албанскія таварышы завялі катрынку пра югаслаўскіх рэвізіяністаў, іх савецкія калегі, у сваю чаргу, сталі абвінавачваць Энвера ў расколе камуністычнага руху, потым сталі высвятляць – каму належыць ваенна-марская база ва Улёрскай бухце, нарэшце Хрушчову абрыдла ўся гэтая балбатня, ён падняўся на ногі і заявіў: «Вы на мяне плюеце! З вамі немагчыма размаўляць!» І албанцы, нават не развітаўшыся, ціхенька выслізнулі з кабінета.

Праз чатыры дні прыспеў час зачытаць спавешчанне.

Вялізная Георгіеўская зала гарэла ўсімі сваімі кандэлябрамі і цені ўдзельнікаў нарады, якія ішлі займаць свае месцы, нагадвалі чорныя кветкі. Амаль усе ўдзельнікі ўжо сядзелі за сталамі, суцішна перамаўляліся, утвараючы бязладны шум, і раз-пораз пазіралі на атвор разнасцежаных дзвярэй. Усе чакалі з’яўлення савецкай дэлегацыі. Неўзабаве шум прыкметна пацішэў, і ў залу дробным імпэтным крокам увайшоў Хрушчоў. Следам за ім, віхлястай чарадой, паспявалі брывасты Брэжнеў; сухарлявы, з віслай чупрынай на лобе, Суслаў; пахілы і зморшчаны, што той смаржок, Мікаян.

Мікіта кінуў на стол тэчку з паперамі, грузна сеў у крэсла, і сёмае па ліку паседжанне нарады пачалося.

Залу накрыла звонкая цішыня, зашамацелі паперы на стале старшыні.

– Слова мае першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Албанскай партыі Працы таварыш Энвер Ходжа.

Энвер падышоў да моўніцы, абцягнуў пінжак і, кашлянуўшы ў жменю, прамовіў:

– Дарагія таварышы! Цяперашняя Нарада камуністычных і рабочых партыяў мае для міжнароднага камуністычнага руху гістарычнае значэнне...

Албанская дэлегацыя сядзела ў тарцы стала, як бы ў прэзідыуме, а савецкая праваруч, зусім непадалёку, і Энвер, чытаючы тэкст, час ад часу перарываўся і зыркаў на Хрушчова. Напачатку савецкі кіраўнік быў насцярожаны – сядзеў, прыціснуўшы да правага вуха навушнік, – потым злёгку абмяк, адкінуўся на спінку крэсла. Вырашыў, відаць, што прамоўца адумаўся і ў апошні момант выкінуў са спавешчання крытыку на ягоны адрас. Аднак прамоўца загаварыў пра злачынную банду Ціта, і Хрушчоў пасур'ёзнеў, калі ж Ходжа заявіў, што палітыка савецкага лідэра – гэта пародыя на Леніна, савецкі лідэр зняў, а потым зноў надзеў навушнікі, па якіх транслявалі сінхронны пераклад, а калі Ходжа пачаў казаць пра шантаж і пагрозы з боку савецкіх кіраўнікоў, у зале пачаўся лёгкі шум, і Хрушчоў выцер хусцінкай пот з патыліцы.

Нарэшце прамоўца скончыў, у зале пачуліся кволыя воплескі – у ладкі білі некалькі азіятаў і мурынаў, якія, відаць, не слухалі прамовы, – пасля чаго Георгіеўская зала азвалася абураным гудам. Праз колькі хвілінаў да аднаго такога азіята нахіліўся нехта з рэферэнтаў, штосьці шапянуў на вуха, і твар удзельніка нарады пакрыў нездаровы румянец. Гэты дзеяч, як і ўсе астатнія прадстаўнікі камуністычных і рабочых партый, карміўся з хрушчоўскай рукі, і гэтыя воплескі маглі яму сур'ёзна нашкодзіць.

Энвер выйшаў у фае, сабраў вакол сябе сваю чэлядзь, ледзь чутна паведаміў:

– На лецішча больш не паедзем. Знаходзіцца там небяспечна. Перабіраемся ў нашую амбасаду.

Пасля перапынку нарада аднавіла сваю працу. Як і чакаў Энвер, на яго пасыпаліся перуны і маланкі.

– Сёння я пачула, магчыма, самы ганебны з часін Троцкага выступ у гісторыі міжнароднага камуністычнага руху, – прамаўляла прыціхлай зале іспанская камуністка Далорэс Ібаруры, пазіраючы ў ягоны бок. На галаве ў Далорэс была традыцыйная чорная хустка, з-пад якой выбіваліся злавесна-сівыя валасы.

«Вылітая ведзьма», – падумаў Энвер і дэманстратыўна зняў навушнікі.

Цяпер толькі адно займала ягоныя думкі: як жывым і здаровым выбрацца з рэвізіяніцкай Масквы. Ён мусіў ляцець дахаты 2 снежня, гэдээраўскім летаком. Яшчэ шаснаццаць дзён глядзець на гэтыя пысы – Энвер мелькам зірнуў на Мікаяна, – і слухаць абразы на свой адрас? Ды і прыкончыць могуць, як таго небараку-Берута. Не, трэба адсюль даваць хадала, і чым раней, тым лепш. На такі выпадак быў падрыхтаваны аварыйны варыянт «эвакуацыі»: ехаць цягніком да Варшавы, затым да Вены і, праз Аўстрыю і Італію, да порта Бары, дзе яго павінен чакаць албанскі самалёт. Ды і нагода ёсць знікнуць з нарады дачасна: 29 лістапада галоўнае дзяржаўнае свята Албаніі, і ён мусіць на ім прысутнічаць.

«Пакіну ў Маскве двух сваіх намеснікаў – хай яны тут з Хрушчовым і разбіраюцца», – падумаў Энвер і парывіста перавёў дых.

Хуткі цягнік «Масква-Варшава» ляцеў на захад, трывожнымі гудкамі скаланаючы цемрань лістападаўскай ночы.

Энвер ляжаў на мяккім вагонным лежаку, прыслухоўваўся да навакольных зыкаў і прымружанымі вачыма паглядаў на лямпу, што ў начным рэжыме, у чвэрць напалу, кволілася пад столлю. Усё ж такі ён баяўся за сваё жыццё. За дзвярыма, на калідоры, стаялі целаахоўнікі, але што яны маглі зрабіць, калі цягнік спыніцца ў якой-небудзь Вязьме і ў вагон уваб'юцца да зубоў узброеныя людзі? І вось у той самы момант вагон страсянула, і правае плячо прыцiснулася да сценкі: цягнік стаў скідваць хуткасць. За плюшавай фіранкай панавала цемра, і толькі самотны агеньчык мігатлівай зоркай плыў за вакном. Агеньчык амаль спыніўся, застыў пасярод непрагляднай ночы, але, на шчасце, міргнуў зялёным святлом і паплыў, паволі набіраючы хуткасць.

«Хрушчоў больш не дасць ні капейкі. Магчыма, пачне блакаду. Так што ўся надзея на кітайцаў», – падумаў Энвер, захінуўшы фіранку. Хвалявала тое, што Чжоў Энь-лай, які ачольваў кітайскую дэлегацыю, сядзеў на нарадзе, як мумія, і не думаючы даваць бой Хрушчову.

Цеплавоз падаў сігнал – густы і сіпаты.

Цяпер было зразумела: усё скончыцца эканамічнай блакадай. «Уся надзея на кітайцаў», – каторым разам паўтарыў ён у думках.

Трэба было заснуць, але сон аніяк не ішоў, і ўваччу раз за разам паўставалі то кіслая пыса Мікаяна, то мокры вакзальны перон, то шэры капялюш Казлова, які прамільгнуў ля самага носа, то шчаслівыя твары студэнтаў – тых самых, што сустракалі яго на маскоўскім вакзале. «Студэнтаў давядзецца адклікаць», – паспеў ён падумаць, перш чым панурыцца ў сонную замарач, якая складалася з няўцямнага грукату колаў і дакладнага ўсведамлення, што вакол яго бязмежны расейскі прастор і цёмная ноч, у якой хаваецца небяспека. І вось ужо ўваччу паўстаў не мокры асфальт, а пыльная брукаванка. Ён, васямнаццацігадовы хлопец, стаіць на пляцы перад Базарнай мячэццю ў сваёй роднай Дзіракастры і развітваецца з дзяўчынай, якую кахаў у юнацтве і імя якой – у сне – аніяк не мог узгадаць. Ён з'язджаў у Корчу, вучыцца ў ліцэі, а дзяўчына заставалася ў Дзіракастры і, пацiснуўшы ягоную руку, умольна прашаптала: «Не забывай мяне!»

Цягнік тузанула, і ён спалохана прыхапіўся. Здаецца, і заснуў на імгненне, але ў пройму няшчыльна зацягнутай фіранкі ўжо цадзіўся сіні, як малочны адгон на краю конаўкі, світанак. Ён накінуў на плечы палітон, адсунуў дзверы купэ. Ахоўнік, што стаяў ля вакна, выцягнуўся ў струну. Зірнуўшы па баках, Энвер запытальна кіўнуў на сіняе вакно.

– Толькі што Оршу прамінулі, таварыш Энвер.

– Дзе гэта?

– Беларусь, таварыш Энвер.

Ноччу выпаў снег, рэдкі як перхаць, шэрымі палосамі прыкрыўшы зямлю. У сутонні сіняга ранку мільгануў нейкі паўстанак, купка цёмных хат, прыцярушаныя снегам кусты і далягляд захінуў дрымотны лес, пазначаючы рух цягніка мітусеннем меднаствольных хвояў.

Беларусь... таксама, як і Албанія, партызанскі край, – Энвер амаль

усутыч наблізіў твар да шыбы, – але мы хаваліся ад ворага ў гарах, а беларусы ў лесе. Яму згадалася, як такой жа маласнежнай парой немцы з балыстамі[1] атачылі ягоны штаб, і давялося разам з байцамі-партызанамі караскацца па гарах, выходзячы з акружэння. Цяпер ужо ні ў лесе, ні ў гарах не схаваешся. А таму ён ператворыць сваю краіну ў непрыступную фартэцыю, – рукі машынальна сціснулі вагонны поручань. Толькі б дапамаглі кітайцы... толькі б дапамаглі...

## VII

Дрытэра з Петрытам стаялі на інстытуцкім ганку і палілі. Заняткі скончыліся, і абодва вырашылі звадзіць сваіх дзяўчат у кінатэатр. Якраз сёння круцілі фільм «Каханнем трэба даражыць» беларускай кінастудыі, які Надзея прагла паглядзець. Настрой у абодвух быў вясёлкавы і бесклапотны. Дрытэра нарэшце займеў сабе сяброўку – светлавалосую Святлану з факультэта эксплуатацыі чыгункі – а Петрыт збіраўся на святы завітаць з Надзеяй у Бабруйск ды пазнаёміцца з яе маці.

– Калі Какошы будзе мной цікавіцца, скажы – на канцэрт паехаў, – казаў Петрыт сябру, пыхкаючы цыгарэтай і паглядаючы на ўваходныя дзверы. Албанскім студэнтам забаронена было з'язджаць з горада, таму і даводзілася ўсяляк выкручвацца.

З інстытуцкіх дзвярэй выкуліўся гаманкі натоўп, Дрытэра выцягнуў шыю, пазіраючы паўзверх людскіх галоў, і твар ягоны перакасіла. Смярдзяк паўзе, – прамармытаў, амаль не варушачы вуснамі. Смердзяком сябар называў Какошы. І сапраўды, насустрач ім, заклапочана азіраючыся, шыбаваў чацвёртакурснік.

– Так... абмалёўваю сітуацыю ў тэлеграфным стылі, – яшчэ здалёк, з інтанацыяй лёгкай панікі, пачаў Какошы. – Толькі што тэлефанавалі ў канцылярыю. Мы тэрмінова едзем на вакацыі. Сёння атрымліваем дакументы і ўвечары, цягніком, выязджаем у Адэсу.

Такая навіна не на жарты ўразіла Петрыта. Хвіліну ён стаяў анямелы і ачуўся толькі тады, як прыпаленая цыгарэта апаліла пальцы, і ён шпурнуў яе пад ногі.

– Якія вакацыі? Мы ж яшчэ іспыты не здавалі! – выгукнуў тым часам Дрытэра ўжо з інтанацыяй сапраўднай панікі. – І куды так спяшацца? Далі б хаця дзень на зборы.

– Параход у Адэсе доўга стаяць не можа. І яшчэ... – Какошы азірнуўся, пачакаў, калі пройдзе збой студэнтаў. Хаця яны і размаўлялі на сваёй мове, Смярдзяк заўсёды асцерагаўся чужых вушэй. – ...Нікому пра свой ад'езд не кажыце. Ад'язджаем ціха. І пажадана, – Какошы зірнуў на Петрыта, – каб на пероне нікога не было.

– Не, ты чуў? Вось гэта навіна! – прамармытаў Дрытэра, пазіраючы ўслед чацвёртакурсніку.

Сябар яшчэ штосьці казаў, але Петрыт яго не пачуў. Бо ўжо ўзбягаў па прыступках, па ходу ледзь не збіўшы з ног прафесара кафедры гісторыі КПСС, заляцеў у калідор, падбег да раскладу заняткаў, каб паглядзець – дзе займаецца Надзейчына група, і пачуў знаёмы голас:

---

[1] Прыхільнікі «Балы Камбэтар» («Нацыянальны фронт») – створанай у 1942 годзе арганізацыі ў супрацьвагу пракамуністычнаму Нацыянальна-вызвольнаму фронту.

– Пецякя, я тут!

Надзея са шчаслівай усмешкай на твары стаяла пасярод інстытуцкага калідора, не зважаючы на штуршкі ў спіну – пасля заняткаў студэнты бязладным натоўпам рушылі ў шатню, і ў гэты момант не варта было стаяць у іх на дарозе.

Усмешка вомігам збегла з дзявочага твару.

– Што здарылася?

– Я сёння з’язджаю.

– Куды?

– На вакацыі.

Дзяўчына выпусціла з рук партфель, і той мякка чвякнуў аб падлогу.

– З’язджаеш... а як жа я?! Мы ж збіраліся ехаць у Бабруйск, да маёй мамы!

– Надзя, у нас вельмі мала часу, – ужо зусім апалым голасам прамовіў Петрыт, і дзяўчына, усхліпнуўшы, тыцнулася носам у штрыфель ягонага пінжака.

– Ну што ты... ну навошта гэтыя слёзы? Пры канцы жніўня вярнуся... – прамовіў Петрыт роблена бадзёрым голасам, і дзяўчына страсянула галавой:

– Не... я ведаю... мы больш ніколі не сустрэнемся.

Непадалёку адчыніліся дзверы аўдыторыі, і калідор скалануў вясёлы галас і гучная тупаніна. Але чым бліжэй падыходзіў гаманлівы натоўп, тым больш ціхім рабіўся галас, і тупат пераходзіў у стоены шоргат, і студэнты з двух бакоў абміналі закаханых, як рака абмінае пяшчаную выспу, пры гэтым хлопцы сарамліва панурвалі вочы, а дзяўчаты, якіх было зусім няшмат, глядзелі на іх шырокімі вачыма – з цікаўнасцю і нават са страхам.

Праз паўгадзіны, ускалмачаны і расхлістаны, Петрыт заляцеў у свой пакой. Сябар ужо рыхтаваўся да ад’езду: на стале стаяла валіза, а на падлозе, у поўным бязладдзі, ляжалі вопратка, падручнікі, канспекты ды іншы хломазд.

– Прадай! – задыхана прамовіў Петрыт, выціраючы ўзмакрэлую лабаціну.

Сябар зірнуў на яго здзіўленымі вачыма.

– Кружэлку прадай, з албанскім танга!

У адказ Дрытэра гучна пстрыкнуў зашчапкамі фібравай валізы:

– Не магу, абяцаў Святлане падараваць.

Петрыт плюхнуўся на калені, дастаў з тумбачкі кітайскі тэрмас, кінуў у расчыненую сябрам валізу. Тэрмас ён набыў для бацькі, які працаваў на будоўлі і пакутаваў ад язвы.

– Ладна, забірай, калі ўжо так прыпякло, – Дрытэра паставіў тэрмас назад у тумбачку.

Схапіўшы кружэлку – яна была ў зялёным канверце – Петрыт кінуўся да дзвярэй, але тут жа вярнуўся. Дрогкімі рукамі выцягнуў з нутраной кішэні асадку, паспрабаваў штосьці напісаць на ражку канверта, але асадка не пісала, і ён ляснуў яе аб падлогу.

– Дай сваю! – крыкнуў, не пераводзячы дыхання.

– І маю ляснеш? – паспрабаваў пажартаваць Дрытэра, але, зірнуўшы на сябра, спешна працягнуў асадку.

Асадка пісала чорным атрамантам, і Петрыт, перавёўшы дых, размашыста напісаў: «Не забывай мяне!»

Хаця ён і папярэдзіў Надзею, каб тая не прыходзіла на вакзал – не хацелася заядацца са Смердзяком, ды і навошта праліваць лішнія слёзы, – але ўсё адно аж да самай апошняй хвіліны паглядаў у закуранае паравозным дымам вакно, у спадзеўцы, што дзесьці на ўскрайку перона мільгане блакітная хусцінка. Цягнік скрыгатнуў сваім жалеззем, скрануўся з месца, і ў вакне з урачыстай павольнасцю праплыў будынак вакзала. Петрыт узлез на верхнюю паліцу, кульнуўся тварам да сценкі і стаў думаць пра тое – што ён напіша ў сваім першым лісце, – і гарачы нос ягоны мерна, у такт хістанню вагона, тыцкаўся ў халодную перабойку.

## VIII

Прамінуў красавік, белым бэзавым кветам асыпаўся травень, Надзея здала экзаменацыйную сесію, а ліста ўсё не было. І кожны раз, заміраючы, яна выбягала да весніц, насустрач паштарцы, і паштарка тыцкала ёй у рукі «Гомельскую праўду», якую выпісвала гаспадыня. І сэрца кожнага разу сціскалася ад несуцешнай і пякучай крыўды. Пры развітанні на кружэлцы з албанскім танга, якую Нюрка, дачка гаспадыні, цяпер круціла дзень да ночы, Петрыт напісаў свой адрас. Аднак сказаў, каб яна чакала ліста, бо наўрад ці будзе сядзець у бацькоўскай хаце. І яна чакала. Уладкавалася на час вакацый упакоўшчыцай на тэкстыльную фабрыку, штовечару вярталася з працы, умольна глядзела на Нюрку, і тая з уздыхам апускала вочы. Але вось аднойчы, дажджыстым адвячоркам, Нюрка сама выбегла насустрач, махаючы ў паветры запаветным пісьмом.

Канверт выглядаў пацёханым, няўмела заклееным – падобна, што яго ўскрывалі, – і Надзея строга глянула на Нюрку.

– Ну што ты... паштарка такі прынесла, – з крыўдаю ў голасе прамовіла Нюрка. Але тут жа палагаднела, павяла падбароддзем: – Ну, што ён там піша?

Надзеі той хвіляй хацелася пабыць адной. Дакладней, сам-насам з доўгачаканым лістом. Яна пайшла ўздоўж плота, асцярожна надрываючы канверт, і трывожная пройма злёгку казытала душу. Нарэшце прабеглася занепакоенымі вачыма па першых радках. Ліст быў незразумелы, напоўнены нейкімі недарэчнымі і нават дзікімі словамі. «Паважаная Надзея! – пісаў Петрыт, – вось я і дома, у мілай і дарагой майму сэрцу сацыялістычнай Албаніі. Цяпер нам цяжка. Рэвізіяністы спрабуюць раскалоць сталёвае адзінства партыі, ліючы патокі маны і ўчыняючы самыя гнюсныя правакацыі. Але Партыя працы і наш гераічны народ ужо загартаваныя ў барацьбе з рэвізіяніcцкай навалай і, без усялякага сумневу, пераадолеюць цяжкасці і выйдуць пераможцамі ў змаганні з апартуністамі і рэвізіяністамі. А мы, албанскія студэнты, без усялякай прынукі, яшчэ шчыльней згуртаваліся вакол ЦК нашай партыі і Палітбюро на чале з любімым правадыром таварышам Энверам Ходжа...»

Якія рэвізіяністы? Якія апартуністы? Пра што ён піша? – Надзея агледзела пісьмо з усіх бакоў. Адваротнага адрасу на канверце не было. Спачатку падумала, што гэта Петрытавы сябар Дрытэра вырашыў з яе пажартаваць. Аднак почырк быў знаёмы, да болю знаёмы... Потым вырашыла, што Петрыт сур'ёзна захварэў, альбо, яшчэ горай, патрапіў у вязніцу і вымушаны пісаць усю гэтую лухту пад дыктоўку наглядчыкаў.

Яна адразу ж напісала ліст і ў той жа вечар аднесла на паштамт.

Стрыжаная пад хлопчыка дзяўчына наклеіла на канверт некалькі марак з надпісам «XXII з'езд», хацела пакінуць пісьмо ў сябе, але Надзея сказала, што сама ўкіне ў скрыню.

І вось важкае пісьмо з ціхім шорхатам упала на бляшанае дно.

– Даляці да яго... калі ласка... даляці, – прашаптала, прыцiснуўшыся лбом да паштовай скрыні. І доўга так стаяла, аж пакуль нейкая бабуля не кранулася пляча і не запытала:

– Ты што, мілая, плачаш? Здарылася што?

– Здарылася, – адказала, змахнуўшы слязіну ражком блакітнай хусткі, – той самай, якую ёй падараваў Петрыт.

Аніхто з трох албанцаў у Гомель не вярнуўся.

1 верасня Надзея прыйшла з заняткаў, і Нюрка моўчкі паказала на стол. На стале ляжаў той самы канверт з маркамі, прысвечанымі 22-му партз'езду. З апалым сэрцам яна ўзяла яго ў рукі і ўбачыла размытую пячатку «Адрасат выбыў».

«Як гэта выбыў? Куды?» – Надзея паволі апусцілася на крэсла і зноўку, як і мінулым разам, уважліва агледзела канверт. Адваротны бок быў пакамечаны – усё адно, як яго трымалі над парай, – але гэтым разам там не было размытага штэмпеля з двухгаловым арлом. Ліст, падобна, наогул не перасылалі ў Албанію.

Яна ізноў пабегла на паштамт, уклала той самы ліст у новую канверт, піхнула ў акенца, і тая ж самая стрыжаная пад хлопчыка дзяўчына вярнула яго назад.

– У Албанію не прымаем.

– Як не прымаеце? – у галаве паплыло, і партрэт Карла Маркса на сцяне бруднай плямай завіс у паветры. Надзея са здзіўленнем і насцярогай глянула на пісьмо – нібыта гэта было ўласнае сэрца, – і мажная цётка, што пнулася здаць пасылку, адсунула яе плечуком ад акенца.

Вярнуўшыся дахаты, дзяўчына не распранаючыся абрынулася на ложак, і цяжкая млосць разлілася па целе. «Ну чаму ён не прыехаў?! Чаму нельга напісаць ліста ў тую чортаву Албанію?!»

Гаспадыня трэсла за плячук, запрашала на вячэру, але яна ляжала, заціснуўшы твар падушкай, і амаль не дыхала. Потым Нюрка вярнулася з танцаў, села каля яе на ложак, палашчыла валасы, а пачуўшы, што пошта не прымае лістоў, паведаміла нешта такое, ад чаго слёзы Надзейчыны вомігам высахлі, і яна падхапілася на ногі.

– Нашая загадчыца днямі ў Варшаву едзе, да нейкіх сваіх сваякоў. Кажа, упершыню пусцілі. Аддамо ёй ліст, а яна там, у Польшчы, яго на пошту аднясе. Адтуль жа, відаць, лісты даходзяць. – Паведаміўшы такую навіну, Нюрка падсела да прымача і, зірнуўшы на ходзікі, сказала: – Зараз штосьці пачуеш.

Нюрка цэлымі гадзінамі праседжвала ля радыёлы. Ці то круціла кружэлкі, ці то шнарыла па эфіру ў пошуках вясёлай музыкі.

Настроіўшыся па патрэбную хвалю, радыёаматарка ўзняла ўгору палец. У прымачу штосьці зашумела, і ён азваўся паныла-цягуткімі зыкамі, якія шматкроць паўтараліся, нарэшце зайграла музыка, і жаночы голас урачыста абвясціў: «Говорит Тирана! Говорит Тирана! Начинаем нашу передачу на русском языке!»

«Тырана! Гэта ж горад, дзе жыве Петрыт!» – Надзея падляцела да

прымача, але ў той жа момант эфір напоўніўся злавесным, усё адно як недзе поруч безупынна працавала цыркулярка, шумам. Зрэдзьчасу сярод гукавога гармідару прарываліся асобныя словы, якія яна кагадзе прачытала ў Петрытавым лісце: «сталёвае адзінства партыі», «падкопы рэвізіяністаў», «нечуваны энтузіязм працоўных мас». Пры канцы перадачы зайгралі «Інтэрнацыянал», і «цыркулярка» аціхла.

– Нічога, заўтра тым жа часам уключым – можа, лепш будзе чуваць, – паведаміла Нюрка і дадала: – Пайшлі вячэраць.

Нюрчына загадчыца выправілася з лістом у Варшаву, і Надзея міжволі акрыяла душой. Нават пасміхацца пачала, і ранейшая гордая пастава з'явілася. «Ну навошта, сапраўды, гэтыя пакуты?» – пыталася сама ў сабе. Вунь, Светка з факультэта эксплуатацыі, той і гора няма, што з Дрытэра развіталася. Надоечы запытала яе: «Ці пішаш албанцу? – і гарэза, рагатнуўшы, адказала: «А навошта я буду пісаць, калі ён не адгукаецца?»

Ну не можа Петрыт зараз нармальнага ліста напісаць, дык у наступным годзе напіша. А не праз год, дык праз тры гады. Яна згодна і столькі чакаць. Але ён абавязкова напіша і пачне так: «Мілая Надзя! Ты чакала майго ліста – і вось я яго пішу...» – з такімі ўтрапёнымі думкамі і з ціхай усмешкай на вуснах яна выйшла аднойчы на інстытуцкі ганак, і дарогу ёй заступіў камсамолец Бяльзацкі.

З Бяльзацкім Надзея пазнаёмілася ў самы першы дзень вучобы. З нагоды пачатку навучальнага года зладзілі мітынг, і другакурснікі мусілі перадаць першакурснікам сімвалічны, выразаны з фанеры і пафарбаваны ў залацісты колер ключ ад ведаў. Ключ, вядома, мусіла пераняць нейкая прыгожая дзяўчына, вось перад пачаткам мітынгу Бяльзацкі і нагледзеў яе ў натоўпе. А неўзабаве, сустрэўшы на інстытуцкім калідоры, прапанаваў паўдзельнічаць у мастацкай самадзейнасці. І калі яна няўцямна перасмыкнула плечукамі, камсамольскі сакратар паведаміў, што трэба будзе проста абвяшчаць нумары на канцэртах. І ў той жа дзень даведалася: Бяльзацкі чапляецца да ўсіх прыгожых дзяўчат, а адна студэнтка, па чутках, летась ад яго загрубела. На шчасце, Надзея пазнаёмілася з Петрытам, і Бяльзацкі, калі сустракаў яе, адно паж*а*дна зыркаў ды казаў розныя глупствы. Яшчэ здалёк убачыўшы юрлівага смаўжа, яна звычайна спрабавала прыхавацца, пайсці іншай дарогай, але вось выйшла на ганак і ўзбілася на камсамольскага важака.

Бяльзацкі стаяў, шырока расставіўшы ногі і падставіўшы ветру свае хвалістыя, антрацытнага колеру валасы.

– Што гэта вы, Надзя, мяне ўвесь час ігнаруеце? – гарэзліва выдыхнуў камсамольскі важак.

Яна не адказала. Матлянулася ўбок, збіраючыся абмінуць Бяльзацкага, але той схапіў за рукаво і ўжо сур'ёзным голасам прамовіў:

– Ёсць размова.

Яны прайшліся па ходніку, селі на лаву.

– Ну як твой албанец, піша? – у голасе суразмоўцы ізноў азвалася гарэзлівая інтанацыя.

Надзея акінула важака пагардлівым позіркам.

– Ну ладна... ну ты ж яму пішаш?

Дзяўчына зноў прамаўчала, нанурыўшы долу дрогкія веі.

– Ды пі-ішаш, – расцягваючы зыкі, прамовіў Бяльзацкі і прыпаліў папя-

росу. – Пра гэта яшчэ не паведамлялі, але табе скажу: кіраўніцтва Албаніі стала на дарогу здрады. Яны пятнаццаць гадоў жылі за наш кошт, а цяпер узяліся паклёпнічаць на КПСС і савецкі народ. Так што лісты ў Албанію, а тым больш праз трэція краіны, пасылаць не варта. Калі ж ты і надалей будзеш шукаць кантакту з албанцам, гэта пагражае сур'ёзнымі непрыемнасцямі. І з табой ужо будуць размаўляць іншыя людзі і ў іншым месцы.

– А што я такога страшнага напісала? – падала нарэшце голас Надзея, адчуўшы, як абмірае трапяткое сэрца.

– Ну, напрыклад, ты паведаміла, што гатовая паехаць з тым пяюном і ў Албанію, і на край свету. Гэта можна трактаваць як падрыхтоўку да здрады радзіме.

«Якой здрады? Якой радзіме?» – сэрца парывіста грукнула, штурхнула гарачай крыві, і шчокі загарэліся, як палітыя варам.

– Ты чытаеш чужыя лісты? – Надзея падскочыла на ногі, і Бяльзацкі ізноў схапіў яе за рукаво.

– Ну, скажам, не я, а тыя людзі, якім гэта належыць рабіць па абавязку службы. І потым, нават калі ён твае лісты атрымае, адказаць не зможа, бо ўжо сядзіць у вязніцы. Усіх, хто вучыўся ў Саюзе, Энвер Ходжа пасадзіў на нары, – Бяльзацкі дыхнуў ёй у твар смярдзючым папяросным дымам.

– Няпраўда! Ты ўсё хлусіш! – Надзея тузанула руку і спачатку подбегам, а потым як ветрам гнаная рынула прэч ад гэтага страшнага чалавека.

«Пеця, дзе ты? Няўжо ў вязніцы? Мілы, каханы... прыедзь, забяры мяне адсюль, з гэтага горада, ад гэтых страшных людзей, якія чытаюць чужыя лісты», – задыхана шаптала яна, ужо паволі ідучы па восеньскіх прысадах.

Свяціла асавела-замглёнае сонца, пад нагамі шамацеў жаўталіст і толькі цяпер згадала Надзея, што якраз гэтым днём, 20 кастрычніка, яна сустрэлася з Петрытам. Але тады ішоў дождж, і восеньскі вецер шпурляў за каршэнь халодныя кроплі, але якой шчаслівай яна была там, у аўтобусе, калі сядзела поруч з хлопцам, у якога былі нетутэйшыя цёмна-вішнёвыя вочы і тонкія, як намаляваныя, бровы.

Да самай Якубоўкі ішла пехатой, разважаючы – як жыць далей, – і калі, змораная, пераступіла парог, пачула гарачкавы Нюрчын голас.

– Хутчэй сюды, тут пра Албанію кажуць!

Нюрка як заўсёды сядзела ля прымача, але гэтым разам слухала не музычную перадачу з Варшавы, а Маскву. У Маскве пачаўся партыйны з'езд – пра гэта ўвесь час трындзелі на інстытуцкіх палітінфармацыях, – і акурат цяпер па радыё перадавалі з'ездаўскія прамовы. Нейкі мужчына з каўказскім акцэнтам манатонна гамзаў:

– Вярнуліся нядаўна ў Албанію маракі, якія навучаліся ў Севастопалі. У гутарках яны выказвалі здзіўленне: чым выклікана нечаканае пагаршэнне дачыненняў паміж Албаніяй і СССР? У выніку многія з іх патрапілі ў вязніцу, – хваля крыху адышла, і Нюрка злёгку крутнула ручку настройкі. – Албанскім студэнтам, якія ў нас вучыліся і якія дачасна паехалі на вакацыі, працягваць вучобу ў СССР не дазволілі. Гэта выклікала сярод іх незадаволенне і зноў-такі многія незадаволеныя былі рэпрэсаваныя.

– Чула? – ускінула брыво Нюрка. – Ці не пасадзілі твайго албанца?

Надзея памаўчала хвіліну, тузаючы ражок блакітнай хусткі, нарэшце схамянулася, задышліва, як пасля доўгай беганіны, прашаптала:

– Паеду ў Маскву.

– У якую Маскву? Навошта? – Нюрка ўражана глянула ў Надзейчын твар.

– Зайду ў албанскае пасольства. Спытаю: ці на волі ён? Яны павінны ведаць...

– Суніміся... якое пасольства? Ды хто цябе туды пусціць?!

Надзея сцягнула з галавы хустку, страсянула кудзеркамі валасоў і ціха выдыхнула:

– Паеду... – і ў выдыху гэтым чулася гатоўнасць заплакаць.

## IX

Трапяткі ветрык крануўся скроні, напорліва налёг на патыліцу, і галава злёгку закружылася. Хоць і праспаў з дарогі аж дванаццаць гадзінаў, але ўсё адно ў целе адчувалася стома, і галава была, як з пахмелля.

У Якубоўцы, па якой ён ішоў, за трыццаць прамінулых гадоў, бадай, нічога не змянілася. Прыгарадная вёска была забудаваная дыхтоўнымі, сточанымі шашалем хатамі на высокіх каменных падмурках. Такія хаты яму часцяком даводзілася бачыць у глыбіні Расеі, але тут, на беразе Сожа, яны глядзеліся экзатычнымі, немаведама калі ўзведзенымі спарудамі.

Надзея знайсці колішнюю Петрытаву сяброўку была знікомай. Гаспадыня, у якой тая здымала кут, відаць, загавела душой; дачка яе, Нюрка, няйначай, кудысьці з'ехала. А калі і не з'ехала, дык наўрад ці скажа – дзе зараз кватарантка, што некалі, чорт ведае калі, жыла ў іхнай хаце. Аднак ён паабяцаў Петрыту знайсці тую жанчыну і цяпер, шыбуючы па пыльнай вясковай вуліцы, прагнымі вачыма паглядаў на няўклюдныя, ад рукі намаляваныя нумары на фасадах якубоўскіх хат.

Патрэбны нумар упрыгожваў не шаляваную будыніну з прыгожымі карункавымі аканіцамі. На двары заходзіўся ад брэху сабака, і Мікола ў нерашучасці спыніўся каля весніц.

– Ну до табе! – пачуўся незадаволены жаночы голас, і сабака, скавытнуўшы, аціх.

Кабета, што выйшла ў двор, была ягонага веку, і Мікола, прасвятлеўшы тварам, яшчэ здалёк выгукнуў:

– Добры дзень, Нюра!

Жанчына пацяла яго насцярожлівым позіркам.

Уцяміўшы, што перад ім зусім іншы чалавек, Мікола загаварыў няўцямна і блытана.

– Тут калісьці гаспадыня жыла... разам з дачкой... дачку Нюра звалі... а ў іх дзяўчына кватаравала... студэнтка...

– А калі ж гэта было? – перапытала жанчына.

– Ды дзесьці напачатку шасцідзясятых...

– У-уу... мы тут толькі дзесяць гадоў жывем. Бацька мой, – жанчына ўздыхнула, – гэтую хату купляў. А ў каго – я нават і не ведаю. На БАМе тады працавала.

Мікола асуджана керхануў, памацаў Петрытава пісьмо, што ляжала ў нутраной кішэні, і кабета ўжо бадзёрым голасам паведаміла:

– А вы да Міканораўны зайдзіце. Ву-уунь сіні дамок... на тым баку вуліцы. Ёй ужо семдзесят пяць гадоў. Усіх тут ведае.

У двары сіняга дамка сабакі не было, і Мікола адным махам узбег на высокі ганак. Хацеў быў пастукаць косткамі пальцаў у дзверы, але яны самі адчыніліся, і на парозе паўстала ўскудлачаная дзяўчынёха.

– Заходзьце, бабуля вас ад ранку чакае.

Уражаны такой весткай, Мікола ўвайшоў у хату і пачуў ціхае вохканне. Вохкалі за стракатай фіранкай.

– Сённяшнюю ж ночку ўжо ж ледзь перажыла, – плаксіва заенчылі за фіранкай, і Мікола, зразумеўшы, што яго прынялі за лекара, пацёр далонню няголеную сківу.

Потым доўгіх дзесяць хвілінаў, ізноў-такі няўцямна і блытана, распавядаў хворай бабулі пра мэту свайго візіту, нарэшце тая залыпала вачанятамі і са стогнам прамармытала:

– Міронаўна, пра якую вы гаворыце, даўно памерла. А Нюрка хату прадала ды пабралася з нейкім вайскоўцам. Паехала некуды ў Калінінград, пажыла там год і развялася. Потым вярнулася і з нейкім – ці то армянінам, ці то грузінам – сышлася. – Бабуля з кожным прамоўленым словам жвавела і нават прыўзнялася на локці. – А армянін на базары кветкамі ды кавунамі гандляваў. І вось паехаў раз... ужо да сябе туды... па кветкі – і хвастом накрыўся...

– А дзе яна жыве? – запытаўся Мікола, дэманстратыўна зірнуўшы на гадзіннік.

– Хто, Нюрка? А во... у маласямейцы на Фестывальнай. Дом, дзе прадуктовая крама...

– А нумар кватэры?

– А нумара і не ведаю... толькі раз у яе была, – бабуля звесіла долу сінія ногі, крыкнула дзяўчынёсе: – Марутка, унучачка, а пазвані ж ты Спірыдонаўне... Даведайся – у якой кватэры Нюра жыве.

Пакуль унучка накручвала тэлефонны дыск, сямідзесяціпяцігадовая гаваруха пачала распавядаць пра Нюрчыны запоі.

– Сорак пятая! – крыкнула неўзабаве дзяўчынёха, з некім там пагаманіўшы, і Мікола падхапіўся на ногі.

– Дык паслухайце... спілася ж на голую бэлю, – прашамкала старая, але тут, на шчасце, пад вокнамі спынілася «хуткая дапамога», і госць, спатыкнуўшыся на парозе, выбег з хаты.

Мікола ехаў у бок Фестывальнай вуліцы і раз за разам паціраў далоні. Усё не даваў сабе веры, што так лёгка знайшоў Нюрчын адрас. Ён ехаў, невідушча пазіраючы ў тралейбуснае вакно і песцячы ў душы спакуслівую думку, што і сама Надзея жыве дзесьці тут, магчыма, на той жа вуліцы. Уявіў нават, як жанчына дрыжачай рукой возьме пісьмо, адвернецца да вакна, нязграбна надарве, і канверт падбітай птушкай упадзе да яе ног.

Вось так, з летуценнай усмешкай на твары, Мікола спыніўся ля парэпаных, даўно не фарбаваных дзвярэй і націснуў гузік званка. Адчынілі не адразу. За дзвярыма доўга нечым шамацелі, стукалі, нарэшце выгукнулі: «Зараз!» – і, нарэшце, перад Міколам паўстала цыбатая кабета з азызлым тварам і ўскудлачанай галавой.

– Вам каго? – запыталася кабета, захінаючыся ў задужа куртаты, як для яе веку, халат.

– Скажыце, а вы Нюра? – Мікола надаў голасу ліслівыя ноткі.

– Нюрай была ў дзяцінстве, а цяпер я Ганна... А што такое? – мяркуючы па тоне, кабета была не ў гуморы.

– Ведаеце, я шукаю адну жанчыну... яна жыла калісьці ў вас на кватэры...

Цыба колькі часу глядзела на яго прыпухлымі вачыма, усведамляючы пачутае, нарэшце каротка выдыхнула: «Зайдзіце!»

Гаспадыня адразу ж патупала на кухню, і Мікола рушыў следам, з асцярогаю намацваючы нагамі падлогу. На кухні панаваў гармідар, і, што найбольш непрыемна ўражвала, гэта шклянкі ад маянэзу з пульхнатай цвіллю на дне, якімі быў застаўлены падаконнік.

– Яе Надзеяй звалі, – прамовіў госць, і гаспадыня, прыціснуўшы азадкам услон, з плаксівай інтанацыяй пралепятала:

– Колькі ж гэта гадоў прайшло? – Потым шморгнула носам, махнула рукой, каб госць таксама сядаў: – А вы кім ёй даводзіцеся?

– Ды, уласна кажучы, нікім. Проста адзін чалавек папрасіў знайсці яе адрас...

– Ці не той гэта балгарын? – перабіла гаспадыня, і госць, вытрымаўшы паўзу, удакладніў:

– Албанец.

– Ну так... албанец. Прыгожы быў хлопец. Высокі, зграбны. Нездарма Надзя ў яго так закахалася, – гаспадыня ўздыхнула, абцягнула куртаты халат, з-пад якога тырчалі сінюшныя калені. – Вы яе ўжо не знойдзеце. Надзя ў той жа год і памерла.

– Як гэта – памерла? – абурана выдыхнуў Мікола, нават паспрабаваў падняцца на ногі, але тут жа абмяк, паныла ўтаропіўся на засмечаную цыбульнымі шалупайкамі падлогу.

– Памерла... дакладней, яе машына збіла. А можа і сама пад колы кінулася, – ужо зусім плаксівым голасам паведаміла гаспадыня. – Нервы ў кабеты, відаць, былі дарэшты выматаныя.

Гаспадыня са стогнам паднялася, выпіла нагбом вады з чайніка.

– Гэта было ў 61-м годзе, дзесьці пры канцы кастрычніка. Даведалася, што албанцаў, якія ў нас вучыліся, у вязніцу пасадзілі. Вось і надумала ў Маскву паехаць, у нейкае там пасольства. Мы з маці яе і ўгаворвалі, і за рукі трымалі. Маўляў, куды ты паедзеш, хто там цябе будзе слухаць? Але ж вырвалася з нашых рук і паехала. Больш я Надзю не бачыла, – гаспадыня ізноў схапілася за чайнік, але піць не стала – не ведала, відаць, за што зачапіць рукі. – А праз колькі часу да нас нейкі мужчына прыйшоў. Малады такі, чарнявы. Сказаў, што з інстытута і што хоча паглядзець Надзейчыны сшыткі ды нейкія паперы. Папоркаўся ды пайшоў. А на наступны дзень ейная маці прыехала, уся заплаканая. Рэчы забрала.

Хвіліну яны маўчалі, і госць – проста так, каб парушыць напятую цішыню – запытаўся:

– Можа, якія лісты засталіся ці фотаздымкі?

Кабета ізноў прыклалася да чайніка.

– Дык я ж кажу – маці прыязджала... Сукенку, памятаю, забрала, хустку... прыгожую такую, блакітную... – гаспадыня, нібыта згадваючы штосьці, зірнула на пакрытую шэрымі пісягамі столь і ўраз акрыялым голасам выдала: – Ёсць адна рэч! Кружэлка засталася!

Цыба падхапіла ўслон, кінулася ў калідор.

– Вунь там, на антрэсолі, – весела выгукнула гаспадыня, і госць падзівіўся такому рэзкаму перападу яе настрою.

Мікола ўзлез на хісткі ўслон, адчыніў дзверцы. Уся антрэсоль, да самай столі, была забітая старымі кружэлкамі.

– Збірала калісьці. Цяпер не ведаю – куды падзець. Здымайце паволі, а я пераглядаць буду.

Мікола зняў важкі стос, перадаў цыбе, і тая, сеўшы на канапу, стала перабіраць кружэлкі, называючы прозвішчы выканаўцаў: «Ніна Дорда... Георг Отс... Леанід Кастрыца... Гелена Веліканава...» Нарэшце радасна ўсклікнула:

– Вось яно, албанскае танга!

Пакруціўшы ў руках важкі, на 78 абаротаў, дыск, Мікола запытальна зірнуў на цыбу, і тая махнула адразу дзвюма рукамі:

– Ды бярыце, калі трэба. У мяне ўсё адно няма на чым іх круціць.

Мікола ішоў знаёмай вуліцай, махаючы ў такт хадзе поліэтыленавай торбай з кружэлкай. Дзіўнае пачуццё наведала той хвіляй душу: яму здалося, што ў албанскім танга ёсць нейкая таямніца, і што ўведаць яе можна толькі пачуўшы мелодыю. Але дзе знайсці радыёлу ці які стары прайгравальнік? Іх жа даўно павыносілі на сметніцы. І вось, перайшоўшы вуліцу, ён спыніўся перад домам, дзе жыў ягоны дружбак Сёмка Гармозін. Сёмку ён ведаў даўно – калісьці на пару ганялі рэйсавыя аўтобусы ў Бранск ды Кіеў, а цяпер разам працавалі «дальнабоямі». Якраз у таго Сёмкі ён і бачыў некалі старую радыёлу.

Дружбак сустрэў калегу з раскрыленымі рукамі.

– Калян! Прыехаў! А мы збіраліся па табе памінкі спраўляць.

У хаце, як заўсёды, пахла кавай, якую Сёмка піў у неверагоднай колькасці.

– Я ж таксама толькі раніцой у хату ўбіўся. Чатыры дні быў у дарозе – адстаў ад жыцця. Цяпер вось каву п'ю, што з рэйсу прывёз, ды газеты чытаю, – Гармозін ссунуў газеты на край стала, паставіў на стол яшчэ адзін кубак. – Ну дык распавядай – як з'ездзіў. Штосьці ты надта пахмурны. Здарылася што?

– Ды не, усё нармальна, – адказаў Мікола і заклапочана агледзеўся. – Слухай, я тут у цябе радыёлу бачыў...

– Якую радыёлу? – буркнуў Сёмка, праліўшы кіпень міма кубка.

– Ну якую... на якой кружэлкі круцяць.

– Позна заявіўся... Я гэтую гаргарыну даўно ў падвал аднёс. А ты што, з Албаніі кружэлкі прывёз? Ды, відаць, на 78 абаротаў? Казаў жа табе, што ў іх там каменны век на дварэ.

Гармозін раскроіў батон, падсунуў госцю цукарніцу.

– Ну дык што мне, у падвал перціся?

Госць у адказ перасмыкнуў плячыма.

– Ну, Калян, з табою не засумуеш. Добра, зараз прынясу, а ты пакуль «Народную газету» пачытай.

Калян таксама адстаў ад жыцця, таму з цікаўнасцю разгарнуў газету. Адразу на дзвюх палосах, дробным шрыфтам, быў надрукаваны праект новай канстытуцыі. Іншым разам ён бы такое не чытаў, а тут з цікаўнасцю стаў вадзіць носам па газетных радках.

Гармозін вярнуўся даволі хутка: з грукатам адчыніў дзверы і, незласліва мацюкаючыся, панёс радыёлу ў святліцу.

– «Беларусь-59». Ад бацькі засталася. – Сёмка крутнуўся, не ведаючы, куды паставіць радыёгаргару, і ўрэшце паставіў на часопісны столік. – Сыра ў падвале, маглі і кантакты паржавець.

Яны ўдвух падцягнулі столік да сценкі, Сёмка піхнуў штэпсель у разетку, і на панелі радыёлы загарэлася зялёнае вочка.

– Слухай, а як гэта прозвішча таго албанскага дыктатара? – запытаўся Гармозін, паціраючы навярэджаныя рукі.

– Энвер Ходжа.

– І колькі ён там панаваў?

– Сорак гадоў.

– Йоп... гэта ж трэба... столькі часу з людзей здзекаваўся, – ужо з кухні азваўся Гармозін.

– З дыктатарамі ў Еўропе скончана. Чытаў праект канстытуцыі? – крыкнуў Мікола, насунуўшы кружэлку на бліскучы шпень. – І ў нас будзе як у людзей – два прэзідэнцкіх тэрміны адбыў – і свабодны. Дай іншым пакіраваць!

– Э-ээ, Калян, што тая канстытуцыя, – крыкнуў Сёмка, бразнуўшы кілішкамі. – Сёння напісалі, заўтра на тое забыліся...

Іголка лягла на кружэлку, і радыёла напоўніла пакой лёгкім шыпеннем. Нечакана шыпенне аціхла і, як падалося, аднекуль здалёк даляцела цягуткая, панылая і адначасова шчымлівая мелодыя, якой туравала мернае рыпенне пашарпанай кружэлкі. Гэта было тое самае танга, што ўварвалася тыдзень таму ў няшчыльна прычыненыя вокны гатэля. І салодкія гукі ізноў крануліся душы сваімі цёплымі струменямі, і Мікола, уражанымі вачыма паглядаючы на чорны дыск, уголас прашаптаў: «У нас усё будзе як у людзей», і потым, ужо моўчкі, паўтарыў: «Як у людзей...»

Мікола Кананoвіч



...Ты ўцякла за мяжу,
Ды мяжа у табе засталася...

# І доўжыцца ноч...

### *ВЕРАСЕНЬ КАПУТ*

Верш. Верасень.

Ты яшчэ бачыш літары.
Хай жывуць маніторы, прынтары
І гэты, як крэйда, ліст,
Што ловіць іх чорны дрыст.

Верасню ўжо капут –
І верш народзіцца тут!

Верш. Верасень.

Так хацелася
Глядзець праз смугу,
Але – не магу.

Чорныя літары
Вылазяць з прынтара,
Нітуюцца ў вобразы,
У газетныя паласы...

Вазьму паласу –
І ў свет панясу.

* * *

Парадзела лісце на бярозе,
Ноч туман халодны апускае,
Ранак шэрым поле пакрывае,
У прыродзе – восень карагодзіць.
Дні мільгаюць лісцем каляровым,
Караценоць, халаднеюць хутка,
Не знайсці зацішнага закутка
Адпачыць пад сонцам вечаровым.
Час плыве туманам далягляду
У той бок, дзе сцюжа валадарыць,
Ужо заўтра маразы ударацЬ,
І лісты з бярозы – лістападам...

## НА ДЗЯДЫ

Чорнае лісцё... Зямля пустая
Ворывам прылегла на спачын.
Вецер лістападаўскі дзьме ад небакраю
І здаецца горкім, як палын.
На Дзяды – вакацыі... Вусцішная ціша.
Поўніцца трывогаю душа.
Вецер свішча. Быццам на гарышчы
Чэрці ладзяць з ведзьмамі шабаш.
Вёска хутка хутаецца змрокам,
І не спіш пад поўнач ты адзін...
Мо за ўсіх адзін цвярозым зрокам
Прашчураў бяссонніш успамін.
Мо таму так вусцішна і горка,
Што забылі мёртвых і жывых,
А замест душы гадуем горла
І дзядоў хаваем маладых.

## І ДОЎЖЫЦЦА НОЧ

Хтосьці баіцца адзіноты,
хтосьці – бяды.

Мы, як тыя краты,
цёмныя,
баімся сваёй цемнаты.
Бо стагоддзямі – ноч,
і тлустыя прыхадні-павукі
са свінымі лычамі
ўюць з нас вяроўкі
і плятуць на магілы вянкі.
Яны выкшталцона
ўмеюць піць кроў
і тлусцець
на галечы “братоў”.
У гэтым іх сэнс
ды мэта быцця.
І катэгорыі вечнасці
існуюць для нікчэмнасці,
бо мы, бы краты,
цёмныя,
баімся сваёй слепаты,
не бачым сваёй цемнаты.
...І доўжыцца ноч.

## ДЗІВАК

*С.Г.*

Нястача грошай да палучкі,
А холад – лішні да цяпла.
Размовы з хлопцамі пра злучкі,
Як пра каханне давідна.

А ноччу – марнасць успамінаў
Ці марнасць працы – пад настрой,
Бо лёс падкінуў (ці пакінуў?)
Яго сам-насам жыць з сабой.

Прыхільнік краснага пісьменства
Трапляе часта у кантэкст
Эпохі без надзей і зместу,
Апроч таго, што “кожны есць”.

Калі грашовых знакаў мала,
Тады – на пляшку не шкада.
Амаль стагоддзе адгуляла
Так пралетарская арда.

Таму чын з чынам і па чыне,
І не па чыне нашы п’юць.

Здаровы сэнс даўно пакінуў
Людзей, што побач існуюць.

Калі ж ужо зусім абрыдне,
Ён падымаецца наверх.
Там ёсць адзін (не п’е, як злыдня)
Паэт, філосаф, чалавек.

Паэт свой вершык пачытае,
А госць падумае ізноў:
Зямля цярплівая трывае
На свеце розных дзівакоў.

* * *

Немагчымасць кахання,
як лічбы чужыя
на нечых рахунках.
Імя тваё стрэлам
гучыць гулкай ноччу,
але клічуць дамоў не цябе.
Не спіцца.
І нервы на твары казычуць
скуру, што час
хутка з твару сатрэ.
Немагчымасць жыцця
у прасторы і часе
на гэтых прасторах
часоў небыцця.
Дык што ж так у скрусе,
ў знямозе,
спакусна,
як сэнс найвышэйшы, –
жанчыны імя?
...Немагчымасць кахання.

* * *

*I.*

Ты мае не чытаеш вершы,
Не прысвечаныя табе,
Ды наперадзе твор наш лепшы
Сэнсам станецца для цябе.
З дня на дзень вясна надыходзіць.
Так пранізліва пахне снег.
Ты па ім асцярожна ходзіш,
Бо табе паслізнуцца грэх.
Чакаеш лета і сонца,
Каб жыццём распусціцца з ім

І падоўжыць жыцця бясконцасць,
І застацца ў ім нам траім.

*26.02.2004/06.11.2014*

## *МЯЖА*

### *1*

Недзе там, у мінулых гадах,
На ростанях, на скрыжаванні
Застаўся п'янкі гарадскіх ліпаў пах
І юная ты у вясновым убранні.
Недзе тут, у палях і лугах,
Ля ракі і на возеры нашым
Гуляе на волі душы маёй птах,
Што ніколі не здрадзіць
Надзеям і марам юначым.
Недзе ўецца дарога,
Прастора з-пад колаў ляціць у нябыт
Майго часу, што тут мне адведзены Богам –
І я забываю на ўзрост і расхрыстаны быт,
І раблюся дзіцём,
Неразумным свавольным гарэзам,
Што ловіць вялікую рыбу
У мёртвай рацэ.
Ды болей за ўсё,
Можа гэта мне толькі і трэба,
Покуль чырвань ад слёз
Не гарыць на зарослай шчацэ.
Недзе там, недзе тут,
Гэта недзе – на нашай Радзіме,
На няшчаснай, збалелай
І ўсё ж такі любай зямлі.
Пра яе ты згадаеш пасля
На далёкай чужыне,
Куды з гавані лёсу
Плывеш на ліхім караблі.
А мне шляху няма.
Тут народжаны, тут як прыкуты
Да ўсяго, што любіў
І што кляў у адчайнай журбе.
Моцы-сілы няма,
Каб парваць гэтай крэўнасці путы,
І спатолі няма ад знішчэння раба у сабе.
Толькі голад, як пёс,
Назаўжды застаецца нам верны
На Радзіме згібелай
І ў вольнай краіне чужой.

Гэта голад пазнання,
Аскепкі раструшчаных нерваў
(Не кажу пра кашэль)
Кіравалі на Захад табой.

***2***

Асабістыя страты – не страты,
Калі цэлы народ – за жабрачыя краты,
Калі сохнуць лясы,
А балоты становяцца стэпам,
Калі з дурнаты за краты садзяць паэтаў.
У няведанні як,
Калі гэтак жыць немагчыма,
Уцякае зямляк
Ад балючага слова “Айчына”.
Кладзецца касцьмі
Араты ў сваім агародзе,
Лад калгасны “дастаў” з яго ўсё
Аж па самае годзе.
Ды, як з даўняй пары,
Зноўку кожны
Сам капае, як знае,
Да суседскай мяжы агарод.
А ўраджай (развучыліся?) –
Дрэнны, не вырастае.
Ці то спрадвеку няўмекам
На зямлі жыў народ?

***3***

Чалавек – так рэдка з вялікай,
Так часта – маленькі,
Часта – ніхто.
Памёр, адышоў ад жыццёвай сявейкі –
Як бы не было.
Забыліся ўчора, каб на забыўшых
Забыліся заўтра –
Так і жывём.
Дзе тая сутнасць,
Дзе тая праўда? –
Быллё!

Дзе цярпенню мяжа,
Дзе мяжа выжыванню? –
Мы зламалі даўно тонкі лёд
Над балотнаю тванню.
І балотны наш край

Ці не стане нам брацкай магілай,
А балоты праз час – дзікім стэпам,
А потым – пустыняй?..

Ты ўцякла за мяжу,
Ды мяжа у табе засталася.
Гэты верш я пішу
Без надзеі на нашае шчасце,
У якое мы верылі ТАМ,
Але страцілі веру,
Адабралі надзею у нас праз падман,
І душу – пад сякеру.
Так было ўжо не раз –
Мы не першыя ў жорнах зярняты.
Маліць і маліцца за нас,
За праведных, за вінаватых,
Не нашы нашчадкі з табой
На Дзяды яшчэ будуць,
А цяпер – час асенняй журбой
Нашу памяць астудзіць.

### *ЛАРЫСЕ ГЕНІЮШ*

Вецер жнівень падмятае,
Выганяе з яго лета,
Каб вільготная, цяжкая
Села восень на паўсвету.
А другую палавіну
Нам убачыць не шанцуе,
Тым, хто гне на бульбе спіну,
Хто пад плотам заначуе.
Але верасень – работнік –
Нам расквеціць твары ў чырвань.
Выйдзем дружна на суботнік,
Як у храмы на Вялікдзень,
Навядзём сабе парадак
У двары, на агародзе,
Каб не выпасці ў асадак
Нежывога асяроддзя.

...Нешта тлумнае пляцецца
Ў думкі жнівеньскай парою.
Ў Зэльве на крыжы віецца
Бел-чырвона-белы колер
На магіле не скаронай
Нашай велічнай паэткі,
А ад шэрасці заслонай
Там ляжаць жывыя кветкі.



Міхась Булавацкі



...а школа працягвала

жыць сваім жыццём...

# Няздзейсненае знаёмства

***Два апавяданні***

## Ленскі

На пачатку шасцідзясятых Савецкі Саюз, атросшы з сябе попел вайны і крыху адмыўшы кроў сталінскіх рэпрэсій, воляй новай камуністычнай улады ўзяў курс на светлую будучыню – камунізм. Хрушчоў паабяцаў, што гэты шлях не зойме і дваццаці гадоў і ўжо на пачатку васьмідзясятых савецкі народ зажыве ў шчаслівай краіне, дзе "ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па патрэбе".

Паколькі для будаўніцтва камунізму патрабаваліся вельмі адукаваныя будаўнікі, было вырашана вучыць школьнікаў не дзесяць, а адзінаццаць гадоў. Тым болей, што Еўропа і клятая Амерыка такое ўжо зрабілі для ўмацавання капіталізму, які рана ці позна ўсё адно павінен быў згнісці.

Адзінаццаць гадоў зрабілі, а потым пачалі лічыць. Гэта ж тыя пачвары, буржуі, спачатку лічылі, а потым

рабілі, а нам навошта пераймаць іх недарэчныя звычкі. Дык вось, пачалі лічыць і выйшла нестасоўка: па-першае, настаўнікаў патрабавалася болей, а дзе ж іх узяць; па-другое, у школах месца не хапала, трэ было будаваць новыя школы, а хто ж іх будзе будаваць, калі маладыя працоўныя рукі, ногі і галовы лішні год у школах сядзяць і вучаць немаведама што, бо і праграмы новыя яшчэ не распрацаваныя. І адзінаццаты клас як увялі, так праз год і адмянілі.

У гэтую "чорную дзірку" савецкай адукацыйнай палітыкі надарылася патрапіць і мне. Першага верасня 1964 года наш дзясяты клас, які прыйшоў у школу давучвацца апошні год, агаломшылі навіной, што сядзець за школьнымі партамі нам прыдзецца яшчэ не год, а два гады.

Асабіста для мяне тое было за шчасце, бо ў адным класе са мной вучылася дзяўчына, да якой я няроўна дыхаў, хоць яна пра тое й не ведала, і прасядзець побач з ёю яшчэ адзін год я быў не супраць.

Праз год школа не выдала краіне ніводнага выпускніка, затое яшчэ праз год нашая вясковая школа-інтэрнат святкавала самы буйны ў сваёй гісторыі выпускны баль: адзінаццаты і два дзясятыя класы, восемдзясят маладых душ з заплечнікамі атрыманых ведаў ішлі ў белы свет шукаць сваё месца.

У той лішні школьны год надарылася мне стаць сведкам адной рамантычна-драматычнай гісторыі.

Настаўніца біялогіі сышла на пенсію. Маладая прыгожая біялагічка, высокая і грудастая, з дзіўным імем Гартэнзія Сцяпанаўна, якую прыслалі наўзамен, нядоўна змагла цярпець кпіны і насмешлівыя заляцанні хлопцаў і з'ехала.

І тады з'явіўся Ён, свежы выпускнік мазырскага педа, Віктар Галенскі. Вабная юнацкая постаць, нейкі абсалютна правільны авал твару ўпрыгожвалі ярка-блакітныя вочы, і накрывалі гэтае анёльскае аблічча хвалі светла-залацістых валасоў, сапраўды залацістых, яны нават адбліскваді, як золата.

Нават мы, хлопцы, заміралі ў любаванні гэткім цудам прыроды, а пра дзяўчат што й казаць. Яны круціліся каля яго дзе заўгодна, яны дыхалі паветрам каля яго, яны дакраналіся да яго, яны слухалі яго, што б ён ні казаў. Трэба аддаць належнае: ён да таго ж быў добрым настаўнікам, ведаў біялогію грунтоўна і мог цікава пра яе распавядаць. І калі тое, што ён казаў, не вельмі адкладвалася ў свядомасці найперш дзявочай палавіны, то толькі таму, што, слухаючы яго, дзяўчаты марылі зусім пра іншае.

Яны нават крокі яго пазнавалі. Калі ў школе йшоў урок і з калідора чуліся нечыя крокі, на іх увагі не звярталі. Але, калі гэта былі крокі Ленскага (так натуральна скарацілі мы яго прозвішча), клас заціхаў, бо душа кожнай дзяўчыны была там, на калідоры, побач з Марай.

Такое купанне ў дзявочай увазе і прыродным поклічы, што аж ірваўся ад іх, не магло застацца без наступстваў. Бо шаснаццаць-сямнаццаць год – час дзявочага росквіту, і які ж хлопец не заўважыць гэтага, не ацэніць, не пацягнецца да гэтай прыгажосці. Як моцна ні стрымлівай свае пачуцці розумам, моцы гэтых лейцаў не хопіць на ўтаймаванне прыроднай цягі, асабліва калі яна з абодвух бакоў.

Я вось дзіўлюся, як Ленскаму ўдалося ўтрымацца пяць гадоў у інстытуце, у атачэнні вялікай колькасці маладых дзяўчат, якія – несумненна! – і там круціліся вакол яго з прыцягальна-грэшнымі намерамі. Там неяк удалося, а тут...

З часам пачалі заўважаць, што ў прыгажуні Ніначкі з дзясятага “Б” стаў акругляцца жывот. Ленскі, як чалавек сумленны, не стаў аднекавацца, хутка й вяселле згулялі. Ніначцы зайздросцілі ўсе дзяўчаты. Яна кінула школу і нарадзіла дачку ўжо ў ролі законнай жонкі.

А школа працягвала жыць сваім жыццём. Аднакласнікі Ніначкі вучылі мовы, матэматыку, тую ж біялогію, каб больш-менш прыстойна паказаць сябе на ўступных іспытах у ВНУ. І разляцеліся пасля памянутага выпускнога балю – хто куды. З цягам часу аселі – хто ў райцэнтры, хто ў іншым горадзе, а хто і ў сталіцы, набылі розныя прафесіі, занялі маленькія ці не зусім маленькія пасады, абзавяліся сем’ямі і, прыязджаючы ў родную школу на сустрэчы выпускнікоў, цікава пра ўсё гэта распавядалі.

Цяпер ужо Ніначка зайздросціла ім. Яна нарадзіла другое дзіця і таму з’ехаць кудысьці ўжо й не марыла. Каб не было сорамна перад дзецьмі за сваю недаадукаванасць, скончыла завочную школу, атрымала атэстат. І што рабіць у вёсцы жанчыне без прафесіі? Рабочай у саўгасе?..

Яе прызначылі загадчыцай клуба. Пасада нібыта й начальніцкая, але над кім яна начальніца? У штаце клуба яна адна – і начальніца, і падначаленая, і нават прыбіральшчыца. Усе яе абавязкі – адкрыць клуб, каб паказаць кіно, якое раённы кінамеханік прывозіў раз ці два разы на тыдзень, ды па суботах пасля кіно зладзіць танцы, сочачы, каб моладзь не напівалася залішне і не ўчыняла бойкі. Калі адчувала, што такая небяспека нарастае, абвяшчала вечар танцаў скончаным і зачыняла клуб.

Няхітрая праца, якая прыносіла невялікія грошы, не цешыла, а раздражняла. Раздражнялі дзеці, якіх было ўжо трое. З цягам часу пачаў раздражняць і муж, які хадзіў у школу з задавальненнем. Ёй ужо бачылася, што гэтае задавальненне не ад таго, што праца настаўніка яму падабаецца, а ад таго, што там вакол яго віюцца маладыя дзеўкі, з якімі ён... Гэтыя думкі вярэдзілі душу, тлумілі розум і ўрэшце зрываліся з языка крыўднымі словамі і папрокамі аб страчанай маладосці.

Яго настаўніцкага заробку не хапала на вялікую сям’ю – і гэта стала яшчэ адной, нібыта й галоўнай, падставай дзеля сварак і папрокаў...

Прыехаўшы чарговы раз да сваякоў на радзіму, я пачуў, што Ленскі – ужо не настаўнік, а галоўны аграном саўгаса. Ну, можа, цяпер, – падумалася, – у сям’і болей ладу і згоды.

Праз колькі год у суседнім калгасе выявіліся буйныя крадзяжы. Старшыню знялі з пасады, а галоўбуха пасадзілі на тры гады. Крыху пазней людзі ўбачылі гэтага старшыню ў апараце сельгасаддзела райвыканкама, дый галоўбуха праз год адпусцілі на волю “за прыкладныя паводзіны”.

Як бы там ні было, месца старшыні калгаса стала вакантным і райкам партыі пачаў падбіраць кандыдатуры. (Людзі маладзейшыя могуць апошняга сказу не зразумець і здзіўлена запытацца: чаго гэта райкам нейкай партыі падбірае кандыдатуры на пасаду старшыні калгаса? Для іх патлумачу тое, што людзям савецкім было звыкла і пытанняў не выклікала: не “нейкай” партыі, а партыі камуністычнай, якая была адна на ўсю краіну, была па канстытуцыі “руководящей и направляющей силой советского общества, ядром его политической системы” і кіравала ўсім жыццём гэтай няшчаснай краіны.) Адной з гэтых кандыдатур, – дачуўся я, – быў Віктар Галенскі.

– Якія ў яго шансы заняць месца старшыні? – пацікавіўся я ў знаёмага, які і паведаміў мне тую навіну.

– Ніякіх, – усміхнуўся той. – Людзі ведаюць, што ён сумленны чалавек,

і ахвотна яго выбралі б, але тое ведаюць і ў райкаме, таму да выбараў хутчэй за ўсё яго не пусцяць.

– Чаму ж тады ён сярод кандыдатур на пасаду?

– Ну дык гэта ж самі людзі і прапанавалі...

Пазней той жа знаёмы распавёў мне, што Галенскага выклікалі ў райкам, там была з ім даволі доўгая размова, пасля якой Галенскі выйшаў з райкама расчырванелы і ўзбуджаны. Пасаду старшыні калгаса заняў іншы чалавек, а Галенскага перавялі галоўным аграномам у саўгас пры райцэнтры і далі ў райцэнтры кватэру...

Доўгі час я нічога не чуў пра Ленскага.

Аднойчы, ужо выкладчыкам інстытута, я вырашыў пару тыдняў летняга адпачынку правесці разам з маці. Мы размаўлялі з матуляй у хаце, калі раптам пачулі тарахценне матацыкла. Матацыкл фыркнуў і спыніўся каля нашай хаты. Мы зірнулі ў вакно: па двары ішлі двое, мужчына і жанчына. Ішлі поруч, але ўражанне было такое, нібыта ішла яна, а яго цягнула за сабой. Ён ішоў, панурыўшы галаву, нібыта разглядаў траву на нашым двары. Зайшлі ў хату. Сціпла павіталіся, мы павіталіся ў адказ. Павісла паўза. Я чакаў, што госці скажуць, чаго яны зайшлі да нас. А яны нечага чакалі ад нас. Нарэшце ён сумна ўсміхнуўся:

– Не пазналі? Сапраўды, мяне цяжка пазнаць.

І ў гэтай усмешцы я ўбачыў нешта знаёмае:

– Ленс..! – ледзь не выгукнуў я яго мянушку. – Віктар Васільевіч!

Пазнаваць жанчыну ўжо не трэ было. Хаця пры выпадковай сустрэчы на вуліцы не пазнаў бы. Ад той дзесяцікласніцы Ніначкі амаль нічога не засталося. Дый ад Ленскага таксама. Блакіт вачэй яшчэ ўгадваўся, але як бы праз смугу туману. І залатыя валасы сталі бела-попельнымі, хаця ляжалі на галаве тымі ж прыгожымі хвалямі.

– Сядайце за стол. Мы якраз збіраемся абедаць.

– Не-не. Мы па справе.

– Па якой?

– Дачка наша, старэйшая, заканчвае школу і збіраецца на фізмат. Ці не маглі бы вы ёй дапамагчы? Вы ж там выкладаеце?

– Так, я выкладаю на фізмаце. Але чым я магу дапамагчы? Конкурсы на фізмат невялікія, калі не праваліць уступны іспыт, – прымуць.

– Вось-вось, калі не праваліць. Але ў яе з матэматыкай не вельмі. У свой час запусціла і настаўнікі не парупіліся... А зараз спахапілася, ды позна.

– Калі вы маеце на ўвазе, каб я дапамог ёй засвоіць матэматыку, то як вы гэта ўяўляеце. Я буду тут яшчэ два тыдні. Вы што, кожны дзень будзеце вазіць яе да мяне на матацыкле? Ці яна будзе прыязджаць аўтобусам?

– Ну дык... будзем вазіць, – сумеўся Ленскі.

– Якое там "вазіць"! – рэзка ўмяшалася жонка. – Што яна за гэты час дагоніць! І што, у цябе іншых спраў няма? "Вазіць"! Вы ж там працуеце. І ведаеце, што паступаюць не заўсёды самыя вумныя. А мы аддзячым за дапамогу.

Нарэшце я зразумеў, якой дапамогі яны ад мяне чакаюць, і зірнуў на Ленскага. Той сядзеў, схіліўшы галаву, на твары адбівалася пакута, як у чалавека, прымушанага рабіць нешта брыдкае. Мне стала шкада яго.

– На жаль, такой дапамогі я не змагу аказаць. Патлумачу, чаму. На першым годзе маёй працы ў інстытуце мяне ўключылі ў экзаменацыйную камісію і перад вусным экзаменам мне пачалі перадаваць паперкі з прось-

бамі “ўважлівей аднесціся” да таго ці іншага абітурыента. Я тыя паперкі выкідаў і ставіў адзнакі, якія людзі залугоўвалі. З таго часу мяне болей у экзаменацыйныя камісіі не ўключаюць.

– Але ж вы там працуеце і можаце замовіць...

– Ну як вы не разумееце! Уявіце сабе, як успрымуць маю просьбу тыя, хто помніць, як я ўспрыняў іх просьбу. І як я пры гэтым буду выглядаць.

– Ну... мы б аддзячылі... Вы пагаварыце...

Жанчына мяне не чула. Ці не магла зразумець. Я павярнуўся да Ленскага. Той моўчкі, але з цікавасцю, сачыў за нашай размовай. Нашыя позіркі сустрэліся. У яго поглядзе ўжо не было прыніжанасці, пакуты ці вінаватасці. Ён глядзеў на мяне спакойна і нават неяк запатрабавальна. Я вытрымаў яго позірк. Ён усміхнуўся куточкамі вуснаў прыязнай усмешкай.

Ніна яшчэ пэўны час спрабавала ўгаварыць мяне, але, урэшце ўбачыўшы безвыніковасць сваіх намаганняў, махнула рукой і сярдзіта кінула мужу:

– Пашлі!

З двара данёсся яе раздражнёны голас:

– Ну вось цана твайго гонару! Нават твой вучань не хоча табе дапамагчы!

Ленскі ішоў з узнятай галавой і глядзеў на воблакі. Я не бачыў яго твару, але здавалася, што ён усміхаецца той жа ўсмешкай. Такім ён і застаўся ў маёй памяці: сівы саракагадовы чалавек з ледзь прыкметнай прыязнай усмешкай на сумным твары.

Праз год сустрэў аднакласніка. Пагаварылі пра жыццё, паўспаміналі. Між іншым я запытаўся:

– Ну як там Ленскі?

– Няма ўжо Ленскага. Павесіўся...

Ішлі васьмідзясятыя гады, калі па праграме савецкага кіраўніцтва павінен быў пачынацца камунізм.

## Няздзейсненае знаёмства

### *(дыялог у TWITTER’ы)*

Добры дзень! TWITTER прапануе нам пазнаёміцца. Паглядзеў фотаздымак: разумныя вочы, прыемны выгляд... Магчыма, сапраўды знаёмства стане цікавым для абоіх?

Вы знаете, наверно, мы где-то встречались. Мне очень знакомо Ваше лицо.

Наш горад невялікі. Тут, як у вёсцы, усе ўсіх ведаюць.

Но мне кажется, что мы с Вами вместе работали.

Ці гэта мае нейкае значэнне. Я – настаўнік.

Нет, это не имеет значение. Я работаю в университете.

Два педагога – гэта ўжо праблема!

Нет, я не педагог. У меня очень мирная и нужная для женщин профессия.

Перабіраю неабходныя для жанчын прафесіі: гінеколаг? цырульнік-візажыст? мадэльер?.. Усё гэта, здаецца, не для ўніверсітэта.

Я – бухгалтер. А вы в университете не работали?

Так, быў час, калі я там працаваў. Але зараз я на пенсіі. Выявілася: вось якая прафесія патрэбная жанчынам: бухгалтар. Але ж гэтая прафесія аднолькава патрэбна і мужчынам. Чаму Вы яе так ажаночылі?

Мужчин среди бухгалтеров я не встречала. Потому и решила, что это

профессия для женщин. Я тоже пенсионерка, но ещё работаю. Мне кажется, что во мне нуждаются. Уйти мне пока не предлагают. Я боюсь этого дня.

А на мой погляд, пенсійны ўзрост – самы шчаслівы перыяд жыцця. Ніякіх табе начальнікаў, рабі што хочаш, спі хоць суткамі – і табе яшчэ грошы прыносяць. А да таго ж, ты маеш вольны час, каб займацца чымсьці прыемным і прытым зарабляць. Я кайфую ад такой вольнасці!

Я тоже кайфую. Лексикон мне ваш нравится. Но я боюсь оставить работу.

Мабыць, у Вас няма чым займацца ў вольны час. Што Вы любіце рабіць па-за працай?

Вот, вы меня уже инспектируете!!! Ну, понятно, Вам интересно, чем занимаюсь в свободное время? После 8 часов работы за компьютером хожу, как пьяная. Не остаётся сил заниматься ещё чем-нибудь. Сожалею, что ничем не могу обрадовать. Работы много. Радости мало. Но, главное – жизнь продолжается. Общаюсь с разными людьми. А с Вами интересно общаться?

Цікава са мной ці не – гэта ў кожнага па-свойму.

Так, у каждого по-своему. Но я имела в виду себя.

Ну дык гэта ж Вам вырашаць, цікава са мной ці не. А Вы з якімі людзьмі любіце кантактаваць? З кім Вам цікава?

Мне с Вами интересно. Но... Есть какое-то НО. Возможно, нам надо встретиться, тогда диалог пойдёт более активный.

Магчыма, і варта было б сустрэцца. Але мяне бянтэжыць, што мы з Вамі размаўляем на розных мовах.

Просто я свой язык, родной, плохо знаю. Для Вас это важно?

Не зусім. Хаця, канешне, калі мова родная, то яе варта ведаць і час ад часу карыстацца. Усё ж галоўнае, каб мы разумелі адзін аднаго.

Я люблю юмор и простоту в общении. И простите мне за ошибки, они из-за того, что мой ноутбук заедает.

Наўтбук, які робіць памылкі, варта адправіць у школу падвучыцца. Думаю аб тым, дзе б мы маглі сустрэцца. У наш горад збіраецца завітаць Алег Басілашвілі. Як Вы ставіцеся да гэтага актора?

Басилашвили мне очень нравится.И как красивый мужчина и как актер. Особенно в фильме "Вокзал на двоих".

А я яго яшчэ больш запаважаў за тое, што ён выступіў супраць пуцінскай палітыкі і падтрымаў Украіну.

Я в политические игры не играю!!! Это игра мужчин. Я поняла Ваш намек!!! Но, простите, я за мир, за любовь и за маленьких хозяев этой жизни, а не за борьбу, из-за которой может начаться война!!! Я считаю, что они разберутся без нас. И одиночное мнение актера ничего не стоит против той создавшейся системы, которая укоренилась.

Як сказаць. Меркаванне аднаго чалавека, тым болей, чалавека прыкметнага, можа быць вельмі важкім. А Басілашвілі з такім меркаваннем у Расіі не адзін. Я магу Вам доўга пералічваць вядомых людзей з тымі ж думкамі.

Уж, простите!!!!!!!!! У нас с Вами разные взгляды...

Мой погляд такі: калі б Пуцін не дапамагаў сепаратыстам сваімі вайскоўцамі і самай сучаснай вайсковай тэхнікай, то ўсё там даўно б скончылася. Калі ў Вас іншы погляд, значыць Вы хочаце, каб гэтая бойня працягвалася? Ці правільна я Вас разумею?..

*Адказу не было*

Юрась Шамецька



...куды б я ні ехаў,
заўсёды прыеду дадому...

# Мой Мінск – Атава...

## *НАЧНЫ АД’ЕЗД*

Будзільнік уначы,
шурпатыя прыступкі,
мой позірк доўгі ўніз,
там шолахі у смутку,
жалезны стогн дзвярэй
бяссонага пад’езду
і часу больш няма
да хуткага ад’езду...
Чароўны бляск зямлі
пад месяцам нязменным,
утульнасць у двары
пад чорным небам дрэмле...
Дакладнае таксі
вязе мяне ў напрамку
таго, што не змяніць,
дзе немагчымы праўкі...

Свой лёс не прыпыніць...
Па радыё няспынным
жыццё спявае блюз,
імчыць праспект пустынны...
Мне ж хочацца спытаць:
“Чаму бывае часта,
нам трэбна ад’язджаць,
каб назаўжды застацца?”
Вось хутка мой палёт,
а мне падумаць цяжка
пра мой начны ад’езд...
І ў чым жыцця развязка?

## *АДЛЮСТРАВАННЕ*

Мой Мінск – Атава... Хутка час ідзе...
Ужо не засталося адзіноты...
Маёй душы, як колам на вадзе,
патрэбен камень, – я ж шукаю ноты...
О, колькі нас, раскіданых паўсюдна,
блукае марна ў вечнасці пакутнай...

Вось, шмат гадоў прайшло... А я ўсё той жа:
па зорак чыстых сталасць вывучаю,
паверыў я – жыццё мне дапаможа
пазбегнуць адзіноты і адчаю,
каб мець яшчэ магчымасць спадзявацца
па памяці шукаць сваё юнацтва.

Мой Мінск – Атава... Што яшчэ дадаць?
Два гарады, падзеленыя даллю...
Я веру, што змагу іх аб’яднаць,
забыўшыся на смутак развітання...
Мая надзея застаецца марай,
нібы жэтон метро мной прыхаваны.

З прыемнасцю гуляю дзіўным летам
уздоўж ракі... Не задаю пытанняў...
Я горада пачую голас ветлы,
а гладзь ракі – жыцця адлюстраванне...
Там, на вадзе, я родны Мінск убачу,
і зноў знайду, а можа штосьці страчу...

* * *

У Мінску я не заблукаю...
Мне мапы болей не патрэбны...

На Даўгаброцкай адшукаю
царкву, дзе ахрысцілі з небам...
Адчую лёгкасць захаплення...
Сквер перад Операй нязменны...
Я прыміруся з прыцяжэннем,
што зазывае ў горад светлы...

У Мінску я не заблукаю...
Мой Мінск падкажа прывітальна,
што да сябе яшчэ чакае
мяне на плошчы прывакзальнай...
Пацвердзіць даўнюю умову:
толькі сабе заўжды належыць
і, абмінаючы пакору,
ігнараваць законы межаў.

### ЕЎРОПА

Сядаю ў цягнік...
Жыцця адкрываю сакрэты...
На першай гадзіне
кандуктар праверыць білеты...
Адчую дакладна,
як хуткасць цягнік набірае,
а потым здымае,
чаканне трывожнага раю...
“Куды сёння еду?” –
сябе запытаю раптоўна...
Не трэба змагацца
з наборам няспынных законаў...
Хоць звычка парою
нібы аксіёма:
куды б я ні ехаў,
заўсёды прыеду дадому...
Не трэба спяшацца,
бо прыйдзе цягнік па раскладзе...
Утульнасць і хуткасць,
у кожным вагоне парадак,
Пейзаж навакольны –
заўжды нечаканы:
гляджу з асалодай, –
я ў чыстым паветры знікаю...

### ФЛАРЭНЦЫЯ. НА ПЛОШЧЫ СІНЬЁРЫІ

На плошчы Сіньёрыі бачацца крозы...
«Давід» Мікеланджэла веліч стварае,

ён мармурам белым стагоддзі яднае,
хоць крокі гісторыі пішуцца прозай...
Тут шчодрасць Тасканы, любоў і багацце
шматслоўна здзіўлялі, прасілі застацца...

Тут цёплая вохра – Фларэнцыі фарба –
была даспадобы, бо мовіла сэрцам...
У кроках нягучных, з памернасцю тэрцый,
адразу пачуў я мелодыю тактаў,
што песцілі некалі веліч і славу,
магутнасць і годнасць вялікай дзяржавы.

Ішоў паглядзець на шэдэўры Уфіцы,
а вочы будынкаў убачыў раптоўна,
дзе вуліцам вузкім усё-такі вольна,
«Вясны» Бацічэлі заўважыў зарніцы...
А шчырыя вочы дзівоснай «Венеры»
далі мне ў магутнасць мастацтва паверыць.

На плошчы Сіньёрыі годнасць адчую,
як гэту надзейнасць каменняў шурпатых,
бо змог перагледзець здабыткі і страты,
што склалі гісторыі сутнасць жывую...
І крочыў праз водбліскі даўніх падзей
ад плошчы стагоддзяў з імпэтам надзей.

## *РЫМСКІЯ ВАКАЦЫІ*

Неідэальнасць – гэта мы з табой...
А рымскі дух, нібы спантанны вецер,
нас павядзе і пажадае сцерці
абмежаваны вечарам настрой.
І з'явіцца надзея... А прастор
нас удваіх пакіне на карціне,
дзе мы ідзём па старажытным Рыме
і бачым імператарскі агонь.
Рым першародны нас не абміне...
У рэдкіх вокнах рэшткаў Палаціна
мы бачым час, ад сівасці маўклівы
і росы на пакошанай траве...
Так лёгка тут застацца у жыцці,
нічым не абцяжараным, свабодным,
і адчуваць: мы з горадам падобны,
а даўні час – ужо не абысці...

### *ВЕНЕЦЫЯ*

На плошчы Марка не чуваць вады...
Аркестр грае вальсы і факстроты, –
па правілах падманлівай гульні
ён музыкай натхняе адзіноту.
Час вечаровы... Сёння вечны горад
акардэонам разгарнуў прастор...
Я з плошчы бачу зіхатлівасць мора,
а ў гуках вуліц чую гучны хор...
Венецыі былая прыгажосць
здзіўляе неабдымнай вышынёю
і не дае адчуць, што я тут госць,
бо цешыць надыходзячай вясною.
Вось на зямлі крылаты леў сядзіць...
Мая ж душа разгублена і шпарка,
натхнёная і мройная, ляціць
над плошчай несумуючага Марка.

### *МАЛЕВІЧ*

Трапецыі любві,
трохкутнік адзіноты,
сусвет – чароўны шар,
дзе непатрэбны ноты,
шукаю мову фарб,
каб выказаць дакладна,
супраматызм жыцця
неспалучальных фактаў.
Квадрат квадрату – бог...
Малюю наўдачу...
На чыстым палатне
даверлівасць убачу,
дзе куб у кубе – стогн,
ці адпаведнасць мэты,
дзя глыбіня – закон,
а хараство – ракета...
Імгненнае жыццё
без ціску дуалізма
настроіць пачуццё
на мой настрой празрысты,
дзе стане чорны лёс
нястомнаю галерай...
Малюю свой квадрат
упэўнена і смела.

## ЧАС

Час нам дае насычанасць вады,
надзеямі сілкуе нашы сэрцы,
дае трымацца правілаў гульні,
спазнаных намі у часы маленства...
Час падаецца простым і жывым:
глядзіць на нас свабоднымі вачамі,
а мы акцёры дзіўных пантамім
іграем п’есу, у якой, звычайна,
у кожнага свой лёс і свой настрой,
свая любоў і глыбіня дзяцінства...
Час робіцца нязвыклай цішынёй
ці ажывае космасам празрыстым...
Час – вечны свету рухавік...
Ён уздымае і дае натхненне,
каб сэнс жыцця у пустаце не знік,
каб адчуваць свой век, нібы імгненне.

## ВЕЦЕР

Спявае вецер адзічэлы...
Ён, быццам сон, не мае цела...
Яго маркотнасць адчуваю,
напорыстасць яго здзіўляе...
Ён дзеліцца сваім настроем,
і не бянтэжыць смуткам, болем...
Я акіянскі чую вецер –
ён, як і я, – на гэтым свеце
шукае шчасця...

* * *

Халодны дзень, як у зіму,
дашле нам новае натхненне,
цябе пяшчотна абдыму,
тваё убачыўшы здзіўленне...
І ў гэты хмурны сціплы дзень
адчуем, быццам непазбежнасць,
тваёй упэўненасці хмель,
маёй жаданасці бязмежжа...

## УСХОД

Зоркі знікаюць,
быццам былая любоў...
Сонца вяртае
лету чароўны спакой...

Свеціцца ранак,
        каб безнадзейнасць зламаць...
Памяць даецца –
        даўнія дні ратаваць...

Раніцай ветлай
      крылаў жыццёвых узмах
фарбай празрыстай
        мне намалюе мой шлях...
Лёгка падорыць
        веданне страчаных моў,
міг адчування –
        ўсё пачынаецца зноў...

* * *

Твой голас роўны я яшчэ пачую,
твой любы твар убачу праз гады,
увечары ля рэчкі заначуем
і ўсе даруеш ты мае грахі,
якіх не шмат, бо верыў і стараўся
пазбегнуць здрады, горычы атрутнай,
“даруй” казаў, шукаў і спадзяваўся
злавіць твой голас, сёння мной пачуты...

* * *

Не шукаю я пары змагання,
не чакаю тут пары дажджоў...
Ў Мінск стары, як крылы для вяртання,
я білет шчаслівы не знайшоў.

Горад мой без золата і бронзы
ведае і славу, і прэстыж, –
ў скрыжаваннях вуліц святланосных
дасць знайсці мне ратавальны крыж.

Ўсе пытанні, ўсе мае адказы
зноў яму даверыць я гатоў, –
гораду, што выжыў і ў паразах
не зламаны дзідамі вякоў.

Ён аднойчы, растварыўшы межы
акварэльных прамянёў дажджу,
вызначыць, зрабіўшы непазбежным,
шлях адзіны, па якім пайду...



Альжбета Кеда



...у нас будзе новы час.

Мы яшчэ вернемся...

# Фара

***Апавяданне***

## I

Я з абраных. Мне было дазволена вандраваць па зямлі. Як дазволена і кім? Тут не існуе пытанняў. Як няма і адказаў. Тут усё проста ёсць. Але, калі трапляю на зямлю, мяне зацягвае ў колазварот пытанняў, якія людзі ўздымаюць, каб амаль ніколі адказаў не атрымаць. Або атрымаць лухту, якую прымаюць за праўду. Мяне зацягвае ў гэты вір. Адкуль ведаю, што такое вір? Ведаю ўсё. Мы ведаем усё. Там, дзе мы ёсць назаўсёды. Ды нашыя веды адарваныя ад зямных сутнасцяў. І ад зямнога ўспрымання. Людзі часта прыдумваюць тое, чаго няма і чаго быць не можа. Але, прыдуманае, яно ўжо ёсць. Твораць. Столькі ўсяго вытварылі, што стала цесна, што не прайсці, не прабрацца да чыстае існасці. Столькі бруду. Блытаюцца, блукаюць. Не разумеюць, што шлях кожнага вельмі просты.

Не ведаю, кім быў (ці была) я ў тым зямным жыцці. Не ведаю, у якім месцы жыў. Магу толькі здагадвацца, што звязаны быў з гэтым горадам. Бо чаму заўсёды з'яўляюся тут? Гародня. Людзі ўвесь час блытаюцца нават у назвах: Горадня, Горадзен, Гродна, Гродно. Для мяне – Гародня. Бо так кажа Паэтка. Апошняя з тых, хто быў з вялікіх у гэтым Краі. Яна найбольш набліжаная да нас. Не ўзростам. Не. Не стану тлумачыць, што гэта азначае. Бо нікому нічога патлумачыць нельга. У гэтым горадзе ўжо нямала часу, як іншых называюць знанымі, не разумеючы, што і не паэткі яны. Пішуць, ну і няхай. Толькі б нікому благога не рабілі. Але надта ж іх усюды поўна. Паэтка не прызнае іх...

Яе бачу ў касцёле – Белым Птаху. Яна падоўгу стаіць перад алтаром Маці Божай Кангрэгацкай, часта сама не разумее, што пераступае мяжу. Тады, калі з любоўю ўглядаецца ў Прачысты Лік, калі падоўгу разглядае кожную кветачку на алтары. Не думае, не ведае, адкуль бяруцца сілы ісці далей. Сілы, якія амаль пакінулі яе хворыя ногі. Выходзіць з касцёла абноўленай. Бо той дазвол ступіць за мяжу, каб набрацца моцы, з усяго горада дадзены толькі ёй. Яна яшчэ не ўсё сказала. У яе яшчэ ёсць Слова. Ёй яшчэ быць тут.

Аднойчы пачуў пытанне Паэткі: "Ці памятае душа пра зямное жыццё?" Хацелася б падказаць ёй адказ. Але ўмова, якую ніхто з нас, абраных, ніколі не пераступіць, – ніякіх кантактаў з тымі, хто яшчэ на зямлі. Кантакт – гэта фінал, пасля чаго ў гэтым зямным часе мы тут больш не з'явімся. Нам нельга наведваць будынкі. Выключэнне – храмы. І з'яўляцца можна толькі ў белы час. Гэта наш час. Без выключэнняў. Вяртацца а шарай зямной гадзіне.

Я чамусьці цесна прывязаны да аднае жанчыны, якую шторазу сустракаю ў маіх зямных вандроўках. Заўсёды бачу яе на самоце. І з гэтаю самотаю яна няблага ладзіць. Дае рады сваёй адзіноце. Калі б яна не была жывою, быў бы пэўны, што гэта праз яе быў пасланы на зямлю. Тады – была б. Але калі яна яшчэ тут, то, магчыма, я быў яе крэўным?

Не ведаю, як яе завуць. Бо пакуль што ніхто не ішоў з ёю побач, ніхто не звярнуўся да яе. Шторазу з'яўляюся ў адным месцы: пешая вуліца ў цэнтры Гародні. Мая незнаёмка ідзе па самай сярэдзіне. Здалёку (а бачу яе спачатку здалёку) немагчыма пазнаць па адзенні: шторазу новы воблік, розныя сукенкі, паліто, капялюшыкі. Але ходу яе нельга не пазнаць. Яна ідзе лёгка, роўна. Не ідзе, а плыве. Яна ў цэнтры. Быццам не гэтае места, не гэтая вуліца з прыгожымі будынкамі, а яна, зямная жанчына, гаспадыня тут. Бо і гаспадыня. Гэта яе час. Яна ведае, што гэты час, адзіны і апошні, належыць ёй. Таму і шануе яго. Таму адна.

Дайшоўшы да канца вуліцы, заўсёды паварочвае направа, ідзе да круглага пустога месца. Праходзіць праз яго павольна. Прыпыняецца. Калі б людзі ўмелі слухаць думкі, пачулі б: "Фара, Фара..." Бачу, што бачыць яна: вялізны храм, то каталіцкі, то праваслаўны. Адпяваюць маладую жанчыну. Ля труны муж, высокі прыгожы мужчына, і трое маленькіх хлопчыкаў. Асабліва самотны сярэдні. Недзіцячая туга ў ягоных вачанятах. Думкі вакол яго: "Максім, Максімка... "Маленькі хлопчык, будучы паэт..." І вакол ягонае маці: "Марылька... Яна была такой шчаслівай". Жанчына глядзіць на гэтае дзіцятка і не можа адарваць вачэй, быццам хлопчык і сапраўды тут. Не ведае, што і сапраўды, бо яе думка, яе глыбокая прывязанасць, лучнасць з гэтымі людзьмі выклікае да жыцця іх усіх. І вяртае храм, якога даўно няма. Гэта трызна з'ўляецца заўсёды, калі яна адна. А яна заўсёды адна.

Штоarазу, з'яўляючыся тут, даведваюся пра яе нешта новае.
Яна часам даходзіць да вялізнага, закінутага будынка сінагогі. Што вабіць яе, хрысціянку, да гэтага месца? Зрэшты, не так даўно тут пачалося хуткае аднаўленне. Сінагога паўстала. Але мая незнаёмка не рашаецца пакуль зайсці туды. Ведаю, чаму: не рашаецца, бо адна. Яна ніколі ў жыцці не была ў сінагозе. Ёй не тое што страшна – вусцішна – адной зайсці ў сінагогу.

Падаецца мне, што яна адчувае мяне. Бо часам азірнецца і ўважліва прыглядзіцца. Глядзіць мне ў вочы. Бачыць мяне не можа, а глядзіць. Калі на яе глядзяць іншыя, ніяк не рэагуе. А на яе глядзяць многія. Часта юныя паненкі, што, відавочна, пазнаюць яе, ветліва вітаюцца: "Добры дзень!" – "Добры дзень", – адказвае і ідзе далей. Бо для яе гэта не проста вітанне. Для яе кожны дзень – добры. І яна шчыра жадае ўсім дабра. Нават самым злым, нядобрым, бо добрае зробіць іх лепшымі. Вось толькі тых, хто ветліва ўсміхаецца ў вочы, а за вочы... Яна іх проста перакрэслівае. Ставіць на іх крыж. Ведае, што могілкі вакол яе ўжо надта вялікія. Ведае, што гэта небяспечна – перакрэсліваць жывых людзей. Але ёй прасцей вярнуць да жыцця Максімку, яго маці Марыльку, чым тых, хто жывы. Няхай жывуць па-за ёю. І няхай гэта будзе ўзаемна.

Пасля таго, як яна заходзіць у тралейбус на прыпынку ля цэнтральнага пляца, развітваемся да наступнага разу. Стаю, пакуль тралейбус не кранецца, а яна ўважліва глядзіць на мяне з акна. Усміхаецца. Усміхаецца мне. Апошнім часам уздымае руку і незаўважна ўзмахне, быццам паправіць валасы...

Да сустрэчы!

## II

Да сутоння маю яшчэ багата часу. Абавязкова прайдуся па беразе Нёмана, але ў іншым месцы, непадалёк ад мястэчка Ярэмічы, ля Свіцязі паблукаю. Добра ведаю гэтыя мясціны, гэтыя назвы. Адкуль ведаю? Тут пачынаю ўяўляць карціны, якіх не бачу зараз. Але гэта было тут. Царква на высокай гары. Райца. "Маё мястэчка", – іранізую, згадваючы назву аповесці, якую згадвала неаднойчы мая гарадзенка. Думаючы пра свой адвечны прытулак, які на зямлі называюць вельмі падобна. Не здагадваючыся нават, як не падобны і як блізкі іх Рай да таго. Не разумеючы, што і тут мог быць Рай. І быў, пакуль людзі не перасталі любіць.

Вось жа, бачу там, у тым храме, жанчыну, знешне падобную на маю незнаёмку. Яе завуць Агата. Мне вядома гэтае імя. Вельмі добра вядома. Адкуль? Такія пытанні не мусяць хваляваць. Але яны ўвесь час вяртаюцца. Тыя ж блакітна-шэрыя вочы, у якіх то самотная вада летняга возера, то яркая ўсмешка незабудак (так напісалі б у зямной літаратуры). Быццам кадры кінахронікі, мільгаюць перад маім зрокам карціны: маладая дзяўчына з сумам у вачох і з вялікай надзеяй у часе службы ў Райцаўскай царкве, забываючыся на ўсё, бясконца паўтарае сваю просьбу: "Маці Прачыстая, зберажы майго каханага Сымона, вярні майго каханага Сымона". І так доўжыцца не адзін год, гады, гады. Шлюб. Якая ж яна прыгожая! Шэпты: "Такое прыгажосці нам не падараваў ніхто". Якая яна шчаслівая: дачакалася свайго Сымона. А ўжо бачу яе ў жалобе. Побач сынок, хлопчык гадоў дзесяці. Высокі, стройны. Маладзенькі ясакар. "Сымон мой каханы, на

каго пакінуў мяне, на каго пакінуў сыночка свайго, Сымонку нашага?" – заміж малітвы бязгучна прамаўляе жанчына. Наступная карціна: побач з Агатай у царкве малады мужчына...

Якраз у гэтым месцы абрыў, быццам хтосьці адключае маю зямную памяць.

## III

Дачакалася. Сёння мая гарадзенка ідзе па вуліцы не адна. Побач мужчына паважанага веку. Невысокі, але як стромка ён трымае сваю паставу, як лёгка ён ідзе. Не проста лёгка, імклівa. Рухі ягоныя выразныя, акрэсленыя. Ні аднаго лішняга жэсту. Твар надзвычай засяроджаны. Чую незвычайную прыязнасць між гэтымі дзвюма асобамі. Гавораць пра літаратуру, пра дэмарш Паэткі.

– Як Вы думаеце, чаму ўзарвалі Фару? – нечакана пытае яна. Нечакана не для яе, для суразмоўцы. Бо ў ёй гэтае пытанне жыве ўвесь час. Увесь час вярэдзіць, быццам стрэмка.

– Такі быў час... – такі адказ яе не задавальняе. Яна шукае іншы.

Ідуць у сінагогу. З ім ёй не вусцішна.

Спачатку экскурсія па музеі. Зрэшты, яны, асабліва старэйшы калега, ведаюць вельмі многа. Калі экскурсавод Барыс Квяткоўскі, сын цудам ацалелага ў Асвенцыме гарадзенскага яўрэя, пачынае гаварыць пра Лейба Найдуса, яна падказвае: "Пра гэта ў кнізе нашага Прафесара". Квяткоўскі паважліва гаворыць: "Ведаю Вас, Аляксей Міхайлавіч. Закончыў філалагічны. Вы ўжо тады выкладалі". У іншым пакоі, дзе выявы многіх сінагогаў, якія былі ў Беларусі, яе асабліва цікавіць Мірская...

Пасля экскурсіі Квяткоўскі адкрывае вялікім ключом дзверы і яны заходзяць у сінагогу.

Ніколі мая незнаёмка не бачыла такое велічнае, такое стрыманае раскошы ў храме. Яна не бачыла, і я не бачыла. У зямным жыцці не бачыла. Ніколі не думала, што ў сінагозе белы колер – пануючы. Белы-белы. Мармуровы. Белая столь, белыя сцены, белыя велічныя калоны ў цэнтры. Самае незвычайнае – ляпніна. Вельмі багатая. Акаймоўвае столь, калоны. Уздымае позірк увысь.

Ёй не вельмі цікава слухаць пра тое, як аднаўлялася сінагога. Пра тое, што мусяць быць розныя, жаночая і мужчынская, часткі. Тым больш што сёння яны ўмоўныя. Яна не можа адарваць погляд ад снежнае красы гэтага будынка. А яшчэ яна хоча запытаць... Пытае, калі экскурсавод завяршае свой аповед:

– Калі яўрэй пасыпае галаву попелам?

– Калі нехта памірае.

– Але сын доктара не памёр. Ён прыняў хрысціянства. Каб узяць шлюб з каханай жанчынай.

– Для бацькі-яўрэя сын памёр. Што такое каханне? Жарсць. Гэта таксама грэх, які забівае чалавека.

– Ён і сапраўды хутка памёр.

– Вось бачыце: грэх пасяліўся ў ягонай душы і з'ядаў яго. А кім ён быў?

– Другім мужам мае прапрабабулі Агаты...

## IV

Так сённяшняя сустрэча ў Гародні звязала нітку мае памяці.

Побач з Агатай у Райцаўскай царкве малады мужчына. Гэта іх шлюб: "Раб Божы Мікалай – рабе Божай Агаф'і..." Царква амаль пустая. Ведаю: Мікалай – яўрэй. Чаму – Мікалай, чаму бярэ шлюб у праваслаўнай царкве? Ужо ўсё ведаю. Ужо ўсё памятаю.

Калі Агата з Сымонам прыехалі ў Менск, знайшлі дом доктара, іх сустрэў ягоны сын Міхоэлс. Ён таксама быў лекарам, дапамагаў бацьку. Яна нічога і нікога не бачыла, бо жыла небяспекай, якая пагражала яе Сымону. Здаецца, памятаецца ўсё. Але няма ў тых менскіх успамінах Агаты месца Міхоэлсу.

Ён разам з бацькам прыехаў у шчонаўскі дом Сымона. Дапамагаў. Пасля прыязджаў адзін. Але ўжо было зразумела, што нічога змяніць нельга. Можна было толькі аблегчыць пакуты хворага.

Яны прыехалі праз год пасля пахавання Сымона. Па просьбе свекрыві. Лячыць Агату.

Пасля ён прыехаў адзін. У тым часе не было ўжо і свекрыві. Прыехаў, каб назаўсёды застацца ў Шчонаве. Бо Міхоэлс памёр. Ён стаў Мікалаем...

Калі апошні, нарэшце адноўлены, кадр кінахронікі пра падзеі ў Райцаўскай царкве знікае, раптоўна разумею: "Агата – гэта я".

## V

Сёння яшчэ больш даведалася пра тое, кім была на гэтай зямлі я – Агата. І хто яна – мая гарадзенка. Мая дарагая гарадзенка.

У першы момант, калі згледзела яе, падумала, што адчуванне ўзлётнасці ў яе руху ад таго, што лёгкая сукенка вольна развявалася, быццам не была апранута на жанчыне, а сплыла на яе воблакам і воблакам ляцела побач. Сукенка летніх колераў. Нешта блакітнае, бірузовае, жоўтае. Бірузовыя сумачка, пантофлікі на высокіх тонкіх танкетках. Мне раптоўна забалелі ногі. Мае ногі ніколі не баляць. Мы не ведаем болю. Гэта быў яе боль. Але яна так светла ўсміхалася, здавалася, зусім не зважала на той боль. І не зважала. Пачувалася такою шчаслівай, якой толькі можа быць жанчына ў зямным жыцці. А ў вачох было столькі пяшчоты і любові: насустрач ёй ішла яе дачка. Значыць, у жыцці яна зусім не самотніца. Доня яе тоненькая, як націнка. "Мая самая снежная Сняжынка", – бягуць яе думкі насустрач дачушцы. Яе завуць Сняжана. Яна і сапраўды Сняжаная: снежныя валасы, далікатны белы тварык, зусім незагарэлыя белыя рукі, ножкі. Кароткая вузкая чорная спаднічка і адкрытая белая кашулька з рукавамі-крыльцамі.

Голас жанчыны звонкі і далікатны:

– Прывітанне, донечка мая!

– Прывітане, мамачка! Як вы з'ездзілі ў Шчонава?

– Не спяшаешся? Давай прысядзем. Сочыку вып'ем. Маю нешта расказаць табе.

– Ізноў пра Агату? Нешта новае? Твая цётка Ніна расказвала?

– Ізноў пра Агату. Цётка Ніна расказвала...

Калі, нябачная, прысела побач з імі на адкрытай тэрасе вулічнае кавярні, пачула і пра Агату, і пра Мікалая. І пра Райцу. А яшчэ пра Шчонава, дзе жыла. І не столькі пачула, колькі ўбачыла ўсё тое, бо гэта ж пра мяне.

Жанчына казала – яна, а чулася мне – я. І чулася, і бачылася болей, чым расказала мама сваёй дачушцы.

Агата – жонка Сымона, пані доктарава. Сем гадоў чакала суджанага з войска. Колькім хлопцам адмовіла! Колькіх сватоў выправіла! За ўсе сем гадоў ні разочку на гулянне не пайшла. Шаснаццаць было, як забралі яе Сымона, доктара, на вайну. Дваццаць тры мела, як дачакалася. Бацька казаў: “Нічога: шчаслівая будзе – то і позна замуж выйшаўшы нажывецца, а як нешчаслівая, то і добра, што пазней”. Была шчаслівай. Як мала хто ў шлюбе. Не было ва ўсёй ваколіцы жанчыны, шчаслівейшай за яе. Сыночка нарадзіла. Ніякага іншага імені не захацела. Толькі Сымонка! Хоць па святках не выпадала. Шануючы бацькоў, святар паслухаўся. Але каханы муж, застудзіўшыся, дастаў сухоты. У Менск вазіла Агата свайго каханага. Да знакамітага лекара яўрэя. Сымон называў яго сваім настаўнікам, верыў яму. Тры гады яшчэ пажыў. І няблага трымаўся. Але за апошнія тры месяцы згасаць стаў на вачох. Ужо нішто не дапамагала. Менскі лекар сам прыязджаў наведаць хворага, шанаваў яго.

Прасіў перад смерцю сына вучыць. Разумны, удалы хлопчык быў іхні Сымонка. Настаўнікам стаў.

Пра тое, што ні слязінкі не праліла, што быццам акамянела Агата, як вочы свайму каханаму закрыла, адкуль ім ведаць? Пра тое, як страціла адчуванне, дзе жыве, навошта жыве, адкуль ім ведаць? Што няма яго, Сымона, забывалася часам. Пачынала гаварыць з ім, усюды яго бачыла. Быццам жывога. Асабліва вечарам, на шарую. Выйдзе на вуліцу, а ён побач, ля весніцаў стаіць. І не сыходзіць. Так і глядзяць адно аднаму ў вочы... Пакуль свякроў не выходзіла, у хату не клікала. Заўважаць пачала, што няладнае з нявесткаю творыцца. Расказала Агата, што Сымон прыходзіць, ля весніцаў стаіць.

– А ты правядзі яго, у яго ўжо іншы дом.

– Як?

– Скажы яму: “Ідзі, Сымон, дадому, правяду цябе”. Прайдзі крыху, вярніся, весніцы закрый, угледзіш, як схаваецца ён за ўзгоркам. Больш не прыйдзе.

Больш не прыходзіў. Але не супакойвалася душа маладое ўдавы. Свякрова пра лекара загаварыла. Агата адмовілася: не хворая я. Быццам і не хворая. Не баліць нічога. А марнее з кожным днём. Схуднела, збляднела. Збаялася свякрова, каб сухоты і ў яе не надарыліся, вырашыла да таго лекара менскага ізноў па раду звярнуцца. Ліст напісала, выправіла ў горад хлопца дваровага. Вярнуўся той з абяцаннем, што доктар прыедзе. І доктар прыехаў. Разам з сынам, што дапамагаў яму...

– Агата, донечка, гэта свякрова Таццяны, маці мае бабулі Вольгі.

– Мая прапрапрабабуля.

– Твая прапрапрабабуля. Ведаеш, яна насіла карункавыя пальчаткі, капялюшыкі з вуалькай над вачыма. Любіла пярлінавыя пацеркі...

Я – Агата. Яна – мая прапраўнучка. Унучка мае ўнучкі Волі, якую калыхаў Мікалай. Гэта ягоны бацька, менскі лекар-яўрэй, пасыпаў галаву попелам, калі сын прыняў хрысціянства.

## VI

Яе завуць Ая. Пэўна, гэта не імя. Нейкі ад нейкага імя абрывак.

Гэтым разам мая незнаёмка ізноў была не адна. З ёю быў хлопчык гадоў пяці. Унучак. У яе ўжо ўнучак. Не дзіця, а маленькі выраблянец. Ён і называў яе Ая. Яна ўсё шаптала:

– Данік, Данілка. Запомні гэты дзень, запомні гэты горад. Гэта твой горад, Данік...

А на вачох слёзы. Сцірае іх сурвэткай. Каб і следу не засталося. І толькі я бачу, якая сплаканая, якая збалелая яе душа. Не ведаю, што з ёю. Мне яе шкада, хоць я не памятаю, як гэта ў тым зямным жыцці выказваюць. Каб і ведала, нічога не змянілася б. Зрэшты, сёння яна мяне не бачыць.

Яны ідуць праз Фару, праз круглае пустое месца.

– Запомні, Данік, тут была Фара.

– Што такое Фара?

– Вялікі храм, касцёл. Самы вялікі.

– Самы вялікі ў горадзе?

– Самы вялікі ў горадзе.

– Самы вялікі ў свеце?

– Хай будзе ў свеце.

– Дзе ён?

– Яго ўзарвалі.

– Нашы ворагі?

– Нашы ворагі. Але яго адбудуюць. Ты дачакаешся.

– І ты дачакаешся!

Зварочваюць на пешую вуліцу. Хлопчык паспявае некалькі разоў прабегчы туды-назад, пад дрэвам знаходзіць галінку, шпурляе яе, даганяе, ломіць, кавалкі віснуць на кары, круціць іх у руках так спраўна, як нунчакі. Залятае на траўнік:

– А па траўніку можна ісці?

– Ідзі, Данічак! Па траўцы трэба ісці.

– Ая, давай вып’ем сочыку!

– Вып’ем сочыку... – быццам рэха, гучыць яе голас.

Хлопчык п’е сок, цягнучы яго праз саломінку, есць пячэнік, а яна глядзіць на яго, быццам бачыць апошні раз. Бачыць апошні раз. Бо хлопчык пакідае гэты горад. Ад’язджае. Адлятае. У далёку-далёкую краіну.

– Данічак, запомні гэты дзень. Мы не ўбачымся доўга-доўга.

– Ая, мы ўбачымся праз скайп!

– Скайп мёртвы. Я не дакрануся да твае цёплае ручкі, не пагладжу тваёй галоўкі, не адчую, як сонейкам пахнуць твае валасы.

– Ну што ты, Ая! Я прыеду! Я прылячу!

– Прыляціш, але гэта будзе іншы хлопчык. Вялікі Данік. Майго маленькага Даніка ўжо не будзе.

– Буду!

– Будзеш... Не забудзешся вершык, які з табою вучылі? Памятаеш? Прачытай.

Хлопчык звонка чытае:

Мы у нашым родным Краі,
Не баімся воўчай зграі.
Злая сіла, кыш у мох.
З намі Нёман, з намі Бог!

Хлопчык смелы. Аж надта. Ён не зважае, што на яго глядзяць, што яго слухаюць. І яна не зважае.

Данік дапіў свой сок. Яны ізноў ідуць па вуліцы.

– Стань, Данілка, ля помніка. Гэта вялікая пані Гародні Эліза Ажэшка, запомніш яе?

– Запомніш – не запомню!

Ён ужо ўзбіраецца на высокі цокаль, па дарозе пытаючыся:

– Можна мне залезці?

– Табе сёння ўсё можна. Так яшчэ ніхто тут не фатаграфаваўся. Ты першы, Данічак.

Мне ўжо хутка вяртацца. Паспяваю ўгледзець, як па доўгім пандусе ляціць Данік. Не бяжыць, а ляціць ёй насустрач. Яна паспявае злавіць гэтае імгненне. І злавіць Даніка. Хапае яго на рукі і моцна туліць да сябе.

– Колькі буду ісці на працу, столькі ты будзеш ляцець мне насустрач, Данічак...

Яна працуе ў гэтым будынку. На шыльдзе – “Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы”.

Шарая падступае. Наўздагон мне лятуць радкі верша Паэткі, якія гучаць у ёй. Гучаць пра яе і яе ўнука:

Мы адбіваемся адно ў адным.
Ён пачынае жыць, а я канчаю,
І клуначак расстанняў за плячамі.
Мой даўні страх развеяўся, як дым...
А Данік і не ведае аб тым.

## VII

Якое яркае ў яе паліто. Аранжавае. Вясновае. У наш час адзенне такіх колераў не насілі.

Сонца! Вясна. Вочы схаваныя за цёмнымі акулярамі. Ёй трэба хаваць вочы за цёмнымі акулярамі. Яе вочы баяцца сонца. Якое яна вельмі любіць.

Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы.
Калісь глядзеў на сонца я.

Яна ізноў ідзе да круглага пустога месца ля плошчы. Не бачыць нічога вакол. Затое бачыць нешта незвычайнае. Змрочнае сутарэнне. Падлеткі з рогатам цягнуць двух малых да нейкага невялікага вазка на чатырох колах. Гвалтам усаджваюць на яго хлопчыкаў прыгаворваючы:

– Будзеце за намі падглядваць!? Зараз навучым! Адвучым!

Моцна штурхаюць вазок. І малыя з крыкам залятаюць у глыбокі склеп. Вывальваюцца. Падаюць на нешта цвёрдае, мулкае. Калі сполах мінае і вочы звыкаюцца да цемры, жахаюцца: вакол косці, чарапы. Косці і косці. Нічога, урэшце, страшнага. Чарнявы хлопчык хапае чэрап. Другі, навучаны маці-верніцай, ведае, што ніякіх касцей чалавечых чапаць, тым больш у дом прыносіць, нельга. Ён выходзіць з лёхаў без трафея. Дзе той чэрап?

Гэта яна пытаецца ў хлопчыка: “Дзе той чэрап?”

Ніякага хлопчыка няма. Толькі яна і я бачылі яго. Адкуль у яе гэта? І навошта ёй гэта? Мне страшна за яе. Бо і ёй страшна.

Паўтарае: “Фара, Фара...” Вялізны мураваны касцёл, які пануе над наваколлем. Прыгожы і змрочны. Магутны і безабаронны.

Над схемай-планам касцёла чаруе дзяўчынка. Зусім юная, падлетак. Штосьці чэрціць, лічыць, крэсліць. Выводзіць лічбы. Не бачыць, як яе рукою водзіць... Не бачу, хто. Але ведаю, хто. Той, хто з’яўляецца па шарай. Мы яго не бачым. Яна бачыць і жахаецца. Хоча сысці з гэтага круглага месца. І не можа крануцца з месца.

Ніколі не засяроджвалася яна на датах. Не любіць лічбаў. Калі думае, то час вымярае порамі года: напрадвесні, мінулай зімой... Або кветкамі: калі цвілі каштаны, калі асыпаліся півоні, калі змерзлі настуркі, калі змарнелі астры, калі дурманіў водар разяды... А тут чамусьці ў яе галоўцы бясконца вірующь дакладныя даты: 8 сакавіка 1961 года, 29 лістапада 1961 года, 2 гадзіны ночы.

Ізноў: “Фара, Фара...”. Гэта ўжо карціна. Вялізарны храм вогненнага колеру. І сам увесь у агні. І вакол агонь. Што гэта за карціна? Бачу на фоне палатна яе, у тым яркім аранжавым паліто, быццам яна выходзіць з ахопленага полымем касцёла, быццам яна сама гарыць.

І следам: вялізарная гара друзу, у якую ўваткнуты вялізарны крыж...

Дзе той крыж?

## VIII

Ён высокі, мажны. Вялікі. Але ідзе лёгка. Яна побач з ім. Трымае яго пад руку.

За такім можна схавацца. За ім можна быць лёгкай, маладой, прыгожай. Яна за ім. За такім добра. Праўда, з такім не заўсёды добра.

– Давай не будзем спяшацца. Віктар, мы ніколі ў такі час, летам, не ішлі па гэтай вуліцы.

– Летам не ішлі. У мяне праца.

– У цябе праца. Давай не будзе спяшацца. Давай вып’ем сочыку. Мы пілі тут сочык з Данікам. У апошні наш праменад. А яшчэ раней з Максімкам. Памятаеш, ты падвозіў нас да пляца і з’язджаў. А мы гулялі ля замкаў, ля Каложы. Хадзілі ў музей. Якое гэта было шчасце – трымаць ягоную цёплую ручку ў сваёй руцэ. Ручку свайго сыночыка ў сваёй руцэ. Пытала: “Ты будзеш гуляць са мною, калі вырасцеш?” – “Буду, буду. Заўсёды буду”. Падрос – і як адрэзала...

– Добра. Давай вып’ем квасу. Магу я хоць раз днём, летам, вольна выпіць квасу? І паехаць на працу.

– Можаш. Вып’ем квасу. І паедзеш на працу. Як ты думаеш, мы дачакаемся, калі адновяць Фару?

– Ты дачакаешся. Ты будзеш жыць доўга.

– Не, мы памром у адзін дзень. Як у казцы.

– Не перанось казку ў жыццё. Жыццё – не казка... На каго ты азіраешся?

– Ты не паверыш. Апошнім часам, калі іду па гэтай вуліцы, часта падаецца, што нехта ідзе следам, глядзіць на мяне, здаецца, некага бачу.

– Ізноў ты прыдумляеш. Гэта нехта з тваіх студэнтак на цябе глядзіць з другога боку вуліцы.

– Не з другога боку вуліцы. А блізка...

– Блізка нікога няма. Вяртайся. Не выдумляй. Не кажы толькі мне

пра Агату. Мо яе і не было. Мо ты яе прыдумала. Вып’ем квасу, Альжбета...

Яе завуць Альжбета.

## IX

Сёння Альжбета ідзе яшчэ больш павольна. З ёю нешта здарылася. Яна пра тое не думае. Яна тое адкінула. Я не даведаюся, што здарылася. Плача? Не, слёзаў няма. Не дазволіць яна сабе плакаць. На вуліцы. Як на сцэне. Акторка мая дарагая! І сапраўды – акторка. Чорныя кароткія боцікі на высокіх абцасах, вузкая спадніца, мехавы каптанік, карункавыя пальчаткі, чорная кветка з белымі пярлінамі ў высока ўчасаных валасах. І вуалька над вачыма. На чорным адзенні вылучаюцца, зіхацяць кароткія пацеркі з рачных пярлінаў. І завушніцы з пярлінкамі. Так і я апраналася, калі ішла да царквы. Толькі спадніца ў мяне была шырэйшая, даўжэйшая...

Паплач, калі табе баліць. Не плача. Вершы чытае:

Па закрэсленым шкле
тваe вочы плывуць, быццам зімнія хвалі.
Я ў малочнай імгле.
Не паверыш, мяне ўжо даўно пахавалі.

Сёння апошні раз на зямлі ў гэтым часе. Альжбета баіцца гэтага слова – апошні. Яно заўсёды вядзе яе на могілкі: “Апошнім змрок у сінім небе тае, дзе пахавана маці маладая...” Гэта з верша Паэткі. Пра маці Максіма. Як заўсёды, праводжу Альжбету да прыпынку.

Яна глядзела ў акно тралейбуса, хацела ўсміхнуцца. Не атрымалася...

Ужо з тралейбуса чутна мне:

Нас не сустрэнуць ніколі нябёсы.
Мы пацячэм з вышыні шэрых гмахаў
цалкам жывыя, светлавалосыя,
белыя вязні нязвыклага страху.

Неяк нядобра развіталася з Альжбетай. Дакладней, не развіталася. Але ж і прывітання ніколі не было. Мы з’яўляемся і сыходзім нечакана. Нават для нас саміх. Ва мне тое, што людзі называюць незадаволенасцю, збянтэжанасцю. І гэта недарэчна. Бо не мусіць быць нічога. Таму што ёсць усё. Гэта проста мой апошні дзень тут.

Заглядваю ў Белы Касцёл. Паэткі сёння няма. Стаю ля алтара Маці Божай Кангрэгацкай. Прашу ў Яе заступніцтва для мае спадчынніцы. Прашу ў Яе дапамогі для Паэткі. І не пакідаю горад, не вяртаюся ў Райцу, Шчонава. Там нікога няма. Толькі магілы. І тыя не ўсе захаваліся. І маёй магілы няма. Не сыходжу з горада, блукаю ля Нёмана, іду да Каложы, да замкаў падымаюся па лесвіцы, да Новага замка падыходжу. Заходжу ў сінагогу. Прашу ў белых сценаў, у белага даху, у белых калонаў, у белага алтара даравання майму Міхоэлсу, майму Мікалаю...

Увесь час памятаю: тут апошні раз.

Хутка будзе шарэць. “Ужо пара мне дадому збірацца...” Але дзеля чаго з’яўлялася тут? Толькі даведацца, кім была, што перажыла? І хто прыйшоў пасля мяне? Дзеля чаго?

І раптам вялікая сіла (людзі сказалі б – невядомая, але для нас яшчэ

як вядомая) вокамгненна пераносіць мяне да высокіх шэрых дамоў, дзе – над прорваю – мая Альжбета. Ужо не яна, ужо толькі цела, якое вось-вось зляціць з высокага гаўбца. А яна імкліва нясецца мне насустрач, лёгкая, вызваленая, прасветленая. Пазнае мяне, усміхаецца. Як прыгожа гучыць з яе вуснаў маё імя: "А-га-та". Як песню спявае... Хапаю яе аберуч моцна-моцна, трымаю і крычу штосілы, каб чула, бо нічога ж не чуе:

– Рана табе яшчэ! Рана табе яшчэ! У цябе – Максімка!.. У цябе – Сняжана! Данілка! Віктар! – гэтыя імёны дзейнічаюць на яе як заклінанне, кожнае выпроствае яе, вяртае яе.

Мы, як адна, на тым высокім гаўбцы. Яна яшчэ чуе мяне, і я шапчу:

– Мне пара. Але калісьці вярнуся. Ведай, я сустрэну цябе. Калі прыйдзе твой час...

Шарая гадзіна прыходзіць раптоўна. Яна ніколі не затрымліваецца. Але ў мяне сёння ёсць адно, бо апошняе, імгненне. Я магу аглянуцца. І бачу: мая Альжбета адкрывае дзверы, што вядуць у пакой. Там запальваецца святло (так напісалі б у зямной літаратуры).

Вось дзеля чаго мне было дазволена...

Недарэмна.

## X

А як жа Фара? Фара пачакае. Яшчэ не час. У нас будзе новы час. Мы яшчэ вернемся. Мы ўсё даведаемся і пра Фару.

*Студзень-красавік, 2015 г.*



Ігар Сіроткін



...А паэзію – пад бульдозеры,
Археолаг хай бедны знойдзе...

# Дарога на поўнач

### *ПАНОПТЫКУМ*

У імкненні да ідэалу,
Добраахвотна прызнаўшыся,
Вязнік-назіральнік
Ідэальнай турмы
Ва ўзнагароду
За ўсе правіны
П’ю асалоду
Канчатковай бязвольнасці
Кожнага руху.
У імкненні да ідэалу,
Добраахвотна з’явіўшыся,
Праз люстраныя дзверы
Камер
Сузіраю калекцыю
Дзіўных экспанатаў-братоў...

Мой ідэальны
Наглядчык
Без напружання,
З асалодай
Назірае
Кожнае дзеянне.
Чарговыя ўцёкі –
Не больш,
Чым частка пакарання.
У імкненні да ідэалу
Добраахвотны
Наведвальнік-вязень
Турмы-музея.

* * *

Няспынныя спрэчкі бясконцых праспектаў
Тут не затым, каб скончыцца.
Не дадуць мне ўмяшацца – сочыць нехта,
Калі раптам вельмі захочацца.

Паштурхаць, пахіснуцца, легчы пластам
І, як лёд, растаць пад падэшвамі.
Сочыць няштатных анёлаў птаства
З падваконняў, муроў, пад застрэшкамі.

З вежаў, байніцаў касцёлаў, цэркваў...
Добра ім – толькі ў Бога кормяцца.
Ды кідаюць на вернікаў смецце й перкі,
Пакуль тыя, сляпыя, моляцца.

Між сабою штурхаюцца ледзь прыкметна,
Пакуль нехта балюча выцiне...
Аднаполыя спрэчкі няспынных праспектаў
Не народзяць ніколі ісціны.

* * *

Чарговы сон не можа вечна доўжыцца –
І вылятае ў комін гарадскі...
Я мару канчаткова ўжо здарожыцца,
Каб страціць сілы бегчы ні за кім.

Прэч ад сябе ды мулкімі завулкамі,
Расхлюпваючы пыл на хадакоў..
Прэч ад гасцінцу – мутнымі навукамі
Зацягнуты ўсе знакі навакол

Хапае спрыту біцца ды размножыцца,
З праклёнам падаць ніц перад нікім...
Чарговы сон не можа вечна доўжыцца –
І вылятае ў комін гарадскі...

* * *

Большасць прозы ў дождж замарозілі,
А прыватны сектар не ў модзе.
А паэзію – пад бульдозеры,
Археолаг хай бедны знойдзе.

Што палову жыцця ўжо ў пошуку
Запаветных сваіх сенсацый.
Вінаваціць начальства: грошыкаў
Не дадалі, каб дакапацца.

Ды калегаў інтрыгі шкодзілі,
Смак жанчын і смерць аднагодкаў...
Дам паэзію пад бульдозеры –
У найлепшы банк пад адсоткі.

* * *

Блукаю ў пошуку нудысцкіх пляжаў –
І бачу толькі знакі забарон.
Той, хто ўжо там – ніколі не падкажа,
Хто яшчэ тут – выконвае закон.

У прадчуванні выраю – па парках,
Знаходзіў шмат –ды так і не знайшоў,
Усё мінулае было не больш чым сварка
Чужога цела з нічыёй душой.

Дарэмна не затрыманы за кражу,
Кварталамі выходжваю страх,
Блукаю ў пошуку нудысцкіх пляжаў,
Па знаках забароны на слупах...

* * *

Холадна крылам у пастарунку –
Месца бракуе раскласці, сушыць.
Скруцяць і рукі, калі пагрукаць –
Забава хоць будзе нявіннай душы.

Гараць мазалі – дазволяць разуцца,
Але ненадоўга, каб мог сысці.
Р*а*ды мянты, што хутчэй аддзяўбуцца –
Не шыецца справа, час адпусціць

Трапіў пад дождж, згубіў накірункі,
Галодны, прыснуў на чужой мяжы.
Холадна крылам у пастарунку –
Не прадугледжана месца сушыць.

## *ДАРОГА НА ПОЎНАЧ*

Дарога на поўнач, і неба – ратунак ад стомы.
Жыццё не спыняецца, толькі гусцеюць крыжы.
Мне варта заплакаць, бо хутка прыеду дадому.
Ды трэба смяяцца, бо ўбачаць, што я тут чужы.
Дарога на поўнач. Якія шчаслівыя пысы!
На кожным прыпынку – паслужлівы віск гандляроў.
Дай Бог, каб хто-небудзь ад віску таго прахапіўся.
Бо спаць небяспечна, як хочаш даехаць дамоў.
Было мне лягчэй у сяброўскім распешчаным гурце,
Каб стала цяжэй, калі выйду сустрэць далячынь.
Наўмысныя жарты не збудзяць сапраўдных пачуццяў,
Як цэтлікі з коштам на целах васковых жанчын.
Дарога на поўнач – абдымкі туману і пылу.
На храмах спічастых крыжы не праколюць пластоў.
Не трэба на працу – дзьмухнем на агеньчык астылы.
„Хрыстос уваскрос!" „Сапраўды!" І яйко. І „па сто".
Мне стане цяжэй пасля крыку драпежнае птушкі,
Каб стала лягчэй у паветры задымленых хат.
Заўсёды з іх дыму ўцякаць – і застацца відушчым
Ды несці цяжар, кожны крок з якім вучыць кахаць.



Таццяна Будовіч-Барадуля



...сын – самае дарагое, што я маю,
але я не павінна яго любіць...

# Сіняя кветка

*Тры гісторыі*

## Загадкавая сустрэча

Той восеньскі дзень нічым не вылучаўся з ланцужка сабе падобных, хіба што толькі было нязвыкла цёпла, сонца нібыта вырашыла ўраз аддаць зямлі ўсё назапашанае цяпло, на якое пасквапілася ўлетку, прадчуваючы, што больш шанцаў не будзе. Таму сядзець у бібліятэцы, рыхтавацца да семінараў не хацелася. Наколькі ставала сілы волі, збольшага я занатавала патрэбны матэрыял, здала кніжкі і выйшла на вуліцу. У прызначаным месцы мяне ўжо чакала сяброўка.

З ёю мы не бачыліся даўно, таму не спяшаючыся, падрабязна абмяркоўвалі апошнія навіны, бадзяліся па алеях парка, дзе было шматлюдна: закаханыя парачкі, сем'і з малымі дзецьмі і проста самотныя мінакі.

У нейкі момант я спінай адчула чужы позірк. Спыніўшыся, азірнулася. Метры за тры ад мяне знаходзілася высокая худая постаць, агорнутая ў чорны доўгі плашч. На галаву быў накінуты чорны капюшон. І толькі калі я зразумела, што пад капюшонам нічога няма – пустата замест твару, мяне працяў жах, цалкам, да апошняй клетачкі спаралізаваў мяне. Я стаяла, глядзела ў тую пустату пад капюшонам і не магла зрушыцца з месца. Не ведаю, як і чаму, але я зразумела, што гэта – Смерць. І яна адчула, што я зразумела...

– Ведай, я пазначыла цябе! – гэтыя словы прагучалі, напэўна, толькі ў маёй галаве, бо сяброўка мая, як ні ў чым ні бывала, прыспешваючы, узяла мяне за руку. Тон яе расповеду ніяк не змяніўся, – значыць, яна не ўбачыла тое, што бачыла я. Слаба памятаю, як мы з Іркай развіталіся, яна, пэўна, вырашыла, што я ператалілася і мне блага, бо я не магла больш падтрымаць размову і недарэчна адказвала на пытанні.

Між тым жыццё з яго штодзённымі клопатамі ішло сваім ходам. Праблемаў, якія патрабавалі неадкладнага вырашэння, было шмат, да таго ж я наведвала трэніроўкі зборнай універсітэта па лёгкай атлетыцы. Месца ў душ*ы* і часу на перажыванні з нагоды той сустрэчы ў парку не ставала. Хаця я і памятала, што “пазначаная” Смерцю, але паступова перастала надаваць таму нейкага значэння, і постаць тая ўсё радзей усплывала ў маёй памяці.

На свята Калядаў да нас ва ўніверсітэт прыйшлі маладыя паэты. Пасля іх выступу наладзілі танцы. Я ж танцаваць ніколі не ўмела, і майму сораму не было межаў, калі мяне запрасіў на вальс адзін з гасцей. Я не знайшлася, як адмовіць, да таго ж мне і не хацелася крыўдзіць яго – сціплага, сарамлівага, з тонкім тварам і светлай скурай, з доўгімі светлымі хвалістымі валасамі, сабранымі на патыліцы ў хвост. Мы павольна плылі ў карагодзе іншых пар, мае рукі ляжалі на вузкіх плячах Андрэя, а яго рукі – на маёй таліі. Не ведаю, пра што ён думаў, калі не міргаючы глядзеў мне ў вочы, мяне ж найбольш хвалявала, як бы незнарок не наступіць яму на нагу.

Пасля ён запрасіў мяне на спатканне, і я з нецярплівасцю чакала таго вечара.

І, нарэшце, мы сустрэліся. Пасярэдзіне моста цераз раку. Хіба паэты прызначаюць спатканні як-небудзь банальна?

Нягледзячы на немалы мароз, ісці ў задушлівае тлумнае святло кавярні не было ахвоты, і мы гулялі па заснежаных алеях парка. Колькі вершаў пачулі ў той вечар шматгадовыя дрэвы, маўклівыя сведкі чужых гісторый!

Так, павольна шпацыруючы, мы выйшлі да набярэжнай і пайшлі ўздоўж ракі. У той самы момант, калі ў маёй галаве мільганула думка: пералезці цераз парапет і прагуляцца па лёдзе, Андрэй выказаў гэта ўслых. Маразы стаялі некалькі тыдняў, лёд мусіў быць тоўстым, трывалым, надзейным. Да таго ж усё палатно замерзлай ракі было наўсцяж скрэслена пратаптанымі ў снезе сцежкамі.

І вось мы пасярэдзіне ракі! Рэальнасць перастала існаваць: былі толькі мы, пад намі, над намі – неба, зіхоткая зваблівая бясконцасць, бессмяроцце. Андрэй ішоў першым, а я – услед за ім. Мне хацелася аднаго – каб вандроўка наша паміж берагамі, паміж двума бяздоннямі доўжылася вечна; ісці за ім хоць на край свету, хоць у самое пекла і ні пра што не думаць.

Толькі б бачыць перад сабой яго вузкія плечы, што захінаюць мяне ад ветру і холаду, і захінуць, калі так выпадзе, ад самай страшнай бяды, я ў тым не сумнявалася.

Я была імгненна вырвана са свайго мроіва, калі адчула, як нешта, бы кіпнем, апякло мяне па самыя грудзі. Мы з Андрэем у адзін момант праваліліся пад лёд, як ішлі – ён наперадзе, я – за ім. Мы спрабавалі ўчапіцца за крыгі, якія ламаліся пад нашымі рукамі... І тут мне раптам згадалася тая восеньская сустрэча ў гэтым самым парку, тая чорная постаць без твару. “Дык вось да чаго яно было...” – апошняе, што я паспела падумаць.

Я ўвесь час намагаюся згадаць, што было потым, як, усё ж такі, мы выбраліся з той ледзяной магілы, як у цяжкім мокрым наскрозь адзенні пералезлі цераз гладкі бетонны парапет вышэй за чалавечы рост.

– Ася, не спі, бяжы, мілая! – вось гэтыя словы Андрэя я памятаю дакладна.

Ён бег паперадзе і цягнуў мяне за сабой, не даючы спыніцца ў тым снежным бяспамяцтве.

Цяпер пасля ўніверсітэцкіх заняткаў я наведваю танцавальную студыю. Каб танцаваць з Андрэем усё жыццё, каб кожны наш дзень быў напоўнены музыкай.

Часам я згадваю тую постаць без твару. Але цяпер яна адкрылася мне па-іншаму. Часам нам здаецца, што мы глядзім смерці ў вочы і страшэнна яе баімся. Насамрэч, калі ў яе няма вачэй, то і яе самой не існуе. Не існуе ў тым разуменні, у якім мы яе баімся.

## Плата за хлусню

Ніхто нізавошта не здагадаецца, якою была першая прачытаная мной кніжка. Самавучыцель па хірамантыі. У доме дзядулі ў глухой палескай вёсцы, дзе прайшло маё дзяцінства, іншых кніг не мелася, а гэтую забыла некалі мая цётка, дзядулева сястра, звар’яцелая на ўсялякіх містычных штучках. Дзед мой чытаў толькі газеты з дробным шрыфтам ды без карцінак, – мяне яны зусім не цікавілі. Затое ў самавучыцелі было шмат малюнкаў далоняў самых розных формаў і памераў са шматлікімі лініямі на іх. Дзядуля гэтую кнігу не чытаў ніколі, яе гартала толькі я. Магла вечарамі не выпускаць яе з рук, мне падабалася разглядаць тыя малюнкі. Часам я чаплялася да дзядулі:

– Скажы, а гэта якая літара? А гэта якая?..

Так я і вывучылася чытаць, шмат разоў “прайшоўшы” тую навуку хірамантыі ўздоўж і ўпоперак. Спрабавала я разабрацца і ў газетах, але мяне хапала толькі на загалоўкі.

Калі ж бацькі забралі мяне ў горад і я пайшла ў школу, то ўжо добра ведала, дзе на далонях знаходзяцца лініі сэрца, жыцця і розуму. Бывала, аднакласнікі на перапынках не давалі мне праходу, прасілі паваражыць:

– А колькі ў мяне дзяцей будзе?

– А ў якім горадзе я буду жыць, калі вырасту?

– А з кім я ажанюся?

Аднойчы маіх бацькоў выклікалі да дырэктара. Вярнуўшыся дадому, яны строга забаранілі мне займацца ўсялякай варажбой, бо інакш, сказалі, мяне выключаць са школы.

Хутка я забылася на тыя дзіцячыя забаўкі. Мяне штодзень вадзілі на розныя гурткі і трэніроўкі, і часу на ўсялякую дурноту не ставала.

І толькі праз шмат гадоў, ужо дарослай, я зноў вярнулася да той “дурноты”.

Неяк сустрэлася я з дзвюма маімі сяброўкамі, якія, хоць і былі знаёмыя, але мала ведалі адна адну. З Нэлькай я сябравала з самага маленства, разам з ёю мы абследавалі ўсе навакольныя лясы ды балоты, бо жыла яна ў той самай палескай вёсцы, дзе і мой дзядуля. У горад яна прыехала па нейкіх клопатах, а заадно хацела пабачыцца са сваім жаніхом Юрыкам. Той ужо год як працаваў тут, зарабляў грошы на будучае вяселле. Нэлька ж цярпліва чакала яго, праводзячы “працоўныя будні” на старонках чужых раманаў – яна была бібліятэкаркай.

А з Іркай, другой маёй сяброўкай, мы разам працавалі ў мадэльным агенцтве. Яна была знаёмая з Юрыкам (той служыў кіроўцам у нашым жа агенцтве, куды ўладкаваўся па маёй пратэкцыі), але не ведала, што ён – Нэльчын жаніх. Мы ўтрох сядзелі за столікам у кавярні, перад кожнай стаяла вазачка з featureрознакаляровымі шарыкамі марозіва.

Ірка прыгадала апошні паказ вясельнай моды:

– Калі хто замуж збіраецца, пачынайце гадаваць валасы: каб быць у трэндзе, нявеста мусіць мець складаную прычоску са мноствам заплеценых і па-хітраму ўкладзеных косак.

Я ж, хоць і была заўжды ў курсе апошніх навінак, мела прынцып: не я для моды, а мода для мяне:

– Ага, зараз пачну! Вазьму перад самым вяселлем ды абрэжу сваё “карэ” яшчэ карацей! Каб расстацца з адным жыццём і пачаць другое. З чыстага аркуша!

– А ў тваёй маці выпадкова вясельная сукенка не захавалася? То глядзі праветры яе як след перад паходам у ЗАГС, каб пах нафталіну гасцей не распужаў, акрамя молі! – іранізавала з мяне злая на язык Ірка.

– А мне, можна лічыць, пашанцавала, – пахвалілася Нэлька, выцягваючы шпільку з пучка на патыліцы. Па плячах яе рассыпаліся густыя, каштанавыя з медзяным адлівам валасы.

– А сукенкі ў модзе зараз не да пят, а караценькія, вышэй каленяў!

– Што ж, для сукенкі такой давядзецца пахудзець, – уздыхнула Нэлька, гаротна зірнуўшы на вазачку з падвойнай порцыяй марозіва.

– Ой, а што, ёсць для каго? – Іркіны маленькія чорненькія вочкі загарэліся непадробнай цікаўнасцю.

– Ё-о-о-сць! – паважліва прамовіла Нэля, загадкава ўсміхнуўшыся.

– І хто ж ён? – тонам, у якім зноў загучалі іранічныя ноткі, запыталася Ірка.

– Юрык Яневіч!

– Яне-э-віч? – Ірчын твар зрабіўся сур’ёзным, іронія з яго знікла. – Так ён жа... жыве ўжо... з дзяўчынай, у грамадзянскім шлюбе... І яны распісацца нібыта збіраліся...

– Як... жыве... – пасля працяглай паўзы, ці то запытальна, ці то разгублена выціснула з сябе Нэлька.

– Так, жыве з дзяўчынай. Я дакладна ведаю, яны паўсюль разам цяпер.

Над намі навісла нязносная, густая, цягучая ціша. Потым Нэлька ўсхліпнула, сарвалася з месца і паляцела ў бок прыбіральні. Я глянула з дакорам на Ірку.

– Ну адкуль я ведала, што ў іх з Яневічам нейкія там адносіны? Ён мне пра гэта не паведаміў! – Ірка з нявінным выглядам даядала сваё марозіва. Нэлька не з'яўлялася ўжо каторую хвіліну. "Плача там, пэўна, – думала я. – Што ж рабіць, як яе супакоіць? І ці магчыма гэта ўвогуле?"

Я пайшла ўслед за Нэлькай. Яна сядзела на кукішках, прыхінуўшыся спінай да сцяны прыбіральні, рыдала, закрыўшы твар рукамі. Я абняла яе, пачала гладзіць па галаве, па плячах:

– Ну, што ты, як маленькая, ведаеш, колькі ў цябе яшчэ такіх Юрыкаў будзе? А ўяві, каб ён цябе цяжарную кінуў бы!

– То я была б не адна-а-а! – не сунімалася Нэля.

– А я табе паваражу зараз! Дай руку! – нечаканая здагадка мільганула ў маёй галаве.

Нават калі і не будзе на яе далоні лініі шлюбу, я ўсё адно скажу, што шлюб ёй гарантаваны звыш. Яна хаця б зараз супакоіцца, а потым забудзе.

На пухленькай Нэльчынай далоньцы лініі шлюбу не аказалася. Шанцаў на замужжа, як мне бачылася, у яе было мала: жыццё ў правінцыі, адкуль уся моладзь імкнецца з'ехаць, праца ў жаночым калектыве, да таго ж яна нічым, акрамя кніг, не цікавілася, амаль нікуды не выбіралася. Але я зрабіла ўсё магчымае, каб пераканаць яе ў адваротным. І гэта мне ўдалося. Яна паверыла мне. Пакідаючы прыбіральню, Нэлька больш не хлюпала, толькі прыпухлыя пачырванелыя вочы выдавалі яе ўнутраны стан. Мы з дзяўчатамі развіталіся і разышліся, кожная ў свой бок.

Пасля таго здарэння мінуў год. Я тым часам сама збіралася замуж. Вяселле планавалася праз паўгода, калі мой жаніх мусіў скончыць сваю навучальную ўстанову. Адносіны нашыя былі роўныя, цёплыя, даверлівыя, без нейкіх шалёных жарсцяў. Я не сумнявалася, што такім будзе і сямейнае жыццё. На маёй далоні красавалася доўгая, глыбокая лінія шлюбу. Праўда, Эдзіку, майму нарачонаму, не падабалася мая праца з яе частымі камандзіроўкамі, але я думала звольніцца адразу пасля вяселля. Эдзік пераехаў у маю двухпакаёўку, і гэта было для мяне дарункам лёсу. Адразу ж стала адчувацца, што ў хаце з'явіўся гаспадар: адрамантаваў усе паломкі, давёў да ладу ўсе недаробкі, замяніў старыя вокны на шклопакеты, разгрэб заўсёдны мой бардак і ператварыў кватэрку ў сапраўдны райскі куток. Мяне ж па вяртанні з чарговай камандзіроўкі заўсёды чакала гарачая кава ды смачная вячэра.

Аднойчы раніцай, адчыніўшы дзверы, я была здзіўлена: на кухні за сталом побач з Эдзікам сядзела Нэлька. Яны пілі каву. Нэлька адразу ж кінулася да мяне абдымацца: не бачыліся ж болей за год. Яна яшчэ больш распаўнела, але выглядала шчаслівай.

– Дзякуй Богу, што ты вярнулася! Аська, даражэнькая, я па тваю дапамогу! Ты мне тады так добра ўсё наваражыла, і зараз у мяне аж два жаніхі, толькі вось не ведаю, каторага выбраць. Паваражы мне яшчэ раз, калі ласачка!

Тут я здзівілася яшчэ больш. Але ўзяла яе далонь, паглядзела. Малюнак яе ліній заставаўся без зменаў. Я сказала ёй некалькі агульных фраз, накшталт тых, што будзе дарога (яна ж паедзе пасля дадому), што дома чакае сюрпрыз (калі там котка акацілася – ці ж не сюрпрыз?), што спяшацца рабіць выбар не варта – час сам расставіць усе кропкі над "і". Пэўна, гэта можна было б сказаць каму заўгодна і не памыліцца, але яна знайшла тут нейкі асаблівы, адметны для яе адной сэнс, узрадавалася, па-

дзіцячы непасрэдна пляснула ў ладкі і, перш чым я паспела апамятацца, падзякавала за ўсё і пачала развітвацца. Эдзік памкнуўся яе праводзіць, але яна хуценька чмокнула яго ў шчаку, пасля – мяне, павіншавала з недалёкім вяселлем (куды ўжо была запрошана Эдзікам) і пабегла.

Час сапраўды расставіў усе кропкі над "і". У той дзень, калі мы з Эдзікам збіраліся падпісваць запрашальнікі на наша вяселле, ён сказаў мне, што кахае іншую, не можа без яе жыць і з'язджае да яе. Узяў загадзя сабраны чамадан і сышоў. Ува мне быццам скончыліся словы, думкі, пачуцці, і ўсё запаланіла нейкая нязвыклая пустэча. Слёз не было таксама. Але пачало рэзка не ставаць праветра, быццам яго зараз трэба было ў шмат разоў больш, каб запоўніць сабою ўсю тую бязмежную пустэчу ў маёй душы. Я чула, як за Эдзікам шчоўкнуў замок у дзвярах. Потым узяла чайнік з рэштаю ранішняй гарбаты, заваранай Эдзікам, і бахнула аб падлогу.

Паглядзела на свае рукі. На абедзвюх далонях, у тым месцы, дзе раней знаходзілася лінія шлюбу, была гладкая, роўная скура. Такая ж, як калісьці ў Нэлькі.

Калісьці.

## Сіняя кветка

Кожны мой дзень – варыяцыя адной і той самай тэмы: званок будзільніка – школа – дзіцячы сад – праца – дзіцячы сад – школа – дом (вячэра, урокі) – сон.

Але перыядычна я вырываюся з гэтага ланцуга аднастайных дзён. Пачалося ўсё з банальнага выпадку: вяртаючыся неяк з крамы, ля пад'езда я заўважыла кветку, пасаджаную ў гліняны гаршчок. Яна стаяла пасярод іншага гломазду: хтосьці перад капітальным рамонтам вырашыў расчысціць прастору. Я не магла не ўзяць яе: хатнія расліны – маё найвялікшае захапленне. Я пра іх ведаю ўсё (альбо амаль усё). А тут – ні на што не падобная, яркая такая, з кулак, махровая, пакрытая варсінкамі з кроплямі нектару на іх цёмна-сіняя кветка. І пышны кусцік цёмна-зялёных лісткоў, таксама пакрытых варсінкамі. Нідзе раней не бачыла такой прыгажосці. Калі я схілілася, каб узяць яе, лісткі быццам самі пацягнуліся да маіх рук, прыхінуліся да іх, атулілі прахалодай і пяшчотай.

У тую ноч я доўга не магла заснуць. Седзячы на кухні і гартаючы старыя часопісы, прыслухоўвалася да роўнага дыхання дзяцей з іх пакоя. Да раўнамернага пахрапвання мужа з яго спальні прыслухоўвацца не трэба было, каб зразумець, што ў сваім бяссонні я ў поўнай адзіноце.

За вакном красавалася неймаверна вялізная поўня, а на падваконні – мая новая кветка. Ад яе сыходзіў тонкі прыемны водар – нейкая сумесь пахаў бэзу з язмінам ды ландышамі. Дзіўна, што раней я не адчула яго. А сама кветка быццам стала буйнейшай і ярчэйшай, чым падавалася пры дзённым святле. Пялёсткі яе раскрыліся так нахабна, нібыта запрашалі ўнутр... Я схілілася над вазонам, удыхаючы водар, ніяк не магла ім надыхацца. Узяла ў рукі, паднесла бліжэй да лямпы, каб лепш разгледзець і раптам... куды падзелася ноч з яе неверагодна вялізнай поўняй, мая чырвоная піжама, кухня з часопісамі?..

...Я гуляла з сынам у гаі непадалёк ад замкавай гары. Слёзы засцілалі мне вочы, калі я глядзела на яго светлую хударлявую фігурку. Яму яшчэ

не споўнілася і чатырох, а – выліты бацька! Тыя ж вочы, тая ж ганарлівая пасадка галавы, тыя ж пластычныя і ў той жа час пругкія рухі (быццам недзе ўнутры яго знаходзілася сціснутая з абодвух бакоў спружынка, але раз-пораз ёй дазвалялася імклівa распроствацца).

Ён – гэта ўсё, што ў мяне засталося, дзеля чаго я жыла. Дакладней, спрабавала жыць пасля таго, як атрымала страшную вестку: князь мой, сонца маё, святло маіх дзён загінуў пры абароне памежнай крэпасці. Я не вагаючыся выпіла б атруту, калі б не сын. Але... гэтая беленькая галоўка на тонкай, такой безабароннай шыі... Што з ім будзе? Ці паспее ён пасталець, каб заняць бацькаў пасад па праве нараджэння, перш чым знойдзецца які-небудзь “добразычлівец”, які паспрабуе перайграць сітуацыю на сваю карысць і прапхнуцца да ўлады любым коштам?

Такіх добразычліўцаў як бруду. Але яны не ведаюць, з кім ім давядзецца мець справу. Мой сын зойме бацькаў пасад, калі прыйдзе час, і да таго моманту ён дасягне дасканаласці ў пытаннях дзяржаўнага кіравання і вайсковай справы.

Слёзы зноў і зноў нагортваліся на вочы. Сын зрабіў сабе “дзіду” з прамога доўгага дубца і на кагосьці паляваў. Галоўка яго з ільнянымі валасамі тут і там мільгала ў зеляніне. Паменшаная копія бацькі.

Сын – самае дарагое, што я маю, але я не павінна яго любіць. Каб не звар’яцець, калі страчу і яго. Каб мець на той момант халодны розум і спакой у сэрцы і зрабіць усё, што належыць у такіх выпадках. Я з самага пачатку ведала, што страчу і яго. Як і цябе, мой княжа. Твой лёс – і яго лёс. Але нават калі б я магла пазбегнуць гэтых пакутаў коштам іншага ўласнага лёсу, іншага жыцця, праведзенага ў манастырскіх мурах, дзе я ніколі б цябе не сустрэла, я нічога не стала б мяняць (чуеш, ні-чо-га!!!) дзеля хаця б аднаго імгнення поўнай паглыбленасці ў цябе і паглынальнасці табою, поўнай еднасці з табою ва ўсім.

А ў мяне такіх імгненняў было... аж сем гадоў бязмежнага шчасця! Я адчувала яго, майго князя, нейкім звышнатуральным чуццём, я ведала скрозь сцены, калі яму добра, калі кепска, пра што ён думае, калі яго вязуць параненым. Найсаладзейшая ж эйфарыя агортвала мяне тады, калі ён браў мае далоні і прыхінаў да свайго твару, удыхаючы скрозь іх паветра, а потым, ледзь дакранаючыся вуснамі, цалаваў мой шнар на правым запясці (след даўняга, яшчэ дзіцячага падзення з каня на камяні).

Бог мой, пашлі мне які-небудзь востры фізічны боль, якую-небудзь хваробу, што заўгодна, каб толькі не адчуваць *таго* болю.

...Я расплюшчыла вочы, калі нехта з усёй моцы тузаў мяне за руку.

– Таська, што з табой? – голас мужа быў нязвыкла ўстрывожаны. – Гэта ты сваімі дыетамі сябе да непрытомнасці даводзіш, а як я без цябе з малымі буду?

Нясцерпна балела галава. Я ў сваёй чырвонай піжаме ляжала на халоднай падлозе кухні. Паспрабавала ўстаць. Валасы былі мокрымі ад крыві. Падаючы, я стукнулася патыліцай аб рог стала.

– Трэба, мусіць, да дзяжурнага хірурга ехаць, Вячык. Пазвані маме, хай возьме таксі і прыедзе пабыць з малымі, пакуль мы ўправімся.

Чаргі з бамжоў і п’яных “шчасліўцаў” у лякарні не аказалася, і хірург хутка разабраўся з маёй ранай, наклаўшы тры швы. На месцы раны давялося састрыгчы валасы. Нічога, адрастуць – шнара відаць не будзе. Д’ябал з ім! Адным больш, адным менш, калі іх і без таго нямала...

Калі мы вярнуліся дадому, дзеці яшчэ спалі, але са мной здарылася істэрыка – маці выкінула тую сінюю кветку. Ёй не спадабаўся яе пах. Я гатовая была бегчы на памыйку шукаць маю кветку ці тое, што ад яе засталося, але акурат перад намі ад пад'езда ад'ехала машына – смеццевозка з поўным кузавам.

У той дзень я не пайшла на працу. Выпіўшы жменю таблетак валяр'янкі, тупа правалялася на канапе да самага вечара, гартаючы розныя даведнікі па батаніцы. Так і не знайшла, што шукала.

А потым разбалеўся шнар. Не на патыліцы – на правым запясці. Медыкі ніяк не могуць гэтага патлумачыць: стары, з дзяцінства яшчэ шнам час ад часу пачынае моцна балець, і тады я згадваю зусім іншае жыццё, якое робіцца для мяне на пэўны час больш існым за маё звычайнае, са штодзённымі варыяцыямі на адзін і той жа матыў.



Яўген Іхонкін



...ён для цябе патрэбнасць,
ты – нікчэмнасць для яго...

# Новы дзень, прывітанне!

* * *

Нібыта ў сне. Вандрую. Успамін.
Дзе жыў, дзе ездзіў, дзе я буду?
Калісьці не сустрэў – і ты адзін.
Хістанні. Стома. Поўны тлуму.

* * *

цеплыня па жылах
бегае, што шэльма.
трэба йсці па сценах,
па шпалерах. вер мне.

у апошні...
покуль.
не сказаў
*яшчэ раз.*

### *РУКІ*

Што будзе,
тое
было,
А што былое,
тое
няпраўда.
Зачыненых дзвярэй
хапае.
Досыць!
Спытай мяне,
навошта
студзень
просіць?
Каб не гублялі
водар
лета.
І ціснулі ў руках
не
цыгарэты.

* * *

Незаўважна ляцяць хвіліны
на дарозе па імені лёс.
Памылкова сціраем карціны
“Сонца промні” й “Усмешка нябёс”.

Вызначаем з дакладнасцю рысы
ўсіх герояў у раманах жыцця,
ды не можам знайсці мы абрысы,
каб вярталі душу з забыцця.

На квяцістых дахах надзей
сарамлівыя слёзы ліем.
Ці мы вартыя Лепшых ідэй?..
Адзінотаю змучана п’ем

не з гарачага кубка гарбату,
а мігценні з кропель вады.
Зачакаўшыся долі ля хаты,
беззваротна прапусцім гады.

* * *

Ледзь трымаецца зброя надзей
на спавітых пачуццямі снах.

Колькі з сэрцам разбітым людзей
і з пустымі вачыма? О, жах!

Колькі кропляў патрэбна рацэ,
каб спатоліць смагу журбы?
На пабітай расстаннем руцэ
пакідаем мы рэшткі сяўбы.

Памяць, нібы шызы праклён,
слізкі мур і разбураны мост.
На пачатку існуючых дзён
пасляшайся да любай наўпрост.

Не шкадуйце сябе ад нягод:
пазбаўлення не будзе ад пут.
Калі будзе апошні твой год,
не паспее ўжо здзейсніцца цуд.

### *САНЭТ № 15*

Вачыма, скуламі, усмешкай,
Тваёй прысутнасцю – трызню.
Бязвольна станаўлюся пешкай,
Жыццё сыходзіць ў валтузню.

Галопам робяцца ўсе справы,
У думках – Ты. Паўсюль. Даўно.
Як хочацца зрабіцца жвавым!
Ды запрасіць цябе ў кіно.

Ў кавярню зойдзем перад ім...
Не верачы сваёй удачы,
Пакуты сцерці мушу – грым
Ды ўбачыць новую задачу:

Тое цяпло, што ўнутры
Няўмольна памнажаць на тры.

* * *

Ратуй мяне ад той пары,
што наступае з халадамі,
часоў вялікае маны
і адзіноты паміж намі...

* * *

Вонкавае жыццё. Вакно яго ўваход.
Апошнія кадры сну.
Свядомасць ужо рэагуе на гукі.
Галубы, крумкачы і ластаўкі ў пошуках свае мэты.
Мой дах без асаблівае прагі, але досыць цвяроза прымае ўсё.
Вочы расплюшчваюцца. Няветлівая столь з халоднаю
падлогай стрымліваюць нягеглыя крокі.
Не жадаю адмаўляць цікавасці.
Расчыняю вакно й летуценна праглынаю паветра свае вёскі.
Новы дзень, прывітанне!

* * *

Чуеш словы, а яны для цябе пустыя.
Цішыня бывае больш змястоўнаю, чым яны, нічым не
напоўненыя словы.
А напоўненасць – твой вопыт, уласны вопыт.
Ці мала разоў чуў, што “не трэба страчваць свой час на тых,
хто не прагне бавіць яго з табой?”
Безліч. Вялікую колькасць.

*

І вось зноўку той, каму ты даверыў самую сваю сутнасць,
усю, цалкам, паварочваецца спінаю. Для яго ты гатовы быў
знікнуць з гэтае зямлі, каб зноў нарадзіцца на яго ўмовах.
Але замест другога жыцця побач з ім ты бачыш надпіс
“Game Over”.
І ўсё добра тлумачыцца: ён для цябе патрэбнасць, ты –
нікчэмнасць для яго.

*

Знікаюць пачуцці, быццам бы адарваўся кавалак чагосьці
важнага, чаго ўжо не вернеш.
“Напрыдумваў, – чуецца ўнутраны голас. – Ты зноў сабе
напрыдумваў”.
Цяпер ты на крышачку мудрэйшы. Віншую...

*

Словы! ну калі ўжо вы станеце святымі, калі?
Хіба трэ’ сябе знішчаць? А мо лепш навучыцца слухаць?
Неяк па-іншаму, каб адразу ўсё разумець. Усё.
Чуеш?

* * *

Жыццё і так
Усё куродыміць, сквірчыць.

Прашу, не мкніся быць не тым,
Бо дні назад не адлічыць

### *МІНУЛАЕ*

*Адцвітае, усё адцвітае –*
*і гады, і хвіліны, і кветкі.*

Ул. Дубоўка

Так проста сказаць: “Бывай,
шкада, што так атрымалася”.
Так цяжка сказаць “Трывай,
не кіну, я тут, я засталася!

Мы спынім навалы іспыт,
і зрэжам варожае крылле”.
Ды шпарка крочаць ў нябыт
каго душой палюбілі...

Сыходзяць таварышы ўбок –
часовыя людзі твае.
Мы робім наступны свой крок,
І дзе ты, мінулае, дзе?

Пачатак, за ім заняпад,
сюжэт не разгорнецца болей.
Эмоцыі б’юць у набат,
Ў хістаннях губляюцца ролі.

Упэўнена, рэзка і цвёрда
на сэрцы, як сталлю, звініць
мінорны водгук акорда,
жадаючы літасць прысніць.

Ральф Дутлі



...аднойчы нябесна-блакітная дзяўчынка ўбачыць больш шчасця...

# Апошняя паездка Суціна

***Фрагменты рамана***

*Пераклад друкуецца з дазволу выдавецтва Wallstein Verlag*



*Пераклад з нямецкай мовы Веры ДЗЯДОК*

## Кніга Суддзяў

Ці ж гэта Ма-Бе, ці яна гэта сядзіць у цемры побач з ім і прамакае белай хусцінкай яго лоб? То задрэмле ад зняможанасці, то ўздрыгне і шырока расплюшчыць вочы, быццам нечы крык вырваў яе са сну, быццам бы сон – гэта нешта непрыстойнае, калі ты суправаджаеш у Парыж на аперацыю жывы труп. Па яе белым твары прабягаюць чорныя палосы. Вулічныя ліхтары? Ці дзённае святло? Твар непазнавальны ў гэтым падманным святле, перасечаны цёмнымі галінкамі.

Яго вочы дрыжаць, вейкі нібыта заўважаюць рухі шэрых сабраных у фальбоны фіранак; яму раптам здаецца, што нехта іншы суправаджае яго ў катафалку, сядзіць побач, рукамі абхапіўшы ногі. Ён сядзіць на невялікім узвышэнні, быццам на драўлянай скрыні ці зэдліку. Мастак ужо бачыў гэты твар, некалі даўно ў дзяцінстве.

Немагчыма. Хіба можа такое быць? Гэта стары рэбе, ён мармыча, праводзіць рукой скрозь падманнае святло, як сумная марыянетка. Бачны яго рот з дзіркамі, сківіцы, якія спачатку шматкроць бязгучна адкрываюцца і зноў закрываюцца, быццам ён шукае слова.

– Не, Хаім.

І ён няўхвальна хітае галавой.

– Не, і яшчэ раз не.

Суцін ведае ўсе папрокі, ён часта чуў іх у сваіх снах у Менску, і Вільні, і нават яшчэ ў Парыжы, ужо даўно ўцёкшы ад вёскі. Паўсюль той самы высокі голас, тыя закіды, манатонныя, як старая малітва, што даўно ўелася ў плоць і косткі. Але гэтым разам стары выглядае яшчэ больш злосным, усё, здаецца, падмацоўвае яго злобу. Для даравання ўжо занадта позна.

«Я заўжды табе казаў. Ты не хацеў слухаць, знікаў, уцякаў ад нас. Ты дрэнна скончыш, Хаім. Цяпер ты едзеш на *Ягоны* суд, Творца будзе ведаць, што ты не слухаўся ні бацьку, ні маці, ні братоў, ані мяне. Маляваць не трэба. Гэта для балванахвалаў, якія ачмураюцца ад стракатых статуй Баала і іх брудных фарбаў. Вочы абражае, што ты пэцкаеш фарбамі ў нас пад носам. ЁН зрабіў нас з пустое гліны, толькі Ён, і ўдыхнуў у нас жыццё.

Ён хацеў дапусціць толькі слова, толькі слова. “Настаўленні Айцоў” ведаюць гэта, Хаім. Свет быў створаны дзесяццю словамі. І пасля Ён пытаецца ў нас: чаму дзесяць, калі было магчыма стварыць яго адным? Толькі слова стварае свет, Хаім. Твой пэндзаль пэцкае свет, робіць лахманы і здзекі з *Ягонага* стварэння. Ці ж ты не бачыш, як знявечыў і сказіў усё – пейзажы і людзей, як усё дрыжыць і гайдаецца, быццам бы маляваў не ты, а боль у тваім жываце? Быццам бы боль стварыў свет, а не спакойнае вока Творцы і слова Ягонае. Як быццам бы страўнікавая пухліна абразліва стварыла свет! Стварэнне не хоча быць намаляваным, Хаім, навошта?! Стварэнне ўзнікае ў канцы тыдня, створанае за шэсць дзён і ўкаранаванае шабасам, у спакоі Творцы, каб ён мог аглядаць яго з задавальненнем. Ці ты забыў запавет? Забыў найгалоўнае, забыў усё?

Не зрабі сабе высечанай выявы... і ніякага перайманне... ні з тым, што наверсе ў небе... ні з тым, што ўнізе на зямлі... ані з тым, што ў вадзе пад зямлёю...

Чужыя гэтыя словы для твайго вуха, ты больш не хочаш пра гэта ведаць?

Каб вы не сталі горшымі... і не зрабілі ніякае высечанай... ані выраблёнай выявы... ніякага перайманне... ані перайманне жанчыны, ані мужчыны, ані жывёліны на зямлі... ані крылатых птушак... што лётаюць пад небам, ані жамяры на зямлі, ані рыбы ў вадзе пад зямлёю...»

І стары меле сваімі сківіцамі зерне словаў, схіляецца, выцягвае галаву наперад у штучнае святло, ён суцэльны папрок. Мастак яшчэ чуе нейкі час, як рэбе ўздыхае і скардзіцца, але маленькае цела, здаецца, аддаляецца, нібыта змяншаецца і распускаецца ў фальбонах фіранак катафалка. Ды амаль у наступны момант ён ізноў набліжаецца, яго рухі становяцца мякчэйшымі, амаль жаноцкімі, ён становіцца жанчынай. Мастак не пазнае яе. Яна магла б быць кімсьці з іх – Гард, Ма-Бэ, ці хто гэта? Ён яе не пазнае. Гэта не адна з іх.

Што табе трэба тут у катафалку, хто цябе сюды пусціў? І чаму ты едзеш з намі? Мне трэба на аперацыю, ты хіба не ведаеш?

Ён хоча сказаць нейкае слова, але не вымаўляе нічога. Аднак жанчына сядзіць нема, толькі ківае і адводзіць свой позірк. Потым яна праводзіць пальцамі па яго руцэ, як Ланграс, слабая маланка шугае ў катафалк, надыходзіць палёгка. Мастак крэкча, быццам бы ў яго хлеб захрас паміж зубамі, быццам ён каўтае бяззубым ротам. Яна крапае яму пад язык макавага соку. І боль цішэе ў ягоным жываце.

Папрокі рэбе ён тысячу разоў чуў у сваіх снах, мармытаў заблытаныя, незразумелыя апраўданні, прыводзіў у доказ Вельзевула ў пустэльні, аднак ніводнага разу не паспрабаваў сказаць пра свае карціны, ніводнага слоўца. Ён ніколі не паказваў свае палотны, ніколі не спрабаваў патлумачыць, чаму гэта мусіла быць так, чаму ён не мог па-іншаму. Ён пераварочваў карціны, ставіў іх выявай да сцяны, адводзіў іх позірк, каб ніхто іх не ўбачыў. Нічога не тлумачыў. Ні ў адным з лістоў. Ніводнага слоўца. Для такіх карцін не існуе тлумачэння, разумееце? Мае значэнне сама карціна. І толькі яна. І слова мае значэнне, але яго нельга прамаўляць. Маісей расчараваны. Суцін-Маўчун, так яго будуць называць ў свеце Манпарнаса. Muet comme une carp, маўчыць як рыба.

Раптам ён чуе, як гаворыць на сваёй амерыканскай французскай Генры Мілер, які быў яго суседам на віле Сёра.

«Я ўзгадваю, што ўпершыню спаткаў Суціна ў 1931-м. Тады гэты тып, Луі Атлас, камерсант з Нью-Ёрка, які гандляваў футрамі, наняў мяне літаратурным мурынам, каб напісаць серыю пра вядомых жыдоў у Парыжы. Ён плаціў мне па 25 франкаў за артыкул, друкаваліся яны ў нью-ёркскіх яўрэйскіх часопісах. І нарэшце я ў нейкай кавярні змог пазнаёміцца з Суціным. Я задаваў яму пытанні для артыкула, а адказвалі ягоныя сябры, ён сам за ўсю размову не прамовіў ні слова, сядзеў занураны ў думкі, у дыме сваёй цыгарэты...»

Смілавічы – гэта смала. У яго памяці ўвесь час выпрабляецца смала. Дзяцінства – гэта мястэчка з разваленымі спарахнелымі хатамі, валкімі грэблямі, густым пылам ці чвяканнем жыжы – у залежнасці ад пары года. Дзіцячы кашаль і голад. У ягонай памяці гэта шэрае месца, брудная дзірка. Неба зацягнутае, шэрае ад дыму. Шагал, жэстыкулюючы, кіне субяседнікам:

– Колеры там такія ж, як боты тых, хто там жыве. Усе мы з'ехалі адтуль праз гэтыя колеры.

Мястэчка звалася Смілавічы, знаходзілася за некалькі кіламетраў ад Менска, а мастак хацеў толькі аднаго: забыць іх. Патрапіўшы ў 1913 у Вулей на завулку Данцыг, дзе ўжо з'явіўся апантаны сваім віцебскім дзяцінствам Шагал, ён раз'юшыўся. Шагал прыпёр у Парыж свой штэтл, з усімі ягонымі дамамі, звярамі, рэбе, рэзнікамі і сватамі, могэлем і тартаком, гандлярамі конямі. Усё, што Суцін, як ён думаў, пакінуў за плячыма, ён знайшоў перад сабой у шэры парыжскі дзень – так, там таксама дні бываюць шэрымі — у поўным буянні фарбаў у шагалаўскай соце. Той чуе рык на блізкіх бойнях у Важырары і сваім пэндзлем пераносіць кароваў на віцебскае неба. Пачынаецца вайна, Шагал вяртаецца ў Расію, каб пад тым самым небам ажаніцца з сваёй нарачонай Бэлай. Суціна, які хоча сплюнуць на сваіх насілках, нішто не магло прымусіць вярнуцца туды. А хоць бы сусветная вайна. Нішто.

Толькі вытруціць у сабе мястэчка дзяцінства. На карцінах не павінна

ўратавацца нічога адтуль: ні каліўца, ні парушынкі, ні ценю. Выпаліць з памяці вялікае НІШТО дзяцінства. Спаліць палатно дзяцінства. Правесці дзяцінства ў гэтай памяншальнай форме места, бо местам яно не было, – прыніжэнне само па сабе. Ён хоча сабе толькі гарады – Менск ды Вільню і места местаў, дзе ва ўсіх фальбонах і прасеках, на бульварах і ў завулках звіло гняздо мастацтва. Паўсюль жывыя палотны, няма вяртання да ніколі не намаляванага. Вёска была брудам і пагромамі, страхам і трымценнем. Ва ўсіх карцінах ён хоча вызваліцца ад гэтых Смілавічаў, кожным мазком пэндзля ён хоча сцерці з памяці.

Дзе гэта ён, чаму менавіта цяпер вёска дзяцінства пранікае да яго ў катафалк? Пірынеі, Парыж, а пасля – рачулка Волма, мясцовасць каля Бярэзіны, што памятае згноеных у вясновым глеі французаў. У сям'і ён хлопчык для збівання, жывы мех, якога лупцуюць і пхаюць, дзясятае і перадапошняе дзіця ягонай маці Сары, стомленай ад усіх гэтых родаў. Як адсутная, лунае яна праз памяшканні, робіць свае справы, як прывід. Яна маўчыць. Заўжды поўная клопатаў, занадта змарнелая, каб шапнуць ім штосьці пяшчотна, як ён падгледзеў гэта за іншымі маці. Ён дзясяты з адзінаццаці дзяцей, ці вы чуеце, доктар Гот? Перадапошні з усіх. Нехта назваў нас чэмпіёнамі ў галаданні. Дзясяты і перадапошні. Падзяліце сваю любоў на дванаццаць, добры рэбе. Яе завуць Сара. Яна больш ужо не гаворыць.

Ягоны першы ўспамін. Ён яшчэ ляжыць у люльцы, назірае за гульнёй святла і ценю на сцяне, іх дрыжаннем і чаргаваннем, іх танцам на белым тле. Ён глядзіць, як сонечнае святло і цень ловяць адно аднаго ў нерухомых пыльных фіранках...

Ён хоча распавесці гэта Ма-Бе, альбо мадмуазэль Гард, альбо трэцяй постаці, што з'явілася ў катафалку і якую ён не змог пазнаць. Ён мармыча і рукой падзывае яе бліжэй да сваіх вуснаў. Схілі сваё халоднае вуха.

Хата стаіць каля рынку, і ў ніжэйшым вакне, калі дазваляе надвор'е, сядзіць са скрыжаванымі нагамі, як Буда, яго бацька Саламон, кравец-пераніцоўшчык. Пад акном, дзе больш святла для швоў, дзе тонкая нітка выходзіць і па бацькавых пальцах уваходзіць у тканіну кафтана. Ён мармыча, коле і цягне, жыццё – гэта нітка. Ён шые механічнымі рухамі, пасля спыняецца і перакідвае шытво на іншы бок, не падымаючы вачэй... Рабі Менахем Мендэль з Ворак мяркуе, што сапраўдны яўрэй мусіць умець тры рэчы: ідэальна сядзець, бязгучна крычаць і нерухома танчыць. Кліенты прыходзяць з рынку і кідаюць яму нагавіцы. Рускія, палякі, татары – з вёскі на іншым беразе.

Калі яны чуюць пра пагромы, што разгараюцца ў царскай імперыі і імкліва ахопліваюць мястэчкі, яны ведаюць: дастаткова адной іскры – і пуховыя пярыны будуць распоратыя і абшуканыя, шуфляды вывернутыя, глоткі перарэзаныя... Яны бачаць кроў, што пырскае з пер'я. Яны ўздрыгваюць пры згадванні Кішынёва, Гомеля, Жытоміра, Бярдзічава, Мікалаева, Адэсы. Уначы назвы гэтых гарадоў шапочуць у іхніх снах, выклікаючы жудасць. Пасля 1905 года дадаецца ўсё больш і больш гарадоў, пасля крывавай нядзелі гудуць заклікі чорнарубашачнікаў: “Біце жыдоў!”

Шагал памыляецца, калі думае, што яны ўцяклі толькі ад шэрага дыму і брудных ботаў, каб шукаць колераў. Толькі прэч, каб ніякіх големаў, ніякіх духаў мёртвых, што шукаюць жывога цела, каб пасяліцца ў ім і ягоным голасе, ніякіх дыбукаў з вусцішных гісторый дзяцінства; заста-

нуцца толькі некалькі песняў, але адно як доказ, што тое ўжо далёка, як здзеклівы напамін, што той свет даўно знік. Аднак зноў і зноў ён малюе дзяцей, тупую нястачу дзяцінства, калі ўсё ёсць ні чым іншым, а толькі змрочным абяцаннем, якое ніколі не выконваецца. Старэчыя твары, грубыя вялізныя рукі, што ўчапіліся ў вывіхнутыя цацкі на нізкіх крэселках.

Ніхто не ведае шляху. І ніхто яго ніколі не даведаецца. Ніхто не можа ведаць, кім ёсць гэты чалавек у катафалку. Ёсць толькі карціны, тыя, што ён не парэзаў і не ператварыў у попел. Ніхто яго не ведае. Ніхто не можа прымусіць яго гаварыць, тым больш – гаварыць пра дзяцінства. Няхай гавораць карціны, калі ім заўгодна. Ніхто яго не ведае. Ёсць толькі адзіная згадка пра дзяцінства.

Аднойчы я бачыў... як пляменнік рэбе... перарэзаў горла гусі... і пусціў кроў... я хацеў крычаць... але яго радасны твар... прымусіў мяне замаўчаць... гэты крык... яшчэ і цяпер адчуваю яго тут... калі я быў хлопчыкам... я намаляваў партрэт свайго настаўніка... я спрабаваў... вызваліцца ад гэтага крыку... але марна... калі я маляваў бычыную тушу... гэта ўсё яшчэ быў той самы крык... ад якога я хацеў вызваліцца... але не здолеў да сёння...

Ён думаў, неба павінна пачарнець, у той жа момант, Творца будзе шугаць маланкамі, каб спыніць лязо, што праходзіць скрозь гусіную шыю хуткім, добра спрактыкаваным рухам – скрозь мяса, хрубаст пазванкоў, жылістыя мускулы. Зараз ён адразу ж упадзе на рукі Абрагаму, які ўжо размахнуўся, каб забіць свайго Ісаака. Аднак нічога не здараецца.

Усё гэтак жа ціха тым светлым палуднем у Смілавічах, і рэзнік толькі весела ўсміхаецца, гледзячы на яго. Сляпы жах на дзіцячым твары выклікае ў таго смех. Нібыта Творца смяецца з забітай гусі, смяецца з усіх лёзаў, што праходзяць скрозь плоць, і з цёплай крыві, што пырскае на падлогу, як вадаспад, і, малінавая, змешваецца з часцінкамі пылу. Ён ляціць са двара і хаваецца ў пограбе. Там унізе ён доўга сядзіць са страху перад смехам, перад лязом, перад крывёю, што цяпер сцякае з гусінай шыі на яго і падае дажджом, і паступова запаўняе сутарэнні, як Божы смех.

Раніца дня адкуплення, Ём-Кіпура. Рытуал прабачэння, што вядзецца ад ахвярнага казла, якога людзі прагналі, выпусцілі ў пустэльню, наладаваўшы ўсімі грахамі, учыненымі ў грамадзе. На парозе хаты трэба спусціць курыную кроў, ачышчаючы такім чынам хату ад усяго дрэннага. Над ганкам рэзнік трымае ў выцягнутай руцэ, уніз галавою, белага пеўня. Рэзкі ўзрэз, апошні сутаргавы ўзмах крылаў. Дзеці з шырока расплюшчанымі вачыма стаяць побач. Калі пазней у Ле Бланку ён падвешвае ў цагляным каміне ў чалавечы рост фазана, каб намаляваць яго, – гэта зноў свята прымірэння, якое не хоча, каб яго забылі. Але маляванне не прыносіць палёгкі.

Ён рана пачынае крэсліць, кожны кавалачак паперы – гэта новая спакуса, робіць хуткія замалёўкі, калі застаецца адзін, не зводзячы з дзвярэй баязлівага погляду: ці не ўвойдзе хтосьці, не вырве кавалак у яго з рук і не надае выспяткаў. Ён размалёўвае сцены пограба вугалем. За гэта таксама атрымлівае на арэхі. Старэйшыя браты крычаць яму ў самае вуха, уначы, калі ён ужо спіць:

– Мы не павінны! Ты не разумееш? Няможна гэта рабіць.

І дзяруць яго за вушы, зрываюць з яго коўдру. Засоўваюць яму ў ложак крапіву, каб ён кінуў маляванне. Будзяць яго і даюць аплявухі, нават уначы.

Аднойчы ён скраў нож з Сарынай кухні, прадаў яго на рынку, купіўшы за гэтыя грошы аловак. На два дні яго замыкаюць у пограбе, без хлеба і вады. Два дні без святла. Каб вытруціць з яго фарбы. Ён бяжыць у лес, каб уцячы ад іхніх папрокаў, хаваецца там, пакуль голад не змушае яго вярнуцца дадому. Ізноў збіццё, па ягоным вяртанні, гэты стары рытуал збіцця, спіна і азадак баляць, але нарэшце ён сядзіць за сталом і атрымлівае чорны хлеб, які ён так любіць, і кубак вады, якую высёрбвае сквапна, нібы звер. Адкуль гэты шнар, доктар Гот? Шнар на грудзіне застаўся ад тронка мятлы, якім старэйшы брат пхнуў яго ў грудзіну так, што ён паваліўся на спіну.

Ён часта прагульвае хедэр, бяжыць у лес і бярэ караценькую сасновую галінку, крэсліць ёю па пясчанай глебе, хутка крэсліць твар, перакрэслівае яго, потым – наступны. Ён кладзецца на зямлю, ляжыць так гадзінамі, глядзіць на неба, чорныя верхавіны дрэваў ківаюць злева, і справа, і зверху. У гэтым небе няма ніякага парадку. Калі ты ляжыш на спіне і глядзіш на неба, усё імкнецца ўгару, сілы прыцягнення не існуе, усё цягнецца да вышыняў, і галінкі танчаць ад ветру. Яго вочы таксама накіроўваюцца дагары. Ім цяжка вярнуць свой позірк.

Для братоў гэта як малітва, яны думаюць, што спадабаюцца Творцу, калі будуць яго біць. Не зрабі сабе куміра! Яны хочуць выбіць з яго гэтую прагу. Але ён ужо не можа спыніцца. Бацька бяжыць да рэбе: што мне толькі з ім рабіць, ён хворы, ён не хоча рабіцца шаўцом альбо краўцом, толькі крэсліць і крамзоліць. Ён уцякае ў лес. Ён – вялікі клопат.

Яго аддаюць у навучанне да швагра Саламона, таксама краўца, у Менску. Аднак ён не дэманструе поспехаў. Іголка і ніткі? Усё жыццё пры іголцы і нітках? Не ягонае. Яго пасылаюць да фатографа, хай прынамсі вывучыцца рэтушаванню. Але гэта таксама не ягонае. Фатаграфіі нічога не ведаюць пра ягоную таямніцу. Але там у Менску ёсць пан Кругер, які дае прыватныя ўрокі малявання і абяцае поспех за тры месяцы. Пэўна, гэта 1907 год, ён не памятае больш дакладна. Ягоны сябра Міша Кікоін, што з Гомеля, таксама ўжо тут. Яны хочуць маляваць, маляваць.

Яго першыя грошы – гэта кампенсацыя. І яны ж – ягоны праязны білет. Летам ён вяртаецца з Менска ў мястэчка. Людзі гавораць, што нават у сінагозе ён крамзоліць на нейкіх паперчынах. Ён малюе рэбе падчас малітвы, а сыны рэбе, раз'юшаныя, пагражаюць яму кулакамі. Як толькі ён апынаецца на вуліцы, адзін з іх – мяснік – падклікае хлопца да сябе, вядзе яго ў задні пакой сваёй крамкі. Раптам адной рукой ён хапае яго за патыліцу, дзярэ яго за шыю, цісне яго, так што той ледзьве не задыхаецца. Збоку прыціскае яго да свайго жывата, другой рукой лупцуючы скуранай папругай па спіне, па нагах, па азадку, чырвоны твар моцна заціснуты пад рукой. Ён бачыць запэцканы крывёю фартух мясніка і жывёлаў, што вісяць на круках і з якіх крапае кроў, і яму здаецца, ён адзін з іх. Няўжо раз'ятраны мяснік заб'е і яго? Ён хоча крычаць і не можа:

Я не хачу захлынуцца ў сваёй уласнай крыві!

Яшчэ і цяпер, у катафалку, ён адчувае гэты ўдушлівы абруч вакол сваёй шыі. Потым раптам рука адпускае яго, ён спаўзае на падлогу. Удае мёртвага. Ён яшчэ навучыцца быць жывым трупам. Мяснік падхоплівае

яго грубым рухам і выкідае ў пыльны двор. Яго знаходзяць браты, нясуць яго дадому, як мех. Потым на працягу колькіх дзён ён будзе выплёўваць чырвоны сок, сінякоў не злічыць. Гэтым разам яны зайшлі занадта далёка. Яго маці горка скардзіцца ва ўправе: о, у Сары раптам з’явіўся голас! Яны адсылаюць жанчыну: высокі цар не мае да гэтага ніякай справы, нейкая банальная гісторыя паміж жыдамі, няхай вырашае пра гэтае здарэнне вызначаны імі самімі суд.

Дваццаць пяць рублёў кампенсацыі, разумееце? І выплата тут жа ў рукі.

З гэтымі грашыма ён яшчэ да світання пакідае Смілавічы, якія больш ніколі не ўбачыць. Час прыйшоў. Кіко і ён едуць у Вільню, Менск таксама ўжо не выйсце. Ім па шаснаццаць, і яны не жадаюць нічога іншага. Іх не зможа спыніць забарона на стварэнне выяваў, але пачуццё першабытнай правіны застанецца назаўсёды. Яны ведаюць, што чыняць беззаконне. Гэта вызваленне, але не ад сораму. Сорам ён прывязе з сабой у Парыж.

Яны набліжаюцца да сусветнай сталіцы малявання з кожным маленькім крокам, зробленым у 1910 годзе па завулках Вільні да акадэміі ва Універсітэцкай вуліцы. Тры гады. Там яны сустракаюцца з трэцім у іх кампаніі. Яго завуць Пінхус Крэмень, ён з Жалудка і ў яго ўвесь час сумны твар. Яны ганарацца сваёй студэнцкай формай, што надае ім ужо цяпер неверагоднай важнасці. Кульгавая гаспадыня кватэры, удава чыгуначніка, бярэ па дзесяць капеек за ложак у пакоі на шэсць студэнтаў. Заняткі ў прафесара Рыбакова страшэнна занудныя, яны толькі зводзяць з сапраўднага шляху, але хлопцы вучацца навыперадкі дзеля горада, які прыме трох мастакоў з раскрытымі абдымкамі. Парыж ужо чакае, яны ведаюць. Парыжу не церпіцца нарэшце ўбачыць іх. Яны малююць усё, што бачаць навокал: сабачыя парэшткі, занядбаныя падворкі, пахаванні, зморшчаныя дрыжачыя твары і жарсныя рукі старых шынкарак.

“Прыкінься мерцвяком”, – кажа ён Кіко, які ўкладаецца на падлогу. Ён накрывае яго прасцінай і ставіць вакол свечкі. “Зрабі выгляд, нібыта ты мёртвы”. Але смерць яшчэ не дае сябе намаляваць, яшчэ занадта рана. Добра пачаць практыкавацца загадзя. Смерць ты не можаш намаляваць. Яна не падпускае цябе, разумееш. Паспрабуй пазней, на зайцах, фазанах, індычках. Паспрабуй намаляваць іх смерць, тады ты знойдзеш да яе дарогу.

Уначы яны выслізгваюць навонкі і адкрываюць для сябе асветлены бледным газавым святлом горад. Вадкае начное малако на вуліцах Вільні. Нягледзячы на ўсе брудныя завуголлі, глыбокія лужыны, няроўныя вуліцы, муры, што пахнуць салетрай – прадчуванне адзінага горада, які іх чакае. Яны адкладаюць кожную капейчыну на вялікую паездку. Яны бясконца рэтушуюць фотаздымкі ў нейкага фатографа. Крэмень першы, хто выбіраецца ў дарогу: ідзе 1912 год, яны зайздросцяць яму і абяцаюць хутка далучыцца. Кіко адпраўляецца за ім праз некалькі месяцаў. Суцін гэтым разам не перадапошні.

Яму здаецца, што катафалк прыўзняўся і цяпер ляціць над Вільняй, Літоўскім Ерусалімам, і ён бачыць скрозь празрыстае дно Набярэжную, Арсенальную, Антокальскую. Ён бачыць нізка пад сабою гару Гедыміна і замак Жыгімонта, Касцёл Св. Ганны, Пятра і Паўла, і Вострую Браму, галава ў яго не йдзе кругам, але ён дзівіцца, наколькі добра яму ўсё гэта бачна. Скульптура Маісея ў касцёле Св. Станіслава, куды яны часта

пракрадаліся, каб моўчкі пастаяць перад ёй. І ён бачыць трох маленькіх-маленькіх студэнтаў-мастакоў, што ідуць завулкамі: Кіко, Крэм і Хаім. Ах, суток Вілейкі і Вяллі, літоўскай Нярыс!

І вось урэшце незабыўны момант, калі доктар Рафелкес, у якога бедныя студэнты вячэраюць пятнічнымі вечарамі, дае яму ў рукі грошы на дарогу. Доктарава дачушка зрабіла выбар на карысць кагосьці лепшага, яна больш не адказвае на ягоныя сарамлівыя позіркі. Ад сквапнага ядуна, які не мае манераў і заўжды прыгнечана маўчыць за сталом, трэба элегантна пазбавіцца. Ягоны расійскі пашпарт выдадзены ў Вільні 20 сакавіка 1913 года паводле юліянскага календара. Пазней ён зноў і зноў будзе гладзіць яго, як хітрую чорную котку.

– Ма-Бе, куды мы едзем? У Хімберштат? Падэрборн? У Смілавічы? Давай развернемся назад. Толькі не туды.

Ён варушыць сваім запясцем, махае рукой у пустой прасторы.

Лепей вернемся ў Шынон, да Ланграс, вярнуцца хоць куды, толькі б не туды. Не ў месца нараджэння. Туды не вядзе ніводзін шлях. Нас там больш няма, нават ва ўспамінах. Ніхто там нікога не чакае.

## Вулей у цэнтры свету

Як добра яму ўсё бачна. Ён усё яшчэ ляціць, бачыць нізка пад сабой твар, прыціснуты да акна цягніка. Гэта яго твар. Ён бачыць вочы, якія сквапна ўсмоктваюць незнаёмыя ландшафты, аблямаваныя дымам лакаматыва. Яму ізноў дваццаць. Ён урэшце пакінуў Вільню вясною 1913 года. Ён адкручвае назад сваё саракадзевяцігадовае жыццё: два дні і дзве ночы ў дарозе, утаропленае ўглядванне ў ліхтары, што прытанцоўваюць звонку. Ніколі не бачаная мясцовасць. Паліцы цвёрдыя, ёлка пахне потам і рэзка – з прыбіральні побач, але яго акрыляе дрыготкае прадчуванне, што ўсё пачнецца нанова, што падарожжа нарэшце вядзе туды, дзе яго прымуць найвялікшыя цуды.

Ён галодны, як ніколі раней. Тыя некалькі скарынак хлеба правіянту, селядзец у газетнай паперы ды салёныя гуркі хутка праглынутыя. У руцэ ён сціскае ліст Крэма, перачытвае яго зноў і зноў.

Мы жывем тут вельмі сціпла, але многія гавораць па-руску, па-польску ці на ідыш, ты не будзеш адчуваць сябе разгубленым. Тут няма казакоў, яны пакінуць нас у спакоі. Мы будзем маляваць! Цудоўны Неахайны палац, дзе мы жывем, завецца La Ruche.

Ён ізноў прыбывае ў Парыж, яму зноў дваццаць. У вуллі сваіх успамінаў ён караскаецца наверх да свайго прыбыцця ў сусветую сталіцу мастацтва. Коўна, Берлін, Брусэль, паспешлівыя перасадкі, быццам у паўсне, толькі б дабрацца да мэты. Прыбыўшы на Паўночны вакзал, ён вывальваецца з цягніка, быццам вылупляецца з дзвюх паловаў яечнай шалупінкі. Вакол яго новы свет, што балбоча новымі словамі і завецца Парыжам. Ён тут жа выпраўляецца ў дарогу, звяртаецца да мінакоў і мармыча “Ля Рус”, паказвае ліст Крэма, яго адпраўляюць пад зямлю. Там бясконцыя калідоры прапахлага кіслым лабірынта, і ён вырашае зноў падняцца да дзённага святла і прайсці дарогу пешшу.

Падслепаваты ад стомы, ён бяжыць па вуліцах, мармыча Ля Рус, ізноў Ля Рус. Шалёная пчала, якая хоча трапіць у вулей. Выпадкова ён сустракае мастака, які адразу ж разумее.

– Ля Рус? Якую рускую ты шукаеш? Ты, пэўна, маеш на ўвазе Ля Руш?

Ён паказвае на далоні Хаіма, куды яму ісці: "на поўнач – не, не ў Бато-Лавуар, там уладкаваўся Пікаса" – і ён перакрэслівае поўнач. Лінія жыцця яго далоні – гэта Сена, яна дзеліць горад напалову, дык табе ўвесь час на поўдзень. Ён разумее толькі "Манпарнас і Важырар, там спытаешся далей". Ён не дзівіцца, што натыкаецца на мастака, ён думае, што тут усе мастакі: я цяпер у мастацкім парадызе, на брудных вуліцах з пахам мачы, поўных конскіх камякоў. Ён гадзінамі блукае па вуліцах, і ў дзве гадзіны ночы прыходзіць да жалезнай кратаванай брамы.

У ягоным уяўленні Кіко і Крэм ужо цэлую вечнасць знаходзяцца ў горадзе, хаця развіталіся ў Вільні яны толькі некалькі месяцаў таму. У іх вялізная перавага. Таго, хто на дзень раней прыбыў у рай, цяжэй выгнаць адтуль.

Крэм і Кіко радуюцца, Вільня далёка, яны ў канчатковым пункце свайго маршрута. Ён ледзьве трымаецца на нагах, яшчэ пасярод ночы яго запрашаюць да стала, дзе пяць ці шэсць таварышаў ужо занялі месцы і аглядаюць прыбыша. Толькі сеўшы, ён накідваецца на місу з варанай бульбай, вылізвае яе да бляску і просіць кавалачак хлеба. Іншыя не мелі часу пачаставацца і сумна глядзяць адзін на аднаго.

– Гэта ўсё рабакі, – мармыча новенькі.

Ён ніколі не бывае сыты. Яны яшчэ ні разу не бачылі такога голаду. У гэтым горадзе ён будзе маляваць прыёмы ежы, з хлебам і селядцом, ён будзе прасіць іх насыціць яго. Нарэшце наесціся, наесціся аднойчы, наесціся назаўсёды. Пачуццё голаду будзе выяўлена на выпрашаным палатне. Тонкія рыбы, зялёная цыбуля, зморшчаныя яблыкі, міска супу і памяты арцішок, які ён падняў пад яткай на рынку. Яны яшчэ ні разу не бачылі такога голаду.

Дзе цяпер гэтае палатно, на якім старым заплямленым матрацы са спружынамі, што тырчаць у розныя бакі? Ці беднякі квартала Важырар перакулілі яго на ходнік, а вашывыя мастакі занеслі ў Вулей? Альбо ён ляжыць на дошцы, якую кладуць увечары ў майстэрні Кіко паміж двух крэслаў? На насілках, запхнуты ў катафалк? Яму ўсё адно, яму толькі дваццаць. Ён аддаляецца на іншую планету, якая завецца Парыж. Яго чакаюць на аперацыю.

Вулей – гэта спецыфічны свет, ён разумее гэта хутка, калі Крэм распавядае яму сваю гісторыю. Яна гучыць як казка. Добры скульптар Альфрэд Бушэ з'яўляецца з аблачынкі ў карэце, падоранай яму румынскай каралевай у якасці падзякі за шыкоўны бюст, злеплены ім з яе вялікасці. Бушэ чуў пра мастацкія кватэры і супольныя майстэрні ў Парыжы, і ягоныя мары ведаюць, чаго ён хоча. Шукае пляцоўку ў брудных лужынах мясцовасці Важырар. Пустка з пустазелля, хлуду і камення. Нікому гэта барахло не патрэбнае, дзялка танная. Акурат уганараваны вялікім прызам Сусветнай выставы 1900 года, ён скупляе, як толькі яе разабралі, павыкіданыя рэшты павільёнаў, бэлькі, дошкі, жалеззе, аконныя рамы. З гэтых рэштак свету, з жаночага павільёна, са збудаванняў Перу і брытанскай Індыі ён будуе свой сціплы мастацкі парадыз, які называе la Ruche – "Вулей". Сэрцам пабудовы робіцца павільён вінаў з Бардо, чый металічны каркас сканструяваў Гюстаў Эйфель.

Гэты вар'ят з металічнай вежай?

Менавіта. Усё збудаванне падобнае на вялізны вулей з цэглы, але маленькія майстэрні, накіраваныя да цэнтральнага пад'езда круглага збудавання, атрымалі ў мастакоў назву трунаў.

Суцін слухае Крэма з разяўленым ротам. Праходзіць час, перш чым ён атрымлівае ўласную труну.

Бушэ хоча ўяўляць сабе майстэрні як пеністыя соты ў мастакоўскім вуллі, аб'яднаныя агульнай працай па стварэнні залатога мёду мастацтва. З ягонай кішэні тырчыць кніга, з якой ён больш не развітваецца: Марыс Метэрлінк, "Жыццё пчолаў". Арэндная плата такая мізэрная, што яе лічы няма. Закуткі без вады і газу, сярод пахаў мачы і шкіпінару, гнілога дрэва і ванітаў – гэта і ёсць яго ідэальны горад. У Вуллі брудна, калідоры заваленыя кучамі смецця. Толькі святло свечак і газавыя агеньчыкі. Часам з блізкіх бойняў тхне распоратай плоццю і смерцю. Салодкі махрысты смяротны водар.

Гэты рай заўжды будзе сціплым, ведаеце. Ён знаходзіцца побач з бойняй. Суцін начуе то ў аднаго, то ў другога.

Праз месяц пасля з'яўлення Суціна ў дзіўным Вуллі Бушэ, у ліпені 1913 года, Кіко ўлятае ў студыю задыханы, пасля апоўначы. Ён узмахвае правай рукой, як дырыжор, і абвяшчае:

– Хаім, апранайся хутчэй, мы ідзем у Оперу!

– У Оперу? Ты, пэўна, напіўся.

Гэта вечар напярэдадні 14 ліпеня, французскага нацыянальнага свята. Кіко даведаўся ад кагосьці на вуліцы, што ў гэты святочны дзень будзе бясплатнае прадстаўленне "Гамлета". Спяваны Гамлет, опера Гамлет. Ён памятае, як яны хваляваліся. Яны былі нібыта ачмураныя. Яны не пытаюцца, яны ляцяць туды, ён нават не скідае свайго запэцканага фарбай балахону. У чатыры гадзіны раніцы яны займаюць чаргу па білеты, дурэюць на тратуары, выпрошваюць цыгарэты, нехта дае ім зрабіць па глыточку з пляшкі чырвонага віна. Яны не адчуваюць стомы, як быццам бы само чаканне – таксама асалода. Чарга на тратуары здаецца бясконцай, ні за што ўсе яны не змесцяцца ў Оперу.

Кіко гаворыць гэтае магічнае слова. Крэмень хоча забыць саму мову дзяцінства, ставіць два французскія націскі над сваім прозвішчам і хоча, каб яго называлі адгэтуль толькі Krémègne. Раптам яны апынаюцца на шырокай уваходнай лесвіцы з вялізнымі ліхтарамі злева і справа, усхвалявана адчуваюць кожную прыступку, што набліжае іх да касы, поўныя страху, што двайное акенца могуць зачыніць: "Усе білеты ўжо раздадзены, прыходзьце ў наступным годзе!" Але ж не, яны атрымліваюць білеты, трымаюць іх у руках, як каштоўны скарб, і ў памяці вялікі спектакль змешваецца з ноччу напярэдадні.

Цяпер у катафалку ён згадвае толькі тое сляпое ўзбуджэнне, зялёны і ружовы мармур, чырвоны аксаміт, велічэзныя жырандолі. Яны спрабавалі разабраць на дошцы гісторыю, шчасце абсалютна невядомага трыццаціпяцігадовага архітэктара Гарнье, які перамог усіх канкурэнтаў, яны разбіраюць імя Напалеон III, чытаюць Second Empire і незразумелыя ім рэчы. Яны захапляюцца аркадамі, і статуямі звонку на храме, і іх танцам.

Як быццам бы ён збудаваў Оперу толькі для нас, найвялікшы тэатр свету, тысяча паверхаў, новая Вавілонская вежа, і раптам мы ў самым яе цэнтры.

Калі яны трапляюць усярэдзіну, іх асляпляе жырандоля вагою, пэўна, у тоны, яна вісіць над імі, як тысячы зор, пакуль нарэшце не патухае. Гамлета яны глядзяць у паўпрытомнасці, забываючыся дыхаць. Калі спектакль сканчаецца, яны марудна ідуць у гэтай дрыготкай людской плыні, сядаюць на тратуар каля вялізнай лесвіцы, прыбітыя ад радасці і ўзбуджэння. Яны не могуць яшчэ некалькі хвілінаў вымавіць ні слова. Нібыта Парыж вітае іх гэтым Гамлетам, у якім яны не разумеюць ні паўслова. Быццам бы горад паціснуў ім руку і сказаў: рады вітаць вас. І гэта Хаім сказаў Кіко:

– Калі мы ў гэтым горадзе нічога не дасягнем, значыць, мы сапраўдныя нездары, разумееш. Ні да чога.

А Кіко раптам сур’ёзна:

– Рэспубліка запрасіла нас на “Гамлета”, Хаім. Ты зразумеў? Тут няма казакоў. Няма барбарскага мярзоцця. Некалі пагромы знікнуць з нашых сноў. Але гэты вечар назаўжды застанецца з намі. У гэтым горадзе ніколі не будзе пагромаў, разумееш...

І ён уздрыгвае ў катафалку, калі чуе гэтае прароцтва. Яны гавораць пра Менск і Вільню, смяюцца, такім далёкім здаецца ім той свет, ад якога яны канчаткова ўцяклі, яны ведаюць, што вяртання не зможа быць ніколі. Нават чырвонацагляная Вільня цяпер на другой планеце. І ўсё тамтэйшае здаецца ім аблезлым у параўнанні з гэтым Гамлетам. Засталіся толькі абрыўкі песень:

Sol sajn, as ich boj in der luft majne schlesser.
Sol sajn, as main got is in ganzen nischt do.
In trojm wet mir lajchter, in trojm wet mir besser,
In trojm is der himl mir blojer wi blo.

Кіко, гэты лёсік, будзе мець з Розаю дваіх дзяцей, маляваць каляровыя пейзажы, шыкоўныя нацюрморты, бліскучыя кветкі і жанчынаў, гімны радасці і святлу. Ён будзе гадамі насіць два вычварэнскія боты рознага колеру – адзін чырвоны, другі жоўты – адшуканыя ім на блышыным рынку. Роза будзе падбіраць і карміць рускіх дзівакоў: нігілістаў, анархістаў, змоўшчыкаў; яны будуць перадаваць ёй блытаныя трактаты, а французская паліцыя – ажыццяўляць нагляд за майстэрняй Кіко. Ды ў Вуллі таксама будуць шпегі, што не будуць зводзіць вачэй з гэтых усходнееўрапейскіх прыхадняў. Аднак у ягоную справу ўносяць памяркоўную фармулёўку: бальшавік, небяспекі не ўяўляе.

А Суцін не стане ні тым, ні іншым: ані сямейны бальшавік, ані амбасадар радасці, хіба што – сораму за тое, што нарадзіўся, і ён ніколі не пазбавіцца цэтліка невыпраўляльна няшчаснага мастака. Але справа не ў шчасці ці няшчасці. Справа ў колеры ці адсутнасці колеру. У белым з блакітнымі і чырвонымі пражылкамі. У зялёнай а-ля Веранэзэ, бірузовай, барвовай і фарбе колеру крыві. Справа ў смерці фарбы, якая не можа памерці, ва ўваскрашэнні фарбы. Справа ў фарбе – занадта тлуста нанесенай, скамячанай хвалямі, нацягнутай, ашчэранай, вымучанай, трыумфальнай фарбе.

Колер не прымірaецца з рэчаіснасцю, не, калі вы думаеце, што чорнае і белае – гэта грубая рэчаіснасць, а фарба – гэта рай – не, усё па-іншаму. Непрымірымая фарба не падпарадкоўваецца ніякаму закону, яна сама

пратэст і паўстанне матэрыі і цела. Рай будзе белым, там не будзе колераў. Але якім коштам.

Яны прыбылі, Гамлет правёў іх на іхнія месцы, і яны былі гатовыя заслугоўваць сваё знаходжанне ў цэнтры свету, быць вартымі гэтага горада. Хаця ён касавурыцца на прыхадняў на вуліцы і ў паліцэйскім участку, дзе Хаім мусіць, блытаючыся ў сваёй сціплай французскай, зарэгістравацца і падаць прашэнне аб знаходжанні. І ў надзьмутых гандлярак на Пляс дэ ля Канвенсьён. Яны боўтаюцца там, нецярпліва падпільноўваючы закрыццё рынку, каб сабраць адкіды гародніны.

“Рукі прэч, гэта для маіх трусікаў! Папрыпіраліся тут!”

Рваныя капусныя лісты, мёрзлыя бульбіны, вялыя сцяблінкі зяленіва, з якіх яны вараць суп у Вуллі ў вялізным чыгунным казане на векі вечныя. Часам хтосьці з іх ходзіць да бойні, адкуль уначы даносіцца рык, выпрошвае касціну са шпікам, якую яны пускаюць у суп, альбо скрутак загадкава зблытаных вантробаў. За два су можна набыць бляшанкі булёна; той, хто мае такую бляшанку і крыху цярпення да закрыцця рынку, той зможа пратрымацца некалькі дзён. Шагал вучыць іх, як дзяліць селядзец: галава на першы дзень, хвост на наступны, са скарынкаю хлеба і кубкам чаю.

Унутры Вулея іх называюць рускай калоніяй. Архіпенка, Ліпшыц, Цадкін, Шагал, Дабрынскі, Кікоін, Крэмень, Суцін. Па сігналу “Дзінэ рус” яны збіраюцца на пір. Часам запрашаюць на яго і французаў, хоць бы сабе і кубістаў:

– Лежэ, хадзі пакаштуй рррускай кухні!

Што гэта было за падазронае жорсткае жылістае мяса, што варылася гадзінамі з моцнай самагонкай? Кацінае мяса, маленькімі кавалачкамі, кацінае фрыкасэ. Чароўнае кацінае мяса. Яно смярдзела, у горле свярбела. Ніводная котка не была ў бяспецы ад іх, яны зжэрлі ўвесь квартал Манпарнас аж да ягонай паўднёвай перыферыі. А пацукі і мышы добра адчувалі сябе ў Вуллі і толькі радаваліся гэтым “рускім вячэрам”. Нельга было чапаць толькі адну котку. На ўваходзе ў Вулей жыве мадам Сеганд, таўстая падслепаватая кансьержка, дабрачка, якая выдае місу супу, калі прыбыш выглядае згаладалым. Яе муж збівае з пыльных дошак катухі, з якіх на пустым Важырары паўстаюць новыя студыі. Яе пярэстая котка будзе жыць вечна.

Уначы яны з Кіко за некалькі су працуюць грузчыкамі на вакзале Манпарнас. Яны разгружаюць цэлыя склады морапрадуктаў з Брэтані. Яны так смярдзяць рыбай, што котка мадам Сегондэ закахана трэцца аб іх ногі, калі раніцай, вымерханыя, яны вяртаюцца ў Вулей. Яны малююць шыльды для аўтамабільнай выставы, стаяць каля пражэрлівага канвеера на заводзе Рэно ў Біланкуры.

Але раптам свет расколваецца. Агульная мабілізацыя. Белыя аркушыкі, што спадаюць на Манпарнас. Суцін атрымлівае свой дазвол на пражыванне 4 жніўня 1914 года, у дзень абвяшчэння вайны. Яны запісваюцца дабраахвотнікамі капаць акопы, бо хочуць зрабіць нешта для Францыі, якая прыняла іх. Але з-за слабасці іх адпраўляюць дадому.

Ніхто іх карціны не купляе, гадамі нічога не змяняецца. Яны – гэта прыгаршча непрыкаяных рускіх, палякаў, жыдоў, што ўцяклі ад пагромаў,

апантаныя мастацтвам насуперак уласнаму закону, уратаваныя ад бадзяжніцтва толькі блажэнным Бушэ. Цяпер, падчас вайны, людзі яшчэ больш падазрона касавурацца на іх, што праседжваюць час у танных кавярнях. Нашыя – то на фронце, кажуць сабе людзі. А гэтая навалач распівае тут каву з вяршкамі.

Людзі плююць перад іх карцінамі. Анёльскі Бушэ думаў, тут паўстане новая Акадэмія, але яны не хочуць рабіцца ідэальнымі ідыётамі і салоннымі пісакамі. І Бушэ дае ім свабоду дзеяння, рэкламуе іх, калі іншыя хаюць іх карціны як брыдкае агіднае пэцканне. Яны хочуць толькі аднаго: выжыць, вытрываць голад і Вулей, выстаяць. Некалі сцяжынка выведзе іх з гэтага бруду: калі хтосьці з іх узаб'ецца на Сітэ Фальгьер, першы этап пераадолены. Хто здолее, той пакідае ідэальны Вулей, рукі ў ногі – і пакідае шчаснага Бушэ. Ах, вошы, хто ж вас толькі стварыў?

А вось і Індэнбаўм, якога ўсе называюць добрым самарыцянінам. Яшчэ і цяпер, у катафалку, Суцін бачыць яго поўны папрокаў твар і чуе яго скаргу: «Я таксама хацеў дапамагчы Суціну, але ён быў невыносны. Кожнага разу, як я купляў у яго карціну, ён з якой-небудзь нагоды хацеў яе ў мяне пазычыць і перапрадаваў яшчэ каму-небудзь. Сем разоў ён вырабляў са мной гэты нумар, і я дазваляў абвесці сябе вакол пальца. Аднойчы пасля абеду у Ратондзе ён хацеў – хоць нарадзі, а падай – трыццаць франкаў. Для мяне тады гэта была вялікая сума грошай. Я сышоў ад яго, але ён бег за мной да Вулля, паўтараў, як глухую літанію:

«Дай мне трыццаць франкаў, дай мне трыццаць франкаў, дай мне трыццаць франкаў, так, так, так!!!!»

Дайшоўшы да Пляс дэ ла Канвенсьён, я купіў два селядцы і сказаў яму: зараз ты намалюеш нацюрморт. Ён пайшоў у сваю майстэрню і праз дзве гадзіны прынёс мне маленькую карціну: тры рыбіны і відэлец на талерцы. Трэці селядзец ён не выдумаў, а перагрупаваў па-іншаму другога. Я даў яму трыццаць франкаў і прымацаваў карціну кнопкамі да сцяны. Праз тры дні ён папрасіў мяне пазычыць яму карціну. Я каторы раз згадзіўся. Але пасля знайшоў яе ў аднаго рускага эмігранта-фатографа. Гэты махляр не ўстаўляў у свой апарат пласціну, і кліенты, што плацілі наперад, ніколі не атрымлівалі свой партрэт. Дэлеўскі хаваў за спінаю маленькае палатно.

– Хочаш атрымаць яго?

– Яно і так належыць мне.

Я пазнаю суцінаўскіх селядцоў.

– Ён толькі што мне яго прадаў, хацеў атрымаць пяць, але я даў яму толькі тры франкі!

У гэты момант я паабяцаў сабе ніколі больш не купляць карціны Суціна».

Індэнбаўм сыходзіць, хітаючы галавой. Аднак яны, гэтыя галасы, не сціхаюць, яны пранікаюць у яго, шапочуць, крычаць яму ў вушы. Прыглушыць гэта можа толькі гаючасць макавага соку Зэртурнера. Ён яшчэ мацней уцягвае галаву ў плечы, каб не чуць абураныя галасы.

"Руская дзеравеншчына з пляскатым тварам! Толькі нос, мясісты кубік з раздзьмутымі крыламі, выдзяляецца на твары. Яго вусны як трубы! Пена ў куточках рота. Калі ён раптам усміхнецца, ён паказвае свае агідныя зеленаватыя зубы. Смаркач! Нямыты бескультурны цяльпук. Нязграбная

хадзячая палітра, увесь час запэцканая фарбамі. Які невыразны ў яго голас! Ён глядзіць заўжды нібыта скрозь паветра, як робяць гэта сабакі. Сёрбае ваду з пляшкі з прычмокваннем. Есць рукамі, раздзірае кавалкі плоці, шчэрачы зубы!"

Ён хоча заціснуць вушы, але не можа паварушыць рукамі. Чые б ні былі гэтыя галасы, што абурана шапочуць і раз'юшана крычаць у чорным "сітраэне", яны сварацца на яго, абрынаюць на яго папрокі:

«Няварты сябра. Сама нявернасць. Руйнавальнік уласных карцін. Адшчапенец. Парушальнік забароны на маляванне! Маўклівы блазнавальнік Божага закону!» Так, яшчэ і гэта. Чужы сярод сваіх і сярод чужых. Спалоханы, падазроны выраз твару, замучаныя, цёмныя, запаленыя вочы. Увесь час баіцца быць заспетым, што ён яшчэ жыве. Падазроны да сябе і да ўласных карцін, якія яго выдаюць. Зняволены ў вязніцы цела, які б'ецца аб сцены і вызваліцца толькі падчас позняга палёту над манпарнаскімі могілкамі.

Ніхто не ведае дарогу. Ніхто яе ніколі не даведаецца. Ніхто не можа ведаць, кім ёсць чалавек у катафалку. Ёсць толькі карціны, і толькі тыя, што ён не парэзаў і не ператварыў у попел. Ніхто не ведае яго. Ненажэрнага, што не пакідае іншым ні крошкі. Цельпука з далікатнымі белымі пальцамі, кончыкамі якіх ён мякка дакранаецца да куточкаў вуснаў. Вечна няўдзячнага, які прыводзіць у адчай усіх сяброў. Які пакідае ўсё ў безнайдзейным беспарадку і не з'яўляецца больш ніколі.

Ніхто не разумее яго, ніхто. Скат, што ўмее хадзіць, збітае з панталыку храстковае стварэнне, мёртвы фазан, бычыная туша!

Ёсць толькі жахлівая аднаразовасць жыцця. Але разнастайныя галасы, што скрыжоўваюцца ў гэтым Вуллі; сорам мараў, успаміны, да якіх не жадаеш вяртацца. Чытайце гэта, дарагія сыны! Жыццё адзінкавае. Палова прыдумана, іншая – дадумана. Панічны страх, што цябе не стане, што ты раптам знікнеш. Калі ён будзе весці размовы з доктарам Готам? Калі доктар Ліворна зможа прадэкламаваць яму ўсю кнігу прарока Ёва? Куды яна трапіла, двойчы прададзеная ікона голаду?

Ён ужо ўцёк з Вулею, ужо ў Сітэ Фальгьер, у майстэрні з абадранымі шпалерамі. Гнеў да сценаў, ён хоча іх успароць, нешта ж павінна за імі хавацца, нейкая апошняя таямніца жывапісу, абсалютная карціна, якую немагчыма разбурыць нават нажом.

Нейкая наведвальніца палохаецца, калі ён называе сябе забойцам уласных карцін.

«Усё, што вы тут бачыце, не варта нічога, гэта ўсё лайно, аднак тым не менш гэта лепш за карціны Мадзільяні, Шагала і Крэменя. У адзін цудоўны дзень я заб'ю свае карціны, а яны занадта баязлівыя, каб зрабіць тое ж самае».

Усё гудзе ў вуха жывому трупу мастака ў "сітраэне", што павольна коціцца ў Парыж:

«Здраднік! Зганіў свае ўласныя карціны!»

Рэбе і Збо, расчараваныя сябры – усе папракаюць яго. Яны яшчэ ніколі не бачылі такога голаду. І Суцін, раз'ятраны, уцякае з Вулею.

## Змова малых кандытараў

Мастак заўважыў у гэтым футарале з прасцінаў з белага святла, што гукі ў калідоры з'яўляюцца і знікаюць. У ягоным пакоі няма ні дня, ні ночы, няма акна навонкі. Але ягонае вуха адзначае прылівы і адлівы гукаў, адзначае іх з нейкай бессэнсоўнай удзячнасцю, і змена гэтых частак содняў надае ягоным дням, калі можна назваць іх днямі, нейкі рытм.

Ён вылечыўся, доктар Гот пацвердзіў гэта яму асабіста. Ён знаходзіцца ў стане бязмежнай свабоды ад болю. Ягоная язва страўніка знікла. Шчасцем гэты стан не назавеш. Але пульс жыцця ў ім знік, а без болю ён больш не той, кім быў. Ён цяпер мастак мінус боль. Сэрца без пульсу. Ён узгадвае дзве страфы нейкага паэта, але не можа ўзгадаць, чые.

Калі навокал няма больш нічога з таго, што было раней, дык усё адно – забяруць цябе, узяўшы ў акружэнне ці ўдарам маланкі.

І з'яўляецца пачуццё, якое ён не можа назваць сумам альбо стомленасцю, бо гэта нешта зусім іншае. Не тое, каб яму не хапала болю, і ён зусім не лічыць, што боль для яго нешта каштоўнае. Аднак яму не хапае шчаслівасці. У белым парадызе свабоды ад болю больш няма чаго рабіць. Усё выканана, аперацыя адбылася альбо не адбылася, ва ўсякім разе ён цяпер – шыкоўны вынік канчатковага выцалення. Ён не разумее, што значыць “эрадыкайцыйная тэрапія”. Ён мармыча сабе пад нос:

– Усё прайшло.

І ён пужаецца гэтага сказу. Калі ўсё прайшло, нешта павінна адбыцца. Мастак вырашае перачакаць, пакуль гукі змоўкнуць зусім, аднак калі яны, нягледзячы на адліў, усё ж не змаўкаюць цалкам, ён асцярожна адкідае белыя, як ледавік, прасціны і абачліва ўстае. Ён чакаў, што ўпадзе, аднак нічога падобнага не адбываецца. Ён не ведае, колькі прайшло часу, не ведае, калі ён апошні раз хадзіў. Ягоны тэмп хады заўжды вызначаў боль, ён уцякаў ад болю, праспешваў сам сябе, каб схавацца ад яго.

Цяпер ён перастаўляе ногі і дзівіцца, як лёгка гэта атрымліваецца, ён амаль не адчувае ног. Ён здзіўлена адыходзіць на два-тры крокі ад ложка, з прамой спінаю і не скручаны, потым рашуча ідзе да дзвярэй і ціха іх адчыняе. Ён высоўвае навонкі галаву, паварочвае яе налева, пасля направа. Гукі ўсё яшчэ тут. Ён неадвольна рыхтуе адгаворку, але ж ва ўсім доўгім калідоры няма нікога, перад кім ён мог бы апраўдвацца. Гукі, што стваралі балбатлівую раку, ідуць ад нябачных людзей. Мусіць, іх перадаюць у калідоры па гучнагаварыльніках, але навошта? Бальнічныя гукі, мірна, без драматызму.

Мастак дзівіцца, але гукі з магнітафона не выводзяць яго са спакою. Ягоная ўраўнаважанасць непарушная. Ён яшчэ раз паварочвае галаву налева, пасля направа і вырушвае налева. Марудна, асцярожна ён ідзе, ён бачыць, як ідзе, але болю, ад якога яму трэба было б уцякаць, больш няма.

Ён даходзіць да канца калідора, не валочачы ног, не шморгаючы, як звычайна робяць хворыя і стомленыя. Насустрач яму нікога, справа і злева толькі белыя дзверы, што лёгка выпінаюцца наперад, як дзверкі лядоўняў. У канцы калідора нарэшце ёсць акно. Ён вызірае з акна, але не наважваецца адчыніць яго. І ў той жа момант ён ведае, што адчыніць яго было б немагчыма. Гэта веданне такой прыроды, што яму не трэба выцягваць руку для праверкі.

Відавочна, звонку ноч, белая ноч. Пражэктары, што дасылаюць зыркае

белае святло, ні на што не скіраваныя, ва ўсякім разе няма нічога, што магло б служыць аб’ектам для святла. Промні святла абыякава скрыжоўваюцца, адыходзяць у бессэнсоўную чарнату задніка – не маціцовага чорнага, а палявога шэрага, так, палявы шэры на закрытым гарызонце.

Толькі штосьці бянтэжыць яго. Ідзе лёгкі і шчыльны снег, белыя сняжынкі блытаюцца ў пражэктарах, але не засцяць іх, яны толькі падаюць у святло пражэктара і далей уніз, дзе ўжо ўтварылася тоўстая коўдра.

Ён некаторы час стаіць каля вакна і назірае за гэтым ціхім снегападам, выдыхае ў шыбу слова “Менск” і спрабуе сачыць вачыма за сняжынкамі. Ён гушкаецца ў іх спакоі, у парыве падобнай да снегу бессэнсоўнай асалоды, зазірае ў пражэктары і ўзгадвае пра фары катафалка, што выправіліся позні́м вечарам у пустэчу краявідаў.

Адкуль ён ад’язджаў раніцай? Ці гэта ўсё яшчэ той самы дзень? Ён хоча ўзгадаць назву нейкай пэўнай мясцовасці, але тая не прыходзіць яму ў галаву. “Шато”, шапоча ён, замак, і яшчэ раз замак. Імя Жана д’Арк прыходзіць яму ў галаву. Пры чым тут гэтае імя? Ён пэўна ведае толькі, што было лета, жнівень, абсалютна дакладна: жнівень.

Ён перастае шукаць імёны, паварочваецца налева і марудна падымаецца па лесвіцы, хада без болю ўжо хутка прыносіць яму лёгкае задавальненне, ціхае здзіўленне. Нават пад’ём па лесвіцы не ставарае няёмкасці. На паверх вышэй ён знаходзіць ізноў калідор, што здаецца бясконцым, але асветлены горш за той, з якога ён выйшаў. Ён ізноў падыходзіць да акна, спрабуе ўдалечыні намацаць позіркам гарызонт, шэраг будынкаў, жылую вежу, хоць нейкую прыкмету, якая б значыла горад. Аднак светлая снежная заслона і конусы пражэктараў засцяць яму прагляд. А гэта ж быў жнівень...

Раптам – трэск за ім у калідоры, але яшчэ наводдаль. Ён уціскваецца на лесвічную пляцоўку, на якой ззяюць яго белыя шкарпэткі без пантофляў. Ён хвілінку стаіць, яшчэ раз чуе шум, што аддаляецца, вяртаецца на ніжні паверх і спрабуе знайсці свой пакой. Толькі цяпер ён высвятляе, што на дзвярах няма лічбаў, і ён крыху занепакоены, бо баіцца, што не зможа знайсці свой пакой. Яго ўнутраны лічыльнік крокаў запомніў прыкладна адлегласць да акна, цяпер ён ідзе ў адваротным кірунку і спыняецца перад пэўным пакоем. Мусіць, гэта тут.

Ён адчыняе дзверы з засяроджанай асцярогай, каб толькі не разбудзіць нейкага пацыента і не прыцягнуць увагу персанала да сваёй недазволенай прагулянкі. У пакоі нічога не чуваць: ні гуку дыхання, ні ціхага стогну, ні храпу хворага пасля прыёму пасляаперацыйных супакойваючых сродкаў. Ён ужо хоча зачыніць дзверы, як яго апаноўвае танюсенькая цікаўнасць.

Ён намацвае ўключальнік, націскае на яго, пужаецца ўспышкі белага святла, але таксама таго, што ён бачыць. Пакой пусты. Ні ложка, ні ўмывальніка, ні ручнікоў, ні прасцінаў. Абсалютная белая пустэча. Нішто ў кубе, з нічога. Яго позірк падае на падлогу. Але там усё ж нешта ляжыць, нешта маленькае ляжыць пасярэдзіне белай, люстэркава-чыстай падлогі. Гэта дзіцячая лялька, і ён тут жа ведае, адкуль яна. Ён глядзіць на яе зверху. І бачыць, што яе плечавыя суставы выкручаныя, абодва. Рукі цалкам скручаныя навонкі. Сцёгны, здаецца, яшчэ ляжаць у сваіх адтулінах, але адно калена вырванае.

Так, суставы, пяшчотныя сувязі нашае прыступнасці.

Адна галёнка адасоблена і ляжыць на паўметра далей. Хто гэта нарабіў лялцы такія раны? Як быццам бы яе катавалі. Каму б гэта займацца такімі

рэчамі ў бальніцы? У цалкам пустым і белым кубе. Ён ціха хоча сысці, яго рука ўжо ляжыць на дзвярной клямцы, і тут лялька расплюшчвае вочы і глядзіць на яго, не просячы, не запытальна, не – толькі строга разглядаючы. А ён заўважае яе старэчы, прарэзаны зморшчынамі твар. Мастак не вытрымлівае позірку лялькі, адварочваецца і мякка зачыняе дзверы.

Ён ідзе назад. Пакой побач з гэтым, пэўна, мусіць быць ягоным, ён націскае на белую дзвярную клямку. Ён памыліўся. Гэты пакой таксама пусты і без вокнаў. На падлозе ляжыць пакамечаная, падраная кніга. Ён наступае на яе і разгортвае на выпадковай старонцы, як быццам бы гэта прадказальнік:

«Няварты дабрыні... няздольны да ўдзячнасці... не ў стане кахаць... прадзіраўлены навылёт да самых нырак... Абадраны пальмавы ствол... кіслае, бы воцат, віно... запэцканая карціна... спаленая сукенка... страчаны крыстал... затанулы карабель... расціснутая пярліна... закінуты ў воды каштоўны камень... завялы корань мандрагоры... Елей на смецце... Малако на прысак... я прыгавораны да смерці... сярод гурта праведных...»

Што гэта было? Тытульнай старонкі няма, яе хутка і гвалтоўна вырвалі. Гэта нагадвае яму нешта, што трубіў аднойчы ў Ратондзе адзін з тых балбатуноў, што круціліся вакол Манпарнасу, як надакучлівыя спадарожнікі. Гучала яно вельмі падобна, сыходзіла ад нейкага армянскага манаха тысячагоддзе таму, гэта звалася кніга плачу ці штосьці падобнае. Аднак ён не можа ўзгадаць ні імя манаха, ні таго балбатуна, памятае толькі скарачэнне, якое ад яго засталося: яны звалі яго МГМ.

Наступны пакой ягоны. Ён знаходзіць сваю акуратна адкінутую коўдру і свае пантофлі, клапатліва падсунутыя пад белы метал ложкавых ножак. На гэты раз прагулянкі дастаткова, ён падае ў свой ложак і амаль у той жа момант засынае.

Колькі ён спаў, ён не ведае. Ён ужо заўважыў, што ў бальніцы няма гадзіннікаў, а сам ён ніколі гадзіннік не насіў. Пры змаганні з палатном прыдалонне павінна быць вольным, каб спружыніць, дрыжаць, падхопліваць і накладаць фарбу. Ён адкідвае прасціну, абмацвае свой жывот. Болю так і няма. Раней ён заўжды вяртаўся, на яго можна было пакласціся, нават калі ён капрызна маўчаў нейкі момант: ён вяртаўся зноў. Цяпер адсутнасць болю амаль гудзе ў ягоным белым жываце.

Ён вырашыў працягнуць прагулкі-выведкі, перачэквае адліву штучных гукаў на калідоры, выходзіць і праслізгвае на вышэйшы паверх. Націскае на клямку дзвярэй, мякка прасоўвае адну нагу і пужаецца. У гэтым пакоі яго чакаюць.

На нізкіх крэселках сядзіць у коле нейкая камісія ці дэлегацыя, такая яго першая думка. Твары, што чакаюць яго, тут жа ловяць яго позіркам і больш не адпускаюць. Гэтым разам ён не можа адступіць, адчувае сябе заспетым, ён мусіць увайсці ў пакой. Тут сядзяць яны ўсе, ён адразу ж іх пазнае.

Яго маленькая купка незаўважаных, служкаў з пакрыўджанай годнасцю, спалоханых сваёй наяўнасцю. Ён маляваў іх, як быццам бы яны фараоны, князі, уганараваныя пашанай. Толькі позіркі напоўненыя сумам, а рукі сплеценыя ў клубкі глыбокай збянтэжанасці. Скораныя, пабітыя жыццём, але ўсё ж з прамою спінай.

Малы кандытар з Чэрэ з непрапарцыйна вялікім правым вухам і чырвоным ручніком, перакінутым праз правую руку, што зззяе, як прапітаны крывёю сцяг. Яго маленькі калега з гарэзлівым выразам і касой лініяй вачэй, Пасыльны з “Максіма”, Грум, кухарчык, вучань мясніка, дзяўчынка-канфірмантка, яна выглядала як маленькая нявеста. Вясковы вар’ят, дзяўчынка-сялянка, хлопчык у блакітным, харыст, чырвоны міністрант, дзеці з тварамі старых, маленькія дзяўчынкі з пакалечанымі лялькамі ў руках, быццам бы яны нясуць пяшчотныя маленькія трупы. Маленькі блазан з вострым носам, Марсэль, школьнік у блакітным пінжаку, што глядзіць абражана, два нагола пастрыжаныя гадаванцы дзіцячага прытулку – як заўжды, трымаюцца за рукі. Падчас сваіх паходаў па калідорах ён ніколі не сустракаў іншых пацыентаў, а раптам увесь пакой шчыльна населены.

Дзяўчынка-канфірмантка дзвюма лапкамі ў пальчатках прыпадымае прыпол сваёй белай сукенкі, што сягае самае падлогі, устае і кажа яму тонкім, але строгім дысканцікам:

– Калі ласка, уваходзь. Мы ведаем, што ты ў бальніцы. Цябе вылечылі, мы і гэта ведаем таксама. І доктар Гот забараніў табе маляваць, мы гэта даведаліся. Падыдзі бліжэй.

Мастак не варушыцца. Дзеці і падлеткі бянтэжаць яго, ён баіцца, што яны бачаць у ім роўнага сабе альбо таго, каго, яму здавалася, ён даўно адкінуў. Дзіця са Смілавічаў. У дзяцей быў гэты строгі пільны позірк, прымушаць іх пазіраваць даўжэй было цяжка, трэба было спяшацца, хутка ўхапіць позірк, скошаныя вочы, самкнутыя рукі, паставу плячэй, няўклюдную і самаўпэўненую адначасова.

Але адкуль яны тут узяліся? Ці яны хворыя, ці ім рабілі аперацыю, даглядалі, выходжвалі? Яны выглядаюць надзіва такімі ж самымі, так добра захаваліся, што гэта збівае з панталыку: яны такія ж самыя, якімі ён маляваў іх тады ў Чэрэ, Сіўры ці Шампані.

Тут сядзіць строгая камісія з сур’ёзнымі поглядамі, якая хоча яму нешта паведаміць. Ці гэта высокі суд? Ці яны абскардзяць яго за тое, што ён імкнуўся ўхапіць іх абражаную годнасць і жыццёвую праўду? Ці ён занадта доўга прымушаў іх пазіраваць, так што ім балелі іх дзіцячыя целы? Ці ён абылгаў іх фарбамі сваёй палітры? Мастак маўчыць і чакае. Час ляціць, яны строга глядзяць на яго, быццам экзаменуюць, а ён нічога не кажа.

І тут падае на падлогу драўляная цацка, прысутныя чуюць гук, але не глядзяць на нежывую ляльку, ніхто не скіроўвае на яе позірк.

– Мы ведаем доктара Гота, – кажа раптам кандытар з вялікім вухам і чырвоным ручніком. Ён перакладае яго ў руках, мне яго і махае ім, быццам хоча прагнаць сваю збянтэжанасць.

– Не слухай яго. Ягоныя запаветы не высечаныя ў скрыжалях. Рабі тое, што мусіш зрабіць, калі не можаш па-іншаму.

Мастак дзівіцца, бо памятае грымоткую пэўнасць у голасе доктара Гота, калі той забараняў яму маляваць у бальніцы. І справа была не ў брудзе, не ў плямах фарбы, не ў запэцканых пэндзлях альбо масляных пацёках на белых дзвярах. Справа была не ў гігіене і чысціні. Ён ніколі больш не павінен дакранацца да палітры. Ані браць у рукі пэндзаль. Палатно – гэта табу.

Тут што, змова супраць доктара Гота? Дзеці хочуць пераканаць мастака Хаіма Суціна не прытрымлівацца забароны на маляванне? У глыбіні душы ён смяецца, ён ніколі не мог сабе такога ўявіць. Аднак яны строга

глядзяць на яго. Потым пасыльны з “Максіма” ўстае, бярэ яго за руку і вядзе да дзвярэй. Маленькі ярка-чырвоны лёкай:

– Табе трэба ісці, нам трэба параіцца. Мы выйдзем на сувязь, калі будзе патрэба.

І гэта ўсё, больш ніякіх папрокаў, ніякага допыту? Толькі гэты нямы выступ перад камісіяй, праверка перад іх вачмі, настойлівае пажаданне не прытрымліваца забароны на маляванне?

Мастак яшчэ раз азіраецца і акідвае позіркам увесь змоўніцкі камітэт альбо дзіцячы суд. Потым ціха зачыняе за сабой дзверы. Але ўсё ж тоненькая падступная цікаўнасць ахоплівае яго. Ён хоча падслухаць пад дзвярыма, каб пачуць, пра што раіцца сход. І ён прыціскае сваё вуха да белых пукатых дзвярэй.

Галасы цяжка адрозніць, адзін пераходзіць у іншы, яны накладаюцца адзін на адзін, гавораць адначасова, раптоўна змаўкаюць. Гаворыць цяпер кандытар або паж, адзін з двух гадаванцаў або камуніянтка?

З пярэчанняў і рэплік нічога ўцямнага даведацца было немагчыма. То гаворка ішла пра рэйкі, што вядуць да населеных пунктаў з польскімі назвамі. Потым яны зноў гавораць пра бальніцу, пра нейкія падзеі, што тут адбываюцца. Ён чуе пытанні, у адказ на якія гучаць секунды маўчання.

– Доктар Гот ведае, што вы маеце на думцы?

– Ці можна яму давяраць? Трэба было б нам яго сцерагчыся.

– Чаму ён робіць такое? Ці робіць ён увогуле хоць штосьці? Я ўжо некалькі тыдняў яго не бачыў. Ён хаваецца дзесьці тут.

Пасля адназначна чуецца тонкі дрыготкі голас блазна, гэтым разам ён гучыць пэўна і з папрокам, аднак першы яго сказ мастак, напэўна, прапусціў:

– Пры гэтым невыносным залішку... магчымага болю і пакутаў? Калі ён усё ведае, дык ведае і пра гэта, пра ўсіх, каму вядомы боль, каго ён прымушае маўчаць, каго прымушае крычаць. Калі ён усемагутны, ён мог бы з такой жа лёгкасцю стварыць жыццё без болю. Гэта была б найлепшая магчымасць. Што бы ён зрабіў, калі б ён быў добры. Аднак ён іграе на руку карнікам, ён падарыў ім бясконцыя магчымасці рабіць іх працу. Усе гэтыя пяшчотныя слізістыя абалонкі, барабанныя перапонкі, карані пазногцяў, смочкі грудзей, шаўковыя яечкі, уся гэта абцягваючая чалавека адчувальная скура. Спрэс выкшталцоныя плацдармы для болю. У падвалах на Ру Ларыстон яны кожны дзень цешацца яго падтрымцы, далёкай ад згрызотаў сумлення. Ён багата адарыў гестапа. Ён ставіў пласцінкі Бетховена Клаўсу Барб’е[1].

Цяпер чуваць аднаго з двух блакітных інтэрнатнікаў, відаць, ён падняўся, гук адсунутага крэсла быў яго маленькай уверцюрай:

– Творца ўсяго, напэўна, усё яшчэ мае на гэта патэнт. Калі ён не сам стварыў боль, чаму ён дапускае яго? І ці падумалі вы пра пакуты звяроў, байніцы, удушлівую раптоўную цеснату, жахлівы страх нажа і швайкі, расціснутыя косткі, сцягнутую скуру, разадраныя футры? Ён павінен быў бы спалохацца бясконцага скандалу, закрычаць, званітаваць ад агіды.

---

[1] Клаўс Барб’е – кіраўнік ліёнскага гестапа, вядомы пад мянушкай “ліёнскі мяснік”. Пад ягоным кіраўніцтвам адбываліся катаванні ўдзельнікаў французскага Супраціўлення. Пасля вайны ўцёк у Балівію, але ў 1983 г. быў выдадзены Францыі і прыгавораны судом да пажыццёвага зняволення ў 1987 г. Памёр у турме.

Альбо хаця б замаўчаць ад суцэльннага жаху. Што ён і робіць спрадвеку. Магчыма, ад сораму.

Чырвоны міністрант адкашліваецца, быццам бы збіраецца заспяваць калядку:

– Некаторыя мяркуюць, што нам патрэбна пэўная колькасць пакутаў, каб увогуле цаніць моманты, калі мы не адчуваем болю... ці калі шчаслівыя...

Блазан пярэчыць:

– Але столькі, колькі мы маем, нам не трэба. Мы напакутаваліся на ўсе часы.

Адзін з маленькіх змоўшчыкаў б’е кулаком аб стол:

– Гэтыя пасланцы шчасця зноў з’явіліся тут, гэта яны ходзяць з залы ў залу? Яны даюць укол міласэрнасці, каб супакоіць цябе, кладуць табе ў нос і вушы ватныя kулькі, прапітаныя нейкай вадкасцю, яны затыкаюць табе рот мяккімі аргументамі і лагоднымі спевамі. Яны кормяць цябе жыццём, якое будзе ў цябе некалі пасля аперацыі.

Кухарчык махае рукой, мастаку здаецца, што ён бачыць гэты жэст, быццам той выкідае нешта, скрозь дзверы:

– Нашмат лепей дапусціць, што ніякага доктара Гота не існуе. А калі і існуе, дык ён, відаць, махляр, які рагоча, безгаловы тупіца ад хірургіі, які столькі разоў прамахваўся сваім скальпелем і прамахваецца дагэтуль. Гвалтоўнае махлярства прааперыраванага сусвету, узрэзаныя зоркі, апраметная чорных дзіраў. Няма нічога прыўкраснейшага, верце мне, чым глядзець у неба і паміраць без суцяшэння. Ці пан, ці прапаў. У адзіноце і несуцешна, забыты і пакінуты ўсімі. Не чакаць ні міласці, ні таго, што будзе пасля, – гэта і ёсць найлепшая свабода. Спазнаць усеабдымную невылечнасць – гэта дорыць адзіную магчымасць жыць далей. Пардону не будзе, доктар Гот. Так мусіць быць. Я люблю гэтую белую бальніцу, яна нашмат прыгажэйшая, чым я мог сабе марыць. Рай без суцяшэння. Давайце дапаможам мастаку.

Грум у сваёй чырвонай уніформе кажа раптам:

– Вы ж не думаеце, што мы некалі адсюль выйдзем? Што гэта за гатэль? Тут няма ліфтоў, толькі лесвіцы.

– Але ж мастака вылечылі, ці не? – уступае канфірмантка, пяшчотная маленькая сава ў вэлюме.

Міністрант зноў заводзіць размову:

– Вам знаёма ягоная серыя з чалавекам, што моліцца? Ён намаляваў яе ў Чэрэ, у Пірынеях у 1920-м годзе, у тым годзе, калі памёр Мадзільяні. Ягоным натуршчыкам быў пэўны месье Расін. Хто-ніхто называў яго рэлігійным мастаком. Мастак укрыжаваных стварэнняў. І іх збаўлення. Але ад чаго і дзеля чаго? Збаўлення няма, апрача як – у колеры. Чаго толькі людзі не навыдумляюць.

– Цішэй, там за дзвярыма нехта падслухоўвае, – кажа кандытар з вялікім чырвоным вухам.

І ён устае, на дыбачках ідзе да дзвярэй і расчыняе іх. Там нікога няма. Нікога. Мастак ужо праслізнуў за кут у сваіх белых пантофлях, не шмаргануўшы нагамі.

Аднак міністрант сцвярджае цяпер змоўніцкаму камітэту, што бачыў мужчыну-малельніка ў бальніцы і адразу ж яго пазнаў. І загаварыў з ім. І ён расказвае пра тое спатканне і як ён загаварыў з мужчынам з выцягнутым тварам і кусцістымі бровамі:

– Што вы тут робіце?

– Вы ж бачыце. Малюся.

– Толькі моліцеся? І больш нічога?

– Для мяне лепшага занятку няма.

– Бо вы любіце Бога? Збаўцу, які ўжо прыходзіў, ці Машыаха, што прыйдзе?

Мужчына, што моліцца, строга глядзіць на хлопчыка і спакойна кажа яму, як даросламу:

– Па-першае, няма таго, які ўжо прыходзіў, а па-другое, няма таго, што прыйдзе.

– Аніякага Збаўцы?

– Ні тады, ані цяпер, ані некалі пазней. Вы хочаце быць збаўленымі? Ну дык што вам яшчэ патрэбна? Вы ніколі не задаволеныя? Можна жыць і без збаўлення.

– Дык вы не радыя будучаму раю? Гэта ж будзе цудоўна, мы будзем спяваць і заходзіцца ад захаплення ў магутным хоры, спрэс у экстазе. Гэта будзе невымоўна, нашы целы расквітнеюць і будуць зіхацець, і цудам не будзе ліку. Панаваць будзе суцэльная шчаснасць.

– Шчаснасць? Рай? Ты, пэўна, за дурня мяне трымаеш? Чаму ж ён не стварыў гэта раней? Калі рай і надыдзе, будзе занадта позна. Навошта гэта няшчаснае чаканне збавення, спазненне само па сабе ўжо непрыстойнасць. І ніколі не можа надысці настолькі вялікая і глыбокая шчаснасць, што выправіла б усе пакуты і гора, якая б выцаліла ўсё разарванае і растаптанае. Не будзе ніякага выпраўлення, ты чуеш, ды і як, як мусіла б яно выглядаць? Гэта была б толькі нягеглая падачка за ўсё ліха і нядолю, што здарыліся за мільярды гадоў. Жалю вартая цукерачка. Ён сам дакладна ведае, што заўжды застанецца вінаватым, што ён не можа нічога выправіць, і таму ён уважае за лепшае не прыходзіць. Ніякага выпраўлення для Бога. Ніколі. А акупанто ўладкуюць свет так, як лічаць правільным. Усю Еўропу, разумееш, не толькі Францыю, не: увесь свет будзе боўтацца на свастыцы назаўсёды і навекі вечныя, разумееш? Ногі дагары, плечы вывіхнутыя – спрэс перакуленыя ўкрыжаванні.

– Бог не дапусціць гэтага, спадару.

– Бог дапускае ўсё, у тым і рэч. Усё, кожнае, кожнае агіднае зверства, ты не разумееш гэтага ў тваіх ружовых міністранцкіх глуздах? Бог вынайшаў дзеля гэтага карт-бланш.

– Чаму ж вы тады ўвесь час моліцеся?

– Ну а чаму б і не. Менавіта таму. Божы сын памёр. Мярцвенечкі. А як сын, так і бацька. Гэта так праўдападобна, бо яно не вяжацца. Пахаваны паўстаў з мёртвых, а паўсталы мёртвы назаўжды. Гэта так цалкам пэўна, бо гэта немагчыма. Веру, бо абсурдна.

– Я вас больш не разумею.

Міністрант спрабуе абарваць размову, што стала яму непрыемнай.

Але мужчына дадае яшчэ:

– У імя Айца, і Сына, і Духа Святога.

– Амэн, – злятае з вуснаў міністранта.

– А цяпер пакінь мяне ў спакоі, у мяне справы.

Мужчына мармыча нешта незразумелае, гайдаецца ўсім целам назад-наперад, і размаўляць з ім далей немагчыма.

Мастак ціха вярнуўся ў свой белы пакой з прасцінаў. Ён спрабуе забыць, што нічога не памятае. Ён едзе ў катафалку ў Парыж на аперацыю і ўзгадвае белы рай. Ён ляжыць у белай бальніцы і ўзгадвае паездку ў катафалку з Шынона ў сталіцу болю. Што з гэтага ён сніць і калі? У сне ён трасе галавой. Дык значыць, маленькія змоўшчыкі жывуць, як і ён, у гэтай бальніцы? Гэта здаецца яму такім непамысным, што ён паварочваецца да беласнежнай сцяны.

Цяпер ён яшчэ раз бачыць іх перад сваімі вачыма, маці і дзіця, якіх ён намаляваў у 1942 годзе, годзе вялікіх дэпартацый. Гэта адна з апошніх карцін, ён намаляваў яе ў Шампані-сюр-Фойдэ. Дзве галавы не могуць быць бліжэй адна да адной, чым гэтыя, яны амаль пераходзяць адна ў адну, але ў гэтай блізкасці неверагодная напруга, што разрывае іх. Позірк маці слізгае ўніз да брудна-карычневай падлогі. Тое, што атачае яе вочы, гэта не колы стомленасці, там гаворыць канчатковая адсутнасць перспектыў. Перадусім левае вока замазана цёмным ад нядолі, яно тоне ў колеры няшчасця.

Але позірк маленькай дзяўчынкі знаходзіцца ў цэнтры, настолькі поўны жыцця, скіраваны крыху дагары, весела прэч з нядолі, напэўна, у будучыню, якая для дзіцяці ўсё адно так не завецца. Ёсць толькі Цяпер і няўлоўная прага жыцця. Вочы іскрацца ад радасці, глядзець – гэта суцэльная асалода. Доўга дзяўчынка не выседзіць на каленях у маці. Сучаснасць як свінец, і бачна толькі адно плячо маці, другое ўжо апусцілася і зжэрлася Катастрофаю. Аднак плечы дзяўчынкі надзьмутыя шчасцем, трыумфальнай радасцю жадання жыць на грубым палатне гора.

Калісьці гэтая цяпер яшчэ жвавая дзяўчынка пяройме азмрочаную горам постаць маці. Два твары ўвасабляюць два перыяды жыцця, адзін з якіх непазбежна пяройдзе ў іншы. Шчыльныя карычневыя панчохі маці аж занадта відавочна дамінуюць на пярэднім плане. Ці выражалі калі-небудзь нейкія панчохі так шмат бяды, як гэтая падвойная тарфяна-карычневая злыбяда? Жыццё само па сабе – гэта пара ўдушлівых карычневых панчохаў. Левая ножка крэсла стаіць так крыва, што амаль злітая ў адно няроўная пара праз момант, пэўна, канчаткова перакуліцца ў апраметную. Чаму яму ў галаву менавіта цяпер прыходзіць слова “яма”? Глыбокі чорны цень злева бясконцы, наколькі можа быць бясконцым цень. Ці ёсць тут увогуле сцены? Наўрад ці, гэтае памяшканне – агромністы пусты вальер нядолі.

Але гэты блакіт абедзвюх сукенак! Дзве кантрабандныя схованкі нябеснага блакіту. На скуры абедзвюх ляжыць трошачкі блажэннага абяцання шчасця. У маці яно тут жа абвяргаецца позіркам, постаццю і тарфяна-карычневымі панчохамі. Трошачкі белых хвальбонаў ніжняй спадніцы толькі ўзмацняюць абвяржэнне. У маленькай дзяўчынкі нябесны блакіт скуры – гэта танец цяперніччыны. Яна будзе танчыць столькі, колькі дзяўчынка будзе ў яе верыць. Крыху гэтага блакіту абяцання какетліва размазана пад яе вачыма. Магчыма, аднойчы нябесна-блакітная дзяўчынка ўбачыць больш шчасця. Аднак гэта нідзе не напісана.

Мастак супрацiўляецца ў сваіх снежна-белых прасцінах. Не, не шчасце. Толькі не нішчымнае шчасце. Шчасце – пра гэта не вядзецца. Лепш гавары пра малако. Колер будучыні – гэта колер малака.



Уладзімір Даніленка



...проста так
нічога не бывае...

# Малюнак на замёрзлым акне

***Апавяданні***

*Пераклад з украінскай мовы Валера СТРАЛКО*

## Заяц

Пад вечар, калі на грушы Мусія Скарахода трывожна закрычаў сыч, каля яго двара спынілася машына «хуткай дапамогі», і хударлявы лекар у акулярах з залацістай апраўай прыадчыніў дзверы яго дома.

«Ёсць хто ў хаце?»

«Заходзьце», – пачуўся слабы голас.

У хаце быў прыцемак. Лекар пайшоў на голас і зачапіўся за крэсла.

«Уключыце святло. Там, на сцяне».

Лекар намацаў уключальнік, запаліў у гасцёўні святло і бокам, каб не зачапіць на кухні вядро, прайшоў у спальню. Пры святле таршэра ён убачыў у ложку няголенага мужчыну, а ля яго вялізнага труса, які прыціснуў вушы, прытуліўся да гаспадара і насцярожана глядзеў на госця.

«Сядайце».

Лекар падсунуў крэсла і дастаў стэтаскоп.

«Холадна тут. А гэта вы што, трусікам грэецеся?»

«Гэта не трусік, – закашляўся Скараход. – Гэта – заяц».

Лекар працёр насоўкай запацелыя шкельцы акуляраў і паглядзеў у спалоханыя вочы звера.

Скараход варухнуў галавой, стрымліваючы ў грудзях клёкат.

«Даўно кашаль?»

«Ужо месяц».

«Як вы сябе адчуваеце?»

«Як у грудзі хто снегу насыпаў».

Мужчына ляжаў у шарсцяным швэдры з загорнутым пад шыю каўняром. Лекар памераў яму тэмпературу.

«Задзярыце швэдар і сядзьце, каб я мог вас паслухаць».

Скараход сеў у ложку, а лекар ставіў яму да грудзей і да спіны халодную металічную трубку.

«Удыхніце. Глыбей».

Заяц зазіраў у вочы лекару і чмыхаў.

«Чаго ён гэта?..»

«Перажывае, каб вы мне нічога дрэннага не зрабілі», – закашляўся Скараход.

Лекар схаваў стэтаскоп.

«Кашаль гнойны? У макроце ёсць кроў?»

«Ёсць».

«Вам трэба неадкладна ў бальніцу. Прайсці рэнтген, абследаванне. У вас, пэўна, запаленне лёгкіх. Я вазьму вас з сабой».

Мужчына закруціўся ў ложку.

«А куды я падзену зайца?»

«Вы адзін жывяце?»

«Адзін».

«Што я магу параіць?.. – падняўся лекар. – Выбірайце, што вам даражэй: жыццё або заяц?»

Заяц схаваўся за хворага гаспадара і адтуль напружана глядзеў на чужынца.

«Я не магу яго пакінуць», – закашляўся чалавек, і ў яго грудзях захрыпела, як у старым гармоніку.

«Давайце я завязу вас у раённую бальніцу. Пройдзеце хоць бы рэнтген, купіце лекі, я распавяду, як лячыцца і прывязу назад».

«Сёння прывязеце?»

«Сёння».

«Ну, калі так, то паеду», – зазбіраўся Скараход.

А заяц скакаў за ім, скроб гаспадара пярэднімі лапамі, імкнуўся зазірнуць яму ў вочы.

«Я прыеду», – пачухаў яго за вушамі.

Паклаў зайцу нізку яблыневых галінак і зачыніў хату.

Да Станішэўкі даехалі хутка. У бальніцы Скараход прайшоў рэнтген, і лекар, якога звалі Мар'ян Пранюк, пацвердзіў папярэдні дыягназ. У яго было двухбаковае запаленне лёгкіх, але класціся ў бальніцу ён адмовіўся.

«Спусціцеся ў аптэку, купіце вось гэтыя лекі, – выпісаў лекар і прабурчаў: – У вас крупознае запаленне, а вы пра зайца думаеце».

Скараход купіў лекі, лекар распавёў, як лячыцца, адвёз у Туравец і ўжо калі развітваліся, сказаў:

«Вы павінны штодня шмат прысядаць ў добра праветраным пакоі. Ваша цела будзе ўзбагачацца кіслародам, а гэтага не любяць вірусы. Сто разоў прысядаеце, здымаеце з сябе мокрую бялізну, пераапранаецеся ў сухую. Адпачылі – і зноў сто разоў прысядаеце. Напіваецеся гарачай гарбаты з маслам і мёдам, кладзецеся ў ложак, накрываецеся цёплымі коўдрамі і пацееце. Прапацелі – знялі мокрую бялізну, апранулі сухую. І так кожны дзень. Ежце часнык, парэчкавае і ажынавае варэнне, прымайце лекі, якія я выпісаў, кантактуйце са сваім зайцам. Вам карысныя станоўчыя эмоцыі. Паслязаўтра загляну».

Мусій Скараход адчыніў дзверы, увайшоў у дом. Да яго падбег заяц і пачаў абнюхваць.

«Што, пахну бальніцай?» – пагладзіў яму вушы.

Унёс брыкет, дровы, распаліў грубку, выпіў лекі, выйшаў на ганак, дзе было свежае паветра, і пачаў прысядаць. Ногі дрыжалі, ён з цяжкасцю прысеў сорак разоў, і адчуў, што больш не зможа. Але, сапучы, праз сілу, дацягнуў да сотні, на непаслухмяных нагах увайшоў у хату, зняў з сябе мокрую вопратку, пераапрануўся ў сухое, закіпяціў у чайніку ваду, дастаў з каморы слоік грэцкага мёду, кінуў у кубак з кіпенем мёд і масла, напіўся, залез пад коўдру, і ля яго адразу прымасціўся заяц, нюхаў твар, казытаў вусамі і асцярожна пазіраў на грубку, у якой шугаў агонь.

Зайца ён знайшоў у канцы чэрвеня. Неяк ішоў праз высокую траву на Рудой, і раптам адчуў пад нагой нешта мяккае. Спалохана адскочыў, прыгледзеўся, а то зайчанё. Яно было такое маленечкае, што змяшчалася ў далоні. Глядзела на яго вялікімі паслёнавымі вачыма, шэрае, валахатае, з доўгімі пухнастымі шарсцінкамі і жоўта-рудымі бакамі. Хвосцік у зайчаняці знізу быў белы, а зверху чорны. Стала яго шкада, і ён забраў з сабой.

«Навошта ты яго прынёс? – абурыўся Гжэсь. – У цябе яно прападзе. І аднясеш – прападзе. Бо пахне табой. Зайчыха ўжо яго не прыме».

Аднак зайчанё не прапала. Ён купляў у Вялікаборцаў казінае малако і соскай яго паіў. Размінаў жывот, гладзіў. Карміў днём і ноччу, калі яно пішчала. Зайчаняці ён не даў імя, а казаў на яго проста – заяц. Яно асвоілася, скакала па хаце і губляла маленькія арэшкі, але заўсёды ў адным месцы. Днём зайчанё спала, ноччу бегала, а калі падрасло, заскоквала ў ложак і ціснулася яму ў бок, таму ён пабойваўся, што ў сне яго прыдушыць.

Абедаў ён заўсёды са сваім зайцам, які сядзеў у яго на каленях або, мякка кранаючыся пярэднімі лапамі цыраты, зазіраў на стол. Заяц любіў хлеб, гарох, галінкі яблыняў, моркву і капусту.

На зіму заяц збялеў па баках і стаў серабрыстым. Скараход зрабіў яму гняздо са сваёй старой камізэлькі, і ў гэтым гняздзе заяц спаў. Хаця мог спаць і ў яго пасцелі, і пад канапай, і пад старым буфетам.

Калі заяц вырас, ператварыўся ў моцнага звера з вялікімі мускулістымі лапамі, а праз год стаў не такім баязлівым, гаспадар зразумеў, што ў яго пачаўся перыяд палавога выспявання. Тады Скараход пасадзіў яго ў кошык, занёс далёка ад Тураўца і выпусціў на Рудзі, дзе яго калісьці знайшоў. Усю дарогу да хаты ён шкадаваў, што выпусціў зайца. Часам яму здавалася, што бачыць у высокай траве яго вушы. Спыняўся, узіраўся і бубнеў:

«На волі яму будзе лепш».

А калі вярнуўся, заяц сядзеў на парозе. І колькі пасля гэтага не выносіў яшчэ і ў Буймір ці Грабаўку, той заўсёды вяртаўся, таму Мусій вырашыў, што ў зайца абвостранае пачуццё дома, і пакінуў яго ў спакоі.

Калі Мусій ішоў у краму, то за ім у дзверы ўскокваў і заяц, і прадавачка з усмешкай маўляла:

«Пусціце ўжо гэтага Скараходавага зайца».

Усе расступаліся, заяц падскокваў да Мусія, радасна тыцкаў носам у штаны, станавіўся на заднія лапы і вызіраў з-за прылаўка на прадаўшчыцу.

«Бач, колькі там таго розуму, – казала яна, – а так усё разглядвае, як будзе нешта купляць».

«А чаго ж не будзе? – адклікаўся Скараход. – Тры боханы хлеба і запалкі».

Разлічваўся, прымаў пакупкі і йшоў дамоў. А ўслед скакаў заяц, скуб траву і даганяў гаспадара.

То Скараход ішоў да Марчанкі, а за ім бег заяц. Калі з Зацарквanskага завулка ад Чыпачэнкаў выскачыў здаровы чорны сабака і адразу кінуўся да зайца, той зрабіў шалёны скачок у бок. Сабака трапіў у канаву, а заяц дагнаў Скарахода і кінуўся яму пад ногі. Мусій падхапіў зайца на рукі і тупнуў на сабаку:

«Пайшоў! Ану прэч!»

Сабака пагрозліва загыркаў і кінуўся да Мусія, ды ён схапіў камень і шпурнуў, сабака, падціснуўшы хвост, з віскам знік у завулку.

У іх двары жыў кот Бабась, вялікі, разумны, з пагрызенымі ў каціных баях вушамі. З катом заяц не тое каб сябраваў, а быў у прыяцельскіх адносінах. Бабась прыходзіў у хату, наядаўся і знікаў. І толькі калі на вуліцы быў мароз, кот залазіў на печ, клаўся і ўва сне ўздрыгваў і выпускаў кіпцюры. Яму сніліся каціныя бойкі. Але калі для ката хата, двор, сад і прылеглыя землі, за якімі цямнеў лес, былі яго прасторай, куды ён не пускаў іншых катоў, то для зайца цэнтрам яго свету быў чалавек.

Бабась успрымаў зайца і Скарахода як істотаў, якіх ён павінен цярпець, бо не лічыў іх сваімі канкурэнтамі. Не тое было з чырванаватым пеўнем, які цярпеў Скарахода, што яго карміў, але трываць усіх іншых не мог. Некалькі разоў певень нападаў на зайца, але той адбіваўся лапамі, пасля чаго певень залятаў у сад і абураўся з-пад куста парэчак, а куры з крыкам разбягаліся. Пасля некалькіх сутыкненняў певень стаў абмінаць зайца і ад яго ўцякаў.

Зайцу падабаўся скараходаўскі драўляны дом, абкладзены цэглай, з прыбраным драўляным ганкам, аплеценым вінаграднай лазой, за ганкам – стары сад, у якім раслі баравіцы, сымырэнкі, антонаўкі, белы наліў, спасаўкі і вялікая груша бэра, вакол якой заўсёды лёталі восы.

Скараход быў сталяром і рабіў фігурныя рамы для ганкаў, калыскі, ночвы, брамы. Заяц любіў яго майстэрню, у якой нюхаў стружкі, заглядваў ва ўсе закуткі і сачыў за працай. Калі б ён умеў гаварыць, то распытаў бы гаспадара, чаму той часам сумуе.

«Ажаніўся б і не меў клопатаў, а то пасля смерці жонкі ты ўсё адзін ды адзін», – казаў яму Гжэсь.

Гжэсь хадзіў згорблены ад радыкуліту, але меў ясную галаву і заўсёды ўсміхаўся, нават калі ў яго было не ўсё так добра, як ён таго хацеў.

На гэтыя словы Гжэся Мусій кіўнуў, зацягнуўся цыгарэтай і, відаць, ад з’едлівага дыму заміргаў.

Бо насамрэч Скараход быў не адзін, у яго быў заяц. А калі хварэў, да яго наведваўся лекар. Заяц адчуваў, што гаспадару ад гэтага робіцца лепш, але ў той жа час ён трапляў ад лекара ў нейкую залежнасць, незразумелую

для яго заячага розуму. Кожны раз чалавек у белым халаце спрабаваў пагладзіць зайца, але звер ад яго ўцякаў пад ложак, адкуль спалохана глядзеў на лекара, бо адчуваў ад яго нейкую ўтоеную небяспеку. І гэтая трывога паглыблялася з кожным наведваннем чужога чалавека.

Штодзень Мусій Скараход прысядаў па сто разоў, піў гарбату з мёдам і маслам, лекі, зноў прысядаў і неўзабаве ачуняў. Лекар памераў у яго тэмпературу і доўга слухаў грудзі і спіну. А заяц стаяў слупком каля дзвярэй, і трывожна глядзеў на лекара.

«Я хачу вам паведаміць, – задаволена сказаў доктар, – што з сённяшняга дня вы здаровы».

За акном капала з ледзяшоў вада, радасна цвыркалі вераб'і, а са снежных праталінаў нясмела выглядвала зялёная траўка.

«Дзякуй, – абцягнуў швэдар Скараход. – Колькі я вам вінен?»

«Ды што вы мне там вінны?!» – схаваў стэтаскоп лекар.

«А ўсё ж?»

«Такая ў мяне праца».

«Кожная праца мае свой кошт», – разважліва сказаў Скараход.

«Грошай я ад вас не вазьму, – падняўся лекар. – А калі хочаце мне аддзячыць за лячэнне, то падарыце зайца».

«Зайца?..» – разгубіўся Скараход.

«Гэта адзінае, што я магу ад вас прыняць».

«Але ён у вас не стане жыць»...

«Чаму ж не стане? Я буду яго добра карміць».

«Ён прывык да мяне... да хаты... да Тураўца...»

«Нават сабака, якога добра кормяць, прывыкае да новага гаспадара. А гэта – заяц», – дадаў лекар.

«Я вам лепш заплачу».

«Вы мяне гэтым пакрыўдзіце», – папраўляючы акуляры, зморшчыўся лекар.

На імгненне ў доме наступіла цішыня. Толькі чулася, як за акном крапае ў снег адталая вада. Мусій паглядзеў на зайца, які насцярожыўся і трывожна ўслухоўваўся ў капеж і напружаную цішыню. І калі з даху з шоргатам ссунуўся снег, урач паглядзеў у вочы Скарахода і дакорліва сказаў:

«А я вас ад смерці выратаваў».

Шкада было зайца, але мусіў яго аддаць.

«Што ж, забірайце», – змрочна сказаў Скараход, нават сам не пазнаў свайго голасу.

«Вы не хвалюйцеся. Я за ім буду добра глядзець», – узрадаваўся лекар.

Скараход злавіў зайца і моўчкі падаў яму. Заяц пішчаў і вырываўся з рук.

«Во разбрыкаўся», – задаволена прыцмокнуў лекар і пайшоў да машыны «хуткай дапамогі», якая чакала яго на дарозе.

І калі садзіўся ў кабіну, пачуў адчайны крык:

«Пачакайце!»

Да машыны падбег Скараход.

«Вось! – працягнуў лекару. – Гэта яго гняздо з маёй камізэлькі. Ён любіць тут спаць».

Лекар кінуў заячае гняздо ў салон і моўчкі ляпнуў дзверцамі.

«А яшчэ ён любіць галінкі з фруктовых дрэваў і каб яго чухалі за вушамі» – крычаў наўздагон Скараход.

Ды яго ўжо ніхто не чуў. Набіраючы хуткасць, машына знікла ў вячэрнім змроку.

Усю ноч Скараход трывожна спаў і прачынаўся ад піску зайца. Уключаў таршэр, доўга ляжаў і глядзеў у прастору пустога пакою, а затым зноў забываўся ў цяжкім сне. Яму снілася, што заяц уцякае да яго горадам, дабягае да Тураўца, заскоквае ў хату і ліжа яму рукі. А раніцай у яго гарэлі шчокі, быццам хтосьці яго абмяркоўваў.

Удзень Скараход сустрэў Гжэся, які йшоў са стальмашні.

«Гэта праўда, што ты аддаў свайго зайца?» – з'едліва спытаў Гжэсь.

«Аддаў».

«Ён прамяняў на цябе лес і сваё заячае жыццё. А ты яго аддаў», – сказаў Гжэсь.

«А што было рабіць? Лекар мяне ад смерці вырataваў».

«Даў бы грошы».

«Грошы не браў. Захацеў зайца».

«Ніхто не ведае, што з намі будзе пасля смерці, – уздыхнуў Гжэсь і паглядзеў сабе пад ногі. – Можа, гэты заяц – душа тваёй памерлай Антоські або сам Гасподзь у жывёльным вобразе вырашыў праверыць велічыню тваёй любові. А ты ім разлічыўся за балячку».

«Што ты хочаш гэтым сказаць?» – усклікнуў Скараход.

«Ты так пытаеш, як быццам забыўся, што не мы ў гэтым свеце, а яны галоўныя», – незадаволена сказаў Гжэсь.

«Хто яны?..»

«Сам ведаеш, – прабурчаў Гжэсь. – Гэта табе так не пройдзе. Нельга прадаваць блізкіх, нават калі гэта заяц».

Гжэсь звярнуў на Пяршкоўскую вуліцу і пабрыў, шоргаючы па мокрым снезе.

Увесь тыдзень Скараход не знаходзіў сабе месца. Стомлены ад перажыванняў, пад раніцу праваліўся ў трывожны сон і ўбачыў цёмны горад, у якім людзі хадзілі навобмацак, як сляпыя. Адчуваў на сабе чыесьці ліпкія рукі і грубыя выспяткі. І тады ўбачыў асветлены пешаходны пераход.

«Хадзі сюды!» – пачуў знаёмы голас.

У канцы дарожкі стаяла ў вячэрняй сукенцы з рыдыкюлем і туфлях на высокіх абцасах яго нябожчыца жонка і махала рукой. Ён вырваўся з чыіхсьці рук і кінуўся да яе.

«Ты прыйшоў?» – узрадавалася яна і пацалавала ў вусны.

Адчуў горкі прысмак пацалунку і прачнуўся.

У акно зазірала кволая раніца. Скараход сабраўся ў горад.

«Гэта заяц па мне сумуе, – вырашыў ён. – Трэба яго забраць».

Але ў Станішоўцы Мар'яна Пранюка ён не знайшоў. У лекара былі адгулы, і Мусію доўга не хацелі даваць адрас, але ў яго быў такі разгублены, роспачны выгляд, што калега Пранюка здаўся.

«А вы можаце патэлефанаваць, – падсунуў тэлефон лекар. – Я набяру яго нумар».

«Не трэба, – спалохаўся Скараход, ён баяўся, што не знойдзе слоў, каб пераканаць лекара вярнуць яму зайца. – Лепш я паеду да яго дадому».

«Я вас разумею», – кіўнуў лекар і падумаў, што гэты чалавек, напэўна, хоча разлічыцца з Пранюком.

Скараход знайшоў у Жытоміры прыватны дом на Гогалеўскай і пазваніў у дзверы. Яму адкрыла пышнацелая жанчына ў ружовым халаце.

«Ці магу ўбачыць Мар'яна Пранюка?»

У калідоры пахла кавай і свежай выпечкай.

«Тут да цябе», – гукнула яна.

«Хто?»

«Як вас завуць?»

«Мусій Скараход з Тураўца».

«Мужчына з Тураўца».

Бліснуўшы голай нагой, жанчына знікла за дзвярыма, і да яго выйшаў Мар'ян Пранюк.

«Даруйце, што гэтак рана, – збянтэжана сказаў Скараход. – Я прыйшоў па зайца. Я вам заплачу грошы».

Дастаў з грудной кішэні кашалёк.

«А ў мяне яго ўжо няма», – прыкрываючы далонню рот, пазяхнуў лекар.

«А дзе ж ён?..» – разгубіўся Скараход і адчуў, як запунцавелі шчокі і на шыі адчайна запульсаваў жыўчык.

«Ён нічога не еў, – незадаволена сказаў лекар. – Гойсаў па хаце, драў шпалеры, усё перакульваў. А ўчора жонка прыадчыніла дзверы, ён выскачыў, забег у школьны двор, і там яго разарвалі бадзяжныя сабакі. Суседка выгульвала свайго пудзеля і гэта бачыла».

Скараход ашалела глядзеў на лекара.

«Прабачце», – патаптаўся на месцы.

Пранюк адкрыў перад ім дзверы, і Скараход выйшаў. За спінай холадна пстрыкнулі замкі.

Мусій Скараход спыніўся на Гогалеўскай. Вакол яго сноўдалі людзі і машыны. Ад роспачы яму стала блага, ён закрыў вочы, убачыў зайца ў доме Мар'яна Пранюка і пачуў крык яго жонкі:

«Твой заяц зноў шпалеры падраў!».

У хатнім халаце з цыгарай у зубах Пранюк падышоў да сцяны і пачапаў пальцам задраную шпалерыну.

«Можна прыклеіць».

«Гэта ж дзікі звер. Навошта было яго сюды перці? »

«У Тураўцы ён паводзіў сябе, як кот», – буркнуў Пранюк, намазваючы клеем задраную шпалерыну.

«Няхай бы там сабе ў вёсцы і жыў, – крыкнула з кухні жанчына. – Ты будзеш каву?»

«Буду».

З кухні пачуўся пах кавы, шум разбітага шкла і злосны крык жанчыны:

«Во падлюга вушастая!»

«Што ён там яшчэ?»

«Вазу разбіў!»

Заяц спалохана выбег з кухні і заскочыў у гасцёўню.

«Звар'яцеў, ці што?» – зайшоў на кухню Пранюк.

Жанчына пазмятала ў савок рэшткі разбітай вазы.

«Якая карысць ад гэтага зайца, – бурчала яна. – У рукі не даецца. Скача па ўсім доме. Памёт сее дзе папала. Забіў бы, дык хоць смажонкі наеліся б».

Заяц залез у сваё гняздо, уткнуўся носам у камізэльку. Яна пахла далёкім домам, Мусіем і яго цёплымі рукамі. Маленькае заячае сэрца разрывала туга па чалавеку, якога ён так любіў, туга па сваім доме, садзе, па кату і нават па чырванаватым пеўні. Ён схаваўся ў сваё гняздо, каб не

бачыць чужую хату з яе рэзкімі пахамі, заўсёды незадаволенай жанчынай і Мар'янам Пранюком, у руках якога не было такой бязмежнай любові, як у руках Мусія Скарахода. Заяц прыціскаўся да свайго вясковага гнязда, адзінай роднай рэчы ў гэтым чужым гарадскім доме. Адчуваў, што яго дом недзе за горадам, куды можна дабегчы. Яго адчуванне прасторы падказвала кірунак бегу. І ён чакаў. Асцярожна вылез са свайго гнязда, схаваўся пад парцьеру і сачыў за дзвярыма. Адтуль прасочвалася свежае паветра, і заяц адчуваў, што там – свабода.

Чакаць прыйшлося доўга. Нарэшце жанчына пачала збірацца. Яна круцілася перад люстэркам, фарбавала вейкі, напранула паліто, узяла сумачку, запстрыкала дзвярнымі замкамі і калі прыадчыніла дзверы, заяц кінуўся ёй пад ногі. Ад нечаканасці жанчына ўскрыкнула, і гэтага было дастаткова, каб выскачыць на вуліцу амаль пад колы аўтамабіля. Завішчалі тармазы.

«Хто выпусціў труса?» – закрычаў у прыадчыненае акно кіроўца.

Заяц пераскочыў на другі бок вуліцы. Недзе там быў Мусій Скараход. Ён бег на ўсход, куды вялі яго ногі і беспамылковае адчуванне прасторы.

За рогам убачыў зграю бадзяжных сабак. Паперадзе бег здаровы брудны сабацура з адгрызеным хвастом, які першым заўважыў зайца. Сабакі з брэхам кінуліся да яго. У тры скачкі заяц пераляцеў вуліцу і заскочыў у двор. Аббег доўгі будынак. Наперадзе раслі кусты бэзу. Ён праскочыў паміж кустамі і апынуўся на спартыўнай пляцоўцы, агароджанай сеткай. Сабакі былі ўжо зусім блізка. Ён чуў, як яны хекаюць і месяць лапамі мокры снег. Павярнуў налева, але там выгульвала маленькага пудзеля нейкая жанчына. Павярнуў туды, дзе можна было абабегчы сетку, але там ужо былі сабакі. Кінуўся назад, наткнуўся на сетку і на адлегласці аднаго скачка ўбачыў засліненую сабачую пашчу.

Яго атачылі сабакі, перакрываючы выхад з агароджанай пляцоўкі. Бегчы не было куды. Здаровы брудны сабака загырчэў і кінуўся на яго. У апошні момант заяц адчуў боль, востры, як туга па Мусію Скараходу, і з усіх бакоў убачыў сабачыя зубы.

Мусій Скараход расплюшчыў вочы і наўздагад пабрыў ранішнім горадам. У яго разгарачаным уяўленні яшчэ чулася ляскание сабачых зубоў. З дахаў капала талая вада. Дзынкалі трамваі і піпікалі аўтамабільныя клаксоны, гучна смяяліся дзяўчаты і цвыркалі вераб'і.

На Вялікай Бердычаўскай чалавек разгублена абышоў тралейбус і пайшоў цераз вуліцу, і тады з-за старога аўтобуса выскачыў чорны пікап, пачуўся цяжкі ўдар, і вакол распластанага на снезе цела праступіла вялікая чырвоная пляма. А калі завішчалі аўтамабільныя тармазы і на прыпынку ўскрыкнула жанчына, вулічным разявакам здалося, што па Вялікай Бердычаўскай, як віхор, праімчаў цень, спыніўся каля збітага мужчыны, лізнуў яго ў твар і спалохана знік, растваючыся ў мітусні вялікага і абыякавага горада.

## Крык грыба

У зялёных вачах дзеда Дзяніса хавалася загадка імхоў і нетраў, напоўненых змеямі і дзікімі звярамі. Ён ішоў у лес ноччу, калі толькі ахутаны срэбным пылам месяц мог падгледзець яго сцежкі, якія вялі ў глыбіні векавых лясоў, балот і густых хвойнічкаў, скрозь якія, акрамя яго, маглі прабіцца хіба толькі дзікія свінні. У яго захапленні было нешта

ад нораву заўзятага нумізмата, які за рэдкую манету прадасць душу. У грыбным вар'яцтве дзеду Дзянісу не было роўных у Тураўцы, а, можа, і ў свеце.

Дзед прыносіў з лесу грыбы нават у гарачую восень, калі высыхалі лясныя балоты і ручаі, а ўюны залазілі ў глей і дранцвелі, прагна чакаючы дажджоў. Яго таемныя веды грыбоў былі прадметам плётак у Тураўцы, дзе славалюбства і зайздрасць не прабачалі такіх сакрэтаў. Ён нікога не браў з сабой у лес, нават мяне.

– Я іду *ноччю. Шчэ спужаесса* тхара *чі* куніцы, – разважліва казаў мне. – *Анё лучче* хай баба *даст* табе *млынцёў*.

Дзед ніколі не казаў, калі збіраецца ў грыбы, але перад гэтым баба Марына заўсёды чысціла яму вушы.

– Баба, пастаў *міне хвіціля*, – неяк папрасіў дзед, калі баба частавала мяне жытнімі блінамі.

На маёй барадзе бялелі падцёкі смятаны, і баба Марына выцірала іх ручніком.

– *Бачіш, шо* я раблю? – адказала яму, падкладаючы мне блінцоў.

Затым паставіла на пліту патэльню, накрышыла ў яе воску, падкінула ў грубку бярозавых паленцаў, стала чакаць, пакуль разгарыцца агонь і расплавіць воск. Мачала потым канаплянае палатно ў гарачы воск, і пах воску расцякаўся па ўсёй хаце.

Дзед лёг на драўляны ложак, а баба паставіла на падлогу эмаліраваную міску з вадой, наматала на верацяно правошчанае палатно, запхала дзеду ў вуха і чыркнула запалкай. З дзедавага вуха тырчаў палатняны раструбак, з якога клубіўся і распаўзаўся па хаце дым. Калі палатно дагарэла бліжэй да вуха, агонь засквірчэў, затрашчаў, запыхкаў, а дзед стаў задаволена пакрэктваць і варушыць вусамі:

– *Дзівіс*, баба, *шоб* не згарэла вуха.

І баба сачыла за агнём, і калі агонь падкраўся блізка да вуха, выцягнула недагарак, патушыла ў місцы з вадой, разгарнула і паказала:

– Ге, колькі серкі ў тваём вусе.

Дзед паглядзеў і ўсцешана павярнуўся на другі бок.

– Так *добре грела,* аж *задремаў*, – сказаў бабе.

Яна запхала яму верацяном палатно ў іншае вуха і зноў падпаліла. Дзед ляжаў і слухаў, як, патрэскваючы, тлее правошчанае палатно. Калі баба затушыла недагарак і зноў паказала серу, дзед Дзяніс сказаў так ціха, што было чуваць, як недзе шамаціць крыламі заблытаная ў павуціне муха:

– Ціх, баба, я чую, *як точіт ложка* шашаль.

Я не вытрымаў гэтага напружання і, ціха рыпнуўшы дзвярыма, выскачыў у двор.

– Баба чысціць дзеду вушы, – забягаючы ў сваю хату, закрычаў я. – Уначы дзед пойдзе ў грыбы. Ты мяне разбудзіш?

Мама спявала і мазала жаўткамі яблычныя струдлі.

– Разбуджу.

– Але ты не разбудзіла мяне на мінулым тыдні.

– Тады не, а гэтай ноччу разбуджу. Збярыся.

Перад сном я дастаў з каморы лазовы кошык, выцягнуў з шуфляды сцізорык з перламутравай ручкай, падрыхтаваў гумавыя боты, ваўняныя шкарпэткі і лёг.

Сярод салодкага сну хтосьці дакрануўся да майго пляча і зашаптаў:

– Уставай, ужо тры гадзіны. У дзедавай хаце засвяцілася.

Я расплюшчыў вочы. Нада мною схілілася мама. Яе рассыпаныя валасы казыталі шчаку, і я адчуў дотык яе цёплых вуснаў.

Вылузваючыся з чэпкіх абдымкаў сну, я споўз з ложка і непаслухмянымі рукамі пачаў апранацца. Калі ўжо ўлез у гумавыя боты і накінуў лёгкую куртку, мама выглянула ў акно.

– Дзед выйшаў з двара.

Я ціха сакочыў з ганка і прыслухаўся.

– Толькі не заблудзіся. Трымайся дзеда, – зашамацеў наўздагон яе голас.

У начной цішыні аддаляліся дзедавы крокі. Я прычыніў брамку і крадком рушыў услед.

Стаяла глыбокая ноч. Не было ні месяца, ні зорак. У Гжэсевым садзе пранізліва крычала сава. Дзед брыў Пяршкоўскай вуліцай, сам сабе штосьці мармычучы, і ў яго руцэ пагойдваўся газавы ліхтар. За пчальнікам ён перайшоў цераз масток. У рацэ штосьці боўталася, чвякала, сонна кахкаў дзікі качар, у чароце варушыліся вадзяныя пацукі. Каля маіх ног выткнула з вады галаву, здаецца, выдра і паплыла пад мостам. Дзед абышоў Платонаву хату, мінуў сажалку, увайшоў у пасадку і паплёўся да Гнілушы. Я асцярожна рухаўся за ім цёмнай хваёвай пасадкай, а наперадзе пагойдвалася светлавая пляма, якая выхоплівала з цемры дзедаву спіну. Краўся ціха, як мог. Часам пад нагамі пахруствалі сухія галінкі, і я спалохана заміраў, а дзед спыняўся і насцярожана ўслухоўваўся ў начную цішыню. Ён перайшоў цераз забалочаны альшанік і ля Скалы завярнуў у Вялікі лес. Пад нагамі я адчуў дарогу, якая праходзіла цераз парослы вярбовымі кустамі луг. Дрэвы спалі, і ні адзін подых ветру не кранаўся іх сну.

Мы зайшлі ў Вялікі лес. Кожны шоргат адгукаўся рэхам, ад якога спынялася сэрца і ў жылах стыла кроў. Было страшна. З кустоў свяціліся ваўчыныя вочы. Яны былі скрозь на адлегласці некалькіх крокаў. «Зараз ваўкі нападуць на дзеда, а потым разарвуць мяне», – спалохана стукала ў скронях. Але дзед сунуўся далей і нягучна з сабой размаўляў. Ваўчыныя вочы працягвалі свяціцца адусюль, ды ваўкі дзеда чамусь не чапалі. «Мабыць, яны яго баяцца, – падумаў я, – дзед нешта ведае». У зарасніку ляшчыны ваўчыныя вочы наблізіліся ўжо на адлегласць рукі. Я хацеў закрычаць, але раптам скеміў, што гэта жучкі-светлячкі. Вакол мяне мігцелі сотні светлячкоў. Яны былі падобныя да зборышча зорак, якія насыпаліся з цёмных нябёсаў.

Дзед адышоў убок, спыніўся на паляне, паставіў у лісце газавы ліхтар, сеў на пяньку і, як мне падалося, задрамаў. Але раптам падняў галаву, прыслухаўся, падышоў да тоўстай асіны, выразаў дубец, уторкнуў у зямлю, сеў і застыў. Я бачыў, як ходзіць ён з ліхтаром па лесе, падсвечвае, выразае дубчыкі і ўтыкае ў зямлю. Блукаў па лесе, прыслухоўваўся, выразаў дубцы, утыкаў, сядаў пад дрэвам і зноў хадзіў, і вакол яго ліхтара мігцелі начныя матылі. Мне падалося, што прайшла вечнасць. Я хаваўся за тоўстым дубам, але за маёй спінай раптам нешта забухала і затрашчала, і я з усіх сіл закрычаў:

– Дзед!!!

– А *се* хто там? – гучна спытаў дзед, асвятляючы мяне ліхтаром. – Ты?! *Шо* ты тут робіш?

– Я прыйшоў паназіраць, як вы збіраеце грыбы, а мяне нешта напалохала.

– Ну, йдзі сюды. Сядай *кала* мяне.

Мы селі пад старой бярозай, дзед дастаў сцізорык і пачаў выразаць дубец.

– А навошта вы гэта рэжаце?

– *Чуйіш*? – насцярожыўся дзед. – *Гріб* трэснуў.

– А хіба грыб трашчыць?

– *Гріб крічіт. Вуон ухкает.* «Ух!» – *каже гріб*, калі *вілазіт* з зямлі.

Нешта лопнула, быццам разарвалася напятая нітка.

– *Чуйіш*? – прыслухаўся дзед.

Мы пайшлі на гук, ён павёў ліхтаром і ўваткнуў дубчык. Так мы сядзелі каля ліхтара і ўслухваліся ў начныя гукі. І калі вушы прызвычаіліся да начной цішыні, стала чуваць, як выбухаюць, раздзіраючы зямлю, грыбы. І тады дзед Дзяніс падсвечваў і ставіў дубчыкі, а калі пачало днець, мы хадзілі па лесе і зразалі пад імі грыбы, пакуль не назбіралі поўныя кошыкі.

Нам трапляліся дрэўнавушкі, сушарэбкі, ваўнянкі, галубінкі, вялікія мясістыя порхаўкі, заячыя грыбы і смярдзючыя сыраежкі, якіх у Тураўцы ніхто не браў, а дзед Дзяніс распавядаў, што іх можна есці, але мы бралі толькі падасінавікі і белыя грыбы.

– *Бачіш*? – паказаў на грыб. – *Се* гнаёўка. *Ее едзят*, а з гарэлкай можна атруціцца.

– Ну, давай адпачнём трохі, – асвятліў зямлю, і мы селі каля зваленай бурай елкі.

Скрозь кроны начных дрэў віднела неба.

– Дзед, а чаму ўсе кажуць, што калі вы трапіце ў пекла, то будзеце насіць да катла не дровы, а грыбы?

– *Чалаў'їік – сушчество азартнэе*, – прабурчаў дзед. – Яго шлях – гэта дарога страсці. Цягнікі, самалёты, машыны прыдумалі *чалаў'їкі*. *Жінка тоже* азартная. Аднак увесь *её* азарт накіраваны на *чалаў'їка* і сям'ю.

– А ваш азарт – гэта грыбы?

– *Грібі* – засоп дзед. – Господзь *відумаў* для людзей не так багата ўцех, і *грібі* – аднэ з *їіх*. А калі *буў* малады, то меў *ше* адзін азарт – бабу *Маріну*.

Ён зрэзаў зялёную сыраежку, абчысціў, дастаў з кішэні скрыначку з соллю, пасаліў і працягнуў мне.

– На, з'еж.

Я надкусіў сыраежку і адчуў смак моху, прэлага лісця і падземных крыніц, што цяклі да лясных балот.

– Ге, добрая? – задаволена крэкнуў стары. – *Даже* белы *гріб* не такі добры. *Зелена* сыраежка – *се гріб* лясной дзеўкі.

– Якой дзеўкі?.. Русалкі?

– Эге, русалкі.

Дзед змоўк і паглядзеў у глыбіню лесу, дзе, патрэскваючы ламаччам, цяжка хадзіў нейкі вялікі лясны звер.

Ля дзедавай нагі тапырылася чарано мухамораў.

– *Анё*, *бачіш*, – паказаў нажом. – Усе думаюць, *шо махамор* – шкодны *гріб*. А я *коліс*, дзякуючы яму, *женіўс* на бабе *Маріні*, – ён змоўк і сабраўся з думкамі. – У *сём* свеці чагось дабіваюцца толькі людзі, апантаныя страсцю.

– А як вам дапамог мухамор?

Недалёка ад нас нехта трашчаў ламаччам, гучна пыхкаў, і я пасунуўся бліжэй да дзеда.

– Не *бойса*. То лось, – супакоіў ён і, наладжваючыся на размову, абапёрся аб ствол дуба. – Калі баба *Маріна* была дзеўкай на *віданні*, да яе *ўнадзіўса* Парамон з суседняга хутара. Здаравенны хлопец. У яго адзін кулак быў

такі, як мая галава. Парамон таксама быў з заможнае *сям’йі*. Лес яго бацькі *пачінаўса* за балотам. У нас былі пчолы, касілкі, малатарні, быдла, *тріццат* сем дзесяцін зямлі, лес і свой хутар. А ў *сям’йі* Парамона было менш зямлі, аднак яго бацька быў хазяйнавіты і нахрапісты. Так *шо* Парамон стаў *мэім* супернікам. А баба *Маріна* была ганарлівай дзеўкай. Хто ведаў, што робіцца ў яе галаве? То яна рагоча з Парамонам, а то я прынясу ёй у скрынцы ракаў, і яна рагоча са мной. Парамон думаў, *шо се* яго дзеўка, а я думаў, *шо* мая. І *сее* яе рагатанне зацягнула такі тугі *вузол*, што тую вяроўку *ўже* не маглі б *разв’язат* ніякія пальцы, нават такія здаровыя і нахабныя, як пальцы Парамона. І *тадзе вуон* вырашыў мяне прагнаць. *Пудаждаў*, калі я нёс бабе *Маріне* ракаў, *якіх* яна любіла, перастрэў каля балота і *каже*:

– *Шоб* я твоёй нагі тутака *больше* не *бачіў*. Забудзь яе, бо *сяя* дзеўка табе не па зубах.

І як схапіў *міне* за каўнер, ды як пачаў таўкці носам у балота, то *буў* я не *захлынуўса* ў багне. *Вірваўса* я неяк, праўда, *кусок* сарочкі застаўся ў яго руцэ, і пагнаў каня на свой хутар.

*Бачіт* мая сястра Гапа, *шо* на *міне ліца* няма, а, *глаўне*, няма куска сарочкі, і *пітае*, у якім *се* балоці я так *вітаўкса*? А я ёй і распавядаю пра свой *гембель*.

– А ты не можаш *ёму* саступіць? – *пітае* яна.

– Не атступлю! – кажу. – Хай *міне лучче* заб’е!

– І заб’е, калі ты яго не спужаеш, – пагаджаецца Гапа.

– Як жа яго спужаеш, калі ў яго рукі, як абцугі, – адказваю ёй.

А Гапа ведала *тэ*, чаго не ведаў я, Парамон і іншыя хлопцы з суседніх хутароў.

– *Прійдзецца* табе есці *махамора*, – *каже* яна.

– Якога *махамора*?.. – *дзіўлюс, чі* не смяецца з *міне*.

І *тадзе* Гапа распавяла, *шо тре рабіт*. Пра *тэ*, *шо махамор* – не такі просты *гріб*, як здаецца, я ведаў даўно.

У Крапіўне жыў *чалаў’йік*, якога звалі Мацвей Хадзімчук, ён быў далёкім родзічам бабы *Маріны*. *Дак* вось ён *наядаўса махамора*, упадаў у бязумства і распавядаў на кірмашах, *шо* будзе з намі ў *найбліжчэе ўрэм’е*. *Вуон* казаў, *шо* хутка скінуць цара і прыйдуць людзі са звёздамі, якія будуць *правіт* семдзесят *год*. Яны ўсех будуць *убіват і саджат* у турму, а потым наступіць вялікі голад. І праз пару *год* скінулі цара, прыйшлі бальшавікі і пачалі *ўсех убіват* і *вівозіт* у Сібір, а потым пачаўся голад. І за *цыя* словы Хадзімчука *ноччю* забралі, і там ён дзесь прапаў. І ўже, *мабіт*, даўно і костачкі яго пагрызлі ў тайзе ваўкі *чі ведзмедзі*.

А *тэе, шо* распавяла *міне* Гапа, я не ведаў. *Вошем, пуд* вечар пайшоў я ў лес, *зрезаў* маладзенькага *махамора*, прыкінуў, праз колькі часу будзе Парамон вяртацца ад *Маріны*, абчысціў капялюшык *махамора*, з’еў яго і чакаю.

*Через дэякэе ўрэм’е* ў галаве *замакотрілас* і ў *міне загарэлас* такая злосць, *шо* я ўже не мог трымаць сябе ў руках. Сядаю на каня і еду да *Маріны*. А была *ўже* ноч, і на неба *вілез месец*, вялікі і тоўсты, як *укормлены кабан*. І ад яго святла стала так відаць, як днём. Ад *махамора* ў *міне* ўсё падвоілася: і нюх, і слых, і *зреніе*. Я стаў, як звер, *шо бачіт*, як шныраць *пуд* канём *міші* і пасуцца ў гушчы зайцы, як за вярсту *св’йіціт* ачамі сава, як *крівуляе* на сваіх ножках у траве *ежак*, і кожны гук гудзеў у маёй галаве, як у дзежцы.

Аж чую: дзесь далёка скача конь. Навёў я рэзкасць – а то Парамон ад *Маріны* едзе. І ад адной *міслі*, *шо* сюды сунецца мой зласнешы *ўраг*, на *міне* напала такое шаленства, *шо я прішпоріў* каня і з *крікам* пагнаў на яго. *Вуон спужаўса міне шше* за паўвярсты.

– *Се* ты, Дзяніс? – *крікнуў міне*.

– Ты *шше пітаесса*? – *крічу* я і на ходу *гіцаю* на яго каня і звалюю Парамона на зямлю.

Яго спужалі не так мае кулакі, як мая злосць, з якой я *накінуўса* на яго. Мае страшэнна *вітрашчаныя* вочы і раззяўлены ў *кріку* рот паралізавалі яго волю. Так *шо* ён насілу *вірваўса* ад *міне*, *віскачыў* на каня і праз *кушче* пачаў *уцякат*. А я схапіў альховага карча, *гнаўса* за ім і лупіў па спіне, па *чім бачіў* і дзіка *крічаў*.

Пасля *цэйі аказейі* Парамон стаў абыходзіць *міне* дзясятай дарогай, у *Маріны* больш не з'яўляўся, і на Пакрову мы *пажаніліс*.

Дзед Дзяніс замоўк, задаволена паглядзеў на мухамора, і я адчуў, што ён зноў цешыцца хрыпам каня і жахам перапужанага Парамона, якія вынырнулі з яго памяці.

– Ну, *тре* йсці, – падняўся дзед, узяў кош і, прысвечваючы ліхтаром, пайшоў па толькі яму знаёмай дарожцы.

У перадсвітальным тумане мы брылі з поўнымі кашамі грыбоў насустрач першым грыбнікам, якія агаломшана азіраліся нам услед.

– Толькі ты не расказвай таго, *шо бачіў*, таму *шо* ў *лесі грібоў* не стане, – папрасіў дзед. – *Чалаў'йік* – самае *жаднае* на зямлі *жівотнае*, яму *ўсягда* ўсяго мала. Гэта могуць знаць толькі такіе, хто ведае меру.

Скрозь густыя вяршыні раскідзістых дубоў цадзілася кволая раніца. У лесе застыла цішыня, і толькі глыбока ў нетрах штосьці сапло і глуха вухкала, быццам у сне пад зямлёй цяжка дыхаў грыбны бог.

## Малюнак на замёрзлым акне

Над Бесарабіяй сіняе неба, як бацькавы вочы, і зоркі нізкія, можна рукой дастаць. Толькі няма змяркання – пасля дня адразу надыходзіць вечар. Увечары тата браў мяне на рукі, а я паказвала пальчыкам у неба і прасіла:

– Здымі ву-у-нь тую зорку.

– А ты паспрабуй сама, – смяяўся бацька і падымаў мяне вышэй.

– Не магу! – крычала я.

– Яшчэ крышачку падрасцеш і дастанеш, – казаў тата.

Мы жылі ў Вылкаве[1], на беразе Дуная. Там вельмі шмат камароў. Спачатку тата лавіў селядцоў, вазіў на лодцы на выспы турыстаў, а потым з дзядзькам Барысам пачалі прадаваць у Галандыю чарот. Яго ў плаўнях без канца і краю – сапраўднае чаротавае царства, а ў ім плойма гадзюк, і я іх баюся. А тата не баяўся, таму справы ў іх з дзядзькам Барысам пайшлі так добра, што тата пабудаваў новы дом і купіў аўтамабіль. А раней мы жылі ў мазурцы, гэта такая чаротавая хата, якую абмазваюць глінай і беляць. Вунь у Галандыі шмат цюльпанаў, але няма столькі, як у нас, чароту, якім там накрываюць дамы, каб было добра і цёпла. У Вылкаве ўсе ездзяць не на машынах, а плаваюць на прасмоленых лодках. У кожнай

[1] Вылкава – горад у Адэскай вобласці.

сям'і ёсць лодка для дарослых і дзяцей. І нават ёсць лодкі для кароў. У мяне таксама быў маленькі човен. Як толькі я пайшла ў першы клас, вылкаўскі майстар зрабіў мне чоўнік, яго бацька пафарбаваў у зялёны колер, а я назвала яго «Жабянятка». Замест вуліц у Вылкавым пратокі, а ўздоўж пратокаў ляжаць драўляныя кладкі, а яшчэ там шмат драўляных мастоў. У Вылкаве жывуць ліпаване[1], гэта такія барадатыя дзядзькі, што смешна размаўляюць і п'юць ваду з пратокаў; спачатку яе хрысцяць, а затым п'юць. Калі ў Вылкавым вяселле, то маладая ў вэлюме плыве на лодцы ад сваёй мазуркі[2] да мазуркі маладога.

На выспе ў нас быў свой агарод, на ім раслі трускаўкі і бульба, якія тата з мамай вазілі ў Адэсу на Прывоз. Бывала, тата браў мяне на агарод. Ён даставаў з дна глей, складаў на беразе, а калі глей падсыхаў, развозіў калёсамі і ўгнойваў агарод. У выхадныя тата, мама, дзядзька Барыс і я плавалі на Ачакаўскую выспу лавіць рыбу. Дзядзька Барыс даставаў з чахла гітару, мы распальвалі цяпельца, варылі з судака юшку, а дзядзька спяваў. Ён так добра спяваў, што ў мамы ўспыхвалі вочы і яна рабілася вельмі прыгожай. Хоць мая мама і так прыгожая.

– Твая Лэся – першая жанчына на Дунаі, – казаў бацьку дзядзька Барыс, калі выпіваў дзве кварты Вылкаўскага віна.

А тата толькі ўсміхаўся.

Аднойчы мы адпачывалі на Паўднёвай выспе, тата паплыў лавіць рыбу, мама з дзядзькам Барысам гатавалі юшку, а я глядзела на ружовых пеліканаў. Калі я падышла да агню, то ўбачыла, што дзядзька Барыс і мама цалуюцца, а ў казане кіпіць юшка.

– Хачу юшкі, – сказала я.

Мама спалохалася і адштурхнула дзядзьку Барыса.

– Зараз прыплыве твой тата, – адказаў дзядзька Барыс, – і будзем есці.

Затым прыплыў тата, мы елі юшку, а тата, мама і дзядзька Барыс пілі вылкаўскае віно. А калі тата хадзіў па сухі чарот, я бачыла, як дзядзька Барыс сціскаў маме руку, а мама адкідвала валасы рукой і здаволена казала:

– Перастань!..

Часам мы ездзілі ў Ізмаіл, Адэсу, Кілію, Прыморск. Але больш за ўсё мне падабаўся Белгарад-Днястроўскі. Там на лімане Старая Крэпасць з такімі круглымі вежамі. Я нават ведаю, як называюцца дзве вежы – Авідзія і Турма. Мы там часта фатаграфаваліся, але ў мяне застаўся толькі адзін здымак, дзе тата трымае мяне на руках. А ўсе астатнія мама парвала, гэты ж я схавала ад яе ў кнігу.

Калі ўвесну была паводка і пачыналі плыць у Дунай селядцы, Вылкава затаплівала, пад вадой хавалася вузенькая сцяжынка, што йшла ўздоўж агароджы, ёю хадзілі з адной часткі горада ў іншую. Калі мы жылі бедна, мама ўвесь час карміла мяне селядцамі, а я іх адсоўвала і казала:

– Што, зноў селядцы? І смажаныя селядцы, і салёныя селядцы?!

– Еж, – казала мама, – тады будзеш жыць доўга, як ліпаване.

– Я не хачу жыць доўга, я хачу жыць добра! – капрызіла я.

Але калі мы сталі жыць добра, забілі бацьку. Яго знайшлі ў лодцы з запечанай на скроні крывёю. Сказалі, што забілі вяслом, але хто гэта зрабіў, ніхто не ведаў. Спачатку да нас прыплывалі на лодках чужыя дзядзькі,

---

[1] Ліпаване – стараверы Расейскай імперыі, вядомыя з 17 стагоддзя.

[2] Мазурка – хата.

распытвалі маму, а потым перасталі. Толькі аднойчы, калі да нас прыйшоў дзядзька Барыс, я пачула, як цётка Нюся сказала дзядзьку Андрэю:

– Бач ты, псяюха! Грошы на чароце зараблялі разам, а цяпер забіў мужыка і цягаецца з яго жонкай!

– Маўчы, дзіця пачуе, – адазваўся дзядзька Андрэй.

– Яна яшчэ малая, – адказала цётка Нюся.

Тады я хадзіла ў другі клас.

Часам дзядзька Барыс у нас падначоўваў. Калі мама ўкладвала мяне спаць, я закрывала вочы, быццам сплю, і чула, як яны шэпчуцца і важдаюцца ў ложку.

Я вельмі сумавала па тату. У яго былі такія вялікія цёплыя рукі, якія падкідвалі мяне да столі і гладзілі па галаве.

Аднойчы я сядзела ў лодцы недалёка ад нашага дома. У дом я не хацела ісці, бачыла прывязаную лодку дзядзькі Барыса. Ён быў у мамы. Заплыла ў Ачакаўскае вусце, сядзела і глядзела ў плаўні. Мне ўспомніўся яшчэ жывы тата, як ён сядзеў на кукішках на беразе супраць нашае хаты, чысціў рыбу і мыў у Дунаі. Каля мяне ўскідвалася рыба, у вадзе стаяла нерухомая чапля. Над галавой са свістам праляцела чародка дзікіх качак, калі з супрацьлеглага берага хтосьці закрычаў. Я прыслухалася. Дзьмуў Фартуна, добры марскі вецер, што заўсёды прыносіць рыбу.

– Дачушка-а-а! – працягла данеслася з чароту.

Калі б нават гуло сто маторных лодак, то і сярод іх шуму пазнала б я гэты голас. Гэта быў голас майго таты. Я вельмі спалохалася, і хутка павеславала дамоў. Дома я распавяла маме, што ў плаўнях чула голас таты, а мама ўзлавалася і пабіла мяне. Увесь вечар я праплакала з лялькай у ложку, а мама з дзядзькам Барысам зачыніліся ў гасцёўні і гучна размаўлялі.

На другі дзень пасля школы я зноў прыплыла на тое ж месца і пачула, як з чароту данеслася:

– Дачушка! Дачушка!

Тата крычаў так працягла і доўга, што я вырашыла не расказваць пра гэта маме, каб яе не злаваць.

Я ні з кім больш не дзялілася сваёй таямніцай, толькі кожны дзень пасля школы плыла ў Ачакава, каб паслухаць тату. Аднойчы я ўбачыла яго на беразе, ён памахаў мне рукой і знік у плаўнях.

Улетку мы перабраліся ў Кіеў. Мама казала, што дзядзьку Барыса забраў з сабой адэскі дзядзька Сямён, з якім яны разам зараблялі грошы. Дзядзька Барыс ужо не возіць у Галандыю чарот, а з дзядзькам Сямёнам прадаюць у Кіеве рыбу. У іх такія вялікія машыны, якія развозяць яе па ўсім свеце.

Мы жывём утрох на Чырвоным хутары[1] – я, мама і дзядзька Барыс. Мама дапамагае яму займацца бізнэсам. А восенню я пайшла ў трэці клас. Я вельмі сумую па Вілкаве, там мой човен, а яшчэ больш я сумую па татку, пакінутым у плаўнях. Мабыць, ён да гэтага часу кліча мяне з чароту, а мяне ўжо там няма.

Дзядзька Барыс купіў нам дом з жоўтай цэглы пад зялёнай чарапіцай. З двума паверхамі і мансардай. Гэта такі яшчэ адзін паверх з няроўнаю столлю, як надрэзаны торт. Недалёка ад дома расце сасновы лес і круціцца чортава кола, ды я не люблю на ім катацца, баюся. Наш дом стаіць на

[1] Чырвоны Хутар – раён Кіева.

рагу вуліцы, дзе паварочвае дваццаць дзявяты трамвай. А каб трамвай не сышоў з рэек і не заехаў у наш дом, яго абнеслі каменнай агароджай з рассоўнай зялёнай брамай. Ля варот вісіць зялёная паштовая скрыня. Але ніхто нам не піша, толькі часам прыходзяць квітанцыі за ваду, святло і тэлефон. Мне падабаецца наш дом, дрэнна толькі, што ён насупраць бальніцы, белай, як бальнічны халат. У гэтай бальніцы хварэюць не толькі людзі, але і дрэвы. У двары бальніцы ўсыхаюць хвоі, і я баюся, каб гэтыя хваробы не залезлі праз каменны плот да нас.

Раніцай дзядзька Барыс з мамай едуць у свой офіс і вязуць мяне на машыне ў школу. У дзядзькі Барыса цёмна-чырвоны аўтамабіль, як кроў на віску у мёртвага таты. Пасля школы я еду дадому ў трамваі сама. Мама купіла мне праязны білет. Мая школа знаходзіцца на вуліцы Ялцінскай, 13. Ад дома да школы трамвай ідзе дзесяць хвілінаў, а маршрутка – пяць. Але я не люблю ездзіць маршруткай, бо ёю часам можна прамінуць свой прыпынак і заехаць далёка ў горад. А яшчэ з яе вокнаў не паспяваеш разгледзець ляжачы дом. Ён не таму ляжачы, што ўпаў, а таму, што яго такім нехта пабудаваў. Калі я вяртаюся трамваем дадому, выглядваю з акна, каб убачыць, як смешна гэты перавернуты дом кранаецца дахам зямлі, быццам яго хтосьці зваліў на бок. Гэта – шынок «На бачок». Такіх дамоў у горадзе больш няма, толькі на Чырвоным хутары.

Дома мяне заўсёды чакае гувернантка Ліна, якую наняў дзядзька Барыс. Яна вучыць са мной англійскую, нямецкую і правільную ўкраінскую, бо ў нашым чаротавым раі, як кажа мама, жудасная гаворка.

– Guten Tag, meine liebe Püppchen[1]! – кажа гувернантка.

– Guten Tag, Frau Lina[2]! – адказваю я.

Ліна на розных мовах распавядае смешныя гісторыі. Яна марыць выйсці замуж, пабудаваць прыгожы дом і акружыць яго ружамі. Ліна любіць каву і мужчынаў, а я люблю тату і марозіва.

Але ўсе чамусьці не любяць мяне, асабліва ў школе. Кажуць, што я надзьмутая і не такая, як іншыя, бо не ведаюць, што сумую па тату, таму ў школе мне не вельмі добра.

Аднойчы я ішла са школы і каля гульнявых аўтаматаў на мяне напалі трое хлопчыкаў з майго класа. Яны вырвалі мой заплечнік, трапалі мне валасы, а я крычала і адбівалася.

– *Нова корова! Нова корова*! – дражнілі яны і паказвалі языкі.

Міма праходзілі людзі, але ніхто нас не раздымаў. І калі мяне піхнулі, я ўпала і разарвала калготы. Хтосьці з дарослых накрычаў на хлопчыкаў, і яны ўцяклі. Я падцягнула калготкі, азірнулася і ўбачыла тату, што памахаў мне рукой і знік у трамваі.

Маме я пра гэта не сказала, таму што яна не любіць, калі я ўспамінаю бацьку.

– У цябе ёсць лепшы тата, – кажа маці.

– Ён мне не бацька, – адказваю я, – а дзядзька Барыс.

– Ён цябе корміць! Апранае! У школу возіць! Дом купіў, а ты на яго кажаш «дзядзька»! – злуецца мама.

Тады я плачу і гучна крычу, што ўсё роўна гэта не мой тата.

Аднойчы мама мяне пабіла і я не захацела ехаць дадому, села каля школы

---

[1] Дзень добры, мая лялечка! (ням.)

[2] Дзень добры, пані Ліна! (ням.)

ў жоўтае маршрутнае таксі і паехала ў горад. Куды ішло таксі, я не ведала, памятаю толькі, што праехала чырвоную бензазапраўку і мост, пад якім было шмат чыгуначных пуцей. Ехала я, пакуль хтосьці гучна не сказаў:

– Станцыя метро «Чарнігаўская».

Я ўжо бывала на «Чарнігаўскай», калі наш клас вазілі ў музей мастацтваў імя Ханенкаў. Гэта такі прыгожы дом, у якім шмат карцін. Калі я затрымалася каля страшнай карціны з людзьмі, падобнымі да жывёлаў, і звярамі, падобнымі да людзей, усе дзеці з настаўніцай перайшлі ў іншую залу. А мае ногі як хто прыляпіў да падлогі. Я не магла зрушыць з месца і з жахам глядзела на карціну. І тады адчула, што ў зале яшчэ нехта ёсць. Я азірнулася і ўбачыла бацьку. Мне падалося, што ён выйшаў з гэтай карціны, ціхенька стаяў і назіраў за мною. Я вельмі спалохалася і кінулася туды, дзе чуліся дзіцячыя галасы. Да маіх ног былі прывязаныя вялікія лямцавыя тапкі, праз якія я спатыкнулася і з шумам упала на падлогу.

– Ты не забілася, дзяўчынка? – Спытала цётка, што прыглядала за карцінамі.

Я нічога ёй не адказала, дагнала дзяцей і ўвесь час азіралася, калі мы хадзілі ад карціны да карціны і слухалі, што распавядае экскурсавод. За мной следам хадзіў тата, быццам разглядаў карціны. А калі мы выйшлі з апошняй залы, я асмялела і пачала прабірацца да яго бліжэй, але тата знік.

Таму «Чарнігаўская» мне падалася вельмі далёкай ад дома. Я спалохалася, што так далёка сама заехала, і выскачыла на прыпынку. Там я спытала тоўстую цётку, як мне вярнуцца на Чырвоны Хутар.

– Табе трэба перайсці на другі бок вуліцы! – сказала яна.

Як толькі я гэта пачула, адразу кінулася цераз дарогу. На дарозе было шмат машынаў. І калі прасігналіў аўтамабіль і завішчалі тармазы, мяне хтосьці падхапіў, вынес на тратуар і падштурхнуў да падземнага перахода. Я не ведала, што гэтую вуліцу трэба пераходзіць пад зямлёй. Толькі не заўважыла, хто мяне выхапіў з-пад колаў, а калі азірнулася, то ўбачыла бацьку. Ён развітальна памахаў рукой і згубіўся ў натоўпе.

Пра гэта я нікому не расказала, але пасля адна ўжо нікуды не ездзіла, а адразу спяшалася дадому.

Аднойчы я ехала ў трамваі і адчула, што мне ў спіну нехта глядзіць. Я азірнулася. У канцы вагона сядзеў бацька. Ён глядзеў на мяне і маўчаў. На ім быў шэры касцюм і чорная кашуля, у якіх ён быў, калі яго забілі. Але гэты касцюм і кашулю аддала мама дзядзьку Андрэю, падумала я. Адкуль ён іх узяў?

На наступны дзень я зноў убачыла ў вагоне тату. Ён сядзеў на тым жа месцы і глядзеў на мяне. Я хацела да яго падысці, але пабаялася. У наступны раз я да яго абавязкова падыду, падумала я.

Так і зрабіла. Як толькі ўбачыла яго ў трамваі, адразу пайшла ў канец вагона. Ён сядзеў, як заўсёды, і глядзеў на мяне. Я падышла да яго, тата нейк дзіўна ўсміхнуўся. Я падышла бліжэй, на адлегласць выцягнутай рукі, і на нешта натыкнулася, што мяне не пускала. Мне стала страшна. Я чула, як гучна, на ўвесь вагон, б'ецца маё сэрца, але ніхто чамусьці не зрабіў мне заўвагу:

– Дзяўчынка, чаму ты так гучна грукаеш сваім сэрцам? Хіба ты не здагадваешся, што нам перашкаджаеш?

Я так спалохалася, што стрымгалоў кінулася ад прыпынку да брамы, націснула на кнопку і закрычала гувернантцы ў дамафон:

– Адчыні! *Открой*!

Я была вельмі напалоханая, таму распавяла Ліне тое, чаго не ведала мама. Мая гувернантка была з Цярнопаля, мама казала, што там шмат вернікаў, яна ўважліва мяне выслухала і стала вельмі заклапочаная. У гэты дзень яна не гаварыла са мной ні па-ангельску, ні па-нямецку, а толькі па-ўкраінску. Увечары Ліна распавяла пра ўсё маме, а на наступны дзень павезла мяне на Аскольдаву магілу ў грэка-каталіцкую царкву. Там Ліна купіла свечку, загадала, каб я запаліла яе ад іншай свечкі і паставіла перад абразом. Я толькі забылася, як ён называецца.

З тых часоў тата са мной больш не ездзіць, а я па ім пачала яшчэ мацней сумаваць. Калі мамы і дзядзькі Барыса няма, я выцягваю з паліцы кнігу «Калі яшчэ звяры гаварылі», дастаю адтуль адзіную татаву фатаграфію, дзе ён у Старой Крэпасці трымае мяне на руках. Я гляджу, які тата малады і прыгожы, як ён мяне любіць, і шкадую, што мама парвала яго здымкі. А гэтую фатаграфію яна не знойдзе, я яе хаваю. Толькі не трэба было пра ўсё расказваць Ліне, а то яна свечкай адагнала ад мяне тату. А я так хачу, каб ён да мяне хоць часам прыходзіў. Хай нават не ездзіць са мной у трамваі, а з’яўляецца хоць бы здалёку, каб я бачыла яго ўсмешку або ўзмах рукі.

Але прайшоў месяц і другі, і трэці. Выпаў снег і пачалася зіма, а тата больш не з’яўляўся.

На Новы Год я паклала пад падушку татаву фатаграфію і папрасіла Святога Мікалая, каб ён прывёў да мяне ў госці бацьку.

А калі раніцай я яшчэ спала, то пачула скрозь сон, як мама нешта падсоўвае мне пад падушку. Яе рука замерла, а потым я пачула, як яна нешта рве. Я адкрыла вочы і ўбачыла, што яна злосна дарывае татаву фатаграфію. У мамы выпінаецца маленькі круглы жывоцік, Ліна кажа, што ў мяне будзе брацік ці сястрычка. Я заплакала, а мама працягнула мне мабільны тэлефон, такога маленькага памеру кніжачкай. Я яе ўвесь час прасіла яго купіць. Усю раніцу мама крычала, што я пустая і нікога не слухаюся. А калі я паглядзела ў акно, то ўбачыла, як на замерзлым шкле звонку хтосьці намаляваў сэрцайка, быццам прахукаў шкло і пальцам абвёў контур. Толькі хто яго там намаляваў? Мы не адкрываем вокнаў, таму што на двары вельмі халодна. І я здагадалася, што гэта Святы Мікалай пачуў маю просьбу і прывёў тату.

Сёння пасля школы я зайду ў трамвай, схаваюся ля задніх дзвярэй, буду ехаць і чакаць тату. Ён зойдзе нячутна, сядзе на сваё месца, будзе сядзець і ўсміхацца. Я ціхенька падыду ззаду, моцна ўхаплю яго за руку, а ён пагладзіць мяне па галоўцы і скажа:

– Ты прыйшла, дачушка?

## Вушы

Усё жыццё Зіна Чэчаль саромелася сваіх вушэй. І не тое, каб яны былі ў яе вельмі ўжо вялікія, не. Проста вушы былі адтапыраныя. Спачатку Зіна баялася, што з такімі вушамі яе ніхто не возьме. А калі выйшла замуж за Жору, стала перажываць, што і дзіця можа нарадзіцца з такімі вушамі.

«Яшчэ добра, калі хлопчык, – думала Зіна, – а як дзяўчынка?..»

Дзіця нараджаць яна паехала да бацькоў у Оўруч. Спачатку неба змілавалася над яе страхам, і Зіна нарадзіла хлопчыка. Прыкідвала, што

назавуць яго Багданам. Жора ў гэты час абараняў у Кіеве дыпломную працу, і Зіна адразу ж папрасіла маму адправіць яму тэлеграму: «Віншую з хлопчыкам. Падобны да цябе. Тры пяцьсот. Вушы не тырчаць». І як сурочыла, бо вечарам, ці на другі дзень, заўважыла, што ў дзіцяці адтапырыліся вушкі. Зіна прытульвала іх да галавы і яны трохі трымаліся, але хутка разгортваліся, як развараныя варэнікі. Завязвала на ноч хустку, бінтавала, але яны ўсё роўна тырчалі.

«Што зробіш?.. – падумала Зіна. – Мая мама з такімі вушамі, мая бабуля была з такімі вушамі, і мой Багдасік будзе, мабыць, з такімі вушамі».

Так яна з гэтым і змірылася, але не зміраўся малы Багдан. Як толькі падрос, стаў у яе пытацца:

– Мам, а чаму ў мяне вушы так тырчаць?

– Ну чаму тырчаць?.. – адказвала мама Зіна. – Проста ў мяне такія вушкі і ў бабы Галі, і ў прабабулі Любы таксама былі такія вушы.

– А ў таты ж не тырчаць, – надымаўся малы.

– У таты не тырчаць, – пагладзіла па галаве хлопчыка, – але ў мамы тырчаць.

Багдан змоўк і доўга глядзеў, як шалёна сноўдаецца атручаны прусак.

Неяк перад днём нараджэння мама Зіна пацікавілася, што хлопчыку падарыць.

– А запішы ўжо мяне на нейкую аперацыю, ці што, – насупіўся малы.

– На якую аперацыю?! – аж падскочыла мама Зіна.

– Вушы падправіць.

– Ах ты ж, Госпадзе! – пляснула рукамі мама Зіна. – Што ты да гэтых вушэй прычапіўся?

Яна ледзьве ўладзіла непрыемную размову, купіла Багдану ролікавыя канькі, і ён перастаў гаварыць пра вушы.

Але перад Зялёнымі святамі хлопчык разбіў кубак з бабінага сервіза. На што ўжо баба Галя ласкавая да яго, і тая крыкнула:

– Вось ужо лапавухі!

Пасля гэтага Багдана як падмянілі. Ён глядзеў на лапухі пад плотам, і яны нагадвалі пра яго вушы. Увайшоў у сад, а на вішні – драўляны грыб.

«І вішня вушатая», – падумаў хлопчык.

Таму як сцямнела, не вячэраўшы, заснуў. Прысніўся яму бязмежны стэп. Ідуць яны з бабай Галяй стэпам, і тут яна паказвае палкай на далягляд:

– Ву-у-унь там узыдзе сонца. Ву-у-унь там.

А замест сонца на ўвесь гарызонт вырасла велізарнае чырвонае вуха...

З часам хлапчына, калі глядзеў на людзей, адразу звяртаў увагу, якія ў каго вушы.

– Баб, – спытаў неяк Багдан, – а чаму ў мяне такія вялікія вушы?

– Таму што даверлівы, – пазяхнула баба Галя, седзячы на ганку.

– А раскажы мне, – цягнуў сваё Багдан, – якія ў тваёй бабы былі вушы?

– Вось зараз усё кіну і пачну табе распавядаць, якія ў маёй бабулі былі вушы, – раскудахталася баба Галя і заскрыпела сківіцамі. – Вунь лепей бяжы пад грушу і збяры падаліцы.

«З такімі сваякамі хіба пагаворыш пра вушы?», – засумаваў Багдан і выправіўся да дзядзькі Мікалая, у якога хата была застаўленая кнігамі пра войны, паходы, палітычныя інтрыгі.

– Не думай ты пра гэтыя вушы, – сказаў дзядзька Мікалай, – бо чым болей пра іх думаеш, тым большымі яны будуць у цябе расці.

– Як жа не думаць, калі штодзень бачу іх у люстэрку, – паскардзіўся хлопчык, – і ў школе чапляюцца, дражняцца: «Багдан-вушан».

– Вунь у гетмана Мазепы, – паказаў дзядзька кнігу, – былі такія ж вушы. І ў філосафа Скаварады не лепей.

– Дык, можа, іх, гэткіх разумных, не так чапалі, – заныў хлопчык. – Бачыш, якія?! – у роспачы ірвануў сябе за вушы.

Дзядзька Мікалай падарыў яму кнігу пра выдатных людзей.

– Калі будзе дрэнна, – параіў Багдану, – паглядзі на вушы гэтых паважаных людзей, пачытай, чаго яны дамагліся, і табе стане лягчэй.

Але Багдану лягчэй не рабілася.

Аднойчы ён збіраўся з хлопцамі на рэчку, як раптам гукнула яго баба Галя:

– А хадзі сюды, – паманіла пальцам. – Ты на рэчку сабраўся, так? А ці ведаеш, што сёння купацца нельга?

– Гэта чаму?

– Бо сёння Ілля. Пакупаешся, дык з дупы вярба вырасце.

– Ой, а што ж рабіць?

– Во-о-о. Ты лепш пайдзі і збяры ў садзе падаліцы. – Багдан надзьмуўся, але ўзяў кош і паплёўся збіраць грушы. На бітых грушах лазілі восы, і адна ўкусіла яго за руку. Ён нарабіў крыку на ўвесь двор. Баба Галя, цяжка сапучы, выцягнула джала, прыклала да ўкуса нож.

– Як пухліна спадзе, бяжы гуляць. Але доўга не шлындай, бо прыйдзе маці – крычаць будзе.

Багдан, не счакаўшы, пакуль спадзе пухліна, выграб з пенала назапашаныя дзевяноста капеек і пайшоў у горад. Купіў марожанае і, наласаваўшыся, круціўся між гандлёвымі шэрагамі на Жытнім рынку.

Па абедзе, калі сонца зачапілася за найвышэйшы будынак, Багдан убачыў вушастага дзядзьку. Ну такога вушастага! Проста вельмі вушастага... Яго буйныя мясістыя вушы тапырыліся, а з вушэй тырчалі жорсткія чорныя валасіны. Гэты пузаты дзядзька ў белых штанах і белай тэнісцы з велізарным херсонскім кавуном у руках нагадваў белы дырыжабль. Багдан зачаравана брыў за ім, пакуль той не зайшоў на вуліцу Барыса Тэна. З гадзіну хлопчык круціўся вакол будынка, у які ўвайшоў дзядзька. Тады наважыўся прыадчыніць жалезную брамку і зайсці ў двор. У двары лютаваў калматы сабака, хрыпеў і напінаў ланцуг. Хлопчык пазваніў у дзверы і назіраў, як поўзаюць па ганку чырвоныя драўляныя клапы.

За дзвярыма зашоргала, пстрыкнуў замок, адчыніліся дзверы. З хаты патыхнула кіслым паветрам, якое бывае ў адзінокіх мужчынаў. Дзядзька ўбачыў хлопчыка.

– Ну? – прамовіў і заварушыў вушамі. Хлопчык сабраўся з духам і закрычаў:

– Як вы жывяце з такімі вушамі? Я ўжо не магу!

– Ціха, ціха! – замахаў рукамі дзядзька. – З нашымі вушамі затое глухіх не бывае, – і зацмокаў языком: цмок, цмок, цмок. – Хочаш кавуна? – Багдан кіўнуў. – Сядай тут. Не бойся, – усадзіў нож, кавун трэснуў, і з яго пацёк сок. – Добры кавун, сакавіты кавун, – прыцмокнуў дзядзька і працягнуў Багдану лусту. – У цябе ёсць вушы, – выплюнуў у жменю бубкі. – Думаеш, такія вушы ў цябе проста так? Проста так нічога не бывае. Ты не такі, як усе, – чаўкнуў кавуном дзядзька і гучна адрыгнуў. – Паглядзі на свае вушы. Бачыш, яны вышэй броваў. Значыць, цябе чакае

добрая кар’ера. А гэтая радзімка кажа, што ты асёл. Калі табе ў галаву нешта стрэльне, цябе ўжо не спыніць ніякая балячка.

– Не хачу я такіх вушэй, – надзьмуў губы хлопчык.

– Калі ў чалавека вялікія вушы, – зачвякаў кавуном дзядзька, і сок пацёк яму па шыі, – гэта не значыць, што ён непрыгожы. Проста ў яго такая эстэтыка.

– Я хачу маленькія вушкі, – усхліпнуў Багдан.

– Маленькія прылеглыя вушкі ў зласлівых людзей, – выплюнуў бубкі дзядзька.

– А я хачу *такія!*

Дзядзька павярнуўся, затуліў сабой акно і стаў падобны на вялікага надзьмутага крумкача.

– Ты хто такі – Бог?! – аж захлынуўся ад абурэння ён. – Ты ведаеш, што ў чалавека кожная радзімка нешта значыць? Я ўжо не кажу пра вушы, дзе кожная зморшчынка або мочка можа расказаць, што ў цябе на вяку напісана. Твае бацькі могуць заплаціць грошы, і табе зменяць вушы. Ды пасля гэтага цябе так выверне, што не рады будзеш сонейку.

– Ну, і няхай! – закрычаў Богдан. – А я ўсё роўна не хачу такіх вушэй!

– Цішэй, – раззлаваўся дзядзька, – бо накаркаеш!

Яны змоўклі і глядзелі, як даўжэюць цені. Над кавуном круцілася надакучлівая муха, і дзядзька зганяў яе рукой.

– Хто вы? – спытаў хлопчык.

– Хо-хо! – заквахтаў дзядзька, і ў яго грудзях зайграў гармонік. – Можа, я цар лапавухіх.

– Тады я пайду? – ціха папрасіўся хлопчык.

– Ідзі! – зачмякаў кавуном дзядзька.

Дома Багдан доўга сядзеў пануры, а потым пачаў даводзіць маму Зіну да шаленства.

– Ды ў Жытоміры ніхто табе тых вушэй і не паправіць, – зашамацеў газетай тата Жора.

– Дык у Кіеве, – заскуголіў Багдан.

– Цішэй, зараза ты гэткая, а то як дам зараз па тых вушах! – сарвалася мама Зіна і пашкадавала, але што ж.

Увесь вечар і раніцу ўсю сям’ю калаціла ад Багданавай істэрыкі. Раніцай мама Зіна забылася зняць з галавы бігудзі. На вуліцы Усходняй яна заўважыла, што ўслед ёй азіраюцца мужчыны, а нейкі аўтамабіль павольна ехаў за ёй, і з акна высунуўся мардаты мужык.

«Мабыць, я сёння вельмі прыгожая», – падумала мама Зіна і радасна завіхляла клубамі.

Яна так і прыйшла б на працу, калі б не прадаўшчыца, у якой купляла станік.

– Жанчына, – нагнулася да яе прадаўшчыца, – вы, напэўна, сёння ў люстэрка не глядзеліся?

– Што? Дзе?! – спалохана закружылася мама Зіна, облапваючы сябе з усіх бакоў.

Паглядзела на ногі. Калготы цэлыя, нацягнутыя правільна, пяткамі назад.

– Ды не там, – зашаптала прадаўшчыца, – на галаве.

Яна торкнула, а там бігудзі.

«Ну, усё, – падумала мама Зіна, – дастаў ён мяне сваімі вушамі. Трэба нешта рабіць».

Пасля гэтага яна адвезла Багдана ў Кіеў, і там яму падцягнулі вушы.

Хлопчык не адыходзіў ад люстэрка. Змяніў прычоску, стаў прычэсваць валасы назад. Некаторы час, праўда, у школе называлі яго Новыя Вушы, ды пасля кінулі.

А праз год у сям'і адбыліся змены. Пачаў співацца тата Жора. Ён прыходзіў дадому позна п'яны. Курыў, чапляўся на кухні за зэдлікі, лаяўся, біў посуд, а ўначы гучна хроп і рыпеў зубамі. Мама Зіна перастала з ім спаць і перасялілася ў пакой да Багдана. І так працягвалася доўга, вельмі доўга. Пасля Багдан заўважыў, што мама Зіна стала нейкая не такая. Яна даўжэй круцілася перад люстэркам, у яе з'явілася прыгожая бялізна з карункамі, дарагія духі. Прыходзіла дадому позна, пахла віном і цыгарэтамі, была задаволеная і да ўсяго абыякавая. Доўга плёскалася ў ваннай, а потым пры святле таршэра ляжала ў ложку, гартала жаночы часопіс і пра нешта марыла.

Пасля Спаса злегла баба Галя. Ад сварак з бацькам Жорам у яе здарыўся сардэчны прыступ. І яшчэ бабу Галю даймала ўдушша. Яна цяжка сапла ў ложку, мама Зіна купляла ёй гармоны і астматычныя аэразолі.

У абед мама паслала Багдана ў аптэку па лекі, а калі ён вярнуўся, то ўбачыў, як бабу выносілі на насілках і запіхвалі ў машыну "хуткай дапамогі". А мама Зіна ў чорнай хустцы завешвала люстры.

Два дні назіраў Багдан, як прыбіраюць бабу Галю, як капае са свечак воск, шэпчацца радня і суседзі, як бабу ў жоўтым аўтобусе вязуць на могілкі, як раздзімае шчокі духавы аркестр, плача мама Зіна і п'яна смаркаецца тата Жора, як перадаюць за сталом з рук у рукі міску з куццёю.

Усю ноч ішоў дождж і выў вецер. Багдан прыціскаўся да мамы Зіны і спалохана шаптаў:

– Мам, аддай мне старыя вушы.

– Навошта?

– Я хачу, каб была жывая бабуля Галя і не піў тата Жора, і каб у нас было ўсё, як раней.

– Памаўчы, – стомлена ўздыхнула мама Зіна – не вяртаецца тое, што не вяртаецца.

Багдан усхліпнуў і падсунуўся пад цёплую мамчыну руку.

– А чаго так вые вецер?

– Гэта баба Галя плача.

– Так агідна плача, – спалохана дрыжаў хлопчык.

– Спі, – хрыпла сказала мама Зіна.

А раніцай яны ўбачылі ў садзе зламаную вішню, на якой сядзела старая варона і доўга скрыпуча каркала.



спадчына

Уладзімір Караткевіч



...не хочацца працаваць, калі не верыш у патрэбнасць працы, калі рабіў бы яе па-іншаму, а тут соты раз чаўпеш тое самае....

# ...Трэба церабіць сваю сцежку

***Дзённік 1965-66 гадоў***

*Публікацыя Алены СІНЬКЕВІЧ*

*Падрыхтоўка да друку Пятра ЖАЎНЯРОВІЧА*

*28 чэрвеня*

Панядзелак, казалі продкі, не самы лепшы дзень, каб пачынаць нешта. Мы, аднак, з іхняй гэтай думкай не лічымся, як, шчыра кажучы, не лічымся ні з іхняй філасофіяй, ні з іхнімі запаветамі, ні нават з тым, што яны будавалі. А ўжо што не лічым за патрэбнае ваяваць за тое, за што ваявалі яны, – гэта і пагатоў. То чаму мне не пачаць і такой справы ў забаронены дзень.

Чаму пачынаю зноў пісаць дзённік – не ведаю. Я яго сто разоў пачынаў і кідаў. Кіну і на гэты раз, калі адчую, што галоўная мэта – пісаць праўду аб іншых і аб сабе – не выканана. А прамым штуршком гэтага пачыну, здаецца, ёсць тое, што жыццё і час плывуць між пальцаў, і не затрымаць, не вярнуць іх. Нельга ўскладаць на перагружаную памяць яшчэ і той цяжар, каб помніць, дзе што было і калі. І, у той жа час, страшна ад думкі, што мінаюць тысячы дзён, спраў, падзей, і забываюцца ў нетрах мозгу, і нічым іх не адновіш пасля: нібы і не жыў, не думаў. Нібы не чалавек, а малпа... Магчыма, ёсць

рацыя ў тым сцверджанні, што зямля – палігон для гіганцкага вопыту, расы – тое, што і расліны з мечанымі атамамі, кожны чалавек – мікракосм, які так ці іначай адказвае на спрадвечнае пытанне вялікага ўсесусветнага Розуму. І з бясконцых мільярдаў адка́заў урэшце вырасце адзін, адзіна верны Адказ. Успомніў з гэтай прычыны Зайцава[1] з ягонай тэорыяй. Пабольш бы гэткіх ерэтыкоў – не закісла б у твані зямля. Шмат у чым з ім не згодзен, але ён і іншыя такія – рошчына, без якой не было б і хлеба. Дык вось, калі чалавек памірае – токі мозгу, запісаныя іншымі людзьмі, раптам робяць велічэзную крывую на стужцы. Нібы выбух, нібы разрад энергіі і ўсяго, што было – Чалавек – у невядомае, у нейкі вялізны акумулятар, які ўсё зберажэ, нічому не дасць знікнуць.



*Уладзімір КАРАТКЕВІЧ. Рагачоў, 1966.*

Калі гэта так – непакоіцца не трэба. Не знікне **ўсё**, чым жыў чалавек (і гэта суцяшае), усё прыдасца, – і ў гэтым сэнсе Купала, Багдановіч, Дантэ – не маюць перавагі над кожным сярэднім чалавекам, а роля пісьменніка толькі, так бы мовіць, унутрызямная: ён дапамагае кожнаму члену сям'і чалавечай лепей думаць, узбагачае людзей і, такім чынам, робіць іх больш вартымі для Адказу.

Але калі гэта не так, калі няма недзе ў абшары цэнтра, які збірае інфармацыю мноства людзей з мноства светаў, – і які **нішто без яе**, – тады людзі не павінны забываць і дробязі, бо аднолькавую вартасць маюць "Ляжаць пакошаныя травы"[2] і заўважанае (а пасля пахаванае ў памяці) назіранне, скажам, аб тым, што белыя гарлачыкі пахнуць неаднолькава і "спектр" іхняга паху – ад смуроду да найтанчэйшага водару.

Калі акумулятар не той, галоўны, Адказ, а проста наша зямная культура, якая сальецца з іншымі **непасрэдна** пры сустрэчы з жыхарамі іншых светаў – тады нішто не павінна знікаць, нават бабуліна прыказка "задумаўся, як сабака ў чоўне" (так і ўяўляеш брыластага мардача, якога нясе плынню ў чоўне, а ён думае сабачымі сваімі думкамі: "А што ж рабіць?").

Тады ўсё самацвет, усё каштоўнасць. Тады патрэбен і гэты дзённік, як дзённік кожнага чалавека. А паколькі мы не ведаем, як яно там, то лепей па-мужыцку засцерагчыся.

Якой бы ні было лухтой тое, што тут запісана, гэта ўсё ж няхай сабе і цень думкі, але цень думкі рэаліста. Не таго, які лічыць, што на свеце няма нічога іншага за ягоны куртаты вопыт, а таго, які лічыць, што свет – рэч у шмат чым нязнаная, а таму дапускае, што ў ім могуць быць нечаканасці, што ў ім можа быць амаль усё, за выключэннем, вядома, абсурду.

Вось неяк і стаміўся пісаць. Ці выстачыць цярпення запісваць кожны дзень хаця б па радку?

У Рагачове, пэўна, хопіць. Тут добра думаецца. За адну ноч і палову дня я тут надумаўся больш, чым за тыдзень у Мінску, ды й адчуваю сябе лепей, чым усюдых. Людзям трэба жыць у вёсках і невялічкіх гарадках большую частку года. Толькі там яны – людзі. Хацелася б, хоць калі-небудзь, пабудаваць сабе хаціну на хутары Крыцкага, жыць там, пісаць, заўсёды мець чыстае сумленне, ні на хвіліну не адрывацца ад зямлі і ў яе ж калісьці легчы.

Шкада – ніколі, пэўна, гэтага не будзе. І з-за грошай, і праз іншыя прычыны. Чорны таксама ўсё жыццё марыў пра свае Цімкавічы, увесь час складаў з дачкою планы будучага дома, а памёр у каменных джунглях, змучаны безграшовасцю, крытыкамі, уціскам цэнзуры, знявечаны фізічна трыццаць сёмым годам – хай гэтаму году і тым, хто рабілі гэты здзек з сапраўдных, – вечная ганьба і (на зямлі яшчэ) помста.

*29 чэрвеня. Аўторак*

Другі дзень у Рагачове. Прыехаў пазаўчора ўвечары аўтобусам – нашы ўжо ляглі спаць. Узялі з дзядзькам[3] па чарцы, а пасля лёг і я. Раніцай прывёў усё ў парадак. І вось зноў круглы стол, за акном вінаград (лета такое позняе, што ён яшчэ не цвіў), на стале белая папера (раніцай схадзіў у горад, купіў яе, "Герояў 1863" і яшчэ сёе-тое), попельніца-певень, рукапіс "Хрыста"[4] і Біблія. Можна працаваць. Але ў той дзень узяў вуды і пайшоў да двох тычак. Крапаў вельмі рэдкі дождж, цвілі паплавы. Там, дзе вясною даўжэй стаяла вада, быў цэлы разліў кветак, старых знаёмых, з якіх я дзевяць дзясятых ведаю па імёнах і дзе яны любяць жыць. Бражанкі лёталі над сталёвай вадой, і заўсёды, здаецца, папарна, бо ў кожнай адбітак і таму ўражанне такое, што іх удвая больш. Рыба, як казаў адзін добры знаўца беларускай мовы, "не дзяўбла". Вярнуўся ў прысмерку.

Сёння з раніцы трохі скарачаў "Хрыста". Нешта не працуецца. І дарэмна, бо гэта трэба зрабіць за тыдзень, а пасля сесці за аповесць, дабіць і яе. Пасля прыйшоў Клятэцкі[5]. Паехалі маторкаю на бераг насупраць Турэйкі.<...>

Налавілі шмат рыбы і вярнуліся. Ноч за акном. На стале маім у вазе пяць півоняў, падобных на чашы са снегам. Толькі снег гэты жывы, з амаль нябачным для вока водкіддзем у ружовае.

Сёння чуў ад простага чалавека два тлумачэнні ў духу "тут нам истопник и открыл глаза". Першае – што атамную бомбу кінулі ў якасці помсты за Пёрл-Харбар. Другое – што вугаль і нафта – сляды мінулай атамнай вайны. Вугаль – ад дрэў, што загінулі, нафта – ад усяго жывога. Вунь як глыбока пранікла гэтае страхоцце і жах ягоны.

А тут – півоні. І ў кепскае не верыцца. Не можа яго быць, калі ёсць кветкі і прага жыцця.

*30 чэрвеня. Серада*

Устаў у сем гадзін, і вось ужо палова восьмай вечара, а яшчэ нічога не рабіў. Мала таго, амаль ні аб чым не думаў. Цэлы дзень забіў на скарачэнне сцэнарнага "Хрыста". Работа марудная, уцягнуцца ў яе катаржна цяжка. Першыя сорак старонак скараціў на 15 з паловаю. Заўтра прайдуся яшчэ і пастараюся скараціць напалову, бо далей скарачаць будзе цяжэй, а калі будзе скарачацца нават такімі тэмпамі, то будзе 100 ст. замест патрэбных 90. Пасля працы схадзіў на 15 хвілін у горад. За выключэннем нашых вуліц ён такі пясчаны, што ў ім можна здымаць сцэны для "вестэрнаў". Асабліва ля "чайной", пакуль там не было заасфальтавана. Так і ўяўляеш, ідучы па пяску, што вось зараз выйдуць тры браты-ворагі і трэба будзе падаць і страляць па ўсіх.

І вось хутка вечар. Сонца ў вінаградніку. Вельмі ціха. Трубіць недзе на рацэ

буксір. Хутчэй бы скончыць з гэтым сцэнарыем, дабіць аповесць і радыёп’есу па “Ладдзі”, а пасля без спеху ўзяцца за складанне зборніка “Лірыкі” і “Каласоў”.

Пэўна, ніколі гэтага не будзе, так заняты. А кінуць заняткі не магу. Хачу быць вольным ад усіх абавязкаў.

*1 ліпеня. Чацвер*

У аднастайнасці жыцця ёсць нешта чароўнае. Сёння, як учора і як заўтра. І добра жыць, і хочацца працаваць. Зрабіў яшчэ сорак старонак “Хрыста”. Увогуле пасля скарачэння з васьмідзесяці засталося сорак дзевяць. Усё яшчэ многа, але абразаць да канца не буду – я таксама біты, пакіну нешта і на трэці варыянт. Скончыўшы ўсё гэта, пайшоў з Сержам[6] на Рыжковіцу лавіць верхаводак і забіў на гэты малашаноўны занятак цэлы вечар. А я пляваў. Вудзяцца яны весела, на зубах хрумсцяць добра (фосфар для мозгу, хаця, калі ўлічваць мой мазгавы стан за апошні год – мне трэба знішчаць за дзень трох акул), і тут таксама ёсць свае сюрпрызы. Сёння, напрыклад, нечакана для самога сябе, спаймаў чахонь у паўтары мае далоні.

Пасля вячэры на хвіліну выйшаў у сад. Цёмныя дрэвы. Драбнюткі дождж сее мак.

І вось сяджу і запісваю. Ноч. На вінаград, які цягнецца ў неба, кладзецца адбітак з вакна. І калоціцца ў шкло вялізная шэрая мятлушка, чыясьці душа. Хто б гэта прыляцеў па мяне і да мяне? Можа, хххх[закрэслена]? Лухта! Нягледзячы на яе мінулы ліст, такі самы няшчыры, як і ўсе яны, як яна сама, я не хачу ведаць яе, помніць яе, наведваць яе. Усё мінула. Нічога ад яе не хачу. Быў час: было з кім спаць – не было з кім прачынацца. А цяпер і гэтага няма. Жыццё зноў набыло вышэйшую, спакойную сваю каштоўнасць. Ёсць і сябры, і жанчыны-сябры.

І з гэтымі словамі паставім на мінулым крыж. Не магільны, а той, што на раздарожжы, той, з якога пачынаецца новы шлях.

У які ўжо раз.

*3 ліпеня. Субота*

Вось і прапусціў дзень, хаця і каяўся, што “не буду”. А ўрэшце, ці першы раз я кажу сам сабе (не іншым – тут я з дзяцінства нязломны і “невыхавальны”) гэтае “не буду”? І ці ў апошні?

Тут, урэшце, ёсць апраўданне. Занадта аднолькавыя дні. Толькі што ўчора я прайшоўся па другой палове “Хрыста”, нічога не клеючы, а сёння прайшоўся яшчэ два разы, скараціўшы гэтыя 80 старонак на 29. Такім чынам, засталося ў мяне 102 старонкі пры норме 90-100. Заўтра пастараюся дабіць да 95-ці і адасласць, напісаўшы, што можна выкінуць яшчэ. Учора таксама зрабіў замах “на маленькіх”, на верхаводку. Спаймаў шмат, а дасядзеў да таго часу, калі плавок зліваецца з апошнімі адбіткамі дня.

Затое сёння пад канец дня быў царскі пір. Былі ў Гансоўскіх, запрашалі іх на дзень нараджэння Галі[7]. Урсік Альмавіч – дзіва. Масцю – спаніель, складам – хорт, жвавасцю – артуць + Робін Гуд + старызнік (бо вечна цягае старыя анучы, боты і панчохі). Адтуль пайшлі да Клятэцкіх. Пёс, які сігае цераз трохметровы плот, і яшчэ Інга, англійскі сэтар са шчанюкамі. Калі бачыць, што на яе не звяртаюць увагі, – кранае маленькай лапкай.

Дамовіліся наконт зімняй ваўчынай аблогі і наконт ліцэнзіі на лася (паспрабаваць раз у жыцці трэба).

Гаспадар – стары (два-тры гады) знаёмы. “Паляк” (гаворыць толькі па-беларуску), з хітрым зрокам гарэхавых цыганскіх вачэй, з густымі вусамі (мне б да

маёй паўсотні валасін дзясятая частка ягоных – быў бы Будзённы), з веданнем усяго, што робіцца на нашай натуры.

Палец-мезень рукі зламаны, і таму, калі падымае тост, здаецца, што назнарок адстаўляе яго, як капрызніца-паня. Эх, мне б тое паляванне, і тую Інгу, і ўсё. Цэлае жыццё мару аб сэтары (толькі не ангельскім, а ірландскім, агнявым), – але гэтага, відаць, таксама ніколі не будзе.

Пэўна, я сібарыт. Да сённяшняга вечара любіў усё беларускае (нават ласкавую грубасць, нават бесхрыбетнасць), акрамя каньяку. А сёння мы сядзелі ля акна, пілі гэты самы каньяк і закусвалі вялізнымі, з кулак немаўляці, ружова-жоўтымі і чырвонымі трускалкамі, што пахнулі ананасам. Нічога ў жыцці не было лепей. Урбанізм. “Румянасць булкі”, “ананасы ў шампанскім”, “лёды з бэзу”.

Словам – хоць ты права першародства прадай. І за гэтым пачэсным заняткам канчаткова ўпэўніўся, што я патрыёт, што “и дым отечества нам сладок и прыятен (Фу!) “приятен” (дзекала недабітае!), і што ўсё добра ў залежнасці ад абставін. Нават адзінае неперашакласнае на Беларусі – беларускі каньяк.

*17 ліпеня. Субота*

Усё пайшло кулём. 6-га атрымаў тэлеграму, што Геронім[8] едзе на юбілей Глебкі. І выехаў першым аўтобусам. Мяты, пыльны, зарослы ўваліўся ў нумар гасцініцы “Мінск” і знайшоў там яго і Грышку[9]. Былі на вечары. Наступныя два дні былі сапсутыя тым, што па яго вечна заходзілі. Вячэра, цверазілаўка, банкет, цверазілаўка. Толькі дзявятага засталіся ўрэшце адны, але тут да яго прыехала з Рыгі дзяўчына. Вось п’яная морда. І тут ужо яго перавыхавае толькі старасць, калі мы да яе дажывем. Былі ў той дзень на дні нараджэння ў Валі Барадулінай. Назаўтра (я не начаваў дома) з’явіўся дахаты, выпілі з Геронімам, пайшлі да Рыгора, а адтуль яны павезлі мяне на аўтавакзал. І паехаў я ў Рагачоў, і аўтобус зноў стаяў ля кожнага слупа. <...>

А ўчора званіў Генадзь[10]. Нас трох з Рыгорам прызываюць на Далёкі Усход[11]. Што ж, трэба ехаць. Прынамсі, хоць трохі незвычайнага, хоць неяк разбіць гэтае соннае кола быцця.

*8 жніўня. Нядзеля*

***Далёкі Усход***

Зноў вялікі перапынак. А здарылася за гэты час шмат. 18-га паехаў у Мінск, шукаў сяброў і не знайшоў. Выпадкова сутыкнуўся з Рыгорам і Валяй ля кафэ для “Моладзі”. А да гэтага некалькі гадзін сядзеў і не мог папасці ва ўласную кватэру: Геронім звёз ключ, а другі быў у Дамашэвіча, а таго не было. Глядзелі ў той дзень трох “Вялікую Айчынную” ў “Зорцы”. Няўдалы фільм. Усё хацелі ахапіць, а не здолелі амаль нічога.

Наступнага дня ўладжваў справы з грашыма і іншым такім. У Саюзе загадалі пазваніць А. Васілевіч, бо ў яе сёння будзе такая Вігурская, якая збіраецца перакладаць “Каласы” на ўкраінскую мову. Але тут прыйшла сама Алена, і пайшлі да Вігурскай у “Мінск”. Была размова на тэмы аб Шаўчэнку, аб перакладах, аб чалавечых якасцях геніяў, аб лёсе моў, аб пажарах, якія так нечакана (нібы перст лёсу) напаткалі публічную бібліятэку і мемарыяльную, адну з мемарыяльных хат, у шаўчэнкаўскіх мясцінах. Я спытаў, ці засталіся цэлыя ўнікальныя “Глагалічныя лісткі”. Выявілася, што згарэў украінскі аддзел. Гэта, вядома, лепей, чым калі б згарэла ўся бібліятэка.

У адзін з наступных дзён напісаў артыкул аб Агінскім. А так дні былі запоўнены самай бязглуздай лухтой. Божа мой, колькі дарэмна марнуецца часу, які ніхто ўжо табе не верне, не аддасць назад, які належыць нават не табе. А ты яшчэ, да таго ж, сам найгоршы марнатраўца.

23-га глядзеў “Мост цераз раку Квай”. Трубілі-трубілі, а гэта проста дэтэктыў. Першая палова – нішто, калі паядынак душ, а другая... Гінуць людзі, а табе гэта – як бы лялькі гінулі. Ды й тое, над некаторымі лялькамі з лепшых тэатраў плачаш, як над жывымі, а тут – пейзажы. Ды, здаецца, і ўсё.

24-га на студыі быў прагляд, пасля рэдсавет, а пасля я з Макаёнкам паехаў да яго на дачу. Цішыня і вялізная навальнічная залева. Вечарам сядзелі ў Лужаніна[12], гаварылі. Здаецца, памірыліся-такі. А колькі ён мне зла прычыніў. Ды добра хаця, што быў шчыры вораг, не ў прыклад некаторым іншым. І разумны, калі не асляпляла злосць. А каго яна не асляпляла? Лезлі мы з ім адзін на аднаго з вачыма, налітымі крывёй. А выявілася – прычыны не было, трэба было разабрацца, што за чалавек **для сябе і сяброў** другі. І выявілі мы ўзаемна, што абодва нішто сабе людзі. Ну й добра. Ну й няхай сабе і павек так. Я не супраць, калі не супраць ён.

Гаварылі добра, і жонка ў яго мілая.

Наступнага дня некалькі гадзін сядзелі з Л. у яго на дачы і абгаворвалі, што мне правіць у рамане. А пасля ўсе абедалі ў Макаёнка, а затым я кінуў іх за пулькай і пайшоў на аўтобус.

27-га ў 14 была рэдкалегія. Прынялі другі варыянт з папраўкамі.

28-га ў 9 быў у Паўлёнка[13]. Размова не дужа прыемная. Увогуле ён добразычліва ставіцца, але гэтая дурацкая прывычка нашых босаў: “Калі будзе гераічная камедыя – не дазволю”. А ён жа адзін з разумных. Я і кажу яму: “Вы ж разумны чалавек, а тут гаворыце, як бог ведае хто. Ну што будзе, калі мы ўсе так. Вы не будзеце дазваляць, Бычкоў[14] не захоча ставіць, я – пісаць не буду. Вельмі мне гэта не падабаецца. Гэта не метад. А калі метад, то метад ні ... няварты, нават таго, што мы сабраліся і марнуем час”.

А тут яшчэ Бычкоў мне распавёў прыемную навіну. Тамаз Меліява, аўтар “Белага каравану” (і таленавіты, чорт!) павёў сябе як апошняя свіння. Два гады назад яму Скварцоў[15] і Бычкоў расказалі аб “Хрысце”, я, думаючы, што будзе ставіць, напісаў яму. І вось... ён, не адказаўшы мне, здаў у главк гатовы сцэнарый. Процьма сумленных людзей на белым свеце. Напісаў аб гэтым ліст у главк. Калі рэзультату не будзе – падаю ў суд.

31-га апоўдні, здаецца, вылецелі на Маскву пасля саліднага абеду і, як казаў Тарас, “глумления”. Па Маскве пакутавалі цэлы дзень: з білетамі, з рэчамі, з іншым. Хіба што паелі ў “Арараце”. А пасля на Дамадзедава і на самалёт.

Ноч гэтая ляцела як птушка. У Хабараўску (здаецца) трохі перакусілі. Пасля селі ва Уладзівастоку і паехалі паўз сопкі і ручаіны пад дажджом у горад. Парка, дымны туман, усё размытае, як на японскіх гравюрах. Праязджалі Вугальную, дзе служыў да вайны дзядзька[16].

А потым горад. Хлопец, што ляцеў з намі, паказаў нам афіцэрскую гасцініцу, уладкаваліся, пайшлі вячэраць на марскі вакзал. Усё добра, але ў канцы тубыльцы з кітабоямі, напэўна, усе, як адзін, хватанулі такое “Па-лю-бі-ла ма-ра-ка”, што гэта нагадвала індзейскія скокі або танец людзей, якім 20 год забаранялі танцаваць.

Наступнага дня, 2-га, хадзілі па горадзе, сядзелі ля бухты. Вецер, хвалі. Між караблямі бочкі, скрынкі, каша водарасцяў. І гэты пах ёду. Мора люблю адразу за Беларуссю (во, сказануў афарызм! Проста хоць ты на магіле пішы!).

Былі ў палітупраўленні. Ідзе ўсё з ваеннай “чоткасцю”. Суткі не маглі атрымаць формы (калі атрымалі, то выявілася, што кіцелі “хб”, годныя толькі на караблі), двох сутак не было жылля і “довольствия”.

С полным удовольствием
Встанем на довольствие.

Урэшце, здаецца 3-га, пасялілі нас на базе чаўноў, на Мальцаўскай, у афіцэрскім інтэрнаце, пакой 9. І вось жывем.

У сераду толькі пагаварылі ў Саюзе. Ні д'ябла нам там не памаглі, ды ў рэдакцыі.

Тры дні я сядзеў у рэдакцыі і чытаў сваю "Баявую вахту". Лухта – газета! Афіцыйная да варацак. А калі цікавыя матар'ялы, то гэта тое, што паўсюль цікава: гісторыя флоту, адкрыццяў, розныя там выпадкі.

Мы не наракалі на недастатковую працу на гэтым тыдні. Лазілі на сопку і глядзелі на горад, валэндаліся ў порце і па вуліцах.

Учора пасля вячэры пайшлі з Рыгорам у порт. Вечар, гасне захад, ідзе некуды карабель з топавымі агнямі. За сопкамі імгла. Хмарка ляжыць на адной, як асяледзец у запарожца. Ловяць краснапёрак з пірса. У марскім смецці плавае дзіцячы мячык. А другі ўпаў у ваду (матросы гулялі), і вось адзін павіс на руках, дастаў яго нагамі і падаў сябрам. На караблях вячэрняя паверка. "Конва" хоча ўціснуцца між другіх суднаў. І на ўсім рабізна. Залатая па чорным – ад ліхтароў у ценю караблёў і блакітная па густым нябесна-сінім – ад месяца.

Сёння хадзілі на мора. Плаваў гадзіны тры, абсыхаў і зноў плаваў, скакаў з вышкі, заплываў за другую лінію бакенаў. Дзіва! Кожны дзень буду хадзіць.

А пасля – дзве гадзіны мінула – удрызг пасварыўся з Грышкам. Крычаў, што адзін бы я так далёка не паплыў (вядома, не паплыў бы, баяўся б за вопратку, а так вартаўнікі ёсць), што гэта – пыл у вочы, што гэта дзяцінства.

Якая ж гэта дзяцінства, калі гэта мне натуральна, калі я люблю гэта. Словам, папрасіў не ўказваць, бо я досыць для гэтага дарослы і ўжо дзесяць год жыву так, як хачу **я**, не патрабуючы ніякіх парад. Магчыма, перажываў, стоячы на беразе, але мне гэта таксама не трэба. Проста нервы ў яго развінчаныя ад нашага жыцця, ад усіх ягоных бед, ды яшчэ і ад агульнае нашае бяды. Цяпер не гаворым. Яны пайшлі ў горад. А я сказаў Генадзю, што я з Рыгорам гаварыць не буду да тых часоў, пакуль ён не пакіне даваць мне які б то ні быў "шэраг каштоўных указанняў, ды яшчэ падвышаным тонам". Бо смешна, калі шасцімесячны шчанюк вучыць гадавалага, што такое снег.

І вось сяджу. Выправіў пераклады маіх вершаў, зрабіў гэты запіс, а пасля вячэры буду выпраўляць раман. Вось і ўсё.

*19 жніўня*

Зноў нічога не адбылося за тыдзень. Тая самая рэдакцыя, у якой нічога не раблю (выправіў – бяздарна, як і ўсё, – некалькі матар'ялаў, часткова ўжо надрукаваных, вось і ўсё), тая ж дарога дадому, тая самая золь, імжа, духата і іншыя даброты.

Хіба што за гэтыя дні скончыў работу над апрацоўкай "Каласоў" па заўвагах Лужаніна. Усяго скараціў на 8 ½ аркушаў і яшчэ 6-7 засталося скараціць. Ведаю, будзе больш стройна і, аднак, штосьці згубілася. Штосьці ад непасрэднасці, калі апавяданне льецца само сабою – знікла. Не кажу, вядома, аб мове, хаця і тут у некаторых выпадках ёсць вядомы прыгнёт "цэнтральнага" дыялекту, як быццам ён лепшы. Але шкада і многіх сцэн. Калі паспею (а гэта наўрад), пад канец жыцця ўсё ж пакіну свой варыянт. А не, то давядзецца падумаць хаця б аб аднаўленнях таго, што папсавалі нажніцы ў прадчуванні іншых нажніц.

Сёння сяду за трэці варыянт "Хрыста".

*24 жніўня. Аўторак*

Скончыў учора вечарам сцэнар.

А раней напісаў яшчэ сёе-тое. 20-га ўзяў інтэрв'ю ў А.Ц. Абрашкі, старшыны падводнікаў (не ў чэшскім, вядома, сэнсе гэтага слова) – цудоўны, дарэчы, хлопец, – і напісаў артыкул. Дваццатага цэлы дзень правіў "Хрыста". 22-га былі з

Кляўком на пляжы. Грышка ўсе гэтыя дні прападаў і з'явіўся толькі ў нядзелю, паклікаў нас у госці да аднаго капітана на мыс Чуркіна.

Учора ўзяў з машынкі нарыс, вычытаў і аддаў. Пасля паехалі дамоў, скончыў тут апошнюю сцэну "Хрыста".

Ага, да таго як ехаць дамоў, былі ўтраіх з рэдактарам у адмірала Стральцова[17]. Прапанаваў ён дваім ісці на крэйсеры і мінаносцы на вучэнні за экватар. Як мінеш Карэйскі праліў – увесь час борт у борт амерыканскія караблі, а над галавою самалёты. Я загарэўся, але, бачу, хлопцы не хочуць. Тады адмовіліся – маўляў, на працу трэба. Тады ён прапанаваў другое: да 5-га верасня з'ездзіць па краі, паглядзець сёе-тое (машыну дасць Чарнышоў[18], камандзіроўкі – газета), а пасля ў верасні кожнаму па адным з трох маршрутаў: Сахалін, Саўгавань, Петрапаўлаўск. На караблі туды і назад. Згадзіліся.

Пасля абеду зноў на рабоце. Там мне Вася Жураўлёў расказаў, што такое рэйд, калі побач сёмы амерыканскі флот. Цікава, але цікава і другое. А наконт экватара, дык лепей наступным летам куплю (калі ўсё будзе добра) сабе і маці круіз. У крайнім выпадку цераз год.

Рэдактар нас адпусціў. Вечарам чытаў. Узяў кнігу "Прыморскі край". Шмат цікавага, але састаўлена па-ідыёцку, як многае ў нас. Часовага, што заўтра будзе нецікава або смешна, – многа. Прыродзе, гісторыі, выкапням, мору – з вераб'іныя нагавіцы.

Сёння зноў пасварыліся. Ды яшчэ пасля гэтага і жарты ў салдацкім гусце. Палову дня не размаўляем. Кудысьці хадзілі раніцай (можа, дамаўляцца аб машыне), кудысьці цяпер (можа, на радыё). Не клічуць – я і не йду. Хаця па справах агульных гавораць і ворагі. Ну і хрэн з імі, урэшце! Сёння шкадую, што адмовіўся ад В'етнама. Можа, яшчэ і не позна. Калі так, заўтра пайду па грошы і пагавару. Лепей хадзіць у трусах, тапачках і чахле на галаве, лавіць акул і бачыць бамбардзіроўшчыкі, чым ехаць у запаведнік з такой кампаніяй. Тыгры здадуцца анёламі Божымі.

З раніцы дождж. Пасля гарачае сонца. І вось у 16.15 зноў паліло. Даўно гэтай залевы не было, халеры. Цэлы дзень маўчаў (раніцай толькі з'ездзіў у рэдакцыю, занёс Жураўлёву часопісы ды зайшоў на пошту, прыехаў праз 40 хвілін, рэкорд), цэлы дзень пісаў лісты. Напісаў усім чыста. Магу цяпер ляжаць і пляваць у столь. Вось яна, якая гісторыя.

*29 жніўня. Нядзеля*

У сераду ўсё маўчалі. Паехаў у рэдакцыю, вычытаў нарыс і здаў яго сакратару. <...>

Паехаў дадому, узяў усе рукапісы, адвёз на галоўпаштамт і адправіў "авія". Каштавала гэта – страшэнна, але прынамсі цяпер магу быць спакойны. Самае позняе ў панядзелак яны будуць у Мінску, у рабоце.

Вечарам пазваніў Валера Зайцаў, сказаў, што будзе чакаць удома, бо сёння цэлы дзень патруляваў горадам. Прыехаў да яго, узяў апрацоўваць яго апавяданне, а пасля рушылі ў "Валну". Ён даваў мне кватэру і прапаноўваў скарыстацца з яе, але ў мяне не той быў настрой. Ды й наогул, знаёміцца вось так, не ведаючы, пра што гаварыць і што цябе вяжа з нейкім ледзь не першым-лепшым чалавекам – гэта ўжо не па мне. Патрэбна нешта большае, а так – сумна, і лепей проста добрая бяседа за келіхам віна.

Дамовіліся з ім, што раніцай прыйду да яго на працу, каб ехаць на іспыты, але выхад у мора сарваўся, я вырашыў быў ехаць яшчэ да аднаго тыпажа, на Эгершэльд, каб пісаць аб ім, але да абеду часу ўжо было мала, і я паехаў у музей Арсеньева. Цікавы музей. Трэба будзе абавязкова схадзіць туды яшчэ, на

больш доўгі час. Дзівосны краязнаўчы аддзел, мора і тайга. Гістарычны мог бы быць лепшы. Зусім мала, напрыклад, аб Бахайскім царстве. Аддзел сучасны, як звычайна, самы шэры і сумны з усіх.

Ну вось, вярнуўся дадому і тут, урэшце, выбухнуў скандал з трохдзённага мёртвага маўчання. Скандал да таго, што "людзі твайго паходжання так не робяць", "не падабаецца – перабраўся б ты адсюль" і г.д. <...>

Я таксама спачатку крычаў, што маё паходжанне, паходжанне маёй маці не чапай, бо я ягонае таксама не чапляю. Урэшце ўзаемна папрасілі прабачэння за грубасць: яны за ідыёцкія жарты і за тое, што лазілі ў стол, і за прапанову перайсці з пакоя; я – за словы, што буду "замок ад іх вешаць". Памірыліся, выпілі нават, а цень усё адно застаўся. Чорт пабірай, няўжо гэта ўсё ж такі "кожны памірае адзін". А можа, гэта і сапраўды так?

Пайшлі на пляж, там яны знайшлі знаёмых, а я пайшоў дадому, глядзеў "Зачараваны востраў". Здымкі цікавыя, але фільм – без цара ў галаве. Ні ідэі, ні адзінага стрыжня, ні патаемнай паэзіі – нічога. Калі спусціўся з кіназалы ў свой пакой – іх не было, але яны заходзілі. Рыгор прыйшоў уначы.

Раніцай прачнуўся, не хацеў нікуды ехаць. Хай сабе Зайцаў едзе на базу без мяне. Але ён праязджаў трамваем раней, сышоў, пазваніў, і я вымушаны быў ехаць з ім у бухту Уліс.

Ціхая бухта, яшчэ не абдзёртыя сопкі, няпахнучыя прыморскія кветкі. Падыходзім – і раптам белае воблака, ці то дым, ці то пыл, вартавыя ў процівагазах, рухаюцца дэгазацыйныя машыны, людзі ў супрацьрадыяцыйных касцюмах. Змываюць "попел" з чаўноў і тральшчыкаў.

І трывожны крык падыходзячай субмарыны.

...Гаварыў там са старшыной Пеставым. Цікавы чалавек. Пасля паехалі з Зайцавым дадому, пілі піва ў харошым рэстаранчыку "Прыбой". Яго ўпрыгожвалі кветкамі (і з густам, вось што дзіўна!) для нейкага маладзёжнага вечара.

Прыехаў. Хлопцы паехалі сяго-таго ўзяць і не вярнуліся. Усё ж кожны сам па сабе – адзін, відаць, я, дурань апошні, за ўсіх.

Наступны дзень, учарашняя субота, добра, здаецца, давёў гэта. Раніцай з'ездзіў у рэдакцыю – ганарар будзе толькі ў панядзелак. Прыехаў дамоў, напісаў нарыс аб У. Пеставе, карацюсенькі. А пасля давялося выручаць хлопцаў з іх пазаўчарашніх прыгод. Дапамог Зайцаў – інакш не ведаю, як бы і выкруціўся. <...> Урэшце, чорт з імі. Сарваліся, як з ланцуга, а мне тут не развага, а хутчэй адпачынак ад свайго мінскага жыцця. Ды й грошай мала. Толькі што маральна бывае нявесела. І таму вырашыў – не ведаю, як атрымаецца, – што таксама не буду вельмі ўжо распінацца. Атрымаю сёе-тое – паеду сам шукаць прыгод, знайду, з дапамогай Валеркі, сейнер, выйду з рыбакамі, з'езджу на Пуцяцін і ў нейкія бухты, у Кедравую Падзь. Выпіць я й дома магу, і чаго тады было ехаць сюды, калі нічога й не паглядзіш.

Яшчэ ўчора пачаў апрацоўку "Адной з многіх", але зрабіў мала. Не варыла галава, то пайшоў да матросаў на "Інспектара інкогніта". З найлепшымі намерамі фільм, але выкананне шмат у чым прымушае чакаць лепшага. Ды і схожасць з "Рэвізорам" раздражняе. Гэта не "Паліто" і не "Белыя ночы". А ўвогуле фільм нішто.

Сёння зрабіў, урэшце, "Адну з многіх". Уласна, перапісаў апавяданне нанава. І стыль, і вобразы зрабіў, і характары. Заўтра дам яму прачытаць, пасля адвязу яго і нарыс у рэдакцыю і здам на машынку, вазьму ганарар і сустрэнуся недзе з хлопцамі. Яны за гэты час зойдуць у крайкам наконт камандзіровачных, а пасля разам зойдзем на радыё і тэлебачанне.

А сёння яны рушылі некуды на пляж, а я сяджу і раблю гэты запіс. Пасля пайду на "Я – Куба". Сцэнар быў у Еўтушэнкі трохі прэтэнцыёзны, у гусце Дабралюбава і інфантыльных хлопчыкаў з УДІК'а, але цікава. Што, хацелася б ведаць, зрабілі з яго Калатозаў з Урусеўскім?

Пад вечар зноў дробненькі дожджык. Смяротная, раптоўная, вострая туга па радзіме. Абрыдла ўжо мне тут. Тое нешматлікае, што ўбачыў, – цікава. Але кветкі не пахнуць (туман з'ядае водар), садавіна дробная. І гэтыя дажджы. І восень прапала (пра лета ўжо і не кажу). А скора ў нас на паплавах, на колкім атаўішчы, між цёмна-сініх старыкоў, са стрэльбай і сабакам... А неба якое празрыстае, і як далёка, далёка, вельмі далёка відаць.

Прыеду – будзе кастрычнік. Зноў зіма. Хутка, нібы ў сне, праляцела лета. І нібы ў сне з гэтай прычыны ледзь не жывёльная туга.

Што, уласна, было за гэтае лета. Праца і праца. Палымянскі варыянт "Каласоў", артыкулы нікому не патрэбныя, Чалябінск у красавіку, і там вершы і варыянт "Хрыста". Пасля, у канцы месяца, дамоў, і зноў праца, праца на студыі. Паездка на Гродзеншчыну на ксціны ў канцы мая, вяртанне, васьмідзённая паездка з Рыгорам і Брылём па Рагачоўшчыне і Ушаччыне, і зноў справы. Паездка на Рагачоў, вяртанне, бо прыехаў Геронім, зноў паездка ў Рагачоў ледзь не на восем дзён. <...>

І вось Далёкі Усход. І мала што мы яшчэ тут бачылі.

І ўсё. І праз два дні каляндарны канец лета. Горш за ўсё тое, што я жыву, але жыву не так, як хачу, раблю не тое, што хачу, і ўвогуле раблю мала, увесь час завальваю сваю ж працу з людзьмі, якія мне не дапамогуць, не сустракаю тых, каго хачу кахаць, каго пакахаю, каго чакаю шмат год.

Пане ты мой Божа! Няўжо дзеля таго, каб рабіць тую справу, дзеля якой ты створаны і якую можаш скончыць толькі ты – трэба ўцякаць у скіт ад ілжэпрыяцеляў, ілжэжанчын, ілжэлюдзей, ілжэдумак.

І, калі трэба, – дзе ён, гэты скіт? А калі проста ўцячы ў нейкую лесніčоўку – як сумясціць з гэтым жаданне віруючай дзейнасці сярод сабе падобных і яшчэ жаданне шукаць і знайсці тую адзіную жанчыну, з якой я, моцны і так, буду бязмерна моцны і – няхай нават не зусім шчаслівы, але і не сонны, не будні, не той, хто думае аб злотых і туфлях.

Пэўна, досыць з мяне і таго шчасця, якое ў мяне ёсць, тых рэдкіх яго імгненняў, якія мне дадзены, і імкнення да лепшага, якое ўва мне ўвесь час жыве.

Але мне мала гэтага, мала, мала. Я свядома скараціў бы сваё жыццё, абы мець больш і жыць паўней.

А ўрэшце, хай будзе, што паложана лёсам, нават горшае. **Не трэба, не варта наракаць**.

*30 жніўня*

Учора такі схадзіў на "Кубу". Што можна сказаць? Сцэнар усё ж лепшы.

Вельмі кепска, калі дамінанта на баку кагосьці аднаго, які забірае сабе ўсё. Справа сцэнарыста як справа Чайкоўскага, справа рэжысёра з аператарам – справа Рыхтэра або Тасканіні. Перайначваць нельга, але ў кожнага свая трактоўка. Але калі нехта выкідае кавалкі, робіць якія сам хоча паўзы, выторквае нязначнае – гэта ўжо не інтэрпрэтацыя. Можна латаць дзіркі сцэнарыя кепскага і зрабіць яго лепшым, але сцэнар някепскі гэтага не патрабуе. А тут Урусеўскі ўсё забраў сабе. Цягнецца і цягнецца сама па сабе вельмі ўразлівая сцэна танца ў навеле аб прастытутцы. І гэта, магчыма, добра. Але, напрыклад, бясконцыя прабегі студэнта па суцэльна шкляным будынку – гэта ўжо нейкі канструктывізм ад кіно, нічога не дае і толькі прымушае казаць: "Ах, як прыгожа!" У доме кіно, магчыма, будуць апладзіраваць, а мне ні да чаго. І гэта, і разгон дэманстрацыі вадою (вельмі эфектны!) перашкаджаюць разгорнутай псіхалогіі героя. І не толькі тут, але і ў навеле аб зловах паўстанцаў ("Я – Фідэль"), і ў навеле аб селяніне, які не хацеў ваяваць.

Усё гэта вельмі здорава. Шмат хто будзе цяпер глядзець на прыроду Кубы вачыма аператара. Ну а на яе людзей? Не ведаю. Людзей за выключэннем пер-

шай і другой навелы амаль не бачу. Замест іх біданвілі, пальмы, белы цукарны трыснёг, белыя пальмы.

І канец з маршам – нікуды, хаця, можа, і не ад іх залежаў. Сапраўдны, **мужчынскі** канец, не разлічаны на дамачак і на дамачак у портках з камітэта кінематаграфіі, – той, калі снарады выбухаюць пад нагамі ў чалавечага ценю, а чалавек ідзе.

Шмат і выкінута добрага, шмат добрага і сціснута тым, што трэба было даць большы абшар пальмам, сярод якіх уцякае ўцякач.

Словам, як заўсёды ў нас, як амаль заўсёды. Усё, здаецца, ёсць, а станавога хрыбта няма.

*3 верасня. Пятніца*

30-га схадзіў да Валеры, даў яму прачытаць "Адну з многіх", з'ездзіў на студыю, здаў яе і артыкул на машынку, узяў у Рудага пераклады вершаў, атрымаў ганарар, сустрэўся пасля таго з хлопцамі і... дзень прайшоў у цяганіне па розных там рэдакцыях і іншым. Урэшце, як і наступны дзень, як і першыя два дні верасня.

Проста аж задушліва: тэлецэнтр – нядзеля, няма патрэбнага чалавека, рэдакцыя "Красного знамени", зноў тэлецэнтр, трасца, халера.

Пакуль не пазванілі з крайкама – уладзівастоцкі парадачак не прабіць было і снарадам, тратылавы эквівалент якога – прынамсі 100 кг.

І ўсё ж зрабілі на нядзелю паласу ў газету, у тую ж нядзелю выступаем па тэлебачанні – і ўсё такое. Ехаць пакуль нельга. За лета спасціг Прымор'е другі патоп. Усё заліта – жах.

Сённяшні дзень пачаўся страхалюдна. Страшная думка аб дарэмнасці ўсяго, што робіш. І поўная марнасць жыцця ўвогуле: заблытаўся, няма мэты, нічога не раблю, а і пачну рабіць – сэнсу не больш, чым у лайдацтве. Вось 1-га напісаў "Бахайскую чарапаху" і "Легкаважную песеньку" – ну і што?!

Няма жонкі, адчуваю патрэбу ажаніцца як мага хутчэй – а жанчыны такой, здаецца, няма, хоць я, можа, і памыляюся. Ну і г.д.

Пайшоў на працу. Адзін. Атрымаў лісты, на рабоце вычытаў артыкул. І дадому. І тут жыццё паднесла мне адзін са сваіх шматлікіх сюрпрызаў. Празрысты, усёразумеючы і ўсепранікальны настрой. Як у эпілептыка перад прыпадкам. Стала да таго светла – нельга зразумець чаму, – нібыта малы ўваходзіш раніцаю ў росны сад.

Хлопцы былі дома. А мы хадзілі па горадзе. Салют грымеў над караблямі. Навальніца насоўвалася, і ў адказ ракетам успыхвалі зарніцы. А які да гэтага быў захад, якія вежы хмар на барве, і ўсё гэта над агнямі караблёў. 4 перавернутыя птушкі, малая трапецыя, вялікая і выразная трапецыя, трохкутнік і зноў перавернутыя птушкі.

І якое было потым шаленства агню. Зоры, патокі, у якія яны часам рассыпаюцца; ракеты, што падаюць у ваду і гараць пад ёй, як водбліск фараў "Наўцілуса". Дымныя смерчы, якія сплятаюцца ў кроны дзівосных дрэў, у пераблытаныя сцябліны імху, у бог ведае што яшчэ.

Шмат будзе яшчэ такіх дзён. А сум? Што ж, пэўна, ён таму, што жыццё, як вада, цячэ праз пальцы.

А яно не цячэ. Яно патроху ўсё ж асядае пясчынкай вапняку, будуе свой сталактыт. Дасць Бог – збудуе.

*6 верасня. Панядзелак*

У суботу былі ў к/каме ў Жмякіна. Паездкі пакуль няма: Прымор'е спасцігла другая за лета повень. Заліло Усурыйск, Спаск-Дальні, шмат яшчэ пасёлкаў і

вёсак. Мала таго, на пачатку месяца, маўляў, чакаюць трэцюю хвалю вады. А год быў добры, і чакалі ад яго шмат.

Сказаў, што тут год на год: адзін год добра або нічога, другі – палавень. І што каб гэтага не было, патрэбны такія вялікія спаруды, такая праца, што нічога такога пакуль зрабіць не могуць, не ў сілах чалавечых. Малюпасенькія рачулкі ператвараюцца ў такіх выпадках у пагрозлівыя плыні.

Ну і часам іншыя радасці. Напрыклад, ранні снег вышэй калена, пад які ідзе соя (яна ўвогуле культура позняя), або тайфуны... Словам, рай для чалавека, які любіць змаганне, неўладкаванасць і вечную няўпэўненасць. Не ведаю, як каму, а мне гэта падабаецца.

Каб не тое, што ёсць Прыдняпроўе, каб не тое, што тут людзі гавораць на мове, якую чуў з дзяцінства, але якая не свая (што я з кожным годам усё мацней адчуваю) – я, бадай, мог бы жыць тут, трохі прызвычаіўшыся.

Адтуль пайшлі ў газету, прагледзелі гранкі вершаў, а пасля абеду пайшлі на студыю і прарэпеціравалі выступленне.

Увечары зноў насунулася залева. Спрачаўся з Рыгорам аб нашым кіно і аб тым, чыім яно стала. Мае рацыю: яно чужое нават па тэмах і манеры выканання. Вара́гі ўсіх масцяў робяць з яго што хочаш, толькі не мясцовае мастацтва, а таму яно і міжнароднага рэзанансу не мае.

Абагаўленне аўтарытэтаў, наконт Фрыда, Блеймана, а часам і такіх, якія нічога, пакуль тое, не зрабілі (Трунін і іншыя); забыццё на свае прынцыпы і г.д.

Але ён, як заўсёды, гарачыцца і гаворыць несправядлівыя рэчы. А ў гэтай спрэчцы яшчэ і непрыемным тонам, бы галоўнае не прадмет сутычкі, а суб'ект, які з ім спрачаецца.

Нібы гэта мы ўсё такое дапусцілі. А я нічога не мог ні дапусціць, ні не дапусціць. Я раблю беларускія характары ў сваіх сцэнарах, даю беларускую абстаноўку, нават даю беларускія дыялогі. Але я ўжо на працягу пяці год раблю гэта дарэмна. Рабі я гэта пасрэдна – я даўно меў бы пару пасрэдненькіх фільмаў (гэтыя пусцілі б, у гэтым небяспекі для манапалістаў не было б, і я, кажучы словамі Рыгора, "замацаваўся б", а там рабіў, што хачу; не ведае ён, як гэта "даюць" нам рабіць, што мы хочам).

Заваёўваць пазіцыі можна толькі спосабам, які выклікае ўва мне гідлівасць. Таму і валяцца на мяне ўсе шышкі, аж да вялізнага майго доўгу, з якога ледзь пачаў выпаўзаць.

Заваюй ты тут ключавыя пазіцыі: камітэт, другі камітэт, маскоўскі галоўны рэдактар, "майстры", у якіх што ні галава, то й розум. А пасрэдныя рэчы рабіць не магу. Пасля такога "замацавання" на аўтара і глядзяць адпаведна.

Паглядзім. Будучыня ўсё ж за намі. І ніякім панка́м, што рабілі фільмы ў свой час і пад дэвізам "знішчалі і будзем знішчаць" прышчапіць нам свой погляд на свет і сваю манеру пісання – не ўдасца.

А віна пачалася з 20-х гадоў, з таго часу, як адмовіліся ад мовы на экране і палічылі, што патрэбныя нам чужыя майстры.

Тут і сталі на заганны шлях. Лепей было спачатку выпусціць з дзясятак кепскіх фільмаў, але выкуць на іх свае кадры, сваю манеру. Калі за дзіця стане, няхай сабе і не разбіваючы носа, хадзіць суседскі падлетак – гэта, як кожнаму ясна, не самы лепшы выхад са становішча. А суседскім падлеткам, а вара́гам цалкам усё роўна, ім напляваць на тое, дзе, з якой зямлі яны атрымліваюць свой хлеб.

Вінаватыя ў гэтым і нашы старыя, а ўжо за іх сёрбаем мы. Прыязджаюць хлопчыкі, крычаць аб няведанні спецыфікі, аб "новай хвалі", кідаюць апарат на закручанай вакол яго вяроўцы з верталёта, цвэнькаюць аб "Свяшчэнніку і рака-віне", аб "Крыві паэта". Усё гэта я бачыў. Над усім гэтым я многа думаў. Усё гэта я грунтоўна і свядома забыў. То бок гэта засталося недзе ў падсвядомасці, але

калі ісці, то трэба церабіць сваю сцежку. Антаніёні адзін. Другога быць не можа. Ды гэта й не трэба. Ды гэта й нудна, нібы кату́ вяртацца на варацакі.

Люблю Феліні, лічу, што ён геній (у адрозненне ад тысяч модных бурбалак і скараспелак), але хай сабе такі і застаецца. Паставіў слупы на сваёй заяўцы – ну і добра. А мы пойдзем шукаць сваё золата. А яно ў нас пад бокам, хаця яго бессаромна за гады занядбалі.

Наконт жа Рыгора, то з тым самым поспехам я мог бы спытаць яго, чаму ён не захапіў "ключавых пазіцый" – ну, скажам, у выдавецтве ці ў часопісе "Беларусь". Не намі гэта зроблена, і не так хутка мы гэта зломім. Але зломім, талент сваё возьме.

Дзіўна адно. Даслалі мне Фрыд з Дунскім[19] ліст наконт "Хрыста". Пакуль пісаў сярэднія рэчы – хвалілі, давалі варыянты і г.д. А тут, не ведаючы Беларусі, чужыя ёй і ўвогуле люду, як толькі можа быць чужы "вытанчаны" сучасны інтэлігент, лаюцца.

Я, магчыма, больш за іх "вытанчаны", у сучасным сэнсе гэтага слова, але я хаця разумею, што так болей нельга, што гэта – бездань, разрыў. Гэта – засохнуць з абсечанымі карэннямі. І таму я вяртаюся, адкідаю ўсё, каб стаць побач з тымі, якія давеку будуць мець рацыю, хаця і не ведаюць, хто такі, скажам, Стравінскі.

І вось яны, якія **адвеку** не ведалі, па якім баку можна выявіць, сытая карова ці толькі напілася, і якія, аднак, з асалодаю хвошчуць малако, вучаць мяне, як мне апісваць народ, магнатаў і бацькоў царквы. Бог з імі, яны надзвычай харошыя хлопцы і вельмі таленавітыя кінадраматургі, але гэта прыгажосць архідэі, а не прыгажосць коласа, не прыгажосць чабору, не прыгажосць валошкі, не стойкасць, не трываласць скрыпеню на выгарынах. І толькі таму яны не маюць рацыі нават перада мною, які таксама павінен быў **адвеку** не ведаць аб тым, што правы бок каровы – гэта вада, і які, аднак, вярнуўся да гэтага, прымушаны самім жыццём і сваім сумленнем.

У народзе іх вабяць "сочныя, грубыя дыялогі". Няхай так. І не падабаецца ім, як падаюцца Жаба, Лотр і іншыя, і што героі спачатку падобныя да іх. І не разумеюць, што героі спачатку такія самыя зладзеі, як бацькі царквы, і толькі потым выломліваюцца і вяртаюцца да людзей (і тут пачынаецца іх асуджанасць).

Магнаты ж і айцы веры не могуць быць зусім жывыя і гаварыць на мове гарадзенскіх мяшчан, сялян, на мове шляхцюка ў карчме. У іх могуць быць толькі **асабістыя адзнакі** (прага рабіць патоп у карыце – Жаба, вынаходніцтва клетак – кат, езуіцтва – Басяцкі, вялікапышнасць – Лотр).

Гэта перш за ўсё таму, што яны – **сімвалы**. Мала было б мне гонару абсмяяць уладу маючых людзей пачатку XVI стагоддзя. Каму гэта трэба?

Усе яны – сімвалы езуіцтва ўсіх вякоў, дурной пыхі – усіх вякоў, дэмагогіі – усіх стагоддзяў. Яны не мяняюцца. Мяняюцца толькі абставіны, у якіх яны дзейнічаюць. Яны, вядома, не робяць працэсаў над мышамі і не вінавацяць чалавека за тое, што ён пераваўсоблены чорны кот, які належаў раней касцёльнаму арганісту. Але яны ўчыняюць малпіны працэсы і сучасныя "паляванні за ведзьмамі", ды яшчэ й карыстаюцца пры гэтым не герольдамі і вестунамі, а дзесяціфунтовымі газетамі і камбінатамі жоўтай прэсы.

У астатнім жа яны – нашчадкі і двайнікі **тых**. Яны сімвалы цемрашальства, кажанства, нянавісці да навукі, ведаў, гуманізму, братэрства, волі, святла.

Дарэмна было б шукаць на большасці афортаў Гоі (і прытым – лепшых), якога часу, нацыі, прыналежнасці той ці іншы апакаліптычны звер.

Ён з апакаліпсісу, ён прыкідваецца анёлам, і гэтым ён і страшны.

Пакіньце лепшыя рысы ўсіх людзей і вось гэтай нацыі з усёй яе адметнасцю складу, мовы, душы – людзям з народа. І не пніцеся ўзяць у яго хоць частку і аддаць ляльцы з воску, якая апранута ў залатую парчу. Лялька – яна лялька і ёсць.

І, акрамя таго, памятайце, што кожнаму сваё. Харошы рацыяналізм, харошая і неўтаймаванасць, глыбіня, супярэчлівасць, гнеўныя выбухі, нібы лавай з вулкана. Рэдкія могуць сумясціць. Пытанне: “Чаму? А якім чынам ён сказаў так, калі большасць рацыяналістаў сказала б гэтак, а які механізм таго, што ён тут яе пацалаваў у лоб, а не ў вочы, а як ён мог стаць на бок тых, калі па паходжанні ён не той і не гэты?”

Такія вучылі Шолахава, як трэба яму распарадзіцца Грышкам. І сапсулі б адзіную ягоную вялікую рэч, адзіную, увогуле, ягоную Рэч. Такія з непаразуменнем глядзяць на Настассю Філіпаўну. Здаецца, чаго прасцей выйсці за Мышкіна. Лагічна разважаючы, гэта ж адзіны разумны і рацыянальны выхад.

Словам, ёсць Флабер і ёсць Дастаеўскі. І дарэмна адзін стаў бы вучыць другога пісаць.

*17 верасня. Пятніца*

Аж во колькі не пісаў. Перашкодзілі абставіны. Сёмага выехалі на машыне з аператарам, Героем Савецкага Саюза і цудоўным хлопцам Віктарам Кузняцовым, з Уладзівастока. Закусілі на 19 кіламетры, ды й рушылі. Такі быў я стомлены папярэднімі днямі, што заснуў і праспаў Арсеньеў. Думаю, нічога, тым больш што амаль не спыняліся. Там толькі, дзе здымалі, вылазіў і дапамагаў. А паколькі выехалі позна, то скора і сцямнела. Горы, перавалы, скача па скалах святло фараў. На адным з перавалаў ледзь не збілі дзікую казу. І так прыехалі ў Цецюхе, да сваякоў Віці. Пераначавалі, раніцай лазіў я па сопках, зрываў ліяны лімонніку. Шэрае неба паўзло над скаламі, булькацела рака.

Паехалі на Цецюхе-Прыстань. Абмінулі даволі адкрытую гавань з адным караблём, сталі. Галечнік і ўламкі каменя. Скалы, падобныя на прасы. Пад шэрым небам страшна расхадзілася зялёнае Японскае мора. Шкляныя валы. Пацук ратуецца ад небывала высокага прыліву, кінуўся быў нават да мяне.

Хадзіў берагам пад валамі і між імі і скалой, прыліў заліваў ногі, лакіраваныя стужкі марской капусты круціліся ля ног... Пасля ўцякалі машынай ад прыліву.

Пасля другой начоўкі глядзелі калекцыю крышталяў у аднаго майстра. Я ўзяў дзве-тры штукі, ён дазволіў. І адразу – гарамі цераз Кенцухінскі перавал. Зялёная, кучаравая шкура сопак, сонца, скачуць рэкі. Слупы высакавольтнай перадачы ў прорвах – як запалкі.

Бачыў на прыпынку аленя.

Спыніліся ў Кавалераўцы ў гасцініцы. Спалі. Дзясятага паехалі да ракі Лудзье. Ільмавае бервяно над жоўтай шумлівай вадой. Хлопцы не рызыкнулі ісці, я перабег з усёй апаратурай, а аператар двойчы зваліўся. Такі ён, вядома, ісці не мог, – уся гісторыя са здымкамі скалы Халаза і расклеілася.

Ну, я пайшоў адзін, палазіў па тайзе. Лёталі блакітныя сарокі і нешта падобнае на нашу сойку. Дзіўна быць у лесе, дзе большасць раслін і жывёл – твае незнаёмыя. Я цяпер разумею гараджан, што прывозяць кошыкамі мухаморы. Так і я ішоў вельмі асцярожна. Сваіх змей ведаю і забіваю, хаця інстынктыўна аж калоціць усяго ўнутры гідлівасцю, а тут – чорт іх ведае, якія яны тут.

Ішоў і хутчэй па здагадках, па малюнках, па ўспамінах апісанняў пазнаваў расліны. “Ага, ільм, ага, братка, ты, відаць, маньчжурскі арэх, бо унь яны вісяць і пэцкаюцца, нібы грэцкія. Ты лімоннік. А твае лісты падобныя на лісты жэньшэню, але ты – не тое, бо цябе, як лопуху, тут”.

Бегалі бурундукі, дзівосныя, аранжава-паласатыя. За два крокі ад мяне, калі я замёр, нерухома віселі на ствале. І вадкія аленевы вочы.

Падняўся на Халазу і прыліп, як муха на цукарнай галаве. У-ух ты, аж сэрца заняло. І гэтыя хвоі, змрочныя ўнізе, як трэскі.

У той жа дзень перавалілі Малінавы перавал.

“Здесь 27 (15) июля 1858 года прошел 1-й исследователь Кавалеровского района Михаил Иванович Венюков. Этот перевал перешли Н.М. Пржевальский 1867 г. и В.К. Арсеньев 1906 г.”

Спыніліся на стужцы дарогі, якая ледзь прыляпілася пад скаламі і на галавакружнай строме над Фудзінам. Адзін з самых прыгожых ландшафтаў, якія даводзілася бачыць. Сопкі, рака, валуны над галавой, падае струмок смачнейшае вады, багоўкі поўзаюць чырвоныя, сінія, жоўтыя, упрыгожаныя кітайскімі візэрункамі, як мандарыны. І вялікія, з пазногаць вялікага пальца.

Кінеш камень – ён доўга коціцца, пакуль не гулькне ў раку.

Начавалі ў Чугуеўцы ў рэдактара. Перад гэтым была цудоўная лазня. Нахвастаўся венікам, як Пугачоў. Вельмі добра выступалі ў рэдакцыі (рэдактар – во хлопец!), былі ў малюсенькім музеі Фадзеева, на баштане, паехалі на пасеку з 3-м сакратаром. Машына не прайшла, і зноў давялося ісці тайгою, пераходзіць рэкі па бярвеннях, а тое і так.

Пасека – дзіва. Тайга вакол. Добры імшанік, добры, залаты гуд пчол, вуллі, пёс, які абыходзіць іх бокам, запабягае, ведае, чым пахне. Сотавы мёд, над якім пчаліная кісяя і каламутная мацнейшая медавуха. А вакол сонечны змрок. Пасечнік Лось – беларус па бацьках, быў паляўнічым, майстрам-рыбаловам, шукаў і ведае месцы, дзе жэньшэнь, некаторы час быў нават рахункавод, сапсуў вочы (за шэсць год на пасецы яны адышлі, бачаць па-ранейшаму). Цікавы чалавек, набіў шмат мядзведзяў, якія хацелі тут гасцяваць.

Вечарам былі на ўлазінах. Добра гульнулі. Хлопцы начавалі ў гасцініцы, а я, хаця ложак быў, не хацеў, спаў у машыне. Стаяў над Сіхатэ-Алінем у здаровым холадзе месяц.

Раніцай агледзеў адзін старажытнае Бахайскае гарадзішча, а пасля паехалі на Спаск, знялі там, што трэба, паехалі роўняддзю на Усурыйск. Павячэралі ўсухую ля рэчачкі пад Чортавым перавалам.

Ехаў дзіўна спакойны. Чырвоны захад. Сопкі сярод палёў.

Пасля і захад стаў згасаць. Вісеў над ім серпік Венеры. Прыехалі ва Уладзівасток уначы.

13 нікуды не пайшлі, 14 былі ў рэдакцыі, пасля быў на моры, пасля трохі працаваў.

У сераду зрабіў сякія-такія пакупкі, мыў сёе-тое (салдатчына), схадзіў на карабель ЦЛ-90 і ўзяў там матар’ял. Папярэдзіў у рэдакцыі, што буду пісаць яго ўдома, і пайшоў на мора. Было спачатку сонечна і ціха. Пляж флоту, таму людзей вельмі мала, прылівамі і на кароткі тэрмін.

З пірса і вышкі глядзеў у ваду, заўважаў марскіх зорак і ныраў за імі. Спакойная зеленаватая вада, водарасці. Нацягаў штук 16, вычысціў іх і толькі тады задумаўся, а куды я гэта падзену. Сырымі панясеш – абломіш. Тут, на шчасце, рэдакцыйны мастак, харошы хлопец. Паклалі зоркі ў яхтавым памяшканні, і ён, чэмпіён краю, прапанаваў мне пахадзіць.

Да гэтага часу ўзняўся вецер. Распрануліся, селі, пайшлі. Валы вышынёй ледзь не ў два чалавечыя росты, зялёныя з пенай, шкарлупінка скача, нясе яе з нечалавечай хуткасцю, увесь час абдае патокамі салонай свежай вады і ветрам. Даводзіцца выліваць ваду цераз кокпіт. Прыгінаешся – гік плыве над галавой, навальваешся на борт, ляціш – гэх, жыццё!!!

Соль на мне ўначы (не абмыўся) нарасла ледзь не слоем. А тады прайшлі вельмі многа, ды й рушылі ў “Лотас”, дзе трохі закусілі і выпілі за салоную купель. Ён у рэдакцыю, а я павячэраў, ды й дадому.

Учора складаў план артыкула, прасаваўся, напісаў лісты. Шрымсаў купіў, і мы з імі расправіліся. Вечарам добра выступалі перад матросамі.

Сёння ўстаў рана, напісаў артыкул, і вось (зараз амаль адзінаццаць) хлопцы

пайшлі ў рэдакцыю, а я зараз складаю рэчы і выбіраюся на дзень-два ў запаведнік Кедравая Падзь.

*18 верасня. Субота*

***Кедравая Падзь***

Вось я і тут. Другі дзень.

Учора пайшоў, купіў сёе-тое ў дарогу, загрузіўшы рукзак, узяў білеты (было маленькае непаразуменне, бо прапіскі няма, а зона блізкая да мяжы), паабедаў у вакзальным рэстаране, сеў у электрычку і пакаціў. З 13 да 14.49 ехалі ледзь не прыгарадамі, у Баранаўскім вылез і чакаў. Цягнік Усурыйск – Хасан спазняўся. Спёка. Маленькая станцыя. Сопка з выразаным, як кавун, чырвоным па зелені, бокам (здабывалі з былога вулкана туф).

Паехалі ўрэшце. Піў піва з кетой, седзячы ля акна. Ва ўсім адчувалася блізкасць Карэі: мора, сухія травы, сосны на голых сопках. Вылез у Прыморскім, а тут дурні мне параілі, што трэба праехаць яшчэ адзін прыпынак, да ст. Кедравая. Паехаў. Вылез. Малюпасенькая станцыя, пара домікаў, проста з цягніка раздаюць лісты. І ...трэба-ткі было вылезці ў Прыморскім. Шчасце, што знайшлася дрызіна. Сеў з рабочымі хлопцамі, закурылі, паімчалі назад, у сопкі. Высадзілі яны мяне раней, паказалі сцяжыну, пайшоў я па ёй да чыгуначнага "вугольніка", пасля нязручнымі шпаламі, пасля дарогай. Густы, у палец, пыл на ўсім. Пасля ён знік, павеяла холадам. Ужо думаў, што не той дарогай іду, калі надпіс. Падумаў, што "граніца" гэта не мяжа запаведніка, а ўвогуле мяжа забароненай зоны. Было не па сабе.

І вось некалькі хатак у распадку, дзве лайкі ля дома дырэктара. Адвялі на начлег. У хаце арнітолагаў, што выехалі на Амур сачыць за пералётам, жыве лавец матылёў з Харкава Лісецкі А.С. Размясціўся добра, на канапе, укрытай шкурамі. Мякка, цёпла. Хата ўтульная, толькі без гаспадароў запушчаная. Уначы лавілі матылёў на святло. Ляцелі, сядалі на прасціну цені. Соўкі, маціцоўніцы і вялізныя, нявыказнай прыгажосці "блакітныя ордэнскія істужкі".

У маім пакоі, акрамя канапы (над ёй рогі казулі з біноклем і фотаапаратам), стол, дзве кніжныя шафы, карта Прымор'я.

Выйдзеш – высокае халаднаватае неба з празрыстымі, ледзянымі, вельмі высокімі зорамі.

Сёння раніцай выйшаў на Кедраўку. Празрыстая, як шкло. Горы ледзь залоцяцца сонцам па верхавінах. Усе ў зелені. Высока-высока. І ад вады, якой абліваешся, хочацца жыць.

Пайшоў да дырэктара. Добры домік. У кабінеце шафы з кнігамі, вісяць шкуркі янотаў, лісіц, барсукоў, на канапе калматая цёмная шкура гарала, а над ім рогі ізюбра і плямаватая ягоная шкура.

Пагаварылі. Пайшлі з ім у канцылярыю. Жэньшэнь у слоіках, чарапы, шкуры, узважваюць забітага дзікага ката. Накрэсліў ён мне план, вельмі просты.

І вось я рушыў. Пакуль у разведачны паход. Тайга, пахі, галасы (уначы хрыпелі казулі, спаць не давалі).

Пасля Сухога ключа ў лесе спіртавы, амаль нашатырны пах (восень). Цэлае паселішча даўгадзюбых японскіх варон шуміць крыламі над галавою. Дуплянкі малыя і вялікія (для качак-мандарынак), мора сіняга аконіту. І ва ўсім гэтым суцэльная, без пароку прыгажосць, вялікі спакой восені, жыццё. На "аксаміце" ветразнікі Маака, чорныя махаоны, чорна-зялёныя. І кожная крыніца на свой твар і, адначасова, чароўна-разнастайная. На жвіры, ля ручаін, чазеніі, рэліктавыя вербы, падобныя адначасова і на пальмы, і на эўкаліпты. Багацце фарбаў, гукаў, парод. Бэз, волатавая таполя Максімовіча, шмат розных бяроз, яблыні з яблычкамі ў ногаць мезенца, граб, ліпа. Усё гэта дзівосна.




Вярнуўся, схадзілі ў Прыморскі, пад’елі. А пасля на беразе лавіў стронгу і пяструшку, запісваў думкі, якіх было дзіва як многа, важлівыя і не зусім дурныя. А захад згасаў на вяршынях, бляднеў.

Смажыў стронгу. Нацягаў на чатыры патэльні. Елі. Прыйшоў яшчэ батанік Мікалай, юнак год 17-ці, увесь расторганы, непрыемны, як многія людзі ягонага пакалення і тыпу, а, аднак, думаючы.

А пасля зноў зоры. Ціха. Крычаць казулі ў гарах.

Я, здаецца, яшчэ вярнуся сюды. Праўдзівей, абавязкова вярнуся. Магчыма, нават, у будучым годзе.

*21 верасня. Аўторак*

***Уладзівасток***

Ранняя шэрая раніца. За вокнамі матросы шоргаюць венікамі па асфальце. Хлопцы яшчэ дрыхнуць, а я сеў ды хачу, папіўшы чаю, хаця трохі запісаць, пакуль не пачаўся бегатлівы новы дзень.

19-га пайшоў да хаткі. Некаторы час суправаджала мяне белая лайка другой сям’і арнітолагаў Амур. Гладкі, з вясёлымі залацістымі вачыма. Людзей зусім не баіцца і давер да іх, калі ідуць ад базы, а не крадуцца. Суправаджаў мяне і Лісецкага (той пайшоў быў з сачком, каб матылёў налавіць, але толькі наблытаў у марлю рапяшкоў: колькі іх тут па сцежцы, ногі па калена зялёныя. Прычым чапляліся яны толькі за мае матроскія суконныя “штаны”, а за мацерчатыя порткі матылёчніка – ані-ні: звыклі да поўсці жывёл).

Але дастаткова было сказаць лайцы “дамоў”, як яна пайшла, паплялася. Тут сабакі так прывучаны.

Аралія ля дарогі колецца патроху, дрэвападобная сваячка жэньшэню. Попаўзні крычаць, бегаюць па ствалах уніз галавою. І мора сонца ў вясёлым лесе.

Праз усе крыніцы дабраўся да паляўнічай хаткі. Над ёй сонечнае мора маньчжурскага арэху, пад ёй сонечнае мора папараці, а вышэй за ўсё піхты і кедры.

Старое вагнявішча, навес з кар’я, тоўстыя сцены. Унутры ўсё, патрэбнае чалавеку. Сюды б узімку залезці, узяўшы газы і некалькі пачкаў свечак, сядзець сярод снягоў, паліць печ і пісаць, пісаць, і зусім не бачыць людзей.

Лазіў на галавазломны кедр, скінуў некалькі шышак. З верхавіны акіян тайгі з валамі сопак. Апошнюю галіну, спускаючыся, нёс у зубах. Прасмаліў рукі да апошняга.

Пасля елі, пілі каву, а тады рушылі далей, за Падкрастовы і Дравяны ключы, у ліяннік. Вось тады пачалося нешта зусім незвычайнае. Зваленыя дрэвы, на іх пяшчотнейшыя, падобныя на зарасці белых і слаба-ружовых каралаў грыбы, рагацікі, або кітайская лапша. Дзеля іх у свой час было звалена больш дубоў і кедраў, чым для дамоў.

Кітайскія арцелі прыходзілі, валілі, драўніна закісала, і на яе падсажвалі гэтыя грыбы ды грыб мядзведжае вуха. Пасля прыходзілі і збіралі. Вельмі дорага каштавала.

А ліяннік – нешта незвычайнае. У раптоўным, амаль вячэрнім ценю ад сопак – калоны дрэў, і на іх вісяць, калышуцца, шалушацца тоўстыя, з нагу дарослага чалавека, дравесныя змеі. Толькі ўверсе драбніцца лістота. І ўсё гэта густа, незвычайна, бы ў тропіках, дзікавата. Актынідыя, чырванее вінаград, уецца, пляце, сціскае.

...Удома (дарогаю назбіраў маньчжурскага арэху і пасля вышалушыў; пальцы дагэтуль чорныя) лавіў зноў рыбу. Больш за ўсё, чамусьці, было стронгі. Ярка-пунсовая, палоса-смужка на брушцы, сама пяшчотна-бэзавая, плямістая. А на спіне россып залатых бліскавак. Дзівоснай прыгажосці рыба. Ды й пяструшка нічога. Чырванаватая смужка ля бакоў, плаўнікі і пяро хваста. Чарнаватыя плямкі, бы ў леапарда, на баках. Самец, калі засне, чарнее, як кепскае срэбра.

Варыў юшку, разбіраў надзертыя галінкі. Тут і “калючы жэньшэнь”, сваяк ягоны, элеўтэракок, і калапанакс, і гарэх, і вінаград, і акантапанакс скупчанацветны, чорныя ягады разам. Шкада, што нельга зрабіць добрага гербарыя.

Пасля склаў усе рэчы, пасядзеў пад высокімі зорамі, заснуў.

Учора ледзь не праспалі. Н. так і не ўдасужыўся з вечара разабраць расліны. Не сталі яго чакаць, паехалі двох. Машына запаведніка даставіла нас толькі да паграншколы. Далей шафёр не мог: восем дзяцей трэба ў школу завезці. З паграншколы падкінуў да Перавознага сімпатычны шафёр-пагранічнік. Думалі, што спознімся, ляцелі па беразе, па прыбойных лужынах (ляцела вада), па жвіры.

Але марскі катар спазніўся. Урэшце прыйшоў. “Алмаз”. Узышлі на яго і прасталі на носе ўсе паўтары гадзіны. Аддаляюцца берагі. Стаяў, глядзеў на Падзь, успамінаў, як напярэдадні вечарам гаварыў з дырэктарам. Не хацелася яму мяне адпускаць. Гаварылі і гаварылі аб лесе і яго лёсе, аб запаведнай справе, аб ролі мяжы ў тым, што звер мае дадатковую магчымасць захавацца, бо пагранічнікі хаця і палююць (гэта ім і філармонія, і тэатр, і вялікі горад), але не так, як было б, калі б туды кінуўся люд. Расказаў шмат цікавага. І вельмі запрашаў на будучы год да сябе. “Мы з вамі правядзем цудоўную восень. З пагранічнікамі паходзім, можа, на звера. Хутка тут пачнецца ў тайзе такая феерыя”.

І сапраўды трэба было б паехаць. Здаецца, заразіўся ўсім гэтым буянствам некранутай натуры. Стаяў на палубе, і шкада было.

Свежы вецер, валы коцяцца, усплёскваючы белымі грабянцамі, струмень адкідае ад бартоў шматлікіх медуз, паступова з дымоў устае Уладзівасток. Пачынаецца зноў гарадская нудная вažданіна. Дальбог, уцяку.

Увесь дзень прыводзіў сябе ў парадак. Пасля абеду пайшоў у рэдакцыю, здаў матар’ял на машынку. Увечары папрасаваўся, памыўся, сцёр бензінам смалу, лісты сякія-такія напісаў.

Ну вось якраз скончыў. Пачынаецца дзень.

*4 лістапада. Чацвер*

***Рагачоў***

Усё гэта ўрэшце пачынае быць падобным не на дзённік, а на мемуары артылерыста Дэльвіга, напісаныя Рэпіным пад канец ягонага жыцця. Поўная гадасць. Ну, чорт яго бяры, абыдзецца.

Пасля вяртання з Падзі забілі яшчэ нешта каля пяці дзён. Хадзіў у рэдакцыю, пісаў розную лухту. Абрыдла ўсё да немагчымага. 25-га верасня ўвечары выехалі на Пуцяцін. Спачатку заліў, пасля гмах вострава Рускага, пасля мора. Усё грыфельнае, уздыбленае, усё ва ўзвёртах, як кракадзілава скура. Гэта калі ўжо лёг па правую руку востраў Рыкорда. І над гэтым графітавым морам ліловыя, як слівы на блюдзе, астравы. Сонца сядала. Урэшце ў свінцовым захадзе было яно ўжо як чырвоны мазок. Моцна давала вада, ля борта больш гучная, чым наводдаль. Патокі яе ляцелі на палубу. Усе схаваліся ў каютт-кампаніі, а я так да ночы і прастаяў на палубе, бліжэй да левага борта.

А над дальнімі сопкамі берага вісеў радок бялюткіх хмар. Як вісячая паралельна мантыя з гарнастая, як лента, што вісіць ля верхняга абрэзу старажытных гравюр. Так і хацелася напісаць на ёй, што менавіта намалявана на гэтым пейзажы.

Ноч спускалася. Контур в. Аскольд быў цёмны, ляжаў у моры, як кіт. Гарэлі ў гэтага кіта вочы, два агеньчыкі. А над галавою, нібы ўскінуты кітом фантан вады, круціўся Млечны Шлях.

Маяк мігаў трошкі лявей. З роўнымі інтэрваламі. Даўно ўжо не бачыў я такога.

Пасля пачаў, бы ў фільме, набліжацца пуцяцінскі “порт”. Рэдкія агеньчыкі над прычаламі, розныя “дары мора” ў маслянай вадзе, востры пах водарасцяў, марской капусты, яшчэ чагосьці.

Вылезлі, пайшлі шукаць інтэрнат, пралазячы праз дрот. Знайшлі. І тут убачылі хлопца, сапраўднага вікінга. Ідзе, нясе за клюшню вялізнага краба. Пасля шмат бачылі такіх, а тут здзівіліся. Ногі таўшчынёй і даўжынёй з руку, моцныя клешчы (80 атм. сіла націску, паздароўкайся з ім па-англійску). Пагаварылі з хлопцам, была ў нас выпіўка і, як рэзультат, дамовіліся аб выхадзе ў мора і аб начлегу на МРС (малы рыбалоўны сейнер) -200. Прыйшлі туды, накіраваліся варыць крабаў у кацельную рыбакамбіната. Чакалі хвілін 15. Там размовы, смех, ядуць вараных марскіх ракаў. Зялёных.

Цягнулі крабаў за гарачыя клюшні, кідалі іх на стол, закусвалі імі. Пасля заснулі і прачнуліся ад грукату машыны. Наш сейнер з напарнікам пайшлі ў мора.

Як апішаш гэты дзень. Шэсць цудоўных хлопцаў, матарыст і капітан Шчукін. Не ведаю, дзе яны там былі, як яны да гэтага жылі, а тут было нам з імі дзівосна. Лёгкая гайданка, сетку расцягваюць між сейнерамі і ідуць паралельным курсам хвілін 45.

Пасля абодва канцы замацоўваюць на нашым сейнеры (у наступны раз будзе гэта ў напарніка і ўлоў будзе ягоны), і пачынае працаваць лябёдка.

Вытравіць патрэбныя метры, сетку схопліваюць вяровачнай пятлёй, а вытраўленае грукаецца на палубу. Тады чапляюць сетку ля борта і зноў травяць, і зноў апускаюць новую порцыю з усім, што ёсць, з крабамі, з рэдкімі пакуль рыбамі, з аранжава-жоўтымі васьміногамі (дакранешся да яго падэшвай – прыліпне прысоскамі, як чорт).

І ўрэшце пад вадой узнікае жамчужна-блакітны вялізны куль, павісае над палубай, яго расшнуроўваюць. І лінуў на палубу паток: вастрамордыя мінтаі, камбала, цярпуг, марскі акунь, траска, бычкі (ёсць сярод іх з шарападобным пузам, завецца рыбакамі “дырэктар цырка”), чырвоныя марскія сабакі, што страшна зя́ваюць шчакастым грыбазвонным ротам – аж шкада іх. Тут марскія лісіцы, нейкія малінавыя яйкі, марскія ракі, дзівосныя марскія пеўнікі (абклеіў

іхнія плаўнікі паперай, пачакаў, пакуль высахнуць, і такія яны цяпер прыгожыя стаяць у мяне).

Пачынаем сартаваць. Багарэц – палка з вострым цвіком – у руках. Наколваеш, б’еш цераз другую руку, і рыба ляціць у патрэбны загон. Ляпаюцца, як бліны, камбалы, круцяцца і падаюць за борт марскія зоркі.

Краба перакідаеш на спіну і цвіком трохі адхіляеш шчыток на ягоным жываце. Ікра, ага – самка. Хапаеш яе за клюшню і блінам у ваду. Няма ікры, шчыток больш пляскаты – ага, самец, хадзі, браток, у загон.

А над усім гэтым спачатку хмары, пасля сонца і хвалі. І танцуюць па гэтых хвалях, вырваўшыся з сеткі, шарыкі са шкла, паплаўкі сецяў. Радуюцца, што адарваліся, скачуць, блішчаць. Як маленькія блакітныя сонцы.

Так і скарадзілі мы мора. Разбяром чарговы ўлоў і сушым чарапашкі ў гарачым месцы на трубе. Або клею пеўнікаў, або памагаю кандзею рабіць юшку ці акуня.

Бяруцца галовы з часткай спіны, трымаюць іх у марской вадзе, пасля кладуць на жалезку – галава прасунута ў галаву. Да гэтага перац, трохі вады, трохі тлушчу. Астатняе пусцяць самі. Прыдатны для гэтага не ўсякі акунь. Затое дастанеш усяго пад падлівай, густой, карычневай. Возіш лыжкай, плюешся косткамі за борт, мачаеш хлеб. Рэдка так па-зверску еў, як тады.

Жартавалі з хлопцамі, працавалі з хлопцамі, але пра гэта, можа, і напішу. А над намі лёталі старыя белыя чайкі і гадавалыя карычняватыя.

Вярталіся, калі сопкі сталі ад сонца залатыя. Зноў троху выпілі, зноў спявалі песні.

А раніцай у лёгкім тумане, калі толькі нараджалася сонца, пайшлі берагам, купамі бурых водарасцяў на прыстань. А там і Уладзівасток.

Я сухапутны. Але там на караблі жыла сінічка – на носе. Яна знаходзіла сейнер, калі ён адыходзіў без яе. Чайкі за ёй гоняцца, калі яна ляціць над морам, а яна выкручваецца і ...проста ў рубку ці на спардэк. Так і я шукаў бы, здаецца, і шукаў мора.

Апошнія дні былі днямі беганіны. Дакуманты, тое, сёе, гэта, экіпаж, здаваць формы, лісты на паштамт, зняцце з “давольствія”.

Урэшце, у ноч з 1-га на 2-е (ужо другога, бо ў 0.10), выехалі. Ехалі па мяжы лета-восені і зімы. То яна нас даганяла, то мы ад яе ўцякалі.

З Уладзівастока выехалі – амаль суцэльная была зелень.

2-га прачнуліся – горы-букеты: залатыя, барвяныя, зялёныя, жоўтыя, малахітавыя, лімонныя, іржавыя. Тунэлі. Амур і сам Хабараўск у ззянні дня, гарадкі Бірабіджана.

А 3-га раніцай – Гонжа. І – сняжок. Прыцярушаныя снегам піхты, лімонныя лістоўніцы. Увечары ў агеньчыках недзе пад Магочай, у гэтых агеньчыках ранняй восені такая была занесенасць да д’ябла, такая закінутасць. <...>

Пад Прыісковай, 4-га, снегу як не было. Голыя сопкі. Шылка. На тым баку яе ў праменнях узыходзячага сонца бягуць па схілах, усё з аднаго іхняга боку, ружовыя, светла-ружовыя бярозы. І сопкі, прыціснутыя каменнямі нагрувашчанымі.

5-га, у аўторак, бліснуў недзе далёка між дрэў Байкал. Распадкі дзівоснай прыгажосці і ружовая шэрань на зямлі. У Іркуцку ніхто не сустрэў, невядома чаму.

І пайшлі станцыйкі. Як і дагэтуль, куплялі бульбу, салоныя грузды і рыжыкі ў слоіках, хлеб і іншае.

У Зіме з яе дужа “р-рюскім” вакзалам купілі чаромхі, і я ўспомніў гады вайны, інтэрнат і Урал. Які я ўсё ж стары.

Наступнага дня ў Марыінску былі яшчэ жоўтыя сям-там бярозы, а пад Новасібірскам паваліў густы снег.

Затое 7-га зноў гарэў бярозавы пажар і быў слуп Еўропа-Азія за Свярдлоўскам, а калі быў сняжок, то лёгкі, як пудра. Былі то мае мясціны часоў вайны. Нават

станцыя адна называлася Ірэнская. Глядзеў, і ўсё мне здавалася: вось убачу, хаця і ведаў, што дурасць. Месцы тыя ад чыгункі – ісці ды ісці. А ўсё адно падобна. Рака зялёная, бо ў ёй перакінутыя горы, з рэдкім золатам бяроз. І скалы над лесам.

Восьмага праз Яраслаўль прыехалі ў Маскву, я толькі паспеў схадзіць на курсы, а ў 15.30 катанулі мы ўжо на Мінск. У гадзіну ночы з хвілінамі былі ў Мінску.

Валя стрэла нас, на нейкім прыватным РАФіку паехалі па дамах.

І вось пасля зноў пайшлі шалёныя дні. Да Скварцова, да Бычкова, у студыю, на радыё. Адзінае, што было цікава, хаця "ўнутрана" і спрэчна, гэта даклад Зайцава ў суботу, 16-га. "Сусвет і розум". А пасля зноў: выступленне па радыё, грошы, плата за кватэру, за тэлефон, падпіска на часопісы, заплаціць машыністцы.

26-га – не, пазней гэта было. Чысла. Не помню, урэшце – сустрэліся на кватэры ў Скварцова я, гаспадар, Рагнеда[20], Бычкоў, Паўлёнак, Забалоцкі[21]. Паўлёнак, памойму, пабойваецца ставіць у такім выглядзе, Бычкову на сцэнар начхаць, і хоча ён ставіць "Сірано дэ Бержэрака", ды не хоча пакрыўдзіць старога настаўніка, які адзін не паставіць. Ну а мы трох біліся плячо ў плячо.

Бычкоў даводзіў, што яму пляваць на праўду гісторыі, на праўду народную, на ўсякія праўды – абы была праўда жанру (як быццам яна можа быць без іншых). Словам, патрабавалі замест трагікамедыі вясёлае "ля-ля". Чаму трэба бурыць тое, што прыдумаў другі. Узяўся – шануй, значыць, спадабалася. А калі не падабалася **так**, то чаго браўся? Да чаго гэтыя вара́гі з іхнім бачаннем і са словам канста**н**цыраваць (не, не канста**н**цыраваць, а нейкае другое слова, але такая самая пачвара, ніяк не ўспомню, ты непрыкметна паправіш, а яны зноў, ты ясна паправіш, а яны зноў) абрыдлі мне. Пляваць ім на ўсё на свеце. І больш нічога.

Палаяліся ўшчэнт. Толька сказаў, што пры такім поглядзе ён здымаць не будзе. Я ўжо толькі ўзяўся за галаву і сказаў Паўлёнку, даволі ўрэшце ціха: "Няўжо вы не разумееце, што калі мы так здымем, гэта будзе сорам, сорамна, сорам?"

Пакуль паладзілі на тым, што сядаю і пішу, як хачу, максімальна ўлічыўшы ўсё. А адну сцэну зраблю ў двух варыянтах. А я зраблю, як бачу. Раз такое – не маю права адступаць. Тым больш што Бычкоў, здаецца, рад мільгануць у хмызы, скарыстаўшыся са спрэчкі. Чорт з ім. Не працую больш у кіно. Буду, калі спатрэбяцца грошы, рабіць кароткаметражкі або фільмы для тэле – і ўсё.

27-га ў 15.30 была сустрэча ў Акадэміі. Абмяркоўвалі "Каласы". Абмеркавання, уласна, не было, а хвалілі. Так хвалілі, што круціўся, як на патэльні. Лупілі Герцовіча[22], а ён у бальніцы, і няварта было б гэтага рабіць. Шкада. Пакрыўдзіў Бог розумам, талентам, смеласцю. Напалохалі раз, то ён "даводзіць" цяпер, хаця ніхто ад яго гэтага не патрабуе. Было шмат людзей. Паўліна Мядзёлка была. Сказала, што як быццам знайшла сына. Словам, абое ледзь у прэзідыуме не праслязіліся. Выступалі Паўлюк Дзюбайла, аспірант-гісторык Андраюк, цудоўны Пшыркоў, Міська, Зайцаў, які сказаў, што трэба мне думаць аб заўтрашнім дні і мець цвярозую галаву, гісторык Біч, філосаф Махнач, мовазнаўца Шушкевіч, Лявон Баразна, Конан, Сушынскі. Баюся, што трохі пашкодзілі, могуць сіх-тых насцярожыць. Але бог з імі, усё добра як добра, тым больш, што Луфераў спусціў усё на тармазах. Выступіў і я. Сказаў аб пачуцці адказнасці. І гэта так. Нельга больш гуляць жыццём у цыркі.

*2-га лістапада* ў гадзіну дня паехалі з маці ў Рагачоў. Панылыя палі, тарфяныя балаты, рэдкія і скупыя пад вечар агеньчыкі, а я рад, што вырваўся. Не хацеў на святы шмат піць – ну яго. Прыехалі вечарам, пасядзелі, ляглі спаць, і наступнага дня я не адразу дадумаўся, дзе я, а калі зразумеў – пачуццё радасці. За вокнамі пачынае днець, устае халоднае сонца, паліць вада з насоса. Шкада, што няма тут Адама[23] (ён, на жаль, паехаў у Радашковічы) ці Янкі[24]. Як бы яны ўзрадаваліся. А так я толькі напярэдадні ад'езду, ды не, 31-га, пасядзеў у Адася, пагаварылі, развіталіся. А шкада, што ён не бачыць гэтага.

Зямля чорная, неапалімыя купіны жоўтых парэчак, на дрэвах толькі самыя маладыя, сёлетнія лісці яшчэ трымаюцца, на паласе заранкі магутныя голыя ліпы.

З раніцы пайшоў на Дняпро, лавіў, але хаця б разок клюнула. Сышло лецейка. Давядзецца паспрабаваць сакам. Пасля ўвесь дзень пісаў лісты.

Сёння лісты ўсе скончыў, схадзіў у горад і кінуў іх, купіў пару кніжак і зрабіў гэты запіс. Шкада, што сонца з'явілася толькі а другой палове дня, а раніцай крапаў дождж і сапсуў нам паляванне. А як добра было б ісці па іржышчах з сабакам, і каб вецер свістаў у рулю стрэльбы, а вакол голыя лясы. Нічога, нідзе не дзенецца.

Заўтра пастараюся напісаць эсэ для "Маладосці".

Зараз позна ўжо. Цемра за акном. Зноў, відаць, збіраецца на дождж, і хаця адчуваю сябе не дужа здаровым – шчасце поўніць мяне.

У пакоі водар яблыкаў, што ляжаць на акне (сам сёння зняў апошнія з галін і еў іх, марозныя, і падбіраў з зямлі), побач з лямпай – ласіны рог, што зрабіў мне дзядзька. Атрымаў паштоўку ад Адама і яшчэ раз пашкадаваў, што яго няма тут.

*6 лістапада. Субота*

Учора кепска працавалася. Сам не ведаю чаму. Дождж перашкодзіў паляванню, а я, дурань, замест працы сядзеў і чытаў, прыціснуўшыся ў кут канапы. Чытаў "Запіскі мелкатраўчатага" Дрыянскага і адчуваў ціхае замілаванне ад мовы, ад побыту, ад жаргону, які ў беларускіх паляўнічых, вядома, шмат у чым другі, але таксама не дужа змяніўся за стагоддзе.

Пачаў эсэ. Вырашыў назваць "5966-ты год". Напісаў трохі і адчуў: не магу больш. Пайшоў у горад, купіў пару кніжак, вярнуўся, да позняй ночы чытаў Сэлінджэра.

Сёння дзядзька разбудзіў раніцай. Лёгка, але цёпла апрануліся, ногі ў анучы, у чобаты, стрэльбы на плечы. Пайшлі. Дзядзька з Сяргеем ішлі наводдаль, і Альма з імі. Ворыва ў садзе, забытыя яблыкі на дрэвах, шэра, вісяць над Пераровам жоўтыя дубкі, сталее Дняпро.

Пералескі такія чыстыя, ружова-рудыя ад бяроз, зялёныя ад ялін. Плыве, вырываецца з-за абсад дым цягніка. І ехаў бы кудысьці, і навекі застаўся тут. Цягнецца, выбухае, кладзецца на дрэвы дым.

Шукалі ў астравах, на ворыве, на руні. Бачыў некалькі лежак. Здаравенныя звярыны. Вылежалі чорт ведае колькі зямлі. На ворыве сляды зайцоў, ліса прайшла, дзік, трохі далей у лес сляды вастраватых ласіных капытоў.

Адзін з зайцоў лёг метрах у дзесяцёх ад дарогі з Шчыбрына берагам на пераезд. Спалохаў яго, відаць, матацыкліст, якога мы здалёк бачылі. Ён скочыў і пабег пад адхон – па слядах было відаць – у сасоннічак. Пайшлі туды. Дарогаю зайшлі краем у лясок і набралі Сяргею ў сетку сцюдзёных зялёнак. Востры асенні зямны пах. У сасонніку травы выбіты восенню і асабліва вылучаюцца без іх шызыя падушкі лішайніку і ружовая подпуш ля каранёў нейкіх сухіх сцяблінак, невядома нават якіх.

На наша няшчасце, там два хлопцы секлі лапнік для саду. Былыя дзядзькавы вучні, і мяне памятаюць па выступленні. Сказалі, што зайца таго яны стукам сякер спудзілі, і ён пайшоў цераз дарогу на Старое Сяло. Цьху!

Зноў пайшлі па слядах, і сляды тыя загубіліся ў руні. Нічога не забілі. І дзякуй богу, што не забілі. З кожным годам гэта цяжэй. Але такога шчасця, як ад гэтай хады – ніколі не было.

Асабліва як на хвіліну прабілася сонца, і на руні паасобныя расінкі зазіхацелі аранжава-блакітным, быццам калолі вочы.

Ішлі назад. Знайшлі ля слупа зусім свежую гусцёрку. Відаць, варона занесла,

ды й кінула, успуджаная. Ясна, глушаць. Кожны дзень гучаць выбухі. Усё начальнічкі. Скудзее, нямее рака.

Прыйшоў дадому. Пасля абеду скончыў эсэ, панёс і адправіў яго з паштамта. Да вячэры прыйшоў Сяргей Мікітавіч Гансоўскі. Гаварылі аб паляванні, аб тым, як тыдзень перад паляўнічым сезонам жылі ў лугах, як лавілі браканьераў і як была гісторыя з Русецкім, стрыечным братам нашага і поўнай ягонай працілеглacцю, і Тарасевічам з ЦК.

Цяпер вось ён пайшоў. Галя і мама цэлы дзень важдаліся на кухні: фарш для піражкоў з грыбамі, заліўная сяўруга, трусік з буракамі па-беларуску, смажаная па-рагачоўску гусь і г.д. Нават я круціў хрэн. Вось яны скончылі. Галя яшчэ дамывае падлогу. А я дапісваю гэта. Ноч. Палова адзінаццатай. Буду класціся, заўтра пастараюся да абеду папрацаваць.

*12 лістапада. Пятніца*

Вось зноў амаль тыдзень не пісаў. Спачатку з-за гулянак, пасля – праца прыціснула.

7-га з раніцы чытаў. Пасля прыйшлі Гансоўскія, Клятэцкія, Машчанкі, і пачаўся “абед сілен”. Акрамя вышэйпамянёнага яшчэ марынаваная рыба, марынаваныя ігрушы, агуркі, сыр, вэнджаная каўбаса. Танцавалі. Выпілі моцна.

Ад колькасці з’едзенага ахапіў нас нейкі вясёлы адчай, азарт ці чорт яго ведае што. Пайшлі яшчэ да Клятэцкага і там напалі на вэнджанага ляшча, ікру і іншае.

8-га былі ў Гансоўскіх, у доме, які памятаю з чатырох, а можа, і з двух год. Прыбудова, дзе жыў на кватэры дзед, калі выкінулі з уласнай хаты, вядома, згарэла ў вайну ў печцы, на яе месцы сад. А галоўны пакой так і застаўся, аброс яшчэ пакойчыкамі.

Самай старой частцы будынка сто год. Калі дзед дзеда паставіў яго – тут яшчэ ніхто не сяліўся. Толькі могілкі былі побач. І ўжо куды пазней узнік на пустэчы, на “Новых Плана́х Грынкевіча”, дом, дзе зараз сяджу я. І зноў вакол не было нікога.

Выпілі і ў тых. Я аж здзівіўся, якое мора я магу выпіць. І нічога, ніякіх амаль вынікаў. Спявалі. Галін голас – дзіва. Каб не пасляваенныя абставіны – мелі б спявачку вышэйшага класа. Не магу нават вызначыць, які ён. Дыскант-сапрана, ці што. Моцны неверагодна, але гнуткі і мяккі, душэўны. Спявае – “преображается”, і з ёю ўсе, хто слухаюць і падпяваюць. <...>

Дзявятага чытаў, трохі пісаў, але нешта не лезла праца ў рукі. Паліў кацёл, Рома[25] чытаў. Стакрот згодзен з ім, што не цікава ў кіно тое, **што** адбываецца, усе гэтыя пагоні, стрэлы, увесь гэты “жалезны” сюжэтны каркас, за [якім] нічога не стаіць. Сапраўды, проста гледачу трэба паўтары гадзіны пабыць з разумнымі цікавымі людзьмі, пазнаёміцца з імі, і каб яны “гаварылі са мной аб вось гэтым і вось гэтым”.

Нецікава ўжо, што здарылася. А ад мяне патрабуюць менавіта гэтага. І таму не трэба больш нічога рабіць для кіно.

Даўно не бачыў старога. Трэба будзе напісаць. Гадзіны, што з ім правёў, адны з добрых гадзін майго жыцця. А “Звычайны фашызм”[26] толькі падмацаваў мяне ў думках аб фільме-роздуме. Вось гэта тое, што трэба. Праблемы, якія мучаюць нас, іронія, сарказм і гнеў, дабрыня, сотні паралеляў. Нездарма на праглядзе ў студыі сям-там аўдыторыя выбухала амаль гнеўным рогатам і апладысментамі.

Дзясятага працаваў, зрабіўшы перарыў толькі для цырульні, і адзінаццатага працаваў. Пад вечар узяў страшэнна цяжкі сак і пайшоў пад Рыжковіцу. Празрыстасць і апошні сум. Пароша выпала, і сцежкі так і засталіся ў белых крупах.

Грыфельная або лепей абсідыянавая рака, рыжыя хмызы на тым баку, жоўтыя паплавы, а далей, пад Шчыбрынам, дзе апошнія прамяні сонца – і паплавы, і ўся зямля пяшчотна аранжавыя.

Лавіў ваўсю (сёння аж баляць рукі, плечы і бакі), але не спаймаў нічога, акрамя глею і кавалкаў дубу. Значыць, рыба пайшла ўжо ў віры, значыць, да будучай вясны, рыба.

Сутанела. Патыхала холадам. Разняў сак, скруціў і доўга стаяў. Толькі тут заўважыў, што агні яшчэ запальваюць на берагавых знаках. Слабыя, вельмі сірочыя і самотныя ў гэтым змроку, не такія, як улетку.

Вечарам напісаў верш аб каравелах. Успомнілася чамусьці Навелка Мацвеева[27] з вечнай марай аб Дэльфініі, вымушаная жыць у студнях-дварах. Паважаў і любіў яе вельмі, хаця яна і бзікаватая трохі. Ды гэта ўжо ўсе так.

Калі я здолею кінуць усю спешку, працу, халтуру, заперціся недзе ў Каралішчавічах, ці ў Белавежы, ці тут ды пісаць вершы?

Сёння цэлы дзень працаваў. Не хочацца працаваць, калі не верыш у патрэбнасць працы, калі рабіў бы яе па-іншаму, а тут соты раз чаўпеш тое самае. Дайшоў да 87-й стар. сцэнарыя. У нядзелю скончу, а добра было б – заўтра. Тады яшчэ кароткаметражку напісаў бы і падумаў аб плане Хрыста-аповесці, як змяніць другую палову.

Баюся, што сцэнарам і да аповесці смак сапсуў. А як бы напісаў без яго: з рогатам, слязьмі, думкамі. Эх... Добра, што ціха, што ніхто не звоніць, што круг ад лямпы падае на паперу. І на тым дзякуй.

*14 лістапада. Нядзеля*

Пазаўчора ўначы напісаў яшчэ “Каложу”. А ўчора ўстаў і ўбачыў на вокнах марозныя тропікі, а за акном – малады неглыбокі снег. Часткова менавіта гэты снег разбіў мне дзень.

Узяў і пайшоў у горад. Мароз, сонца гуляе ў снезе. Дарогаю ўбачыў хлопца на пагрузачнай машыне. Той думаў, як яму закаціць на яе рыдлёўку валун (дзеці “гулялі”, выкочвалі яго на дарогу, і ўжо мы з дзядзькам аднойчы адкацілі яго з асфальту).

Папляваў на рукі, закацілі камень, і шафёр паехаў паўз мяне, несучы яго, як клёцку на лыжцы.

Снег рыпіць, цёпла ад марозу, дрэвы, будынкі асветлены сонцам. Купіў паперы, папярос, кавы і вярнуўся дамоў.

Сеў за “Хрыста”. І зноў зрыў. Маці ўхітрылася спусціць кацёл. З непрывычкі, вядома. Шураваў, выкінуў попел і вугаль, зноў заклаў дроваў – і аж загуло. Зноў забіты час.

Тады сеў і як націснуў, дык да вячэры амаль скончыў, а пасля вячэры такі дабіў. Сёння толькі прагледжу ды, можа, скарачу. Аж лягчэй на душы.

Увечары прыйшлі старыя Гансоўскія. Дзед казаў, што заберагі на Дняпры вялікія, а пад мастом лёд лёг ужо таксама мастом.

Вечарам пачаў “Баладу аб звязаных і аб чалавечым “Даруй”. Не дапісаў і, упершыню за многія месяцы, да трох гадзін качаўся ў бяссонні. Сёння затое да дзевяцёх спаў і праспаў прыход Клятэцкага. А той дзядзьку ўгаварыў ісці на паляванне. І пайшлі яны ў шэры дзень і мароз аж пад Азярышча. Толькі вось вярнуўся, чырвоны і трохі на падпітку. Зайшлі да Васіля Кірэйшына, да бакеншчыка, і там трохі ўзялі.

Аб паляванні не шкадую. Збегаю сёння на Дняпро, пагляджу, як стыне. Не пайшоў, затое за ранак скончыў “Баладу”. Зараз сяду яшчэ за сцэнар, а вечарам, магчыма, накідаю план “Памяці”[28]. Так і не здолеў за гэты час у Рагачове накідаць план “Стужкі”, “Тараса на Парнасе” і аповесці аб “Хрысце”. Нічога, дараблю ў Мінску.

Паслязаўтра, відаць, паедзем. І трэба ехаць, і нічога асабліва цікавага тут

узімку не будзе (гэта не летнія ловы на Дняпры), і, у той жа час, шкада рабочага настрою, які ў Мінску абавязкова сапсуюць.

*15 лістапада. Панядзелак*

Цярпець не магу двурушнікаў. І ўвогуле, і, асабліва, у гісторыі. Сённяшні – ён на далоні, а гісторык – спаймай яго: думаю так – і ўсё. Тут адзіны выхад – біць па сумленні, калі яно не дужа яшчэ скамянела.

На абмеркаванні дакладу Зайцава нейкі вучоны з яўрэяў выступіў і пачаў гаварыць нешта аб прагрэсіўнасці Расіі ў параўнанні з Заходняй Еўропай, прычым ледзь не з Гастамыславых часоў (між тым як і там, і там было сярэднявечча). І гэта ў той час, як у той жа Польшчы была хаця і шляхецкая, але дэмакратыя, а ў княстве Маскоўскім "подвизался" Ванька Крывавы з апрычнікамі. І ў гэтым, між іншым, была прычына, чаму спрэс праваслаўныя магнацкія роды Беларусі спачатку пацягнуліся прэч, пасля да Польшчы, а пасля, вядома (хто кароль, таго і вера), у каталіцтва. Лепей чужая вера, лепей да д'ябла, чым удзельнічаць у разгуле забойстваў, падазронасці і беззаконня (праўдзівей, парадку, калі закон – воля аднаго), удзельнічаць у тым дзікім Сораме, які зваўся Маскоўскім царствам. Гэта не зусім мая думка, але гэта верная думка.

"Іван малайчына. Ён, урэшце, зразумеў, што апрычніна – зло, і адмяніў яе, а апрычнікаў перабіў". Лухта! Проста пачаў баяцца, ды й справу сваю яны зрабілі. Гэта з'явы аднаго парадку, што і разня штурмавікоў, якую ўчыніў Гітлер. І ўвогуле, магчыма, Іван – гэта Гітлер XVI стагоддзя. Адзін бараніў нованароджаны клас дваран, другі – усім вядома каго. Часы былі розныя, маштабы – таксама, але дзікае самавольства было аднолькавае і рабілася ў імя эліты, якая трымалася ліхаманкава за ўладу, дарваўшыся да салодкага жыцця. Паралеляў у гісторыі сотні, а імёны забітых "ты, господи, веси".

Гісторыку таму, як яўрэю, і зусім брыдка было і не пасавала бараніць у корані рэакцыйную манархічную, у сутнасці, мураўёўска-карнілаўскую і толькі так-сяк пераліцаваную думку. "Рэакцыйнае" Беларуска-Літоўскае княства прыняло яўрэяў, калі іх гналі паўсюль, калі ў Ціролі выбухалі пагромы, а ў Кастыліі гарэлі вогнішчы. І жылі ягоныя супляменнікі тут не добра і не кепска, і з прывілеямі, і з паборамі, і з гвалтам (літаральна так, як і хрысціяне – беларусы, літоўцы, палякі – роўныя перад дэспатызмам, але спакойныя за сваю веру і ў 90 выпадках з сотні – за жыццё).

А пасля Іван прыйшоў у Полацак. І калі для праваслаўных і каталікоў паўтарылася проста трагедыя Ноўгарада, то для яўрэяў прыйшло знішчэнне. Трупы забілі ўсю Палоту, як глушаная рыба.

І ён пасля гэтага яшчэ распінаецца за "прагрэс", смярдзючка такая. Цікава, як бы яму было несці тую "прагрэсіўнасць" на ўласных плячах, жыві ён у той час. Ды й хіба толькі ў той? Здарылася б зараз нешта страшнае – і ўсё. З падобных яму быў бы ідэальны матар'ял для раба.

Я яму гэта і сказаў. Шкада, што не дужа даходліва, спакойна, ясна і папулярна: галава балела.

Часам гэтая гнюсь прымушае проста фізічна балець маё здаровае пакуль (цьху-цьху-цьху!) сэрца. Урэшцэ, колькі ж гэта кіёў трэба абламаць аб чалавечую галаву, каб яна пачала думаць па-сапраўднаму, незалежна, як то ёй і належыць?!

Балбочуць аб тым, што пасля прыяднання Беларусі ад адной манархіі да другой – народы "маглі разам змагацца супраць імперыі за волю". Міла. Не кажучы ўжо аб тым, что народ быў спрэс "царыст" – чаму не змагацца "супраць імперыі за волю" поплеч з народам польскім? Турэцкім? Нямецкім?

Вера? Дык мы ж адмаўляем яе, яна – "опіум". Мова? У нас з палякамі яна

таксама блізкая, а ў англічан і амерыканцаў у XVIII стагоддзі была, пэўна, больш падобная, чым зараз.

Калі гэта так – чаму было нашым сялянам не змагацца разам з французамі эпохі Напалеона? Страшэнна выгадна. Нават выгадней: такія рэспубліканскія традыцыі! Чаму, урэшце, было не падпарадкавацца Гітлеру? Рана ці позна нямецкі народ таксама раскусіў бы фашызм (як наш мужык – царызм – і, пэўна, раней, чым праз 125 год), і тады як выгадна было б разам змагацца. І, аднак, у першым выпадку Беларусь адказала Жарцамі, а ў другім – 360-тысячнай партызанскай арміяй.

Словам, як ні сумна, а гэта паўтарэнне сяк-так прыстасаваных для антыманархізму поглядаў паноў Крушавана, Пурышкевіча, Мураўёва, Карнілава, Каткова, Прудона (што датычыць гэтага пытання), Рыціха і К°. Інерцыя мазгоў, якія працуюць з рыпам, якім лягчэй пераварыць старое, трохі пераліцаванае, чым падумаць і выпрацаваць правільнае, сваё. А можа, і горш, чым інерцыя. Гісторыя працуе не толькі па схеме: трагедыя – фарс. Яна працуе па сістэме паўтарэння: трагедыя – фарс – непрасвяцімая дурасць – аж пакуль не знойдзецца нехта, які замест дурасці дасць разумную думку і пераканае ў ёй усіх сумленных людзей.

А пакуль ніхто не дасць сабе цяжару задумацца над тым, што ў сучасную філасофію, у сучасны лад думак нахабна ўлезла старая падгрыміраваная шлюха: думка, ідэя эпохі захопніцтва, драпежніцтва, эгаізму, кітайшчыны, імперыялізму, калі хочаце. І глядзіць чалавек здалёк і думае: “Ах, якая складная, якая маладая, якая зручная жанчына! І якая разумная, як яна спрытна і лёгка ўсё тлумачыць!” І вось замест дыялектыкі, неймаверна складанага сплячення абставін – добра яшчэ каб догма, а тое проста шкодная “мразь”, якая псуе сапраўднаму братэрству ўсіх народаў зямлі горш, чым сто год назад, бо тады яна была шчырая ў бессаромнай сваёй галізне, а цяпер – крывадушная, апранула туфлікі і прыклеіла фігавы лісцік. Чарнышэўскі супраць яе змагаўся, Някрасаў, Шварцэ, Каліноўскі, Герцэн, Багушэвіч, Маркс, Пляханаў, Купала ў лепшых сваіх рэчах, Багдановіч, Вароўскі, урэшце, змагаўся Ленін, а яна толькі што трохі вусны пафарбавала, змяніла ***a*** на раўназначнае ***b+c*** і стаіць, усміхаецца нахабна і задавальняе пасрэднасць, якая думаць не хоча і падстаноўкі не хоча заўважаць, або і не можа заўважыць.

Але так не павінна быць. Не павінны старыя думкі (маю на ўвазе, вядома, не думкі Герцэна, скажам, а думкі Мураўёва) паганіць псіхічны склад сучасніка. Дзярмо не павінна ляжаць у скарбніцы. Гнілое мяса будзе смярдзець, як ні падфарбоўвай яго пад свежае і як ні палівай парфумай. Не павінна быць думкі: “Я харошы, а ўсе астатнія кепскія”. Не павінна быць думкі: “Добра – гэта тое, што мой тата рабіў і я раблю, а што чужы тата – гэта дрэнна”, калі твой тата, скажам, краў з тваёй дапамогаю коні ў бедных людзей, а чужы тата яго спаймаў. Трэба адмежавацца ад гэтай думкі, калі не хочам затлусцець, выклікаць да сябе нянавісць і, урэшце, па заслугах здохнуць пад плотам або згарэць.

*15 лістапада. Вечар*

У нядзелю вечарам, скончыўшы прагляд “Хрыста”, выпісаў на паперу ўсе помнікі архітэктуры, якія памятаю, і па атласе склаў маршрут паездкі, каб менш выдаткаваць часу. Атрымалася даволі-такі здар-ровая дарога. Вясною паедзем.

Сёння раніцаю ўстаў трохі са спазненнем, папіў кавы, пачаў думаць, і нешта думкі не ў той напрамак пайшлі (лайдак я страшэнны, абы не рабіць таго, што трэба!), і стаў я думаць і распаліўся і зрабіў папярэдні запіс. А пасля сеў і са злосці напісаў чарнавік “Памяці”. Увесь. На машынцы, пэўна, будзе старонак 14. Не ведаю, як атрымалася.

На дварэ холад. Ісці – усё адно нікуды не пойдзеш. З раніцы газу не было, пасля прывезлі балон. Кацёл паліў. Абразаў фотакарткі. Часткова перапісаў “Памяць” на чыставік. Вось і ўсе так званыя падзеі за цэлы дзень. Заўтра пастараюся ўсё перапісаць, скласці рэчы ды паслязаўтра і ехаць. Справы чакаюць. Хутка праляцелі дні.

*16 лістапада*

Учора вечарам, ужо ў ложку, успомніў радкі і намёткі строфаў верша, які пачаў абдумваць яшчэ мінулым летам у Турэйцы. Успомніў будан, вогнішча, “Ладдзю Роспачы”, якую там правіў, пачуццё шчасця (куды яно цяпер падзелася?!) і крокі бакеншчыка ўначы. Так і назваў дапісаны верш: “Крокі ўначы”.

Сёння за раніцу перапісаў, шліфуючы стыль, “Памяць”, і вось зараз 3 г. дня. Мароз. Жаўтаватая пляма сонца ў хмарах.

Складу рэчы і заўтра, у 10.45, пастараюся выехаць.

Вось дом.




*29 студзеня. Рагачоў*

74 дні мінула. Амаль два з паловаю месяцы. Метадычнасць запісаў проста здзіўляючая – ну, падзецца няма куды. Даўно перабраліся ў 66-ы год, а я... Але гэта не толькі з дзённікам. Працу запусціў таксама страшэнна, на лісты з самага таго часу амаль не адказваў. 6 адправіў учора, 1 – сёння раніцай. Зараз напісаных ляжыць 9, ды яшчэ адказваць на 39. І лісты ўсё вялікія, важлівыя. Некаторыя з падборкай вершаў, іншыя – на 4 мае, дробна спісаныя старонкі. Добра. Ніхто не дапаможа, разблытваюся сам.

Зноў Рагачоў. Зіма. А тады я ад’язджаў. Пахнула яшчэ, нягледзячы на мароз, восенню, сям-там былі жоўтыя лісцікі. А пасля адлігі былі.

Прыехаў я тады з маці ў Мінск. Адразу праца па хаце, адразу беганіна за грашыма. Адразу, 19-га, сцэнар на студыі чытаць, адразу ідыёцкія заўвагі (пазней суаўтара прапанавалі, і плюнуў я за гэта на іх), адразу сябры і выпівоны. У “Маладосці” палаяўся з Панчанкам за “5966 год”. Яму было нязручна і мне, забраў я рукапіс. Толькі пазней Брыль мне растлумачыў яго становішча, і мы сяк-так паразумеліся.

На тэлебачанне аднёс сцэнар – яны працягнулі месяцы паўтара, і ўжо ў студзені я яго ўзяў і аддаў на дакументальную студыю. Ды й там муць.

“Ладдзю” ў “Полымі” ўзялі чытаць, ды, відаць, не надрукуюць. П. казаў: “Што ты, братка. Гэта ж гісторыя... Герой такі-гэткі, п’е, з жанчынамі спіць”. Нічога дзіўнага, калі ў кіно забаранілі лаянку (у полі, на калгаснікаў і на падначаленых – можна), паказванне выпівак (у жыцці – хоць з ног кідайся, абы не ва ўстанове), сцэны ў ложку (у кожнага, у залежнасці ад розных прычын, ад адной да дзесяцёх палюбоўніц) і іншае такое. Тарцюфы ў ролі заканадаўцаў і арбітраў прыгожага.

Чытаў газеты за некалькі месяцаў – добра, калі за год набярэцца па 10 цікавых матар’ялаў.

У Лужаніна працавалі над раманам. 72 ст. рэцэнзіі. Вось амаль два месяцы і працаваў.

Добра было хіба на дні нараджэння. Святкаваў 27-га. Добрая закусь і беларуская гарэлка з перцам – “жыватоўка”, віно, слаўная кампанія. Быў начыста цвярозы, так, трохі ўсхваляваны. Усім, здаецца, было добра.

І, галоўнае, спявалі. Так спявалі, што слёзы і смех прасіліся з вачэй. Асабліва Люба Гр.[29] і Валя (Рыгора не было, паехаў у Таджыкістан).

Спадабалася ўсім, а Толька Забалоцкі абалдзеў, да таго яму да сэрца прыпала. Цяпер з усімі за Беларусь лаецца. Будзем з ім здымаць “Памяць”, калі яе пусцяць, у чым я сумняваюся. Кіно наша для бескампрамісных, якія не паспелі ўвабрацца ў сілу, для здольных і, галоўнае, для перыферыйных – клаака з чарвякамі ды га́дзінамі. Можна было б, вядома, бясконца працаваць і перарабляць, каб жыў адным гэтым. Але ж гэта для мяне не ўсё. І я хачу сапраўднае даць, а яны ў мяне, як у Чэхава ў апавяданні, патрабуюць: ”Не, давай капейку, давай дзярмо”.

Грышка прыехаў з поўдня, паехаў хутка ва Ушачы, а я ўсё не мог адарвацца ад гэтых спраў, якія сушаць. А тут яшчэ сваяцкі́ спраў падкідалі, а тут яшчэ Лявон аддаў чорт ведае каму рукапіс рамана. Словам, цягнуў я тыя справы ваўсю і пакутаваў.

А тут яшчэ дзікая справа з музеем. Усе нашы намаганні пайшлі дымам. А было так.

Пабудавалі цудоўны будынак для гісторыка-краязнаўчага музея –

4300 м² карыснай плошчы і яшчэ два паверхі для музейных фондаў і майстэрань. І тут адна асоба, з’явіўшыся ў музей Айчынай вайны, з абурэннем заўважыла, што няма яе партрэта. Апраўдваючыся, супрацоўнікі сказалі аб цеснаце. Між тым, музей меў 1300 м², цалкам добра. І вось на пачатку снежня стала вядома, што ў верхніх інстанцыях абмяркоўваецца пытанне аб тым, каб музеі памянялі месцамі, між тым, толькі на савецкі перыяд у новым будынку было адведзена 1950 м². Ці мэтазгодна было рабіць такое хаця б з гэтай прычыны?

Супрацоўнікі ўзнялі трывогу, пісалі лісты, літаральна білі ў набат. Таму што гэта была катастрофа. Для фондаў музея Айчынай вайны не трэба і трох пакояў. Для іхняй экспазіцыі ў новым будынку хапае аднаго паверха, а два ніжнія паверхі для фондаў будуць пуставаць. Між тым, калі гістарычнаму музею аддадуць будынак музея Айчынай вайны – яны будуць задыхацца ў цеснаце, не будзе дзе размясціць таксідэрмікаў, заалагічна-біялагічную лабараторыю, фонды. У музеі павінны былі размясціцца рэспубліканскія рэстаўрацыйныя майстэрні – цяпер ім зноў не будзе памяшкання.

І пасля гэтую справу правялі цішком, у таямніцы ад супрацоўнікаў. Тыя прыйшлі на работу – ім сказалі: ідзіце дадому. Наступнага дня быў загад: спыніць экспазіцыю. Даведаліся, што прыязджаў Машэраў. Ён, відаць, і аддаў загад.

Спынілі работу па мантажы, разлічыліся з мастакамі. 1½ месяца пасля таго нічога было невядома. Пасля дырэктар афіцыйна сказаў, што павінны перавесці ўвесь музей. Між тым затраты на экспазіцыю, мастакоў, мантаж, эскізы, прывядзенне будынка ў парадак склалі ўжо 200 тыс. рублёў новымі народных грошай (мільён чатырыста дваццаць восем тысяч пяцьсот семдзесят адзін кілаграм хлеба).

Але каму да гэтага справа? Псу пад хвост. Што нам варта яго выкінуць. Два гады з Канады завозілі – завязем і яшчэ. У аддзеле прыроды ўзнялі паркет, папсавалі падлогу, звязваючы каркасы дыярам. Цяпер гэта ўсё зноў ламай, зноў манціруй і сцялі. І ані слова супраць з боку дырэктара. Урэшце, ён і раней трымаў сябе так, дый прызначаны быў, відаць, не для ўзначалення беларускай гістарычнай навукі, а для ўдушэння яе. <...>

І вось нядаўна афіцыйная пастанова. "З мэтай увекавечання". Увекавечваць трэба, няма ніводнай сям'і, якая не пацярпела б. Але ўвекавечаць не безыменных. Паколькі верхні паверх будзе пуставаць, там зробяць "Галерэю партызанскіх герояў". Не тых, што стралялі і паміралі, а тых, што пасля з'явіліся на гатовенькае. З чым вас і віншую. Толькі аб сваёй "славе", быццам забыўшы, як лёгка яна скідаецца з п'едэстала, калі яна незаслужаная.

Між тым, экспазіцый столькі, што і на такой плошчы не было дзе іх размясціць. Змагаліся з мастакамі за кожны экспанат. І вось...

На 1300 м² трэба размясціць аддзелы археалагічны, феадалізму, капіталізму, рэвалюцыі, сацыялістычнага будаўніцтва, вайны (1 зала і дыярама "Мінскі кацёл"), камуністычнага будаўніцтва і цэлы паверх новага будынка – прырода і краязнаўства (важнае, перш за ўсё, для школьнікаў).

А гісторыя для **ўсіх** беларусаў і гасцей. Адна рэспубліка з 15 не мае свайго гісторыка-краязнаўчага музея. І не будзе яго мець пры цяперашняй палітыцы. А ёсць жа ўнікальнейшыя экспанаты: жытло чалавека з касцей жывёл – адно яно можа карыстацца еўрапейскай славай; дзе яно змесціцца ў старым будынку. А рэчы з музея-палаца Паскевіча?

Я не кажу ўжо аб няправільнасці гэтага ўчынку з палітычнага боку. Частка гісторыі не можа быць большая за цэлую гісторыю. Айчыная вайна – славуты этап, але яна будзе займаць больш месца, чым усе 800 г., рэвалюцыю, Грамадзянскую вайну, 50 год савецкай улады, барацьбу Заходняй Беларусі.

А Кастрычніцкі зал, спецыяльна пабудаваны і распісаны. Цяпер яго пераафарбоўваюць, аформлены толькі дзеля гэтай мэты.

Часціна большая за цэлае. Ленін, значыцца, меншы за іх усіх. А калі ім так патрэбна свая слава, то ці камуністы яны? Словам, буйнейшая навуковая ўстанова пасля акадэміі, вялікі навукова-метадычны цэнтр, магчымая слава наша – ляснулі. Але каму патрэбная наша слава? Каму, калі яна не патрэбная нават многім з нас.

...Так праходзілі дні. Кожны, чорт яго бяры, як крыж. Пэўна, здохну раней часу ад разліцця жоўці або інфаркту.

31 паехалі мы з Адамам, Марыяй і Алікам[30] у Гудагай. Маці засталася адна. Павінна была прыехаць пляменніца [з Оршы], але не прыехала. Маці адзін вечар была ў Алешкі, другі – у дальніх сваякоў.

А мы паехалі. Доўга стаялі на віядуку і чакалі ўначы. Пасля селі. Вельмі ўдала зрабілі перасадку ў Маладзечне на Гудагайскі цягнік (некалькі хвілін прастаялі) і зноў паляцелі ў ноч. Я люблю гэтыя мясціны. Паўсюль яшчэ хутары. Рэдкія агеньчыкі ў снезе. Міргаюць здалёк. На станцыйках аранжавае святло праз вокны, цішыня.

Прыехалі на станцыю. Сустрэлі нас там. Прыйшлі ў хату. Усё тое самае. Цудоўная яліна. Стол у вялікім пакоі, старая гравюра, на якой суд над Хрыстом (словы, якія казалі першасвяшчэннікі і члены сінедрыёну, напісаны ў іх каля рота на сувоях-не сувоях, словам, на месцах, абведзеных рамкамі). "Тышчу гадоў" гравюры. Спакойны няспешны наіў. Глядзі сабе, чытай, даведвайся, як гэта яны яго судзілі – нібы пратакол з архіваў копнага суда. За гадзіну ўзнялі чарку за стары год, а там кшакуўкаю адзначылі і новы. Добра мне там. Ды й увогуле з Адасём добра і спакойна. Каго б не хацеў ніколі страціць, то гэта яго.

*1 лютага. Аўторак*

Ну а што паспела здарыцца ў гэтым годзе? І многа, і мала. Паспрабую ўспомніць. 1 студзеня цэлы дзень сядзелі з Адамам, мамай ягонай і іншымі ўдома. Гаварылі пра многае, спрачаліся, пілі, як губкі, але п'яныя, здаецца, не былі. Прынамсі, не дужа былі. Госці троху сядзелі. Вечарам былі ў клубе, слухалі канцэрт. Глядзелі "Прымакоў". Весела было. І зганобілі мяне тут гудагайскія "бабы, брыдкія богу", як казалі бацькі хрысціянства, – ну, ледзь не да апошняга. Ану іх, словам!

Былі наступнага дня на хутары ў Марыі. Добры чалавек дзядзька Карл[31]. Але цяжка хадзіць па кладках з хутара на хутар, у клуб і назад. Над стронгавымі ручаінамі, над чорнай і шумнай уначы вадой (бо адліга з'ела лёд і моцна папсавала снягі). Каб гэта на Рыгоравай радзіме, то сто разоў утапіўся б. Там лічаць, што парэнчы рабіць ля кладкі – нявартая справа і залішняя праца. Абыдзецца, маўляў, і так. У мінулым, праўдзівей, пазамінулым годзе я там ледзь не сплыў у Ваўчэнскае возера.

Але няхай сабе і кепска хадзіць – ёсць у гэтым тое, чаго ніколі не сустрэнеш у ідыёцкіх гарадах: водар расталага снегу ўначы, вільготны цяжкі вецер, шум вады і вербаў, хутарскія агеньчыкі сярод разводдзяў.

Калі і надалей будзе так, калі даб'ем вёску – і зямля, і душы давеку застануцца абкрадзенымі.

А гэтага, мяркуючы па ўсім, нядоўга чакаць. Калі, вядома, нічога не зменіцца. Не хапае хлопцаў. Нават у "Прымаках" некаторыя ролі гралі дзяўчаты.

А ў той вечар, другога, гэты клуб з пацьмянелымі сценамі, з шэрай пабелкай, са сцэнай, на якой ляжыць лубін (дзеці сыплюць яго пад ногі танцорам), са сляпым харошым чалавекам-гарманістам і з нешматлікімі хлопцамі, якія лічаць, што яны тут цары і багі, ды цераз грыб плююць. Я там заеўся з адным, збольшага, відаць, таму, што пыхатых не люблю, ды й напіты трохі быў.

Пераначаваўшы ў дзядзькі Карла (а ляжалі мы з Адамам на падлозе, вартуючы ложак Марыі, так што ёй нічога не каштавала, калі б захацела, даць любому з нас па галаве), сталі думаць, а што рабіць далей.

Зіма сіроцкая, цячэ са стрэх, ходзяць мокрыя куры, і вецер нібы кожны раз на іх старую загадку адгадвае ("ходзіць пані ў жоўтым жупане, як вецер павее, то й с.... відаць"). Не памятаю, як там, а тут, у Рагачове, нават гракі паленаваліся ляцець на поўдзень і часткова засталіся тут. Ні д'ябла мы не ведаем, які такі, на месяцы разлічаны, барометр дае ім упэўненасць, што зіма будзе мяккая.

І пайшлі мы з Адамам у Расолы, да яго і Альбіна[32]. Мясціны не нашай, прыдняпроўскай, але дзівоснай прыгажосці. Гарбы ў дрэвах – сіне-фіялетавыя, снягі, шэрае адліжнае неба, хуткія вузкія рэчкі, зарасці.

Паўстанцкі крыж ля дарогі. Неадгабляваны, а так, нібы цэлым дрэвам. Нібы ўзяў рукамі папярочыну і выгнуў яе на ўласных магутных грудзях. Падаў, валілі некалькі разоў. "Шкодзіў" рознай навалачы, што некалькі разоў тут ішла. Зноў ставілі людзі. Так і ўяўляеш, што яшчэ праз сто год, калі не знішчаць, папярочына будзе ледзь не над самай зямлёй. Трэ было б добра надтачыць бервяном, змацаваць добрымі шыпамі (бо ад жалезных скобаў дубу шкода) ды паставіць на ранейшую вышыню... Былі ў Аняліне, дзе быў Кастусь. Дома няма, адна пабудова надворная і замок.

Хутар Адамаў – дзіва. І чаго мучаюць людзей, чаго іх торгаюць?! Няма ж у тым сяле або на той станцыі той выгоды ні быдлу, ні людзям. Зручней, можа, пад рукой трымаць? Зноў лухта. Далі б ужо таму селяніну спокуй свенты, заслужыў бо. І нібы самі не разумеюць, што без чалавека, закаханага ў зямлю, без таго, хто моцна стаіць на ёй і не кіне – няма ні зямлі, ні моцы.

Вось тут і хадзіў хлапец. Кучма была, нібы ў **паупуса** (як казаў наш выкладчык

дыямату ў Кіеве ёлупень Марозаў), трохі, відаць, быў смешны, а харошы, які і застаўся. Залятаў да цяперашняй жонкі, сварыліся патроху, ды й мірыліся. Добра было. І хадзіць тут было хораша. Асабліва, відаць, калі бэз цвіце, а то ўлетку. Але і ўвосень нічога, на агні хутароў.

Склаўся тут побыт моцны, непадобны на наш, дняпроўскі, дыхтоўны, своеасаблівы. І, вядома ж, "Паўлінка" магла адбывацца паўсюль на Беларусі, – і ў гэтым яе сіла, – але тут усё ж хутчэй, чым у нас. Чорта з два ў нас паверылі б у "спружынны касцёл".

І было мне там, як адкрыццё занова шмат якіх старонак "Каласоў". Цяпер у нас ужо такога хутара і такіх абсад не знойдзеш, нівеліравалі. І людзей такіх сустрэнеш радзей. Што датычыцца сялян і шляхты – гэта ўва мне памяць гаварыла. У дзяцінстве я многа "паўлінчыных хат" бачыў. Як хутка ўсё выводзіцца, бог мой! Але тут гэта долей трымацца будзе. У нас на Дняпры норавы шырэйшыя, як сама натура: стромы, далячынь, разлівы на 12 вёрст. А тут утульныя лагчыны, дабрыня, узвышшамі прыкрыты далягляд, сціплая ў прыгажосці сваёй зямля. І дзякуй богу, што тут застаецца. Можа, і ўвогуле застанецца. Павінна застацца.

Здаецца, кансерватарам раблюся. Ну і няхай. Абы не ў галоўным.

У Расолах настыла хата за два дні. Харошая хата. Жыць бы і жыць. Альбін паліць печку – самому б так паліць. За вокнамі зямля, як мора, што бегла вялікімі хвалямі, ды й застыла. Ну і добра, век бы гэта бачыць... Трохі прыгрэліся, выпілі. Тут жа каты вуркочуць. Адзін – як нячыстая сіла, чарнейшы за свой уласны цень, нібы ў тушы купаны, гладкі кацяра з зялёнымі вачыма, шаўкавісты, з круглым пузам. Добра яго было качаць. Калі я здрамнуў – сеў ля мяне і глядзеў, кажуць... Пасля Марыя прыйшла.

Не хацелася ісці ў Гудагай, не хацелася і ехаць чацвёртага вечарам у Мінск. Зноў гэты горад, чужы мне і большасці сяброў, горад, у якім многа яшчэ трэба пабудаваць, каб стаў ён, сапраўды, сэрцам. Дый ці пабудуеш яшчэ? Пакуль тое, пальму трымае Вільня. Хаця б гісторыяй, хаця б адной вежай на гары, хаця б адным ценем у Святаянскіх мурох. 5-га быў на студыі – зноў цяганіна. Вечарам Адам прыйшоў, але так мы, здаецца, і не працавалі, пацягнуліся некуды. Шостага – дамаўляўся з Кіслікам[33] і Тарасам[34] аб аповесці ў "Нёмне", Вылчаў[35] быў у мяне.

Сёмага Валька[36] прыцёгся, падпіты. Яшчэ дадаў, пачаў глупствы вяргаць, пасварыліся. А вечарам ён яшчэ і Адаму нешта такое цяпнуў. Ну, нікуды хлапец. Ад суму, ад дому-турмы, ад вечнай нездаволенасці лёсам і жыццём выдумаў сабе ў мінулым за́мак і замахваецца на ўсіх, хто ведае, што ніякі гэта не замак, а... Словам, ладна.

У адзін з тых дзён хавалі бедалагу Ігара Хадановіча[37]. Таленавіты хлопчык, бедны хлопчык. Няшчасны лёс: "У счастливого недруги мрут. У несчастного – друг умирает"[38].

Гэтая свалота, якая забіла яго, і словы яе: "Раечка, подожди, я тут одного пшека научу говорить по-русски" стаяць у вушах. І вось свалоце, забойцу дадуць максімум восем год, а чалавеку, які абяцаў расцвісці ў неабыякога празаіка, – магіла.

Я люблю людзей, але менавіта таму гэткіх, як тое быдла, што гаспадарыць у нашым горадзе, ды яшчэ ногі на стол кладзе, – я прылюдна вешаў бы. Збіць, а пасля вярнуцца з бандай яшчэ раз, наваліцца на сплываючага крывёй і дабіць. Якая ж тут "непреднамеренность убийства?" Фашызм гэта, вось што!

А адна асоба, калісьці славутая, "зволіла" мне даводзіць пазней, што патрэбен гуманізм, апраўдвала іх. <...>

Узяць бы яго ды тыцнуць носам у пакой, калі там матка забітага казала камусьці (ён няўдала суцяшаў і сказаў, што хаваюць родных, хаваюць бацькоў): "А, сыночак. Калі сын матку хавае – гэта ўжо закон, так і трэба..."

Ваенная ўдава. Вырасціла сірату ад немаўляці да чалавека, добрага хлопца, мужа, пісьменніка. І ўсё дзеля таго, каб тупое быдла, якое ўлезла да суседа, жарэ ў ягонай хаце, ды яму ж на стол і с..., – узяло ды забіла.

Стаяў ля труны. Партрэт на сценцы малады, вясёлы. Праводзіў на могілкі. Народу было шмат. Разумелі. Ішлі без шапак, як належыць: ад брамы і зноў да брамы. Глотка аж разрывалася, здавалася, задыхнуся. Марозу не адчуваў. Слёз не было. І гэтыя жалю вартыя зімнія прымулы ў вазончыках, замерзлыя па дарозе ўжо.

Пакінулі чалавека ў зямлі і рушылі. У мерзлай зямлі. Нават шэрага таго неба не ўбачыць. Адзін.

Ішлі з Зянонам[39]. Шапкі надзелі за брамай – ды і ўсё. І ханжанства наша ў газетах нават "па-зверску забіты" выкрасліла. "Не варта". "Нашто?"

Адно ведаю: дня таго, чорнага гэтага твару на марозе, забінтаванага ўсяго, літасці гэтай менавіта да таго, да каго не трэба, слёз матчыных – гэтага я не забуду. Гэтага я ім, свалоце, патэнцыяльным фашыстам, гэтага я ім не забуду.

* * *

Дні пацяклі. Напісаў для "Европы" эсэ аб літаратуры нашай. Трэба, каб ведалі. Каб ведала як найбольш людзей. Адась для таго ж часопіса зрабіў цудоўную хроніку. Усё галоўнае.

І часу не было, але такое важней, чым уся мая ўласная пэцканіна. Людзі павінны ведаць і паважаць. Працавалі з Адамам над "Каліноўшчынай у Мінску". Урэшце, зрабілі. Галоўная тут праца – ягоная. Як добра, што ёсць – знаўца. І гэта патрэбна. Каб ведалі. Усё дзеля гэтага. Каб ведалі.

У нядзелю, 9-га, прыйшоў да мяне Зянон. Хадзілі па вуліцах, шмат гаварылі. Харошы, трывалы, нервовы па-добраму і чысты чалавечына.

Усё добра. Кожнаму свая праца на зямлі. І кожнай справе – свая чарга.

Вось і працую.

За тыя дні суровага роздуму і асэнсавання, калі расце чалавек і ўздымаецца яшчэ на адну прыступку, адно было шчасце – сябры. Ну і яшчэ дзясятага глядзелі з Адамам у акадэміі карціны Драздовіча[40]. Так што той панядзелак быў чымсьці накшталт нядзелі. Дзіўнае ўражанне: школы не хапала і, аднак, магутны талент. Не таму, што з адной зямлі, а папраўдзе. Гэты крык фарбаў у гістарычных карцінах, гэтая вычварная, кранальная і трохі дзіцячая мара аб сусвеце, аб нейкіх дзівотных гарадах, якіх няма на зямлі, гэтае адчуванне тугі, мужнасці і веры – гэта маё, гэта агульнае.

Ён верыў. Магчыма, таму, што (ведаю, скажу дзікае для многіх) меў наіўную, бы ў дзіцяці, душу. Іншы чалавек ніколі не мог бы так грувасціць фарбы, у шэрым быцці марыць пра нязнанае. Іншы чалавек ніколі не намаляваў бы такога мядзведзя сярод ялін, што падобныя да хвашчоў. Дзіва – мядзведзь. Я літаральна рагатаў. Гэты непараўнальны прымітывізм, гэтая цэласнасць...

Лёс, напэўна, ёсць. Возьме, ударыць, адбярэ нешта, уразіць болем – і раптам дасць, падорыць адчуванне еднасці чалавека са сваім людам, падорыць веру, што ўсё, нягледзячы ні на што, наканавана і прадвызначана ў лепшы бок, што нічога, ніколі і ніхто з гэтым не зробіць, што быць гэтаму вечна, пакуль ёсць людзі, зямля і дабрыня. І колькі дадзена табе служыць ім – столькі і служы. Не бойся. Што ні зробіш – толькі зрабі гэта па-чалавечы. Нават памры.

Працаваў усе тыя дні. Выправіў раман (работа дзікая), у суботу, 22-га, купіў маці білеты на цягнік (едзе ў Кіеў), уладкаваў шматлікія справы. У нядзелю чыталі і правілі ў Адама "Каліноўшчыну". Усё зрабілі, як належыць. У ноч на панядзелак праводзіў маці (сам білета сабе не ўзяў, заносы былі такія, што аўтобусы

на Крычаў і Гомель не хадзілі). Вярнуўся дахаты. Спаў не больш за пяць гадзін. У 8 устаў, занёс у выдавецтва рукапісы рамана і зборніка вершаў. Завёз у Саюз "Каліноўшчыну", вычытваў у "Беларусі" вершы. Выбраўся адтуль з Кіслікам і Тарасам. Сядзелі пасля ў мяне, выпілі трохі, развіталіся.

25-га прыйшоў дахаты, справы зрабіў, рэчы сабраў. Пад вечар прыйшоў Адась. Пасядзелі трохі.

Напярэдадні я і на студыі быў. Была гэтая... Юрэнева[41]. Рашуча выступала супраць беларускага дыялога: "Трэба, каб усім было зразумела". То дубліруйце, чаго вы? Нацыянальнае мы мастацтва робім ці не. <...> Шпак – маўчаў. Відаць, усё абдумваў, якім чынам зрабіць галгофу Братчыка – інсцэніроўкай Лотра (ну й дурасць! І герой, калі так, палучаецца падла, і сюжэт – дрындушка, а не народная трагікамедыя).

Урэшце, абрыдла гэта мне. Ю. вякала: "Нет сюжета, в таком виде нечего и посылать. Москва, комитет не утвердит". Ну і Паўлёнак, вядома, не зацвердзіць раней за той камітэт. То нашто ён тады з нашым "суверэнным" камітэтам? Так званае кінаначальства. Прапанавалі мне аддаць тысячу на кансультанта па рэжысёрскім сцэнарыі. Спачатку быў згадзіўся, а пасля задумаўся. Гэта ж не рэжысёрскі. Гэта, фактычна, у абход закону, новы варыянт літаратурнага. Ды Ск. яшчэ трымаецца, як п'яны за плот, за таго Сосіна. Сосін – кансультант Караткевіча. Па беларускай гісторыі. Вырашыў заяву не пісаць, а пайсці дамоў... Ну і адбыўся ж там хай! Вырашылі напалохаць. Выклікалі Рагнеду, каб прынесла казку Якімовіча (ужо сто год ляжыць) і яшчэ нейкае ... Сталі прапаноўваць Бычкову. І напалохалі замест мяне – яго. Яму зусім не хочацца іншага. Ён разам з імі толькі майго "Хрыста" хоча ... сапсаваць. Адзіны зараз добры сцэнар.

Паўлёнак крычаў: "Мы яму больш у кіно не дамо работаць!" а Р. яму: "А ён і сам больш не будзе. Гэта для падзёншчыка работа". Не напалохалі.

Бычкоў бегаў па студыі ў паніцы. З мяне сталася б і на грошы плюнуць. І толькі раніцай я даведаўся, што кансультант Толенька Галіеў[42], сябра, чалавечына. Ну, тут ужо нават для справы добра. Гэты сапсуць не дасць. Згадзіўся. Р. прыйшла, напісалі згоду, пакінуў я для Толькі ліст, даў Р. інструкцыі (яна зрабіла ўсё так, што люба-дарага), запрасіў Тольку да сябе (не змог прыехаць, толькі 1-га ліст прыслаў, што адносіны да сцэнара самыя лепшыя, пяшчотныя і беражныя). А Р. заверыў, што на ідыёцкія заўвагі аб інсцэніроўках – пляваў і "Фанфана-Цюльпана для бедных" рабіць не дасць.

У той дзень, у сераду, у 16.00 прыйшлі Грынчык, Адам з жонкай і знаёмым ды Мікола Прашковіч[43]. Пасядзелі добра, выпілі (званіў Толька Забалоцкі, сказаў, што згодзен быць аператарам, чым узрадаваў да немагчымага), вызваў я таксі. Астатнія засталіся прыбіраць, а Міколы даставіліся са мною да аўтобуса. У 19.30 ад'ехаў.

Дзіўная была гэта дарога. Каранціны, шлагбаўмы, вогнішчы, будкі вартаўнікоў (з комінаў лятуць у ноч іскры) і сама варта. Праз каранцін ехалі доўга, рабілі каўбасу з прыпынкам у Жлобіне і звязалі яе ў Рагачове ў 3 гадзіны ночы. Знайшоў чалавека, які спаў у машыне (гнаў яе з Гомля ў Мінск, ды здарожыўся), і ён мяне з рукзаком і чамаданчыкам даставіў да дома. Пастукаў – Альма пачала вішчэць, усталі ўсе, трохі пасядзелі, чарчыну з дзядзькам заклалі, ды й спаць.

Добра. Адно кепска – шафёр той, робячы разварот, спляснуў мой чамадан. Сяк-так выправілі, але ўсё адно нагадвае ён стары "шапо-кляк".

27-га; 28-га разбіраўся. Стол засцяліў. На маленькім кутнім століку – кнігі, на маім – паперы. Купіў кавы і папярос. І спачатку, дурыла, лісты стаў пісаць. І пісаў два з паловаю дні (палова – у нядзелю 30-га, бо прыйшлі Клятэцкія, і Дзм. Ілліч з дзядзькам матор рапаравалі, а пасля – выпіўка была), і напісаў процьму і яшчэ 19 засталося, і справу гэтую я рашуча скарачаць буду. А 31-га прыйшоў ліст ад Кісліка: да 10-га Хрыста трэба здаць.

І вось я 31-га чытаў і правіў напісанае і першага чытаў і правіў, і палову “Хрыста”-аповесці скончыў. Напісаў яшчэ па поваду яе лісты, з’ездзіў на паштамт, адправіў бандэроль і іх. Цяпер трэба да 10-га паспрабаваць па падрабязных накідах напісаць другую палову і адправіць.

Не хацелася забіваць вечара, апошняга, работай, і таму пайшоў на спатканне з Дняпром. То стаялі мяккія зімнія дні, а то пачаўся дождж, стаў есці снег.

У прыцемках бязмежная наша далячынь ляжала суровая, туманная. Была яна такой і пры Усяславе, як сядзеў ён у снягах і звон слухаў. Была яна такая і ў Магілёўскі бунт, і ў часы Багрыма, і цяпер. Удзьмуты сіні лёд Дняпра, вароны, змрок. У трываласці, у нязменнасці прыроды ёсць нешта пагрозлівае, але ёсць і надзея... І вось зрабіў запіс у дзённіку адразу за два дні, дагнаў час. Цяпер буду пісаць патроху, адпачываць за ім.

А цяпер спаць. Набліжаецца поўнач. І заўтра працаваць, працаваць. За сябе. А, калі ўдасца, яшчэ і за тых, хто ўжо не можа.

*5 лютага. Субота*

Дні пайшлі манатонныя, але – цьху-цьху-цьху! – дай божа часцей такой манатоннасці, каб у тваім жыцці амаль ніякіх падзей, а перажыў ты іх за гэты час – сотні. Другога ўвесь дзень сядзеў за аповесцю, і нешта яна ў першы той дзень рыпела: трэба было мазгі прыстасаваць да новага рэжыму, а на гэта заўсёды ідзе дні два. А вечарам прайшліся з дзядзькам. У той дзень грукнуў здаравенны мароз. Вось табе і сіроцкая зіма, вось табе і гракі. І куды яны, бедныя, падзеліся?

Ва ўсякім разе снег аж крычыць, месяц усё бязлітасным святлом залівае, цішыня, агеньчыкі. Словам, зіма, якой ёй належыць быць. Вечарам чытаў жыццё фра Тамаза Кампанелы.

І трэцяга ўвесь дзень пісаў і пачаў распісвацца. А вечарам пайшлі да Клятэцкіх, сядзелі там. Глядзеў першую серыю Грознага[44]. Трохі “опера ўдзень”. Ён, вядома, вялікі рэжысёр, але якая гэта хлусня гістарычна, як прыстасавана ўсё да кепскае сучаснасці Івана і Сталіна. Ужо гэтае вольнае абыходжанне з праўдай заслугоўвае таго, каб не лічыць Эйзенштэйна светачам. Бо светач – гэта не толькі вялікі майстра, а і ерэтык-праўдалюбца, і вялікі чалавек, які праўдай і гуманізмам саступацца не будзе.

Прыйшла ў галаву думка, што нядрэнна было б напісаць эсэ “Апрычнік на троне і “Жыціе святога Іаана” ў выкананні Сяргея Эйзенштэйна”. Другая серыя, вядома, шмат у чым цуд – але і там канечнае адценне некаторай праўды атрымалася хутчэй інстынктыўна, чым асэнсавана.

Учора таксама цэлы дзень пісаў. І распісаўся. Гэта вельмі пакутна: паварацiць урэшце мазгі і душу на такі стан, падобны да натхнення. Часта гэтага нельга сабе дазваляць – з глузду з’едзеш і сэрца сарвеш. Пасля з месяц, як ачмурэлы, ходзіш. Але часам гэта рабіць трэба. Усё адно як трэба часам напіцца. Дайшоў да выйсця Хрыста з Гародні. Там пойдзе лягчэй. Напэўна.

Уначы ўсе сочым за катлом. Хто прачнецца, той і ідзе. Іначай замерзне труба, якая ідзе ў бак на гары. Выходзіш, падломіш шлак, насыпеш вугалю, а пасля стаіш ля акна, глядзіш у месячны снежны сад. Рэзкія чорныя цені на белым, іскрыць снег. Раніцаю месяц чырванее. І вось дзень. І неба ўжо зусім не зімняе: надышла вясна святла.

Сіняе-сіняе. І голыя дрэвы чырванеюць, як у Юона[45]. На вокнах марозныя сонечныя папараці. З вечара не можаш заснуць ад прадчування працы, думаеш, выдумваеш новыя ходы, дэталі, слоўцы. І раніцаю яшчэ ў сне не церпіцца ўстаць.

Сёння зноў сонца і мароз. Раніцу загублю, так і быць. У лазню збегаю, вось што. Пахвашчуся венікам, каб аж галава ходырам пайшла. А там вярнуся – ды й за працу. І заўтра буду тое самае рабіць. Добра!

*9 лютага. Серада*

Тады ў суботу добра адхвастаўся. Пасля па моцным марозе прыехаў дадому. Бадзёрасць і сіла былі такія – гару б звараціў.

Працаваў, аднак, у той дзень нядоўга, хаця і вельмі добра. Вечарам, упершыню за гэты год, здаецца, прыйшлі вершы. Напісаў "Ўкруг месяца туманнае гало". Як рэдка яны прыходзяць. Трэба шмат вольнага часу, лёгкі сум аб чымсьці, цвярозая галава і – далей ад жанчын, ад тых, каго не кахаеш, а – так. Такое можа ўзяць ад чалавека ўсё, і нават самую душу, усё захапіць на патрэбу сваю. Жаніцца, відаць, сапраўды, трэба або дужа рана, і тады, астыўшы, паспееш зрабіць многа, або тады, калі ўжо нікуды не варты, калі пачынаеш спісвацца. Тады можа здарыцца цуд.

У нядзелю працаваў. Пасля, зусім трошачкі, выпілі з дзядзькам, разгаманіліся, фотакарткі друкавалі. Пасля, зусім уначы, пісаў лісты.

Панядзелак і аўторак зноў шалёна працаваў. Хрыстос мой патроху ачышчаецца ад махлярства і скверны, робіцца чалавекам. Але столькі новых думак перад ім і мною, што шкада кідаць іх, запісваю, і аповесць пухне. Уласна, гэта ўжо раман у заходнім сэнсе.

Сёння таксама пісаў. Толькі пад вечар, каб хаця крыху праветрыцца, з'ездзіў у цэнтр, кінуў лісты і купіў папярос. Заўтра-паслязаўтра трэба адправіць на машынку другую порцыю. А там, яшчэ праз некалькі дзён, і канец.

Адтуль ішоў пешшу. Зайшоў на Дняпро. Марозны туман. Чалавек-кузурка цягне бязмежным ледзяным абшарам санкі з паклажай. Ішоў адтуль. Сцежкі ледзяныя, але шарон такі моцны, што на ім амаль не застаецца слядоў. Ідзеш гурбамі, і яны спяваюць пад нагамі. Вочы бачаць нібы прамыта, кроў гарачэе. А перад табой сілуэты дрэў і дамоў і марозны захад: малінава-дымны ля далягляду і расплаўленае золата – трохі вышэй.

*14 лютага. Панядзелак*

І дзясятага, і адзінаццатага працаваў. Даволі добра рушыў "Хрыста". Ваюе з татарамі. Але думка, столькі сціснутая ў пракруставым ложы сцэнара, увесь час успамінае, як было задумана раней, да кіно, як было запісана ў заметках, і буяе, і расце, як хмель: прымусіць расці, як хочаш, нельга. Тады ж, адзінаццатага, пайшлі да Клятэцкіх. 11-га я ад "Хрыста" адарваўся і ўзяўся за эсэ для "Дня паэзіі". Не скончыў у той дзень. Тэму ўзяў – роздум ля дуба Крывашапкі ў Данілегах.

Ішлі ад Д.І. (ён ехаў у Грузію) у снежную завею. І вось зноў ці адліга, ці вясна прыйшла. Плыве па вуліцах, снег сеў, зноў з'явіліся гракі.

12-га скончыў "Дуб Крывашапкі". Чытаў яго дзядзьку. Нішто. Вечарам скончыў верш "Вуліцы".

Учора была нядзеля. Напісаў два, па-мойму, неблагія раздзелы. Скончыў "Ежа дзеля мужчын". Напісаў "Пятка не мае сораму" і "Саранча".

Вечарам чытаў дэтэктыў. Дзіка спазняюся супраць плана. Сёння раніцай, у густым тумане, пайшлі з дзядзькам і Альмай на Дняпро. Прасек пешняю дзве пелькі і паставіў прылады на мянёў, яны ж калекі або балабы. Калі не ўкрадуць, то заўтра раніцай пайду пагляджу. Будзе нешта – яшчэ дзве палонкі праб'ю.

Працавалася кепска. Пайшлі з дзядзькам у горад, купілі фотапаперы, кавы і іншага. Цурчыць вада, туман, на голых дзедавых дрэвах кроплі. (Нядаўна сусед ссек вішню, якой было год семдзесят. Вядома, трэба, яна ўжо і не пладаносіла, але як убачыў – сэрца сціснула. Такая была прыгажуня.

Мала ўжо што засталося і ад дзеда. Пра прадзеда і ягонага бацьку і не кажу: на вякі будавалі – добра, калі фундаменты засталіся. Так і ад мяне год праз семдзесят.)

Туман і туман. Шумяць мокрыя дрэвы. Зноў сеў і працаваў, і зноў кепска. Не скончыў і аднаго раздзела "Віно ярасці"... Калі паспею – д'ябал ведае. Махнуў рукою ды пачаў з дзядзькам фота друкаваць.

*15 лютага. Аўторак*

Сёння зноў туман і дождж, і празрыстыя глыбокія лужыны. Ясна, што ніякіх мянёў, ды і ў горадзе, куды схадзіў на кароткі час, нічога добрага, толькі што пару фантастычных раманаў купіў. Дома буду чытаць. Або і ў Вільні.

Працаваў. Магчыма, і яшчэ пасяджу. Перарваўся, каб зрабіць маленькі запіс. Адарваўся на хвіліну ад паперы і ўспомніў, як у сотую гадавіну пакарання сядзеў на гары Гедыміна і глядзеў на горад, і як у снегавую завею хадзіў Мурамі, і які быў горад у дождж. Я часам так губляю розніцу паміж сваім часам і ягоным, што страшнавата.

Усё гэта неяк злілося ў адным. І ўспаміны, і ўяўленні аб тым, як яно магло быць сто год назад, і што, можа, надвор'е было такое, і сённяшні дождж (такі робіць Вільню страшэнна настраёвым горадам), і думкі аб тым, як яно будзе, калі вось хутка зноў паеду туды, і мо будзем стаяць з Адамам ля Яна ў дождж ці ў людской палаца Снядэцкіх. І вось, як тады, калі ўладкаваліся мы на суткі ў гасцініцу "Наруціс", і як там пагана было, і мы ўцяклі, а я ўсё ж шкадаваў, бо муры былі пад намі, і ўсё здавалася, што не толькі спаймаеш **настрой** апошніх дзён, які я тады спаймаў, але і **ўбачыш**.

Гэтая сувязь з тым даўно мёртвым чалавекам (аж да магчымасці папярэдзіць), гэты агульна – **наш** горад, гэты дождж – гэта верш. Адчуваю, што верш. Не ведаю яшчэ **як**, але – верш. Пакуль – не ведаю, адкуль ісці. Няма празрэння і азарэння няма. Можа, ад таго, як сплываюць дажджы, ад няўтульнасці і трывогі вузкіх вуліц? Ці ад таго, што дождж робіць усё гэта падобным на наіўную старую гравюру ў даўно забытай тэхніцы: па сталі ці медзі? Як старыя часопісы, як тытул "Завальні", як партрэты тагачасных людзей, што распаўсюджваліся з рук.

Недзе вакол таго, што трэба. Яшчэ прычына, каб паехаць. Горад зробіць усё за мяне. Усё прыйдзе і стане на месца пад дажджом, у вузкіх вулках, калі слата і мокры снег.

*16 красавіка*

Дзённік мой ужо цяпер трэба называць "рагачоўскім". Нідзе не маю ні часу, ні ахвоты пісаць. У тое наведванне Рагачова – "Хрыста" не скончыў. 21-га вымушаны быў ехаць у Мінск, каб пасля выбірацца адтуль на Вільню. У Вільню паехаў, здаецца, 22-га, ці што, начным аўтобусам і з вялікімі прыгодамі, адстаў ад яго і дабраўся толькі пад раніцу на таксі. Адшукаў Адама ў гасцініцы, што насупраць вакзала, і некалькі дзён жылі там, а пасля перабраліся ў кватэру ягонага сябра на вуліцу Дзуку. Там і жылі. Працавалі па архівах. Глядзеў справу Грыневіча[46]. Амаль усё, як у легендзе, але ёсць цікавыя дэталі. Скончыў "Крыкнуць? Позна". Вільнюс, як заўсёды, дваісты: захапленне перад веліччу старога і ягонай прыгажосцю і амаль фізічная туга. Ці гэта я трапляю туды ў непадыходзячыя моманты (вясна, расталы снег і слата), ці гэта вузасць старых завулкаў, імгла, ці няшчасці маіх герояў. Але нават начная гасцінічная мая туга, калі адзін у нумары і вось-вось здохнеш – страшней за ўсё. Раз я там ледзь не памёр. За акном касцёл Казіміра, і з яго – вароны: спудзіў нехта. Бр-р!

Цудоўна хораша ў гэты раз было толькі [бачыць] карціны Драздовіча ў Сергіевіча[47] (з самім старым мне заўсёды трохі сумнавата, непамысна неяк. Можа, таму, што іншыя пакаленні. Хаця ён са мною, асабліва пасля "Каласоў", вельмі ласкавы і нават хоча партрэт пісаць, а я адбіваюся, сорамна неяк боўдзілам сядзець перад чалавекам, які працуе). А Драздовіч, самавук гэты, з дзікімі часам ідэямі, мог зрабіцца нашым Пірасманішвілі, каб увага да яго. Добра, урэшце, што Інстытут літаратуры іх цяпер збірае.

Ну і яшчэ: спускаліся з Шутовічам[48] ва ўсыпальні каралёў і (у змроку, ледзь не навобмацак) разглядалі ў адной з капліц калекцыю драўляных крыжоў. Дзіва!

Сустракаўся і з Бронюсам[49]. Былі чатырох (з Марытэ) на пастаноўцы “Скіргайлы”[50]. Бронюс мне на вуха перакладаў, але і так зразумець можна было амаль усё. І гэта было дзівосна. Асабліва сцэны з Лідскай княжной, сцэна Скіргайлы і пацалунка ў лоб і, асабліва, увесь апошні акт.

Геніяльная п’еса, вялікі дух! Ледзь не калаціла ад шкадавання за свет, у якім так блытаюцца людзі. Адам таксама быў уражаны. І пастаўлена з густам.

Ну і яшчэ адно добрае. Пазнаёміў мяне Адась з цудоўнай жанчынай В.І. Бараўскенэ[51]. І вось мы трох на машыне (муж яе нейкі дужа вялікі чын, мяркуючы па тым, што і машына, і кватэра харошая, ледзь толькі не сакратар ЦК) паехалі ў Каўнас.

Пайшлі спачатку ў музей Чурлёніса. І тут упершыню ўбачыў я ягоныя карціны на свае вочы. Аб уражанні што і казаць, хаця глядзеў ледзь не адным вокам, і галава разломвалася (дні за два да таго рабілі “інвазію з Альдэбарана” ў Гудагай і там ледзь не катастрофай скончылі дзень, шнар цераз брыво так у мяне і застанецца).

Глядзеў і дзівіўся. Гэты цыкл “Пахавання”. Ідуць, і паступова згасае чароўнае святло, і засоўваюць труну нібы ў пячное чэрава, і застаецца самотны цень у хаце. Гэтае стварэнне свету, гэтыя правадыры і каралі скамянелыя, на паклон якім (а на самай справе абыякава, міма) ідуць людзі.

Ужо не кажу пра славутыя, пра казкі, санаты, за́мкі, пра дзівотны “райгарад”, пра ўсё, імя чаму на чалавечай мове не падбярэш. Туды абавязкова трэба ездзіць і ездзіць. І я гэта буду рабіць. І так мы хораша з гэтай жанчынай пагаварылі, такой прасякнуўся я да яе сімпатыяй, якой шмат год ужо не адчуваў я ў жыцці. Такі харошы чалавек!

Глядзелі пасля і яшчэ адно дзіва – драўляныя аплікацыі (ды не, велічныя скульптуры з кары) Даўгвіленэ. Дзіва! Абавязкова ўстаўлю адступленне аб гэтым у “Каласы”. Там, ля “Прыгоннай шыбеніцы” і “Скону паўстанца”, зразумеў я веліч узаемнай нянавісці мужыка і шляхцюка-паўстанца яшчэ раз і з асаблівай сілай. Веліч і горыч. А горыч таму, што лепшых не зразумелі, і загінула мая радзіма. Надоўга.

Вось таму я і не канчаю, баюся, пакуль, канчаць “Каласы”. Кожны дзень нясе новае разуменне, а потым будзе шкада.

Ехалі адтуль вячэрняй Літвой, і добра мне было, і шчасна, і сумна. Бо што я стварыў падобнае?

Запрасіла яна нас да сябе ў госці, відаць, зразумеўшы настрой. Харошы дом, мілыя дзеці, сімпатычны муж, а гаспадыня ўсё ж лепей за ўсіх.

Я ў гэткіх дамах губляюся заўсёды, а тут яшчэ і з маім вокам страшным выгляд у мяне быў не з лепшых. А раз губляюся – пачынаю дражніць. Ну і пачаў. Апавяданні розныя, рызыкоўныя паралелі, былі накшталт ідыёцкага надпісу на кары дуба Крывашапкі, слоўцы.

І здарылася, увогуле, даволі нечаканае. Разварушыў людзей так, што спачатку стрыманыя былі, а пасля рагаталі так, што любата было глядзець. І адценне нейкай разгубленасці, і цікавасць, і, урэшце, старое, як свет, адчуванне чалавечага ланцуга, аб якім мы ўсе ведаем, але не заўсёды памятаем.

Былі там і яшчэ раз, перад самым ад’ездам, і, здаецца, прыдбалі сяброў. Ну і добра.

На 8 сакавіка вярнуліся ў Мінск. І пачалася звычайная нуда: узяць рукапіс, вычытаць, аднесці, у Саюз да лекара, дагавор, абмеркаванне, грошы.

Прыехаў Т. Галіеў, здавалі сцэнар. Бычкоў на яго, мусібыць, ціснуў, і сцэнарый пагублены. Я і не глядзеў дужа, што там і як. Зубаскальства.

Але яшчэ да Толькі, 18-га сакавіка, вымушаны быў з Ігарам Краўчанкам[52] і Блатуном[53] ехаць у Брэст адбіваць праект помніка Брэсту, што належыць Бембелю, ад гэтага маскоўскага выскачкі Кібальнікава. Спачатку ўсё хілілася ў яго карысць, пасля выступіў я і ўжо даў з асалодаю, з нечаканай дзеля самога сябе злосцю. А там хлопцы і пайшлі крышыць. Секлі, як капусту.

А што там, праўда. Нагрувашчанне дзікіх постацяў, якія душаць і ціснуць, напад

не на ворага, а на гледача. Аляпаватасць, адсутнасць кампазіцыі, праект, да таго ж, сплагіяваны з новасібірскага, ды яшчэ і няўдала. А помнік вадзе? Дзева, што разбіла аб уцёс урну. Кацялок, з якога бяжыць вада, нямецкі (!) і памерам з цыстэрну. Жах!

Між тым у Бембеля строгасць і веліч. А прахвосты яму ножку ставяць: "Сорак сантыметраў святой зямлі зняць трэба! Там, можа, астанкі забітых!"

Ах, свалота. Астанкі перанесці і не кідаць безыменнымі пад цэглай. А помнік – над імі.

І потым, як быць з Малахавым курганам? Як з тым, што заўсёды пры спарудах зямлю зносяць?

Як, урэшце, што па гэтай святой зямлі быдла столькі год хадзіла, смецце скідалі, што дагэтуль ляжаць там бочкі з-пад саляркі, што шнары Холмскай брамы затынкавалі?

Цяпер пра святую зямлю, а тады?

Ну, добра. Вярнуліся 19-га, працаваў з Галіевым, зрабіў яшчэ адну справу, якую зарэзалі (на дакументальнай студыі прасілі напісаць новы тэкст).

27-га быў з Толем, Мілай і Адамам у мастацкім музеі, паказваў ім розныя рэчы.

А на Вялікдзень, напярэдадні, 9-га, паехаў з Рыгорам і Валяй ва Ушачы. Зноў лясы, рэкі, азёры. Хораша! Адбіваюцца ў Лепельскім возеры агні.

І там, як заўсёды, здорава. З Рыгорам адносіны наладзіліся даўно і цудоўна. Проста разумець трэба: нервы тады яго падводзілі. Харошы сябра, вясёлы.

10-га хадзілі на Ваўчэнскае возера пасля святочнага абеду. Бульбу пяклі, бражку пілі, глядзелі на захад і на вогнішча. Дзень цудоўны быў: сонечны, праз туман, нібы праз усмешку. Пеўні, жаночыя галасы, цішыня.

На другі дзень пайшлі цераз рачулку тую, Задобрыцу, у Задаброцце. І зноў шум вады, сосны з бярозамі ў небе, размовы. А вечарам песні жанчын, што гасцяць да гаспадыні прыйшлі. І напаўзабытыя валачобныя.

12-га выехалі ў Мінск. Прыехаў у пустую хату, бо маці выехала ў Чалябінск: Наташа[54] прасіла пабыць у хаце, пакуль яна з Ванем на курорце.

Астатнія два дні мінулі ў беганіне, у справах. Толькі што 14-га былі ў мяне Рыгор з Васем Зуёнкам. Трохі ўзялі, вершы чыталі. Вельмі-вельмі харошы чалавек гэты Васіль. І вершы мае любіць кранальна, як, дарэчы, і я ягоныя.

І вось учора выехаў. Праводзілі Рыгор і Жэня Шабан[55], якому даў ключ ад кватэры, хай пакуль тое пажыве, хлапец ён акуратны, дый у хаце ўсё дагледзіць.

А дзень быў сонечны. А тут ужо чорная парэчка, як зялёныя хмары, кветкавыя пупышкі на грушах і на ўэльсе. А Дняпро – ледзь не да гарызонту, хаця вада з паплавоў спадае ваўсю.

Сёння адпачываў. Прачытаў прывезеныя газеты за два месяцы, выкачаў трохі ручной помпай вады з пограба, напісаў тры лісты, ды зрабіў вось гэты запіс, ды раніцай у горад на гадзінку схадзіў (канверты купіў і "Мурашак" Халіфмана) і рэчы на абодвух сталах упарадкаваў. І вось ноч.

*19 красавіка. Аўторак*

Уначы пасля таго дня адзін з самых страшных сноў у маім жыцці. Бадай, самы страшны пасля таго, аршанскага. Нібыта мы бяжым з Янкам Брылём ад нейкай страшнай небяспекі. Неба ўсё чорнае, нізкае, і ўрыўкі хмар нам насустрач (як тады, на Улісе). Але ўцякаем мы не таму, што небяспека для нас. Яна для ўсіх, і мы ад яе бяжым і дзеля таго, каб папярэдзіць людзей, якія сядзяць у нейкім змрочным будынку, падобным адначасова і на палац, і на замак. Там – група людзей, і сярод іх жанчына, якая мне тое, што называецца "даражэй за ўсё". Бяжым. Бачу сябе і яго – з боку. Ведаю: уцячэм, папярэдзім, усе схаваюцца ў падпол – і, можа, выжывуць. А над гарызонтам, паступова-паступова, яшчэ чарнейшыя, чым неба, вырастаюць вяршыні хмар, падобныя на шапкі атамных грыбоў.

Дабеглі. Кідаюся туды-сюды – няма. І раптам крык, і якраз у той момант, калі пікі хмар вырaслі на палову неба – усе на нас. Нехта пабег ад замка ўніз, па схіле, па партэрах, толькі не зялёных і чатырохкутных, а нібы паловы выцягнутых авалаў закругленымі часткамі ўніз, адзін на адзін, як луска. Фіялетавага колеру яны, ад водсветаў з неба.

Не ведаю, яна ці не, але ратаваць усё адно трэба. Бягу за ёю, задыхаючыся, бо вось-вось канец свету. Нябесная праява абагнала нас, загінаецца перад намі ўніз, як акіянскі вал. Я ўсё больш упэўнены, што бяжыць – яна. Наздагнаў, схапіў, цягну назад бягом, але адчуваю: нават калі падымемся на верхнюю пляцоўку замка, дзе балюстрада, – не паспею. А спуск пад зямлю – адтуль.

І вось падымаемся... І тут рассёлася рваным палатнішчам неба, і адтуль, пункцірамі, чорнае ў зямлю. А пасля, як чорныя сляды трасірных куль, як чорныя падучыя зоркі, і цэнтр, адкуль яны лятуць, – проста перад намі, нібы глядзіць на нас. Устае нешта такое, чаму няма імя, апакаліптычнае. І нібыта коннікі і языкі, а мы бачым чорныя сляды і ведаем, што тых слядоў, якія цягнуцца да нас, мы не ўбачым. Нешта кідае нас у змрок. Прачынаюся. Вакол – хаос. Дзівам уцалеў наш будынак, амаль знішчаны. Выносяць на руках з падзямелля яе, твар рассечаны глыбокім шнарам, але скура такая, як і на ўсім абліччы. Проста нібы ўпадзіна. Глядзіць на мяне, усміхаецца, і я ведаю, што гэта яна, але аблічча – чужое. Гэта, што адбылося, менавіта так дзейнічае на тых, хто застаўся жывы, мяняе іх. І нават не чужое аблічча, проста знаёмы твар іншага чалавека. Прачнуўся.

Працаваў увесь нядзельны дзень. Пасля прыйшоў дзед Гансоўскі, падвязвалі лозы і хадзілі ў лес за пераезд.

18-га таксама праца, грады, угнойвалі дрэвы. Учора, 19-га, скончыў скарачаць “Хрыста”. Мала скараціў, давядзецца яшчэ папрацаваць над гэтым у Мінску, з Навумам. Такая бяда. Схадзіў і адправіў рукапісы, кнігі ўзяў у бібліятэцы. Брыдкі быў, шэры дзень.

Думаў усё над сном, які ўсё паставіў на месца. Адразу, як прачнуўся тады, зразумеў, што гэта і ёсць пачатак “Чазеніі”. Доўгашуканы, той, які так доўга не даваўся ў рукі. Калі гэта напісаць, як трэба, гэта дасць настрой часу і стан душы героя, а потым досыць будзе даць пару намёкаў наконт ягонай прафесіі – і ўсё будзе, як на далоні, можна будзе разгортваць характар. І ўзрадаваўся, што не пачаў рэч раней, не сапсуў. Як добра! Запэўніўся, не трэба спяшацца пачынаць, калі не даецца. Счакай, мозг сам будзе думаць у садзе, падчас хады, на рацэ, у сне – і ўсё тады ты атрымаеш дарма.

Столькі думаў пра гэта, што і наступнай ноччу ўбачыў той самы чужы, але свой твар. Ну, гэта быў сон-глупства, бадай што толькі для мяне, як для характару, сімптаматычны.

Сёння, 20-га, устаў рана, нечувана свежы і здаровы. Сонца ў лёгкіх ценях, цеплыня, пупышкі сталі вялікія. Нясецца кумканне жаб ці то з Дняпра, ці то ад нізіннага, залітага вадою гарода непадалёк. Схадзіў у горад, пастрыгся і, заадно, пагаліўся, схадзіў у РДК наконт нарыса аб народным тэатры і сустрэў там такі бардак, што не прапясочыць іх – гэта ўжо дудкі. Па дарозе назад абдумаў ідэю “Чурлёніса”. Прыйшоў дахаты, капаў канаўкі для падкормкі вінаграду. Шмат зрабіў. Скончу вось запіс і, можа, гной насіць буду, а тое пачытаю на сонцы, калі дасць зрабіць гэта мярзотнік, тоўстая качулка, мардан Дзік, Альмін сын, бацькі ж імя – ты, Пане Божа, вясі. Больш сімпатычнай тварыны нельга знайсці на свеце. І больш надаеднай. На ўсіх чаравіках у доме заблытаў шнуркі, нарабіў марскіх вузлоў.

І яшчэ думка. Скончыць трэба таксама сном. Але светлым. Чалавек вылечыўся.

*30 красавіка. Субота*

Усе дні шалёна працаваў. У адзін толькі дзень быў у лесе, на рагачоўскіх “валатоўках”, дзе новыя акопы разрылі старыя курганы і выкінулі косці. Многа хадзіў, думаў.

І яшчэ адзін раз пайшоў лавіць рыбу. Ведаў, што не спаймаю: рака яшчэ не ўвайшла ў трубу. Нават не клюнула ані разу. Сядзеў на курганах у Рыжковіцы пасля, пісаў. Неба было шэра-жамчужнае ад аблокаў.

Учора скончыў “Хрыста”. Сёння паліваў гарод. Пасля Кірэйшыны прыйшлі, гаварыў з імі.

*6 мая. Пятніца*

Зноў некалькі дзён не запісваў. Стаміўся страшэнна. 1-га рана ўстаў, прыбраў усё з гасцінай, пайшоў на дэманстрацыю глядзець, як Сяргей трубіць у аркестры.

Мілае правінцыяльнае свята. Калоны на плошчы, сцягі, марожанае, нудная прамова. А над усім лёгкі налёт зелені. Рана пайшоў адтуль дамоў. Дапамог Галі. Госці прыйшлі. Было весела і светла на душы ад добрай суседкі, ласкавай, не зусім маладой жанчыны.

Прыйшлі яны і на другі дзень. Але сказалася стома. Больш сядзелі, гаварылі і жартавалі, чым скакалі. А 1-га падэшвы адбіў і яшчэ праводзіў цёплым месячным вечарам. Вечарам другога, праводзіўшы іх, чытаў.

3-га зноў навёў парадак у гасцінай і толькі сеў за вершы – прыйшоў Эдзік Курачкін[56]. Гаварылі аб Маскве, аб становішчы ў мастацтве, аб левых. Бял.[57] такую незайздросную ролю грае, што страціў у большасці свой аўтарытэт, і ягоных жа вучняў даводзіцца перавучваць. Сорам увогуле. Паехалі на вакзал піць піва пад салоную рыбу і паступова адыходзіць. Адам кажа ў такіх выпадках: “Каб наступіла прасвятленне, беларускі варыянт катарсісу”. Прасвятленне гэтае скончылася тым, што паехалі адтуль купіць мне фотапаперы ды напалі на сяброў ягонага брата, ды ўзялі дзве бутэлькі, ды я сваю з дома прыхапіў, ды агурочкі, ды паляндвіцу. Ну і выпівалі ў іх у садзе ды скакалі “Лявоніху” пад яблынямі.

Вечна на гэтага чорта, беларуса, супыну няма. Пасля паехалі, пасадзілі Эдзіка ў маскоўскі аўтобус, і я вярнуўся дадому.

4-га ўстаў рана, выбіў з сябе ўсё халодным душам і сеў пісаць. Напісаў пачаты напярэдадні “Як сканаю – душа застанецца”. Пісаў трохі лісты. Вечарам доўга сядзеў у садзе. Чырвоны месяц і белыя прывіды дрэў. І паўсюль туман, і жабы дзьмуць у пустыя бутэлькі, даюць, падобна Рыгору, сігнал да адпраўлення. І гэтыя начныя сады.

Пасля ўсяго, удома, напісаў “Месяц над садам”. 5-га была дзівосная раніца. Цеплыня, лёгкая смуга над квеценню дрэў, добрае зіхоткае сонца ўзыходзіць. Так бы і жыў сто тысяч год. Прывялі з Азярышча каня. Узаралі гарод. І аралі, нібы плылі пад белымі дрэвамі. Пасеялі бульбу. Зусім мала засталося. Пасля пакарміў я звера хлебам з соллю (і сена хрумстаў), ды яшчэ з дзвюх буханак зрабілі мяшанку. Напаілі пасля. І накіраваўся ён, раб божы, дамоў – задаволены.

А я схадзіў у горад, напісаў некалькі лістоў, а вечарам друкавалі з дзядзькам фотаздымкі.

А перад гэтым быў жах. Гарачыня дзённая нагнала раптам хмару з маланкамі і перунамі. Быў у хаце адзін. Вецер. І раптам нешта нізкае, карычневае: суцэльная страшная хмара пяску. Чорна стала, як уначы. Пасля пясок скончыўся, але маланкі і вецер. Да болю шкада было глядзець, як вішні хмарамі белымі хіляцца цераз платы. На шчасце, яны не паспелі яшчэ зацвісці як след, і абабіла – мала. І наша лошыцкая залатая, нявеста белая, засталася зусім нечапаная за домам.

І – дождж. Кароткі, але моцны. І люстэркі вады на траве. І дыхаецца лёгка-лёгка.

Сёння дзень з ветрам. Раніцай пайшоў быў шукаць смарчкоў за Шчыбрын, на Мадорскую паваротку. Повень спадае, зарэчча ўсё ў зялёных паўколах, выступае сям-там трава, але вады яшчэ многа. Так мне і не давядзецца да ад’езду палавіць рыбы. І так над Праровам сонечна, ветрана, у пырсках, пене і зіхотках зыбу.

Нічога, вядома, не знайшоў, хутка вярнуўся, сеў і скончыў, урэшце, усе лісты. І вершы адаслаў Лучуку[58] і Вялюгіну. Вечар. Вычытаю, можа, вершы зборніка – і спаць.







*9 мая. Панядзелак*

Тады амаль нічога не вычытваў. Папарадчыў усё на стале, падрыхтаваўся, адклаў патрэбную на “Чазенію” колькасць паперы (і ўсё адно вылезу з яе, вядома) ды паспрабаваў пісаць “распятыя хлапчынкі”. Не скончыў, не лезе нешта нічога ў маю галаву.

Сёмага з самай раніцы нікуды не хадзіў. Дзень быў пахмуры і халодны, і таму някепска працавалася. Пачаў “Чазенію”, трохі захапіўся ўспамінамі і, вядома ж, размазаў. Але крэсліць буду ўжо ў машынапісным экзэмпляры. Працаваў цэлы дзень. Вырашыў апошнія дні нават Галі ў гародзе не дапамагаць. Тым больш што работа амаль скончана. Засталося толькі пасадзіць познія памідоры, а на іх яшчэ рана. Спаў, як забіты, тым больш што вокны заўсёды адчынены. Даводзіцца толькі ваяваць з хрушчамі. Як заляціць – хапаеш яго за шкірку і выкідаеш з кухні на двор, каб не вярнуліся. Колькі выкінеш – столькі іх і малоціць у куханнае вакно.

Учора рабілі човен, але я амаль не дапамагаў. Пісаў, закінуўшы ўсё астатняе. Амаль цэлы дзень быў галодны. Не хацелася есці самому, а яны вырашылі скончыць усю драўляную работу. І скончылі. Засталося заканапаціць, засмаліць, зрабіць “буфет”, матор паставіць і лаўкі зрабіць.

Вечарам абмывалі канец працы пад вяндліну, халаднік і тушаную цяляціну з бульбай. І такія там размовы ішлі аб старых знаёмых, хутаранах, сваяках і сябрах па кавалерскіх гулянках і паляваннях – любата. Пасля гастранамічную размову завялі. Столькі было выказана рэцэптаў – можна было б чвэрць кухарскай кнігі напісаць. І, як ні дзіўна, было гэта вельмі цікава, бо падмацоўвалася выпадкамі з жыцця, паралелямі, анекдотамі, якія здараліся з вынаходцамі або аматарамі таго ці гэтага халадніку, смажанага зайца, вэнджанай рыбы і г.д. Вечарам пісаць, вядома, не мог. Сядзеў ды галоўкі тут жа крэмзаў, як дурань.



*[На гэтым дзённік абрываецца. Сюды ж укладзены аркуш паперы з накідамі дзейных асоб "Чазеніі"]*



Каментары:

[1] Зайцаў Вячаслаў Кандратавіч (1917-1992) – літаратуразнавец, перакладчык, касмолаг; у 60-я гады працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры АН БССР.
[2] "Ляжаць пакошаныя травы" – верш Максіма Танка.
[3] Дзядзька Уладзіміра Караткевіча Грынкевіч Ігар Васільевіч (1908-1985).
[4] Маецца на ўвазе рукапіс сцэнарыя мастацкага фільма "Хрыстос прызямліўся ў Гародні".
[5] Клятэцкі Дзмітры Ілліч – знаёмы сям'і Грынкевічаў.
[6] Грынкевіч Сяргей Ігаравіч (н.1952) – стрыечны брат Уладзіміра Караткевіча, сын дзядзькі Ігара.
[7] Гансоўскія – сваякі Грынкевіч (Гансоўскай) Галіны Мікалаеўны (1923-2001), жонкі дзядзькі Ігара.
[8] Стулпан Геранім (1931-1981) – латышскі паэт, сябра Уладзіміра Караткевіча, разам вучыліся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве.
[9] Барадулін Рыгор Іванавіч (1935-2014) – народны паэт Беларусі.
[10] Кляўко Генадзь Якаўлевіч (1932-1979) – беларускі паэт.
[11] Ваенныя зборы ў газеце Ціхаакіянскага флоту "Боевая вахта" разам з Р. Барадуліным і Г. Кляўко.
[12] Максім Лужанін (1909-2001) – беларускі пісьменнік, аўтар выдавецкай рэцэнзіі на раман "Каласы пад сярпом тваім".
[13] Паўлёнак Барыс Уладзіміравіч (1923-2012) – старшыня Дзяржкіно БССР (1963-1970).
[14] Бычкоў Уладзімір Сяргеевіч (1929-2004) – рэжысёр фільма "Хрыстос прызямліўся ў Гародні".
[15] Скварцоў Сяргей Канстанцінавіч (1904-1983) – сурэжысёр фільма "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". З 1938 г. выкладаў у УДІК, у 1962-1969 гадах – мастацкі кіраўнік творчага маладзёжнага аб'яднання кінастудыі "Беларусьфільм".
[16] Муж цёткі Уладзіміра Караткевіча Яўгеніі Васільеўны Усюкевіч Уладзімір Іванавіч (1896-1974), вайсковец.
[17] Стральцоў Уладзімір Васільевіч – намеснік члена Ваеннага савета Ціхаакіянскага флоту, контр-адмірал.
[18] Чарнышоў Васілій Яфімавіч – першы сакратар Прыморскага крайкама КПСС.
[19] Фрыд Валерый Сямёнавіч (1922-1998), Дунскі Юлій Тэадоравіч (1922-1982) – савецкія сцэнарысты, суаўтары.
[20] Раманоўская Рагнеда Мікалаеўна (1928-2010) – рэдактар кінастудыі "Беларусьфільм".
[21] Забалоцкі Анатоль Дзмітрыевіч (н.1935) – аператар фільма "Хрыстос прызямліўся ў Гародні".
[22] Герцовіч Якаў Бенцыянавіч (1910-1976) – беларускі крытык. 9 верасня 1965 г. надрукаваў у "Советской Белоруссии" артыкул "Лёсы чалавечыя і лёсы народныя", у якім крытыкаваў гістарычную праўдзівасць твораў Уладзіміра Караткевіча.
[23] Мальдзіс Адам Восіпавіч (н.1932) – беларускі пісьменнік і вучоны-філолаг.
[24] Брыль Янка (Іван Антонавіч) (1917-2006) – народны пісьменнік Беларусі.
[25] Ром Міхаіл Ільіч (1901-1971) – савецкі кінарэжысёр.
[26] "Обыкновенный фашизм" (1965) – дакументальны фільм М. Рома.
[27] Мацвеева Навела Мікалаеўна (н.1934) – руская паэтка, бард. Вучылася на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве ў адзін час з Уладзімірам Караткевічам.
[28] "Памяць" (1966) – дакументальны фільм паводле сцэнарыя Уладзіміра Караткевіча.
[29] Люба Грынчык – жонка Міколы Грынчыка (1923-1999), беларускага літаратуразнаўца і крытыка.
[30] Марыя і Алік – жонка і сын А. Мальдзіса.
[31] Бацька Марыі Карлаўны Мальдзіс.
[32] Альбін – муж сястры А. Мальдзіса.
[33] Кіслік Навум Зіноўевіч (1925-1998) – беларускі паэт і перакладчык.
[34] Тарас Валянцін Яфімавіч (1930-2009) – беларускі паэт, перакладчык, крытык.
[35] Вылчаў Георгій Дзімітраў (н.1926) – балгарскі крытык, літаратуразнавец, перакладчык, даследчык беларускай літаратуры.
[36] Валянцін Кравец (н.1932) – аршанец, сябар юнацтва Уладзіміра Караткевіча.
[37] Хадановіч Ігар Піліпавіч (1940-1966) – беларускі пісьменнік, загінуў ад бандыцкага нападу.
[38] Радок з верша М. Някрасава.
[39] Пазьняк Зянон Станіслававіч (н.1944) – беларускі мастацтвазнавец, археолаг, грамадскі дзеяч.

[40] Драздовіч Язэп Нарцызавіч (1988-1954) – беларускі мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог.

[41] Юрэнева Т.В. – член сцэнарнай рэдкалегіі Галоўнага ўпраўлення мастацкай кінематаграфіі Дзяржкамітэта Савета Міністраў СССР па кінематаграфіі

[42] Галіеў Анатоль Сяргеевіч (н. 1934) – сцэнарыст, рэжысёр. Вучыўся на Вышэйшых сцэнарных курсах у Маскве разам з Уладзімірам Караткевічам.

[43] Прашковіч Мікалай Іванавіч (1932-1983) – беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык.

[44] "Иван Грозный" (1944) – мастацкі фільм С. Эйзенштэйна.

[45] Верагодна, маецца на ўвазе карціна К. Юона "Мартовское солнце".

[46] Дакументы пра Тамаша Грыневіча пацвярджалі сямейнае паданне пра аднаго з сваякоў, расстралянага ў Рагачове як удзельніка паўстання 1863 г.

[47] Пётра Сергіевіч (1900-1984) – беларускі мастак, жыў у Вільні.

[48] Янка Шутовіч (1904-1973) – беларускі літаратуразнавец, выдавец, грамадскі і культурны дзеяч, жыў у Вільні.

[49] Бронюс Мацкявічус (н.1929) – літоўскі паэт. Вучыўся на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве разам з Уладзімірам Караткевічам. Марытэ – жонка Б. Мацкявічуса.

[50] Гістарычная драма Вінцаса Крэве.

[51] Бараўскенэ Ванда Ёнаўна (1927-1996) – літоўскі фальклрыст.

[52] Краўчанка Ігар Уладзіміравіч (н.1926) – беларускі скульптар.

[53] Блатун Сямён Ціханавіч (1937-1970) – беларускі паэт.

[54] Кучкоўская Наталля Сямёнаўна (1922-2003) – сястра Уладзіміра Караткевіча.

Кучкоўскі Іван Мікалаевіч (1922-2001) – яе муж.

[55] Шабан Яўген Пятровіч (1936-1982) – беларускі паэт, акцёр, драматург.

[56] Курачкін Эдуард Сцяпанавіч (н.1938 у Рагачове) – мастак, жыве ў Маскве.

[57] Бялюцін Элій Міхайлавіч (1925-2012) – расійскі мастак і тэарэтык мастацтва, удзельнік выстаўкі савецкага авангарду ў Манежы (1962).

[58] Лучук Уладзімір Іванавіч (1934-1994) – украінскі паэт, перакладчык.

Арсен Ліс



...цягам XII–XV стст. ліцвіны-беларусы сфарміраваліся як народнасць, са сваёй мовай, гісторыяй, культурай...

# Традыцыйная народная культура беларусаў і станаўленне нацыянальнай ідэі

Кожная нацыянальная ідэя як рухавік нацыятворнага працэсу, інтэнцыя да рэалізацыі духоўна-творчых магчымасцяў этнасу сваімі вытокамі аб'ектыўна маюць звычаёва-культурныя традыцыі, гісторыю, мову народа.

Як свядомая арыентацыя на перспектыву ўсебаковага развіцця патэнцыялу этнасу, яна зараджаецца на пэўным гістарычным этапе пры наяўнасці спрыяльных унутраных і знадворных фактараў, адпаведных этнасацыяльных і геапалітычных умоў. Беларуская нацыянальная ідэя пачала фарміравацца ў 20-я гады XIX ст. пад уплывам ідэй Вялікай французскай рэвалюцыі, у абставінах станаўлення ў Цэнтральна-ўсходняй Еўропе славянскіх нацый – адраджэння чэхаў, славенцаў, сербаў...

Чыннікам фарміравання беларускай ідэі напачатку сталі навуковыя росшукі кола прафесараў Віленскага ўніверсітэта (1803-1832). Вывучэнне гістарычнай, юрыдычнай, філалагічнай

спадчыны эпохі Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага спрычынілася да самаідэнтыфікацыі прафесараў М. Баброўскага, І. Даніловіча, В. Ярашэвіча, руплівасці іх на ніве беларусазнаўства. Філолаг па прызванні, Міхал Баброўскі яшчэ ў гады навучання ў Беластоцкай гімназіі пазнаёміўся з багатым кнігазборам Супральскага манастыра, а ў 1822 годзе ў яго архіўным сховішчы выявіў знакаміты помнік усходнеславянскага пісьменства Супральскі рукапіс. Цікавасць да славянскіх рукапісаў і старадрукаў, вывучэнне грамат вялікіх князёў літоўскіх, судовых і юрыдычных дакументаў "Літоўскай метрыкі" дало падставу вучонаму першым публічна засведчыць пра старабеларускую мову як дзяржаўную мову ВКЛ.

Вясной 1826 года, выступаючы ў галоўнай духоўнай семінарыі Вільні, прафесар Міхал Баброўскі гаварыў пра вялікія змены ў царкоўна-славянскай мове, "калі ў дыпламатычнае і судовае справаводства быў уведзены беларускі дыялект, калі Скарына на гэты дыялект пераклаў Святое Пісанне"[1].

М. Баброўскім было падрыхтавана даследаванне "Гісторыя славянскіх кнігадрукарань у Літве". Вучоны займаўся даследаваннем працы Ф. Скарыны, Ш. Фіёля, П. Мсціслаўца. Пры выпуску семінарыстаў-клерыкаў Баброўскі заклікаў іх вывучаць мясцовыя мовы, складаць слоўнікі, запісваць паданні[2]. Захаваліся звесткі, што Баброўскі сам збіраў моўна-фальклорныя матэрыялы па асабіста падрыхтаванай ім праграме[3].

Падчас працяглай навуковай камандзіроўкі 1817-1822 гг. у Аўстрыю, Францыю, Італію ў Ватыканскай бібліятэцы зрабіў навуковае апісанне глаголічных і кірылічных літаратурных помнікаў, паглыбляў уласнае пазнанне старажытных і славянскіх моў. Істотным момантам замежнай камандзіроўкі Баброўскага было яго асабістае знаёмства з чэшскімі будзіцелямі В. Ганкам, І. Добраўскім, І. Юнгманам, якія ўжо дзейсна працавалі над адраджэннем свайго народа.

Пры вывучэнні старой беларушчыны часоў ВКЛ М. Баброўскі, І. Даніловіч, І. Ярашэвіч, верагодна, не абмінулі ўвагай і таго факту, што творцы яе, знаныя дзеячы Францыск Скарына, Васіль Цяпінскі, Леў Сапега выяўлялі даволі высокі ровень этнічнай свядомасці.

Яна досыць выразна праглядала ў перакладчыцкай, літаратурна-філасофскай дзейнасці асветніка-гуманіста часу высокага еўрапейскага Адраджэння Францыска Скарыны. Сваю перакладчыцкую працу, шырокае каментаванне Бібліі Скарына тлумачыць перш-наперш імкненнем "абы братия моя русь, люди посполитие чтучи могли лепей разумети»[4].

Глыбокая этнічная свядомасць як стымул да асветніцкай працы ляжала ў аснове дзейнасці прадстаўніка Рэфармацыі ў Беларусі Васіля Цяпінскага-Амельяновіча. У прадмове да перакладзенага ім на старабеларускую мову Евангелля В. Цяпінскі выявіў высокі грамадзянскі клопат аб захаванні вышэйшымі станамі ВКЛ, якія пачалі паланізавацца, найважнейшай адзнакі свайго этнадухоўнага аблічча – мовы[5].

Глыбокім усведамленнем важнасці суверэнітэту сваёй краіны, свайго ліцвінскага народу, яго мовы пазначана жыццё і дзяржаўная дзейнасць канцлера ВКЛ Льва Сапегі. У выступленні на сойме ў Варшаве з нагоды зацвярджэння "Літоўскага статуту" 1588 года, яго рэдактар Леў Сапега, якому ўдалося адстаяць перад палякамі асноўныя незалежніцкія пастулаты ВКЛ, засведчыў не толькі высокую годнасць, мудрасць дзяржаўнага дзеяча, але і гордасць за тое, што грамадзяне ВКЛ "не обчим яким языком, але сваим власным права списаные маем и каждому часу, чого нам потреба ку отпору всякое кривды ведати можем»[6].

Той факт, што такія буйныя прадстаўнікі беларускай эліты як князь Януш Радзівіл, Леў Сапега, Міхал Клеафас Агінскі змагаліся за суверэнітэт Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, за аднаўленне яго самастойнасці, сведчыць аб жывучасці ідэі беларуска-літоўскай дзяржаўнасці. Менавіта духоўная спадчына дзяржаўнага перыяду жыцця беларусаў, у тым ліку Статут Вялікага

Княства Літоўскага як вяршыня прававой думкі сярэдневечнай Еўропы, вялізны архіў дзяржаўных актаў, дакументаў "Літоўскай метрыкі" паслужылі апорай піянерам беларускай ідэі пачатку XIX стагоддзя. Немалое значэнне пры ўзнікненні беларускай ідэі, яе фарміраванні адыгралі знешнія фактары. Перш-наперш павевы рамантызму, што прыйшлі з Заходняй Еўропы, выклікана імі адраджэнне паўднёвых і заходніх славян. Рамантызм, як ідэйна-літаратурная, філасофска-філалагічная плынь, меў сваю сістэму каштоўнасцей.

Узвышэнне чалавечай асобы, якой ён спрыяў, не магло не спарадзіць і спарадзіла павышаную цікавасць да калектыўнай індывідуальнасці, якой з'яўляецца этнас, народ. Праз цікавасць да такой важнай духоўнай субстанцыі, як творчасць народа, яго мова ў першай палове XIX стагоддзя ідзе адкрыццё цэлых народаў, перадусім славянскіх, з іх аўтэнтычнымі культурамі ў кожнай паасобку пры пэўных супольных рысах у іхнай этнічнай прыродзе. Беларуская ідэя ўзнікла, пачала фарміравацца адначасна ў асяроддзі прафесараў і студэнтаў Віленскага ўніверсітэта. Да ўзнікнення і станаўлення яе непасрэдна спрычынілася народазнаўства, фалькларыстыка і этнаграфія – якраз тыя галіны ведаў, што складаліся на пачатку XIX стагоддзя пад уплывам рамантызму, непасрэдна пад уздзеяннем славяназнаўства, пачынальніка славянскай фалькларыстыкі Зарыяна Даленгі-Хадакоўскага (1784-1825).

Надрукаваная з бласлаўлення міністра асветы Расіі графа Разумоўскага "Інструкцыя для складання ў гімназіях і павятовых школах запісаў па прадметах розных навук" была дапрацавана і апублікавана ў 1816 і 1817 гадах у "Dzienniku Wileńskim".

Адметна, на падставе апублікаванай інструкцыі філаматы Ф. Мілеўскі і М. Рукевіч, дарэчы, у будучым удзельнік дзекабрыстцкага руху, стварылі сваю, дзе ў адным з пунктаў канкрэтна пералічваліся этнаграфічныя і фальклорныя матэрыялы, неабходныя для збірання ў краю[7].

Першым практычным водгукам на інструкцыю па збіранні памятак традыцыйнай культуры стала публікацыя Марыі Чарноўскай "Здабыткі славянскай міфалогіі, захаваныя ў звычаях вясковага люду на Беларусі"[8].

Услед у тым жа выданні, органе Віленскага ўніверсітэта, з'явіўся артыкул Ляха Шырмы, прысвечаны шырэйшаму высвятленню значэння традыцыйнай культуры народа. У лісце да рэдакцыі фалькларыст горача заклікаў ратаваць ад забыцця здабыткі народнага духу: "Могуць яны, – пісаў Лях Шырма, – абломкі некалі пышнага гмаху, што ператварыўся ў руіны, паслужыць краевугольным каменем для будавання святыні народнасці. Спусцімся ж пад нізкія стрэхі, там захавалася старая народнасць"[9].

Уражлівы этнічны вобраз Беларусі, яе сямейных, перш за ўсё вясельных абрадаў і песень давала публікацыя З. Даленгі-Хадакоўскага, у сапраўднасці Адама Чарноцкага, здзейсненая, з-за асобага грамадзянскага становішча яе аўтара, ананімна[10].

Асабліва многа новых ідэй пра народнасць як этнічную супольнасць, лёс культуры ў дахрысціянскія часы, канцэптуальны погляд на нацыю ўлучала ў сябе апублікаваная ў 1818 годзе праца Даленгі-Хадакоўскага "Пра славяншчыну перад хрысціянствам"[11].

Сучасны польскі даследчык фальклору Станіслаў Свірко слушна адзначыў значэнне пачынальніка славянскай фалькларыстыкі як "піянерскай наватарскай на той час дзейнасці, скіраванай на адраджэнне народнай культуры і падыманне яе да рангу нацыянальнай"[12].

Ідэя Даленгі-Хадакоўскага аб тым, што ў паданнях, звычаях і абрадах народа захавалася памяць аб уяўленнях, гісторыі далёкіх продкаў яго, імпанавала студэнцкай моладзі з Таварыстваў філаматаў, філарэтаў. Самі ж публікацыі Хадакоўскага, Марыі Чарноцкай, Восіпа Ярашэвіча практычна арыентавалі ў зборы і асэнсаванні памятак народнага духу.

Звычайна пасля вакацый на зборках філаматаў і філарэтаў зачытваліся рэфераты аб сабраных фальклорных матэрыялах. Захаваліся сведчанні, што на адным з пасяджэнняў С. Казакевіч даў апісанне Завілійскага павета, а М. Рукевіч прачытаў даклад "Звесткі пра народ у Беластоцкай акрузе"[13].

Удзельнікамі Таварыства філаматаў былі ў часе навучання ў Віленскім універсітэце Адам Міцкевіч, Ян Чачот, Аляксандр Ходзька і прасякнутасць іх творчасці беларускімі фальклорнымі матывамі і сюжэтамі ўзяла свой пачатак ад штудый імі народнай паэзіі ў студэнцкія гады.

Ян Чачот сам збіраў фальклор і з асаблівай увагай сачыў за літаратурай па народазнаўстве. Першыя публікацыі па беларускім фальклоры, у тым ліку публікацыя Даленгі-Хадакоўскага пра вясельныя звычаі, абрады і песні з Гайнаўскай парафіі зрабілі на яго моцнае ўражанне. "І само апісанне і напевы, – пісаў ён з тае нагоды, – вельмі цікавыя. Калі б усе такія ўрачыстасці не ўніклі вока цікаўнага, не абыякавага да свайго краю і сваіх сялян назіральніка, быў бы гэта прыгожы помнік уласнай фантазіі і ўяўленняў краёўцаў... Падобных урачыстасцяў шмат, напрыклад: Купала, Дзяды, Каляды, Вялікдзень, Шчодры вечар, Зажынкі, Дажынкі, раса на св. Юрыя. Усё гэта з рытуаламі і песнямі... Словам, пільна трэба заняцца збіраннем такіх памятак – сапраўднай літаратуры гэтага краю"[14].

Нельга не заўважыць, што ў словах будучага збіральніка і публікатара беларускай народнай паэзіі адчуваецца добрая арыентацыя ў прыродзе беларускага фальклору, яго сістэмнага багацця. Невыпадкова высока ацаніў каштоўнасць беларускага фальклору, назваўшы літаратурай краю. А пазней, вярнуўшыся з высылкі, ён парупіўся сабраць і апублікаваць тысячу пераважна каляндарных і сямейна-абрадавых песень, сярод якіх багата класічных узораў традыцыйнай культуры беларусаў.

У адным са сваіх зборнікаў "Сялянскіх песенек з-над Нёмна і Дзвіны" Ян Чачот апублікаваў гісторыка-лінгвістычны нарыс пра беларускую мову, змясціў кароткі беларускі слоўнік, прыказкі і фразеалагізмы.

У развагах аб стане і лёсе беларускай мовы, называючы яе паводле самага большага племені, з якога фарміравалася беларуская народнасць, славяна-крывіцкай, Ян Чачот спасылаўся на зайздросную руплівасць малых славянскіх народаў у дачыненні сваёй мовы, культуры: "Іншыя дыялекты славянскага паходжання (на пачатку XIX ст. усе жывыя славянскія мовы называліся дыялектнымі адносна стараславянскай – *А.Л.*) шчаслівейшыя, бо нават такія, як, напрыклад, краінскі, краацкі і далмацкі маюць свае граматыкі і слоўнікі. Тут наадварот – крывіцкае племя, якое налічвае некалькі мільёнаў насельніцтва, не мае нічога болей, акрамя катэхізіса, выдадзенага нядаўна ў Віленскай епархіяльнай друкарні"[15].

У публікацыі Яна Чачота вельмі прадметна разгледжана марфалогія беларускай мовы, асобных яе форм у кантэксце з аналагічнымі формамі моваў польскай, рускай, украінскай, сказана аб большай яе блізкасці да рускай[16].

Адзначана функцыянальная роля старабеларускай мовы ў жыцці ВКЛ, пра што аўтар даведаўся, пэўна, на ўніверсітэцкіх лекцыях прафесараў Іяахіма Лелевеля, Міхала Баброўскага. Вызначальным фактарам ва ўзнікненні беларускай нацыянальнай ідэі была перадусім пазнаваўчая і практычная праца прафесараў кола Міхала Баброўскага.

Менавіта яны, вучоныя-гуманітарыі, падышлі да ўсведамлення таго факту, што цягам XII–XV стст. ліцвіны-беларусы сфарміраваліся як народнасць, са сваёй мовай, гісторыяй, культурай. Нешта ў плане станаўлення нацыі беларусаў падказваў досвед нацыянальна-культурнага адраджэння чэхаў, славакаў, славенцаў, сербаў.

Нарэшце, не апошнюю ролю ў выхадзе на беларускую ідэю М. Баброўскага, І. Даніловіча адыгрывала і іх этнічнае паходжанне.

Народжаным на Беласточчыне ў сем'ях уніяцкіх святароў, ім з маленства

былі знаёмыя звычаёва-бытавая і моўная беларускія стыхіі. Дасведчаным у культурніцкай і дзяржаўнай спадчыне ВКЛ, ім лягчэй было адчуць, што з'яўляюцца спадкаемцамі не польскай духоўнай традыцыі, якая культывавалася, панавала ў атмасферы Віленскага ўніверсітэта, а іншай. Маглі задумвацца над тым, наколькі формула "gente rutheni nacione poloni" адэкватна іх этнічнаму паходжанню.

Наколькі няпростым быў выхад на беларускую ідэю яе першым шукальнікам, красамоўна сведчыць навуковая дзейнасць, жыццёвы лёс Міхала Баброўскага і яго сяброў. У 1824 годзе ў сувязі з рэпрэсіямі генерал-губернатара Навасільцава супраць студэнцкай моладзі, філаматаў, Баброўскі разам з прафесарам Лелевелем быў звольнены з універсітэта і адпраўлены ў жыровіцкі манастыр. Звальненне, зразумела, мела палітычную матывацыю: "дурное влияние на студенческую авдиторию". Праўда, у 1826 годзе Баброўскі быў вернуты, назначаны прафесарам экзагетыкі і герменеўтыкі. У 1833 годзе, пасля закрыцця ўніверсітэта, калі другія выкладчыкі былі пераведзеныя ў Харкаў, Баброўскаму далі толькі прыход як уніяцкаму святару ў мястэчку Шарашове. Праўда, ён тут мог працягваць свае беларусазнаўчыя працы. У лісце ад 16 лютага 1833 года да Ігната Даніловіча Баброўскі пісаў пра сваё становішча: "Застаюся на сёнешнім сваім месцы... Хоць пра мяне дадзены злосны водзыў перад урадам з выпадку складзенага мною катэхізіса, які я думаў выдаць"[17].

"Злосны водзыў", пасланы ў Міністэрства асветы ў Пецярбург, належаў не каму-небудзь, а тагачаснаму рэктару Віленскага ўніверсітэта Венцэславу Пелікану, і гучаў ён так: "Сей зловредный священник был уже в 1824 году вместе с Лелевелем исключен из университета за дурной образ мыслей и преступные свои действия... Все его деяния, поступки и связи показывают человека злого, неблагодарного..."[18]. Як бачна са зместу і тону дакладной рэктара, а была яна сапраўным палітычным даносам, Міхал Баброўскі выклікаў вялікі гнеў універсітэцкага кіраўніка і, пэўна ж, не сваім характарам, які, паводле ўспамінаў сучаснікаў, напрыклад, блізка знаўшага яго Плакіда Янкоўскага, вылучаўся рахманасцю і дабрынёй. Значыць, як пра гэта небезпадстаўна мяркуюць даследчыкі жыцця і навуковай працы Міхала Баброўскага, кіраўніцтвам універсітэта не прымалася штосьці ў дзейнасці, пазіцыі аўтарытэтнага вучонага і педагога.

Адказ на прычыны такога стаўлення да Міхала Баброўскага з боку ўніверсітэцкай адміністрацыі варта пашукаць у гісторыі і ідэалагічным характары самога Віленскага ўніверсітэта, заснаванага як асветны і інтэлектуальны польскі цэнтр у Літве. Статут універсітэта быў напісаны членам Адукацыйнай камісіі выдатным польскім асветнікам Гуго Калантаем, куратарам прызначаны намеснік міністра замежных спраў Расійскай імперыі блізкі сябар цара Аляксандра I, лідэр польскай арыстакратычнай партыі Адам Чартарыйскі. Універсітэту аддавалася кіраўніцтва асветай усёй Віленскай навучальнай акругі, якая абыймала этнічную Летуву, усю Беларусь і значную частку Украіны. Універсітэцкая рада раз на чатыры гады выбірала дырэктараў і загадчыкаў усіх вучылішчаў акругі[19].

Трэба зазначыць, што Віленскі ўніверсітэт меў сталыя традыцыі, якія цягам XVI стагоддзя, калі прывілеем Стэфана Баторыя з калегіўма ён быў пераўтвораны ў акадэмію, з усімі правамі, што належалі такога тыпу ўстановам у тагачаснай Заходняй Еўропе. Апошнія гады існавання Рэчы Паспалітай Польшчы ў XVIII стагоддзі ён фігураваў як Галоўная школа ВКЛ.

Рэч Паспалітая другой паловы XVIII стагоддзя ўжо не пазіцыянавала сябе рэспублікай двух народаў, фігуравала як унітарная дзяржава. Польскія палітыкі глядзелі на беларускія, украінскія, летувіскія землі як усходнія ўскраіны Польшчы. Нанова заснаваны ў 1803 годзе Віленскі ўніверсітэт базаваўся на колішняй галоўнай школе ВКЛ, але ў новых гістарычных абставінах набыў першазадачу падтрымліваць польскасць на ўсходзе.

Карыстаючыся тым, што царская ўладная адміністрацыя яшчэ слаба арыентавалася ў этнічнай сітуацыі ў толькі што далучаных да Расійскай імперыі землях, польскія асветна-культурныя дзеячы і палітыкі паспяхова зрэалізавалі Віленскі ўніверсітэт як навукова-асветніцкі польскі цэнтр, паспелі ўзгадаваць пераважна з дробнай беларускай шляхты цэлую плеяду таленавітых навукоўцаў, пісьменнікаў, паэтаў на чале з геніяльным Адамам Міцкевічам.

Беларусазнаўчыя штудыі-росшукі прафесара Баброўскага, яго заклікі, звернутыя да выпускнікоў вывучаць мясцовыя гаворкі, складаць слоўнікі, збіраць беларускі фальклор не ўпісваліся ў агульную скіраванасць навукова-асветнай працы ўніверсітэта, выламваліся з яе планаў.

Падрыхтоўка Міхалам Баброўскім Катэхізіса на беларускай мове, натуральна, не без імкнення падтрымаць ва ўніяцкай царкве беларускасць таксама разыходзілася з устаноўкай заснавальнікаў і апекуноў універсітэта, яго кіраўніцтва.

Рэктару ўніверсітэта Пелікану, шляхцічу родам з-пад Слоніма, чалавеку на адказным дзяржаўным становішчы даводзілася лічыцца з многімі фактамі, чыннікамі часу, абставін ды адпаведна рэагаваць на іх.

У выніку і не магла не з'явіцца дакладная папера яго ў высокія ўрадавыя інстанцыі, якая прадвызначала становішча ва ўніверсітэце прафесара Баброўскага, а ў канчатковым выніку і яго ссыльны лёс у мястэчка Шарашова на Пружаншчыне на сціплую пасаду клерыка ўніяцкай царквы.

Крыху інačай, але таксама не ласкава, складваўся лёс бліжэйшага ўніверсітэцкага калегі Баброўскага, выкладчыка гісторыі і правазнаўства Ігната Даніловіча. Звольнены ў 1824 годзе з універсітэта з забаронай жыць у Літве-Беларусі, Ігнат Даніловіч з 1825 па 1829 год папрацаваў у Харкаўскім універсітэце, а ў 1830-1835 у Пецярбургу ў камісіі М. Спяранскага па падрыхтоўцы збору мясцовых законаў для заходніх губерняў. У камісіі канцлера, юрыста на дзяржаўным становішчы Спяранскага, І. Даніловіч спадзяваўся, мог выкарыстаць свае веды па Літоўскіх Статутах, усе пісьмовыя і друкаваныя варыянты якіх у свой час вывучыў і апісаў. Спадзяванні не спраўдзіліся. Як не здзейснілася і большае – надзея на суверэннасць спазнанай ім навукова Літвы-Беларусі, з яе мудрым летапісаннем, высокай прававой думкай, славутымі гістарычнымі постацямі Гедзіміна, Скарыны, Вітаўта, Льва Сапегі...

Не ўрэчаіснілася, як і праект Міхала Клеафаса Агінскага, адрадзіць ВКЛ у форме Вялікага герцагства Літоўскага, пададзены ў 1811 годзе цару Аляксандру І.

Аднак пры ўсіх жыццёвых непамыснотах, неспагадных акалічнасцях часу прафесарам Віленскага ўніверсітэта атачэння Міхала Баброўскага ўдалося нямала зрабіць дзеля вывучэння гістарычнай, прававой спадчыны Літвы-Беларусі, пазнання традыцыйнай культуры беларускага этнасу.

Так, складзены М. Баброўскім "Катэхізіс" і выдадзены ў 1835 годзе ў Вільні, быў першай беларускамоўнай кніжкай, апублікаванай у XIX стагоддзі. На жаль, асноўныя працы М. Баброўскага з неапублікаваных, асабліва філалагічнага плану, рукапісныя загінулі пасля смерці вучонага.

Што да навуковай спадчыны Ігната Даніловіча, то з ёй больш пашанцавала. Працы І. Даніловіча "Пра літоўскія летапісы", "Паведамленне пра сапраўдных літоўскіх летапісцаў" запачаткавалі навуковае даследаванне беларуска-літоўскага летапісання. У "Скарбніцы грамат", падрыхтаванай І. Даніловічам і выдадзенай пасмяротна Яўстафам Тышкевічам, апісана, пераказана і часткова апублікавана каля 2500 розных дакументаў, пісьмовых крыніц па гісторыі Беларусі і Літвы[20]. Гісторык Восіп Ярашэвіч, аўтар кнігі "Вобраз Літвы", акрамя сваіх гістарыяграфічных штудый досыць актыўна зацікавіўся вусна-паэтычнай творчасцю народа. Зрабіў дзве змястоўныя публікацыі на падставе сабраных на малой радзіме, у Бельскім павеце, фальклорных матэрыялаў.

Першая з іх датычыла Купалля і ўлучала апісанне абраду, купальскага карагоду “Рагулька”, шчодра прадстаўляла песенныя тэксты – суправад свята-феномена старажытнай народнай культуры[21].

Другая, змешчаная ў часопісе “Athnaeum” у 1846 годзе, пазней передрукаваная ў газеце “Гродненские губернские ведомости”, утрымлівала навукова-пазнавальную інфармацыю рознага этнаграфічнага зместу аб Бельскім павеце, практычна пра крайні паўднёва-заходні рэгіён Беларусі. Звесткі былі аўтэнтычныя, сабраныя самім аўтарам на яго малой радзіме[22].

Праз паўстагоддзя ў пачатку 90-х гадоў XIX стагоддзя, калі беларуская нацыянальная ідэя ўжо выразна абазначылася ў грамадскай думцы, першых шукальнікаў яе згадае расійскі вучоны П.К. Баброўскі. Успомніць сцісла, што “у 20-х гадах XIX стагоддзя ў Заходніх губернях (на той час называць Беларусь, Літву было афіцыйна забаронена) утварылася... малазнаная партыя, на чале якой былі некаторыя прафесары Віленскага ўніверсітэта, што марылі аб адраджэнні беларускай мовы, на якой быў выдадзены “Літоўскі Статут”[23].

Трэба сказаць, што сацыяльныя і палітычныя ўмовы ўзнікнення і станаўлення беларускай ідэі, самаідэнтыфікацыі беларускага этнасу былі неспрыяльныя цягам усяго XIX стагоддзя. Яна (ідэя) як аб’ядноўчая субстанцыя, накірунак развіцця этнасу ў напрамку яго самарэалізацыі ўзнікла даволі рана, пачынала рэалізавацца, парываць яе нешматлікіх прыхільнікаў і рупліўцаў да дзей толькі ў асобныя, больш-менш спрыяльныя перыяды, на нейкім гістарычным зломе, грамадскім зруху.

Антыцарскае паўстанне 1831 года ў Польшчы не абмінула Беларусь, але не прынесла ў яе межы новых ідэй на карысць нацыянальнага абуджэння. Яно адно паслужыла повадам расійскаму самадзяржаўю закрыць Віленскі ўніверсітэт як рассаднік свабодалюбства і не дазваляла адкрыць яго аж да самага свайго зыходу з гістарычнай арэны.

Між іншым, у ходзе паўстання загінула яго гарачая ўдзельніца, першая жанчына-мілосніца беларускай народнай песні і танца, іх збіральніца і захоплены прапагандыст Эмілія Плятэр.

Яскравае сведчанне-ўспамін пра Эмілію Плятэр пакінуў удзельнік вызваленчага руху, выхадзец з віцебскага інтэлігенцкага асяродку Максіміліян Маркс: “Першая яна, – бадай я не памылюся, – з запалам, уласцівым чулым і высакародным сэрцам, аддалася душою беларускаму люду, вывучала яго бяду і спачувала ёй, стараючыся па магчымасці аблегчыць яе; збірала і спявала яго песні, шчодра плаціла за іх дастаўку і спрабавала пяро ў іх наследаванні. На фартэпіяна яна ўмела найвыразней перадаць іх і зухаватасць, і тугу народных матываў і нават тэмбр сапрана-жалейкі і баса-дуды. Віртуозна валодала Эмілія жанрам галашэнняў, захаплялася народнымі танцамі, надзвычай любіла “Лепятуху”[24].

Праўда, дзе-хто з былых паўстанцаў 1831 года, апынуўшыся за межамі Беларусі, на эміграцыі, адчулі прыцягальную моц сваёй Радзімы, рэальна не забыліся пра яе. Так, напрыклад, Аляксандр Рыпінскі ў 1840 годзе выдаў у Парыжы кнігу “Беларусь: некалькі слоў аб паэзіі простага люду гэтай нашай польскай правінцыі; аб яго музыцы, спеве, танцах, etc.”[25]

У кнізе Рыпінскага пададзены даволі шырокі абсяг духоўнага жыцця народа роднага аўтару Падзвіння, прыведзены песні розных жанраў, апісанні каляндарных абрадаў, праца выканана са шчырым замілаваннем, любоўю да носьбітаў беларускай народнай творчасці, да самога народа беларускага. Але ў ёй рэзка абазначылася адна палітычная тэндэнцыя.

Практычна не ў самой самой працы А. Рыпінскага, а ў яе загалоўку і асабліва ў прысвячэнні кнігі. Аўтар ахвяраваў яе тым з беларусіх сялян, хто спачатку “навучаецца чытаць па-польску, а потым і ўсёй душой прымкне да маці Польшчы”[26].

Кніга А. Рыпінскага пазначыла сабой пэўныя тэндэнцыі ў падыходзе да беларускага этнасу, яго ацэнкі як з боку польскіх этнолагаў, так і паасобных рускіх. Аўтар фундаментальнага слоўніка польскай мовы Самуэл Багуміл Ліндэ лічыў беларускую мову “gwarej”, дыялектам польскай. Такую ж лінгванамінацыю стасавалі да беларускай мовы і асобныя рускія лінгвісты і этнографы XIX стагоддзя. Наўпрост залежныя ад дзяржаўнай ідэалогіі царызму, яны па-іншаму меркаваць і не маглі. Ідэалогія дзяржсістэмы Расійскай імперыі, выражаная трыядай “православие, самодержавие и народность”, у 60-я гады XIX стагоддзя, з падачы прафесара Пецярбургскай праваслаўнай духоўнай акадэміі М. Каяловіча дапаўнялася ідэалагемай “западно-руссизма”[27]. Згодна з ёй беларускі і ўкраінскі этнасы не прызнаваліся самадастатковымі, самастойнымі. Адпаведна і мовы іх трактаваліся як дыялекты рускай[28].

Актыўнае вывучэнне ў XIX стагоддзі праз Рускае геаграфічнае таварства фальклору і этнаграфіі Беларусі дэтэрмінавалася ідэалагічнымі матывамі: патрэбай ідэнтыфікаваць беларускую моўна-этнічную прастору не паводле аб’ектыўных навуковых крытэрыяў, а згодна з афіцыйнай устаноўкай.

Характэрна, звяртаюць на сябе ўвагу назвы публікацый беларускага фальклору П.В. Шэйна «Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края” (1887), Ю.Ф. Крачкоўскага “Быт западно-русского селянина” (1874) і інш. У сувязі з забаронай царом Мікалаем І у дачыненні Літвы і Беларусі іх аўтэнтычнага наймення фальклaрысты і этнографы вымушаны былі ў сваіх публікацыях беларускага фальклору пазбягаць этноніма “беларускі”. Тым не менш сабраны імі вялізны масіў фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў сваёй сутнасцю, зместам, мовай пераканаўча засведчыў пра багатае і непаўторнае аблічча свайго творцы – беларускага этнасу.

І гэта не магло не паўплываць на грамадскую свядомасць, грамадскую думку асвечаных прадстаўнікоў самога беларускага грамадства.

Нягледзячы на дэспатычны рэжым расійскага самаўладдзя, этнічная эмансіпацыя беларусаў, іх нацыянальная самаідэнтыфікацыя на фоне адраджэння славянскіх народаў – чэшскага, славенскага, украінскага, славацкага – была непазбежнай. Неўнікнёнай было і станаўленне беларускай ідэі як пабуджальніка і рухавіка этнічнай, нацыянальнай супольнасці беларусаў да рэалізацыі сябе ў часе і прасторы сярод іншых народаў, нацый Еўропы.

40-50-я не сталі нейкім этапам у фарміраванні беларускай ідэі, але і не былі зусім глухія, без публічнага сведчання ў гэты час праяў беларускага слова, беларушчыны.

Так, у 1847 годзе ўслед за публікацыяй беларускіх песенных збораў Яна Чачота з’явілася паважнае выданне гісторыка, археолага і этнографа Яўстафія Тышкевіча “Апісанне Барысаўскага павету”[29]. Акрамя гістарычных і эканамічных звестак, дадзеных яно ўлучала кампетэнтнае, з навуковымі тлумачэннямі апісанне сямейных і каляндарных абрадаў з багатым іх песенным суправаджэннем. У цэлым фальклорна-этнаграфічны зборнік Я. Тышкевіча характарызаваў традыцыйную культуру як з’яву самабытную, навукова каштоўную.

У 1842 годзе пачаў выходзіць у Вільні рэгіянальны навукова-літаратурны альманах “Rubon” (старажытная назва Заходняй Дзвіны), на старонках якога з’явілася багата публікацый па гісторыі і археалогіі Падзвіння. Былі надрукаваны творы літаратараў, выхадцаў з Падзвінскага краю Яна Баршчэўскага, вершы і балады Тадэвуша Лады-Заблоцкага, эсэ Ігната Храпавіцкага і іншых. І праз гады захавала навукова-пазнавальную каштоўнасць эсэ І. Храпавіцкага “Погляд на паэзію беларускага народа”. Аўтар трапна ацаніў спецыфіку беларускага фальклору, высокую эстэтычную культуру беларускіх народных песень, іх мову[30]. Паказальна, будучы маршалак дваранства Віцебскай губерні збіраў беларускі фальклор, меў багатую яго калекцыю, падрыхтаваў “Поўны песнясловў беларускі” з нотамі[31].

Інспіравала грамадскую думку на выкрышталізаванне погляду на Беларусь як на асобны славянскі край, народ і праца выдаўца “Rocznika Literackiego” (літаратурнага гадавіка) у Пецярбургу Рамуальда Друцкага-Падбярэскага. У газеце “Tygodnik Petersburski” за 1844 год працягам у трох нумарах Р. Падбярэскі апублікаваў свае падарожныя нарысы пад загалоўкам “Лісты пра Беларусь”. З любоўю, натхнёна аўтар апісвае краявіды паўночнай Беларусі, пільна ўглядаецца ў жыццё простага народа краю, яго жыхароў. Ахарактарызаваўшы сацыяльны стан насельнікаў Падзвіння: стараабрадцаў, латышоў, яўрэяў, аўтар “Лістоў...” заўважае, што “асноўнае тут племя, беларусы, жыве найгорай”. Растлумачыў тое сацыяльнай прычынай – нялюдскай адміністрацыяй, “якая даводзіць люд да роспачы”[32].

Падбярэскі не без захаплення адзначаў смеласць і ўвішнасць беларускіх жанчын, як умела яны кіруюць свае чаўны і сплаўляюць платы на Дзвінскіх парогах. Прыводзіць лічбу 5-6 тысяч колішніх панцырных баяр, што вартавалі межы ВКЛ на ўсходзе. Згадвае пашыраныя сярод іх прозвішчы Скарынаў, Зарэмбаў, Пузынаў[33]. Пра беларускую народную паэзію сведчыць як пра з’яву жывую, актуальную, свежую. Бачыць яе спецыфіку ў параўнанні з вуснай песнятворчасцю ўкраінцаў, спароджанай ва ўмовах шырокаразлеглага стэпу, казацкай вольніцы. У беларускіх народных абрадах аб’ектыўна заўважае дамінаванне міфалагічных элементаў. Тлумачыць спецыфіку гэтага прыродным атачэннем, лясістым суровым.

Падбярэскі першым адзначыў блізкасць фальклору беларусаў і літоўцаў. “Спеў і сумныя вобразы, – пісаў ён, – набліжаюць беларускую паэзію найболей да народных спеваў Літвы”[34].

“Уважліва ўглядзеўшыся ў паэзію гэтага люду, убачыш сляды часоў даўно мінулых, адкрываецца фантастычны бок, поўны жывой паэзіі, якой не ўгледзець, “думка, што слізгае на паверхні”, – зазначаў Падбярэскі[35]. Апошні пасаж быў скіраваны ў адрас П. Кушына, аўтара артыкула “Гецыкі”, змешчанага ў часопісе “Москвитянин” у №8-м за 1843 год.

Павярхоўна-пагардлівы погляд заезнага журналіста на Беларусь, выяўлены ім ужо ў самім загалоўку публікацыі, выклікаў у Падбярэскага натуральны пратэст супраць прыніжэння яго зямлі, ягонага народа. Пабуджальны матыў да напісання Р. Падбярэскім “Лістоў пра Беларусь” ляжаў, такім чынам, у псіхалагічнай маральна-этычнай плашчыні.

Нашчадак князёў Друцкіх, якія, як іншыя стараруския (беларуска-ліцвінскія) роды, падлеглыя паланізацыі цягам XVII стагоддзя, свядомасна вяртаўся да гістарычных каранёў, да свайго этнасу.

Гэта пацвердзіла ўся далейшая дзейнасць Рамуальда Друцкага-Падбярэскага, яго жыццё, на жаль, рана абарванае царскім рэжымам.

Акрамя “Лістоў пра Беларусь” Р. Падбярэскі здзейсніў яшчэ некалькі публікацый, прысвечаных паўночна-беларускаму краю, яго духоўнаму народнаму і інтэлектуальнаму жыццю 40-х гадоў XIX стагоддзя. Яго эсэ пра паўночную Беларусь улучала накіды штрыхамі некалькі жывых абразкоў духоўнага быту беларускай моладзі, урыўкі купальскіх, жніўных песень, цікавае гістарычнае паданне пра возера Няшчарда, апісанне звычаяў, абрадаў, павер’яў, звязаных з Купаллем, русалкамі[36].

Выданне кнігі Яна Баршчэўскага “Шляхціц Завальня, альбо Беларусь” Р. Падбярэскі суправодзіў разгорнутым крытычным аглядам інтэлектуальнага жыцця паўночнай Беларусі.

Спачатку крытычна разгледзеў літаратурныя здабыткі так званых постэзуіцкіх часоў: творчасць Францішка Багамольца, Францішка Князьніна, І. Мігановіча, гадаванцаў полацкай езуіцкай акадэміі. Ацаніў жорстка, але не сказаць, каб несправядліва: “Пісьменнікі гэтыя, падхопленыя вірам заходніх ідэй, малеючы ў наследаванні, не развілі ўласнага духу, не ткалі канвы з сябе саміх, слепа

трымаючыся славутых узораў, ніколі не праявілі нацыянальнага духу, бо самі яго не мелі і не разумелі. У іх творах не адбілася ні мясцовасць, ні дух краю"[37]. Сярод іншых літаратараў Полаччыны вылучыў Яна Аношку, які паводле погляду Р. Падбярэскага, меў сапраўдны паэтычны талент, быў "бліжэй да народнага духу". Яго вершыкі ўспрымаліся ў народным асяроддзі пераважна з-за народнага гумару.

Валацужны лад жыцця (Я. Аношка скончыў нядоўгі свой век у карчме) не даў яму творча рэалізаваць талент – сведчыў Р. Падбярэскі[38].

Асобна звярнуў увагу Падбярэскі на збеларушаную "Энеіду". Зазначыў, што паэма бытавала ў спісках і выказаў жаль, што не трапілася ў цэласці, а толькі ў фрагментах. Убачыў унікальнасць твора, адзінага, паводле яго меркавання, напісанага на беларускай гаворцы; акцэнтна канстатаваў менавіта ягоную беларускамоўную форму і значэнне[39].

Пры разглядзе публікацый гадавіка "Rubon" Р. Падбярэскі падрабязней спыніўся на працах трох аўтараў: акрэсліў прыроду талента паэта Тадэўша Лады-Заблоцкага, уразіўся і засведчыў глыбіню філасофскага асэнсавання Ігнатам Храпавіцкім беларускіх народных песень, шырока прааналізаваў творчасць Яна Баршчэўскага, пачынаючы ад яго вершаў-песень і засяродзіўшыся на літаратуразнаўчай аналітыцы галоўнага твора пісьменніка, аповесці "Шляхціц Завальня, альбо Беларусь"[40].

"У апавяданнях Баршчэўскага, – пісаў Падбярэскі, – заўважаем праяўленне духу беларускага народа, як у даследаванні Храпавіцкага першая праява філасофскіх паняццяў аб паэзіі гэтага люду, а ў творчасці Т. Лады-Заблоцкага пачуццёвы аспект беларускай паэзіі ў сучасную хвіліну"[41]. Характэрна, Друцкаму-Падбярэскаму марылася аб максімальным выяўленні і сцверджанні культурна-інтэлектуальнага жыцця ў Беларусі яго часу. У сваёй публікацыі ён усцешна паведамляе аб тым, што акрамя беларускіх паэтаў з'яўляюцца і музыкі, здольныя ў сучаснай наогул касмапалітычнай еўрапейскай музыцы падаць нацыянальны голас. Падбярэскі не хавае, што сам падказаў музычна адоранаму беларусу ў Пецярбургу Антону Абрамовічу тэму і крыніцу мелодый паэмы (сімфоніі) "Беларускае вяселле": "Ідэя беларускіх паэтаў адносна праяўлення народнасці ў мастацтве пачынае праяўляцца і ў музыкаў, – пісаў Падбярэскі. Так, вядомы ў сталіцы музычным талентам Антон Абрамовіч падхапіў думку, кінутую намі ў першым томе "Rocz[nika] Liter[ackiego]", і ад некалькіх беларускіх мелодый, пакладзеных на ноты, перайшоў да задумы стварыць музычную паэму ў духу народных песень на тэму "Беларускае вяселле". А. Абрамовіч, родам беларус, беручыся за зусім новую ў нас і дагэтуль непачатую тэму, калі яе добра рэалізуе, можа стварыць рэч зусім арыгінальную і заняць выключнае месца ў касмапалітычнай еўрапейскай музыцы. Урыўкі, якія мы чулі, захапілі нас, таксама, як і ўсіх слухачоў, землякоў кампазітара, якія найлепш маглі меркаваць аб праўдзівасці народных мелодый"[42].

Як бачым, Р. Падбярэскі вельмі добра ўсвядоміў значэнне народных духоўна-культурніцкіх традыцый для станаўлення новай беларускай літаратуры, мастацтва. Быў блізкі да ўсведамлення харызмы народа. А гэта ўжо адзін крок да асэнсавання беларускай ідэі.

Да ўсведамлення краёвай беларускай інтэлігенцыяй сваёй этнічнай тоеснасці з народам штосьці дадавала фальклорна-этнаграфічная і літаратурная праца Паўла Шпілеўскага. У адрозненне ад сваіх папярэднікаў, этнографаў і фалькларыстаў, якія публікавалі і даследавалі беларускі фальклор у польскіх выданнях, П. Шпілеўскі з беларускімі матэрыяламі выступаў у вядомай на той час рускай пецярбурскай перыёдыцы. Беларускай яшчэ не было, хоць і мелася спроба заснаваць беларускі часопіс[43]. Да выдання не дайшло: лідэр славянафілаў М.Н. Каткоў "зарэзаў" планаваны перыёдык. Няйначай і, трэба сказаць, небезпадстаўна палічыў, што выданне можа стаць трыбунай беларускага сепаратызму. Сваімі публікацыямі беларускага

фальклору, такіх высокіх праяваў, узораў народна-паэтычнай культуры беларусаў, як валачобныя, жніўныя, вясельныя песні, каляндарна-сямейныя абрады, казкі, апісанні беларускіх мястэчак і гарадоў П. Шпілеўскі – вёў унутраную палеміку з тымі, хто не прызнаваў яго народа, скептычна ці нават з пагардай ставіўся да яго мовы і тым самым – да ягоных духоўных патэнцый[44].

Аддаючы належнае старажытнаму паходжанню беларускай мовы, цудоўнаму гучанню яе ў вуснах народа, нарэшце, высокай грамадскай ролі ў дзяржаўным жыцці Вялікага Княства Літоўскага, П. Шпілеўскі афіцыйна не сцвярджаў, не мог сцвярджаць яе значэнне для развіцця беларускай мастацкай літаратуры. Хоць сам спрабаваў пяро як літаратар і меў для гэтага адпаведны прыродны нахіл, талент.

Практычныя крокі на шляху да беларускай ідэі ў 50-я гады XIX стагоддзя рабіў літаратар Арцём Вярыга-Дарэўскі. Задумку яднаць інтэлігенцыю на грунце творчасці, асветы народа рэалізаваў праз асабістыя кантакты. Наведваў блізкі ад сваіх Стаек Віцебск, Магілёў, Вільню. Быў шчыра прыманы за свае высакародныя памкненні і чалавечае абаянне.

Пры сустрэчах у інтэлігенцкіх асяродках прасіў выказваць думкі, пажаданні пісьмова ў прапанаваным альбоме. У выніку “Альбом Вярыгі-Дарэўскага”, па ацэнцы сучасных беларускіх літаратуразнаўцаў і гісторыкаў, стаўся ўнікальным помнікам культурніцкай і грамадскай думкі Беларусі сярэдзіны XIX стагоддзя. Пісаць па-беларуску Вярыга-Дарэўскі заахвочваў сваім прыкладам. Быў аўтарам сёння апублікаванага верша “Думка”, паэмы “Ахульга”, тэматычна звязанай з вызваленчай барацьбой горцаў на Каўказе, драматычных твораў “Гордасць”, “Хцівасць”, нататак “Гутарка з пляндроўкі па зямлі латышскай”, перакладу на беларускую мову паэмы Адама Міцкевіча “Конрад Валенрод”. У лісце да Уладзіслава Сыракомлі ад 22 кастрычніка 1857 года Вярыга-Дарэўскі паведамляў, што выслаў яму восем сшыткаў рукапісаў, дзе называў вышэй абазначаныя творы і дадаваў: “Ёсць у мяне некалькі апавяданняў на беларускай мове і каля пяцісот сабраных беларускіх прыпавесцяў і прыказак[45].

Па тым, што зварот-заклік да інтэлігенцыі Вярыгі-Дарэўскага не быў гукам, прагучалым у пустэльні, можна меркаваць, як сустракалі і цанілі яго ў інтэлігенцкіх колах свайго часу. Вось, напрыклад, запіс у “Альбоме” пад №36 ад грамадкі віцебскай інтэлігенцыі ад 8 мая 1860 года, у якім Вярыгу-Дарэўскага мянуюць “паэтам слова і дзеяння”: “Дарагая Беларусь! Прыгледзься да яго дзейнасці, яго энергіі, самаахвярнасці. Паглядзі, як ён вучыць тваіх дзяцей любіць Радзіму, вядзе іх дарогай праўды, прагрэсу і хай сляза бацькоўскай удзячнасці хоць часткова ўзнагародзіць распачатую ім працу. Вучыш нас, пане, роднай мове, запальваеш добрую думку, выклікаеш найвышэйшыя пачуцці, дык няхай табе бог адплаціць, а мы бласлаўляем тваё імя”[46].

Тым часам умовы для здзяйснення асветна-патрыятычных планаў Вярыгі-Дарэўскага былі больш чым неспрыяльныя. Уладны дэспатызм, чыноўніцкае свавольства душыла ўсялякую ініцыятыву. Распачатая Вярыгам-Дарэўскім справа адкрыцця пачатковых школак для народа, бібліятэк сустракала рознага роду перашкоды. Напісанае ім, беларускія рэчы, як лічыць гісторык і літаратуразнаўца Г.В. Кісялёў, не ішлі ў друк з-за цэнзуры[47].

Але ад задуманага, пачатага гэты высакародны чалавек не адступаўся. У адным з лістоў да Адама Кіркора ад 19 жніўня 1859 года ён просіць “вярнуць пакінутыя грымзолы, бо не маю чарнавікоў”. Дадае пра сваё становішча: “З дому не высоўваю носа – на Віцебск здаўна не гляджу, як на поле бою, дзе мы на апошніх сейміках разбіты дашчэнту, і з гэтым пройграшам я затрыманы на паўдарозе да народных школак і тэатраў, да кнігарні і публічных чытанняў”[48].

У наступным лісце да Адама Кіркора ад 13 кастрычніка 1862 года, крыху

паскардзіўшыся на неспагадныя абставіны, цвердзіць: "З Беларушчынай не разбратаўся. Гэта мой ідэал. Можа дарэмна на яе трачуся. Што ж рабіць..."[49].

Практычна здзяйсняная Арцёмам Вярыгам-Дарэўскім задума-ідэя вярнуць ужо ў масе сваёй і то не ў першым пакаленні спаланізаваную ліцвінскую (беларускую) інтэлігенцыю да свайго народа сустракала не толькі прыхільнікаў, але і апанентаў. Паходжаннем з віцебскага кола інтэлігенцыі, як і аўтар класічнай беларускай паэмы Канстанцін Вераніцын ды славуты мемуарыст Максіміліян Маркс, паэт Францішак Карафа-Корбут у 1863 годзе пайшоў у антыцарскае паўстанне і загінуў у Сібіры. У сваім жа вершаваным звароце да Вярыгі-Дарэўскага ён, арганічна паэтычным словам сваім, добра абазнаны ў настроях тагачаснага грамадства, пісаў:

Што табе, дудар, прыспела
Смела песні завадзіць?
Ці то лёгкае, брат, дзела
Нашу браццю прасвяціць?
Крыкнуць на цябе паноўя,
Што ты шкоднік і місцюк, –
Страціш голас і здароўе
І дуду ўпусціш з рук.
Ты мяне аднак не слухай,
Мала што я завяду! –
Цэлай грудзяй дуй і дзьмухай
У жалейку і дуду.
..............................
Грудзяй цэлай гудзі смела
На ўвесь мужыцкі свет, –
Што пасеіш, будзіць цэла,
Будзіць некаліс і цвет[50].

У кантэксце нашай тэмы засталося сказаць пра Арцёма Вярыгу-Дарэўскага апошняе. У сваіх поглядах, жыцці ён быў паслядоўны. Калі ўспыхнула паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага, дзе беларуская ідэя знаходзіла практычнае ўвасабленне, ён у сорак сем гадоў рашуча ўступіў у рады паўстанцаў, за што быў сасланы ў Сібір. Першы беларускі гісторык літаратуры Максім Гарэцкі, ацэньваючы значэнне Арцёма Вярыгі-Дарэўскага ў беларускім жыцці, у 1920 годзе пісаў: "... У нашым Адраджэнні, якое цесна звязана з развіццём нашага пісьменства, Дарэўскі прыслужыўся не столькі пісаным, колькі жывым словам і жывым прыкладам"[51].

Адметна, беларускае літаратурнае слова было запатрабавана вызваленчым рухам і яно дзейсна прагучала ў 1863 годзе на старонках "Мужыцкай праўды" К. Каліноўскага.

Першы беларускі рэвалюцыйны дэмакрат, кіраўнік, стратэг паўстання супраць царызму загаварыў публічна з беларусам на яго роднай мове. Праз сваю газету, лятучы лісток, доказна раскрываў перад беларускім народам яго сацыяльнае і палітычнае становішча ў Расійскай імперыі, клікаў са зброяй у руках ісці па зямлю і волю. Цвердзіў, што "ад маскаля і паноў няма чаго спадзявацца, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць"[52].

Ускрываў, тлумачыў двайную прыроду царскага маніфесту 1861 года: з аднаго боку ім селянін выбаўляўся ад прыгоннай залежнасці, а з другога, аблытваўся абавязкамі выплачваць у казну вялікі выкуп за скупа нарэзаны надзел зямлі. Акцэнтаваў увагу на цяжары рэкрутчыны, раней не знанай у Беларусі, калі хлопца забіралі на 25 год у салдаччыну ды пасылалі бог ведае куды ваяваць за чужыя інтарэсы[53]. Гаварыў (пісаў) пра тое, што цар ссылае тутэйшых адукуваных маладых людзей у Сібір, а прысылае ў Беларусь сваіх чыноўнікаў, якія адно служаць казне, пагарджаючы інтарэсамі простых людзей, народа[54].

Асобна, амаль увесь шосты нумар "Мужыцкай праўды" быў прысвечаны

ўніяцтву, якое да 1839 года спавядала бальшыня насельніцтва Беларусі. Уніяцтва спалучала ў сабе ўсходнюю і заходнюю хрысціянскія традыцыі, у ёй, прынамсі, у казаннях успаміналася беларускае слова, беларускасць і, магчыма, Каліноўскі лічыў яе этнаахоўнай у дачыненні беларускага этнасу. Таму і абараняў ды асуджаў царызм за афіцыйную забарону яе[55]. Такім чынам, палітыку царскага ўрада ў дачыненні да беларускага народа К. Каліноўскі разглядаў як цалкам дэструктыўную. Не давяраў заможнай шляхце. Рухавіком вызваленчага руху, яго асноўнай сілай лічыў сялянства і бедную шляхту[56].

Аб поглядах беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата і яго палітычным ідэале паўнавартасна засведчыў знаны польскі гісторык В. Пшыбароўскі, які не па чутках ведаў Каліноўскага. Пшыбароўскі пісаў, што тэорыя вызваленчага руху Каліноўскага перанятая з “Колокола”. “Як вядома, – адзначаў Пшыбароўскі, – палітычная праграма Герцэна грунтавалася на тым, што ў будучыні славянскія землі, пазбавіўшыся дэспатычных паноў і чужога ярма, павінны ўтварыць федэрацыю незалежных дзяржаў, якія маглі б, жывучы па суседству, у ідэальнай згодзе развіць усе свае нацыянальныя асаблівасці. Дык вось Каліноўскі гэтую тэорыю ва ўсёй яе паўнаце стасаваў да Літвы, паводле яго, Літва павінна разам з Польшчай дабівацца незалежнасці, змагацца за выбаўленне ад чужога захопніка, але складаць асобную адзінку, зусім незалежную ад Польшчы і звязаную з ёй толькі федэратыўнымі вузамі[57]. Наогул, Пшыбароўскі ва ўспамінах неяк асабліва, выяўна, непасрэдна асвятляе дзейнасць Літоўскага паўстанчага камітэту, даносіць жывы вобраз К. Каліноўскага, чалавека і змагара, яго думкі, памкненні, дзеі. Напрыклад, калі ў заключэнне кажа: “...Ён быў адным з галоўных прыхільнікаў і папулярызатараў сепаратысцкіх літоўскіх памкненняў і не адзін раз выказваўся на сваёй сакавітай народнай мове, што “дурным варшаўскім мазгаўням нельга давяраць лёс Літвы”[58].

Задачы, якія ставілі беларускія рэвалюцыйныя дэмакраты на чале з Каліноўскім, былі практычна асновай беларускай нацыянальнай ідэі. Аднак у 60-я гады XIX стагоддзя не было перадумоў да іх увасаблення ў жыццё. Нацыянальная ідэя яшчэ не магла быць падхоплена ў народзе. Такая важная крыніца для станаўлення і развіцця нацыянальнай ідэі, абуджэння свядомасці народа як новая беларуская літаратура рабіла першыя крокі. Яна не магла, падобна ўкраінскай з яе вялікім кабзаром, паэтам Тарасам Шаўчэнкам абуджаць гістарычную памяць свайго народа, уплываць на фарміраванне грамадскай думкі, як тое адбывалася ў 30-60-я гады на Украіне.

З прадстаўнікоў новай беларускай літаратуры ў 50-60-я гады XIX стагоддзя як творца найбольш паспяхова заявіў пра сябе Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Пачаўшы з аперэты-камедыі “Ідылія” (“Сялянка”), пастаўленай на мінскай прыватнай сцэне, пісьменнік піша цэлы рад вершаваных аповесцей “Гапон”, “Шчароўскія дажынкі”, “Купала”, “Вечарніцы”. Большасць названых твораў грунтуецца на звычаях, каляндарных абрадах беларусаў. Так, у аснову паэтычнай аповесці “Купала” пакладзены сцэнар свята летняга сонцастаяння з яго багатымі абрадавымі дзействам і антуражам. Дунін-Марцінкевіч у каларытных вобразных бытавых рэаліях, дэталях узнаўляе падрыхтоўку сельскай грамадой купальскага свята, стварае яго жывую атмасферу[59]. У агульны святочна-абрадавы сцэнар уводзіць сюжэтную лінію заляцання шляхціча-пісарчука да вясковай прыгажуні Агаткі. Згодна сваёй культурна-асветніцкай праграмы, пісьменнік рэалізуе гэтую сюжэтную лінію ў адпаведнасці з традыцыйнай народнай этыкай: лірычная гераіня не паддаецца на ўгаворы залётніка, застаецца вернай свайму жаніху з сялян.

У аповесці “Купала” значную ролю адыгрывае вобраз старога дзеда, носьбіта народнай мудрасці, гістарычнай памяці.

Яго вуснамі аўтар распавядае пра даўнейшыя часы, ушанаванне язычніцкай

багіні Лады, звяртаецца да гістарычных рэмінісцэнцый эпохі Вялікага Княства Літоўскага, калі, паводле яго слоў, "Вальгердавы сыны княжылі шчасліва"[60].

У вершаванай аповесці "Вечарніцы" (Стаўроўскія дзяды) пісьменнік рэстаўруе старажытны беларускі абрад памінання продкаў. Зноў жа ў цэнтры свайго твора ставіць шанаванага сельскім соцыумам дзеда, які распавядае пра маладога князя Грамабоя, што правіў у моцным замку крывічан "у Лагойску, над Гайнай-ракой". Успамінае літоўскага князя Віта (Вітаўта), які нібыта просіць Грамабоя дапамагчы яму адбіцца ад ворагаў. І Грамабой ідзе наўспамогу "сваяку Віту аж да самай Оршы" ды набівае там паганцаў"[61].

Дунін-Марцінкевіч у сваёй літаратурнай творчасці не трымаўся строга падачы гістарычных падзей, адэкватнай рэпрэзентацыі гістарычных асоб. Але такі, умоўна кажучы, глухі зварот да гістарычных постацяў быў не зусім выпадковы. Магчыма, у аповесці "Староўскія дзяды" пісьменнік, згадваючы пераможны паход князя Грамабоя, каб пазбегнуць цэнзуры, свядома зашыфраваў слынную перамогу палкаводца ВКЛ князя Канстанціна Астрожскага восенню 1514 года пад Оршай над пераважаючымі сіламі маскоўскіх ваяводаў. Нельга выключаць такую алюзію пісьменніка, улічваючы палітычныя ўмовы, у якіх яму даводзілася працаваць.

Кампазіцыйная будова аповесцей "Купала", "Стаўроўскія дзяды" з-за ўвядзення пісьменнікам у структуру іх некалькіх сюжэтных ліній траціла цэласнасць, абцяжарвалася. Аповесць жа "Шчароўскія дажынкі" кампазіцыйна была пабудавана адно на аснове дажынкавага абраду, які адлюстраваў важны этап у жыццядзейнасці земляроба.

Кампазіцыя твора ўлучала моманты абрання жнеямі дзяўчыны, якая павінна была несці і ўручаць гаспадару нівы сімвал ураджаю дажынкавы вянок, момант урачыстай сустрэчы жнеяў у двары гаспадара ды дажынкавае застолле[62].

У сваіх вершаваных аповесцях Дунін-Марцінкевіч вельмі актыўна скарыстоўваў беларускі песенны фальклор, часам проста цытуючы яго выдатныя ўзоры. Найбольшага мастацкага эфекту пры гэтым дасягнуў у "Шчароўскіх дажынках", у тэкставай структуры якіх налічваецца ажно сем дажынкавых песень. Акрамя таго пісьменнік на аснове асобных аўтэнтычных песень удала імправізаваў. Так, на сюжэт класічнай народнай балады аб інцэсце ім створана вершаваная аповесць "Травіца брат-сястрыцы". Узяўшы ў аснову свайго твора ідэю балады, яе павучальны сэнс, аўтар шырока белетрызаваў падзейнасць народнага першаўзору. Агульнае ўражанне аб характары выкарыстання Дуніным-Марцінкевічам фальклору, што пісьменнік не браў яго з публікацыяй, на 50-я гады XIX стагоддзя было іх яшчэ няшмат, а спазнаваў народную паэзію ў яе жывым бытанні, балазе была яна пры ягоным жыцці інтэгральнай часткай духоўнага побыту, жыцця народа.

Нельга не аддаць належнае В. Дуніну-Марцінкевічу, што ў зусім неспрыяльных, жорсткіх грамадска-палітычных умовах, абставінах пісьменнік настойліва пісаў і друкаваўся па-беларуску.

Мала таго, што беларускамоўная літаратура яго не магла адабрацца афіцыйнай уладай, не было разумення ягоных памкненняў і ў незалежным ад яе грамадстве.

У лісце, пасланым у рэдакцыю "Gaziety Polskiej", Марцінкевіч канкрэтна выказаўся чаму і дзеля чаго стаў пісаць на беларускай мове, а таксама прывёў цікавы аргумент супраць сваіх апанентаў што да беларускасці. Пісьменнік пісаў: "Жывучы сярод люду, які гаворыць па-беларуску, прасякнуты яго ладам думак, марачы аб долі гэтага братняга племені, анямеўшага ў маленстве ад невуцтва і цемнаты, вырашыў я для заахвочвання яго да асветы ў духу яго звычаяў, паданняў і разумовых здольнасцей пісаць на яго ўласнай гаворцы..."[63].

І паказальна далей: "Ці ж трэба здзіўляцца, што ні адзін польскі орган, нягледзячы на амаль стагадовыя намаганні, не здолеў зрушыць гэтага народа? Мог жа які-небудзь орган дайсці да слыху і пераканаць селяніна, якому спосабы

авалодання польскай мовай былі такімі цяжкімі, які паліваючы крывавым потам нівы сваіх паноў, не меў часу для разумовых заняткаў? Калі ж іншы раз гук матчынай гаворкі даходзіў да прагнага вуха бедака, то гэта быў паток пагроз і лаянак на пагарджаную сірату”[64].

Як бачым, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч не прэзентаваў сябе як беларускага літаратара, але сваё разуменне становішча беларускага народа, уласныя адносіны да яго, клопат аб ягоным лёсе абазначыў канкрэтна.

У сваёй беларускамоўнай літаратурнай творчасці ён падсвядома ішоў да беларускай нацыянальнай ідэі. Праўда, творчасць яго ў сваёй ідэйнай прыродзе не мела значнага нацыятворнага патэнцыялу, як тое было ў геніяльнай паэзіі Тараса Шаўчэнкі, якая выратавала ўкраінцаў ад дэнацыяналізацыі, стымулявала станаўленне нацыі.

У 60-70-я гады XIX стагоддзя аб’ектыўна магчымасці для развіцця і пашырэння ў грамадстве беларускай ідэі былі праблемнымі. Жорстка падаўленае царызмам паўстананне 1863-1864 гг. прывяло да вялікай страты ў Беларусі інтэлігенцыі, у тым ліку творчых людзей. Быў страчаны на вісельні рэальны носьбіт беларускай ідэі, стратэг і кіраўнік паўстання, палымяны публіцыст Кастусь Каліноўскі. Сасланы ў Сібір літаратары Арцём Вярыга-Дарэўскі, паэт Францішак Карафа-Корбут арыштаваны, пазней вызвалены і пакінуты пад паліцэйскім наглядам з забаронай пакідаць сваю сядзібу Люцынка Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч.

Праўда, у 70-я гады адбыўся пэўны зрух у навуковым беларусазнаўстве.

Так, у 1870 годзе пабачыў свет падрыхтаваны беларускім фалькларыстам і этнографам Іванам Насовічам фундаментальны слоўнік беларускай мовы, які красамоўна засведчыў аб яе самастойнасці, самадастатковасці[65].

У 1871 годзе выдадзены “Белорусские песни” П. Бяссонава з шырокім навуковым каментарам абрадаў, звычаяў і мовы беларусаў ды разгорнутай прадмовай, у якой вучоны падаў каротка асэнсаванае мінулае беларускай народнасці за XVI-XVII стагоддзі, яе цывілізацыю, этнічны менталітэт[66]. Уражаны багаццем беларускага фальклору, шырэй – культурных здабыткаў у цэлым, выказаў меркаванне, што “Слова аб палку Ігаравым” без гэтай спадчыны “ўбавілася б на трэць”. Выснаваў гіпотэзу, што аўтар славутага эпасу паходзіць з Беларусі. Характэна, насуперак афіцыйным устаноўкам не прыняў, практычна аспрэчыў афіцыйнае царскае найменне Беларусі Северо-Западным краем. Асудзіў практыку *западноруссизма* ў кіраванні краем, калі ўлада абапіралася адно на адміністраванне, казёншчыну[67].

Да адкрыцця Беларусі як асобнай моўна-культурнай прасторы, пачынаючы з 1873 года, нямала зроблена этнографам П.В. Шэйнам.

У падрыхтаваным ім і выдадзеным у 1874 годзе асобна зборы беларускай народнай паэзіі акрамя песень і абрадаў гадавога круга былі шчодра прадстаўлены сямейныя абрады і песні сямейнага цыкла, творы практычна ўсіх лірычных жанраў фальклору. Важна было і тое, што ў названым зборы Шэйна і ў яго наступных публікацыях рэпрэзентаваны народна-паэтычныя творы з амаль усяго этнічнага беларускага абшару[68].

Фальклорна-этнаграфічныя публікацыі П.А. Бяссонава, П.В. Шэйна, слоўнік беларускай мовы І.І. Насовіча аб’ектыўна давалі досыць грунтоўнае ўяўленне аб духоўным свеце, быцці беларуса, яго мове, культуры, побыце.

Натуральна, яны не былі абыйдзены ўвагай у навуковым свеце. Штосьці з гэтых істотных звестак аб беларускім народзе як асобнай, адметнай этнічнай супольнасці трапляла і па-за сферу цікавасці прадстаўнікоў навуковай гуманітарыстыкі. І перадусім да выхадцаў з Беларусі, што навучаліся ў Пецярбургу ды сталі ўдзельнікамі народавольніцкага руху. Адным з заснавальнікаў беларускай фракцыі партыі “Народная воля” быў Ігнат Грынявіцкі[69]. Яна аформілася к восені 1881 года. Прынамсі, у гэты час арганізатары яе звярнуліся з пасланеннем “Да беларускай

моладзі". Аўтары яго заявілі перадусім як аб анамаліі – поўным бяспраўным становішчы беларускага народа ў Расійскай імперыі: "Наш народ, – сцвярджалася ў пасланні, – складае большасць насельніцтва краю... і, нягледзячы на гэта, ён зусім не мае голасу, не мае прадстаўнікоў для абароны сваіх законных правоў і інтарэсаў"[70]. Акцэнтавалася ўвага беларускай моладзі на яе маральна-этычным абавязку перад сваім народам. Агаварвалася абыякавасць да ўласнага народа папярэдніх пакаленняў беларускай інтэлігенцыі, калі інтэлектуальныя сілы яе ішлі толькі "на карысць Расіі і Польшчы".

У пасланні-звароце да беларускай моладзі гаварылася пра распачаты апошнім часам рух, прагучаў заклік аб'яднацца "ў суполку чыста дэмакратычнага характару", прапаноўвалася магчымая назва будучага аб'яднання – "Беларуская грамада"[71].

Ініцыятары і заснавальнікі асобнай, беларускай структуры ў народніцкім руху Расіі асэнсавалі свой народ суб'ектам гісторыі, а не дадаткам, падэтнасам суседніх народаў.

У завяршэнне паслання "Да беларускай моладзі" пераканальна сцвярджалася: "Наш народ, як і ўсякі іншы, мае задаткі, а, значыць, і законныя правы на абранне з сябе самастойнага і раўнапраўнага члена агульнай федэратыўнай славянскай сям'і"[72].

Такім чынам, ідэя-покліч да беларускай моладзі асэнсаваць сябе ў кантэксце беларускага народа, з якога паходзіла, аб'яднацца дзеля выказу яго інтарэсаў у агульным рэвалюцыйна-вызваленчым руху ў Расіі, была кінута. Далей ініцыятары нацыянальна-аб'яднаўчай ідэі чакалі водгуку на свой кліч, спадзяваліся на зваротную сувязь. У снежні 1882 года ў падпольным друку з'явілася публікацыя "Пісьмы пра Беларусь" з кароткай прадмовай "Ад выдаўцоў". У ёй абяцанне надрукаваць рад пісьмаў, у якіх "па магчымасці будуць тлумачыцца пытанні, што адносяцца да вывучэння Беларусі". Паралельна выказвалася спадзяванне на тое, што "людзі, якія спачуваюць прабуджэнню беларускай інтэлігенцыі, падтрымаюць пачатую справу, будуць прысылаць звесткі аб ходзе сучаснага жыцця ў краі"[73].

"Першае пісьмо", падпісанае псеўданімам Даніла Баравік, пачыналася з канстатацыі таго факта, што ў Заходняй Еўропе на гэты час галоўным рухавіком грамадскага развіцця сталіся дэмакратычныя прынцыпы і ідэі. Пры гэтым зазначалася, што яны (дэмакратычныя прынцыпы і ідэі) народамі рэалізуюцца ў адпаведнасці з іх гісторыяй і бытавымі ўмовамі[74]. Праваднік жа дэмакратычных ідэй у народ – інтэлігенцыя – не здолее справіцца са сваёй галоўнай роллю, калі не будзе ведаць народа. Агульная ўстаноўка народніцкага руху аўтарам "Першага пісьма", такім чынам, удакладнялася, канкрэтызавалася. Даніла Баравік меў на ўвазе не народ наогул, а зусім канкрэтны – беларускі народ. Казаў пра тое, што "наша інтэлігенцыя выдатна ведае старажытных грэкаў і рымлян, іх вераванні, звычаі, мовы, паэзію, іх характар і грамадскія асаблівасці..." і тут жа пытаўся: "А ці многія ведаюць звычаі, паэзію, асаблівасці быту, характар, светапогляд і інш. роднага народа?"[75] І далей робіць агляд таго, што апошнім часам зроблена ў плане пазнання-вывучэння народаў Расіі.

Акцэнтуе ўвагу на перыядычных выданнях, працах этнолагаў і фалькларыстаў, творчасці арыентаваных на народ рускіх пісьменнікаў. Уважліва аглядае поступ у нацыянальнай літаратуры і народазнаўстве ўкраінцаў (Максімовіч, Кастамараў, Куліш, Чубінскі, Драгаманаў, Шаўчэнка, Основяненка, Катлярэўскі, М. Ваўчок і інш.). Звяртае ўвагу на імкненне да вывучэння свайго простага народа часткай польскай інтэлігенцыі. Адзначае грамадскае ажыўленне ў Прыбалтыцы[76].

Затым публіцыст накідвае штрыхамі, пазначае гістарычны шлях беларускага народа. Робіць выснову, што, нягледзячы на перыпетыі гістарычнага лёсу, у тым ліку страту вышэйшых станаў, беларускі народ "застаўся ўсё тым жа... толькі

сышоў у сябе і застаўся пры ўсім сваім, што ў яго было выпрацавана мінулым жыццём". Даніла Баравік ці ні першым спрабуе даць ментальную характарыстыку беларуса: "...Ён добры, мяккі і пры гэтым даражыць сваёй гаворкай (мовай) і сваімі звычаямі, якія захаваліся ад продкаў. ...Валоданне агульным запасам паданняў ды ўспамінаў, што і складае душу беларусаў як асобнай народнасці, звязанай адзінствам мясцовага жыцця, якое мае свае асаблівасці"[77]. Беларускі народнік вельмі крытычна і разам з гэтым цалкам аб'ектыўна глядзіць на палітыку царызма ў Беларусі 60-80-х гадоў.

Ён піша, што бесперапыннае ваеннае становішча ў краі цягам дваццаці гадоў "зусім прыдушыла якую кольвечы разумовую працу". Выкліканае з Расіі чынавенства і духавенства для абрусення краю "здолелі стварыць асаднае становішча думкі і слова". Гвалтоўнае насаджэнне рускай культуры не мае поспеху, бо "як бы энергічна не насаджалася ў народзе, яна не можа ні пад якім выглядам прышчапіцца, калі яна не адпавядае духу народа, не выцякае з арганічнай патрэбы народнага жыцця"[78].

Народнік-публіцыст выкладае свой погляд на становішча, развіццё краю. "Неабходна ўважліва даследаваць: на чым трымаецца ўсё цяперашняе мясцовае жыццё ў Беларусі, а не прыводзіць усё к гвалтоўнай аднастайнасці – трэба вывучаць край і яго асноўныя рысы і імі кіравацца пры грамадскай дзейнасці"[79]. Вырашаць жа гэту задачу, на думку аўтара, павінна мясцовая інтэлігенцыя, свае адукаваныя людзі. Ён арыентуе інтэлігенцыю на тое, каб яна "з найвялікшай асцярожнасцю адносілася да ўсіх народных пачаткаў, якія складаюць адзіны законны крытэрый гістарычнага развіцця"[80].

Скурпулёзна агледзеўшы выданні па беларускім фальклоры, этнаграфіі і археалогіі, згадаўшы гісторыкаў краю І. Лелевеля, Т. Нарбута ды прадстаўнікоў новай беларускай літаратуры В. Дуніна-Марцінкевіча і А. Вярыгу-Дарэўскага, з чаго можна меркаваць аб вытоку нацыянальнага самаўсведамлення аўтара, ён агучвае асноўнае палажэнне свайго выступу: "Для нашай радзімы патрэбна шырокае і самастойнае абласное жыццё, якое толькі можа падняць наш народ, патрэбны таксама і свядомыя прадстаўнікі жыцця народа, якія б дапамаглі яму развіцца адпаведна з яго роднымі пачаткамі"[81]. Гэта ўжо выклад задачы, праграмы да дзеяння. Канкрэтна ж беларускі народнік, які выступаў пад псеўданімам Даніла Баравік, у канцы свайго выступу прама заклікаў ад імя ўжо ўтворанага аб'яднання: "...Мы і заклікаем усіх лепшых людзей Беларусі згуртавацца, прасякнуцца інтарэсамі свайго народа, вывучыць яго як мага лепей, каб прыступіць затым да дружнай працы дзеля дабра радзімы, якая так доўга пакутавала, але якую, можа быць, чакае вялікая будучыня"[82].

Такім чынам, аўтар "Першага пісьма пра Беларусь", усведамляючы самакаштоўнасць свайго народа як этнічна цалкам самастойнага суб'екта гісторыі, адчувае яго харызму і, галоўнае, – патрэбу працаваць дзеля падняцця яго эканамічнага і маральнага быту, "прабуджэння яго самасвядомасці".

У пэўнай меры перад намі пастулаты, што дазваляюць казаць аб выхадзе на нацыянальную ідэю, хоць яшчэ і без праграмы яе практычнага ўвасаблення ў жыццё.

Праз год пасля "Першага пісьма пра Беларусь", у 1884-м годзе з'явілася ў друку, зноў жа пад характэрным псеўданімам "Шчыры беларус", "Пасланне да землякоў-беларусаў". Аўтар "Паслання..." вітае прадстаўнікоў новаўтворанай беларускай народніцкай групы з іх пачынаннем, не без інтэнцыі ідэалагічна апекаваць неафітаў, засцерагчы ад пралікаў. Не навічок у народавольніцкім руху ў Расіі, прадстаўнік яго рэвалюцыйнай плыні, што выразна відаць з тэксту "Паслання...", Шчыры беларус шчыра зацікаўлены, нават, можна сказаць, занепакоены, каб каб новаўтвораная група абрала правільны шлях у агульнай вызваленчай барацьбе супраць царскага самаўладства[83].

Не знайшоўшы ў "Першым пісьме пра Беларусь" "той дэвіз і той сцяг, вакол

якіх мае намер стаць новая група” (так фігуральна выказаўся аўтар “Паслання да землякоў-беларусаў”), ён стараецца зарыентаваць іх у бягучым палітычным моманце ў Заходняй Еўропе і Расіі, штось падказаць у плане мэты і праграмы вызваленчага аб’яднання ў гэты гістарычны момант.

Шчыры беларус аб’ектыўна адзначае, што антыманархічны перыяд вызваленчага руху ў Заходняй Еўропе завершаны, набыў сацыяльна-эканамічную скіраванасць. У Расіі ж застаецца па-ранейшаму актуальнай задача знішчэння царскага дэспатызму, як адзіная ўмова здабыць грамадзянскія свабоды, без чаго немагчыма прагрэсіўнае развіццё грамадства, нерэальна пазітыўная паспяховая дзейнасць дзеля дабра народа.

Што датычыць пазнання, вывучэння свайго народа ў яго культурнай, гістарычнай існасці, якое як праграму пазначыў аўтар “Першага пісьма пра Беларусь”, то, на думку Шчырага беларуса, можа быць яно толькі першым крокам барацьбітоў на шляху да народнага вызвалення[84].

Даслоўна публіцыст-народаволец (менавіта так у канцы свайго тэксту ён прэзентуе сябе) пісаў: “...Вывучэнне радзімы складае падрыхтоўчую працу, побач з якой павінна ісці больш шырокая дзейнасць у імя высокіх ідэалаў”. Вывучэнне ж свайго народа і папулярызацыя ведаў пра яго Шчырым беларусам прызнавалася адно толькі “як сродак да ўздыму народнай свядомасці і першы штуршок да абуджэння мясцовага жыцця”[85].

У тэзісе аб вывучэнні народных мас ён акцэнтуе ўвагу на тым, што трэба спыняцца “асабліва на фактах актыўнага жыцця народа, добра вывучаць сучаснае эканамічнае становішча яго, а таксама яго палітычнае мінулае, якое паклала на яго свой адбітак, прыглядзецца да пазнейшага размеркавання насельніцтва па класах ...нарэшце, неабходна вывучаць народныя хваляванні і бунты, ...як барацьбу за свае ідэалы, – адным словам, добра вывучаць ролю народа ў мінулым і сучасным жыцці радзімы”[86].

У заключэнні свайго разгорнутага трактата Шчыры беларус заклікаў новую беларускую групу быць салідарнай з партыяй “Народнай волі”, разам ісці супраць агульнага ворага – царскага абсалютызму. Выказаў спадзяванне, што да гэтай мэты павінны будуць прыйсці і іншыя групы (польская, літоўская і інш.)[87]. У гэтым, уласна, як ён сам прызнаваўся, і палягала задача публіцыста з народавольцаў у яго звароце да землякоў.

Беларуская нацыянальная ідэя як такая, на якую выходзіла беларуская моладзевая грамадка ў Пецярбургу, засталася па-за ўвагай Шчырага беларуса, хоць у “Першым пісьме пра Беларусь” Даніла Баравік досыць выразна акрэсліў яе асноўныя пастулаты, калі гаварыў пра патрэбу для Беларусі “шырокага і самастойнага абласнога жыцця” і “свядомых прадстаўнікоў народа, што дапамаглі б яму развіцца ў адпаведнасці з яго роднымі пачаткамі”[88].

Беларуская нацыянальная ідэя як такая, да якой якраз ішла група беларускай народніцкай моладзі, не стала аб’ектам развагі, абмеркавання ў публіцыстыцы Шчырага беларуса. Магчыма, была для яго рэччу ў сабе, праблемай старонняй.

Тым часам на прадвесні 1884 года ў Пецярбургу выйшаў часопіс “Гомон”, менаваны як “Беларускі сацыяльна-рэвалюцыйны агляд”. Выдаўцы яго заявілі, што ён будзе выразнікам ідэй, якія ў цяперашні момант “цыркулююць сярод сацыяльна-рэвалюцыйнай групы, што “атаясамлівае свае інтарэсы з інтарэсамі беларускай народнасці”.

У кароткім звароце ад рэдакцыі пры акрэсленні ідэй, якімі кіруюцца ў сваім друкаваным органе прадстаўнікі сацыяльна-рэвалюцыйнай групы, адразу называецца мэта і ідэя новапаўсталай арганізацыі: “...прынцып абласной самастойнасці, як аснова для будучага федэральна-палітычнага ладу, які павінен заняць месца сучаснага абсалютызму”[89]. Аўтары “Гомона” ясна ўсведамлялі гістарычную спецыфіку

знаходжання беларускага народа ў складзе Рэчы Паспалітай Польшчы і Расіі, дзе на яго, паводле слоў гоманаўцаў, глядзелі, "як на матэрыял для ўсякіх эксперыментаў, а не як на жывую народнасць, здольную самастойна распараджацца сабой"[90]. Выдаўцы "Гомона" ўпэўнена сцвярджаюць, што беларуская народнасць, шырокія масы захавалі свае "адрозныя рысы і асаблівасці" і гэтыя рысы "могуць служыць зарукай будучага шырокага развіцця прыгнечанай народнасці, у якой ... павінна прабудзіцца народная самасвядомасць"[91]. А ўжо прабуджаная народнасць, гоманаўцы пры гэтым спасылаюцца на прыклад абуджэння славянскіх народнасцяў у Аўстрыі, не дасць сябе ў крыўду і не дазволіць безпакарана душыць сябе мацнейшым"[92].

У канцы звароту ад рэдакцыі "Гомона" выказвалася надзея, што друкаваны орган новай беларускай групы высветліць усе мэты і задачы яе і "будзе мець кіраўнічае значэнне ў сучасным беларускім руху"[93].

У публікацыі, прысвечанай мясцовым рэвалюцыйным групам, іх значэнню пасля палітычнага перавароту, не адмаўляючы надзённай патрэбы ў згуртаванні і салідарнасці ўсяго пратэстнага існага царскаму самаўладдзю ў Расіі, гоманаўцы лічылі "настойліва неабходным існаванне самастойных абласных рэвалюцыйных арганізацый і мясцовай рэвалюцыйнай прэсы". "Больш за тое, – настойвалі яны, – мы бачым у абасабленні і правільнай арганізацыі мясцовых рэвалюцыйных груп заруку і неабходную ўмову трываласці і паўнаты поспеху рэвалюцыі ў Расіі ў інтарэсах сацыяльнай партыі"[94].

У стратэгічнай неабходнасці, наяўнасці асобных сацыяльна-рэвалюцыйных груп бачылася ім і гарантыя асабовай свабоды, і свабоды працы, і свабоды народнасці, якую дзяржаўны цэнтралізм імперыі, з яго імкненнем усё ўніфікаваць, прывесці да аднастайнасці, стандарту, руйнаваў непазбежна і канчаткова.

Як бачым, і ў гэтай пазіцыі не абыходзілася без актуальнасці для народнікаўгоманаўцаў праблемы – народнасці, натуральна, сваёй, беларускай.

Не дазволіць пасля палітычнага перавароту розным "прыяцелям" народа захапіць уладу, а зрабіць вынікі падзення дэспатыі набыткам народных мас, паводле перакакання гоманаўцаў, "лепш за ўсё змогуць правільна арганізаваныя па ўсёй дзяржаве абласныя групы"[95].

Разгорнуты артыкул першага нумара "Гомона", непадпісаны хоць бы псеўданімам, успрымаецца як калектыўная думка выдаўцоў часопіса. Структурна ён распадаецца на невялікія падраздзелы, аб'яднанныя разважаннямі пра тактыку і стратэгію вызваленчага руху ў Расіі. У адным з такіх падраздзелаў гоманаўцамі ўзнята актуальнае для іх нацыянальнае пытанне. Уласна звяртаецца ўвага чытача на апошнюю пракламацыю пад назваю "Да беларускай інтэлігенцыі", выдадзеную ўжо сфарміраванай беларускай фракцыяй народнікаў. Прыводзіцца, проста цытуецца яе змест, зразумела, з надзеяй праз часопіс данесці да грамадскасці свой погляд на беларускае пытанне.

Гоманаўцы вылучаюць, адзначаюць тры тэндэнцыі грамадскага палітычнага развіцця ў сучаснай ім Еўропе. Перадусім – гэта вызваленне чалавечай асобы ад дэспатызму і вызваленне працы. Трэцяя тэндэнцыя грамадскага развіцця Еўропы бачыцца імі ў вызваленні прыгнечаных дзяржаўным цэнтралізмам народнасцяў, або як выслаўляўся гоманаўскі публіцыст, г. зв. "плебейскіх нацыянальнасцяў". У тэксце падкрэсліваецца характэрная для гоманаўцаў думка аб тым, што "нацыянальная свядомасць прабудзілася ва ўсіх г. зв. плебейскіх нацыянальнасцях Еўропы"[96]. Тэзісна канстатуецца захаванне беларускім народам сваіх этнічных духоўных асноў у чаканні ўласнай інтэлігенцыі, якая "не будзе ламаць гэтыя асновы, а развіваць і ўдасканальваць іх".

Аптымістычна і крыху пафасна гучыць тэзіс аб заданні беларускай інтэлігенцыі: "Вялікая і святая задача беларускай інтэлігенцыі – разварушыць магутныя сілы свайго народа, накіраваць спыненае прагрэсіўнае развіццё яго (маецца на

ўвазе занепад пад уздзеяннем знешніх фактараў, – *А.Л.*), даць яму магчымасць праявіць свой нацыянальны геній, глыбока схаваны ад драпежных намераў палякаў і вялікарускага двухгаловага арла"[97].

Адметна, гоманаўцам бачыўся сучасны ім гістарычны момант спрыяльным для самасцвярджэння беларускай народнасці, як адметнай, самастойнай нацыянальнай супольнасці ў Расійскай імперыі. Зарукай таму яны называюць наяўнасць саюзнікаў у асобе іншых прыгнечаных, падаўляных царызмам нацый і "ў асобе паноўнай у дзяржаве вялікарускай нацыі, у адносінах якой манархізм з'яўляецца прыгнятальнікам асобы і працы"[98].

У заключным тэзісе, як тое і належыць тэксту такога прызначэння, выказваецца перакананне ў хуткім непазбежным падзенні царызму і рэальнай перспектыве для нармальнага развіцця беларускага народа, як кожнай нацыі. Інтэлігенцыі беларускай наказваецца скіраваць дзейнасць на тое, "каб скрытыя ў беларускім народзе імкненні да вызвалення знайшлі сабе правільны выхад, а адхіленне, абмежаванне манархізму было скіравана на расшырэнне самастойнасці беларускага народа і стварэнне яму магчымасці свабоднага развіцця яго духоўных і матэрыяльных сіл"[99].

У інфармацыйнай частцы "Гомона" №1 змешчана невялікая аналітычная заметка ў сувязі з заявай рускіх канстытуцыяналістаў, аб'ява аб заснаванні ў Жэневе "Бібліятэкі сучаснага сацыялізму" пад рэдакцыяй Аксельрода і Пляханава. Карэспандэнцыі з Вільні, Пецярбурга, Віцебска, Кіева, Харкава сведчылі аб наяўнасці сувязі гоманаўцаў з мясцовымі падпольнымі групамі. У асобных з гэтых допісаў утрымлівалася інфармацыя аб самачыннасці мясцовай адміністрацыі ў дачыненні да прадстаўнікоў культурнай працы, вобшуках, арыштах канкрэтных асоб, падазраваных у рэвалюцыйнай дзейнасці.

А 15 лістапада 1884 года з высвятленнем прычын амаль гадавой затрымкі выйшаў другі нумар часопіса "Гомон". У ім выдаўцы, як і абяцалі ў першым выпуску свайго выдання, засяродзіліся на беларускім пытанні.

Але перад тым, як асвятляць важнае ў тэарэтычным і практычным аспектах для сябе пытанне, гоманаўцы прадоўжылі раней пачаты распавед пра тактыку і стратэгію сваёй арганізацыі.

Найбліжэйшай задачай ставілі неабходнасць уключыцца ў агульнарасійскі вызваленчы рух і менавіта ў складзе адзіна рэвалюцыйнай дзейснай, на іх погляд, партыі ў Расіі "Народная воля". Пры гэтым матывавалі такі крок тым, што, працуючы разам, у адной перспектыўнай сацыяльна-рэвалюцыйнай партыі, здолеюць унесці ў свядомасць яе членаў патрэбу федэралізацыі Расійскай імперыі. Даслоўна сцвярджалася: "Знаходзячыся ў арганізацыі адзіна актыўнай партыі, якая мае, несумненна, будучыню, мы ў той жа час унясём у свядомасць членаў гэтай партыі практычную магчымасць федэратыўнай самастойнасці Беларусі ў будучым і неабходнасць падрыхтоўкі гэтай самастойнасці Беларусі ў будучым і неабходнасць падрыхтоўкі гэтай самастойнасці ў цяперашні час"[100]. Дзеля адпрэчвання думкі магчымых праціўнікаў федэравання Расіі, скептыкаў у дачыненні перспектыў развіцця беларускай народнасці, нацыі спасылаліся на палітычныя аўтарытэты, нагадвалі, што "...Бакунін, Драгаманаў і многія іншыя, гаворачы аб распадзе Расійскай імперыі на натуральныя федэрацыі, побач з Польшчай і Украінай ставяць Беларусь"[101].

Далей у рэдакцыйным артыкуле часопіса паведамлялася аб тым, што "сярод самой беларускай інтэлігенцыі ўтварылася шмат гурткоў, а разам з тым столькі ж практычных рашэнняў беларускага пытання". У сувязі з гэтым гоманаўцы, вітаючы ўзрослую сярод беларусаў заклапочанасць лёсам радзімы, адначасна папярэджваюць, што маюць "мала агульнага" з новаўсталымі гурткамі. Просяць не меркаваць аб сваёй праграме на падставе талкавання яе асобамі, што не належаць да гоманаўскай арганізацыі. Пры гэтым катэгарычна заяўляецца: "Мы адказваем толькі за тое, што будзе з'яўляцца ў нашым органе, або ў асобым выданні ад групы "Гомона"[102].

Ідэйна ўзгадаваныя і арганізацыйна сфарміраваныя ў Пецярбургскім універсітэцкім асяродку, у сваёй дзейнасці гоманаўцы арыентаваліся пераважна на студэнцкую моладзь.

У паінфармаванні пра тое, што моладзевыя гурткі ўніверсітэцкіх цэнтраў абапіраюцца на праграму "Гомона", пэўна, бачылі слушнасць сваёй арыентацыі, пазіцыі. Яшчэ раз напомнілі асноўны пункт сваёй праграмнай дзейнасці – "прапаганда федэратыўнай самастойнасці Беларусі". Адначасна выказалі надзею і абяцанне ўступіць у цесную сувязь з большасцю новапаўсталых у краіне нелегальных гурткоў дзеля паўнейшага іх знаёмства са сваёй праграмай[103].

Другі нумар "Гомона" структурна паўтараў першы. Адразу пасля паважнага калектыўнага слова ад рэдакцыі ішоў вострааналітычны артыкул "Унутраны агляд", у якім аналізавалася палітыка царызму ў краі, з канкрэтнай характарыстыкай дзейнасці генерал-губернатараў і кіраўніцтва асветы ў іх персанальнай пераемнасці.

Паўтарылася і рубрыка "Карэспандэнцыі". Гэтым разам збольшага яны паходзілі з Беларусі: Мінску, з Дзісенскага, Слуцкага паветаў. Апошняя – з Пецярбурга. За імі без загалоўка і подпісу, з кароценькім уступам ад рэдакцыі ішло абяцанае "Нацыянальнае пытанне".

Артыкул прэзентаваўся як матэрыял, які нібыта даўно хадзіў у рукапісе сярод пецярбургскіх беларусаў. Магчыма, што якраз у такой форме прадстаўленне публікацыі чытачам была невялікая хітрасць рэдакцыі: маўляў, пытанне даўно наспелае і, пэўна, актуальнае не адно для нас, – паставімася да яго ўважлівей.

У прынцыпе нацыянальнае пытанне ў артыкуле разглядаецца шырока, з гістарычным і філасофскім падыходам да яго. Пададзена тэарэтычная трактоўка нацыянальнага пытання І.Г. Фіхтэ і крытыка яго, згаданы погляд Бакуніна, выказаны ім як аксіёма, асветлены дыялектычны падыход сацыялістаў.

Такі агляд ды аналіз практыкі адносін еўрапейскіх дзяржаў да меншасцяў унутры сваіх краін прывёў аўтара з часопіса "Гомон" да высноў, некалькіх істотных палажэнняў: "Гістарычны прагрэс палягае ў тым, – заключае ён, – што чалавецтва, уваходзячы ўсё ў большую і ўсё больш блізкую сувязь, у той час дыферэнцыруецца для свабоднага развіцця і праяўлення кожнай нацыі ў цэлым чалавецтве, усякай грамадскай самастойнай групы ў кожнай нацыі і ўсякай чалавечай асобы ў гэтай грамадскай групе"[104]. Другое паважнае аўтарскае заключэнне гучыць таксама як канстанта: "Кожная нацыя, як і кожная асоба, не толькі мае права, але і абавязана абараняць сваю самастойнасць ува ўсім, што не пярэчыць развіццю чалавецтва наогул і кожнай чужой нацыі ў прыватнасці"[105].

Гэтыя тэарэтычныя палажэнні, сэнсава існыя, важныя аўтару артыкула для пастаноўкі беларускага пытання. Апалагетыка беларускай ідэі гоманаўскім публіцыстам абгрунтоўваецца фактарамі этнічнай самастойнасці Беларусі: асобным прыродна-геаграфічным становішчам, пэўнай спецыфікай эканамічна-гаспадарчых адносін, наяўнасці ўласнага гістарычнага жыцця ў старажытнасці, "сканцэнтраванага вакол Полацка, Друцка, Менска, Слуцка і інш. гарадоў, якія мелі сваіх князёў і сваё веча, і сваё вольнае народапраўства"[106]. Важным фактарам на карысць самастойнасці беларускага этнасу названая беларуская мова, якая, паводле думкі аўтара, "з часам можа атрымаць такое самае права грамадзянскасці, як і мова ўкраінская"[107]. Аўтар доказна аспрэчвае прыдумкі аб фатальнай забітасці і інертнасці беларусаў, спасылаючыся на адстойванні імі ў мінулым сваёй веры і сацыяльнай актыўнасці сялянства Віцебскай і інш. губерняў у масавым руху за вызваленне ад прыгону ў часы царавання Аляксандра І і пазней[108].

Пераканаўча выглядае тлумачэнне публіцыстам характару, этнапсіхалогіі беларуса, якія ім звязваюцца пераважна з сацыяльна-гістарычнымі ўмовамі жыцця народа[109].

Значная ўвага ўдзелена праблеме будучай беларускай інтэлігенцыі. Аўтар

артыкула не чакае з'яўлення яе з вышэйшых сфер, з "панства" і бюракратыі. Спадзяецца на тую, што выйдзе з пластоў, якія бліжэй да народа, найбольш чуйныя да інтарэсаў, патрэб яго. А гэта, на думку публіцыста-гоманаўца, – выхадцы з навучальнай моладзі, "якая пакуль што адзіная можа стаць прадстаўніцай "радзімы", ёй давядзецца закласці фундамент сапраўды народнай, глебавай інтэлігенцыі[110].

Іншымі словамі, той інтэлігенцыі, што згуртуецца вакол беларускай ідэі, з яе патэнцыйным выхадам на барацьбу за федэратыўную самастойнасць Беларусі.

Пасля даволі працяглай развагі пра інтэлігенцыю, яе ролю ў прагрэсе чалавецтва і асобнай краіны ў прыватнасці, стану інтэлігенцыі ў Расіі, неабходнасці пры станаўленні асобы спалучаць тэорыю і практыку, робіцца выснова пра тое, што інтэлігент, прыступаючы да практычнай грамадскай дзейнасці, мусіць мець пэўныя грамадскія сімпатыі. Напрыканцы ж, падагульняючы ўсё вышэй сказанае, аўтар артыкула запэўнівае чытача ў тым, што пры пастаноўцы беларускага пытання, беларусаў нельга западозрыць у сепаратызме ды пераходзіць да фармуліроўкі праграмы гоманаўцаў, іх аддаленай мэты і бліжэйшай практычнай дзейнасці.

Фармулюе яе так: "...Мы беларусы, таму мы павінны змагацца ў імя мясцовых інтарэсаў беларускага народа і федэратыўнай аўтаноміі краіны; мы, рэвалюцыянеры, таму, што, падзяляючы праграму барацьбы "Народнай волі", лічым неабходным удзельнічаць у гэтай барацьбе; мы, сацыялісты, таму, што нашай галоўнай мэтай эканамічнае паляпшэнне краіны на пачатках навуковага сацыялізму"[111].

Унікальна і невыпадкова ў часопісе ў самым канцы маецца невялікая зацемка ад рэдакцыі. У ёй паведамляецца, што "вядомы" прафесар Дух[оўнай] Акад[эміі] п. Каяловіч у парыве "беларускага патрыятызму" спрабуе ўзяць на сябе даволі далікатную ролю сышчыка; моцна цікавіцца месцам выдання "Гомона" і складам яго рэдакцыі"[112]. Тым, хто мае з ім асабістыя кантакты, раіцца быць асцярожным. Відаць, такі праўда, – у маладых падпальшчыкаў-гоманаўцаў аўтар тэорыі-ідэалагемы "западноруссизма" ўбачыў жыццёвае абвяржэнне яе, сваю кар'ерную паразу. А так дарэчы яна была прыдалася царскаму афіцыёзу з яго намерам перашкодзіць беларусам і ўкраінцам стацца дзяржаўнымі народамі.

* * *

На другім нумары "Гомона" публіцыстычная дзейнасць беларускіх народнікаў была перапынена. Царскай ахранцы ўдалося натрапіць на след гоманаўцаў, разграміць падпольнае іх выдавецтва і спыніць працу па палітычным і нацыянальным усведамленні беларусаў.

Публічная ж спроба гоманаўцаў сцвердзіць права беларускага народа як самастойнага, самадастатковага этнасу на развіццё закладзеных у ім адпачаткава гістарычна духоўных, культурна-моўных складнікаў-патэнцый, стацца раўнапраўнай з іншымі нацыямі, была натуральнай, апраўданай з пункту гледжання агульначалавечага прагрэсу.

Грамадска-палітычная і публіцыстычная дзейнасць народнікаў-гоманаўцаў з'явілася пэўным этапам у барацьбе беларускага народа за сацыяльнае і палітычнае вызваленне, склала адметную старонку ў гісторыі грамадскай думкі Беларусі.

Народавольцы-гоманаўцы ад імя свайго народа паставілі на парадак дня пытанне аб неабходнасці федэралізацыі Расійскай імперыі паводле этнічных рэгіёнаў, як тое ўжо адбылося ў Аўстра-Венгерскай імперыі. На падставе культурна-моўнага, эканамічнага і гістарычнага фактараў абгрунтавалі права беларусаў на самастойную аўтаномную дзяржаўную адзінку ў царскай Расіі. І ў гэтым іх вялікая гістарычная заслуга.

Беларускія народнікі 80-х гадоў XIX ст. асэнсавалі, усвядомілі беларускую ідэю як нацыятворную і прадставілі яе маладому пакаленню Беларусі як праграму да дзеяння, да практычнага ажыццяўлення.

Да асэнсавання і практычнага сфарміравання нацыянальнай ідэі беларускімі народнікамі-гоманаўцамі дзейсна спрычынілася беларусазнаўства (навуковае народазнаўства XIX ст., а таксама ўплыў фарміравання ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе нацый чэхаў, славакаў, украінцаў. Адметна, праз чвэрць веку, на пачатку XX ст., у практычнай рэалізацыі пастулатаў нацыянальнай ідэі: стварэнні першай палітычнай беларускай партыі "Беларуская сацыялістычная грамада", заснаванні выдавецкай беларускай суполкі ў Пецярбургу "Загляне сонца і ў наша ваконца", стварэнні нацыянальнай перыёдыкі беларускія адраджэнцы скарысталі дзе-штось і з досведу ды творчай спадчыны гоманаўцаў. Тыя ж яшчэ ў 80-я гады XIX ст. у адозве "Да беларускай моладзі", заклікаючы яе аб'яднацца ў асобную беларускую арганізацыю народнікаў, стасавалі да яе назву "Беларуская грамада"[113].

Гоманаўскі публіцыст Даніла Баравік у апублікаваным у брашуры "Пісьмы пра Беларусь" артыкуле "Пісьмо першае", эпіграфам узяў аптымістычную народную прыказку "Загляне сонца і ў наша ваконца"[114].

"Пасланню да землякоў-беларусаў" публіцыста Шчырага беларуса папярэднічаў вершаваны эпіграф, узяты са "Словника белорусского наречия" І.І. Насовіча. Тэкст народнага верша меў сацыяльна-грамадскі сэнс: "Аднэй маткі ўсе мы дзеткі; у рабы пайшлі нашы прэдкі... З тых пор, братцы, скажу смела, усё ліха на нас уссела..."[115]. Папраўдзе, здаецца, перад намі тэкст, што ў ідэйным і мастацкім плане падымаўся да ўзроўню новай беларускай літаратуры або з яе арганічна сыходзіў у народную творчасць.

Такім чынам, можна з пэўнасцю сцвярджаюць, што беларускія народнікі-гоманаўцы апошняй чвэрці XIX ст. перад беларускім народам адгарнулі важную старонку для будучага лёсу яго, пазначылі беларускую ідэю, нацыятворнае значэнне яе на перспектыву.

Можна сказаць, заклалі краевугольны камень пад адбудову беларускай дзяржаўнасці, спачатку ў постаці БНР і БССР, а пазней Рэспублікі Беларусь.

---

[1] Dziennik Wileński. Wilno, 1826. T. 1. S. 404.

[2] Цыт. паводле кн. Бобровский П. К. К биографии М. К. Бобровского. Спб., 1890. С. 78.

[3] Карский Е. Ф. Белорусы. Петроград, 1922. Т. 3. Вып. 3. С. 78.

[4] Скарына Францыск Творы. Мінск, 1990. С. 37.

[5] Янчук Н. А. Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры: старадаўны перыяд. Мінск, 1922. С. 33.

[6] Статут Вялікага княства Літоўскага. Мінск, 1989. С. 48.

[7] Swirko S. Litwa i Białoruś // Dzieje folklorystyki polskiej 1800-1863. Wrocław – Warszawa – Kraków, 1970. S. 210. Швед В. Беларускія старонкі гісторыі дзекабрыстаў. Мінск, 1998.

[8] Dziennik Wileński. Wilno, 1817. T. 6. S. 396–408.

[9] Szyrma Lach. Dumki ze spiewów ludu wiejskego czerwonej Rusi // Dziennik Wilieński, 1818. T. 1. S. 488–489.

[10] Obrzedy wiesełne ludu wiejskego w gubernii Mińskej w powiece Borysowskim, w parafii Hajeńskiej... // Tygodnik Wileński. 1819. T. 7.

[11] Dolega Chodokowski Z. O sławiańszczyznie przed chrescianstwem // Cwiczenia Naukowe. 1818. T. 2, №5.

[12] Swirko S. Litwa i Bałoruś // Dzieje folklorystyki polskiej. S. 209.

[13] Тамсама. С. 210.

[14] Swirko S. Litwa i Bałorus' // Dzieje folklorystyki polskiej. S. 214.

[15] Czeczot, J. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy, w mowie sławiano-krewickiej, s postrzeżeniami nad nią uczynionemi / J. Czeczot. – Wilno : Druk. J. Zawadzkiego, 1846. – S. XXXIII.

[16] Тамсама S. VII–XVII.

[17] Бобровский П. К. К биографии М. К. Бобровского. Спб, 1890. С. 45.

[18] Карский Е. Ф. Белорусы. Петроград, 1922. Т. 3. Вып. 3. С. 78.

[19] Ігнатоўскі Ус. Гісторыя Беларусі ў пачатку XIX і пачатку XX сталецця. Выданне трэцяе. Менск, 1928. С. 30–37.

[20] Чамярыцкі В. Даніловіч Ігнат Мікалаевіч. Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1996. Т. 3. С. 205–206.

[21] Jaroszewicz J. Wiadomosci o Kupalnicach // Ondyna Druskienickich źródel. 1846. Z. 1. S. 7–20.

[22] Ярошевич И. Статистико-этнографические сведения о Бельском уезде Гродненской губернии // Гродненские губернские ведомости. 1848, №№20–22.

[23] Бобровский П. Русская греко-униатская церковь в царствование Александра I. Спб, 1890. С. 10.

[24] Кісялёў Генадзь. Смак беларушчыны. Мінск, 2013. С. 220.

[25] Rypiński A. Białoruś. Kiłka slów o poezii prostego ludu tej naszej polskiej prowncii; o jego muzycy, spiewie, tancah, etc. Paryz, 1840.

[26] Rypiński A. Białoruś... S. 1.

Адметна, што вярнуўшыся з эміграцыі А. Рыпінскі перагледаў свае адносіны да Польшчы ў кантэксце лёсу Беларусі. У лісце да пісьменніка Адама Плуга ў 1883 годзе ён пісаў: "Можа, дарэмна мы горнемся да гэтай няшчаснай Польшчы як народжаныя на Русі...". Гл. кн. "Пачынальнікі. З гісторыі літаратурных матэрыялаў XIX ст. Уклад. Г. В. Кісялёў, 2-е выданне. Мінск, 2003. С. 176.

[27] Падрабязней пра "западно-руссизм" гл. кн. А. Цвікевіча "Западно-руссизм": нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. Менск. 1929. Перавыдадзена ў 1993 годзе.

[28] Тамсама.

[29] Tyszkiewicz Eustafi. Opisanie powietu Borysowskiego. Wilno. 1847.

[30] Rubon. Wilno. 1845. T. 5. S. 61–70.

[31] Каханоўскі Г. А., Малаш Л. А., Цвірка К. А. Беларуская фальклярыстыка: эпоха феадалізму. Мінск, 1989. С. 146.

[32] Tygodnik Petersburski, 1844, №79.

[33] Тамсама, №79.

[34] Tygodnik Petersburski, №81.

[35] Тамсама, №82.

[36] Podbereski R. Szkic Polnocnej Białoruśi. Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś. Petersburg, 1844. S. 1–13.

[37] Podbereski R. Szkic Polnocnej Bialoruśi. Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś. Petersburg, 1844. S. III.

[38] Тамсама. S. V.

[39] Тамсама. S. XI–XII.

[40] Тамсама. S. XIX–XXII, XXV–XLI.

[41] Тамсама. S. XIX–XXII.

[42] Кісялёў Г.В. Пачынальнікі. Мінск, 2003. С. 72.

[43] Абецэдарскі Л. С.

[44] Шпилевский П. Обряды поселян Витебской и Минской губерний при уборке хлеба с полей // Пантеон. Спб, 1853. Т. 9. КН. 6. С. 19–34. Его же. Волочебники в Витебской губернии // Русский дневник. Спб, 1859. №101; Его же. Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических поверьях // Пантеон. Спб, 1853. Т. 8. № 4. Т. 9, №5.

[45] Кісялёў Г. В. Пачынальнікі. С. 225.

[46] Тамсама. С. 267.

[47] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1994. Т. 2. С. 442.

[48] Кісялёў Г. В. Пачынальнікі. С. 235.

[49] Тамсама. С. 243.

[50] Кісялёў Г. В. Пачынальнікі. С. 262. Дудар у беларускай традыцыйнай музычнай культуры – знакавы суб'ект яе, аўтарытэтны рэпрэзентат. Невыпадкова А. Вярыга-Дарэўскі браў яго за псеўданім. Вядома, што некаторыя свае творы ён падпісваў мянушкай "Беларуская дуда".

[51] Гарэцкі Максім. Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня, 1920. С. 133.

[52] Кастусь Каліноўскі За нашую вольнасць. Творы і дакументы. Укладанне, прадмова, пасляслоўе, пераклады і каментарыі Генадзя Кісялёва. Мінск, 1999. С. 28.

[53] Тамсама. С. 37–38.

[54] Тамсама. С. 34.

[55] Тамсама. С. 35–36.

[56] Кастусь Каліноўскі За нашую вольнасць. Творы і дакументы. Укладанне, прадмова, пасляслоўе, пераклады і каментарыі Генадзя Кісялёва. Мінск, 1999. С. 165.

[57] Тамсама. С. 163.

[58] Тамсама. С. 163.

[59] Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт. Творы. Укладанне, прадмова і каментарыі Язэпа Янушкевіча. Мінск. 1984. С. 223–235.

[60] Тамсама. С. 231.

[61] Тамсама. С. 217.

[62] Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт. Творы. Укладанне, прадмова і каментарыі Язэпа Янушкевіча. Мінск. 1984. С. 284-299.
[63] Тамсама. С. 481.
[64] Дунін-Марцінкевіч Вінцэнт. Творы. Укладанне, прадмова і каментарыі Язэпа Янушкевіча. Мінск. 1984. С. 482.
[65] Носович И. И. Словарь белорусского наречия, составлен И. И. Носовичем. Спб, 1870.
[66] Белорусские песни, с подробными объяснениями их творчества и языка, с очерками народного обряда, обычая и всего быта. Москва, 1871.
[67] Белорусские песни, с подробными объяснениями их творчества и языка, с очерками народного обряда, обычая и всего быта. Москва, 1871. С. I–VII, ХУ.
[68] Шейн П.В. Белорусские народные песни, с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями, с приложением объяснительного словаря и грамматических примечаний. Спб, 1874.
[69] Біч М. Грынявіцкі Ігнат Яўхімавіч. ЭГ Беларусі. Т. 3. Мінск, 1996. С. 164.
[70] Публицистика белорусских народников. Нелегальные издания белорусских народников (1881–1884). Минск, 1983. С. 19.
[71] Тамсама. С. 21.
[72] Публицистика белорусских народников. Нелегальные издания белорусских народников (1881–1884). Составление и подготовка текстов С. Х. Александровича и И.С. Александрович. Минск, 1983. С. 21.
[73] Тамсама.
[74] Тамсама. С. 22.
[75] Тамсама. С. 23.
[76] Публицистика белорусских народников. Нелегальные издания белорусских народников (1881–1884). Минск, 1983. С. 23–25.
[77] Тамсама. С. 27.
[78] Тамсама. С. 29.
[79] Тамсама. С. 29.
[80] Тамсама. С. 31.
[81] Публицистика белорусских народников. С. 31.
[82] Тамсама. С. 32.
[83] Тамсама. С. 34.
[84] Публицистика белорусских народников. С. 39.
[85] Тамсама. С. 39.
[86] Тамсама. С. 54.
[87] Тамсама. С. 56.
[88] Тамсама. С. 60.
[89] Публицистика белорусских народников. С. 60.
[90] Тамсама. С. 60.
[91] Тамсама. С. 61.
[92] Тамсама. С. 61.
[93] Тамсама. С. 62.
[94] Тамсама. С. 63–64.
[95] Публицистика белорусских народников. С. 65.
[96] Тамсама. С. 70.
[97] Публицистика белорусских народников. С. 70.
[98] Тамсама. С. 70–71.
[99] Тамсама. С. 71.
[100] Публицистика белорусских народников. С. 83-84.
[101] Тамсама. С. 84–85.
[102] Тамсама. С. 88.
[103] Тамсама. С. 88.
[104] Публицистика белорусских народников. С. 109.
[105] Тамсама. С. 109.
[106] Тамсама. С. 112.
[107] Тамсама. С. 111.
[108] Публицистика белорусских народников. С. 113.
[109] Тамсама. С. 114.
[110] Тамсама. С. 117.
[111] Тамсама. С. 120.
[112] Тамсама. С. 122.
[113] Публицистика белорусских народников. С. 21.
[114] Тамсама. С. 22.
[115] Тамсама. С. 33.

Сяргей Шапран



...ўсё гэта – пыл над дарогай...

...і калі будуць лічыць па вялікім рахунку,

нам залічыцца дарога, а не пыл над ёй...

# Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія

***Старонкі новай кнігі***

*Працяг. Пачатак у №№6 (73), 1-4 (74-77).*

## Свой сярод чужых

27 студзеня 1999 г. Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў прыняла Заяву адносна падпісаных у Маскве 25 снежня 1998 г. дакументаў аб аб'яднанні Беларусі і Расіі:

«Разглядаем гэты акт як рэальную пагрозу дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Стварэнне адзінай расійска-беларускай дзяржавы будзе значыць на практыцы далучэнне Беларусі да Расіі.

Змяненне дзяржаўнага статуса Рэспублікі Беларусь з'яўляецца нічым іншым, як ігнараваннем яе нацыянальных інтарэсаў, і не можа лічыцца легітымным, бо супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Будучыню нашай Бацькаўшчыны мы бачым у незалежнай, дэмакратычнай, нейтральнай і бяз'ядзернай Беларусі. Толькі ў такой дзяржаве беларускі народ атрымае магчымасць годнага жыцця. Як сказаў яшчэ 80 гадоў таму Янка Купала: "Толькі

адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу"»[1].

Ужо 9 лютага падчас рэспубліканскай нарады з удзелам прэзідэнцкай вертыкалі Лукашэнка гаварыў: «Ну что это за отношение у некоторой даже интеллигенции, у этой "рады" пісьменнікаў? Слушайте, начался диалог, пришли к президенту, получили поддержку. Я никогда никого не покупал. Что попросили, о том решили. В "раде" 53 человека. А всего около 500 членов в Союзе писателей. Собрались 27 человек, если не ошибаюсь, втихую приняли резолюцию накануне Нового года. Побежали на этот "дэмакратычны" бандыцкі сход, зачитали резолюцию. Русофобскую, антироссийскую и так далее. Для чего?.. О каком суверенитете, о какой независимости мы здесь говорим? Надо же быть разумными людьми! Если к нам нормально относятся при всех издержках – они были и будут, там много людей разных, – так давайте и мы по-человечески будем с ними сотрудничать. А если "рада" пісьменнікаў хоча быць незалежнай – с завтрашнего дня, Владимир Петрович, сделайте ее незалежнай! Вот и всё! (*Аплодисменты.*)

Не тот президент – пусть выбирают себе другого. Плохо, конечно, что руководитель "рады" получает из рук президента Государственную премию, Владимир Петрович, Сергей Степанович[2], после того, как была принята эта заява. Мы ещё разберёмся с этим вопросом»[3].

Някляеў пісаў пасля: «Заявление было принято 27 января, опубликовано 29 января, а президент крайне раздражён 27-ю писателями (их было на самом деле 30, но поданное президенту число – это минимальный кворум, что важно), которые собрались и "в т и х у ю приняли резолюцию накануне Нового года". По какому же календарю, в котором Новый год опять наступает через месяц после Нового года, живём мы в Беларуси отдельно от всего мира, какое такое у нас летосчисление? В данном случае – всё то же заметалинское. В очередной своей информации президенту о том, какой я есть заклятый враг, он белорусский месяц с т у д з е н ь преобразует в русский д е к а б р ь! Плоховато знает язык Владимир Петрович? Но ведь он – куратор всех белорусских школ и институтов, в том числе Інстытута мовазнаўства. [...]

Дело тут, разумеется, не в языке, а в учёном-языковеде, который хронологически представил президенту ход событий так, будто бы я 27 декабря (именно я, потому что в понимании президента я начальник над писателями и должен отвечать за порядок в их рядах) подписал Заявление, спрятал его на месяц под сукно, получил за это время Государственную премию и только тогда, заграбастав всё, что мог, опубликовал Заявление и побежал с ним на "бандыцкі сход", то есть на проходящий тогда в Минске Конгресс демократических сил. От такого продуманного вероломства можно было взбелениться человеку и с менее импульсивным характером, чем у А. Лукашенко...»[4]

У выніку ад Някляева запатрабавалі рытуальнага адрачэння ад падпісанай ім заявы. Калі ён не згадзіўся, прапанавалі больш «мяккі» варыянт: інфармацыі з СП пра тое, быццам Рада збіралася без кворума і таму яе рашэнні не маюць юрыдычнай моцы. «Президент мог и ошибиться на одного человека», – «падказалі» Някляеву[5]. А калі і на гэтую прапанову ён даў адмоўны адказ, была арганізаваная іншая, сустрэчная заява беларускіх пісьменнікаў, якая не толькі асуджала Заяву рады Саюза СП, але і выказвала абурэнне кіраўніцтвам саюза:

«Рада, принимая такое ответственное заявление от имени всей писательской организации, даже не посчитала необходимым посоветоваться с теми, кто её избрал. И уж совсем возмущает позиция руководителей рады – Некляева, Гальперовича, Ипатовой. Теперь они в многочисленных интервью пытаются оправдаться, делают вид, будто ничего особенного не произошло. Но ведь разве

не видна беспринципная позиция авторов заявления, поставивших под сомнение волю белорусского народа, твёрдо высказанную на референдумах? [...]

Заявление рады ведёт к расколу писательской среды и объективно содействует тем, кто стремится любой ценой дестабилизировать обстановку в республике и ставит целью не допустить единения Беларуси и России.

Всё это даёт нам основания выразить категорическое несогласие с заявлением рады и отмежеваться от её политиканской сущности».

Пад заявай значыліся імёны І. Шамякіна, І. Навуменкі, А. Аўруціна, А. Бажко, Т. Бондар, В. Дашкевіча, А. Дзялендзіка, Г. Марчука, М. Мятліцкага, Г. Пашкова, А. Савіцкага, Э. Скобелева, А. Сульянава, М. Чаргінца, Г. Чарказяна і іншых – усяго 63 прозвішчы[6]. Праўда, «сразу после публикации “Заявы беларускіх пісьменнікаў” часть писателей отмежевалась от неё. Одни мотивировали это тем, что опубликован совсем не тот текст, который они подписывали, а другие, как оказалось, и сам текст, и свои фамилии под ним впервые увидели только в газетах:

«Я са здзіўленнем убачыў сваё прозвішча пад заявай беларускіх пісьменнікаў “Шляхам адзінства”, якую прачытаў 10 красавіка ў газеце “Беларуская ніва”. Я не падпісваў гэтую заяву і хачу, каб мне паказалі рукапіс тэксту, які я ніколі не бачыў, і мой подпіс, якога я ніколі не ставіў пад такім тэкстам (Б. Беляжэнка)»[7].

«Организаторам “заявы на заяву” крайне важно было изобразить массовость возмущения и осуждения, поэтому они не остановились перед ответственностью за такую мелочь, как подделка и фальсификация. Да и перед кем им отвечать – перед каким-то пісьменнікам Б. Беляжэнка? Перебьётся. А дело сделано»[8].

## Чужы сярод сваіх

Аднак палітычнага кампрамата было недастаткова – патрэбен быў кампрамат крымінальны. «Ну, а какое у нас обычно следует наказание? Открыто по политическим мотивам у нас ещё не сажают. Начинаются финансовые проверки, надо человека подвести под статью, дабы показать всем, что бунтует не человек, у которого есть свои взгляды, а уголовник»[9]. «Для этого надо было за что-то зацепиться – и на редакцию “Крыніцы”, которой отродясь не интересовались никакие проверяющие или карающие органы, вдруг в одночасье нагрянули все: и контрольно-ревизионный отдел Госкомпечати (две проверки одна за другой), и ОБЭП (отдел по борьбе с экономической преступностью, бывший ОБХСС), и Комитет государственного контроля, и контрольно-ревизионное управление Минфина, и записалась в очередь налоговая инспекция. Словно навёрстывая упущенное, все эти серьёзные организации по локоть закатали рукава и двинулись выявлять нарушения. Когда к их сотрудникам, проверяющим “Крыніцу”, добавились коллеги, проверяющие Союз белорусских писателей, нацеленность заказа стала совершенно очевидной»[10].

Увогуле, на думку Някляева, сітуацыя была справакавана ўсё тым жа Замяталіным: «Это была, собственно говоря, провокация, не исключаю, что с подключением КГБ. Всё было сделано грамотно: в “Крынице” была остановлена выплата зарплаты, я был отстранён от руководства журнала – именно Заметалин дал указание Госкомпечати, чтобы договор со мной как с редактором был расторгнут[11]. Однако, борясь за себя и за своё место, он перестарался. Я, кстати, предупреждал его: “Володя, смотри не укакайся от старания, поскольку можешь довести меня до решений, мягко говоря, неординарных”. И – довёл. Впрочем, не только он. Я был готов и дальше держать этот удар спереди, если бы меня не ударили сзади. Тогда я уже решил, что бессмысленно держать удар, поскольку было непонятно, кого я теперь защищаю. Ну, самого себя – это ясно, а ещё кого?»[12]

Што тычыцца ўдару ззаду, дык у дадзеным выпадку Някляеў меў на ўвазе дзеянні чальцоў рэдкалегіі «Крыніцы».

«– Небяспеку стварэння рэдакцыі, у якой кожны будзе лічыць сябе зоркай нумар раз, я разумеў ад пачатку. Як разумеў і тое, што толькі гэткімі, зорнымі сіламі можна здзейсніць задуманае. І энергія ў ідэю часопіса была закладзена такая, што зоркі пратрымаліся разам нават даўжэй, чым я разлічваў.

*– Шкада ўсё ж, што не так доўга, як у сузор'ях. Вы б маглі дагэтуль быць разам, і часопіс мог да гэтай пары...*

– Не мог! Нават зоркі ў сузор'ях, калі б яны ўмелі пісаць даносы, рассыпаліся б!.. А ў рэдакцыі былі як зоркі-паэты, так і зоркі-сексоты, зоркі-правакатары. Як адзін вядомы, так скажам, крытык, які займаўся і займаецца гэтым яшчэ з савецкіх часоў. Тады ў рэдакцыях, цяпер – у грамадскіх аб'яднаннях ды партыях. Яму б рукі не падаваць, а з ім усе абдымаюцца. [...] Як жа не падаць, калі хоць і сексот, і правакатар, але свой. Свядомы. І з такой мараллю, з такім нутром мы хочам стварыць нейкую новую Беларусь?..

Выбачай, мяне ад гэтага на вілы падымае. Увесь мой век: даносы, даносы, даносы... Яшчэ з маленства, калі на бацьку пісалі, і ён праз гэта на самым краі стаяў. І тым не менш даводзіў і даводзіў мне – і гэта была ці не ўся ягоная навука – адно і тое: "Мацуйся сябрамі! Табе не са мной жыццё жыць, а з імі".

Перад смерцю, праўда, ён сказаў, што беларусы хоць і называюцца сябрамі, але не ўмеюць сябраваць.

*– Пра даносы з "Крыніцы" розныя чуткі ходзяць... А што там хоць за даносы былі? І куды?..*

– Звычайныя. У Камітэт дзяржаўнага кантролю, у Камітэт дзяржаўнай бяспекі – ва ўсе карныя інстанцыі і ўстановы. Напрыклад, у АБЭЗ (аддзел барацьбы з эканамічнай злачыннасцю) напісалі, што я канапу ў рэдакцыі скраў. Абэзаўцы прыпёрліся: "Дзе канапа?!." Я пытаюся: "Хлопцы, а вы пару-тройку сапраўдных эканамічных злачынцаў злавіць не хацелі б? Вы на каго вучыліся?.."

Начынка для даносаў бралася з акта рэвізіі, праведзенай Камітэтам па друку і інфармацыі па загадзе (зразумела, не пісьмовым) тагачаснага віцэ-прэм'ера беларускага ўрада Уладзіміра Замяталіна. Акт рэвізіі – дакумент ведамасны, закрыты, але яго адкрылі. І адкрылі не мне, галоўнаму рэдактару, які стараннямі таго ж Замяталіна быў адхілены ад абавязкаў, а пакінулі акт (нібы выпадкова) у рэдакцыі, каб ім скарыстаўся той жа вядомы "крытык". Замяталін – някепскі сцэнарыст, і я не разумею, чаму ён ніяк да гэтай пары наша беларускае кіно падняць не можа[13].

*– А мэта?.. Навошта было вас звальняць? Нават знішчаць. У імя чаго з вамі змагаліся?..*

– Навошта? – яно навідавоку: жарсці чалавечыя... А ў імя чаго?.. Не так даўно я спытаўся ў аднаго з былых супрацоўнікаў, з ім па Польшчы ездзячы, менавіта пра гэта: у імя чаго?.. Ён не здолеў адказаць.

Кожны меў, ці меркаваў, што мае свае мэты. Частка рэдакцыі палічыла імі амбіцыі майго намесніка – аднаго з найлепшых беларускіх паэтаў... А як адзін з найлепшых можа трываць некага над сабой?.. Двух найлепшых не бывае – гэта я, паўтараю, ад пачатку разумеў. Але ж я прапанаваў яму, на нейкі час вярнуўшыся ў галоўныя рэдактары, выгнаць з рэдакцыі "крытыка" (якога яшчэ раней я звольніў, а намеснік мой зноў прывёў яго ў "Крыніцу") і рабіць нашу агульную справу далей. Пры ўсіх прапанаваў, а ён не згадзіўся, бо ўжо быў разам з "крытыкам" і ўсімі, хто "падпісаўся". Не рэальна ён падпісаўся, да такога апусціцца ён не мог, а падпісаўся, так скажам, метафарычна, метафізічна – як і вершы пісаў. Толькі для мяне ягоны метафізічны подпіс абярнуўся зусім не метафізікай... Захліснула мяне пад горла – і вось тут і вырашылася ўсё, што сталася далей... Выходзіла, што

людзі, якіх я лічыў сябрамі і нават больш, чым сябрамі, бо рэдакцыя для мяне была сям'ёй, усе разам, за выключэннем Дранько-Майсюка, які дэманстратыўна з такой "сям'і" сышоў, мяне прадалі. За трыццаць міфічных срэбранікаў, якія былі паабяцаныя ім за міфічную "Крыніцу" без Някляева.

Я трымаў удары з фронту, спераду, а мне ўдарылі ў спіну... Не зразумеўшы, не захацеўшы зразумець, што праблема не ў Някляеве, які засеў некаму косткай у горле і трэба яго ці праглынуць, ці выкашляць. Не ўцяміўшы, не захацеўшы ўцяміць, што вэрхал вакол "Крыніцы" – пачатак наступу на ўсе нацыянальныя выданні.

Срэбранікаў ім не далі, часопіс яны не ўтрымалі. Праз нейкі час "Крыніцы" не стала»[14].

Трохі раней Някляеў прыгадваў: «Проверяющие не предъявляли для своих действий никаких обоснований, одни предписания. Только представитель ОБЭПа, опечатавший один из кабинетов редакции и изъявший из него документы, обмолвился, что его ведомство так оперативно отреагировало на информацию в прессе. Оперативность невероятная: 13 мая выходит газета – 13 мая опечатывается кабинет...»[15]

Былы галоўны рэдактар меў на ўвазе інтэрв'ю літаратурнага крытыка Анатоля Сідарэвіча штотыднёвіку «Имя».

## "Крыніца"

*«На недавнем съезде "Таварыства беларускай мовы" председатель Госкомпечати Михаил Подгайный был буквально прижат к стене вопросом о том, почему не выходит в свет журнал "Крыніца". Ответ "финансирование журнала не прекращено" нисколько не проясняет ситуацию. Вот почему корреспондент "И" попыталась провести собственное расследование. Причина, о которой почему-то молчат на официальном уровне и в то же время на все лады обсуждают в среде творческой интеллигенции, нашлась.*

*Признаться, разобраться в хитросплетениях всего, что произошло за последние два с половиной года в редакции журнала "Крыніца", человеку постороннему не так-то просто. Поэтому я обратилась к председателю совета трудового коллектива Анатолю Сидоревичу.*

– В 1997 году была создана как одно юридическое лицо редакция газеты "ЛіМ" (приложение – журнал "Крыніца"). Главным редактором стал тогда председатель Союза писателей Владимир Некляев, един в двух лицах. Ему каким-то образом удалось сохранить печать и банковские счета прежнего "Родника" ("Крыніцы"), который издавался до 1996 года, и журнала "Крыніца", существовавшего как юридическое лицо в 1996–97 годах. Это позволяло главному редактору Некляеву заключать договоры с самим собой. Мало того, в журнале "Крыніца" имелся отдельный штат, состоящий из самого Владимира Прокоповича, главного и ведущего бухгалтеров. Официально он получал зарплату как председатель Союза и как редактор "ЛіМа". Но в ходе проверки, проведённой контрольно-ревизионным отделом Госкомпечати, выяснилось, что он (и два бухгалтера тоже) ещё получал зарплату как редактор "Крыніцы". С 1 января 1999 года Некляев официально перестал возглавлять "ЛіМ" (т.е. к "Крыніце" тоже не имел уже никакого отношения), но он и главный бухгалтер Горностаева умудрились получить зарплату и за этот месяц. Кроме того, вопреки юридическим документам, в выходных данных ни в "ЛіМе", ни в "Крыніце" не значилось, что журнал является приложением к еженедельнику.

О том, что у "Крыніцы" нет главного редактора, коллектив узнал спустя 2 месяца. Оставлять редакторский пост Владимир Некляев не хотел. И потому в

протокол январского заседания Рады Союза белорусских писателей внесли пункт: будто бы Рада Союза писателей просила заключить с ним контракт как с главным редактором журнала. Между тем производство самого журнала остановилось, поскольку не было лица, имеющего право первой подписи, не было устава, редакция не была зарегистрирована во всех предусмотренных законом инстанциях и не получала финансирования. Сотрудники два месяца жили без зарплаты.

*– И кто поставил их в известность обо всём происшедшем?*

– Заместитель председателя Госкомпечати по экономике Галина Владимировна Волчуга на собрании сотрудников редакции в марте. Она озвучила и такие факты нарушения существующих норм учёта материальных ценностей, что коллектив находился в состоянии, близком к шоку. Звучали какие-то астрономические суммы. Задолженность по гонорарам авторам газеты "ЛіМ" составила 95000 тыс. рублей. В то же время зарплату получали люди, которые в редакции не работают. Некто Косович считался то редактором отдела культурологии, то водителем 3-го класса, то спецкорреспондентом. Наличие многих приобретённых материальных ценностей подтвердить невозможно. Потому что их попросту нет. В январе, например, были перечислены деньги за телевизоры, которые никто в редакции не видел. В декабре 1997 года якобы проводился ремонт и было положено 100 метров коврового покрытия. Оно на самом деле есть, но положено было году в 1987.

10 марта на общем собрании было принято решение о ходатайстве перед Госкомпечати о назначении исполняющим обязанности главного редактора Алеся Рязанова. Его и назначали 12 марта, но задним числом, с первого февраля. Полномочия и. о. истекали 1 мая. Вот почему 14 апреля на общем собрании, где присутствовали 16 из 19 человек, состоялось тайное голосование. 1 бюллетень признан недействительным. 12 присутствующих проголосовали за выдвижение кандидатуры Алеся Рязанова на должность главного редактора. 3 – против. [Потым адбылося паседжанне Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, на якім разглядаліся ўжо дзве кандыдатуры на пасаду галоўнага рэдактара "Крыніца". – *С. Ш.*]

*– ...Кто выдвинул Владимира Некляева?*

– Он сам. И это стало неожиданным для многих присутствующих. Голосование было открытым. За «подтверждение полномочий В. Некляева как главного редактора журнала "Крыніца" голосовали 14 человек, включая его самого, против – 15 (два члена Рады не участвовали в голосовании) За назначение Алеся Рязанова на должность главного редактора голосовали 13 человек, против – 6, воздержались – 9 (4 члена Рады не участвовали в голосовании).

*– Таким образом, Некляев набрал на один голос больше и в "открытой борьбе" победил?*

– Нет, оба претендента на эту должность не набрали, как положено, большинства голосов от числа присутствующих на заседании Рады. Тем не менее за подписью Наума Гальперовича в Госкомпечати ушла бумага о том, что Союз писателей подтвердил полномочия Некляева. Совет трудового коллектива, в свою очередь, сообщил Подгайному, что выражает недоверие Некляеву как возможному главному редактору. Но уверенности в том, что к этому мнению прислушаются, нет. Ведь ни один толстый журнал в нашей стране не возглавляет человек, который в советские времена был беспартийным: Сергей Законников ("Полымя"), Алесь Жук ("Нёман") работали в секторе печати ЦК КПБ, был коммунистом Генрих Далидович ("Маладосць"), Алесь Письменков, возглавивший "ЛіМ", вступил в КПСС во времена перестройки. Владимир Некляев был комсомольским поэтом и лауреатом премии Ленинского комсомола. Все эти люди принадлежат к одной обойме, из которой выбивается Алесь Рязанов.

Некляев – хороший поэт. Спору нет. Рязанов – поэт великий. В истории белорусской литературы ему будут посвящены монографические разделы [...].

*– Но великие поэты редко бывают талантливыми организаторами и администраторами. Это практически всегда несовместимые ипостаси...*

– Однако оказалось, что “небожитель” Рязанов может руководить коллективом. При нём был разработан устав редакции, она обрела наконец статус юридического лица. Между прочим, люди получили полный заработок за январь-апрель этого года. Первые три номера журнала были отправлены в производство в Дом печати. И коллектив увидел своё будущее с новым редактором – выдающимся поэтом, который не замешан ни в каких финансовых нарушениях. Но Алесь Рязанов – слишком самостоятельная фигура. Он не принадлежит к клану. Чего не скажешь о Владимире Некляеве. Один высокопоставленный идеологический чиновник рассказал как-то мне, что когда перед назначением на должность он проходил через инстанции, у него спросили: “Как вы относитесь к творчеству Некляева?” Такой своеобразный индикатор. Одобрительный ответ сыграл свою роль в назначении этого чиновника на высокую должность»[16].

Праз месяц Някляеў адказаў адначасова і Сідарэвічу, і Валчузе, і Замяталіну: «Четыре с половиной месяца со мной упорно не желали заключать контракт и подписывать приказ о назначении главным редактором, объясняя это нарушением аж трёх Законов, а 14 мая сразу и пожелали, и заключили, и подписали, и на Законы наплевали. Не странно? И это совершилось на следующий день после появления компромата в газете, куда (в чём “Имя”, надеюсь, признается) его принесли без никаких редакционных расследований. А направился с ним в редакцию “председатель трудового коллектива” (о чём в «Имени», конечно, не знали) после аудиенции с заместителем председателя Госкомпечати, добродетельницей “Крыніцы” Г. В. Волчуга. Как раз Г. В. Волчуга и поведала откровенно трудовому коллективу редакции о том, что исключительно из-за Некляева не финансируется журнал и нет зарплаты, зная и скрывая реальную ситуацию, о развитии которой в письме Госкомпечати на имя Заметалина под № 01-07/1154 докладывалось несколько иначе, в соответствии с договоренностями:

«Главными задачами культурологических и литературно-художественных изданий, финансируемых через Госкомпечати, являются освещение государственной политики культурного строительства, процессов развития отечественных литературы, кино, театра, изобразительного искусства, пропаганда лучших образцов белорусской и мировой культуры. В этой работе есть как значительные творческие достижения (пример – газета “Культура”, удостоенная по итогам минувшего года премии “За духовное возрождение”), так и существенные недостатки. Примером последних может служить журнал “Крыніца”, работа редакции которого не отвечает требованиям, предъявляемым к литературно-художественным государственным изданиям. В связи с этим финансирование журнала в 1 квартале 1999 г. не осуществлялось, а Госкомпечатью внесены в Совет Министров Республики Беларусь (письмо № 01-07/1093 от 30.03.99 г.) предложения о перепрофилировании журнала с ориентацией его на молодёжную аудиторию...»

В этом довольно пространном послании Заметалину (с его резолюцией: “С предложениями согласиться”, из чего на всякий случай должно следовать, будто это никак не результат его прямых и жёстких указаний, которые Госкомитет по печати, прогнувшись, вынужден выдавать за свои собственные предложения) речь идёт уже не только о ненавистном журнале “Крыніца”. Намечаются пути расправы и с остальными белорусскоязычными изданиями: “Роднае слова” (к нему, например, предлагается подкрасться по уже проторенной дороге задушевных творческих связей с фашистскими пособниками), “Полымя” и другими. Заметалин на то и полковник государственного генштаба, чтобы вести тотальную войну со всем белорусским по всем направлениям. Да и не только с белорусским, а в целом со всем неугодным»[17].

## Разанаў

Што ж да яшчэ аднаго героя гэтай гісторыі, паэта Алеся Разанава, дык у студзені 2001 г. ён таксама з'ехаў з Беларусі – у Германію, аднак напярэдадні даў інтэрв'ю, у якім казаў у тым ліку пра Някляева:

«– Я проработал вместе с Некляевым несколько лет. И в конце должен был сказать, что чем больше ем с ним соли, тем меньше знаю его и понимаю.

*– Читали ли вы его интервью, появившиеся в прессе минувшей осенью?*

– Прочёл то, что попалось на глаза. Надо сказать, в этом жанре он весьма преуспел. У его интервью одна замечательная особенность: он ничего не договаривает до конца.

*– Вы, конечно, правы в том смысле, что Некляев не очень-то хотел рассказывать о причинах своего отъезда. Но про "Крыніцу"-то говорит...*

– Но что говорит?! Будто в журнале против него был чуть ли не сговор. Должен не согласиться с этим "изгибом пространства". Не секрет, что под крышей "Крыніцы" была образована умело скрытая структура, использовавшая имя журнала, его реквизиты и средства. Настоящая "Крыніца" оказалась ширмой и заложницей разворотливого действия. И уж если вести речь о сговоре, то возглавляемом непосредственно Владимиром Прокофьевичем. К чести сотрудников "Крыніцы", большинство из них не приняло навязываемую им роль тусовочных друзей. Наоборот, произошла реакция отторжения.

*– В результате которой...*

– И произошли его "утёки" в Польшу, появилась громкая антизаметалинская статья, а на "Крыніцу" навалились и придавили к земле *его* штрафы.

*– Вскоре и вы ушли из "Крыніцы"...*

– Чтобы в экстремальной ситуации что-либо делать, нужны реальные полномочия. Один раз я уже вытаскивал "Крыніцу" – когда на полтора месяца получил полномочия исполняющего обязанности главного редактора. Во второй раз мне никто не дал даже таких полномочий, все "полномочия" Владимир Прокофьевич увёз с собой. Мы же в течение всего лета 1999 года получали от него только факсы: "Продлеваю свой отпуск на две недели... Ещё на две... На двадцать дней..." Когда ждать стало невмоготу, я предложил занять редакторское кресло другому человеку. А сам устранился. После этого и Некляев сложил с себя редакторские обязанности...»[18]

Апынуўшыся ў замежжы, Някляеў скажа: «Зрэшты, крымінальная справа як з нічога пачалася, так нічым і скончылася, я на яе не надта зважаў. А вось на дапамогу, аказаную ўладам у гэтай "высакароднай" справе з боку сваіх, я не мог не зважаць, яна сталася для мяне, мякка кажучы, нечаканкай. Гэта цалкам супярэчыць майму разуменню жыцця і чалавечых, тым больш сяброўскіх узаемаадносін.

Пра гэта Васіль Быкаў пры адной з нашых замежных сустрэч страшнавата выказаўся са свайго вопыту: «Калі ў цябе ёсць дзесяць сяброў, дык мяркуй, што дзевяць з іх цябе прададуць. А лепш думай, што ўсе дзесяць". Я спытаў: "Дык як тады жыць, Васіль Уладзіміравіч?" І ён адказаў: "А так і жыві"»[19].

І іншым разам: «Наогул, калі палітыкі сцвярджаюць, што ў палітыцы зусім няма сяброў, дык трэба прызнацца, што і ў літаратуры іх не намнога болей. Кожны выскоквае, як Піліп з канапель: я самы лепшы, я самы першы... Яно няхай бы і лепшы, няхай бы і першы, я асабіста нікому не даводзіў адваротнае, бо яно без толку. Але ўсё гэта найчасцей замешана на атрутнай зайздрасці, плётках, інтрыгах, – і гэтага найбольш там, дзе нават пры таленце найменш асобы, дзе пераважае драбната і местачковасць. Між іншым, спробай адмеджавацца ад гэтага хоць бы вузкім колам і было для мяне стварэнне рэдакцыі часопіса "Крыніца" – і найперш стварэнне менавіта іншай вартасці і якасці рэдакцыі, а пасля ўжо

самога часопіса, які б усё адно выдаваўся – такі ці інакшы. Як аказался, мала хто ўцяміў, што я меў на ўвазе – і большасць лёгка перакупілася на звыклае. Што ж, ёсць і застанецца ў гісторыі беларускай літаратуры часопіс з крынічнаю назваю, але не спраўдзілася нешта чалавечае, тое, дзеля чаго ў маім разуменні і ствараецца літаратура. І па-сапраўднаму з усяго, чаго не стала і што распалася, мне толькі гэтага і шкада»[20].

І яшчэ ў яго «Знаках прыпынку»:

«З ліста Ігара Шклярэўскага да Станіслава Куняева (калі яны яшчэ сябравалі):

"Прочёл рецензию Абрамыча *(Барыса Слуцкага, які падтрымліваў Шклярэўскага ад самага ягонага прыезду ў Маскву)*. Я его люблю и уважаю, но он совершенно не понял мой мир. Природа, свобода слов и чувств, мысль во плоти, в чешуе, в росе, в порыве – для него это не мысль, ему надо рассуждение, то есть голая формула, нужны философские потуги и намёки... истинный поэт хрен ложил на все рассуждения... Я разозлился страшно и Абрамычу напишу... он не понимает самого пронзительного – пространство и жизнь, костёр и ледяное небо..."

Прыкладна тое самае я напісаў некалі ў лісце да Разанава, але так і не адправіў ліст, парваў. Бо Куняеў, рускі нацыяналіст, хоць і балюча, перакошана, але сябраваць умее (таму і надрукаваў у "Нашем современнике" ўспаміны да юбілею Шклярэўскага "В нашей дружбе и волчьей, и нежной..."), а касмапаліт Разанаў (ніякі ён не беларускі нацыяналіст) – не. Ніяк.

А ўвогуле я пісаў і рваў лісты і да Быкава, і да Барадуліна, і да...

Напішаш, падумаеш – і парвеш.

Парванае не застаецца»[21].

...Праз дзесяцігоддзе, калі кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў апынецца ў следчым ізалятары КДБ і калі доўгі час пра стан яго здароўя нічога не будзе вядома, беларуская інтэлігенцыя ўзарвецца абурэннем – паўтысячы чалавек пазначаць свае прозвішчы пад лістом у яго абарону. Зробіць гэта ў тым ліку і Алесь Разанаў. А на з'ездзе Беларускага ПЭН-цэнтру, які пройдзе ў той самы час, калі ўлада адправіць Някляева пад хатні арышт, Разанаў будзе сярод тых, хто прагаласуе за тое, каб вылучыць Някляева на Нобелеўскую прэмію.

«Я стрымана адношуся да Алеся Сцяпанавіча Разанава – ён стрымана адносіцца да мяне. Прычына – у тым, што сталася ў рэдакцыі "Крыніцы" ў 1999 годзе. Магчыма, тое, што сталася, мы абодва перабольшылі: яно не павінна было стаць прычынаю ўзніклай паміж намі стрыманасці. Магчыма. Цяпер позна разбірацца. І без патрэбы, бо ўсё гэта – пыл над дарогай, які няхай праз стрыманую, але ўсё ж павагу адзін да аднаго, найперш да таго, што кожным зроблена, мы стараліся асабліва не ўздымаць. Так, мы, аддаляючыся, разышліся, але разышліся ў адным накірунку. І, калі будуць лічыць па вялікім рахунку, нам залічыцца дарога, а не пыл над ёй»[22].

## Разводка па-замяталінску

На думку Някляева, усё ж не Лукашэнка быў ініцыятарам "крымінальнай гісторыі" з "Крыніцай", ціску на Саюз пісьменнікаў. «Была класічная разводка. Прычым развялі не адно прэзідэнта і старшыню Саюза пісьменнікаў, Някляева з Лукашэнкам: развялі з усёй беларускай уладай усю нацыянальную культуру. І тое, што маем мы сёння, прынамсі, графаманы ды ашаваркі на месцы сапраўдных літаратараў – вынік той разводкі»[23].

У гэтай сувязі Някляеў ужо неаднойчы прыгадваў фразу Лукашэнкі, якая была сказана ім падчас сустрэчы з Радай СП: «Калі вы не будзеце ўплываць на свайго прэзідэнта, на яго будуць уплываць іншыя». Някляеў дасюль упэўнены,

што Лукашэнка прамаўляў гэта толькі для двух чалавек – Някляева і Замяталіна. «Ён уцягваў нас у барацьбу, у спаборніцтва за ўплыў – і якія тут могуць быць да яго прэтэнзіі? Ніякіх, бо гэта палітыка: падзяляй – і кіруй. А ўжо зможаш ты ці не здолееш нешта выгадаць з той палітыкі – твае праблемы. Ён сваё сказаў»[24].

Але ўплыў з боку Някляева на Лукашэнку, відаць, усё-ткі быў, таму Замяталін і пачаў яго «цэментаваць». «Прычым падаючы ўсё так, нібы цэмент замешваецца не ім і не кім-небудзь яшчэ, а Лукашэнкам, – аналізаваў праз дзесяцігоддзе сітуацыю Някляеў. – Раптам я даведваюся, што ў КДБ – запыт на мяне з Савета бяспекі. І той, хто мне пра гэта пад вялізным сакрэтам у патайным месцы паведамляе, яшчэ й пытаецца: "А хто ў нас, як ты думаеш, Савету бяспекі распараджэнні можа даваць?.." Потым я ў старшыні Дзяржкамдруку пытаюся, чаму ў мяне праверка за праверкай, адкуль вецер? – і ён у неба паказвае... А хто ў нас на небе?..

Мне не хапіла інфармацыі. Калі б я ведаў, што "на небе" не Лукашэнка, а Замяталін, я б дзейнічаў інакш. Як да свайго ад'езду за мяжу, так і пасля яго»[25].

Між тым Някляеў упэўнены: у дачыненні і да беларускай літаратуры, і асабіста да яго Замяталін паводзіў сябе менавіта так, а не інакш абсалютна не выпадкова: «Как-то в одной из наших "приятельских" бесед, в которой Владимир Петрович Заметалин, как и во всём остальном, никогда не сознается, я спросил у него:

– Неужели вы действительно считаете существование Беларуси исключительно исторической ошибкой большевиков, а свою историческую миссию видите в том, чтобы эту ошибку исправить?

И Владимир Петрович Заметалин, поскольку президентом мы ещё не были названы антиподами, а оба были в безопасности и наедине, без паузы мне ответил:

– Да»[26].

*(Працяг будзе.)*

---

[1] Заява рады Саюза беларускіх пісьменнікаў // Літаратура і мастацтва. 1999. 5 лют. Гл. таксама: Заява Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў // Навіны. 1999. 29 студз.; Писатели против объединения с Россией // Белорусская деловая газета. 1999. 1 февр.

[2] Уладзімір Пятровіч Замяталін, Сяргей Сцяпанавіч Лінг — у 1996—2000 гг. прэм'ер-міністр урада Беларусі.

[3] Некляев В. Антиподы и эфиопы // Народная воля. 1999. 8 чэрв.

[4] Некляев В. Антиподы и эфиопы // Народная воля. 1999. 8 чэрв. Іншым разам Някляеў пісаў: «І няхай не быў я ніколі, але лічыўся сябрам Лукашэнкі, які, адмёўшы даносы і падкопы, пастараўся для мяне з прэміяй, а я чым адплаціў? Выходзіла, што чорнай няўдзячнасцю. Таму ўзыграла яшчэ і асабістае: я — яму, а ён — мне!.. Ды хто на месцы Лукашэнкі адрэагаваў бы іначай? Ніхто. Тым больш, што даклалі яму коратка: "Някляеў выступіў супраць вас". Астатняе ўсё не мела значэння» (Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 459).

[5] Паводле: Некляев В. Антиподы и эфиопы // Народная воля. 1999. 8 чэрв.

[6] Путём единства: заявление белорусских писателей // Белорусская нива. 1999. 10 апр.

[7] У гэтым лісце Барыс Беляжэнка таксама пісаў: «Не прысутнічаючы на пасяджэнні Рады Саюза пісьменнікаў, якая прыняла сваю заяву ў канцы студзеня месяца гэтага года, я не мог і не магу рабіць вывады аб тым, чаму яна прыняла адпаведнае рашэнне. І ўжо проста не маю права асуджаць кіраўніцтва нашага творчага саюза, выдатных пісьменнікаў У. Някляева, В. Іпатаву, Н. Гальпяровіча за тое, што Рада прыйшла да такіх высноў. Магу толькі меркаваць, што любы з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў мог аказацца ў ліку меншасці, якая не змагла прымусіць Раду прыняць іншае рашэнне» (З ліста ад 16 крас. 1999 г. Машынапіс за подпісам Б. Беляжэнкі. Копія. Архіў У. Някляева).

[8] Некляев В. Антиподы и эфиопы // Народная воля. 1999. 8 чэрв.

[9] Букчин С. Каждый платит по своим счетам // Народная воля. 1999. 29 чэрв.

[10] Некляев В. Антиподы и эфиопы // Народная воля. 1999. 8 чэрв.

[11] Хаця на падставе кантракта № 81 ад 14 мая 1999 г., які быў падпісаны старшынём Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку М. Падгайным і У. Някляевым (Машынапіс за подпісамі М. Падгайнага і У. Някляева. Арыгінал. Архіў У. Някляева), у той жа дзень загадам № 36-кад Някляеў быў прызначаны рэдактарам «Крыніцы» тэрмінам на два гады, уключна да 14 мая 2001 г. (Машынапіс на афіцыйным бланку

Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь за подпісам М. Падгайнага. Арыгінал. Архіў У. Някляева).

[12] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Ліпень 2004 г.

[13] У 2006 г. Замяталін быў прызначаны дырэктарам нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм». Увогуле паводле адукацыі і асноўнага роду заняткаў Замяталін ніколі не меў ніякага дачынення ні да літаратуры, ні да культуры: выпускнік Данецкага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча і Ваенна-палітычнай акадэміі імя У. І. Леніна, у 1973—1991 гг. працаваў у Савецкай Арміі палітработнікам (Германія, Далёкі Усход, Беларусь); у 1992—1994 гг. — намеснік начальніка ўпраўлення, начальнік прэс-цэнтра Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь; у 1994 г. прэс-сакратар старшыні Савета міністраў Кебіча; з 1995 г. — у адміністрацыі беларускага прэзідэнта: начальнік Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі, намеснік кіраўніка адміністрацыі; у 1997 г. — старшыня Дзяржкамітэта па друку, намеснік старшыні Савета міністраў (курыраваў пытанні культуры, адукацыі і рэлігіі); у 2000—2001 гг. — 1-шы намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта.

[14] Пашкевіч А. «Лекары» і пацыенты / інт. з У. Някляевым // Народная воля. 2009. 22—25 мая.

[15] Некляев В. Антиподы и эфиопы // Народная воля. 1999. 8 чэрв.

[16] Дунцева М. Нелегитимными бывают не только президенты, но и редакторы / инт. с А. Сидоревичем // Имя. 1999. 13 мая.

[17] Некляев В. Антиподы и эфиопы // Народная воля. 1999. 8 чэрв.

[18] Шапран С. Это здесь — надолго... / инт. с А. Рязановым // Белорусская деловая газета. 2001. 10 янв.

[19] Пісьмянкоў А. «Я там, дзе сам...» // Літаратура і мастацтва. 2000. 17 лістап.

[20] Коктыш М. Пустыя нябёсы Уладзіміра Някляева // Народная воля. 2000. 28 студз.

[21] Някляеў У. Знакі прыпынку. С. 161—162. Упершыню: Някляеў У. Выбраныя творы. С. 527.

[22] Някляеў У. Знакі прыпынку. С. 157—158.

[23] Пашкевіч А. «Лекары» і пацыенты // Народная воля. 2009. 22—25 мая.

[24] Пашкевіч А. «Лекары» і пацыенты // Народная воля. 2009. 22—25 мая.

[25] Пашкевіч А. «Лекары» і пацыенты // Народная воля. 2009. 22—25 мая.

[26] Некляев В. Антиподы и эфиопы // Народная воля. 1999. 8 чэрв.

Міхась Скобла



...разрэкламаванае «шэўрале»
было насамрэч «чорным воранам»,
які і прывёз урэшце Купалу да пагібелі...

# Саркафагі страху

***З будучай кнігі***

*Заканчэнне. Пачатак у №76-77.*

## Страшны сон Васіля Стуса

Два гады праслужыўшы ў войску на Львоўшчыне, я “Запавіт” Шаўчэнкі мог прачытаць услых без акцэнту, а песню “Ніч яка місячна...” спяваў нават пад купалам парашута, калі душа сягала ў пяткі, а пяткі боўталіся ў паветры. Гэта няпраўда, што савецкае войска было паўсюль школай інтэрнацыяналізму. Скажам, у нашай асобнай дэсантна-штурмавой брыгадзе вайсковая іерархія была зусім не інтэрнацыянальнай: і камбрыг Яцэнка, і камбат Каваленка, і ротны Ткачук, і ўзводны Ільчук, і старшына роты Андрусішын – усе былі ўкраінцамі. Адпаведна і шыхтавыя песні былі ўкраінскімі, і бібліятэка нашай в/ч 32291 на добрую палову складалася з украінскай класікі.

Прачытаў я тады гару кніг. Асабліва не зважаючы на імёны і якасць твораў, з адзінай мэтай – засвоіць мову. І, здавалася, засвоіў. Бо калі ты без праблемаў чытаеш прозу заходнікаў

Франка і Стэфаніка, разумееш паэзію кіянаў Ліны Кастэнка ды Івана Драча, а чарнігавец Паўло Тычына беспасярэдне цешыць твой слых сваімі сонечнымі кларнетамі, то адчуваеш сябе кумам каралю і сватам гетману Сагайдачнаму. Прыблізна так я сябе і адчуваў. Пакуль украінскія сябры адносна нядаўна не падаравалі мне два тамы паэта Васіля Стуса. Над імі я і засеў.

"Жалощів брості коцюрбляться в снінні", "схарапуджене дляння", "кушпела", "довсібіч", "ізвомплені", "папуші" – мне надакучвала тузаць, амаль заўсёды безвынікова, google. Не дапамагаў і чатырохтомавы Грынчэнка. Адкуль жа ў Стуса такая своеасаблівая ўкраінская мова? У двухгадовым узросце ён быў прывезены бацькамі ў Данецк (тады – Сталіна), вучыўся ў звычайнай данецкай школе, заканчваў Данецкі педінстытут, настаўнічаў у Горлаўцы на Данеччыне, працаваў вуглякопам на адной з данецкіх шахтаў, быў літаратурным рэдактарам газеты "Социалистический Донбас"... У лепшым выпадку паэт чуў вакол сябе ўкраінскі варыянт трасянкі – суржык, у горшым – падсоленую вугальным пылам і мацюкамі расійскую мову. І вось жа – і на пустапарожнім тэрыконе ўзрасціў зыркі квет самабытнай і гнуткай, як языкі агню, мовы ўкраінскай.

Паводле мовы Стус для беларусаў – як Барадулін для ўкраінцаў. Адна мінская літаратарка ўкраінскага паходжання прызналася мне, што чытае барадулінскія вершы як "Слова пра паход Ігаравы". І там, і там – шмат цёмных месцаў, якія асвятляюцца ўспышкамі метафараў, хоць да сэнсу часам усё роўна даводзіцца даходзіць інтуітыўна. Так і ў выпадку са Стусам.

Васіль Стус яшчэ жыў, калі я малаціў львоўскія брукаванкі падкаванымі салдацкімі ботамі – у складзе дэсантнай сотні на парадах, што адбываліся двойчы на год – 9 траўня і 7 лістапада. Дакладней, дажываў – у лагеры строгага рэжыму ў Пермскай вобласці. Восенню 1985 года ён памёр у карцары, перад гэтым адседзеўшы год у камеры-адзіночцы, ужо маючы за плячыма дванаццаць гадоў турэмнага стажу. У брэжнеўскага бяззубага рэжыму на такіх, як Стус, зубы знаходзіліся, і пазбавіцца ад іх мёртвай хваткі ўдавалася далёка не ўсім.

Асуджаны за антысавецкую дзейнасць, Васіль Стус і ў вязніцы не ламаў шапкі перад уладай. Кэгэбіста, які праводзіў допыт, прылюдна назваў гестапаўцам. Самаму галоўнаму кэгэбісту Андропаву паслаў тэлеграму, дзе назваў ягоную кантору зборышчам зладзюгаў, якія крадуць лісты вязняў. Кваліфікаваў савецкую ўладу як антыўкраінскую па сутнасці. Ён не супадаў з тою ўладаю ніводнай сваёю думкаю, ніводным паэтычным радком. Не маючы наконт яе аніякіх ілюзій, яшчэ ў 1982-м напісаў і перадаў на волю тастамент, дзе прасіў сяброў знайсці ў Данецку і ўзяць пад апеку ягоную старэнькую маці...

Прастую шлях – па вымерлай пустыні,
дзе мёртваму спажытку мне няма.
Глядзяць хаціны вокнамі пустымі –
чакаюць на вяртанне, ды дарма.
Іду-брыду з адкульсьці у нікуды,
бо спадзяюся я яшчэ, што там,
дзе кубляцца апушчаныя юды,
ёсць трохі месца і маім братам.
Ну хоць бы хто натрапіўся на вочы,
схапіцца б позіркам за позірк чый...
Змяіцца шлях – хаўруснік цёмнай ночы,
і хоць на поўню ваўкалакам вый.
Бо ўжо не я – нібы чыясь лучына,
гарыць ва мне, вяшчуючы адно –
мне сэрца спапяляе Украіна,
якой мне, хоць аслепні, не відно...

Перакладаць Васіля Стуса надзвычай цяжка, і наўрад ці мне тыя пераклады

ўдаліся. Як шараваю маланку чужога болю перагнаць праз праваднуго сістэму сваёй мовы і на выхадзе атрымаць усё тую ж шараваю маланку?

Жыхару Данецка, з крыві, касці і мовы ўкраінцу, Васілю Стусу хіба ў страшным сне магло прысніцца тое, што адбываецца сёння на яго роднай Данеччыне. Сепаратысты-тэрарысты захопліваюць цэлыя гарады, бяруць у палон закладнікаў, збіваюць за ўкраінскую мову на вуліцах, зрынаюць з дзяржаўных флагштокаў і шматаюць на кавалкі ўкраінскія сцягі...

Яму, ідэйнаму ворагу імперыі, які ў закратаваным вагоне праехаў яе ўсю ажно да Магадана, не магло і прымроіцца, што пройдзе ўсяго трыццаць гадоў, і ненасытная імперыя раззявіць сваю пашчу над усёй усходняй Украінай.

Па ўспамінах былых вязняў, у прысутнасці Стуса стараліся не мацюкацца нават крымінальнікі. Як зрэагаваў бы паэт на тыя ніягары хлусні, якія штодзённа выплюхваюцца расійскімі тэлеканаламі на галовы мільёнаў ягоных суайчыннікаў? Як бы адказаў тым тэлешаўкам, якія зняважліва называюць ягоную краіну Маларасіяй?

Спрабую ўявіць Васіля Стуса на вуліцах сённяшніх Горлаўкі ці Славянска. Не атрымліваецца. Для ўсёй выразна прарасійскай "самаабароны Данбаса" ён адразу стаў бы бандэраўцам №1, і які-небудзь барадаты бабай з георгіеўскай стужкай на грудзях палічыў бы сваім абавязкам пусціць паэта ў расход. А ўцякаць ён не стаў бы – не ў ягоным характары былі ўцёкі. Ды яшчэ з роднай зямлі.

На роднай зямлі паэта Стуса мне давялося пабываць гадоў сем таму – пад час Шаўчэнкаўскіх дзён. Цэлы тыдзень мы, пісьменнікі, начавалі ў данецкім гатэлі, а штораніцы выязджалі з запланаванымі выступамі па Данецку і Данецкай вобласці. Прызнаюся – з такімі адносінамі да майстроў пяра я раней ніколі не сустракаўся. Мясцовае, пераважна расійскамоўнае, начальства спускала нас у шахту, узнімала на тэрыконы, вадзіла ў драматычны тэатр і музей жывапісу, вазіла ў царкву дзеля службы і на дэгустацыю нейкай мясцовай антрацытаўкі дзеля дружбы. Завезла нават на Паўночны Данец, за горад з вясёлай назвай Краматорск – у высечаны ў надрэчных скалах манастыр. І паўсюль нас частавалі, нам налівалі, за нас гаварыліся красамоўныя тосты. І ўсё гэта толькі дзеля аднаго – каб мы як мага меней выступалі. Каб звесці да мінімальнага выніку тыя Шаўчэнкаўскія дні на Данеччыне.

І, трэба прызнаць, начальству гэта часткова ўдалося. У Данецкім педінстытуце (тым самым, дзе вучыўся Васіль Стус) запланаваная сустрэча так і не адбылася. А калі пісьменнікам усё ж удавалася трапіць у народную гушчу, то рэакцыю аўдыторыі прадказаць было немагчыма. Запомнілася, як у распісаным выцвілымі савецкімі лозунгамі доме культуры ў Славянску мясцовыя аматары паэзіі засвісталі аднаго таленавітага кіеўскага паэта і запатрабавалі: "Про любовь давай! И без фентифлюшек разных, шобы понятно было". Паэт не разгубіўся, аказаўся не з гордых і выканаў сацыяльны заказ, як мне падалося, гратэскавым экспромтам. Перадаю па-беларуску сэнс тае рыфмаванкі: "На крутым тэрыконе аддалася ты мне / сярод белага дня у суботу. / І паглядваў на нас ўвесь Данбас, увесь Данбас, / прыпыніўшы работу". Зала захлынулася ў авацыях.

З яшчэ адным замежным госцем Шаўчэнкаўскіх дзён на Данеччыне латышом Янісам Элсбергсам (сынам славутай паэткі Візмы Бэлшавіцы) у апошні вечар мы яшчэ раз схадзілі да помніка Тарасу Рыгоравічу. У Данецку яму ўсталяваны, відаць, самы незвычайны помнік. Кабзар там стаіць на пастаменце, які нагадвае адначасова мармуровы ледакол і непрыступную фартэцу. Тады мы хіба смутна здагадваліся, дзеля чаго гэта зроблена. Цяпер, калі ў суседнім Харкаве сепаратыстамі жорстка збіты паэт Сяргей Жадан, відавочна, што пастамент той абаронча Тарасу Шаўчэнку зусім не лішні.

Вайна паміж Украінай і Расіяй яшчэ ўчора здавалася хваравітай фантазіяй.

А між іншым, пра магчымасць такой вайны пісаў яшчэ Аляксандр Салжаніцын. Гаварыў наш Алесь Адамовіч. Мільгала такая вайна і ў радках узгадаванага Данеччынай вялікага ўкраінскага паэта Васіля Стуса. Бо пра што гаворыцца ў вершы “Сон”, калі не пра сённяшнюю вайну на ўсходзе: “Стенаються в герці скажені сини Украіны, / той з ордами бродить, а той накликае москву”.

Адразу прыходзіць на памяць Баркалабаўскі летапіс: “москву от Могілева отперлі”. У абодвух выпадках “москва” пішацца з малой літары, бо маецца на ўвазе не горад. Страшны сон паэта на нашых вачах ператвараецца ў яшчэ больш жахлівую яву.

Цытуючы Стуса, я заўважыў, што абедзве ягоныя кнігі з маёй бібліятэкі выдадзеныя з дапамогай украінскіх прэзідэнтаў. “Вечір. Зламана віть” (1999) выйшла дзякуючы падтрымцы Леаніда Кучмы. “Палімпсест” (2003) – дзякуючы Віктару Юшчанку. І неяк само па сабе напрошваецца пытанне: колькі суседніх краінаў павінна раздрапежыць Расія, каб збор твораў Ларысы Геніюш быў выдадзены пад патранатам Аляксандра Лукашэнкі?

## Крымская аўтаномія Максіма Багдановіча

Крым і Крэмль – аднакарэнныя словы. Так, не думаючы пра наступствы, напісаў сто гадоў таму Макс Валошын. Той самы, які паўжыцця пражыў у Коктэбелі, супернічаў з Адамам Міцкевічам у напісанні крымскіх санетаў, і якому на карадагскай скале прымроіўся ўласны профіль. І мовы замежныя, здаецца, ведаў, а такія сумнеўныя высновы рабіў. На падставе чаго? Ды на падставе ўсяго трох літараў КРМ, якія ў старагабрэйскай мове нібыта ўтвараюць куст словаў са значэннем змрок, зацьменне, закінутае месца. Калі ўсю гэтую этымалогію прыняць на веру, то і які-небудзь Крэмянчуг, а за ім і Каракумы трэба прызнаць аднакарэннікамі Крамля з усімі магчымымі наступствамі.

Наўрад ці прагматык Пуцін чытаў рамантыка Валошына. Проста так супала. Прачнуўся расійскі прэзідэнт аднае раніцы, і здалося яму, што Крэмль і Крым – сваякі-браты. У выніку Крым анексаваны, і там пачалася нябачаная дагэтуль экспрапрыяцыя. Расійцы захопліваюць украінскія караблі і гавані, украінскія санаторыі і вінаградныя плантацыі, фактычна крадучы ў аслабленай краіны ледзь не апошняе. На гэтыя беспрэцэндэнтныя рабункі свет рэагуе неяк млява, што можа падагрэць апетыты рабаўніка.

Заграбастаўшы Крым з усёй рухомай і нерухомай маёмасцю, Масква, як на добры розум, павінна была б выплаціць Кіеву шматмільярдную кампенсацыю. Але дзе вы бачылі той добры розум у расійскай палітычнай вярхушкі? Яе апанаваў імперскі шал, які ўжо не хаваецца, які штовечар пырскае на нас з тэлеэкранаў. Пра якую кампенсацыю гаворка? Пераможцаў не судзяць.

Здавалася б, чаго мне гэтым усім перайматцца? Вунь Кіеў і то не асабліва пераймаецца, здаўшы Крым фактычна без супраціву. Але справа ў тым, што разам з украінскімі караблямі і ваеннымі базамі, разам з вінаграднікамі Масандры і Судацкай крэпасцю, разам з “Артэкам” і пісьменніцкім домам творчасці “Кактэбель” Расія захапіла і маленькі кавалачак Беларусі. Магілу Максіма Багдановіча на старых ялцінскіх могілках. Выбачайце, але гэта гісторыка-мемарыяльная каштоўнасць, кажучы бюракратычнай мовай. Усталяваны ўжо ў часы незалежнасці помнік з белага мармуру ў антычным стылі каштаваў беларускаму Міністэрству культуры нятанна. Грошы ўсё ніяк не знаходзіліся, нездарма так доўга і пратрымаўся стары помнік з недарэчнай зоркай. Нятанна – гэта паводле рахункаў Мінкульта. А як ацаніць той помнік і тую магілу паводле рахункаў беларускай душы?

“Не прылятаюць з выраю магілы”, – напісала Данута Бічэль, якая стварыла ў Горадні свой уласны помнік Багдановічу – Музей паэта. Але часам магілы ратуюць

ад занядбання ці знішчэння, перавозячы іх у другое месца. Вось і пасля расійскай анексіі Крыма ў Беларусі ізноў загаварылі пра вяртанне парэштк аў Багдановіча на радзіму. Узяць бы ўсё разам з беламармуровым ансамблем ды перавезці ў Мінск, дзе паэт нарадзіўся. Вызваліць, так бы мовіць, святыню з расійскага палону.

Усё нібыта слушна. І пытанне гэтае не ўпершыню паўстае. І падымалі яго ў розныя часы людзі аўтарытэтныя. Скажам, яшчэ ў 1981 годзе Зоська Верас, якая ўспрымалася ў беларускім грамадстве як ахоўніца памяці Багдановіча, звярталася ў гэтай справе ў Саюз пісьменнікаў. А Ларыса Геніюш тады ж, у пачатку 80-х, у лістах да ўплывовых сяброў (Максіма Танка, Васіля Быкава, Адама Мальдзіса) прыводзіла ў прыклад культурных чэхаў: “Я бачыла, як стваралі яны сабе пантэон на Вышаградзе. “Ač zemreli, ještě mluvi” (“Хоць памерлі – яшчэ прамаўляюць”) – напісана там. Быў у чэхаў найбольшы паэт-рамантык Карэл Маха. У цяжкі для іх час і ягоныя астанкі забралі ўрачыста з зямлі Судэцкай і перанеслі ў Прагу, дзе на той час абавязаны быў пабываць кожны чэх. Здавалася, што браў у гэтым удзел увесь народ – так усё было ўрачыста, ахвярна. Чаму ж бы і нам не перанесці нашага Страціма-Лебедзя на ручніках бліжэй да сэрца народа?” (ліст да А. Мальдзіса ад 17 траўня 1981 г.).

Ідэя стварэння беларускага пантэона, бясспрэчна, і сёння заслугоўвае ўвагі. Добра было б перавезці ў той пантэон Уладзіміра Жылку з Уржума, Алеся Гаруна з Кракава, Уладзіміра Дубоўку з Масквы, Браніслава Эпімаха-Шыпілу з Пецярбурга...

На жаль, перапахаванне Максіма Багдановіча, якое сапраўды магло б стаць агульнанацыянальнай акцыяй, немагчымае ў прынцыпе. Нават калі расійскія акупацыйныя ўлады адгародзяць Крым калючым дротам і жывым ланцугом з зялёных, узброеных да зубоў, чалавечкаў, якія будуць рабіць асабісты дагляд усім, хто ехацьме з боку мацерыковай Украіны (а кудой мы маем ехаць? не праз Маскву ж).

Справа ў тым, што дакладнае месцазнаходжанне магілы Максіма Багдановіча невядомае. Няхай мяне паправяць дасведчаныя багдановічазнаўцы (буду з гэтага толькі ўсцешаны), але наяўныя на сёння звесткі пра месца, дзе закончыў свой зямны шлях беларускі геній, прымушаюць засумнявацца нават самых легкаверных.

Дакладнае апісанне пакінуў нам толькі адзін чалавек – бацька паэта. Адам Ягоравіч спазніўся на пахаванне, яго звадзіла на могілкі гаспадыня, у якой кватараваў Максім. Пазней Багдановіч-старэйшы запіша ў сваіх успамінах: “Похоронили его на самой окраине кладбища внизу, в трёх саженях от окраины, близ дороги, со стороны, противоположной к морю, т.е. со стороны гор. В головах поставлен небольшой белый крест с надписью на жестяной табличке его имени (студент Максим Богданович), и когда он скончался. В двух саженях по прямой линии от изголовья похоронен студент Карисон. Место выбрано чрезвычайно неудачно: ливни и потоки с крутого склона кладбища легко могли размыть могилу. Я нанял сторожа, чтобы могилу укрепить, но сделано ли это, не знаю. Дважды писал из Ярославля, но не получил ответа: известно, как действовала в то время почта, да и людям было не до чужих могил”.

Звернем увагу на асаблівую прыкмету – суседняе пахаванне студэнта Карысана, да якога зробленая асноўная прывязка магілы Багдановіча. Яно не захавалася, а там, дзе яно магло быць, – сёння можна пабачыць пампезны надмагільны помнік нейкаму Бірукову.

Ці не размылі магілу на даволі крутым схіле ліўневыя патокі, якіх асцерагаўся Адам Ягоравіч? Цалкам магчыма. Прынамсі, калі ў 1924 годзе ў Ялту прыехалі маладыя паэты Уладзімір Дубоўка, Анатоль Вольны і Андрэй Александровіч, дакладнае месца яны вызначыць не змаглі. Паводле ўспамінаў Анатоля Вольнага, дзеці на могілках мелі забаўку – на старых крыжавінах з’язджалі з горкі.

Бляшаная таблічка з магілы Багдановіча з ледзь бачным надпісам валялася на зямлі. Мінскія паэты купілі ў прымогілкавай вартоўні новы крыж і паставілі яго на падазрона роўным месцы (захаваўся здымак). Андрэй Александровіч праз тры гады апублікаваў элегічны верш: “Крыж невялічкі, / ад сонца на ім / паблякла таблічка: / студэнт Максім...”.

Падкрэслім: ужо не статычная магіла студэнта Карысана, а лёгкарухомая таблічка зрабілася асноўным арыенцірам. Але яе вадой магло знесці ўніз па схіле.

А цяпер уявім цяжкаўяўнае. Адмыслоўцы асцярожна дэмантуюць беламармуровы помнік, раскапаюць магілу, а там – парэшткі не Багдановіча. Ці – увогуле няма ніякіх парэшткаў. І што далей? Ціхенька закапаць і вярнуць помнік на месца? Не, розгаласу пазбегнуць не ўдасца, і тады рэальная на сёння магіла Багдановіча ператворыцца ў кенатаф – сімвалічнае пахаванне. Як пахаванне Антона Луцкевіча на віленскіх Росах ці ксяндза Адама Станкевіча ў Арлянятах на Смаргоншчыне.

Нічога не паробіш – магілы геніяў губляліся і ў пазнейшы час. Скажам, у Ялабузе на старых могілках шыльда паведамляе: “В этой стороне кладбища похоронена Марина Цветаева”. Пахаваная ў 1941-м, пад час Другой сусветнай, калі таксама “было не да чужых магілаў”.

У выпадку з Багдановічам сітуацыя ўсё ж больш канкрэтная. Дзякуючы тром паэтам-маладнякоўцам, якія ў вершах часам хапалі Бога за бараду, а паехаўшы ў Ялту, паставілі на меркаваным месцы пахавання ўлюбёнага паэта хрысціянскі крыж. Калі б не яны – беларусы таксама ведалі б толькі, што “ў тым баку могілак...”

На тыя Ауцкія (пазней названыя Брацкімі) могілкі аўтар гэтых радкоў трапіў перад самым скананнем савецкай імперыі – улетку 1991-га. Ні мапаў, ні паказальнікаў на могілках не было. Зайшоў у адміністрацыйнае памяшканне, дзе мяне падазрона агледзела чырвонатварая цётка, перад якой на стале стаяў пачаты трохлітровік мясцовага віна (яго прадавалі на набярэжнай з бочак, на разліў). “Белорусский поэт? Умер в 1917 году? Ну, у нас книги записи погребений только с после войны. Да вы не огорчайтесь, херес вот у нас замечательный. Хотите?”.

Піць з цёткай крымскі херэс мне не хацелася, і я пайшоў далей блукаць па неабсяжных могілках. Ужо амаль без надзеі. Хадзіў і чытаў, што помнілася: “У родным краю ёсць крыніца / жывой вады. / Там толькі я змагу пазбыцца / сваёй нуды...”

Раптам у вузкім праходзе між пахаваннямі з’явіўся кот. Чорны, з белымі лапкамі. Беллап – сказалі б мае папярэднікі, паэты-маладнякоўцы. Кот быў дагледжаны, зусім не выглядаў на могілкавага валацугу. Ён упэўнена лавіраваў між агароджамі, садзіўся і азіраўся, нібы чакаючы. Я пайшоў за катом, і неўзабаве ён вывеў мяне проста да магілы Багдановіча. Пасядзеў трохі ля клумбы са штучнымі васількамі і знік – як растварыўся між помнікамі... Што гэта было?

Той незвычайны кот-навігатар паслугаваў не толькі мне. Праз гады два я са здзіўленнем прачытаў у “ЛіМе” эсэ Зянона Пазняка “Светлы, самотны наш Максім”, дзе таксама дарогу да паэтавай магілы паказваў кот...

Багдановіч прыжыўся ў Крыме, а Крым упісаўся ў легенду ягонага жыцця. Згадайма хоць бы таямнічы Крымскі дзённік, вершы пра Клаву ці развітальнае: “Ў краіне светлай, дзе я ўміраю, / у белым доме ля сіняй бухты...” Не трэба пазбаўляць паэта “краіны светлай”, хаваецца тут нейкая неразгаданая загадка. І сумненні ж наконт страчанай магілы не адкінеш, ад якіх мы ўжо ніколі не пазбавімся.

Сёння Крым пад ціскам абставінаў мяняе грамадзянства – з украінскага становіцца расійскім. Крэмль і Крым – адкарэнныя словы... Жывыя стаяць у чэргах па расійскія пашпарты, а мёртвым уся гэтая мітусня непатрэбная. Ці ў складзе Украіны, ці ў складзе Расіі магіла Багдановіча павінна мець аўтаномны, недатыкальны статус. І хай над усім Крымам сёння – расійскі трыкалёр, над

маленькай аўтаноміяй Багдановіча сёння і назаўжды – бел-чырвона-белы. А тым, хто заблукае ў пошуках гэтае аўтаноміі, дарогу пакажа кот Беллап, якому, падазраю, таксама не варта прапаноўваць расійскае грамадзянства.

## Каінава братэрства

“І сказаў Каін Авелю, брату свайму: хадзем у поле. І калі яны былі ў полі, паўстаў Каін на Авеля, брата свайго, і забіў яго” (Быццё, 4:8). Першае ў гісторыі чалавецтва забойства было ўчыненае з-за дробязі: ахвяра Авеля прыйшлася больш даспадобы Богу, чым ахвяра Каіна. Факт братазабойства знайшоў сваё адлюстраванне ў шматлікіх творах мастацтва, спарадзіў крылатыя выразы: каінава пячатка і г.д. Набыў, адным словам, шырокую вядомасць.

Чамусьці падрабязнасці гэтай біблейскай гісторыі заўсёды выклікалі куды меншую цікавасць. Ну вось, напрыклад, чым Каін забіў Авеля?

Славуты ілюстратар Бібліі Густаў Дарэ паказвае Каіна з нейкай невыразнай ламачынай. Ды і забойства адбываецца відавочна не ў полі, а ў нейкім змрочным, зарослым хмызняком яры.

На карціне Аляксея Марачкіна “Каін і Авель” старэйшы брат забівае малодшага штылетам, які, папраўдзе кажучы, не зусім спалучаецца з набедранымі павязкамі сыноў Адама і Евы.

У паэта Алеся Пісьмянкова мне сустрэліся радкі: “Ох і лёгкі у Каіна нож, / ох і цяжкі у Каіна грэх!”.

Мастак, вядома ж, мае права на фантазію, на свой, сучаснай мовай кажучы, відэашэраг у асэнсаванні біблейскага сюжэту. Але калі трымацца першакрыніцы, то смерцяноснай зброяй Каіна была звычайная асліная сківіца. Што трапілася пад руку зайздросніку, тым і ўдарыў.

Наўрад ці гэтая старазапаветная трагедыя і праз тысячы гадоў захавала б сваю прыцягальнасць, каб у тым бязлюдным полі насмерць сышліся ў двубоі проста араты і проста пастух. Але адбылося братазабойства, якое мусіў не дазволіць, не дапусціць голас крыві. Мусіў не дапусціць, але дапусціў.

Біблейскія тэксты не павінны ўспрымацца літаральна, гэта хутчэй павучальныя прыпавесці, якія лёгка накладаюцца і на сучаснасць. За прамінулыя з часоў Каіна і Авеля тысячагоддзі брат брата забіваў безліч разоў. І спадцішка, і на барыкадах грамадзянскіх войнаў, і ў міждзяржаўных закалотах. Да паслугаў братазабойцаў былі і ёсць цэлыя арсеналы бясконца дасканаленай зброі. Але якой бы сучаснай і эфектыўнай яна ні была, за ёю ўсё роўна праглядаецца асліная сківіца.

У контурах установак залпавага агню “Град”, якія зруйнавалі дзясяткі гарадоў і вёсак на Данеччыне, можна заўважыць абрысы аслінай сківіцы. Драпежныя гарбаносыя МіГі ляцяць, як асліныя сківіцы. Кожны калашнікаў у руках салдата – як асліная сківіца. Калі “Град”, МіГ і калашнікаў – зброя ў братазабойчай вайне, гэта – асліныя сківіцы XXI стагоддзя. Нават тэлевізар можа прыняць абрысы аслінай сківіцы, калі з яго няспынным патокам льецца братазабойчая хлусня.

Гісторыя пра своеасаблівае – Каінава – братэрства міжволі прыходзіць на розум, калі глядзіш федэральныя расійскія тэлеканалы, чытаеш афіцыйныя і прыватныя расійскія сайты. Братэрскі народ, брацкая краіна, браты-славяне... А ў тых, хто спявае пра братэрскую любоў, з-пад крыса вытыркаецца асліная сківіца. Менавіта яна з’яўляецца неад’емным атрыбутам расійска-украінскіх адносінаў апошнім часам.

І калі Газпрам, што гарыць сінім полымем, абвяшчае Украіне газават – газавую вайну, – ён таксама ваяўніча трасе над галавой аслінай сківіцай.

Дзіўна, але нават некаторыя расійскія пісьменнікі (прадстаўнікі яшчэ той, “самай гуманнай у свеце” савецкай літаратуры) парабіліся глашатаямі вайны.

Прычым, літаратурныя ветэраны накшталт Аляксандра Праханава дарэмна думаюць, што іх на перадавую не пашлюць. Памыляюцца, бо іхняя зброя – усё тая ж аслiная сківіца слова, і яна як, злавесны бумеранг, імгненна далятае да Украіны хоць сабе і з берагоў Байкала.

Дакладны дыягназ сваім калегам, якія ўзялі ў рукі братазабойчую зброю, паставіў расійскі празаік Віктар Ерафееў, нават не спрабуючы кагосьці адвесці ўбок, далей ад тых, хто падхапіў, як ён піша, "вірус імперыялізму". Гэта не правакацыйныя прыдумкі злых бандэраўцаў, так расейцы бачаць саміх сябе: "Мы даже не скрываем наше чувство превосходства перед нашим младшим братом, украинцем, или, скорее сказать, хохлом. Мы его зовём к себе как заблудшую овцу, и когда эта овца к нам вернётся, её нужно будет как следует взгреть".

Небяспечныя вірусы ў нашых кампутарах лёгка выяўляюцца і знішчаюцца адмысловымі праграмамі. Але ніякі касперскі не здольны знішчыць імперскі вірус у свядомасці нашага ўсходняга суседа. Не Праханаў з Захарам Прылепіным яго прыдумалі. На вялікі жаль, вірус гэты можна заўважыць шмат у каго з расійскіх класікаў. Хто там да нас найбліжэй? Пачытайма позняга Іосіфа Бродскага (маці якога, дарэчы, была родам з Дзвінска): "Прощевайте, хохлы, пожили вместе – хватит. / Плюнуть, что ли, в Днепро, может он вспять покатит". І далей – зняважліва пра "брехню Тараса". Тут ужо не вірус, а падазрэнне на доўгі час хаваную форму хранічнай хваробы.

Малы Ося – такую мянушку Бродскаму дала Ганна Ахматава, якая ў свой час блізка ведала вялікага Осю – Мандэльштама. А што сама Ганна Андрэеўна? У сваіх дзённіках паэтка пакінула недвухсэнсоўны запіс: "У меня в Киеве была очень тяжёлая жизнь, и я страну ту не люблю и язык. Мамо, ходимо – не люблю". Ці не ад аўтаркі знакамітага "Рэквіема" падхапіў вірус нелюбові да Украіны малы Ося? Падхапіў, каб падгадаваць і пры зручным выпадку пусціць далей.

А калі зірнуць не далей, а глыбей? Скажам, у стагоддзе XIX-е, дзе свяціла сонца расійскай паэзіі Пушкін? Плямы на сонцы і шукаць не трэба, яны відны няўзброеным вокам: "Славянские ручьи сольются в русском море...". Верш гэты, "Клеветникам России", быў пакліканы да жыцця нацыянальна-вызвольным Паўстаннем 1830 года, "волнением Литвы" – паводле Пушкіна. Ён у 1831 годзе зусім у духу сучасных пуцінскіх прапагандыстаў даваў адлуп ліберальнай Еўропе і заклікбў да рашучых дзеянняў суачыннікаў: "Вы грозны на словах – попробуйте на деле! / Иль старый богатырь, покойный на постеле, / Не в силах завинтить свой измаильский штык? / Иль русского царя уже бессильно слово? / Иль нам с Европой спорить ново? / Иль русский от побед отвык?". Дарэчы, пазней паэт паплаціўся за гэты верш уласным помнікам – ён быў прыбраны з бульвара ў Вільні і схаваны ў музей.

Пасля "Клеветников России" імперскі вірус проста з падскокам гуляў па ўсёй расійскай літаратуры. Некаторыя паэты захварэлі невылечна, як, напрыклад, Цютчаў: "Так мы под горестной Варшавой / удар свершили роковой, / купили сей ценой кровавой / России целость и покой". "Кичливый лях", "орёл презренный, хоть одноплеменный" – гэта тое, што было дазволена цэнзурай, якая, трэба прызнаць, часам стрымлівала сваіх песняроў. Нават сам цар быў вымушаны на адным з падобных твораў накрэсліць рэзалюцыю: "Прошу вас поляков не ненавидеть". Падумаць толькі – цар уціхамірваў паэтаў!

Наўрад ці мы прычакаем падобных міралюбных заклікаў ад Пуціна – адносна ўкраінцаў. Наадварот, крамлёўская прапагандысцкая машына гоніць мітынговую хвалю па ўсёй Расіі – ад Уладзівастока да Белгарада і Бранска. Хваля пераліваецца цераз мяжу, і ўжо пад расійскімі трыкалёрамі хвалюецца плошча ў Харкаве. Асабліва хутка распаўсюджваецца імперскі вірус там, дзе ёсць аазісы з адпаведным кліматам – расійскія вайсковыя базы, манастыры РПЦ... Летась я звазіў аднаго

замежнага прафесара-беларусіста ў Жыровічы. Ён выйшаў за манастырскую браму, азірнуўся і паныла прадэкламаваў: “Там русский дух, там Русью пахнет”.

Сітуацыя ва Украіне – апошняе папярэджанне нам, беларусам. Традыцыйныя яшчэ з савецкіх часоў узаемныя прызнанні ў братэрскай любові чым далей, тым часцей гучаць як шаманскія камланні. І хочацца зазірнуць за спіну шаману – ці не прыхаваў ён там асліную сківіцу? Каінава братэрства – вось такая сёння ў нас з Расіяй ступень сваяцтва.

## Каб не застацца ў саркафагу страху

Што гэта было? – пытаецца ў мяне Надзея Белахвосцік з “Комсомольской правды”. Перад ёю на століку ляжыць анталогія “Расстраляная літаратура” з творамі знішчаных падчас сталінскага тэрору беларускіх пісьменнікаў. Там – шэсцьдзясят шэсць аўтараў, а магло быць у два разы болей, магло быць два ці нават тры тамы.

Мы сядзім у Нацыянальнай бібліятэцы, дзе гэтую самую страшную ў гісторыі беларускага пісьменства кнігу не трэба замаўляць са сховішча, яна стаіць на паліцы ў агульнадаступным фондзе – поруч з найбольш запатрабаванымі энцыклапедыямі, даведнікамі, з творамі айчынных і замежных класікаў. Зроблены ўжо ў бібліятэцы дадатковы – умацавальны – пераплёт анталогіі сведчыць, што яна на паліцы не застойваецца.

Што гэта было? – пытаецца ў мяне калега-журналістка, чый сваяк, наркам асветы Антон Баліцкі таксама загінуў у Гулагу. Пытаецца пра тую страшную расстрэльную ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, калі па маршруце турма НКВД – Курапаты курсавалі дадатковыя спецмашыны, а ў жоўты пясочак пад Мінскам ляглі 104 асуджаных да найвышэйшай меры, сярод якіх 22 пісьменнікі. Пытаецца пра ноч, якая пераўзышла па працягласці самыя доўгія палярныя ночы і расцягнулася на гады.

Што гэта было... У штучных рыштоках плюскоча вясёлая вада, а высока пад шкляным дахам бібліятэкі свіргочуць на паваротках монарэйкавыя трамвайчыкі, якія вязуць кнігі ў дзясяткі чытальных залаў. Магчыма, і кнігі тых 22-х...

Магчыма, па той пакручастай рэйцы едзе да маладога чытача ў беларускую залу паэтычны зборнік “Чарнакудрая радасць” Анатоля Вольнага – з вокладкай, аздобленай пад слуцкі пояс. Ужо адна назва ў спалучэнні з аздобай выпраменьвае паэзію.

Магчыма, універсітэцкі прафесар у зале навуковай літаратуры з нецярпеннем чакае “Анталогію новай англійскай паэзіі”, якая выйшла акурат у 1937-м у Ленінградзе. Анталогія друкавалася, а аднаго з яе аўтараў – Юлія Таўбіна – у гэты час везлі на расстрэл у Курапацкі лес. Імя перакладчыка цэнзары не паспелі выкрасліць са зместу, хоць для падобных выпадкаў мелі дакладныя інструкцыі. Скажам, калі ў 1935-м арыштавалі Юрку Гаўрука, ягоны “Гамлет” у тым жа годзе выйшаў у свет без прозвішча перакладчыка. Атрымалася – Шэкспір пісаў адразу па-беларуску. Але такімі дробязямі савецкія цэнзары не пераймаліся.

А магчыма, нейкі прыхільнік “крывіцкага саманазову” беларусаў вырашыў знайсці падмацаванне сваім тэзам у мастацкай літаратуры і замовіў часопіс “Полымя” з пачаткам рамана Міхася Зарэцкага “Крывічы”. Рукапіс усяго твору быў сканфіскаваны ў арыштаванага ў 1936-м і праз год расстралянага пісьменніка і не знойдзены да гэтай пары.

А можа, дзесьці пры зрыхтаваным сканеры заклапочаны выдавец чакае “Хрэстаматыю новай беларускай літаратуры” Ігната Дварчаніна, каб падрыхтаваць яе факсімільнае перавыданне? Хрэстаматыя выйшла ў 1927-м, складальніка расстралялі праз дзесяць гадоў, але і па сёння спасылак на гэтае выданне ў сучасных даследаваннях – безліч.

Перакладчык Блока, аўтар напісанай па-чэшску манаграфіі пра Скарыну, доктар філасофіі Ігнат Дварчанін пакінуў пасля сябе яшчэ і вельмі яскравы дакумент – свае турэмныя паказанні. Калі хто з гісторыкаў аналагічныя дакументы схільны ўспрымаць усур'ёз і рабіць паводле іх далёкасяжныя высновы, няхай пачытае паказанні Дварчаніна.

"Являюсь выходцем из контрреволюционной партии... в 1917 г. активно участвовал в контр.-рев. нацдемовских съездах... сотрудничал в контр.-рев. газете «Беларуская Рада»... помещал в ней свои контр.-рев. стихотворения... печатался в контр.-рев. газете «Вольная Беларусь», участвовал во всех мероприятиях белорусской контрреволюции... в 1918 г. в Москве был связан с махровыми контрреволюционерами... по дороге в Минск вошёл в связь с отпетыми контрреволюционерами... в деревне Погири Слонимского уезда в 1918-20 гг. внедрял в массы националистические и контр.-рев. идеи... в Вильно связался с контр.-рев. Национальным комитетом и Школьной радой... в 1921 г. отправился в Латвию для ведения контр.-рев. националистической работы... в Праге в университете (1921-1926) проводил среди студентов контр.-рев. работу... в Вильно в 1927 г. на средства нацдемовской Громады издал контр.-рев. «Хрестоматию белорусской литературы»... по приезде в БССР в 1932 г. всё время являлся нацдемом, контрреволюционером и двурушником"...

Такое і доктару філасофіі сачыніць не пад сілу. У якім стане гэтыя паказанні пісаліся і пад чыю дыктоўку – больш чым відавочна. Думаецца, і астатнія аналагічныя паказанні, выбітыя ў падсудных на следстве, падпісаныя імі пасля бяссонных і бясконцых допытаў амаль у непрытомным стане, могуць быць сведчаннямі толькі супраць тае сістэмы, якая ўсё гэта прыдумала і ажыццяўляла.

Калі ў 1921 годзе бальшавікі за "недоносительство" расстралялі царскасельскага гранда Мікалая Гумілёва, гэта ўспрымалася як страшная памылка, фатальны збег абставінаў. Калі ў 1936-м фалангісты ў Іспаніі расстралялі Федэрыка Гарсія Лорку, літаратурная грамадскасць Еўропы была ў шоку. Праз год у Беларусі ўжо працаваў адладжаны канвеер смерці, які сістэматычна і мэтанакіравана вынішчаў нацыянальную эліту, і нікому ў Еўропе да гэтага не было аніякай справы. Заходнееўрапейскія пісьменнікі прыязджалі ў Савецкі Саюз, захапляліся збудаваным на людскіх касцях Беламорканалам, пісалі пра Сталіна памяркоўныя кнігі.

А тут забівалі іх калегаў – дзясяткамі і сотнямі. З прыкладна 2000 загубленых у СССР падчас бальшавіцкага тэрору літаратурных работнікаў кожны пяты – беларускі. І гэта невыпадкова. Без культурнай эліты няма народу – таму крамлёўскі правадыр заўсёды выдаваў беларусам павышаную квоту "па першай катэгорыі".

Нейкі аматар змрочнага гумару прыдумаў ходкае выслоўе: смерць аднаго чалавека – гэта трагедыя, а смерць сотняў і тысячаў – статыстыка. Калі і статыстыка, то хіба для нейкай д'ябальскай канцылярыі. Заўчасная смерць – заўсёды трагедыя, а масавае забойства – трагедыя, памножаная на колькасць ахвяраў. Да таго ж, сталінская гільяціна ў Беларусі прайшлася пераважна па маладых пісьменніках. Большыня з іх так і не паспела напісаць свае галоўныя творы. Бо што для пісьменніка 40-50 гадоў? Пачатак.

45-гадовы Максім Гарэцкі ў шмат якіх сваіх творах не паспеў паставіць апошнюю кропку. Куля паставіла. А іншыя былі знішчаныя яшчэ маладзейшымі. Міхась Чарот – у 40 гадоў, Адам Бабарэка і Францішак Грышкевіч – у 39, Фабіян Шантыр – у 36, Міхась Зарэцкі, Уладзімір Хадыка, Паўлюк Шукайла і Сяргей Дарожны – у 35, Тодар Кляшторны – у 34, Алесь Дудар – у 32, Лукаш Калюга і Валерый Маракоў – у 28, Алесь Салагуб – у 27...

У савецкім літаратуразнаўстве пра многіх з іх пісалася: верылі ў партыю, падтрымлівалі нацыянальную палітыку Крамля і г.д. Хто так і сёння думае, хай пачытае верш Алеся Дудара "Пасеклі Край наш папалам..." Гэты верш – учынак

героя, які ведае, што вернецца ў родную краіну толькі на шчыце – у пасмяротнай славе.

Але часам беларускія паэты па-партызанску білі сваіх ворагаў іх жа зброяй. Прыгавораны да расстрэлу Сяргей Фамін пасля абвяшчэння прысуду заспяваў “Інтэрнацыянал”. І яго не расстралялі ў Мінску, а адправілі ў Рэспубліку Комі, дзе праз некалькі гадоў яшчэ раз далі вышку, але ўжо па іншым артыкуле.

Што гэта было... Пасля публікацыі ў “Комсомольской правде” я атрымаў некалькі водгукаў з Украіны. Аказваецца, Беларуская Чорная Ноч рэпетавалася ў Кіеве, дзе 15 снежня 1934 года адным махам было расстраляна 15 пісьменнікаў. Грыгор Касынка, Олэкса Влызько, Дмытро Фальківскі... Дзе яшчэ і калі пісьменнікаў стралялі паўзводна?

А яшчэ невядомы мне ўкраінскі чытач паведаміў, што быў у іх і свой чэмпіён сярод катаў – капітан НКВД Матвеев, які за пяць дзён уласнаручна расстраляў 1111 асуджаных. Потым у таго капітана ягоныя ж саслужбоўцы ўзялі пісьмовыя тлумачэнні: як жа ты справіўся? І той падрабязна і без лішніх эмоцыяў апісаў, колькі разоў на дзень выязджаў на “оборудованное место”, як правяраў памеры ямаў 4х4, падрыхтоўваў пісталеты...

Што гэта было... І хто з беларускіх катаў мог бы прэтэндаваць на крывавыя лаўры капітана Матвеева?

Можа быць, той энкавэдыст, які ў лесе пад Чэрвенем у 1941-м паклаў цэлую калону палітычных, бо надакучыла гнаць іх пешкі на ўсход, а немцам пакідаць не меў права? У той дзень сярод смяротнікаў аказаўся і пісьменнік Рыгор Бярозкін, і быў таксама расстраляны, але выжыў і, дачакаўшыся начы, выпаўз з прысыпанай наспех вялікай ямы-магілы.

У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года 22 беларускія пісьменнікі ляглі ў курапацкі жвір. Каты думалі, што такімі тэмпамі яны на карані знішчаць беларускую літаратуру датэрмінова, як гэта ў іх было прынята – да чарговай чырвонай гадавіны. Да паслугаў катаў былі не толькі “оборудованныяе места”, але і ГУЛаг, які аплёў калючым дротам адну шостую частку зямной цвердзі. Але расстраляная ў Курапатах і нішчаная дзесяцігоддзямі ў ГУЛагу беларуская літаратура ўсё ж выжыла і адпаўзла ад магільнай ямы. Выжыла, каб выступіць сведкам на судовым працэсе, які калі-небудзь абавязкова адбудзецца. Іначай мы самі сябе замуруем у тым страшным часе, як у саркафагу страху.

## Турма з паліграфічным глянцам

Дзіўны атракцыён давялося мне аднойчы назіраць на сонечным востраве Іф у Міжземным моры. Цягам доўгіх гадоў там знаходзілася дзяржаўная турма Францыі, дзе трымалі асабліва небяспечных злачынцаў. А з 1926 года выспа-вязніца Іф – выключна турыстычны аб’ект, і ўвішныя цеплаходзікі ледзь паспяваюць прывозіць-адвозіць усіх ахвотнікаў да экзотыкі. Дык вось – турысты гатовыя плаціць грошы за тое, каб пасядзець у тамтэйшай турме!

На дзвярах кожнай камеры – шыльдачка з надпісам: тут сядзеў граф Мірабо, там – польскі пасланнік, а там – яшчэ нехта. Але найбольш жадаючых трапіць у камеру, дзе “сядзеў” Дантэс – не забойца Пушкіна, а выдуманы Дзюма герой славутага рамана “Граф Монтэ-Крыста”.

Назіраючы за чаргой у турэмныя вязні, я, па-першае, здзіўляўся прадпрымальніцкай спрытнасці французаў, якія паспяхова гандлююць няволяй, а, па-другое, усцешана думаў пра незвычайную сілу мастацкага слова, якое літаратурных герояў ператварае ў герояў рэальных.

Наўрад ці ў агляднай будучыні турма беларускага КДБ стане музеем – яна працягвае заставацца запатрабаванай па сваім наўпростым прызначэнні. Але

шыльдачкі на турэмных камерах у ёй таксама глядзеліся б нядрэнна: тут чакала прысуду паэтка Ларыса Геніюш, тут сядзеў аўтар выдатнай кнігі "Люблю Беларусь" Павел Севярынец, тут трымаў сухую галадоўку паэт Славамір Адамовіч, тут пісаў свае "амерыканскія вершы" кандыдат філалогіі Аляксандр Фядута, тут паэт і кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў ствараў сваю паэму "Турма"...

Стоп. Каля гэтай камеры з лічбачкай 9 на дзвярах мы трохі затрымаемся. Бо тут была напісаная не толькі згаданая паэма, але і цэлая, беспрэцэндэнтная ў гісторыі беларускай літаратуры, кніга "Лісты да Волі". Чаму беспрэцэндэнтная? Уявіце сабе тузаніну турэмнага жыцця: частыя і нечаканыя выклікі на допыт, вобшукі-шмоны ў камерах, цясноцце і халадэча ў тых каменных мяшках, ізаляванасць ад вонкавага свету... І вось, нягледзячы на ўсё гэта (і на ўсё астатняе), кожны дзень на паперы (у памяці) натуецца верш.

Напісаў я "ўявіце сабе" і міжволі задумаўся – як нам тое ўявіць, ні разу не пабачыўшы? Як уявіць тое аўтару гэтых радкоў, чый арыштанцкі досвед абмяжоўваецца дзвюхгадзінным знаходжаннем у адным са сталічных пастарункаў, хай сабе і з кайданкамі на руках? Мы ж не пабывалі ў той скуры, мы ж пра турму, па сутнасці, нічога не ведаем. І ўсё ж – мы ведаем пра яе шмат. Калі прачыталі кнігу "Лісты да Волі".

Штодзень – верш. 1 студзеня 2011 года – "Як плашчаніца, бел-чырвона-белы..." 2 студзеня – "Не ўсё дарэмна, што дарэмна..." 3 студзеня – "Дождж, што ў снежні без патрэбы..." Можа быць, такім чынам для паэта пачаўся адлік часу, запрацаваў нейкі патаемны гадзіннік – там, дзе час спыніўся, дзе блытаюцца ноч і дзень, дзе пад столлю круглыя суткі гарыць лямпачка. Бо самае, відаць, няўтульнае адчуванне, калі ты ў бясчассі. А найгорай, калі мы ўсе – у бясчассі. Хоць і на свабодзе. Але тут не пра гэта гаворка.

Паэт і турма – для беларускай рэчаіснасці сюжэт далёка не арыгінальны. Сядзелі многія. І напісана ў турме нямала – дастаткова назваць "Новую зямлю" вязня турмы яшчэ царскай Якуба Коласа ці "Пана Тадэвуша", перакладзенага вязнем турмы польскай Браніславам Тарашкевічам. Але ніхто з беларускіх паэтаў не даследаваў турму так падрабязна, як тое зрабіў Уладзімір Някляеў. Ён не адпрэчыў турму, не самазамкнуўся ў ёй, а павёў з ёю бясстрашны дуэлог (дыялог і дуэль адначасова). Атрымаўся псіхалагічна-паэтычны партрэт турмы.

Спачатку някляеўская турма, як ёй і належыць, страхотліва бразгае жалезнымі засаўкамі, запалохвае markers рознымі ўласцівымі ёй спосабамі. Думаю, шмат у каго з чытачоў перахапіла дыханне там, дзе паэт апісвае, як трое нервовых турэмшчыкаў абвяшчаюць яго дзяржаўным злачынцам (25 гадоў альбо вышэйшая мера!), потым вядуць сутарэннямі і ставяць тварам да сцяны з падазронымі шчарбінамі... Пасля такіх эксперыментаў над паэтам неяк па-іншаму, з халадком па скуры, чытаюцца радкі: "І замірае камера ў здранцвенні / на ўскрык нямы... / Тут некалі стралялі ў сутарэнні / такіх, як мы".

Потым турма і паэт узаемапрыручаюцца, і закручваецца такая ліхаманкавая драматургія, ад якой нават спрактыкаваны чытач можа забыць усе раней чытаныя ім драмы. Турма ажывае, спакушае паэта, і пад яе гарачыя нашэпты ўжо аніхто не здольны разабрацца – дзе турма, дзе тая Воля, чый Дзень мы адзначаем 25 сакавіка, а дзе тая Воля, якая марознымі раніцамі стаяла на ганку КДБ з перадачамі для свайго мужа-паэта. Які для гэтага патройнага, перажытага з неверагоднымі жарсцямі рамана прыпісаў у канцы эпілог, які нагадвае дыягназ, пастаўлены безнадзейна хвораму пацыенту: "Турма – не сцены. Для турмы / не камяні сабраны – мы".

Някляеўская Турма вартая энцыклапедыі літаратурных герояў, якая калі-небудзь з'явіцца і ў Беларусі. Турма, грымнуўшы жалезнымі дзвярамі, увайшла ў літаратуру, а літаратура – далікатна так, на дыбачках, прашамацела ў турму. Прашамацела

тым абрыўкам газеты, на якім паэт у прыбіральні прачытаў фантастычныя словы: “Держись, Володя! Твой брат Евгений Евтушенко”. Прачытаў, каб у падзячным пасланні ў адказ дапісаць вядомую паэтычную формулу свайго расійскага сябра: “Поэт в России больше, чем поэт – / и в Беларуси он ничуть не меньше”.

Пракраўшыся ў турму, літаратура не пакідала паэта і ў закратаваным варанку, у якім яго вазілі на высокі суд. Аўтару гэтых радкоў удалося папрысутнічаць на адным з судовых паседжанняў, у дэкарацыі да якога напрошваліся то мрыеўскі “Самсон Самасуй”, то купалаўскія “Тутэйшыя”, то дуніна-марцінкевічаўская “Пінская шляхта”. Невыпадкова ўрывак з апошняй гэтак трапна прагучаў у апошнім слове падсуднага, якое сталася і пасляслоўем у кнізе “Лісты да Волі”: “Расследавав дзела саабразна ўказу всеміласцівейшага гасудара... свідзецелям, каторыя не відзелі дракі, за то, што не відзелі, а цем самым і не маглі разняць дзерушчыхся, назначаецца па 5 лоз на дыване і па 5 рублёў штрафу в пользу врэменнага присутствія”. Пра што гэта? Пра Пінск у XIX стагоддзі, ці пра Мінск у стагоддзі XXI-м? І хто гэта гаворыць – самаўпэўнены станавы прыстаў Кручкоў, ці неўязная ў краіны Еўразвязу суддзя, якой, у адрозненне ад яе падвойніка, пад час абвяшчэння прысуду ўсё ж бракавала хрэстаматыйнага глянцу.

З хрэстаматыйным глянцам заўсёды так – яго бывае то густа, то пуста. Трохі загуста яго і ў аздабленні кнігі “Лісты да Волі”. Неяк трохі няёмка чытаць пра змрочнае турэмнае жыццё на глянцавай бліскучай паперы, спаміж пастановачных здымкаў аўтара, зробленых невядомым майстрам фотамадэльнай справы. Ды і той, хто даглянцоўваў кнігу перад яе сустрэчай з варштатам Скарыны, яўна перастараўся. Інакш як растлумачыць, што напісаныя пераважна ў 2011-м “Лісты...” “падпісаныя ў друк 19 снежня 2010 года”. Гэткай датай у друк іх мог падпісаць хіба згаданы ўжо прыстаў Кручкоў.

Самы поўны (7 000 адзінак) беларускі слоўнік фразеалагізмаў прафесара Івана Лепешава падае толькі адзін устойлівы выраз са словам “турма”. У кнізе “Лісты да Волі” іх набярэцца з ладны дзясятак – ёмкіх, дакладных, крылатых. А той адзіны, уключаны ў слоўнік, гучыць праз меру сентыментальна і загадкава: па ім турма плача. Па кім жа яна, суровая, плача? Прачытаўшы “Лісты да Волі”, я зразумеў – па кім. Турма плача па сваім паэце. Бо наўрад ці хто калі-небудзь напіша пра яе з такім разуменнем і любоўю, як тое зрабіў яе былы вязень Уладзімір Някляеў.

## Турма як дом творчасці

Калі сплюсаваць усе тэрміны, адседжаныя беларускімі пісьменнікамі ў турме, атрымаецца больш за тысячагоддзе.

Былі пісьменнікі, якіх турма асабліва любіла. Я ніколі не забудуся, як мы, студэнты філфака БДУ, прыйшлі ў госці да паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Рухавы і ўсмешлівы гаспадар парассаджваў нас на канапе, крэслах і зэдліках, а на заўвагу, чаму сам не прысядзе, адмахнуўся: “Ой, хлопчыкі, насядзеўся я. Пры паляках сядзеў, пры першых саветах сядзеў, пры немцах і пры другіх саветах таксама сядзеў”. Так і гутарыў з намі, успамінамі гулагаўскімі дзяліўся і свае знакамітыя “Зорачкі” спяваў – стоячы.

Былі творцы, якіх музы не пакідалі і за кратамі. Аднойчы на тым жа філфаку ў народнага паэта, старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, Героя Сацпрацы і лаўрэата ўсіх магчымых у Савецкім Саюзе прэмій Максіма Танка студэнты спыталіся: а дзе вам, шаноўны Яўген Іванавіч найлепей пісалася? “У польскай турме,” – прагучаў кароткі адказ, відавочна збянтэжыўшы прысутнае ў прэзыдыуме ўніверсітэцкае начальства.

А як тут не згадаць унука паўстанца 1863 года драматурга Каруся Каганца? Таго самага, які хадзіў па перадрэвалюцыйным Менску і даводзіў звыклым жыць

у “северо-западном крае” суайчыннікам, што “трэба Беларусь паднімаць”. Дайце веры – ён сам прасіўся ў турму!

“Дарагая Ганулька! – пісаў ён жонцы Ганне Кастравіцкай у ліпені 1910 года, – дагэтуль яшчэ не дабіўся, каб мяне пасадзілі, але ўжо ў панядзелак абяшчалі пасадзіць”. І ўжо ў наступным лісце як пра нейкае дасягненне: “Сеў у турму з лёгкаю душою 26 ліпеня. Тутака і адзін паэт, што пісаў у “Нашу ніву” і завецца Якуб. Будзь здаровенька”.

Пасядзець у адной турме адначасова з Якубам Коласам – гэта як знак лёсу. Але каб самахоць – на турэмныя нары?! Што за драматургічны сюжэт?

Аказваецца, Віленская судовая палата ў тым жа 1910 годзе прысудзіла Каруся Каганца да году зняволення ў мінскай турме. А тая стаяла перапоўненая. І мусіў пісьменнік дамагацца ўласнай пасадкі, каб хутчэй выйсці на свабоду і вярнуцца да гаспадаркі, у сваю шматдзетную сям’ю. Дамогся і – сеў. У турме пісаў вершы і маляваў ілюстрацыі да Коласавай чытанкі. Ператварыў турму – у дом творчасці.

Дзіўна, чаму пры такіх задушэўных адносінах паміж пісьменнікамі і турмой у Беларусі за доўгі час не з’явілася хоць бы сціплага літаратурнага зборніка на турэмную тэму. Выходзілі ў свет паэтычныя анталогіі пра хатынскую і чарнобыльскую трагедыі, пра маці, пра каханне, пра блізнятаў-братоў Леніна і КПСС, пра ўз’яднанне Беларусі ў 1939-м, пра Новы год і старую Вільню, нават адмысловы зборнік “Верш і храм” выйшаў у Беластоку. Тэма турмы ніколі не была кнігаўтваральнай для айчынных анталагістаў.

І вось на 497 годзе існавання друкарскага варштату Скарыны (дарэчы, і ён пабываў у турме!) такая кніга нарэшце з’явілася – анталогія “Голас волі з-за кратаў”. Склаў яе дыпламаваны літаратуразнаўца Аляксандр Фядута, які пасля Плошчы-2010 таксама апынуўся ў турэмнай камеры. Праўда, не забавіўся там, як і Скарына. Не ведаю, ці навучыўся чаму-небудзь у вязніцы наш слаўны першадрукар, а вось Фядуту турэмны досвед відавочна дапамог у працы над анталогіяй.

Васямнаццаць яе аўтараў – людзі розных прафесій і жыццёвых зацікаўленняў, якіх аб’яднала тое, што па волі лёсу суаўтарам кожнага стала турма. І рэдактарам ці, дакладней, цэнзарам – яна ж. Часцей – строгім і прыдзірлівым, радзей – літасцівым, з прыплюшчаным на імгненне-другое вокам. Бо сачы-ні сачы, усё роўна не дапільнуеш. Як пісаў класік, “не скуеш толькі дум ланцугамі”. Найбольш думаюць і марацць вязні, вядома ж, пра свабоду, а пра што пішуць?

Спецыяліст па электроніцы Ігар Аліневіч стварыў цэлы турэмны трактат – з неабходнымі статыстычнымі дадзенымі, ад якіх робіцца проста непамысна. Аказваецца, за дваццаць апошніх гадоў праз беларускую пенітэнцыярную сістэму прайшло 1 мільён 200 000 чалавек – кожны другі працаздольны мужчына, а кожны пяты адбыў большы ці меншы турэмны тэрмін. Кожны другі і кожны пяты! Калі гэта сапраўды так, то ёсць усе падставы перайменаваць Рэспубліку Беларусь у які-небудзь Беларусьлаг, а па перыметры дзяржаўнай мяжы паставіць вышкі з аўтаматчыкамі.

Журналістка Ірына Халіп апісвае яшчэ адзін – дагэтуль невядомы – від катаванняў, які з’явіўся ў арсенале мінскіх турэмшчыкаў. Да расцяжак і ластавак, да камераў-халадзільнікаў, да кругласуткавага яркага святла дадаліся яшчэ і пустапарожнія “дамскія” раманы, якія ў неабмежаванай колькасці дастаўляліся ў камеры, калі іх насельнікі прасілі пачытаць класіку. Начальнік СІЗА на пратэсты дасціпна адказваў: “Вы ў турме, а якая ж турма без катаванняў? Вось жанчынаў мы і вырашылі катаваць “дамскімі” раманамі”.

Гісторык і паэт Алесь Кіркевіч, наадварот, даймаў турэмную адміністрацыю, выкарыстоўваючы ў зносінах з ёю адметную беларускую лексіку. У сваіх аповедах ён з гумарам прыгадвае, як адзін прапаршчык літаральна шалеў, не знайшоўшы ў крапівоўскім слоўніку слова “шпацыр”.

Праваабаронца Алесь Бяляцкі, для якога вязніца стала своеасаблівым домам творчасці (за няпоўных тры гады – дзве дыхтоўныя кнігі), трапіў у анталогію з успамінамі пра моладзевы нефармальны рух у Гомелі і Мінску, пра сустрэчы з палкоўнікам КДБ Данілікам. О, гэта быў не звычайны палкоўнік. У 70-я гады ён узначальваў Ваўкавыскі аддзел дзяржбяспекі, а сярод яго падапечных была сама Ларыса Геніюш. Відаць, добра апекаваўся таварыш палкоўнік апальнай паэткай, бо пасля яе смерці быў пераведзены па службе з райцэнтра адразу ў сталіцу. У геніюшаўскім архіве прысвячэнняў Даніліку я пакуль не знайшоў, а вось Алесю Бяляцкаму сутнасць тых спатканняў у спецпакоі Акадэміі навук удалося вызначыць проста афарыстычна: “Сустрэчу з гэбэшнікамі ў тыя часы можна параўнаць з сутыкненнем з гадзюкай на вузкай сцежцы пасярод дрыгвы”.

Складанне тэматычных анталогій – справа ўвогуле рызыкоўная. Паколькі ў пэўны момант, шукаючы і знаходзячы ўсё новыя тэксты, складальнік можа страціць пільнасць, і тады тэма пачынае дамінаваць над якасцю тэкстаў. Тады анталогія пухне, а яе мастацкая значнасць мізарнее.

На шчасце, Аляксандру Фядуту густ не здрадзіў, і яму ўдалося датрымаць планку якасці на належным узроўні, нягледзячы на аб’ём ягонай анталогіі – амаль 1000 (!) старонак. І ў дынамічнай прозе Змітра Дашкевіча, і ў духаўздымных эсэ Паўла Севярынца, і ў шчырых да спавядальнасці вершах Арцёма Грыбкова і Змітра Дразда, і ў задзірыстых польскамоўных дзённіках Андрэя Пачобута – паўсюль адчуваецца тая адушаўлёнасць, без якое няма літаратуры. Гэта як у біблейскай гісторыі – была месапатамская гліна, а Бог душу ўдыхнуў, і з’явіўся на белы свет чалавек.

“Голас волі з-за кратаў” – радок Рыгора Барадуліна, адзінага аўтара анталогіі, чый жыццёвы шлях з турмой шчасліва размінуўся. Але паэт, будучы ўжо цяжка хворым, палічыў сваім абавязкам адмыслова для анталогіі напісаць верш. Змешчаны на вокладцы, ён стаў своеасаблівым corona astralis – зорным вянком – гэтай унікальнай, першай у гісторыі беларускай літаратуры кнігі.

“Голас волі з-за кратаў” гучыць як неаспрэчны адказ на чарговае нервовае апраўданне каго-небудзь з айчынных прыўладных палітыкаў: “У Беларусі няма палітвязняў!”. Яны былі ўчора і ёсць сёння. І пішуць свае тэксты-сведчанні для новых анталогій. У турме, якая для многіх з іх стала неспадзяваным домам творчасці.

## Куды ж падзеліся пісьменнікі?

Агітбрыгада расійскіх журналістаў пасля чарговага прэс-тура па Беларусі засталася, як заўсёды, задаволенай. Прадстаўнікам пераважна правінцыйных СМІ спадабалася ў нашай краіне ўсё – і новая агратэхніка на дагледжаных палетках, і спорткомплексы, і бальніцы, і чыстыя вуліцы. Прыязджае да нас знядоленая газетчыца з якога-небудзь Урупінска ці Казадоеўска і захоплена ўсплёсквае ручкамі: ах, у Беларусі дворнікі падмятаюць, камбайнеры жнуць, а даільныя апараты дояць... Дзівосы для расійскай глыбінкі.

Аднак гэтым разам у расквітнелай Беларусі гасцям не хапіла адной дробязі. А менавіта – беларускай літаратуры. Усе прафесіі навідавоку, а пісьменнікі – кудысьці прапалі. Вымерлі ўсе да аднаго за дваццаць гадоў? У гастарбайтары за мяжу падаліся? Перакваліфікаваліся ў тыя самыя дворнікі? З удаванай прастадушнасцю адна журналістка на прэс-канферэнцыі без лішніх выкрунтасаў так і спыталася: “А где же ваши писатели, Александр Григорьевич?”

І Аляксандр Рыгоравіч, таксама ўдавана ўздыхнуўшы, патлумачыў, што за часы ягонага кіравання ў беларускай літаратуры нічога вартага, на жаль, не з’явілася. Так што няма каго ўзнімаць на катурны.

Журналістка з хітрынкай у вачах выслухала даволі блытаную тыраду і ўдакладняць нічога не стала. А ўдакладніць не шкодзіла б.

Калі нічога вартага не з'явілася, то каго друкуюць на сваіх старонках тыднёвік "Літаратура і мастацтва" і часопіс "Полымя"? Адных графаманаў? Калі ў прыўладным і шматлюдным Саюзе пісьменнікаў няма сапраўды маштабных творцаў, то навошта і каму такая арганізацыя патрэбная? Мікалаю Чаргінцу – дзеля прыробку да пенсіі? Калі той саюз – пустое месца, то чаму ўсе ягоныя функцыянеры сядзяць на дзяржаўных акладах і ў вус не дзьмуць?

Старшыня паўтысячнага (!) пісьменніцкага саюза Чаргінец у інтэрв'ю "Нашай ніве" нядаўна прызнаўся, што яго ягоныя ж саюзнікі змушаюць абярэмкамі насіць Аляксандру Лукашэнку іхнія кнігі. Прыносяць спачатку ў саюз – з патрабаваннем перадаць прэзідэнту. Той пачытае і ацэніць. Нешта пакуль не ацаніў.

Па іроніі лёсу мне аднойчы давялося прысутнічаць пры перадачы кнігі прэзідэнту. Анатоль Сыс пад час нейкага пісьменніцкага сходу схапіў Мікалая Чаргінца за рукаў і дэманстратыўна ўручыў яму свой новы паэтычны зборнік з гэткім надпісам: "Алесь, любі Беларусь, любі сваю маці. Яна ў цябе старэнькая, як і ў мяне. Дык беражы яе!" Ці перадаў Чаргінец кнігу таму, каму яна падпісвалася? Сумняваюся. І рэкамендую калегам несці свае шэдэўры адразу на Маркса, 38. Нясіце, але будзьце гатовыя да лупцоўкі амапаўскімі дручкамі, бо любыя несанкцыяваныя шэсці ў раёне рэзідэнцыі прэзідэнта разганяюцца імгненна.

Беларуская літаратура ў нашай краіне – занятак, трэба прызнаць, небяспечны. Паколькі з гэтай самай літаратурай улада вядзе вайну. І аўтару гэтых радкоў нават давялося прысутнічаць пры яе абвяшчэнні. Я маю на ўвазе першую (адну з дзвюх за ўвесь час) сустрэчу кіраўніка краіны з пісьменнікамі, якая праходзіла ўлетку 1998 года ў тым самым вядомым будынку на Маркса, 38. Тады перамовы (ініцыяваныя тагачасным кіраўніком Саюза пісьменнікаў Уладзімірам Някляевым) працягваліся чатыры гадзіны, з якіх тры з паловай гаварыў гаспадар кабінета. Ён параўноўваў літаратуру з вялікай палітыкай, напорыста перабіваў пісьменнікаў, і было зразумела, што яны для яго – як змабілізаваныя ў палітычнае войска жаўнеры. А ў войску не пярэчаць – выконваюць каманды.

Чаго толькі ні наслухаліся пісьменнікі на той сустрэчы! І што "писательское перо – острое оружие", і што "президент готов поддержать тех писателей, которые поддерживают власть", і што "учебник по литературе должен быть, как с хорошей стали отточенный меч". Усім прысутным адразу стала ясна, што літаратуры, якая не жадае станавіцца "ва фрунт", беларуская ўлада абвяшчае вайну. І вайна сапраўды пачалася.

Спачатку беларускіх пісьменнікаў выціснулі з дзяржаўнага тэле- і радыёэфіра. Затым закрылі ім доступ на старонкі масавых грамадска-палітычных газетаў. Потым адбылася гвалтоўная касцянізацыя айчыннай літаратуры, калі літаратурнымі перыёдыкамі быў пастаўлены кіраваць чыноўнік па прозвішчы Касцян. Потым улады стварылі свой Саюз пісьменнікаў пад кіраўніцтвам таго самага Мікалая Чаргінца і паспрабавалі ў судовым парадку ліквідаваць не свой. Потым тагачасны міністр адукацыі А. Радзькоў разаслаў у падведамасныя ўстановы адмысловае распараджэнне, якое забараняла сустрэчы вучняў і студэнтаў з пісьменнікамі, што належалі да "няправільнага" саюза. У тым жа міністэрскім рэскрыпце рэкамендавалася наладжваць сустрэчы з "правільнымі". Па-мойму, гэта самы ганебны дакумент, які выходзіў калі-небудзь са сценаў Міністэрства адукацыі. Вымалёўвалася проста абсурдная сітуацыя: школьнікі вывучаюць на ўроках творчасць народных паэтаў Рыгора Барадуліна і Ніла Гілевіча, а сустракацца мусяць з графаманам N., які за ўсё жыццё тры разы надрукаваўся ў раёнцы, але ў прыўладны Саюз пісьменнікаў быў прыняты безадкладна.

Абсурдную сітуацыю ўзяўся выпраўляць усё той жа чаргінцоўскі саюз – з дапамогай дырэктыўных органаў. Цытую паводле афіцыйнага сайта СПБ:

“Наш Саюз мае права рэкамендаваць Інстытуту адукацыі і Міністэрству адукацыі найбольш таленавітыя творы, якія былі надрукаваныя і набылі станоўчы водгук на працягу апошніх 10–15 гадоў. Прыйшлі новыя пакаленні, новыя творцы: М. Башлакоў, З. Марозаў, М. Мятліцкі, Г. Пашкоў... Чаму іх творчасць павінна заставацца ў тэндэнцыі замоўчвання, а з класа ў клас дзеці павінны вывучаць толькі Р. Барадуліна і Г. Бураўкіна? Што тычыцца журналісткі С. Алексіевіч, дык яна ніколі не мела адносінаў да беларускай літаратуры. Гэта рускамоўны журналіст, і з яе творчасцю павінны знаёміцца па праграме “Рускамоўныя пісьменнікі Беларусі”.

Пасля такой цытаты мне хочацца звярнуцца да шведскіх акадэмікаў, каб пачакалі з разглядам творчасці Святланы Алексіевіч. Нобелеўскую прэмію яшчэ не атрымалі Змітрок Марозаў, Мікола Мятліцкі, Міхась Башлакоў і Генадзь Пашкоў. Іх вершы, як і проза яшчэ аднаго актывіста СПБ Георгія Марчука, ужо запакоўваецца на мінскім паштамце для высылкі ў Стакгольм. Творы іх надзіва змястоўныя і высокамастацкія, як напрыклад, верш пад назвай “Трактарыст”:

З-за нікчэмнай прэміі – ватоўкі,
Што табе па праву не далі,
Нібы дэзертыр вінтоўку,
ты пакінуў трактар на раллі...

Магчыма, радкі пра пакрыўджанага трактарыста не ўразяць шведскіх акадэмікаў. Тады ім нічога не застанецца, як прачытаць вершы яшчэ аднаго беларускага паэта, які своечасова зміківіў, за каго аддаць свой паэтычны голас на старонках часопіса “Полымя”. Паэт нібы звяртаецца да Беларусі, але з яўным разлікам, што будзе пачуты і там, дзе трэба:

А ты галасуеш па клічу сэрца,
А ты галасуеш душой і зрокам.
Не трутняў спажывы, а аднаверцаў
маеш у свеце шырокім.

Ну, хто цяпер паверыць, што чарговы рэферэндум ці выбары ў Беларусі сфальсіфікаваныя? “Пропечатал в газете, и порядок”, – як гаварыў незабыўны Паліграф Паліграфавіч Шарыкаў.

“А што вы хочаце? Каб пісьменнікі-апазіцыянеры вывучаліся ў школах!?” – чую я зларадное хіхіканне калегаў па пяры, што прысягнулі на вернасць уладзе. Але няўжо вы, пільнавокія і чуйнавухія, не бачыце, што ўлада ваюе не з імёнамі, не з “няправільнымі” аўтарамі, а з усёй беларускай літаратурай?

Для гэтай улады і Янка Купала – апазіцыянер, бо ў трагікамедыі “Тутэйшыя” вывеў на святло рампы прыстасаванца і прайдзісвета Мікіту Зноска. І сёй-той, между протчым, пазнаў у ім сябе. А каму ахвота глядзецца ў крывое люстэрка? Вось і вылецелі “Тутэйшыя” са школьных хрэстаматый.

Сёння ўжо ўсе забыліся пра незавершаныя выданні збораў твораў Алеся Адамовіча, Вячаслава Адамчыка і Віктара Карамазава. З часу, калі выйшлі першыя тамы, прайшло ўжо больш за пятнаццаць гадоў, а пра наступныя – і гаворкі няма. У маім кнігазборы ёсць маскоўская “Литературная энциклопедия” ў 12 тамах (гады выдання 1929-1939). Яна некамплектная – няма дзясятага тому. Доўгі час я дапільноўваў у букіністычных аддзелах той дзясяты том. Пакуль не даведаўся, што ён і не выходзіў. Аказваецца, там быў артыкул пра Сталіна, які не спадабаўся самому правадыру. І – дзясяты том быў забаронены. Сталін забараніў самога сябе, а разам і сотні другіх пісьменнікаў... Хто забараніў Адамовіча з Адамчыкам?

Падобных прыкладаў я мог бы прывесці безліч. Распачатая ўладай вайна з беларускай літаратурай працягваецца і сёння. На яе перадавых пазіцыях не грымяць гарматы. Затое пагрымваюць друкарскія варштаты, якія вялікімі накладамі друкуюць літаратуру ўсіх часоў і народаў – па-расійску. Зайдзіце ў любую кнігарню і вы пабачыце, як шматлікія паліцы з расійскамоўнай літаратурай узялі ў аблогу і заціснулі ў куток некалькі палічак з беларускімі кніжкамі.

У тон друкарскім варштатам пагрымваюць і амапаўскія дручкі – па шчытах ці па галовах – па чым патрапяць. І калі дручок апусціўся на галаву кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева – ён біў і па беларускай літаратуры.

Калі збіты да непрытомнасці і выкрадзены з лякарні паэт знаходзіўся ў засценках КДБ, Мікалай Чаргінец выступіў з адмысловай заявай, у якой асудзіў калегу і прызнаў дзеянні сілавікоў правамоцнымі.

У Максіма Гарэцкага ёсць апавяданне "Дурны настаўнік". У ім настаўніка-бязбожніка вясковыя падшыванцы дражняць: "Плюнь на царкву – дам бублік". І той пляваў, і атрымліваў "бублік". Ці не апынуліся сёння ў ролі гэткіх "настаўнікаў" і некаторыя "правільныя" пісьменнікі, якія на загад зверху, у чаканні "бубліка", гатовыя назваць чорнае белым, а рыдлёўку далакопа – лапатай клапатлівага садоўніка...

У 1942 годзе ў пражскую кватэру Ларысы Геніюш заявіліся два нямецкія афіцэры і прапанавалі propagande machen (рабіць прапаганду). Паэтка рашуча выгнала іх прэч, рызыкуючы трапіць у Асвенцым. Чым сёння рызыкуюць чальцы прыўладнага саюза? Дабрабытам? Месцам у чарзе да варштата Скарыны? Пагадзіцеся, рэчы – несувымерныя.

Мой знаёмы літаратар, які ўступіў у прыўладны саюз нібыта каб не страціць працу, пры выпадковых сустрэчах апраўдваецца, маўляў, я служу ў дзяржаўным выдавецтве, значыць – служу дзяржаве. Што можна сказаць на падобныя апраўданні? Калі пісьменнік і павінен камусьці служыць, то хіба радзіме, а дзяржаве хай служаць КДБ і АМАП.

У выдатнага расійскага паэта Барыса Слуцкага ёсць страшнаватыя радкі пра дзяржаву:

Государи должны государить,
Государство должно есть и пить,
И должно, если надо, ударить,
И должно, если надо, убить.

І, "калі было трэба", дзяржава не раздумваючы забівала ўласных грамадзянаў. У Курапатах, у Гулагу, у Катыні... Два гады таму ў серыі "Беларускі кнігазбор" выйшла кніга "Расстраляная літаратура". Там змешчаныя творы шасцідзесяці шасці беларускіх аўтараў, знішчаных бальшавіцкай уладай – ад Фабіяна Шантыра, расстралянага ў 1920-м, да Янкі Філістовіча, расстралянага ў 1950-м. Гэтую страшную анталогію нельга паказваць школьнікам, бо Мінадукацыі ў навучальнай праграме па літаратуры патрабуе: "Выключыць негатыўныя палітызаваныя ацэнкі літаратуры 30-50-х гадоў".

Да ўлады ў мяне пытанняў няма. Сваю антыбеларускую сутнасць яна паказала даўно і з тае пары не прыхоўвае. Але мне хочацца спытацца ў тых неабдзеленых талентам пісьменнікаў, якія сёння пішчом лезуць у школьныя праграмы, якія выдаюцца ў дзяржаўных выдавецтвах, выступаюць па дзяржаўным радыё і тэлебачанні, якія ўзначальваюць рэдакцыі і спадцішка радуюцца, што яны нарэшце возьмуць сваё, якія атрымліваюць пазалочаных апалонаў з рук улады: калегі, а сумленне ў вас ёсць? Няўжо вы думаеце, што з назапашаных за пазухай камянёў можна збудаваць сабе надзейны пастамент? Разваліцца ён, і грымнецеся вы долу, як было ўжо не раз у гісторыі ў падобных выпадках. І вы пра гэта ведаеце. Ве-

даеце, і працягваеце propagande machen па камандзе тых, хто распачаў вайну з беларускай літаратурай. Толькі дарэмныя вашыя высілкі. Бо, як сказаў класік, “на шыбы вечнасці ўжо лягло яе дыханне і яе цяпло”. Бо ваяваць з літаратурай – як страляць па зорках з рагаткі.

У фашыстоўскай Нямеччыне таксама змагаліся з літаратурай і нават палілі кнігі на плошчах. Прыкладна ў той самы час у двары мінскай турмы-амерыканкі таксама гарэлі вогнішчы з кніг. Каля чатырохсот назваў – спіс гэты апублікаваны ў кнізе Аляксандра Лукашука “За кіпучай чэкісцкай работай”. Былі там кнігі Максіма Багдановіча, Язэпа Пушчы, Уладзіміра Дубоўкі, Вацлава Ластоўскага, Уладзіміра Жылкі... Пра кніжнае аўтадафэ ў Нямеччыне напісаў адзін паэт, якога ўлады таксама выкідалі са школьных падручнікаў. Звалі яго Бертольд Брэхт.

Калі загадалі нацысты публічна спаліць
Кнігі са шкодным зместам,
Калі адусюль цягнулі валы да кастроў
Павозкі з кнігамі,
Адзін ганімы паэт, адзін з самых лепшых,
Прачытаўшы спіс спаленых, жахнуўся,
Чаму яго кнігі забыты.
Акрылены гневам,
Ён падбег да пісьмовага стала
І напісаў ліст да тых, у каго ўлада.
“Спаліце мяне! Не зневажайце мяне!
У спіс уключыце мяне!
Хіба я ў сваіх кнігах не пісаў шчырую праўду?
Чаму ж вы ставіцеся да мяне, як да лгуна*?

Хто з прыўладнага пісьменніцкага саюза змог бы сёння паступіць так, як брэхтаўскі Паэт? Вось, скажам, прыехаў антыфашыст Брэхт у сучасную Беларусь і пытаецца – хто? А ў адказ яму чуецца: “Не всё плохое в истории Германии было связано с Гитлером”...

Памятаю, напрадвесні мы, падлеткі, прабівалі на возеры палонкі – каб не задыхнулася рыба. На жаль, і для беларускай літаратуры сёння настаў перыяд падлёднага плавання. Дзесьці вынырнуць, хапянуць паветра і зноў на глыбіню...

Дык дзе ж яны, беларускія пісьменнікі? – пытанне расійскай журналісткі так і засталося без адказу. На вайне – адкажу я. На падлёднай ідэалагічнай вайне, дзе ідзе змаганне за сучаснасць і будучыню Беларусі і за тое, каб ва ўласнай краіне не дыхаць крадзеным паветрам.

## Як дом Багдановіча стаў сабачай будкай

Карысна перачытваць не толькі кнігі, але і ўрадавыя пастановы. Памятаю, некалькі гадоў таму на свет з’явіўся дзяржаўны План мерапрыемстваў, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Пад №187 яго зацвердзіў Савет міністраў і, трэба думаць, разаслаў для выканання ў розныя міністэрствы, выканкамы і ўстановы культуры. Цікавы, між іншым, дакумент, з дваццаці чатырох пунктаў складаўся і дазволіў легкаверным людзям чарговым разам паспадзявацца. Што ж, dum spiro spero.

Сярод агульных фразаў (“добраўпарадкаванне тэрыторый”, “арганізацыя творчых сустрэчаў”, “размяшчэнне ў тэле- і радыёэфіры тэматычных матэрыялаў”) многім чытачам тае пастановы, думаю, запомніліся некалькі канкрэтных праектаў.

Гарадзенскі аблвыканкам сумесна з Мінкультуры павінен быў усталяваць у горадзе дзяцінства паэта помнік. Помніка няма і па сёння. Ставім першы мінус.

* Пераклад з нямецкай мовы Аляксея Зарыцкага.

Літаратурны музэй М. Багдановіча разам з Мінкультуры мусілі адчыніць пасля шматгадовага рамонту філію музея – “Беларускую хатку” на Рабкораўскім завулку. Не адчынілі да гэтай пары. Ставім другі мінус.

Міністэрства замежных спраў на пару з Мінкультуры браліся стварыць цэлую Багдановічаўскую залу ў Ялцінскім гісторыка-краязнаўчым музеі. Не стварылі, нават не спрабавалі. Ставім трэці мінус.

Мінскі гарвыканкам супольна з Мінкультуры і ТАА “Трайпл” павінны былі аднавіць у Траецкім прадмесці дом, дзе нарадзіўся М. Багдановіч. Не аднавілі – а гэта быў ці не асноўны пункт дзяржаўнага плана. Ставім чацвёрты мінус.

Што можа атрымацца з чатырох мінусаў? Хіба што краты. Не думаю, аднак, што гэткая пагрозлівая геаметрыя прыйшла ў галаву чыноўнікам, якія не выканалі ўрадавую пастанову. Усё ж юбілей паэта – не “Барысаўдрэў” які-небудзь, дзе нядаўна грымелі перуны і бліскалі маланкі прэзідэнцкага гневу. Але чыноўнікі ведаюць – гнеў той непрадказальны. Таму запраектаваны дом Багдановіча сёлета вырашылі ўсё ж зрабіць. У мініяцюры. Велічынёй з сабачую будку. У зацішным кутку Траецкага прадмесця, паміж новазбудаваным шматпавярховікам і вуліцай Багдановіча, акурат насупраць помніка паэту.

Вырашылі і – зрабілі. Прычым, дом Багдановіча стаў толькі адным з элементаў скульптурна-архітэктурнай кампазыцыі, якая ўяўляе з сябе малаўцямнае нагрувашчанне жалеза і граніту. У зваранай з цэльных металічных плітаў іржавай сцяне, якая нагадвае турэмную агароджу, прарэзаныя аўтагенам вядомыя словы паэта з “Апокрыфа”: “Я ж кажу вам: добра быць коласам; але шчаслівы той, каму дадзена быць васільком. Бо нашто каласы, калі няма васількоў?”. Невядомы майстар разьбы па жалезе парупіўся і паўтарыў гэтае ж выслоўе па-ангельску, па-расійску, па-ўкраінску і па-польску. Прычым, у польскую версію пракраліся памылкі. Але як іх паправіць? І напісанае пяром не высечаш тапаром, а тут – аўтагенам па жалезе...

Пад гэтай цытадэльнай сцяной і прыляпіўся дамок Багдановіча – акурат пад рост ладнаму дварняку. Яго не адразу і згледзіш у падножжы груваcткай канструкцыі, сэнс і сімволіку якой разгадаць у сістэме эстэтычных каштоўнасцяў паэта проста немагчыма. Праўда, да вышэйапісанай спаруды вядуць дзве выштукаваныя з граніту сцежкі, якія маюць хвалістую форму і мусяць прачытвацца як слуцкія паясы. Але ўзор на іх – яўна з другога арнаменту. Ды і як на мікашэвіцкім крохкім граніце высекчы тонкія карункі слуцкіх паясоў?

Шакаваны такой безгустоўшчынай, я вырашыў абысці кампазіцыю з тылу. І тут мяне чакала яшчэ адна неспадзяванка. Аказваецца, помнік мае і прыкладную функцыю – праз яго можна трапіць у падземны гараж! У тыльны бок помніка ўбудаваная вартоўня, сходы ў якой, вымураваныя з таго самага граніту, што і “слуцкія паясы”, вядуць у падзямелле. Зразумела, што пры вартоўні і сабачая будка выглядае на месцы. Праз “дом Багдановіча” ў падземны гараж – як вам такое архітэктурнае рашэнне?

Паколькі ніякага грамадскага абмеркавання праекту не было, то невядомае і імя ягонага аўтара. Ім аказаўся малады скульптар-дызайнэр Максім Пятруль. Ён – лаўрэат дзвюх прэзідэнцкіх прэмій, апошнім часам шмат працаваў у Кітаі. У адным з інтэрв’ю прызнаўся, што яго на творчасць натхняюць, прабачце, геніталіі. Хай сабе. Цяпер падобным чынам многія мастакі самасцвярджаюцца. Нядаўна адзін творца за тыя самыя геніталіі прыбіў сябе да бруку на Краснай плошчы. Прыбівайцеся, натхняйцеся, але пры чым тут Максім Багдановіч?!

Не цешу сябе надзеяй, што пасля публікацыі гэтага тэксту нехта ў Міністэстве культуры спахопіцца. Хутчэй за ўсё, помнік у Траецкім неўзабаве адкрыюць – адначасова з уваходам у гараж. Чыноўнікі перарэжуць дзве чырвоныя стужкі.

А калі мерапрыемства закончыцца, вартаўнік-адстаўнік агледзіць даверанае яму дзіўнае збудаванне, і захочацца яму пры той мемарыяльнай будцы хіба сабаку навязаць. Удвух усё ж весялей гараж вартаваць.

## Купала Янка і лаянка

Праз якія выпрабаванні павінен прайсці пісьменнік, каб канчаткова і незваротна вытрымаць іспыт перад вечнасцю?

Праз агонь, ваду і медныя трубы – адкажаце вы. І што тут дадаць, калі ў гэтай біблейскай трыядзе насамрэч зашыфравана ўсё тое, што звычайна чакае творцу на калдобістай жыццёвай дарозе. З трох пералічаных выпрабаванняў найцяжэйшым лічацца медныя трубы – той хвалебны фіміям, ад якога шмат у каго закружылася галава, а сёй-той учадзеў ды перастаў адэкватна ўспрымаць свет.

Але ёсць яшчэ адно выпрабаванне, дадатковае, вытрымаць якое пісьменніку таксама няпроста. А магчыма, яно і найскладанейшае, бо – пасмяротнае. Праходзячы першыя тры, пісьменнік сам ці праз кагосьці можа паўплываць на сітуацыю, а вось пераадоленне чацвёртага ад яго цалкам не залежыць. Чацвёртае выпрабаванне – гэта поўны збор твораў. Калі ўдумацца, то ў гэтым ёсць нешта помслівае. Гэткая сабе помста няўдзячных нашчадкаў. Ах, цябе пры жыцці ўзвялічылі, табе помнікі скрозь паставілі? Зараз мы цябе трохі апусцім. Поўны збор твораў – адзін са спосабаў апусціць. Бо за жыццё не скажа нічога лішняга толькі нямы.

У гісторыі беларускай літаратуры пад падобную экзекуцыю падпалі пакуль толькі чацвёра – Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас і Максім Танк. Поўныя зборы твораў першых двух, куды ўвайшлі нават дарчыя надпісы на фотаздымках, ужо выйшлі, для двух апошніх гэты малапрыемны працэс яшчэ не закончыўся. Поўнымі зборамі твораў ганаруюцца (караюцца?) толькі вялікія. А з вялікіх і спыт асаблівы. Вось і шаноўны Ян Максімюк у сваім артыкуле "Цёмная камора белліту" на сайце Радыё Свабода вырашыў зрэвізаваць Поўны збор твораў Янкі Купалы ў 10 кнігах. І выбраў для рэвізіі самы змрочны пяты том, які склалі вершы і паэмы паэта за дванаццаць апошніх гадоў – з 1930 па 1942 год. Менавіта ў ім змешчаныя, па вызначэнні Максімюка, «драўляныя вершы пра хлопчыкаў і лётчыкаў ды тапельцаў у Вісле». А таксама паэма «Над ракой Арэсай», названая маім апанентам «гідотай». Ян Максімюк вывучаў гэты твор у вясковай школе на Падляшшы і да гэтай пары гідзіцца, я – у Дзярэчынскай СШ на Гарадзеншчыне, але ні тады, ні цяпер не гіджуся. «Крумкач глюгу звесіў / над згніўшай калодай, / прысніла Палессе / мінулыя годы», – з чаго ж тут гідзіцца?

Майго дзеда-хутаранца бізунамі (літаральна!) заганялі ў калгас, праўда, прапаноўвалі і альтэрнатыву – Калыму. Таму змест паэмы да мяне вельмі добра даходзіў, як і змест «Людзей на балоце» Івана Мележа. Ці існавалі калгасы на замежным Падляшшы? Ян Максімюк прызнаецца, што – не, і падзеі, апісаныя ў паэме «Над ракой Арэсай» успрымаліся ім не дужа ўцямна, як рэаліі жыцця на Марсе. Дык адкуль гэткая катэгарычнасць («гідота»!) адносна «іншапланетных» рэалій?

Я таксама не лічу згаданую паэму шэдэўрам. «Над ракой Арэсай» я б ніколі не ўключыў у выбранае Купалы, ёй месца – толькі ў ПЗТ. Але савецкая сістэма адукацыі акурат і базавалася на падобных творах. Яна мела на мэце дыскрэдытаваць нацыянальную літаратуру, каб вучні як мага хутчэй адчулі сябе часткай адзінай гістарычнай супольнасці – савецкага народу. Але ці ж варта твор Купалы, хай сабе і няўдалы, называць гідотай? Увогуле мяне здзіўляе, з якой лёгкасцю і безапеляцыйнасцю Ян Максімюк выносіць свае прысуды. Ну, напрыклад: «Купалу зламалі не толькі як паэта і як сімвал нацыянальнага духу, але і зрабілі апалагетам сістэмы, якая ў сваіх метастазах трывае ў Беларусі і па сённяшні дзень».

Па-першае, некарэктна параўноўваць сталінізм і лукашызм. Гэта ўсё ж не з

аднаго поля ягады. Па-другое, калі б Купала быў апалагетам сталінскай сістэмы, яго не цягалі б на начныя допыты ў ГПУ, ён не рабіў бы сабе харакіры, а яго кнігу «Творы» ў 1930-м не парэзалі б на макулатуру. Урэшце, у 1942 годзе таварыш Айзік Кучар не напісаў бы санкцыяваны зверху хлуслівы данос у адпаведныя інстанцыі, што фашысты ў акупаваным Менску назвалі вуліцу імем Купалы, пасля чаго паэта скінулі ў лесвічны пралёт гасцініцы «Масква» (была ж прычына!). Са сваімі апалагетамі сістэма так не абыходзілася.

Прызнаюся, мяне проста шакуюць сваёй паказной бравадай «парады» Яна Максімюка Купалу: мог жа дзеля ўратавання свайго імя падацца ў эміграцыю, «мог сказаць бальшавікам «не» і ўпасці ў дол у Курапатах», «мог бы напісаць нешта, што праслізнула б праз сетку бальшавіцкай цэнзуры і засталося б нам у спадчыну як сімвал нескаронасці духу перад дулам пісталета».

А хіба перадсмяротны ліст Купалы не ёсць гэтае «нешта»? «Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная. Відаць, такая доля паэтаў. Павесіўся Ясенін, застрэліўся Маякоўскі, ну і мне туды за імі дарога...» Ці многа ў сусветнай літаратуры падобных дакументаў? Якіх жа яшчэ «сімвалаў нескаронасці» нам трэба?

У свой час, агледзеўшы экспазіцыю Купалаўскага музея, у сутнасці сваёй – ардэнаносна-савецкую, я напісаў верш, у якім былі такія радкі:

Вось Купалу машына вязе,
Вось Купала заняты гаворкаю.
Вось Купала стаіць у чарзе –
Не па хлеб, па аўтограф да Горкага.
Вось Купала ў прэзідыўме зноў ж
Разам з іншымі дбае аб міры...
Пакладзіце ля ордэна нож,
Што зрабіў песняру харакіры!

Нож поруч з ордэнам у экспазіцыю і да сёння не паклалі. Як не паклалі і перадсмяротны ліст паэта на імя старшыні ЦВК Аляксандра Чарвякова. А каб паклалі? Як гэтыя экспанаты ўжываліся б з ордэнам Леніна? Нешта давялося б прыбраць. Я прыбраў бы ордэн...

Ці выратавала б Купалу эміграцыя? Сумняваюся. Вось жа Ларысу Геніюш і эміграцыя не ўратавала. З другога боку, як тая эміграцыя мусіла выглядаць? Купала на ўласным «шэўрале» пад'язджае да «Негарэльскае аркі», яму казыраюць памежнікі, а начальнік пагранзаставы становіцца на зважай? Такую карціну ўявіць немагчыма, можна толькі напісаць – «маслом». Посным. Бо іншым ніяк не атрымліваецца.

Што да знакамітага «шэўрале», якое часам таксама выступае ў якасці аргумента... Аднойчы ў Ляўках, пабачыўшы лецішча Купалы і гараж з тым самым аўто, я пацікавіўся ў музейнага наглядчыка: а што гэта за дамок проста перад ганкам паэта? А ў ім жыў Купалаў шафёр – патлумачыў наглядчык...

А цяпер давайце пачытаем ліст Купалы да сябра Б. Емяльянава, пісаны 8 траўня 1942 года ў Пячышчах пад Казанню: «Шафёр Яртымік у мяне больш не працуе, пачаў хаміць – ажно да асабістых абразаў». Ці магчыма ўявіць сабе звычайнага шафёра, які абражае таго, каго возіць – па даручэнні ўраду? Немагчыма. Значыць, шафёр, які меў дамок-вартоўню пры паэтавым лецішчы, быў не зусім звычайны. Да забойства Купалы заставалася менш за два месяцы, пра тое таварыш Яртымік ведаў, вось і «адвязаўся». Старэйшыя пісьменнікі прыгадвалі: калі той шафёр памёр, дык хавалі яго з ротай ганаровай варты. Купалу так не хавалі. Так што тое разрэкламаванае «шэўрале» было насамрэч «чорным воранам», які і прывёз урэшце Купалу да пагібелі.

Аўто, дарэчы, нядаўна выстаўлялі пры музеі на ўсенародны паказ. Цэлы натоўп вакол сабраўся, карэспандэнту БТ было дазволена залезці ў кабіну. Вось на што агідна было глядзець. Якая там рака Арэса... «А па рэчцы па Арэсе / бегае маторка, / стары човен, як карыта, / пазірае горка». Эх, каб сеў Купала ў тую маторку, ды па Арэсе – у Прыпяць, а па Прыпяці – у Буг, а па Бугу – у Віслу, па якой плаваў тапелец, а па Вісле – яшчэ куды далей і далей... Наталля Арсеннева заплыла ажно за Атлантычны акіян, у ЗША. І што – уратавала імя? «Люблю цябе, Сталін, і я невымоўна», – гучыць аднекуль, мабыць, з «цёмнай каморы белліту», яе даваенны верш.

А следам, з гэткай жа цёмнай каморы, гучаць радкі Ганны Ахматавай: «И благодарного народа / Вождь слышит голос: «Мы пришли / сказать, – где Сталин, там свобода, / мир и величие земли».

А следам «цёмная камора» азываецца голасам Восіпа Мандэльштама: «И на земле, что избежит тленья, / будет будить разум и жизнь Сталин».

А следам ужо чуваць цэлы хор прасталінскай паэтычнай патэтыкі – Мікалай Забалоцкі, Барыс Пастарнак, Яраслаў Сайфэрт, Пабла Нэруда... Ахматава, каб уратаваць з Гулага сына, напісала і надрукавала цэлы зборнік прасавецкіх вершаў з вельмі вымоўнай назвай «Слава міру». Народнаму паэту Беларусі Янку Купалу таксама было што і каго ратаваць, і ён выдатна ведаў, чым можа абярнуцца ягонае непадпарадкаванне, ягоны бунт.

Чаму ж сёння ў Расеі не пабіваюць камянямі тую ж Ахматаву, а захапляюцца яе «Рэквіемам»? Чаму там не прывязваюць да ганебнага слупа Мандэльштама, Забалоцкага і Пастарнака? І чаму ў Беларусі стала ледзь не модным звінавачваць Купалу ў «здрадзе літаратуры», называць яго Каянам Лупакам ды папікаць савецкім ордэнам, лецішчам і персанальным «шэўрале»?

«Як чалавека, Купалу можна і трэба апраўдваць. Як прароку і паэту, яму няма даравання», – з уласцівай яму катэгарычнасцю заяўляе Ян Максімюк. Рыхтык пракурор на судзе. Усім крытыкам з пракурорскімі замашкамі я мог бы назваць дзясятак-другі геніяльных твораў Купалы, пачынаючы з паэмы «Курган», якой адной хопіць для любога апраўдання, але замест гэтага нагадаю адну старазапаветную прыпавесць. Хам, сын Ноя, пабачыў на спячым пасля выпіўкі бацьку непрыкрыты сорам і пачаў пад'юджваць братоў Сіма і Яфета на здзек са старога. Але тыя далікатна паправілі бацькава адзенне і прысаромілі Хама. У свой час гэтую прыпавесць трапна пракаментаваў Антон Паўлавіч Чэхаў: «Хам заўважыў толькі, што бацька ягоны – п'яніца, і зусім забыўся пра тое, што ён пабудаваў каўчэг і выратаваў свет».

Янка Купала таксама пабудаваў для нас каўчэг. Разам з Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Алесем Гаруном, Максімам Гарэцкім. Каўчэг новай беларускай літаратуры. Дык ці выпадае нам сёння прыпадабняцца да таго Хама, якому так хацелася паздзекавацца з бацькі?

Пра горы мяркуюць па вяршынях. А пра вялікіх пісьменнікаў – па іхніх шэдэўральных творах. Не варта залазіць у «цёмныя каморы» поўных збораў твораў і выцягваць адтуль на белы свет нештачка такое, што выклікае ў сённяшніх літаратурных гурманаў эстэтычнае ці любое іншае несмакоцце. Тым болей, не трэба трагедыю ператвараць у фарс.

І апошняе. Янка Купала – псеўданім Яна Луцэвіча, сына Дамініка. Можна сказаць Ян Луцэвіч, а можна – Луцэвіч Ян, ад гэтага нічога не зменіцца. Але паводле гетэранімічных нормаў і здаровага сэнсу нельга перастаўляць месцамі склады і словы ў псеўданіме. Бо калі мы замест звыклага Янка Купала гаворым Купала Янка, чуецца – лаянка. Давайце не будзем лаяцца.

Лада Алейнік



...заўсёды добра рабіць, як рабілі дзяды.
Яны былі не зусім дурні...

# Дзядзькаванне: звычай ці міф?

***Праблема сацыялізацыі асобы ў рамане Уладзіміра Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім"***

Тэрмін "сацыялізацыя" пачаў выкарыстоўвацца пры канцы XIX стагоддзя ў амерыканскай сацыялогіі. У 1896 г. у артыкуле "Сацыяльны кантроль" яго выкарыстаў Эдвард Рос, адзін з заснавальнікаў амерыканскай сацыялогіі і сацыяльнай псіхалогіі. У 1897 г. амерыканскі сацыёлаг Франклін Гідынгс надрукаваў кнігу "Тэорыя сацыялізацыі". У 1916 г. заснавальнік Чыкагскай школы сацыялогіі Эрнст Бёрджэс абараніў доктарскую дысертацыю "Функцыі сацыялізацыі ў сацыяльнай эвалюцыі".

Узнікненне тэрміна "сацыялізацыя" было абумоўлена аб'ектыўнай неабходнасцю развіцця сацыялогіі – навукі аб заканамернасцях функцыянавання грамадства. Працэс інтэграцыі асобы ў сацыяльную сістэму амерыканскага грамадства, якое з'яўляецца кангламератам уласных і сусветных культурных каштоўнасцей, норм у галіне асабістых і сямейных узаемаадносінаў, надзвычай складаны і шматаспектны. Назву "сацыя-

лізацыя" атрымала з'ява, якая абагульніла шэраг працэсаў, датычных фарміравання і сацыяльнага станаўлення чалавека: гэта і выхаванне, і інкультурацыя, і інтэрыярызацыя (інтэрналізацыя), і сацыяльная адаптацыя, і самаідэнтыфікацыя.

У сярэдзіне XX стагоддзя аформілася тэорыя сацыялізацыі, тэрмін увайшоў ва ўжытак у сусветнай навуцы. Несумненна, зварот да пытання, якім чынам чалавек робіцца кампетэнтным членам грамадства, заўсёды быў у цэнтры ўвагі навукі. "Да афармлення тэорыі сацыялізацыі ў адносна самастойную галіну навуковых даследаванняў, праблемы, датычныя станаўлення асобы, вывучаліся ў рамках традыцыйных праблем чалавеказнаўства (выхавання, фарміравання і развіцця асобы і грамадства, пераемнасці пакаленняў і інш.). Са з'яўленнем у навуковым выкарыстанні паняцця "сацыялізацыя" адбылася пераарыентацыя гэтых работ у новае рэчышча" [1, с. 10–11]. Паводле свайго зместу тэрмін "сацыялізацыя" з'яўляецца міждысцыплінарным і выкарыстоўваецца ў такіх розных галінах ведаў, як сацыялогія, псіхалогія, філасофія, педагогіка, антрапалогія, этнаграфія і іншых. Аднак у філалагічнай навуцы праблема сацыялізацыі асобы яшчэ не набыла належнага асвятлення, гнасеалагічны і анталагічны патэнцыял мастацкай літаратуры не даследаваўся з пункту гледжання сацыялізацыі.

Феномен сацыялізацыі знайшоў дастаткова грунтоўнае і шматаспектнае ўвасабленне ў беларускай літаратуры XX – пачатку XXI стагоддзяў. Аднак варта падкрэсліць, што, аналізуючы мастацкія творы, у якіх адлюстраваны працэс сацыялізацыі, даследчыкі традыцыйна вялі гаворку выключна пра выхаванне асобы. Між тым сацыялізацыя і выхаванне з'явы не тоесныя. У адрозненне ад сацыялізацыі, якая адбываецца ў выніку стыхійнага ўзаемадзеяння чалавека з навакольнай рэчаіснасцю, выхаванне – працэс свядомага і мэтаскіраванага псіхолага-педагагічнага ўплыву на асобу. Вядома, што чалавек можа быць выхаваным і інтэлігентным, мець высокія маральныя прынцыпы, але пры гэтым не ведаць жыцця, не ўмець да яго прыстасоўвацца. І наадварот – можа дастаткова камфортна пачувацца ў соцыуме, але пры гэтым быць не выхаваным, не мець маральных перакананняў.

Безумоўна, мастацкую літаратуру нельга разглядаць як фактаграфічна-дакладную крыніцу інфармацыі. Аднак літаратурныя творы, у якіх вобразна адлюстраваны і асэнсаваны культурна-гістарычны і сацыяльны вопыт чалавецтва, актыўна спрыяюць працэсу пазнання. Нягледзячы на значнасць рацыянальнага вопыту ў жыцці чалавека, эмацыйна-пачуццёвае і эстэтычнае спасціжэнне рэчаіснасці адыгрывае не менш істотную ролю ў фарміраванні асобы.

Мэтазгодна адзначыць, што на мяжы XX і XXI стагоддзяў усё больш выразна выяўляецца тэндэнцыя да збліжэння прыродазнаўчых, сацыяльных і гуманітарных навук, фарміруецца прынцыпова новы падыход да асэнсавання аб'ектаў даследавання і рэальнасці ў цэлым. Сучасныя вучоныя падкрэсліваюць: "Узаемадзеянне паміж сферамі прыродазнаўчых і гуманітарных ведаў, якое на этапе дысцыплінарнай арганізацыі навукі прымала пераважна форму трансляцыі метадалагічных установак прыродазнаўчых навук у сацыяльна-гуманітарныя веды, у постнекласічнай навуцы ажыццяўляецца на аснове аб'яднання кагнітыўных і аксіялагічных параметраў навуковых ведаў" [2, с. 251]. У святле найноўшых навуковых тэндэнцый даследаванне мастацкага асэнсавання сацыялізацыі чалавека набывае асаблівую значнасць і прымае характар не абстрактна-эстэтычны, а сацыяльны і канкрэтны.

Адным з выбітных узораў айчыннай прозы XX ст., дзе маляўніча і па-мастацку пераканаўча адлюстраваны працэсы выхавання і сацыялізацыі асобы, з'яўляецца раман У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім". Лёс галоўнага героя твора – нашчадка княжацкага роду Алеся Загорскага, прадвызначае "дзядзькаванне" – шэсць год жыцця ў сялянскай сям'і Кагутоў. Сутнасць звычаю дзядзькавання вытлумачвае ў зачыне твора дзед Даніла – старэйшы з роду Кагутоў, які вядзе размову з маленькім унукам Юрасём:

“ – Зводзіцца стары звычай, Юрак. Калісь па ўсім Прыдняпроўі і далей гэта як звыклае было. Я помню, да французаў яшчэ, мала хто з паноў, праваслаўных асабліва, не рабіў гэтага... А цяпер усё радзей і радзей...

– А нашто гэга? – спытаў Юрась. <...>

– Каб ведалі, як даецца зямля, – сказаў дзед, – каб не збэсціліся на сабаку.

Аддавалі, бывала, як толькі чатыры гады дзіцяці. Хто на тры, а хто і на пяць год. І зусім не дапамагалі халопскай сям’і. А потым, калі возьмуць хлопца зноў у двор – даюць мужыку пакормнае, за тое, што хлопец з’еў, і дзядзькавое, бо ўсе мы як быццам дзядзькі малому, выхоўвалі яго, розуму вучылі” [3, с. 17].

Першы жыццёвы досвед Алесь Загорскі атрымаў ва ўласнай сям’і, дзе ён жыў да сямі год[1] і выхоўваўся ў арыстакратычных традыцыях – засвойваў замежныя мовы, вытанчаныя манеры і правілы этыкету свецкага асяроддзя. Але каб аднойчы прыняць на сябе абавязкі князя, хлопчыку, на думку бацькі, варта было зведаць іншы бок рэчаіснасці – засвоіць лад жыцця тых людзей, над якімі з цягам часу ён зробіцца гаспадаром. Князь Юрый Загорскі даводзіць жонцы: “Бацька даў толькі лёгкі намёк на тое, што Алеся пажадана аддаць на “дзядзькаванне”. Астатняе дадумаў і вырашыў я. Кагуты – лепшыя гаспадары. Майстры. Сумленныя, здаровыя людзі. <...> Я не хацеў, каб сын пайшоў у мяне. Я хацеў, каб ён быў моцны, увесь ад гэтай зямлі. Няхай сабе яго не кармілі каплунамі. Ты паглядзі на большасць яго аднагодкаў: спешчаныя, саслабелыя. Заўсёды добра рабіць, як рабілі дзяды. Яны былі не зусім дурні. Я хацеў, каб з яго вырас сапраўдны пан, мацнейшы за хлопаў не толькі розумам, а і целам. <...> Некалькі год сярод жытнікаў, простая здаровая ежа, шмат паветра, фізічныя практыкаванні, размеранае жыццё. А лоск мы яму вернем за год” [3, с. 50–51]. Такім чынам, Юрый Загорскі кіраваўся жаданнем даць сыну магчымасць адчуць і зразумець народнае жыццё, убачыць свет вачыма сялян. Паўнавартасная сацыялізацыя мае на ўвазе засваенне норм і каштоўнасцей менавіта грамадства, у якім чалавек жыве, а не толькі пэўнай сацыяльнай групы. У сацыялізацыі, апроч усяго, немалаважную ролю адыгрывае “ментальны інструментарый” – мова, абрады, звычаі, вераванні, рэлігія, міфы, мастацтва, мараль. Відавочна, што Алесь Загорскі насамрэч сацыялізаваўся – не толькі ўсвядоміў сваю нацыянальную прыналежнасць, але адчуў крэўную повязь з народам: “Я мужык. Я князь, але я і мужык. Магчыма, мяне тым дзядзькаваннем няшчасным зрабілі. Але я таго няшчасця нікому не аддам. У ім маё шчасце. Яно мяне вярнула да народа. Да гнанага, да аббрэханага кожным сабакам. І я цяпер з ім, што б ні здарылася” [4, с. 12].

Неабходна заўважыць, што насуперак распаўсюджанаму меркаванню, што “дзядзькаванне” – гэта “даўні беларускі звычай” аддаваць дзіця на выхаванне ў сялянскую сям’ю, які “быў вядомы ў сярэднія вякі і захаваўся да XVIII стагоддзя” [5, с. 137, 146], дакладных гістарычных сведчанняў пра гэта няма. Тым больш

---

[1] У творы не зусім дакладна вызначана, у якім узросце Алеся Загорскага аддалі на дзядзькаванне. У пачатку рамана адзначана, што хлопчыку каля адзінаццаці год. “У той майскі дзень на пясчаным адхоне, пад той самай грушай, якой канчаўся цяпер Кагутоў надзел, сядзела чародка дзяцей – тры хлапчукі і дзяўчынка. Толькі два старэйшыя – кожнаму год па адзінаццаць – сядзелі, абкруціўшы клубы кужэльнымі сарочкамі” [3, с. 12]. Старэйшыя – гэта Алесь Загорскі і Павал Кагут. Алесь прызнаецца, што не хоча вяртацца ў маёнтак, Павал яго супакойвае: “Прывыкнеш. <...> Памятаеш, як шэсць год таму роў, калі цябе да нас прывезлі? І страшна ў нас, і чорна. Прывык жа...” [3, с. 13]. Гэта значыць, што Алеся Загорскага прывезлі на дзядзькаванне ў пяць год. Але пазней, калі хлопчыка забралі ў маёнтак, аўтар падкрэслівае, як хутка Алесь засвойвае замежныя мовы: “Быццам даўно ведаў, а потым на хвіліну забыў. Так яно, урэшце, і было, бо да сямі год ён не ведаў іншых моў, акрамя французскай і нямецкай” [3, с. 60]. Атрымліваецца, што Алесь жыў у роднай сям’і да сямі год.

не выпадае сцвярджаць, што гэты звычай быў “пашыраны” на Беларусі ў XVI – XVIII стст., як адзначаецца не толькі ў пераважнай большасці літаратуразнаўчых прац, прысвечаных раману У. Караткевіча, але і ў навуковых манаграфіях, прысвечаных беларускай народнай педагогіцы [6]. У некаторых даследаваннях нават сустракаюцца сцвярджэнні, што “на Мазырскім Палессі гэты звычай у некалькі іншай інтэрпрэтацыі захаваўся практычна да нашага часу” [7, с. 15]. Крыніцай інфармацыі, паводле спасылкі, прыведзенай аўтарам, з’яўляецца кніга Г. Волкава “Аб традыцыях чувашскага народа ў эстэтычным выхаванні” [8], у якой, аднак, не сустракаецца звестак ні пра дзядзькаванне, ні пра Мазырскае Палессе.

У савецкай гістарычнай навуцы звычай дзядзькавання згадваецца ў працах В. К. Гарданава [9; 10]. У артыкуле “Кармільства ў старажытнай Русі” даследчык падкрэсліў, што апісання сутнасці звычаю ў гістарычных крыніцах яму знайсці не ўдалося. На думку вучонага, сведчаннем існавання ў старажытнай Русі інстытута кармільства могуць з’яўляцца згадкі пра кармільцаў і дзядзькоў у летапісах, жыційнай літаратуры і рознага роду граматах. “На жаль, усе гэтыя крыніцы сведчаць пра кармільцаў і дзядзькоў празмерна скупа, абмяжоўваючыся ў большасці выпадкаў адно згадкамі пра асобаў, якія з’ўляліся выхавацелямі-кармільцамі княжацкіх сыноў. Абрывачнасць і сціпласць звестак, якія маюцца ў пісьмовых помніках старажытнай Русі наконт пытання, якое нас цікавіць, у пэўнай ступені можа быць дапоўнена параўнальна-гістарычным матэрыялам, датычным інстытутаў, якія паводле свайго паходжання і асноўных прыкмет з’яўляюцца аналагічнымі старажытнарускаму кармільству. У гэтай сувязі асаблівую цікавасць для нас уяўляе каўказскі этнаграфічны матэрыял, які адносіцца да так званага аталыцтва (ад слова “аталык”, што значыць “выхавацель”, “кармілец”), інстытуту, шмат у чым падобнаму да старажытнарускага кармільства” [9, с. 44]. Відавочна, што меркаваць пра славянскі звычай дзядзькавання на падставе “каўказскага этнаграфічнага матэрыялу” неправамерна.

У постсавецкай гістарычнай навуцы звычай дзядзькавання зрабіўся аб’ектам увагі шэрагу вучоных [11; 12; 13]. Аднак скупыя звесткі ў старажытных пісьмовых помніках, да якіх апелююць даследчыкі, дазваляюць толькі дапусціць, што меліся адзінкавыя факты выхавання княжацкіх дзяцей па-за межамі ўласнай сям’і. Пры тым не ў сялянскіх сем’ях, а ў знатных і заможных ваявод ці баяр (пераважна родзічаў ці сваякоў), паколькі “кармільства” прадугледжвала перадусім вайсковую падрыхтоўку і адукацыю. Але неабходна падкрэсліць, што дакладнай інфармацыі ні пра форму, ні пра змест гэтага працэсу не знойдзена.

Гісторык В. Пілецкі заўважае, што пра наяўнасць звычаю “кармільства” ў асяроддзі прывілеяванага насельніцтва ўсходнеславянскага рэгіёна можна гаварыць “з пэўнай доляй упэўненасці”, якая “звязана з распаўсюджанасцю ў грамадстве на полацка-тураўска-смаленскіх землях прозвішчаў, вытворных ад слова “дзядзька”. Гэта такія, як “дзятко”, “дзядзін”, “дзядзьковіч”, “дзеткавец”, “дзяткоў” і інш., якія ў даволі не малой колькасці захаваліся ў асяроддзі беларускага насельніцтва ажно да сённяшніх дзён” [13, с. 23]. Думаецца, аднак, што прыведзены аргумент не з’яўляецца пераканаўчым доказам.

Верагодна, у стварэнні міфа адносна “пашыранасці” звычаю дзядзькавання на беларускіх землях у XVI – XVIII стст. вызначальную ролю адыграў менавіта раман У. Караткевіча. Творчая інтуіцыя дазволіла таленавітаму пісьменніку адчуць і аб’ектыўна ўсвядоміць, што адлюстраванне вобраза народнага заступніка патрабуе пэўнай логікі – гэты герой не можа быць ізаляваным ад таго сацыяльнага асяроддзя, за незалежнасць якога ён змагаецца. Ён павінен быць далучаным да жыцця сялян, да тых тых вытокаў, адкуль бяруць пачатак крыніцы народнай душы. Інакш кажучы, мастацкая інтэрпрэтацыя звычаю дзядзькавання дэтэрмінавана творчай задачай аўтара.

Пісьменніцкую індывідуальнасць У. Караткевіча, як вядома, вызначаюць імкненне да рамантызацыі і ідэалізацыі нацыянальнай гісторыі, схільнасць да міфатворчасці і белетрызацыі. А. Лойка – літаратуразнаўца і пісьменнік, блізкі сябар У. Караткевіча, засведчыў: “Зрэшты, аб значэнні гісторыі для народа, для нацыі Уладзімір Караткевіч – я памятаю, на свае вушы чуў – гаварыў заўзята... <...> “Калі і няма ў народа гісторыі, трэба яе выдумаць”. Вядома, Караткевіч не толькі ведаў гісторыю роднага краю, але і выдумляў яе. Выдумшчык, выдумляльнік! Канешне, як аўтар гістарычных аповесцяў і раманаў Уладзімір Караткевіч без выдумкаў не абыходзіўся, але ён не быў падтасоўшчыкам гісторыі, не быў чэхам, які выдаваў краледворскія рукапісы за арыгінал, хоць былі яны яго падробкай. Ды каб не гэтая падробка, ці ж анямечаныя чэхі сталі б чэхамі? <...> Караткевіч – у пару савецкай русіфікацыі, калі Беларусь сваёй уласнай гісторыі пазбаўлялася, вяртаў ёй гісторыю, выдумляў ёй міфы, аб чым <...> ведаў Адам Мальдзіс, потым ужо ў сваёй кнізе пра Караткевіча засведчыўшы гаворанае Уладзімірам: “Павінны ж мы ў рэшце рэшт абрастаць міфамі!” [14, с. 13–14].

Безумоўна, стварыць міф пра звычай дзядзькавання на Беларусі У. Караткевічу ўдалося. Раман “Каласы пад сярпом тваім” зрабіўся адным з самых папулярных і любімых чытачамі твораў айчыннай літаратуры, а яго галоўны герой – сімвалам духоўнай велічы, высакароднасці і патрыятызму. У вялікай ступені гэтаму паспрыяла дакладнае мастацкае адлюстраванне працэсу сацыялізацыі героя, змест якой увасоблены ў звычаі дзядзькавання. “Навуку, якую засвойвалі дзеці пры ажыццяўленні выхаваўча-адукацыйнага працэсу шляхам дзядзькавання, на нашу думку, можна вызначыць перш за ўсё як “жыццёвую мудрасць” і “сталенне”. Наўрад ці хто вучыў дзяцей нейкім спецыяльным ведам. Але знаходжанне падлетка ў значнай аддаленасці ад свайго дому, і самае галоўнае адарванасць ад бацькоў (братоў, сясцёр), якія ўяўлялі сабой прывычнае для яго сацыяльнае асяроддзе ў маленстве, рабіла маладога чалавека поўнасцю адказным за свой уласны лёс. <...> Адбываўся інтэнсіўны працэс сталення і накаплення жыццёвай “навукі” – той, якая была вядома ўсім дарослым людзям, прадстаўнікам адпаведнага сацыяльнага асяроддзя” [13, с. 23].

Вобраз Алеся Загорскага захапляе, натхняе і ўспрымаецца чытачамі як рэальная асоба, і нават навуковы свет прыняў мастацкую інтэрпрэтацыю звычаю дзядзькавання як гістарычны факт, як аксіёму. Таленавітыя мастацкія творы валодаюць несумненнай сугестыяй – уражваюць, уплываюць на светапогляд, на фарміраванне маральных ідэалаў і каштоўнасных арыенціраў. Гэта значыць, што літаратура не толькі адлюстроўвае механізм сацыялізацыі, але з’яўляецца яе непасрэдным фактарам – садзейнічае маральнаму развіццю, засваенню сацыяльна-грамадскага і культурна-гістарычнага вопыту, аксіялагічнаму станаўленню і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

Літаратура:

1. Мудрик, А.В. Социализация человека : учеб. пособие / А.В. Мудрик. – 3-е изд., испр. и доп. – М.: МПСИ ; Воронеж : МОДЭК, 2010. – 624 с.

2. Доброродний, Д.Г., Шаврова, О. Г. Взаимодействие естественных и социально-гуманитарных наук как предмет философско-методологической рефлексии // Научные труды Республиканского института высшей школы. Философско-гуманитарные науки: сб. науч. ст.; редкол.: В.Ф. Берков [и др.]. – Минск, 2012. – С. 251–258.

3. Караткевіч, У. Каласы пад сярпом тваім. Кніга першая / Уладзімір Караткевіч. – Мінск: Беларусь. – 1968. – 364 с.

4. Караткевіч, У. Каласы пад сярпом тваім. Кніга другая / Уладзімір Караткевіч. – Мінск: Беларусь. – 1968. – 384 с.

5. Верабей, А. Уладзімір Караткевіч: жыццё і творчасць / А. Верабей. – Мінск: Беларуская навука, 2005. – 271 с.

6. Арлова, Г.П. Беларуская народная педагогіка / Г.П. Арлова. – Мінск: Народная асвета, 1993. – 120 с.
7. Болбас, В.С. Народная педагогіка Мазырскага Палесся / В.С. Болбас, І.С. Сычова. – Мазыр : Белы Вецер, 2012. – 246 с.
8. Волков, Г.Н. О традициях чувашского народа в эстетическом воспитании / Г.Н. Волков. – Чебоксары : Чуваш. кн. изд-во, 1965. – 60 с.
9. Гарданов, В.К. "Кормильство" в древней Руси // Советская этнография. – 1959. – № 6. – С. 43 – 59.
10. Гарданов В.К. "Дядьки" Древней Руси // Исторические записки. – Т. 71. – Москва, 1962. – С. 236 – 249.
11. Мазур, О. Релікти авункулату і "кормильство" у князівських династіях Рюриковичів і П'ястів // Народознавчі Зошити. – Ч. 3. (39). – 2001. – С. 416 – 424.
12. Петрик, А. "Великий галицький боярин Дмитро Детко та його Рид" // Дрогобицький краезнавчий збірник / Ред. кол. Л. Тимошенко (голов. ред.), Л. Винар, Л. Войтович, Я. Ісаевич та ін. – Вип. XIII. – Дрогобич: Коло, 2009. – С. 33 – 44.
13. Пілецкі, В. "Кармільства", ці "дзядзькаванне", як адна з форм выхаваўча-адукацыйнага працэсу насельніцтва тэрыторыі Беларусі ў раннесярэднявечную эпоху // Гістарычна-археалагічны зборнік. – Вып. 25. – Мінск: Беларуская навука, 2010. – С. 21 – 24.
14. Лойка, А. Уладзімір Караткевіч, або Паэма Гарсія Лойкі // Полымя. – 2009. – №1. – С. 3 – 43.

Ціхан Чарнякевіч



...у кожным маўчанні

ёсць свой прытоены голас...

## Леанід Галубовіч:

# «Жыццё схіляла мяне да разгадкі смерці...»

***Леанід Галубовіч – шэры кардынал беларускай паэзіі і крытыкі – нядаўна адзначыў сваё 65-годдзе выхадам кнігі выбранага «Поўня». Але ва ўмовах поўнай свабоды выказвання твор цэніцца не сам па сабе. Значна важней выглядае трыбуна, з якое ён агучаны. Нягледзячы на пастуляваную адсутнасць іерархій, літарацкія асяродкі падзелены амаль неадольнымі платамі і аплеценыя дротам, па якім пушчаны электрычны ток. Выпускнік Слуцкага ПТВ электрыкаў, Леанід Міхайлавіч увесь час спрабуе знаходзіцца па-за сутычкамі і платамі, назіраючы і аналізуючы стан самое электрычнасці... Ды й сам, перарваўшы шматгадовае маўчанне, працягвае разпораз выдаваць напятыя, як струна, радкі, якія б'юць пад дых. Гутарым пра жыццё, сплеценае з іншасветам, пра новае ў старым і неадкапаную ў разорах касмічную будучыню Беларусі.***


Леанід ГАЛУБОВІЧ.

***Ціхан Чарнякевіч:* Уважлівы чытач Вашых кніг (не толькі паэтычных, але і "Зацемак з левай кішэні") можа сказаць, што яны распадаюцца ў дзве настраёва-тэматычныя групы. Адна з іх дэкларуе ўвагу да гэтага свету, дэталізуючы і партрэт, і пейзаж. Другая вымыкае ў іншасвет і спрабуе разгадаць загадкі, даць адказ на "клятыя" пытанні. Кніга "Поўня" паказвае, што Вы больш важкай і патрэбнай для чытача лічыце якраз "другую групу" сваёй паэтычнай крыві. Ці азначае гэта, што свет матэрыяльны цяпер для Вас уяўляе меншую цікавасць?**

***Леанід Галубовіч:*** Як чалавека жыццё мяне зацягвала чорт ведама куды, але як паэта чамусьці схіляла да супраціўнага – разгадкі смерці. Таму да пэўнага часу прырода і яе таемства, а тым больш прырода чалавека, пераймалі маю істоту ў роўнай ступені. З узростам, калі сувязь з зямным слабне, усё мацней праяўляецца спадзеў на сілы незямныя, то бок паднебныя... Я тут не выключэнне.

Аднак выбар вершаў для кніжкі "Поўня" быў арыентаваны не на тэматыку ці ідэю, а на іх мастацкую вартасць. Вядома, з майго пункту гледжання. Бо, адкрыемся чытачу, Ціхан, на першапачатку я ўсё ж прапанаваў скласці паэтычны змест кніжкі якраз табе. І ты зрабіў яго на асабістае ўспрыманне, якое мяне дарэшты не задаволіла, але ўнутрана ўсцешыла, бо, аказалася, што ёсць у мяне прыстойныя вершы і акром тых, якія выбраў я сам... Магчыма, некалі здзейсніцца і варыянт з выданнем твайго, маладога, выбару. Пакуль я схіліўся, як ты кажаш, да «клятых» пытанняў. Няхай так.

***Ц.Ч.:* У крытычных тэкстах Вы часта гаворыце пра паэзію, але размова мае хутчэй рэтраспектыўны характар. Як быццам кола замкнулася, а ўзнікненню працягу супраціўляецца самы ход сусветнай і, нягледзячы на параўнальна маргінальны статус, айчыннай культуры. Такія яўна дэкадансныя настроі характэрныя былі для пачатку ХХ стагоддзя, калі над старым часам змыкаўся прывід Першай сусветнай вайны. На чым грунтуецца сённяшні ваш песімізм?**

***Л.Г.:*** Агульны гістарычны час і яго пэўныя вызначальныя падзеі тут абсалютна ні пры чым. Уся справа ў канкрэтным, маім, узросце; магчыма, нават памудрэнні і кансерватыўнасці, а гэта значыць, вялікім унутранным жаданні нейкім чынам захаваць сваё *літаратурна* нажытае і нашу беларускую класічную традыцыю ў цэлым... Гэта нармальна для кожнага літаратара і для кожнага пакалення. Але ж я не настолькі наіўны, каб думаць, што за гэтым – "канец літаратуры". Я ўпэўнены, што як разумова, так і творча чалавек здольны (і павінен) развівацца, што мастацтва не мае межаў дасканаласці ("адгэтуль і дасюль"), што творца будзе пакутна і бясконца шукаць менавіта тую "прыгажосць, якая выратуе свет"...

На маё разуменне, чалавек асягнуў і ўсвядоміў дзве зямныя сутнасці: нараджэнне і смерць. І, як укапаны, зачаравана-спалохана застыў перад магчымасцю вечнасці. Я лічу — тое, што мы называем чалавечым духам, і ёсць патаемнай

субстанцыяй вечнасці, разгадкі якой спрабуюць дамагчыся людзі, у асаблівасці творчыя... Вось гэтая субстанцыя мяне і прыцягвае, і ўзвышае, і прыгнятае... Свет пастаянна змяняецца, чалавек таксама эвалюцыянуе, разам з імі мяняюцца форма і ідэйны змест мастацтва і літаратуры ў прыватнасці. Мы гэта адчуваем і на прыкладзе сучаснай беларускай літаратуры. Ёсць таленавітыя маладыя аўтары, ёсць пошукі новых форм і новага ідэйнага зместу... Але пакуль няма такіх літаратурныях з'яў, якія б спарадзілі сапраўдную (а не віртуальную) увагу і пашырылі кола беларускага чытача. Спадзяюся, толькі пакуль. На маю думку, гэта выклікана адсутнасцю альбо недастатковасцю (жадання, адоранасці) у спасціжэнні праяў чалавечага духу як самімі творцамі, так і ўнутры саміх гэтых творцаў. Сучасны аўтар падчас наўмысна і бессаромна агаляе цела і душу, але баіцца зазірнуць у бездань уласнага духу... Аднак гэта наўпрост не тлумачыцца іх бездухоўнасцю, а толькі нязведанасцю ўласнай духоўнасці.

Сам я спрабую гэтым пераймацца, але не больш за тое. Бо спасціжэнне духу (вечнасці) патрабуе «ўсяго чалавека», а ў канчатковым разе – і яго ахвяры... Я да такога пакуль не гатовы.

Аднак на маё меркаванне магістральны шлях мастацкай літаратуры палягае менавіта ў гэтым кірунку – у растаемліванні духу (прыроды, чалавека, часу, эпохі).

***Ц.Ч.: Ад пачатку крытычнай дарогі, і асабліва апошніх гадоў дваццаць Вы найбольш пільна сочыце за маргінальнымі сцежкамі ў беларускай паэзіі, пакідаючы ўбаку тораны шлях – народных паэтаў, класікаў XIX і XX стагоддзя. Калі ў савецкі час гэта можна было патлумачыць засіллем, аж да млоснасці, манаграфій пра Коласа і Купалу, якіх у колах акадэмічнай крытыкі паспеў "паюзаць" ледзь не кожны даследчык, то цяпер, з адыходам шмат каго з тых літаратуразнаўцаў, фактычна няма каму пісаць і пра класікаў. Хоць яны, бясспрэчна, чакаюць слова, сказанага пра іх новай мовай – што паказала нядаўняя віхура вакол эсэ Альгерда Бахарэвіча "Цёмнае мінулае Каяна Лупакі". Тым не менш, Вы працягваеце трымацца выклятых: Купрэева, Сыса, Гадулькі, Сахарчука, калі ўся традыцыя прагне вытлумачэння. Што падтрымлівае Вас на гэтым шляху?***

***Л.Г.:*** Я лічу, што класіка не павінна аспрэчвацца, яе можна толькі ўдакладняць і па-свойму тлумачыць, не трасфармуючы ідэі і самой мастацкай сутнасці.

А наконт "выклятых", то, па-першае, не ўсіх нашых выклятых паэтаў ты пералічыў. Вось літаральна цяпер я ўкладаю дзве кніжкі (Васіля Гадулькі і Таццяны Зіненкі з Барысава, класнай паэткі, якая сышла з жыцця тры гады таму, не адолеўшы ўласных слабасцяў). Я хачу, каб любы "адчужаны" талент (у тым ліку і з уласных прычын) быў даступны сучаснаму і будучаму чытачу. Па-другое, негалосна, я і самога сябе (пэўным чынам, канечне, па нейкіх, толькі мне зразумелых, вычуваннях) адношу да тых самых выклятых паэтаў. Менавіта ў іх кагорце мне ўяўляецца маё існае (творчае) месца. Таму творчасць і біяграфіі гэтых (з грамадскага пункту погляду, няшчасных) паэтаў я, па меры магчымасці, стараюся пастаянна трымаць на слыху ў сучаснага чытача, каб не даць ім загінуць заўчасна другім н*а*варатам, а значыць, нейкім чынам, і сабе самому...

***Ц.Ч.: Уся шматгадовая гісторыя паэзіі сведчыць пра неабходнасць рэгенерацыі, пастаяннага ўлівання свежай крыві. Шмат хто з маладых паэтаў цяпер выдае нядрэнную кнігу, але не спяшаецца выдаваць другую. Вы прамаўчалі пятнаццаць гадоў, але ў самы, здаецца, затхлы час для Беларусі пачалі пісаць зноў. Чым можна вытлумачыць паэтычнае маўчанне маладых і якім чынам яно перарываецца?***

***Л.Г.:*** Прырода кожнага чалавека ў пэўны час вымагае ад яго як голасу, так і знямення. Маўчанне паэта ёсць нямым своеасаблівым адказам на пэўныя запытанні часу. Альбо праявай недаверу свайму голасу ці няўпэўненасцю ў яго запатрабаван-

ні акаляючым светам. Расчараваннем, у рэшце рэшт, у сваім выбары... Ці нават наўмысным праектам (задумкай), як цяпер кажуць, .... Вось жа ў мяне ў 2000 годзе здарыўся натуральны спад творчай энергетыкі. Я гэта адразу адчуў і не хацеў змушаць сябе да пісання вершаў. Тады мне думалася, як у свой час з алкагалізмам, завязваю канчаткова. Аднак творчасць, тым больш паэзія, такая іпастась, – непадуладная і некіраваная. Стыхія яна і ёсць стыхія: узрушэнне і разрушэнне. Калі праз пятнаццаць гадоў я выдаў новую кніжку, памятаю, на яе прэзентацыі Валянцін Акудовіч сказаў на публіку, што, маўляў, яшчэ невядома, што было і застанецца больш значным у паэзіі Галубовіча, – яго маўчанне ці наноў пададзены ім голас...

Лічу, што ў галоўным ён мае рацыю: паэтычнае маўчанне, вытрыманае да канца (да самага натуральнага чалавечага канца), было б, як кажуць маладыя, прыцягальнай фішкай да маёй жыццёвай літаратурнай біяграфіі. Але прымусовае маўчанне ў творчым плане было б роўнае самагубству для мяне самога. Такая вось дылема...

А сёння чыё маўчанне стала адчувальным для нашай літаратуры? Я нават не ведаю... Хіба толькі таленавітага Віталя Рыжкова, публікацый і новай кніжкі якога ўжо зачакаліся. Хацелася б, скажам, мець другую кніжку і Ярыны Дашынай, і зборнік Ірыны Бельскай... Але яны ўсё ж друкуюцца ў перыёдыцы. Мажліва, я ўжо не паспяваю адсочваць увесь сучасны літаратурны працэс, асабліва творчасць маладзейшых нашых літаратараў. Але, паўтаруся, у кожным маўчанні ёсць свой прытоены голас, не маюць свайго голасу толькі нямыя ад нараджэння. Зрэшты, нават у іх ёсць унутраны голас...

***Ц.Ч.: Мінулае паціху забываецца, а для кагосьці наагул бачыцца белай плямай, на якую не варта марнаваць час і высілкі. Часам здаецца, што мінулага зусім не было. Але мне б хацелася наастачу спытацца, наколькі Вам бачыцца пазітыўным тое жыццё беларускага, што сёння адбываецца. Калісьці, да эпохі выбуху камунікацый, справа гэтая была амаль патаемнай – употай перадаваліся адно аднаму кніжкі, веды. Сёння ж сітуацыя кардынальна змянілася, але ў той жа час нельга сказаць, што колькасць народу, каму беларускае падаецца цікавым, вырасла ў астранамічную лічбу, якая можа “перайсці ў якасць”. А гэтага ўсе чакаюць з эпохі Купалы і братоў Луцкевічаў. З’явіліся маркеры адрозненняў, кшталту вышыванак, стужачак, налепак, але ўнутр традыцыі і будучыні па-ранейшаму складана зазірнуць. Можа, ўсё ж дарога недзе была скрыўленая?***

***Л.Г.:*** Беларусы, як самадастатковая нацыя, яшчэ ўсё фармуюцца-складваюцца... Мы ў дарозе. Але дарога – не просты шлях, яна мае павароты і прадуманыя ці стыхійныя змены кірунку, хаджэнне па колу і нават часовае павяртанне назад... (Пэўным чынам, “Шлях-360” Алеся Разанава...)

Бо ні адна дарога наўмысна не скрыўляецца, а толькі тады, калі яна змушана абмінуць нейкую перашкоду, вярстуючы свой шлях да мэты. Успамінаецца родны калгас на бацькаўшчыне, дзе я ў свой час працаваў электрыкам, які называўся “Шлях да камунізму”. І куды ён зайшоў і дзе апынуўся? Дзесяць гадоў таму яго расфармавалі, ператварылі ў агракомплекс і *пераназвалі*... Мы можам задавацца касмічнымі, як кажуць, планамі і ідэямі, але не маючы ні матэрыяльнай, ні духоўнай базы, будзем толькі, як папугаі, паўтараць завучаныя маніфесты. Колькі было беларускіх адраджэнняў, а ўлада за дваццаць гадоў не змагла вызначыцца і прыняць годную (ды аніякую!) нацыянальную ідэю... Па вялікім рахунку *беларускі нацыянальны чалавек* так і застаецца *закансерваваным* да свайго *пэўнага* часу. Аднак калі нацыянальныя адраджэнні дзейнічалі на грамадскіх асновах і ўсё-ткі, па меры магчымасці, здолелі захаваць карані беларушчыны на Беларусі, то ўлады – наадварот, гэтыя карані толькі пастаянна падсякалі і падсушвалі... Таму Беларусь уяўляецца мне гэткім вялікім восеньскім разараным полем з васьмю мільёнамі людзей, сагнутых над бульбай, як над зорным небам... Спадзяюся, аднойчы яны ад(к)рыюць *свой* Космас...

*Фота Міраслава АДАМЧЫКА*

СЛОВЫ

Валерыя Кустава



...літаратурная нацыянальнасць

адпавядае мове, на якой пішаш...

## Любоў Турбіна:

# «У Маскве я адчуваю сябе больш беларускай, чым у Мінску»

***Упершыню мы сустрэліся са спадарыняй Любоўю на вечарыне памяці Рыгора Барадуліна ў Доме Нацыянальнасцяў у Маскве, якую зладзілі беларусы і апантаныя беларушчынай масквічы. У часе імпрэзы спадарыня Люба чытала свае пераклады невядомых дагэтуль барадулінаўскіх вершаў з уласнага архіва, а таксама знаёміла аўдыторыю з часопісам «Літаратурная вучоба», №1, за гэты год, дзе названыя пераклады і былі надрукаваныя. Пазней мы сустрэліся з ёй у рэстарацыі маскоўскага Дома Літаратара, каб пагутарыць і пра Барадуліна, і пра цікавасць Масквы да беларускай літаратуры, і пра паэтычны лёс самой паэткі Турбіной, які здзяйсняўся між Мінскам і Масквою.***

***Апошняя кніга аўтаркі, што надоечы была прэзентаваная ў беларускай сталіцы, так і называецца «Поезд “Минск — Москва” = Цягнік “Мінск — Масква”».***

***Валярына Кустава: У Вас цікавы шлях. Вы нарадзіліся ў Ашхабадзе, жылі ў Маскве, а як трапілі ў Мінск?***

***Любоў Турбіна:*** Давядзецца раскрыць свой узрост, але... Ашхабад – гэта час эвакуацыі для мяне.

***В.К.: Але ж Вы ведаеце, што цудоўна выглядаеце…***

***Л.Т.*** Дзякуй. Пасля эвакуацыі вярнулася ў Маскву з бацькамі. У 1945 годзе бацьку, вучонага-генетыка, запрасілі на працу ў Ленінградскі ўніверсітэт загадчыкам кафедры. Такім чынам мне давялося пражыць у пасляваенным Ленінградзе цэлых дзесяць гадоў, да майго чацвёртага класа, да той пары, калі бацька ў 1955 не быў абраны акадэмікам Беларускай акадэміі навук. І таму ў 1956 годзе нас чакаў канчатковы пераезд у Мінск. Маё першае ўражанне было ад возера Нарач і таго, што там адбылося... Гэта быў такі адпачынак для сем'яў універсітэцкіх парфесароў. База адпачынку. Мне было 13 гадоў, я была камсамолкай. Мы прыехалі на возера на татавай службовай машыне «Победа». Насустрач бягуць дзеткі белавалосыя, кідаюцца да машыны і крычаць: «Паны прыехалі!» Я адчула тады няёмкасць. Да таго, як звязацца з літаратурай, я любіла тэатр – і наведваць, і нават сама крыху пісала. У Ленінградзе мы з бацькамі шмат бывалі ў тэатрах, у мяне назбіралася цэлая бібліятэка праграмак, я ведала змест розных спектакляў. І акурат сюжэт оперы «Фаўст» у нейкім хляве, на Нарачы, кіруючы дачнай і мясцовай дзятвой, я і вырашыла паставіць...



*Любоў ТУРБІНА падчас прэзентацыі кнігі «Поезд "Минск — Москва" = Цягнік "Мінск — Масква"». Красавік 2015.*

***В.К.: Ініцыявалі інсцэніроўку… у 13 гадоў?***

***Л.Т.:*** Так, я падбіла іх паставіць. Яшчэ і бацькоў паклікалі. Чамусьці мяне ніхто, хто б спачатку прачытаў першакрыніцу, не «асёк». Бо я збольшага імправізавала...

***В.К.: А штосьці яшчэ запомнілася з таго часу?***

***Л.Т.:*** Так, там, пры Нарачы, мясцовыя людзі расказвалі шмат цікавых баек. У Ленінградзе быў Эрмітаж, былі музеі, і ўсе гэтыя казкі – у раскопках – недзе далёка. А тут – яны былі побач, жывыя. Памятаю, была байка пра дзвюх сясцёр, якія жылі разам, заўжды хадзілі разам і былі чужаніцамі. І пасля разам хадзілі іх духі – і ніхто іх не бачыў, з аднаго боку, а з іншага – усе баяліся. Хутар, дзе яны па чутках жылі, меў назву «Хутар дзікіх баб», не кепска? І я ў Беларусь «ужывалася» праз гэтыя фантазіі. Былі і гісторыі пра Чараўніка, шмат чаго. І неяк усе гэтыя міфы ў мяне арганічна паядналіся з уяўленнямі пра Беларусь. Памятаю, і ў лесе, паводле паданняў, жылі дзікія бабы, таму туды нам, шасцікласнікам, трэба было хадзіць вельмі асцярожна.

***В.К.: Пачала чытаць Вашую кнігу «Агні на вадзе», эсэ, вершы – і там таксама шмат гісторый, аповедаў пра незвычайныя мясціны, і перадусім – месцы Менска. Якія самыя любімыя, незвычайныя ці лёсавызначальныя гісторыі звязаныя з канкрэтнымі менскімі лакацыямі?***

***Л.Т.:*** У першую частку кнігі перадусім увайшлі асабістыя гісторыі. Але калі казаць менавіта пра месцы Мінска – то гэта Палац прафсаюзаў, частка гісторый

(да 1999 г.), гэта я ў «Першацвеце» вяла рубрыку «Хронікі нашага горада» – і яны былі звязаныя акурат з цікавымі месцамі.

***В.К.:*** ***А былі гісторыі пра вулачкі, кавярні, масты, дзе першы раз у каханні прызналіся, прапанову зрабілі…***

***Л.Т.:*** Сквер у цэнтры Мінска (дзе лебедзі) – мяне ўпершыню тата туды прывёў (мы яшчэ тады не пераехалі ў Мінск, а жылі ў гасцініцы «Беларусь», побач са стадыёнам). «Гэта Мінск – тут мы будзем жыць!» – сказаў тата. Так і захавалася для мяне гэтае месца сэрцам горада. А памятаю, у беларускім Купалаўскім тэатры ўстаўлялі тады вітражы. І мы шмат каляровага шкла знаходзілі – гэта для тагачасных дзяцей было скарбам.

***В.К.:*** ***Так, для сакрэцікаў у зямлі. Вы рабілі такія?***

***Л.Т.:*** Так, яны і былі скрабы – і чырвоныя, і жоўтыя. І, вярнуўшыся ў Ленінград, я кажу сястры: «Наташа, усё, едзем туды! Тут такога няма!.. Такія скарбы!..»

***В.К.:*** ***Так-так, Ашхабад-Масква-Мінск-Ленінград… пасля зноў Мінск. А што сталася той прычынай, па якой вы зноў пераехалі з Мінска ў Маскву, ужо дарослая?***

***Л.Т.:*** Калі ў мяне толькі нарадзілася дачка, гэта ўжо 1970 год, мой тата сказаў: «Хачу ў Расію!» Ён адчуў, што скончыўся той час, калі рускіх паўсюль запрашалі, каб ствараць. Ён заснаваў беларускі Інстытут генетыкі і цыталогіі НАН і быў першым яго дырэктарам. Ён адчуў узрастанне нацыяналістычных настрояў і хацеў вярнуцца, як кажуць, бліжэй да каранёў. Да таго ж у Разані была яго маці хворая. А мая мама, Таццяна Уладзіміраўна Залеская, была са Смаленска сама. І мне не хацелася нікуды з Беларусі, з Мінска ад'язджаць. Але бацька адчуў, што ён будзе мець больш магчымасцяў у Маскве. І, дарэчы, ён вывучыў ангельскую – і нават чытаў у Лондане лекцыі.

***В.К.:*** ***Ён не трымаўся за месца, выглядае на тое, – ён трымаўся за ідэю…***

***Л.Т.:*** Так. У Маскве ён стаў дырэктарам інстытута біятэхналогій. Займаўся ГМА (генетычна мадыфікаванымі арганізмамі).

***В.К.:*** ***А Вы не такая?***

***Л.Т.:*** Лічылася, што падобная да яго. Ён вучыўся ў мастацкім, а пасля – у Варонежскім сельскагаспадарчым інстытуце. А там, у Варонежы, быў літкансультантам Восіп Мандэльштам. І тата пісаў – не вершы – а адразу паэмы. І калі я пачала пісаць вершы, яшчэ у школцы, то тата мне казаў: мяне сам Мандэльштам хваліў, а я не пайшоў у паэты. Паэты сярэднія не патрэбныя. Ідзі – толькі калі лічыш, што станеш выбітнай. Ёсць у гэтым правільная патрабавальнасць да сябе. Атрымалася, я ўвасобіла тую яго частку, якую ён у сабе заціснуў. Але пасля ён мной не тое, каб ганарыўся, але прынёс мне сваю паэму і спытаўся: «Люба, ці магчыма там нешта перарабіць і надрукаваць?» Калі за некалькі гадоў да смерці ў яго здарыўся інфаркт – і ён ляжаў некалькі дзён у рэанімацыі, і я прыехала да яго ў бальніцу, наведала, то ён сказаў: «Я ляжаў без прытомнасці, Люба, але я быў такі шчаслівы – да мяне вярнуліся рыфмы, да мяне вярнуліся вершы!»

***В.К.:*** ***Вершы, вера ў іх і Вас – давалі яму дыханне…***

***Л.Т.:*** І ён нават казаў: будзеш выходзіць замуж, змяняць прозвішча, але вершы – толькі пад маім прозвішчам пакінь!.. (...) Я пераехала ў Маскву толькі на новае тысячагоддзе, у 2001-м годзе. Дачка паступіла вучыцца ў Маскву, у МГУ, тата памёр, мама адна засталася. Я выкладала тады на багаслоўскім факультэце, дэканам быў Мітрапаліт Філарэт, я ў яго папрасіла блаславення, і ён сказаў: «Так, язджай, заплюшчыш вочы маці». І я зразумела, сардэчнае маё, духоўнае жыццё – у Маскве. У Мінску ў мяне быў росквіт паэтычнага, літаратурнага жыцця, і ўсялякага. А вось хатняга жыцця не было. Мне нават сон быў такі... Нібыта мы з сям'ёй збіраемся ў адпачынак, і ўсе едуць у адным кірунку, а я – у іншым... І

я адчула, што я патрэбная як падтрымка, ды і мне патрэбная была падтрымка на старасці...

***В.К.: А Вы калі-небудзь ахвяравалі сваім асабістым жыццём дзеля дачкі, бацькоў ці наадварот – дзеля Паэзіі?***

***Л.Т.:*** Я ніколі не адчувала, што я чымсьці ахвярую.

***В.К.: Не так даўно ў Маскве адбылася вечарына памяці Рагора Барадуліна, на якой Вы чыталі Вашы пераклады вершаў Барадуліна… І не так даўно ў газеце «Новы час» была апублікаваная нізка вершаў Барадуліна з Вашага архіва. Па сутнасці – гэта вершы-прызнанні ў любові і натхненні… Чаму толькі цяпер Вы вырашылі іх абнародаваць?***

***Л.Т.:*** Яго не стала. А ў мяне даўно ляжала капэрта з яго лістамі і паштоўкі з вершамі, прысвячэннямі. У свае 38 гадоў я вельмі хацела выдаць кнігу, а ён быў галоўным рэдактарам аддзела паэзіі. Я казала: вершы гэта добра, а калі мая кніга будзе? Калі я пра штосьці пыталася, ён адразу адказваў: «Заставайся такой – трохі самой Паэзіяй!» Быў адзін такі верш, які ён казаў, каб я яшчэ гадоў 20 нікому не паказвала. Бо мы тады не ведалі, што перабудова і змены пойдуць так хутка. Прыкладна ў наступную кнігу ён ужо змог увайсці. Ён разумеў, што ў мяне ненадуманая паэзія. Мне запомнілася з яго вершаў адна фраза: «*На задворках твоей души лепей, чым у халодных харомах...*» Для мяне такі сэнс слоў «у табе трохі самой паэзіі». Я была паэткай унутры, але пра гэта на той момант яшчэ ніхто не ведаў. Мы ж так і пазнаёміліся, калі я прынесла свой рукапіс. І бачыце, калі яго не стала, і я зноў знайшла гэтыя вершы, і сама здзівілася.

***В.К.: А ці выйшла тая кніга, якую Вы прынеслі Барадуліну?***

***Л.Т.:*** Так, але праз два гады, у 1982 годзе. Але вось цяпер, напрыканцы вясны, акурат у Мінску ў кнігарні «Ў» адбылася вельмі цёплая прэзентацыя маёй новай кнігі «Цягнік “Мінск-Масква”», у перакладзе 5 беларускіх аўтараў: Людкі Сільновай, Галіны Дубянецкай, Сяргея Сыса, Міколы Шабовіча і Рэгіны Рэўтовіч. Яе выданне з’ініцыяваў Барыс Пятровіч, а дапамагаў мне яе ўкладаць Андрэй Федарэнка. З Людай, Сяргеем і Галяй я даўно сябрую, Галя ўвогуле – мая хросная дачка.

***В.К.: Таксама я ведаю, што на Вашы тэксты пісалі песні беларускія кампазітары...***

***Л.Т.:*** Так, у свой час я працавала ў Акадэміі музыкі ў Мінску, дзе выкладала караценькі курс-факультатыў пад назвай «Паэтыка для кампазітараў». І тады маімі студэнтамі былі Дзіма Яўтуховіч (ён напісаў песню на мой тэкст – «Аранжавыя папугайчыкі»), Грушэўскі з Баранавічаў, Саша Літвіноўскі, Ядвіга Паплаўская (лічылася, але не наведвала).

***В.К.: Ёсць версія, што Барадулін не атрымаў Нобелеўскую прэмію, бо ён касмічны паэт, але гэты космас – выключна беларускі, задужа нацыянальны, яго вобразы цяжка перакладаць на любыя іншыя мовы… Як Вы шукалі адпаведнікі, што Вы рабілі, перакладаючы Барадуліна?***

***Л.Т.:*** Неяк я перакладала яго вершы, што былі напісаныя пасля вяртання з Балгарыі, і там быў верш «Падарожжа ў балгарскую восень». Дык гэты верш быў – як выгляд з акна. Хутчэй вонкавае, чым унутранае. «*На Планеце, на якім плячы, мы трымцім...*» Гэта такая барадулінская славеская эквілібрыстыка. А я свае вершы пішу хутчэй «на гук». І таму я так і перакладаю, асэнсоўваю, больш гукамі...

***В.К.: Вы нібыта кладзеце на мелодыю верш пры перакладзе, ноты тыя самыя, толькі словы мяняеце… Так атрымліваецца?***

***Л.Т.:*** Менавіта. Мелодыя гучання ў маіх тэкстах важней за метафарычнасць. Ёсць асобна – паэзія думкі. У маёй кнізе, што выйшла ў Піцеры «Уплывающий катер» – напрыканцы там пераклады Багдановіча, Стральцова і Някляева. Да Някляева я была неабыякавая. Калі гутарылі з Барадуліным пра яго, дык той

заўжды казаў, што Някляеў такі прыгожы, так франт, што такога нам у Беларусі так не хапала. І яшчэ шматлікія сябры літаратара так казалі.

***В.К.: Вы па пашпарце руская. А якая Ваша літаратурная нацыянальнасць?***

***Л.Т.:*** Так, мяркую, што літаратурная нацыянальнасць адпавядае мове, на якой пішаш. Атрымліваецца – рускамоўная. Увогуле мне здаецца, што вельмі важна, каб перакладчык дыхаў тым самым паветрам і жыў у той самай рэчаіснасці, у якой жылі паэты (Бурсаў, Дракахруст, Браніслаў Спрынчан). Вядомы ленінградскі паэт і перакладчык Анатоль Найман (з якім камунікавала Ахматава, і Рэйн, і Бродскі) выпусціў кнігу, дзе піша, што першы пераклад, які яму замовілі ў выдавецтве – быў нікому невядомы Гаўрусеў. А я ведала Сцяпана Гаўрусёва, «Рамонкавы хлопчык». Ён быў вельмі сціплы і добры паэт. Для мяне гэта вельмі дзіўна казаць пра паэзію, якую ты перакладаеш, і пра яе аўтара «нікому невядомы»... Так не робіцца. Мо пачытай яго біяграфію, паглядзі фотаздымак, наблізься да яго неяк унутрана, паспрабуй зразумець. Але канкрэтна гэтай сваёй фразай у кнізе ўспамінаў ён мяне асабіста вельмі пакрыўдзіў.

***В.К.: Для Вас крыўда за беларускую літаратуру – асабістая крыўда?***

***Л.Т.:*** Так. Да таго ж я ведала Гаўрусёва – ён вельмі натуральны паэт, непрабіўны. У яго не было тых якасцяў, як у Барадуліна – з аднаго боку наіграная простасць, а з іншага – кепска схаваная зацікаўленасць. Ён нібыта быў беспартыйны, але выбудоўваў каменьчыкі, куды ісці, гэта такі інстынкт захавання паэта. Ён жа перакладаў, бывала, па некалькі кніг іншамоўных аўтараў (Амар Хаям, Роберт Бёрнс). Вось Галя Дубянецкая над кожным радочкам «корпаецца», у яе кожнае слоўца, як каменьчык, укладзена. Ён хутчэй рабіў пераасэнсаванні. Але і ў гэтым ёсць свая праўда. Часам ты бярэшся за пераклады, якія дазваляюць табе сказаць тое, што табе свой уласны досвед не дае сказаць. Мой сябар, выдатны ленінградскі паэт-перакладчык, а таксама вельмі яркі празаік Ігар Куберскі ў рамане «Егіпет-68» піша пра тое, што як бы мы ні імкнуліся перакласці вершы адэкватна, гэта практычна немагчыма – знікае шматслойнасць паэтычнага тэксту. А Куберскаму належаць найлепшыя з мне вядомых перакладаў вершаў ангельскага класіка Томаса Гардзі!

***В.К.: Падзел: беларускамоўныя і рускамоўныя літаратары – гэта трагедыя ці адметнасць?***

***Л.Т.:*** Для мяне гэта зусім не трагедыя, бо калі ўзяць тых, з кім я вучылася ў літаратурным інстытуце, то, магу сказаць, мой літаратурны лёс склаўся максімальна паспяхова ў Беларусі, наколькі ён мог скласціся ў тыя гады. Хто застаўся ў Маскве і пісаў па-руску – у іх часта не атрымлівалася выйсці на ўзровень нават адной, другой кнігі. Не тое, што трэцяй. А акурат беларуская літаратура давала такую магчымасць. І за кошт унікальнасці – у тым ліку.

***В.К.: А якое Вашае стаўленне да беларускіх літаратараў, што пішуць па-руску, і ўвогуле да такой фармулёўкі?***

***Л.Т.:*** Калі для іх гэта натуральна, то чаму не? Акурат пры мне многія пераходзілі з рускай на беларускую. Напрыклад, Някляеў пачынаў па-руску.

***В.К.: Так, але потым ён забраў рукапіс сваёй рускамоўнай кнігі з выдавецтва. І першая ўсё ж выйшла па-беларуску.***

***Л.Т.:*** Але гэта ж не тое, што ён прынёс – і адразу забраў. Ён павучыўся ў Літаратурным інстытуце і зразумеў, што будзе каштоўны, пішучы па-свойму. Самае парадаксальнае, што тут, у Маскве, я адчуваю сябе больш беларускай, чым знаходзячыся ў Мінску. Бо тут я нешта значу, тут скласліся свае стасункі, многія ведаюць адно аднаго са студэнцкіх часоў. Я вось сябравала з адной паэтэсай... І неяк была мая творчая вечарына, дзе выступалі пісьменнікі розных кірункаў. Скажам так, лібералы і патрыёты. І раптам пасля ўсяго яна страшэнна фыркае: «Не падыходзь да мяне, бо я зараз як завішчу!» Былі раней такія размовы

сяброўскія, сямейныя. Я сядзела, расслаблялася, не звяртала ўвагу на тое, што хто шаптаў. Я выбіраю па якасці творчасці, а не па саюзах сяброў і калег. І тое самае – з беларускімі саюзамі.

...Ведаеце, калі я прыехала на першы Стральцоўскі фестываль «Вершы на асфальце» некалькі гадоў таму, у Мінск, мяне запрасілі як перакладчыцу на рускую Стральцова, то пасля майго выступу падышоў да мяне Бураўкін, падарыў сваю кнігу і сказаў: «Гэта ж наша Люба, наш прадстаўнік у Маскве!» І вось гэтая «наша Люба» мне і цяпер – да слёз. Я і цяпер, ведаеце, з пэўнай крыўдай адчуваю, што маю работу тут не цэняць, тут, у Маскве, амаль дзесяцігадовую работу ў Інстытуце сусветнай літаратуры народаў Расіі і СНД, дзе я займаюся беларускай літаратурай, выступаю на канферэнцыях, выпускаю штогод па некалькі артыкулаў, ствараючы спектр развіцця беларускай літаратуры, то вось гэтую работу – у мяне застаецца адчуванне – у Мінску не заўважаюць. Надрукаваны артыкулы пра Арсенневу, Купалу, Стральцова, Багдановіча, Федарэнку... Але Беларусь нібыта не мае ў гэтым патрэбы. Бо насамрэч, як кажа Сяргей Главюк [кіраўнік Міжнароднага фестывалю славянскіх паэтаў «Поющие письмена», укладальнік шматлікіх міжнародных анталогій, у тым ліку беларускай літаратуры, што выйшлі ў Расіі – *В.К.*], я – галоўны спецыяліст па беларускай літаратуры ў Маскве...

***В.К.: І нават Вы не адчуваеце запатрабаванасць у тым, што робіце, з беларускага боку...***

***Л.Т.:*** Я гэта раблю. Мне нейкую грамату даў саюз Чаргінца за нібыта ўмацаванне сувязяў. Дык яны гэтую грамату нібыта аформілі – але мне пра яе нават не паведамілі. Разумееце? Толькі праз год-паўтара ў мяне была пераатэстацыя – і я выпадкова пра гэта дазналася. І тады яны прапанавалі мне яе неяк перадасланць. І смех, і грэх.

***В.К.: Прынята лічыць, што той прафесійны літаратар, хто жыве і забяспечваецца з пісьменства. Ці Вы жывяце з літаратуры?***

***Л.Т.:*** Як навуковец я заўжды працавала. Яшчэ ў беларускай Акадэміі навук, да таго, як там аб'ядналі інстытуты мовы, літаратуры... А яшчэ і фальклор, і цэнтр па вывучэнні беларускай песні. Але як толькі з'ехала – у той год і аб'ядналі. У мяне былі радкі *«Оставила дом свой – и сразу / там с крыши посыпались вазы...»* Так і адбылося. Шкада, дарэчы, што беларуская НАН не супрацоўнічае з маскоўскім нашым інстытуам. Што няма адной прасторы дзейнасці. Але з БДУ супрацоўнічаю. За свой кошт езджу.

***В.К.: А кім дакладна Вы працуеце, як называецца Вашая пасада?***

***Л.Т.:*** Старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры аддзела Літаратуры народаў Расіі і СНД, галоўны спецыяліст па беларускай літаратуры ў Расійскай акадэміі навук. Я абсалютна не адчуваю зваротнай сувязі з Беларуссю.

***В.К.: Спадзяюся, пасля публікацыі нашай гутаркі гэтая сувязь станецца больш адчувальнай для Вас. І старэйшыя калегі – успомняць, азавуцца. І ўсімі граматамі, што Вас вартыя, – уганаруюць. А цяпер і мы, маладзейшае пакаленне, ведаем – Вы ёсць і што Вы робіце. Шчыры дзякуй Вам, наша спадарыня Люба!***

*Масква – Мінск*
*Фота Марыны ВЕСЯЛУХІ*

Уладзімір Сіўчыкаў



...толькі цяпер мы пачынаем шанаваць гэтую прастору, даражыць ёю і бараніць яе...

# "Я пакажу табе Мінск"

***Урбаністычны партрэт Ігара Рымашэўскага***

Калі прыспела патрэба патурбавацца пра мастацкае аздабленне кніжкі кароткай прозы – фрывольных тэкстаў, іранічна-займальных жыццёвых паказак, а часам і трагікамічных гісторый ды фатэцый – патрэбныя відарысы падшукваліся, намацваліся даволі доўга. "Уладзевы гісторыі" скламіся з больш як сотні мініяцюр, а таму і мастацкае палатно на вокладцы ўяўлялася шматфігурным і шматсюжэтным – нечым кшталту "Нідэрладскіх прыказак" Пітэра Брэйгеля Старэйшага, "Вяртаннем паляўнічых" якога калісь ужо аздабляў кнігу сваёй прозы.

Але хацелася, каб відэашэраг быў набліжаны да нашых айчынных, сучасных рэалій. Мабыць таму ўсплывалі з памяці знакаміты "Мой дом" Васіля Сумарава ды інсітныя палотны Валянціна Губарава.

Ускліннуць знакамітае Архімедава "Эўрыка!" давялося, калі ў адзін дзень патрапіліся на вочы даўні каляндарык з "Радыё Свабода" з выяваю "Зімы", а потым і постар у вітрыне "Акадэмкнігі", паўз якую праходжу штодня: на ім была вокладка




*Уладзімір СІЎЧЫКАЎ ды Ігар РЫМАШЭЎСКІ ў майстэрні.*

кнігі журналіста Міхаіла Валодзіна “Наш добрый Вавилон. Прогулки по городу в минских историйках”. І на каляндарыку, і на рэкламным плакаце пазнаваўся адметны стыль Ігара Рымашэўскага.

Вось так і надарылася, што лёс нанова звёў з мастаком, якога ведаю ажно з сярэдзіны сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя, – адначасна студыявалі ў Мінскай мастацкай вучэльні!

Замежнікі нярэдка дзівуюцца: “Які ў вас фенаменальны горад – пра каго ні завядзеш гаворку, дык калі не праз трэцюю, то праз чацвертую асобу абавязкова адшукаюцца знаёмыя!” І праўда, Мінск у пэўным сэнсе досыць шчыльны, калі не цесны свет! Чаго ж было дзівіцца, што цяпер цесць Ігара Рымашэўскага – знаны жывапісец Леанід Шчамялёў, а ягоная жонка і муза Святлана Шчамялёва была ў мяне ў мастацкай вучэльні не толькі за выкладчыцу фізікі, але і за куратара курса.

Перш чым напрасіцца ў майстэрню да Ігара, паглядзеў я відэаролік ізноў жа “Радыё Свабода”, перачытаў рэцэнзіі мастацтвазнаўцаў на ягоныя выставы і водгукі аматараў мастацтва ў інтэрнэце, выслухаў прыязныя і добразычлівыя словы пра яго цяперашніх спаўбратоў па жывапісным цэху.

* * *

Узрадаваўся Ігар майму тэлефанаванню, ахвотна запрасіў у сваю святая святых, што на Старавіленскім тракце, у мансардзе на 13-м паверсе, пад самымі аблокамі.

Мабыць, не толькі ў мяне першыя словы, што прыходзяць у галаў пры знаёмстве з Ігарам Рымашэўскім і ягонай творчасцю – дабрыня і пазітыў. Як і сама асоба творцы, мастацтва ягонае – надзіва шчырае і прасветленае. Свет і сусвет, а найперш – любімы горад з ягонымі штодзённымі і звыклымі рэаліямі, успрымае і адлюстроўвае ён з любоўю, лёгкай іроніяй ды самаіроніяй. Ад прац ягоных нібыта праменіцца прыцягальнае і мяккае святло, а вобразы – ледзь не казачныя, уцямныя і сімпатычныя, без знарочыстай шматзначнасці з псеўдаінтэлектуальнай зашыфраванасцю...

Гаспадар выстаўляў усё новыя палотны, але паспяваў пры гэтым парэкламаваць, пахваліць і творы сваёй жонкі Людмілы Шчамялёвай, з якой дзеліць і невялікую майстэрню. Падараваў ён некалькі буклетаў і календароў, скінуў на

флэшку паўтары дзясяткі рэпрадукцый са сваіх палотнаў і іх фрагментаў, каб было мне з чаго выбраць разам з дызайнерам кніжкі на вокладку, авантытул, франтыспіс, шмуцтытулы і на канцоўку.

Але, пэўна, магічная сіла мастацтва прымушала яшчэ не раз выходзіць на сайт igar-luda.com, зноўку пераглядаць багаты творчы даробак мастака.

Відавочна, што ў стылістыцы сваёй ішоў ён ад наіву, ад інсітнага мастацтва француза Анры Русо ды грузіна Ніка Пірасманішвілі, але найперш абапіраўся на традыцыі суайчыннікаў Язэпа Драздовіча ды Алены Кіш. І гэта не дзіўна, бо ў мастацкай вучэльні выкладаў у яго тады яшчэ малады педагог Віктар Маркавец, які не толькі расшукваў ды адратоўваў разам з Аляксеем Марачкіным маляваныя дываны і макаткі, але і сам працаваў у той нязмушанай стылістыцы, захапляў ёю вучняў.

Відавочна, што вельмі любіць Ігар Рымашэўскі людзей, а найпершыя ягоныя героі – жонка і дачка, родныя і сваякі, следам за якімі ідуць сябры і калегі, а таксама каты ды сабакі.

Відавочна, што любіць ён заўважаць, занатоўваць, замалёўваць, а потым і пераносіць на палотны дэталі ды дробязі і з замежных пленэраў ды вандровак. Але назва палатна "Я пакажу табе Мінск" магла б паслужыць эпіграфам ці, як цяпер модна казаць, слоганам да ладнай, калі не асноўнай часткі творчага набытку мастака.

Якраз мінскія краявіды і мінскія сюжэты і мне імпануюць найбольш. Ігар Рымашэўскі на сваіх палотнах нібыта "кансервуе" мілы і майму сэрцу Мінск, горад майго дзяцінства і юнацтва, – кварталы кругласуткавага садка пры парку Горкага, мастацкай вучэльні пры Доме друку, службы ў вайсковай частцы непадалёк камвольнага камбіната дый наступнага сталага жыцця цягам амаль што сарака гадоў. Можа, таму і я з задавальненнем паўдзельнічаў пазалетась у інтэрнэт-праекце культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!", які зваўся "Магічная мапа Мінска", – напісаў нататкі пра ўжо згаданы парк Горкага, пра кварталы Шалмана, пра Вайсковыя могілкі ды пра Музей валуноў ва Уруччы.



*Ігар РЫМАШЭЎСКІ. "Вакацыі" (2011)*

На вялікі жаль, некаторыя нашыя творцы даволі дзіўна ставяцца да сталіцы-мегаполіса. Да прыкладу, Валянцін Акудовіч сцвярджае ў сваім тэксце "Горад, якога няма", што Мінск любіць немагчыма. Не думаю, што гледачы былі б у захапленні, калі пабачылі б на вернісажах чыстае, некранутае пэндзлем палатно Марка Шагала з подпісам "Сіні дом у Віцебску" альбо "Мой горад" з аўтографам Мая Данцыга.

У альбоме Артура Клінава "Горад СОНца" Мінск перадусім – гэта горад-сон, прычым сон той, выдае, – летаргічны, а сам горад на фотаздымках амаль што заўсёды бязлюдны, нібыта пасля нейтроннай бамбардзіроўкі.

Воляю гісторыі мы пазбаўленыя Беластоку, Смаленску і Вільні. Летувісы робяць усё магчымае, каб і

духу беларускага не засталося ні ў горадзе, колішнім цэнтры беларускай, габрэйскай, летувіскай ды польскай культур, ні нават у гістарычных дакументах. А некаторыя нашыя так званыя інтэлектуалы з дзікім гіканнем скачуць на айчынных магілках дый на касцях класікаў, намагаюцца як мацней убрыкнуць святыя постаці!



*Ігар РЫМАШЭЎСКІ.*
*“Мастацтва належыць народу” (1999).*

Зразумела, хтосьці з поўным правам наракае на кепскія дарогі, хтосьці абураецца суседствам такіх новабудаў як гандлёвы цэнтр “Замак”, футбольны манеж, велатрэк і Палац незалежнасці. Камусьці не стае культурнага жыцця, кагосьці не задавальняе ўзровень сервісу і татальная забарона на любую незвычайную ініцыятыву. Але нельга жыць у горадзе і бясконца пэцкаць яго жоўцю ці якой іншай, яшчэ горшай субстанцыяй! Увесь свет імкнецца пабываць у Парыжы і ў Рыме, бо іх апявалі найперш айчынныя, французскія ды італьянскія мастакі і літаратары! Той самы Парыж ёсць адным з самых найулюбёных гарадоў у свеце нават тымі, хто аніразу не бываў у ім, і таму, што пабачылі яго вачыма П’ера Агюста Рэнуара, Клода Манэ, Віктора Гюго, Баляслава Пруса, Поля Гагена, Анры дэ Тулуз-Латрэка. Сотні тысяч турыстаў едуць у Барселону, каб падзівіцца шэдэўрам геніяльнага дойліда Антоніа Гаўдзі. А як могуць ацаніць, палюбіць Мінск замежнікі, калі не хочуць ці не здольныя зрабіць гэта беларускія творцы?!

Мінск – гэта горад з тысячагадовай гісторыяй, горад легендарнага асілка Мянеска і князя Глеба Усяслававіча. Мінск – гэта наш горад, горад Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Станіслава Манюшкі, горад Янкі Купалы і Якуба Коласа, горад Васіля Быкава і Стэфаніі Станюты, горад Уладзіміра Караткевіча і Кастуся Тарасава, Уладзіміра Мулявіна і Арлена Кашкурэвіча. Большасць беларускіх творцаў нарадзіліся альбо вучыліся ў ім, працавалі, нараджалі дзяцей, выхоўвалі іх і сваіх унукаў. Іншай сталіцы ў нас папросту няма дый не будзе. Можна колькі заўгодна настальгаваць і разважаць пра Полацак або Вільню як пра духоўныя сталіцы, але гэта застаецца і застанецца ў мінулым.

А вось Мінск ад 1930-х да 1980-х амаль што цалкам выпаў з уласна беларускага нацыянальнага дыскурсу. Нельга не пагадзіцца з культуролагам Сяргеем Харэўскім у тым, што сёння большая частка Мінска – гэта ўжо помнікі дойлідства альбо прыклады горадабудаўніцтва мінулага стагоддзя. Але толькі цяпер мы пачынаем шанаваць і гэтую прастору, даражыць ёю і бараніць яе.

Знаны празаік, мой сусед па мінскім двары расказваў, што адзін з чытачоў і прыхільнікаў ягонае творчасці прыехаў быў у сталіцу і многія мясціны горада пазнаваў якраз па ягоных літаратурных апісаннях. Пазнаваў, мабыць, таму, што гарадскія краявіды былі выпісаны майстрам слова з любоўю і пашанай.

Ігар Рымашэўскі гэтаксама шануе Мінск і яго жыхароў, любуецца старадаўнім і сучасным горадам, вымалёўвае яго не правінцыйнай сталіцай у цэнтры Еўропы, а кавалкам казачнага сусвету, апявае наш мегаполіс, з замілаваннем і мяккай іроніяй паказвае мінчукоў і іх гасцей. На ягоных палотнах пазнавальна выяўляюцца “Асмолаўка”, “Тройка”, “Панікоўка”, “Грыц”, “Кругляк”, “Стометроўка” дый іншыя

мясціны і рэаліі, добра знаёмыя мінчукам-тубыльцам. Навукоўцам-гуманітарыям не трэба тлумачыць, дзе засланяюць сонца “Асліныя вушы”, а аматарам сяброўскіх застолляў, дзе месцяцца “Тэлевізар” або “Мутнае вока”. Абліччы гарадскіх кварталаў прыязна ўспрымаюцца ў такіх творах Рымашэўскага як “Мінскі пленэр”, “На Чырвоназорнай”, “Першы снег”, “Абедзены перапынак”. Многія палотны маюць “гаваркія” найменні нібыта прызнанні мастака ў любові – “Любімая вуліца”, “Кіно майго дзяцінства”, “Канал у Серабранцы”, “Любімае месца”, “Дом, у якім я жыву”, “У Мінск прыйшла вясна”, “Вуліца майго дзяцінства”. У такіх палотнах як “Запаведнік”, “Для мілых дам”, “Жывое піва”, “Ледавіковы перыяд” прачытваецца непрыхаваная мастакоўская іронія, а ў такіх як “Тутэйшыя”, “Гэта вам не кіно!”, “Самотны хакеіст”, “Фініта ля камедыя” – даволі жорсткі гратэск.

Валодае мастак і несумненным літаратурным талентам. Прынамсі, некаторыя назвы палотнаў (“Атака клонаў”, “Настальгія”) маюць нечаканы падтэкст, некаторыя (“Сіні тралейбус”, “Мастацтва належыць народу”) нясуць непрыхаваныя алюзіі, асацыяцыі і цытаты, некаторыя (“Гарадскія пляткаркі” – гэта не бабулі на лаве пры пад’ездзе, а мэвы на парапеце пры Свіслачы, а “Вясковая красуня” – не дзяўчо-петнастоўка, але дойная карова) прымушаюць усміхнуцца праз іх нечаканасць.

Мастак не падае гарадскія краявіды з фатаграфічнай дакладнасцю, а вольна канструюе, інтэрпрэтуе іх. Дзе-нідзе з ім хочацца паспрачацца, але тут жа і саступіць плыні ягонай фантазіі, бо пры пэўнай шаржаванасці лёгка пазнаюцца і прызнаюцца не толькі гарадскія (мінскія, нясвіжскія, негарэльскія) аб’екты, але і іх насельнікі. Да прыкладу, на палатне “Наш музей” паказана адкрыццё персанальнай выставы самога Ігара Рымашэўскага і ягонай жонкі Людмілы Шчамялёвай, дзе лёгка пазнаюцца пры мікрафоне на музейных прыступках і самі імяніннікі, і іхнія госці на чале з мэтрам Леанідам Шчамялёвым, і дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў...

Асобная тэма, блізкая і зразумелая мне як кашатніку з дваццацігадовым стажам, – каты Ігара Рымашэўскага, якія выяўляюцца ад сціплых удзельнікаў пабытовых сцэн Мухі і Мілкі да міфічных герояў як Варгін і фантасмагарычных вобразаў кшталту Мура і Бегемота. Вось толькі некалькі сюжэтаў – “Любімы горад не можа спаць спакойна” (каты марцуюць на дахах і паддашках), “Кашэчы вальс” (котка праходзіцца па піянінных клавішах), “Служба паратунку” (дзед на чоўне ратуе ад вясновай паводкі... добры тузін катоў), “Элексір смеласці” (два каты за пляшкаю валяр’янкі), “Кватэрнае пытанне” (кот убіўся ў птушынае гняздо), “Кэтцюр’е” (кот-“куцюр’е” пры машынцы “Singer”)...

Жывапісныя творы Рымашэўскага найчасцей камерныя, невялікія памерамі, таму не здзіўляюць і распісаныя ім кухонныя дошкі, гладышы, бутэлькі, рамкі, талеркі, якія ператвараюцца ў творы дэкаратыўна-ужытковага мастацтва. Ахвотна супрацоўнічае мастак і з паліграфістамі – ягоныя сюжэты хораша глядзяцца ў кнігах, на паштоўках і календарах. А вось адукацыя мастака-манументаліста, набытая ў Акадэміі мастацтваў, дазволіла яму прафесійна распісаць не толькі паб, рэстаран “Подворье”, загарадны дом у Нямеччыне, але і павільён Рэспублікі Беларусь на ЭКСПА-2010 у кітайскім Шанхаі!

Творы Рымашэўскага захоўваюцца і дэманструюцца сёння як у айчынных, так і ў многіх замежных зборах і музеях – ад Польшчы і Славакіі да Аўстраліі і Злучаных Штатаў Амерыкі. На свае вочы бачыў, што іх геаграфію шырыць нават аўтобус міжнародных рэйсаў, бакі якога ўпрыгожваюць рэпрадукцыі палотнаў жывапісца і пры якім ахвотна пазіруюць ды фатаграфуюцца пасажыры!

Мастацтва Ігара Рымашэўскага, не баюся паўтарыцца, добрае, светлае і пазітыўнае. Псіхатэрапеўты мусілі б рэкамендаваць мізантропам наведваць ягоныя выставы, а таксама рэгулярна заходзіць на ягоны сайт.

Усцешвае мяне і тое, што творы мастака запатрабаваныя. Днямі адвёў у ягоную майстэрню сябра-пісьменніка, і той пасля нядоўгіх ваганняў набыў сабе палатно "Любімы тэатр" – з Аляксандраўскім скверам дый Купалаўскім тэатрам, на франтоне якога расцяжка-запрашэнне на неўміручую "Паўлінку". Мастак, дарэчы, свядома і ахвотна "збеларушвае" Мінск, выяўляе на сваіх палотнах адпаведныя шыльды, найменні, афішы...




*Ігар РЫМАШЭЎСКІ. "Кіно майго дзяцінства" (2013).*

* * *

Як можна выказаць мастаку сваю сімпатыю? Можна спрэзентаваць слоік вішнёвага, з костачкамі варэння. Можна tête-à-tête сказаць прыязныя словы ў майстэрні ці на шпацыроўцы па любімым горадзе. Можна агучыць тыя словы публічна на адкрыцці персанальнай выставы перад мікрафонам альбо тэлекамерай ці пакласці на паперу для газеты альбо часопіса. Можна выказаць сваё захапленне ягонай творчасцю, дапамагаючы знайсці пакупнікоў на палотны альбо замовіць ягонае палатно самому. Ці не ўсе гэтыя магчымасці мая сям'я скарыстала, а любімы твор мастака на сённяшні дзень – "Акадэмічна-паветраны фэст", бо напісаны ён на замову да дня нараджэння дачушкі. Гэта палатно з мясцінамі, якія для мяне здавён намоленыя, якія даўно абжыў, у якіх вучыўся, працаваў, дзе жыву і цяпер. Гэта "акадэмічнае" перакрыжаванне галоўнага праспекта сталіцы з колішняй вуліцай Друкарскай – дом друку, каланада Акадэміі навук, Беларуская акадэмія мастацтваў і дом, на першым паверсе якога месціцца "Акадэмкніга".

На ажыўленым перакрыжаванні мінакі назіраюць за надзвычайным відовішчам – фестывалем паветраных шароў. Па-над горадам плывуць стракатыя шматколерныя лятальныя апараты, а да іх, у высокае неба скіраваныя здзіўлена-радасныя, зачараваныя позіркі мінчукоў. Акрамя мастакоўскай назвы, ёсць у палатна і больш прыватная – барадулінскі радок "Трэба дома бываць часцей...", бо дачушка апошнім часам шмат жыве за мяжою, шмат падарожнічае па працы па ўсім свеце.

Сёння застаўкаю на маім кампутары – "Праспект Францішка Скарыны", – праспект падчас вясновага свята, праспект, па-над якім расцяжка-абвестка пра канцэрт Змітра Вайцюшкевіча "Тое, што трэба".

Падумваю, што трэба было б і сабе замовіць палатно – з Верхнім горадам, з дзвюма галоўнымі хрысціянскімі святынямі, з ратушай і з назваю "Анёл па-над горадам".

Думаю і ўпэўнены, што мае сустрэчы з Ігарам Вілеёравічам Рымашэўскім праз сорак гадоў прадвызначаныя нябёсамі, бо анічога ў гэтым свеце не бывае выпадковага.

*Фота Раіны ШАСТАК*

кнігапіс

Анатоль Трафімчык



...мне не шкада жыцця, хоць недажыта,
нядапяяных песень толькі жаль...

# Сейбіты нашай нівы

***Рэцэнзіі на кнігі Валянціна Таўлая і Кандрата Лейкі***

## Цалаваў у вусны маладосць

***Таўлай В. П. Выбраныя творы / уклад., прадм. і камент. А. Клышкі. Мінск: Беларуская навука, 2014. – 413 с.***

Калі шукаць эпіграф да жыццёвага і творчага шляху Валянціна Таўлая (1914-1947), найлепшым чынам падышлі б радкі, напісаныя ім напрыканцы метэорнай (інакш і не сказаць з-за яркасці і, на жаль, хуткаплыннасці) траекторыі адпушчаных доляй 33-х гадкоў паэта і грамадзянскага дзеяча:

Я выйшаў з хаты і стаю
яшчэ задоўга да світання
і ў вусны маладосць сваю
пацалаваў на развітанне.
*("Сустрэча")*

Паэт нібы аглядваўся на пройдзеныя этапы (многія гады і без таго кароткага жыцця былі адабраны зняволеннем – поль-

скай і нямецкай вязніцамі). А і ў палітычную, і ў паэтычную сферы В. Таўлай прыйшоў адн准часова рана – у 14 гадоў! Прычым і там, і там заявіў пра сябе голасна і цвёрда.




З прадбачаннем свайго кароткага шляху па зямлі 20-гадовым юнаком напішацца:

> Мне не шкада жыцця, хоць недажыта,
> нядапяяных песень толькі жаль,
> бо песні звонкія, што ў сэрцы спяць, як пліты,
> сваім напалам рэжуць без нажа.

Такім чынам аўтар выяўляе свае адносіны да паэзіі, якую ставіць вышэй за зямное існаванне, а значыць, на нашу думку, і палітыку, верачы пры гэтым у моц лірычнага слова, у яго ўплыў на сацыяльныя працэсы.

Творчасць В. Таўлая – непахіснага “маладога змагара з польскай акупацыяй Заходняй Беларусі, адарванай ад Усходняй паводле Рыжскай дамовы 1921 года” (цытата з грунтоўнага ўступнага слова Анатоля Клышкі) – была насычаная перадусім эмацыйнымі водгукамі на падзел роднай краіны. Аднак перэпетыі гісторыі і лёсу паэта да нас данеслі толькі частку яго вершаздабыткаў. Па іх прасочваюцца галоўным чынам прасавецкае стаўленне да долі Беларусі і яе народа (вершы “Вёсачка мілая, родная...”, “Ці мілей ёсць што за вёскі...”, “Да моладзі”, “Ідзе за годам год...”, “Апавяданне адной ночы”, “Кобрыншчына”, паэма “Песня пра сухар” і інш.). Прывяду дзеля прыкладу характарыстычныя радкі:

> Няхай крывавіць сэрца лютым здзекам вораг –
> яшчэ мы доўга будзем бунтаваць.
> І сёння трэ замкнуцца ў непакоры –
> нянавісцяю раны бінтаваць.

В. Таўлай прыйшоў у паэзію напрыканцы 1920-х гг., калі па абодва бакі мяжы ў мастацкім слове дамінавала асуджэнне польскага панавання на Заходняй Беларусі і гларыфікацыя савецкай улады ў БССР (у адрозненне ад незадаволенасці абодвума рэжымамі, якая выяўлялася ў беларускай мастацкай літаратуры незадоўга да таго). Таму творчасць маладога паэта сваёй ідэйнасцю не кантраставала з тагачасным кантэкстам. Нават у пасляваенным вершы “Падарожны”, прысвечаным Янку Купалу з нагоды яго верша “Па даўгінаўскім гасцінцы”, В. Таўлай выказвае толькі намёк на суперажыванне з класікам, які выказаўся супраць абодвух падзельшчыкаў радзімы[1]. І то В. Таўлай закладае вольна ці міжвольна сваю падтрымку Купалавага асэнсавання распалавіненасці Беларусі не ў паэтычных радках, а ў заўвазе да свайго твора: «Купала ў гэтым вершы перадаў з гранічнай выразнасцю пачуццё чалавечай крыўды раз’яднання. Аб гэтых перажываннях паэта мне хацелася расказаць у сваім вершы “Падарожны”» (с. 89).

Трэба сказаць, што не ўсе творы В. Таўлая на заходнебеларускую тэматыку з ідэйнага гледзішча ў свой час лічыліся “чыстымі”. Так, у “Хрэстаматыі рэвалюцыйнай літаратуры Заходняй Беларусі” (Менск, 1933), сабраныя ў якой творы, зразумела, прайшлі скрупулёзнае цэнзурнае сіта, некаторым з іх, тым не менш, пакінулі двухсэнсоўныя кропкі як знак пэўнай ідэалагічнай нявытрыманасці, выяўленай цэнзурай. Прычым, відавочна, радкі В. Таўлая датычыліся тэмы падзелу Беларусі:

[1] Гл. падрабязней: Трафімчык А. «Раз абсеклі Беларуса Маскалі ды Ляхі...» Падзел Беларусі 1921 года ў паэтычным асэнсаванні Янкі Купалы // Дзеяслоў, 2012, № 2. – С. 275-294.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . На Ўсходзе
Воля пануе і шчасьце:
Там мае ўладу Праца,
А ня прыгнёт і Багацьце.
<...>
Такімі глыбокімі межамі
Беларусь перарэзаў лёс,
Заліўшы заходнія гоні
Морам крыві і сьлёз...

*(«урыўкі з поэмы» «Непераможная» (Грамада), 1928)*

Між тым, агульна кажучы, паэзія В. Таўлая характарызуецца не столькі аспектамі строга палітычнымі, колькі сімбіёзам грамадзянскасці і лірызму, што робіць голас паэта надзвычай арыгінальным на фоне ў многім аднастайных палітычных вершаваных пракламацый дзясяткаў іншых аўтараў. Гэта іншым разам прытупляе выразнасць тэмы, але не пазіцыі. І не дзіўна, бо “Рыжская дамова 1921 года і тут (у стасунках з каханай дзяўчынай. – *А. Т.*) паласнула па самым балючым, асабістым” (словы А. Клышкі, с. 17). Як сказаў быў Р. Бярозкін, «рэвалюцыйны пафас паэта выяўляецца не толькі ў яго публіцыстычных творах накшталт грознапалымянскай інвектывы “Апошняе слова” альбо такога верша, як “Белапольскім акупантам”, а і ў творах лірычных, нават інтымных па характару. І гэта з’яўляецца глыбокай заканамернасцю творчасці Валянціна Таўлая, які ніколі не глядзеў на лірыку як на форму адыходу ад гісторыі, як на “адпачынак” ад палітыкі, а, наадварот, бачыў у лірыцы своеасаблівую форму ўвасаблення палітычнага зместу эпохі» (с. 380). Таму душа і выгаворвала:

Кожную ноч салавейка пяяў,
зоры глядзелі у вочы.
Дзе ж ты сягоння, дзяўчына мая?
Дзе ж вы, шчаслівыя ночы?

Змоўк салавей. Прамінуў светлы май.
Зніклі і шчасце, і воля.
Краты мне свет засланілі. Бывай!..
Годзе, ўспаміны, даволі.

Зрэшты, і доля творцы была ў некаторых паваротах нетыповай для 1920-х гг.: калі “заходнікі” тым часам эмігравалі ў БССР, дык В. Таўлай, спачатку таксама ўцёкшы з-пад польскага суда ў Краіну Саветаў (восенню 1930 г.), неўзабаве наадварот быў накіраваны ў Заходнюю Беларусь дзеля арганізацыі барацьбы. Таму маладзён, якому б ад ліры не адрывацца, займаецца, акрамя вершаў і перакладаў (з рускай і польскай моў, што адлюстравана канкрэтнымі прыкладамі ў кнізе), прадукаваннем надзённай для барацьбы публіцыстыкі. Яна прадстаўлена ў кнізе асобным раздзелам. У ім знайшлі месца і ўспаміны з аўтабіяграфіяй, а таксама літаратуразнаўчыя працы (пра творчасць Якуба Коласа, Янкі Купалы, Кандрата Крапівы, Міхася Клімковіча, Піліпа Пестрака і Янкі Брыля). Многія крытыкі справядліва могуць сказаць, што публіцыстычныя запісы В. Таўлая збольшага састарэлі. Але ж яны не страцілі каштоўнасці як дакумент эпохі, тым больш насычаны цікаваю фактураю.

Да таго ж на тэму падзелу Беларусі ў паэзіі самай першай працай стаў менавіта артыкул В. Таўлая “Ідэя ўз’яднання беларускага народа ў паэзіі” (1946),

[1] Хрэстаматыя рэвалюцыйнай літаратуры Заходняй Беларусі / Беларуская акадэмія навук, Камісія па вывучэньню Заходняй Беларусі. Менск, 1933. – С. 33.

напісаны, натуральна, у ярка выражаным прасавецкім ключы з выбаркай для адпаведнай інтэпрэтацыі патрэбных вершаў і абмінаннем адваротных. Між тым у сказаным ёсць аднабокасць, але няма няпраўды. У той жа час праведзены В. Таўлаем агляд беларускай паэзіі на тэму падзелу краіны ад канца 1920-х гг., калі савецкі дыскурс запаланілі безальтэрнатыўныя візіі з услаўленнем бальшавіцкай палітыкі і радыкальнай крытыкай капіталістычнага свету, па-першае, шчыры, а па-другое, дастаткова аб'ектыўны.

Багатым колькасна і змястоўным з'яўляецца дастасаванае да новай кнігі “Слова пра Валянціна Таўлая”. Разгляду яго жыцця і творчасці прысвяцілі ўвагу многія літаратары і родныя. Да ўсяго публікуюцца лісты паэта. Чытач зможа даведацца, якімі насычаным атрымаліся 33 гады неардынарнай асобы.

На завяршэнне ў дадатак уключаны прысвечаныя В. Таўлаю вершы – Максіма Танка, Ніны Тарас і Алега Лойкі. Мікола Арочка выбітнаму дзеячу прысвяціў твор шырэйшага фармату – драматычную паэму “Шляхі і краты”, урывак з якой таксама прыводзіцца.

Як часта бывае, жыццёвыя перажыванні і сталі крыніцай для творчага выяўлення В. Таўлая. Аднак падарванае здароўе не дазволіла дачакацца хоць бы адной кнігі. Першае выданне В. Таўлая ўбачыла свет пасля смерці аўтара – літаральна праз пару месяцаў. Затое пасля за савецкім часам імя паэта рэгулярна ўшаноўвалася новымі кнігамі, якіх разам з перакладным на рускую “Избранным” (1952), калі не памыляемся ў падліках, набралася каля дзясятка. Самы вялікі перыяд ігнаравання творцы здарыўся ўжо ў суверэннай Беларусі. Аднак чарговыя “выбраныя творы” становяцца дзясятым па ліку кніжным выданнем і, будзем лічыць, кампенсуюць 30-гадовы (!) перапынак.

## Адзін з пачынальнікаў: Кандрат Лейка

***Лейка К. Пан Трудоўскі: з літаратурнай спадчыны, Мінск: Кнігазбор, 2015. – 128 с.***

Так можна сказаць пра сотні актывістаў, якім гісторыяй было наканавана хоцькі-няхоцькі несці цяжар станаўлення беларускай нацыі. Аднак далёка не ўсе з іх змаглі б заявіць па-багдановічаўску: “Я не самотны, я кнігу маю...” Такую магчымасць займеў пры жыцці Кандрат Лейка (1860-1921). Ён выдаў рускамоўны падручнік “Русская азбука” (Харкаў, 1893) і брашурачкай п'есу для дзяцей “Снатворны мак” (Вільня, 1912). Аднак кніга яго мараў з ужо прыдуманай назвай “Засеўкі” так і не выйшла. Растварыліся ў хуткаплыннасці быцця і восем сшыткаў з творамі руплівца, які жыццё паклаў на ніву асветы. За магчымасць трымаць у руках найпаўнейшае на сённяшні дзень выданне твораў К. Лейкі трэба падзякаваць найперш Сяргею Чыгрыну – збіральніку духоўных скарбаў зямлі Слонімскай, ураджэнцам якой быў сярод іншых спадзвіжнікаў і Кандрат Лейка.

Менавіта асветная дзейнасць такіх пакліканых Адраджэннем і дала ўзыходы ў выглядзе выспельвання народа. Прычым у выпадку з К. Лейкам не толькі беларускага, але і ўкраінскага – дзетак паўднёвых суседзяў ён шмат гадоў вучыў грамаце. Тым часам не забываўся і на Беларусь, куды рэгулярна дасылаў свае творы (перадусім у “Нашу ніву”, затым – у іншыя газеты).

Назву кнізе даў з гаваркім прозвішчам герой аднайменнага апавядання Пан Трудоўскі – гэта сам аўтар: састарэлы, нямоглы настаўнік успамінае пройдзены шлях. Жыццё прамільгнула. Засталася невымерная туга. Яе і перадае К. Лейка, хоць у самога доля аказалася яшчэ больш трагічнай: пры родах памерла жонка, з сынам даводзілася бачыцца рэдка, бо адняліся ногі.

Бусел, бусел, галяндач,
Пайшоў жыта аглядаць;
Яшчэ жыта зеляно,
Буслу ногу адняло.
Скача бусел на кію,
Кляне доленьку сваю.




Як пра сябе сказаў аўтар. Толькі здарыцца так больш чым праз 30 гадоў па напісанні працытаванага вершыка. Маем, такім чынам, яшчэ адзін прыклад паэтычнай правідэнцыйнасці.

Проза К. Лейкі (яна займае большую частку кнігі) тыповая для беларускай літаратуры пачатку XX ст. – у многім паўтарае матывы Ф. Багушэвіча і З. Бядулі: сугучныя тэмы, звязаныя перш за ўсё з цяжкім жыццём сялянаў; падобныя мастацкія прыёмы і характары; непрычасаная граматыкамі мова, якая паўстае перад намі недысцыляванай, ва ўсёй народнай красе. Як вам, напрыклад, наступная інтэнцыя?

*– Ты ж ведай, – тлумачыў бацька свайму сыну Рыгору, – Ганулька табе не пара. Агонь з ядлаўцом не ўжываюцца. Глядзі, каб не зрабіў абмылка, бо абмылак у жаніцьбе – гэта засмарга на горла.* (“Ганулька”).

Лейтматывам большасці апавяданняў К. Лейкі з’яўляецца беспрасветны трагізм чалавечага існавання. Героі твораў часта паміраюць. Так, у працытаваным апавяданні Ганулька накладае на сябе рукі, каб не выходзіць замуж за нялюбага. У аўтабіяграфічным “Успаміне” згасае хворая маці, сын якой, не маючы магчымасці дапамагчы з-за недаступнай дарагавізны медыцыны, такі выканаў “праз многа лет” апошнюю волю нябожчыцы – “паставіў на матчынай магілцы белы крыжык”. Як той казаў, кожнаму сваё: некаму – нятаннага доктара, а камусьці – хоць бы крыж прыстойны.

Знешняя наратыўнасць аповедаў падманлівая, хоць і яе хапіла б для мастацкай карціны. Тым не менш удумліваму чытачу прапануецца пісьменніцкае асэнсаванне жыцця, пытанні якога аўтар часцей за ўсё пакідае “за кадрам”, а калі і эксплікуе, дык звычайна не ідзе далей рытарычнасці:

*Перад Тэклюсяй цяпер неразгаданаю загадкаю стаяла тры цікавыя пытанні:*

*Першае: калі паміж людзьмі будзе праўда?*

*Другое: ці дадуць калі-небудзь беднякам зямлі?*

*Трэцяе: калі ўсім людзям дазволена будзе вучыцца і маліцца на сваёй роднай мове?* (“Таклюся-сухотніца”).

Змрочная каларыстыка ў апавяданнях К. Лейкі нявыдуманая – узятая з жыцця, нярэдка са свайго асабістага. Пісьменнік не хавае гэтага. З такім усведамленнем успрыманне твораў суправаджаецца болем – за сябе, за родных і блізкіх, за чалавека наогул. Таму кніга К. Лейкі становіцца сама па сабе яшчэ адным настаўнікам, працягваючы справу яе аўтара.

У гісторыі беларускай літаратуры не сказаць каб шырока вядомае імя гэтага аўтара называецца як піянера, родапачынальніка дзіцячай драматургіі. Напісаная ў 1912 г. п’еса “Снатворны мак” К. Лейкі – арганічная з’ява тагачаснага адраджэнскага кантэксту ў нацыянальным прыгожым пісьменстве, што даказвае зварот аўтара да фальклорных матэрыялаў і казачнага сюжэта. Канфлікт твора нескладаны, як і патрабуюць законы кнігі для дзяцей малога веку. Амаль ідылічны пачатак – апісваецца вясенняе жыццё кветак у садзе – парушаюць персанажы з нядобрымі намерамі: Асва, Пчала, Мурашка, Матыль, Скакунец (страказа) і два хлопчыкі хочуць абрабаваць добрага Мака. Але падарунак Дзеда-Лесавіка – “дзівадзейны парашок” – дапамог не страціць пільнасць і злачынцы былі зачараваныя вечным

сном. Па традыцыі чарадзейных казак зло пераможанае. І ўсё ж без заключных акордаў (рабаўнікі былі не толькі вернутыя да жыцця, але і велікадушна запрошаныя на чарговае свята) не атрымалася б твора з гучным гуманістычным пафасам. Як адзначае С. Лаўшук, "перамога фізічная дапаўняецца маральным верхавенствам, што не магло не ўзмацніць выхаваўчага ўздзеяння твора"[1]. У дадзеным выпадку мы маем справу якраз з такім вырашэннем канфлікту, які ўяўляе эстэтычную каштоўнасць, маючы агульназначны жыццёвы змест, і "эфект катарсісу ў такім канфлікце дасягаецца не за кошт перамогі над праціўнікам і рэалізацыі практычнай жыццёвай задачы, а ў выніку фарміравання вышэйшых адносін да жыцця, адкрыцця яго сэнсу і каштоўнасці"[2].

Майстэрства К. Лейкі выявілася і ў стварэнні вобразаў, станоўчыя прыклады якіх не толькі адушаўлёныя, але і адухоўленыя. Персанажы атрымаліся жывымі і каларытнымі, хоць аўтар свядома спрошчана, эканомна падышоў да выяўлення іх характараў, якія падаюцца чытачу ўжо сфарміраванымі. Такі падыход, па меркаванні А. Макаранкі, дазваляе дзецям без хістанняў вызначыцца з сімпатыямі на карысць станоўчых персанажаў[3], а гэта фарміруе сацыяльна адэкватную аксіялогію рэцыпіента. Героі надзелены чалавечымі рысамі, што дае магчымасць лепей спасцігнуць як іх унутраны свет, так і сам канфлікт, яго развязку на карысць хрысціянскіх, агульначалавечых каштоўнасцяў.

Нягледзячы на некаторыя недахопы (савецкі даследчык А. Семяновіч указвае на элементы маралізатарства, недастатковасць займальнасці і жывасці дыялогаў[4]), "Снатворны мак" фактычна стаў штуршком для развіцця беларускай драматургіі для дзяцей, што потым дазволіла крытыкам занесці п'есу ў разрад класікі беларускай дзіцячай літаратуры. Савецкая ж крытыка прыніжала вартасць твора з-за прапаганды ўсеагульнага прымірэння ў класавым антаганістычным грамадстве, ідэі братэрства і ўсёдараваня[5]. З такім падыходам цяжка пагадзіцца хаця б таму, што п'еса "Снатворны мак" стваралася напярэдадні жорсткіх для чалавецтва часоў – Першай сусветнай вайны, і заклік аўтара да саборнасці, зварот да хрысціянскіх каштоўнасцей глядзяцца як прадчуванне іх недахопу ў недалёкай будучыні. Жыццё ж твора пасля адносна вялікага перапынку атрымала працяг толькі ў 90-х гг. XX ст.

Разам з тым і абсалютызаваць змрочныя таны ў пісьменніцкіх фарбах К. Лейкі не варта. Многія творы, жанравы дыяпазон якіх немалы для выдання ў трохі больш за сотню старонак, іскрацца гумарам, дыхаюць чалавечай радасцю. Асабліва вершы, адрасаваныя галоўным чынам дзецям:

От гаробчык, спрытны хлопчык,
Каля хат сягае,
Сюды-туды, ўбок, назад,
Ножкі выхіляе.
Дзяўбе з ранку да вечара –
І тут, і там кража,
А спытайся: ці наеўся?
– Чуць жыў, – ён адкажа.

[1] Лаўшук, С. Ля вытокаў беларускай дзіцячай драматургіі / С. Лаўшук // Хлопчык у лесе : Рэпертуар. зб. / Уклад. і прадм. С. Лаўшука. Мінск : РЦЭВД, 1992. С. 7.

[2] Хомякова, О.Р. Конфликт как категория формы и содержания / О.Р. Хомякова // Весці БДПУ. Серыя 1. 2006. № 1. С. 90.

[3] Макаренко, А.С. Стиль детской литературы / А.С. Макаренко // Собрание сочинений : в 4 т. М. : Правда, 1987. Т. 4. С. 426-427.

[4] Семяновіч, А. Беларуская савецкая драматургія. 1917 – 1932 / А. Семяновіч. Мінск : Навука і тэхніка, 1968. С. 229.

[5] Гісторыя беларускага тэатра : у 3 т. / М. Каладзінскі [і інш.]; рэдкал. : У.І. Няфёд (гал. рэд.) [і інш.]. Мінск : Навука і тэхніка, 1983–1987. Т. 1 : Беларускі тэатр ад вытокаў да Кастрычніка 1917 г. 1983. С. 400-401.

Такім чынам, сучасным чытачам рэпрэзентуецца яшчэ адзін з напаўзабытых сейбітаў нашай нівы. Дзякуючы рэінкарнацыі засевак руплівага адраджэнца ў выглядзе цэлай і цэльнай кнігі – перад нашымі вачыма паўстае талент, з патэнцыялам хоць не раскрытым, але відавочна моцным. У такой недасказанасці (якой не было б, магчыма, пры публікацыі згаданых згубленых матэрыялаў) закладзены пэўны сімвалічны сэнс, бо засеўкі – гэта земляробчы абрад адкрыцця сяўбы. У дадзеным выпадку да самой сяўбы К. Лейкам справа не дайшла. Аднак яе з пераменным поспехам працягнулі іншыя – знаёмыя і не толькі паплечнікі і аднадумцы. Сведчаннем таму – і гэтае выданне.



кнігапіс

Максім Клімковіч



...гэта своеасаблівая малітва
за тых, каго ўжо няма з намі...

# Сакральны час

## *Рэцэнзія на кнігу Алеся Аркуша*

***Алесь Аркуш. Мясцовы час, раман. Полацк: выдавецкая ініцыятыва “Полацкае ляда”, 2014. – 148 с.***

Тым, хто сачыў за падзеямі ў беларускай літаратуры канца 1980-х – пачатку 90-х, не варта тлумачыць, што такое літаб’яднанне “Крыніцы”, ТВЛ (Таварыства вольных літаратараў), рок-гурт “Мясцовы час”. Шматлікія прадстаўнікі полацкай літаратурнай школы і на сёння вызначаюць аблічча айчыннага прыгожага пісьменства, сярод іх і сам аўтар рамана Алесь Аркуш. На першы погляд “Мясцовы час” – мемуарная літаратура. Паслядоўны, даволі падрабязны расповед пра тое, як літаратурнае аб’яднанне “Крыніцы” пры наваполацкай газеце “Хімік” ператварылася ў агульнанацыянальную з’яву – Таварыства вольных літаратараў. Партрэты маладых на той час пісьменнікаў прапісаны Аркушам дакладна і з павагай. Сам ведаў і ведаю большасць герояў рамана асабіста, таму сведчу адказна. Менавіта павага да таленавітых людзей са складанымі характарамі і лёсамі адрознівае твор Алеся Аркуша ад успамінаў некаторых іншых аўтараў...




Мае папярэднія кампліменты Алесю Аркушу ў дакладнасці і павазе тычацца ўсё ж мемуарнай плашчыні твора. Аднак сам аўтар вызначыў яго як раман. І таму ўсе рэальныя персанажы, запазычаныя з жыцця падзеі мусілі стаць для яго адно матэрыялам, каб сказаць большае, чым можна запісаць літарамі.

Сюжэтныя калізіі адно, а сэнс – другое. Празаікі зрэдку задаюцца пытаннем – а пра што ўласна твор? Хаця пішуць адно, а маюць на ўвазе іншае. Гэта з драматурга ці сцэнарыста потым рэжысёр душу дастане – пра што напісаў? Празаік жа звычайна палягае на свой талент. Здолеў прымусіць чытача адгукнуцца эмоцыямі, задумацца, згадаць сваё патаемнае, значыцца, твор атрымаўся, ёсць у ім паміж радкамі тое самае “пра што?”

Раман вымагае існавання галоўнага героя. Здавалася б, гэта сам аўтар. Фармальна на старонках “Мясцовага часу” Алесь Аркуш паўсюль прысутнічае, ва ўсім бярэ ўдзел. Аднак ён, хутчэй, назіральнік, сумленны карэспандэнт з дыктафонам і фотаапаратам, запраўленым рэпарцёрскай чорна-белай стужкай. Менавіта, чорна-белай. Час падзеяў вымагае такой колеравай гамы. Эпоха сённяшніх лічбавых фотасесій, калі пстрыкай, колькі хочаш, фіксуй кожную каляровую секунду жыцця, яшчэ наперадзе. Нездарма на першай старонцы рамана апісанне квітнеючага бэзу пададзена не праз колер, а толькі праз пах. Чорна-белы бэз з фотаздымкаў часоў дзяцінства. І наступныя сцэны амаль пазбаўленыя колераў. Выключэнні – згадка бел-чырвона-белых сцягоў і павязак дружыннікаў на мітынгах, а таксама паэтаў Бум-Бам-Літаўцаў Сержа Мінскевіча ў жоўтай кашулі з чырвонымі матузкамі ў чаравіках ды Змітра Вішнёва ў канарэечнай кашулі падчас паездкі на Лепельшчыну. Праўда, гэтыя колеры ў тэксце выглядаюць занадта кідкімі, нібыта яны ўжо потым па памяці дамаляваныя фламастарамі на старых фота.

Дык хто ж герой рамана, пра што ён?

Герой у ім калектыўны. І сам ён пра смерць.

Падзеі пачынаюцца з таго, што таямнічы Павал Іванавіч прызначае Алесю Аркушу, якога бачыў да гэтага толькі раз, але чытаў яго артыкулы, сустрэчу:

*– Не ведаю, колькі мне ўжо засталося... Паабяцайце, што напішаце.*

*І я расказаў Паўлу Іванавічу сваю гісторыю.*

Павал Іванавіч не звычайны стары, падчас ранейшай сустрэчы ён распавёў Аркушу пра тое, як прадказаў загібель Пятра Машэрава. Маўляў, Бог не даруе кіраўніку Савецкай Беларусі таго, што з яго згоды знішчылі ў Полацку былы касцёл Святога Стэфана, вось і забіўся Пётр Міронавіч. За такое здзейсненае прароцтва Паўлам Іванавічам шчыльна заняліся спецслужбы. Стары бярэ з Аркуша абяцанне, што калі-небудзь, калі можна будзе, той напіша пра гэта. У Аркуша свой не сплочаны доўг. Прафесару Саковічу, які ў Наргасе выкладаў яму матэматычнае праграмаванне, ён абяцаў падпісаць сваю першую кніжку, калі яна выйдзе, але забыўся. Спахапіўся, калі прафесара ўжо не стала.

Таямнічы Павел Іванавіч замаўляе Аркушу напісаць кнігу амаль так жа ж, як Чорны Чалавек у свой час замовіў рэквіем Вольфгангу Амадэю Моцарту.

Аўтар вяртаецца ва ўспамінах у мінулае. Ажываюць тыя, каго ўжо няма на гэтым свеце. Іх шмат, гучаць іх галасы, гучаць разам з галасамі жывых, дакументальна дакладна цытуецца іх перапіска з Аркушам, вершы. А потым яны зноў адыходзяць у іншасвет. У двух месцах рамана нават ёсць пайменныя пералікі нябожчыкаў. У апошнім – фінальным, складзеным па прынцыпе, што і з кім сталася потым, яны чаргуюцца з імёнамі жывых. Але зроблена гэта так, што і іх можна лічыць “умоўна памерлымі”.

*...Алесь Касьцень памёр у Паставах у 2009-м...*

*Алесь Кузьмін у 2001 годзе падаўся ў Нямеччыну, і гурт "Мясцовы час" канчаткова спыніў сваю дзейнасьць.*

*Вінцэсь Мудроў і Ігар Сідарук сышлі ў падпольле, не з'яўляюцца на публіцы і толькі зрэдку друкуюць свае творы...*

Чым не "смерць"? Зрэдку публікуюць і невядомыя раней творы Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча.

Гадоў дваццаць таму позна вечарам я выходзіў са станцыі метро. На парапеце падземнага пераходу сядзеў даўгавалосы хлопец, а каля яго стаяў закручаны ў абгортачную паперу і перавязаны шпагатам пакунак. З падранай паперы выглядваў рог старой пазалочанай рамы. Хлопец папрасіў у мяне агню, хаця па інтанацыі адчувалася, што запальнічка ў яго ёсць, проста карціць мяне прыпыніць. Ён назваўся рок-музыкам і прапанаваў мне забраць у яго старое люстэрка, толькі раскручваць яго адмовіўся, а прапанаваў мне распакаваць яго дома самому. Люстэрка, асабліва старое – рэч небяспечная, населеная інфернальнымі адбіткамі. Таму я і адмовіўся. Хлопец уздыхнуў і прызнаўся, што ніяк не можа пазбавіцца ад гэтага люстэрка, толькі што ў пераходзе ён ціха паставіў яго ў кутку і сышоў. Дык адна з прадавачак дагнала яго ўжо наверсе і сунула ў рукі пакінутае. Нарэшце канчаткова пераканаўшыся, што я люстэрка не вазьму, рок-музыка расказаў мне яго гісторыю. Перад смерцю маці паказала яму закручанае ў паперу люстэрка, пра існаванне якога ён раней не ведаў, і сказала, што яго так, запакаваным, трэба аддаць каму-небудзь незнаёмаму, бо ў яго "мерцвякі глядзеліся".

І цяпер мне здаецца, што тое люстэрка праз дваццаць гадоў зноў трапіла мне ў рукі ў выглядзе рамана "Мясцовы час". Толькі гэтым разам я разгарнуў яго і зазірнуў. А там, за пыльным шклом і жывыя, і мерцвякі. Усе, хто глядзеўся ў ТВЛ-аўскае люстэрка. Іх адбіткі чорна-белымі фотаздымкамі саслізнулі за амальгаму. І ніякія забабоны не прымусяць мяне адвесці позірк, бо гэта свае, не чужыя мерцвякі, тыя, хто з гонарам далучыўся да дзядоў.

Так, раман Алеся Аркуша – гэта люстэрка, у якое "мерцвякі глядзеліся". Ён дае нам зазірнуць у сакральны час, калі ўсе яшчэ былі жывыя, калі рэалізоўвалася наша незалежнасць, аднаўлялася беларуская школа, паўставалі першыя рок-гурты, фармавалася новая літаратура.

Апошнім з жыцця, як у рэальнасці, так і ў рамане сыходзіць гарадзенскі паэт Юры Гумянюк. Яго падзенне з вышыні, не назваўшы імя, загадзя прадказала варожка Соф'я.

*Ён падаў з вышыні. Вышыня гэтая, здавалася, была такой працяглай, што ён падаў і падаў бясконца... Недзе там, высока ўверсе сьвяцілі зоры сваім далёкім сьветам. Недзе там, унізе, мітусіліся людзі ў сваіх бясконцых клопатах. Людзі, якія абсалютна нічога не хацелі ведаць пра андэграўнд, нонканфармізм і чарговы нумар "Калосься". І той, хто падаў, нібыта пралятаў праз тых людзей наскрозь.*

Ёсць старажытнае паданне пра ўзвядзенне Езуіцкага калегіюма ў Пінску. Нібыта працамі кіраваў мніх, чалавек настолькі святы, што ўмеў рабіць цуды. Калі адзін муляр сарваўся з рыштаванняў і крыкнуў – "памажы!" – мніх паспеў падняць руку, і падзенне перапынілася. І тут мніха адолеў сумнеў. А раптам падзенне муляра – воля Божая, якой ён не мае права пярэчыць? Пайшоў раіцца да рэктара, пакінуўшы небараку паміж небам і зямлёй. Пасля нарады мніх пачаў маліцца, укленчыўшы на рыштаваннях. І з кожнай малітвай муляр крыху апускаўся, пакуль не лёг на брук.

Кожная з чатырох частак "Мясцовага часу" – гэта своеасаблівая малітва Алеся Аркуша за тых, каго ўжо няма з намі. У рамане Юры Гумянюк так і не сутыкаецца з зямлёй.

# Звычайны шоу-бізнес

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Леанід Галубовіч. Поўня. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 17). – 144 с.**




Зборнік выбраных твораў паэта, рэдактара і крытыка Леаніда Галубовіча, куды ўвайшлі вершы і мініяцюры, пабачыў свет у Бібліятэчцы «Дзеяслова». Кніга змяшчае найлепшыя вершы, напісаныя за трыццаць пяць гадоў, што ўваходзілі ў шэсць папярэдніх зборнікаў, а таксама “зацемкі з левай кішэні” з аднайменнага выдання, прысвечаныя літаратурнай дзейнасці. “Зямная філасофія жыцця, зрытмізаваная сэрцам і зарыфмаваная душой” — так лаканічна, але глыбока пазначаецца ў анатацыі да новага зборніка, прымеркаванага да 65-гадовага юбілею аўтара.

*Калі ўжо змогся клікаць Бога –*
*А то каго ж яшчэ было?! –*
*А ўжо ні знаку ад былога,*
*А толькі — цемра і святло...*

*І вось тады,*
*як ты хіснешся —*
*У цёмны бок ці ў светлы бок —*
*І толькі з небам застанешся,*
*Якраз і з’явіцца твой Бог...*

**Алена Гінько. Я думала душой... – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 63). – 116 с.**




Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў папоўнілася чарговай кніжнай навінкай. «Такія радкі запамінаюцца, іх хочацца занатоўваць, чытаць не толькі самому сабе, — іншым аматарам паэзіі таксама», — адзначае ў прадмове да зборніка Леанід Дранько-Майсюк. Алена Гінько — ураджэнка Пастаўшчыны, выпускніца філфака БДУ, жыве і працуе ў Віцебску выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры. У цэнтры ўвагі аўтаркі — інтымная лірыка, якая перадае ўсю гаму чалавечых пачуццяў. Кранальная шчырасць і непасрэднасць у выяўленні эмоцый — тое, што будзе блізкім кожнаму чытачу. Асаблівa жанчынам — бо многія вершы апісваюць пачуццёвы досвед лірычнай гераіні, якая шукае сваё каханне.




**Генадзь Лапацін. Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры. – Гомель: Барк, 2015. – 240 с.**

Гэта першая ў беларускай фалькларыстыцы кніга, дзе пададзеная карціна свету адной асобы – унікальнай жанчыны, носьбіта народнай культуры Грэцкай Варвары Аляксандраўны, ураджэнкі пасёлка

Амяльное, што на Веткаўшчыне. Паэт і фалькларыст Генадзь Лапацін занатаваў ад яе вялікую колькасць тэкстаў традыцыйнай культуры, прадстаўленую ў кнізе. Як адзначаецца ў прадмове, у аповедах спадарыні Варвары напраўду адлюстраваная душа народа, яго калектыўная памяць. Выданне, безумоўна, будзе карысным як навукоўцам – этнографам, фалькларыстам, мовазнаўцам – так і ўсім цікаўным да беларускай народнай культуры.



**Стася Наркевіч. Як Васілёк ратаваў каралеўства: казка-размалёўка. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 9). – 24 с.**

Дзявятым выпускам серыі «Каляровы ровар» стала кніжка-размалёўка Стасі Наркевіч «Як Васілёк выратаваў каралеўства». Юнака Васіля ногі самі нясуць у пракаветны лес, аднак зайсці туды не атрымліваецца. Птушкі паведамляюць Васілю, што лес аточаны равамі, пасткамі і закляццямі: тут знаходзіцца замак, дзе чарадзеі сцерагуць прынцэсу Дабралетку. Юнак вырашае вызваліць прынцэсу...

Што адбылося далей, вы даведаецеся, калі прыдбаеце сабе новую кніжку Стасі Наркевіч (Анастасіі Лазебнай), якая ўзначальвае Віцебскае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. А каб чытаць яе было яшчэ цікавей, ледзь не кожным развароце кніжкі можна размаляваць графічныя работы мастачкі Алены Сянько.




**Юры Несцярэнка. Звычайны шоу-бізнес. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 64). – 156 с.**

Калі прафесійны музыка бярэцца за прозу, тое крыху насцярожвае – ці не пераўтворыцца нарацыя ў расповед баек-паказак ды каля-шоубізавых фрашак. На шчасце, літаратурная творчасць Юрася Несцярэнкі не ўпісваецца ў акрэсленую схему. Першая празаічная кніга спадара Юрася змяшчае як аўтабіяграфічныя, так і па-мастацку змадэляваныя сюжэты. Практычна ўсе творы закранаюць музычную тэматыку, у іх гучаць рок, джаз, блюз ды іншыя альтэрнатыўныя жанры. Назва зборніка мае глыбока іранічны кантэкст, абумоўлены як асабістым досведам аўтара, так і агульнакультурнай сітуацыяй у Беларусі. Што да ідэйнага боку, то, перафразуючы класіка, герой твораў Юрася Несцярэнкі працуе над тым, каб па кроплі выціскаць з сябе “саўка”. Працуе паспяхова.

*«Гэта было шчырае пакаленне андэграўнду — калі адстойваць свае густы было небяспечна, але гэта дапамагала знайсці сэнс жыцця. Калі нельга было знайсці патрэбны дыск альбо купіць добры музычны інструмент — затое, калі ўдавалася, яны набывалі нечуваную, немагчымую сёння каштоўнасць,* — успамінае ў прадмове да кнігі Людміла Рублеўская. — *Жыццё “саўка” з пункту гледжання нефармала... Цяпер гэта ўжо экзотыка — сямідзясятыя, васьмідзясятыя, перабудова... Першыя канцэрты беларускіх рок-гуртоў, выставы мастакоў-авангардыстаў... Дух вольнасці, безграшовага вальнадумства, які многія, хто пачынаў тады, страцілі на шляху да славы».*

# Нашыя аўтары

**Алейнік Лада** — крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтарка кнігі літаратурна-крытычных артыкулаў «Пясочны гадзіннік». Нарадзілася ў 1970 годзе ў вёсцы Чапліцы на Случчыне. Жыве ў Мінску.

**Будовіч-Барадуля Тацьцяна** – паэтка, празаік. Аўтарка кнігі вершаў «Дуэль паглядаў». Вядомая таксама пад псеўданімам Тадора Шпілька. Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Булавацкі Міхась** – празаік, паэт, перакладчык. Заснавальнік магілёўскай філіі аб'яднання «Мартыралог Беларусі», кіраўнік магілёўскай суполкі Беларускага ПЭН-цэнтру. З пачатку 90-х займаецца літаратурнай дзейнасцю, піша вершы, перакладае з рускай (у 1999 г. выйшла кніга У. Высоцкага «Я не падману» ў перакладзе М. Булавацкага). Аўтар шэрагу падручнікаў па матэматыцы і трыганаметрыі. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Восы на Глушчыне. Жыве ў Магілёве.

**Гібок-Гібкоўскі Алесь** — паэт, эсэіст, перакладчык. Лаўрэат прэміі Беларускага саюза журналістаў «Залатое пяро», Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. Аўтар кнігі вершаў «Насамрэч». Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Рупейкі на Ваўкавышчыне. Жыве ў Мінску.

**Даніленка Уладзімір** – украінскі празаік, крытык, літаратуразнаўца. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія «Благовіст» (1999), імя Івана Агієнка (1999), «Березіль» (2010), прэміі Валерыя Шаўчука (2013). Аўтар кніг прозы «Місто Тіровиван», «Сон із дзьоба стрижа», «Газелі бідного Ремзі», «Кохання в стилі бароко», «Капелюх Сікорського», «Тіні в маєтку Тарновських», «Грози над Туровцем»; кнігі крытыкі «Лісоруб у пустелі», п'есы «Гроші для Йонеско». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Туравец на Житоміршчыне (Украіна). Жыве ў Кіеве.

**Дзядок Вера** — перакладчыца. Перакладае з нямецкай і польскай моў. Супрацоўніца Інстытута імя Гётэ. Нарадзілася ў 1978 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дутлі Ральф (Ralph Dutli)** – празаік, паэт, эсэіст. Вывучаў раманістыку і русістыку ў Цюрыхскім універсітэце і Сарбоне, дзе абараніў кандыдацкую дысертацыю. Укладальнік 10-томавага збору твораў Восіпа Мандэльштама. «Апошняя паездка Суціна» – першы раман аўтара. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў Швейцарыі. Жыве ў Хайдэльбергу (Нямеччына).

**Ігнацюк Алена** — паэтка. Аўтар кнігі «Нота "ля"». Нарадзілася ў 1962 годзе ў вёсцы Асавец на Драгічыншчыне. Жыве ў Пінску.

**Кананові Мікола** — паэт, празаік, публіцыст. Аўтар кнігі паэзіі «І доўжыцца ноч». Нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Вострава на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

**Карамазаў Віктар** – празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990). Аўтар кніг «Падранак», «Спіраль», «Пушча», «Дзень Барыса і Глеба», «Дома», «Дзяльба кабанчыка», «Крыж на зямлі і поўня ў небе», «З вясною ў адным вагоне» і інш. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў Чэрыкаве. Жыве ў Мінску.

**Караткевіч Уладзімір** — празаік, паэт, драматург, публіцыст, перакладчык, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984). Аўтар кніг «Матчына душа», «Блакіт і золата дня», «Мая Іліяда», «Каласы пад сярпом тваім», «Чазенія», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Зямля пад белымі крыламі», «Нельга забыць», «Чорны замак Альшанскі», «Быў. Ёсць. Буду» і інш. Нарадзіўся ў 1930 годзе ў Оршы. Памёр у 1984 годзе.

**Кеда Альжбета (Ала Петрушкевіч)** – паэтка, празаік, літаратуразнаўца. Апублікавала звыш за 250 навуковых працаў, сярод якіх «Іду па слядах: літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ», «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы», «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя», «Наталля Арсеннева: шлях да Беларусі» і інш. Аўтарка паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гарадзеншчыне. Жыве ў Гародні.

**Клімковіч Максім** – празаік, драматург. Аўтар п'ес «Віта Брэвіс, ці Нагавіцы Святога Георгія», «Вольная сцэна», «Чорны квадрат», дэтэктыўных аповесцяў і раманаў

«Сцэнар смерці», «Карона Вітаўта Вялікага», «Люстраная фіранка», «Здані і пачвары Беларусі» (у суаўтарстве з Уладзіславам Ахроменкам), кінарамана-фарса «Янкі, альбо Астатні наезд на Літве» (у суаўтарстве з Уладзіславам Ахроменкам), «Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша» (у суаўтарстве з Уладзіславам Ахроменкам) і інш. Нарадзіўся ў 1958 годдзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Кустава Валерыя (Валярына)** – паэтка. Аўтарка кніг паэзіі «Кроў Сусвету», «Каб неба сагрэць...», «Тамсама». Пераможца конкурсу «Экслібрыс» імя Рыгора Барадуліна (2015). Нарадзілася ў 1984 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Ліс Арсен** – этнограф, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за ўдзел у падрыхтоўцы і выданні акадэмічнага збору беларускай народнай творчасці (1986). Укладальнік зборнікаў фальклорных песняў. Аўтар кніг: «Браніслаў Тарашкевіч», «Мікола Шчакаціхін», «Пётра Сергіевіч», «Пякучай маланкі след», «Вечны вандроўнік», «Максім Гарэцкі» і інш. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Вётхава на Смаргоншчыне. Жыве ў Мінску.

**Мудроў Вінцэсь** — празаік. Аўтар кніг «Жанчыны ля басейна», «Гісторыя аднаго злачынства», «Зімовыя сны», «Ператвораныя ў попел», «Альбом сямейны» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Полацку.

**Някляеў Уладзімір** — паэт, празаік, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (2000), прэміі імя Ежы Гедройца (2013). Аўтар кніг паэзіі «Адкрыццё», «Вынаходцы вятроў», «Наскрозь», «Прошча», «Так», «Лісты да Волі», прозы «Цэнтр Еўропы», «Аўтамат з газіроўкай з сіропам і без» і інш. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Смаргоні на Гарадзеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Рублеўская Людміла** — паэт, празаік, крытык, драматург, нарысіст. Аўтар кніг паэзіі «Крокі па старых лесвіцах», «Адукацыя», «Замак месячнага сяйва», прозы «Старасвецкія міфы горада Б*», «Сэрца мармуровага анёла», «Пярсцёнак апошняга імператара», «Шыпшына для пані», «Сутарэнні Ромула», «Ночы на Плябанскіх млынах», «З'яўленне Інфанты» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

**Сіроткін Ігар** – паэт, празаік, перакладчык. Вучыўся на філалагічным факутэце БДУ. Друкаваўся ў часопісах «Першацвет», «Маладосць», газетах «ЛіМ», «Знамя юности» і інш., у калектыўных зборніках і анталогіях. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў вёсцы Задубенне на Мядзельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Скобла Міхась** — паэт, парадыст, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча (2000). Аўтар паэтычных кніг «Вечны Зніч», «Вочы Савы», «Нашэсце Поўні», «Акно для матылькоў», кнігі гістарычных нарысаў «Дзяржачынскі дыярыюш» і інш. Складальнік анталогій беларускай паэзіі XX ст. «Краса і сіла» і сусветнай паэзіі ў беларускіх перакладах «Галасы з-за небакрая». Нарадзіўся ў 1966 годзе ў вёсцы Паляжын на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», «Уладзевы гісторыі», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Трафімчык Анатоль** – паэт, літаратуразнаўца, крытык, гісторык. Аўтар кніг «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка Лірыка», «Вобраз Тадэвуша Касцюшкі ў беларускім мастацкім слове» і інш. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы на Ганцавіччыне. Жыве ў Мінску.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

**Шамецька Юрась** – паэт. Аўтар кніг паэзіі «Шлях да вяртання» і «Атава». Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Жыве ў Атаве (Канада).

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.